УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
Д79

Укладанне, прадмова, каментары
*Ганна Севярынец*

**Дудар , Алесь**

Д79 Выбраныя творы / Алесь Дудар; уклад., прадм., камент. Ганна Севярынец. — Мінск : Лімарыус, 2017. — 480 с. : іл. — (Галасы Айчыны).

ISBN 978-985-6968-?-?.

У выданні прадстаўлены збор шматграннай творчай спадчыны паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка Алеся Дудара (1904–1937), аднаго з самых заўважных творцаў міжваеннай літаратуры Беларусі. Значная частка твораў, матэрыялы з асабістага архіву і фотадакументы друкуюцца альбо перавыдаюцца ўпершыню.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-6968-?-?**

## «У КРАІНУ НАШУ ЗНОЎ МЫ ПРЫЙДЗЕМ…»
## Жыццёвы і творчы шлях Алеся Дудара

Іншым разам паэту ў Вечнасці моцна замінае ягоны лёс.

Драматычныя абставіны жыцця, трагедыя апошніх дзён, незвычайная гісторыя кахання, удзел у буйным літаратурным скандале — і вось мы ўжо чытаем хрэстаматыйныя радкі скрозь прызму лёсу, адшукваючы водгукі асабістых драм ці прадчуванне трагедыі. Сама паэзія тады ўспрымаецца другасна: мы даруем аўтару недасканаласць катрэнаў наўзамен трагічнае гібелі ці, наадварот, адмаўляем у праве быць аўтарам шэдэўра, калі раптам абставіны паэтавага жыцця не адпавядаюць нашым уяўленням пра жыццё, якім яно павінна было быць.

Так здарылася з Алесем Дударом, адным з самых яскравых прадстаўнікоў харызматычнага міжваеннага пакалення беларускіх літаратараў, пра якога шырокі чытач ведаў толькі тое, што ён напісаў контррэвалюцыйны верш «Пасеклі край наш папалам» і што быў расстраляны ў чорную ноч беларускай літаратуры 29 кастрычніка 1937 года. У крыху вузейшых колах выпускнікоў гуманітарных факультэтаў яшчэ вядома, што Дудар-крытык пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі браў актыўны ўдзел у цкаванні прагрэсіўнага літаратурнага згуртавання «Узвышша», і гэтага дастаткова, каб залічваць яго ў рэакцыянеры. Асабліва дапытлівы чытач мог зазірнуць у «паслярэабілітацыйныя выданні паэтавай спадчыны: «Выбраныя творы» (1959), укладзеныя С. Баркоўскім і «Вежа. Вершы і паэмы» (1984), сабраныя М. Ярошам. Асаблівасці часу: тыя выданні, складзеныя з ідэалагічна выверaных вершаў і паэм, хутчэй адварочвалі ад паэта, чым заахвочвалі яго чытаць. Такім ён і ўвайшоў у масавую чытацкую свядомасць: паэтам другога шэрагу, рэакцыйным крытыкам, раптоўным аўтарам контррэвалюцыйнага верша, ахвярай сталінскіх рэпрэсій.

І менавіта тым цікавы Алесь Дудар сённяшнім даследчыкам і чытачам, што, быўшы значна шырэй і глыбей за хрэстаматыйную памяць па сабе, ён пакінуў па сабе паэзію, у якой шчыра і поўна выказаўся як асоба — ува ўсё драматычнай супярэчлівасці чалавека, якому давялося жыць у складаны і супярэчлівы час. Гэта, пэўна, адзін з самых шчырых і адкрытых творцаў міжваеннай эпохі, які не ўмеў (хаця часам і вельмі хацеў) прытрымлівацца даведзеных ліній і выконваць прызначаныя праграмы, і не толькі палітычныя — цэхавыя нават,

і яго шматгранная творчасць — шчырая споведзь чалавека, адкрытага перад намі напоўніцу. Сёння, калі мы пакрысе, але настойліва імкнемся разабрацца ў самай складанай з пражытых нашай культурай эпох, калі мы стаім перад задачай зразумець і прыняць трагічны час рэвалюцыі і сталінскага тэрору ува ўсёй чалавечай супярэчлівасці, калі мы з цяжкасцямі і непаразуменнем разблытваем літаратурную спадчыну тых гадоў — нашым агульным уратаваннем становяцца тыя творцы, якія так і не змаглі (хаця часам і вельмі хацелі) «падвярстацца» пад агульны шаблон, аддзяліць сябе ад сваіх твораў, схлусіць у радку.

Наогул у часы, калі ўсе навокал так лёгка падзяляюцца на герояў і здраднікаў, «сваіх» і «чужых», сяброў і ворагаў, нам як паветра патрэбныя не-героі, сапраўдныя — а значыць складаныя і супярэчлівыя — людзі, якія ўзялі на сябе смеласць выказацца «як ёсць», без прынятых на сябе роляў.

Такім паэтам быў Алесь Дудар.

Менавіта на гэтую ўласцівасць яго тэкстаў — неабмежаваную шчырасць і душэўную адкрытасць — звярталі асаблівую ўвагу тыя сучасныя даследчыкі, што вярталі імя Алеся Дудара чытачу дзевяностых. Уладзімір Міхнюк, які першым пабачыў у часова адкрытых архівах КДБ асабістую справу паэта, першым знайшоў і надрукаваў той самы верш «Пасеклі край наш папалам», асобна адзначыў гэтую шчырасць і спавядальнасць нават у такім незвычайным, але, на жаль, распаўсюджаным у міжваеннай беларускай літаратуры жанры, як паказанні па палітычнай справе. Сапраўды: паказанні Алеся Дудара датычна сфабрыкаванага «Саюза вызвалення Беларусі», акрамя іншага — бліскучая псіхалагічная проза, на сёння — адна з самых каштоўных мемуарных крыніц па гісторыі беларускай літаратуры дваццатых. Гэтую ж рысу паэтыкі Алеся Дудара найперш выдзяляе і аўтарка грунтоўных навуковых і папулярных публікацый па жыцці і творчасці таленавітага паэта Ірына Багдановіч.

Такім — адкрытым і шчырым — ён і прыйшоў у літаратуру: адзін з самых маладых паэтаў паслякастрычніцкага прызыву, шаснаццацігадовы актор легендарнага вандроўнага тэатра Галубка, які абраў для сябе амбітны і гучны псеўданім — Дудар.

Алесь Аляксандравіч Дайлідовіч нарадзіўся 24 снежня 1904 года ў вёсцы Навасёлкі Капаткевічскага уезду Мазырскага павету. На вёсцы сям’я не затрымалася: зямлі ў бацькі, Аляксандра Станіслававіча, не было, таму трэба было ехаць у горад, шукаць працы.





У 1910 Дайлідовічы пераязджаюць у Мар’іну Горку, адтуль — у Менск. Тут бацька паступае на службу ў кантору Маскоўска-Беларуска-Балтыйскай чыгункі і пасяляецца разам з жонкай і сынам на вуліцы, заселенай амаль аднымі чыгуначнікамі: яна называлася Праваднай, бо злучала паміж сабой рэйкі Маскоўска-Беларуска-Балтыйскай і Лібава-Роменскай чыгункі. У вялікім драўляным доме пад нумарам 15 — тры кватэры. У трэцяй жыве сям’я Уладзіслава Галубка — тады яшчэ простага чыгуначнага служачага. У другой — Дайлідовічы. У першай кватэры — гаспадары будыніны.

Шурка — так называлі яго ў сям’і — быў другім сынам. Першынец Аляксандра і Вольгі Дайлідовічаў, старэйшы Шуркаў брат, памёр зусім маленькім. У 1914 нарадзілася сястрычка Жэня — надзейная Шуркава сяброўка і яго ж паслухмяная выхаванка. У гэтым жа годзе бацька звяртаецца да кіраўніцтва чыгункі з просьбай выдзеліць субсідыю на навучанне старэйшага сына, і ў верасні 1914 дзесяцігадовы Алесь Дайлідовіч становіцца вучнем адной з самых прэстыжных менскіх гімназій — прыватнай гімназіі К. Фальковіча і С. Зубакіна.

Навучанне ў Фальковіча-Зубакіна было вельмі дарагім — і таму тут вучыліся альбо дзеці купцоў і фабрыкантаў, альбо — сыны чыгуначнікаў, бо чыгунка шчодра спансавала менавіта гэтую навучальную ўстанову праз субсідыі супрацоўнікам. У адным класе з Шуркам Дайлідовічам вучыўся сын піўнога магната Леккерта і мануфактуршчыка Годэра, нашчадкі знакамітых шляхецкіх родаў Радзевічаў, Гудовічаў і Доўнар-Запольскіх, сын заснавальніка гімназіі Іван Зубакін — і дзеці сялян, служачых чыгункі Захарэвічаў, Юраноў і Міклашэўскіх[1]. У гімназію, згодна з яе статутам, прымаліся дзеці ўсіх саслоўяў і веравызнанняў, таму побач з сынам селяніна, праваслаўным Алесем Дайлідовічам за партамі сядзелі магаметане Канстанцін Мухля і Ібрагім Смольскі, каталікі Рычард Адынец і Іван Акуліч, іўдзеі Езекііль Дворкінд і Ошэр Грынберг. Заснавальнікі гімназіі, выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Сяргей Пятровіч Зубакін і менскі фатограф Канстанцін Восіпавіч Фальковіч, які скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут, імкнуліся захоўваць імідж найлепшай навучальнай установы Менску: асабісты будынак у цэнтры горада (зараз у ім — гістарычны факультэт БДУ), невыпадковыя настаўнікі, строгая дысцыпліна. Што да навучэнцаў, то яны найперш ганарыліся формай:

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 467. Воп. 1. Адз. 77.

згодна статуту, складалася яна з цёмна-шэрай суконнай блузы, двубортнага чорнага мундзіра з блакітным каўнерам і такімі ж галунамі, чорнага паліто з жоўтымі металічнымі гузікамі і блакітнымі пятліцамі і чорнай фуражкі з блакітнай тульёю[1].

Тут, у Фальковіча-Зубакіна, Алесь Дайлідовіч атрымлівае першыя веды ў рускай і нямецкай мовах, геаграфіі, гісторыі і арыфметыцы. Нямецкую, з якой ён пазней будзе паспяхова перакладаць, дае настаўніца Фрыда Аўгустаўна Нодэль, рускую — знакаміты менскі настаўнік Аляксей Міхайлавіч Нікольскі[2]. Беларускай мовы ў гімназіі, вядома ж, не было.

Вядома ж, не было яе і ў Казлоўскай мужчынскай класічнай гімназіі, куды пераводзіцца другакласнік Дайлідовіч з сям'і беларускіх бежанцаў — напрыканцы 1915 года з прыфрантавога Менску Вольга Іванаўна вывозіць дзяцей у расейскі Казлоў (сёння — Мічурынск). Вялікі прыгожы горад на вялікай прыгожай рацэ, публічная бібліятэка з даволі багатым на той час зборам кніг, у якой гімназіст Дайлідовіч — паўсядзённы госць, і ў той бібліятэцы — немаведама адкуль — беларуская газета «Пятніца». Тую газету, надрукаваную пабеларуску, з публічнай чытальні горада Казлова Шурка Дайлідовіч, не вытрымаўшы спакусы, папросту скраў[3].

Напачатку 1920-х — вяртанне ў Менск, на Праваднуую (покуль невядома дакладна — калі). Менская чыгуначная школа-семігодка № 9, і ў ёй — настаўнік рускай літаратуры Пётр Мяфодзьевіч Маккавееў[4], які заўважыў, падхапіў і развіў імкненне свайго вучня да мастацкага слова. Пётр Маккавееў скончыў Петраградскую духоўную акадэмію, і па сканчэнні яе курса прадставіў у Савет Акадэміі выдатнае сачыненне, за якое быў надзелены ступенню кандыдата багаслоўя і правам не трымаць уступных іспытаў на магістарскую ступень. Чалавек шырокага кругагляду і свабоднай дэмакратычнай думкі, Маккавееў стаў для будучага паэта тым самым настаўнікам, які заклаў неабходны тэарэтычны філалагічны падмурак пад прыродныя здольнасці юнака. Сяброўскія адносіны вучня і настаўніка доўжыліся і пасля таго, як Алесь Дайлідовіч скончыў школу і выправіўся ў вольны дарослы шлях.

У 1921 годзе, калі Менск быў вызвалены ад польскай акупацыі, адбываюцца адразу тры лёсавызначальныя падзеі ў паэтавым жыцці:

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 467. Воп. 1. Адз. 1. Арк.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 467. Воп. 1. Адз. 1. Арк.

[3] Інстытут рускай літаратуры РАН. Ф. 586. Воп. 1. Адз. 69. Арк. 2–2зв.

[4] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці. Ф. Р-322. Воп. 2. Адз. 474. Арк. 3.





заканчэнне семігодкі, першыя публікацыі вершаў у цэнтральнай газеце «Савецкая Беларусь» пад псеўданімам Алесь Дудар і паступленне актoрам у вандроўную трупу Уладзіслава Галубка.

Легендарны тэатр Галубка — асобная, унікальная з'ява ў гісторыі беларускай культуры. Пачынаўся ён як выключна сямейная справа: сам Галубок, самародак-драматург, выбітны актор, рэжысёр і мастак, ягоная жонка і дзеці. Спектаклі, якія сям'я Галубка давала перад непатрабавальнымі гледачамі працоўных акраін, мелі такі поспех, што трупу было вырашана павялічыць — і першым запрасілі маладога і асабліва нічым не занятага суседскага хлопца, Шурку Дайлідовіча[1]. Паўтары гады ён вандраваў разам з тэатрам Галубка: дзе на конях, а часцей пехам, ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка, Галубок з «галубянятамі» прайшлі ўсю Беларусь уздоўж і ўпоперак. Усе актoры тэатра Галубка павінны былі іграць на сцэне і размаўляць між сабой выключна па-беларуску, ведаць усе магчымыя беларускія песні, бездакорна танчыць «Лявоніху» і шчыра падзяляць захапленне Галубка родным краем і родным словам. Вандроўны тэатр Галубка ў гэтыя няпростыя гады, калі па лясах яшчэ сустракаліся банды, а ў вёсках панавала пасляваенная галеча, быў ледзь не адзіным промнем культуры, які маглі пабачыць простыя беларусы ў сябе дома. Вядомы выпадак, калі спектакль галубкоўцаў глядзелі адразу два вясковых вяселлі: жаніхі з нявестамі, сваты са сваццямі, госці. У антракце — выпівалі, закусвалі, ганаравалі маладых, але па запрашэнні акторaў паслухмяна вярталіся на лавы і ўважліва глядзелі спектакль[2]. Яшчэ было: у адной вёсцы самы вялікі свіран, дзе давалі спектакль, аказаўся занадта маленькім для ўсіх жадаючых, і тады хлопцы разабралі дах, і моладзь глядзела п'есу, лежачы на пузах на самым версе. Іграць даводзілася ў вясковых хатах і адрынах, на беразе ракі і на лузе, аднойчы ігралі ў калгасным хляве, і акторы выходзілі на імправізаваную сцэну праз загончык з парсючкамі. Галубка і ягоных акторaў паўсюль сустракалі са шчырым захапленнем і вялікай удзячнасцю, і тэатр плаціў гледачам несупыннай працай дзеля іх: па трыста спектакляў на год давалі на Беларусі галубкоўцы, улетку — вандруючы па краіне, узімку — у працоўных клубах Менску[3]. Успамінаюць, як аднойчы ехалі на

[1] Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. Ф. 837. Воп. 1. Адз. 117. Арк. 4.

[2] «Пражэктар». 1927. № 10.

[3] Худніцкі А. II-ая беларуская дзяржаўная трупа пад загадам Галубка // «Маладняк». 1925. № 6. С. 83.

падводах праз зімовы лес, і коні храплі і біліся, бо за падводамі імчалі дзве зграі ваўкоў[1]. Успамінаюць, як не было ніякіх падвод — і, нагружаныя дэкарацыямі і касцюмамі, хадзілі ад вёскі да вёскі пехам, спыняючыся ля рэчак і азёр адпачыць і выкупацца. Усю Беларусь акторы гэтай трупы змерылі ўласнымі нагамі, а адзін выпадак стаў вядомым на ўвесь Менск: амаль кожны, хто ўспамінае пра тэатр Галубка, абавязкова расказвае гісторыю пра тое, як малады галубковец Алесь Дудар быў камандзіраваны па справах тэатра ў Пухавічы. Грошай на зваротны білет ў яго не было, і ён вярнуўся ў Менск пехам — за васемдзесят вёрст[2].

Адначасова са спектаклямі Галубка малады паэт бярэ ўдзел у вечарынах, якія арганізуюцца ў клубе «Беларуская хатка», і менавіта гэтыя паўтары гады гартуюць яго не проста паэтам — паэтам свядома беларускім.

Потым, у шматлікіх паказаннях па сфабрыкаваных справах супраць дзеячаў нацыянальнага руху, раз-пораз будзе згадвацца «тэорыя самабытнасці» Дудара: ягоная ўпэўненасць у тым, што беларуская культура — самастойная і самабытная, маючая глыбокія карані, свае традыцыі і свае заканамернасці развіцця, была ім шматкроць сфармулявана ў сяброўскіх гутарках і спрэчках. Кастрычніцкая рэвалюцыя, якую Алесь Дудар, як і амаль уся беларуская літаратурная моладзь, прымаў шчыра і ўсім сэрцам, падавалася яму ў першую чаргу вызваленнем нацыянальным, магчымасцю для беларусаў нарэшце будаваць жыццё вакол сябе па сваіх, самабытных беларускіх уяўленнях.

У 1923 годзе Дудару прапануюць супрацоўніцтва ў «Савецкай Беларусі», і ён сыходзіць з вандроўнай трупы, каб распачаць кар’еру газетнага работніка — у рэдакцыях газет і часопісаў ён будзе без перапынку працаваць да самага арышту ў 1929. У гэтым жа годзе ўвосень, 28 лістапада, шасцёра маладых літаратараў — Алесь Дудар, Міхась Чарот, Анатоль Вольны, Адам Бабарэка, Андрэй Александровіч і Язэп Пушча — засноўваюць першую беларускую літаратурную арганізацыю «Маладняк».

Хуліганская пазіцыя «Маладняка» — «у рожкі са старымі» — шмат у чым народжаная маладым творчым нахабствам аднаго з яго

[1] Грынблат М. «Дзядзька Галубок» // «Адхінуўшы заслону часу». Мн.: Мастацкая літаратура, 1979.

[2] Успаміны У. Галубка. Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. Ф. 837. Воп. 1. Спр. 117.





сузаснавальнікаў, маладзейшага за іншых Дудара. «Моцна любіць Коласаў усякіх» — гэтая характарыстыка новапрынятага маладняковца з-пад ягонага пяра — катэгарычна адмоўная. Будоўля новай самабытнай нацыянальнай літаратуры па новых рэвалюцыйных прынцыпах — адна з першых задач амбітной арганізацыі. Праўда, на практыцы далей за дэкларацыі справа не заўсёды йдзе: маладняковцы не маюць дастатковай тэарэтычнай падрыхтоўкі і дастатковага практычнага досведу вершаскладання, каб рэфармаваць тое, пра што ёсць выключна інтуітыўнае ўяўленне. Адчуванне ўласнай літаратурнай бездапаможнасці і адсутнасць адукацыйных магчымасцяў навокал штурхае маладняковцаў на шлях самаадукацыі. З пачатку дваццатых Алесь Дудар пачынае збіраць уласную бібліятэку, якую складаюць мастацкія, гістарычныя і літаратуразнаўчыя выданні, даведнікі і падручнікі замежных моў. Нават сёння, пасля вобшукаў і канфіскацыі часткі бібліятэкі супрацоўнікамі НКУС, пасля вайны і пераездаў сваякоў, гэтая бібліятэка ўтрымлівае амаль тысячу адзінак. У хуткім часе Алесь Дудар ужо чытае лекцыі маладняковцам у філіях, распавядаючы пра напрамкі еўрапейскага мадэрнізму і персаналіі рускай літаратуры.

У 1923 пачынае выходзіць часопіс «Маладняк» пад рэдакцыяй М. Чарота і А. Вольнага. У першым жа нумары — верш А. Дудара «Сцеражэцеся», тыпова маладнякоўскі, бадзёры, больш плакатны, чым мастацкі, але выдатна пабудаваны твор. У ім ўжо бачна майстэрства Дудара — версіфікатара, які валодае выключным пачуццём рытму, смеласцю ўтварэння новых словаў, распаволеным мастацкім мысленнем. «Сонечны раённы камітэт», які «карнаваліць разам з камсамольцамі» на менскіх вуліцах — няхай і не вельмі складаны, але ж хвацкі пабудаваны мастацкі вобраз. Ніводнае слова не ўключана ў верш дзеля рытму ці дзеля рыфмы, мастацкія вобразы падтрыманы альбо лексічнымі паўторамі, альбо супрацьпастаўленнямі, альбо сугучнымі метафарамі. З першых радкоў і да апошніх ніводны крытык ніколі не адмаўляў Алесю Дудару ў выключна высокай культуры вершаскладання — яна заўважная і ў вершы «Сцеражэцеся». З паэтаў-маладняковцаў пачатку дваццатых мала хто валодаў мастацкім словам з такой ступенню прыроджанай дасканаласці, якая была ўласціва Дудару.

Напачатку дваццатых Алесь Дудар наведвае паэтычны гурток, якім кіруе Якуб Колас. Тут інтуітыўныя ўяўленні пра верш атрымліваюць тэарэтычную апрацоўку, да таго ж пасада рэдактара аддзела паэзіі

і бесперапынная праца з маладымі паэтамі дае Дудару шматгранны практычны досвед. Па ягоную рэдактарскую дапамогу звяртаюцца як пачынаючыя, так і практыкуючыя паэты — прыкладам, Анатоль Вольны, які спрабуе пісаць вершы па-беларуску, але не надта добра для гэтага валодае мовай.

Напрыканцы года ЦБ «Маладняка» накіроўвае Алеся Дудара ў рэгіёны: перад ім пастаўлена задача арганізаваць маладнякоўскія філіі ў Віцебску і Полацку. Знайсці літаратурна адораныя, спачуваючыя справе беларусізацыі кадры, згуртаваць вакол агульнай маладнякоўскай ідэі, наладзіць штотыднёвыя сходы, літаратурную вучобу, вечарыны і іпрэзы для жыхароў гораду — работы шмат, і яна нялёгкая. Дваццацігадовы юнак вытрымлівае толькі паўгода і ледзь не праз скандал вяртаецца ў сталіцу. Між тым абедзьве філіі, арганізаваныя Дударом, працягваюць літаратурнае жыццё: віцебская дасць літаратуры публіцыста Лазара Каплана, полацкая — цэлае сузор'е паэтычных талентаў: Сымона Хурсіка, Ганну Брэсцкую, Пятруся Броўку.

У 1925 годзе Алесь Дудар нарэшце выдае першы зборнік вершаў. Невялікая кніжыца з характэрнай назвай «Беларусь бунтарская» уключае дзевяць вершаў, і ўсе яны — радаснае вітанне планетарных пераменаў на Радзіме. Маладая бязмежная радасць, адчуванне ўласнай моцы, шчасце быць сугучным часу, усё тое, што стане на некалькі год камертонам для «маладнякоўскай» паэзіі, бурапеніць на старонках «Беларусі бунтарскай» цераз край. Гістарычныя падзеі дадзены ў вершах намёкам, рысай, тапонімам ці штампам, паэт не надта паглыбляецца (а па-праўдзе — зусім не паглябляецца) ў складанасць працэсаў і з'яў, галоўнае для яго — выказаць незвычайную па напружанні эмоцыю, бурлівую радасць абнаўлення, маладую энергію перамен, адчуць сабе рухавіком часу, чалавекам на вастрыні жыцця.

У гэтым жа годзе выходзіць новы зборнік вершаў паэта — «Сонечнымі сьцежкамі». Ад першага вопыта да другога — менш чым паўгода і відавочная эвалюцыя аўтара. Гэта ўжо добра структураванае, скрупулёзна прадуманае цэлае. Зборнік складаецца з шасці раздзелаў, і нават па іх назвах мы можам бачыць, як пашырылася і ўскладнілася кола тых з'яў і рэчаў, якія становяцца цікавымі для дваццацігадовага паэта: «Анналы» — раздзел, у які войдуць вершы гістарычнай тэматыкі, прысвечаныя Скарыне, Каліноўскаму, беларускаму сярэдневеччу і нядаўнему мінуламу; «Навальніца» — тры





вершы, якія працягваюць тэму Кастрычніка; «Сягоння» — адлюстраванне паўсядзённасці маладой краіны; «Пра сябе» — шчырыя «настроевыя» мініяцюры; «Горад» — распрацоўка новай для беларускай літаратуры тэмы гораду; і, нарэшце, раздзел «Сузор'і» — россып незвычайных па глыбіні лірызма і чалавечай шчырасці паэтычных роздумаў.

Напрыканцы года публікуецца — спачатку ў «Маладняку», а потым і асобным выданнем — паэма Алеся Дудара «Кітайскі шоўк», прысвечаная нацыянальна-вызваленчаму руху ў Кітаі. Паэма гэтая была ў першую чаргу паэтычным адказам «Маладняка» на «інтэрнацыянальны запыт» у беларускай літаратуры, а па-другое — спробай разгледзець беларускі нацыянальны рух у параўнанні з іншымі падобнымі. Нездарма «Кітайскі шоўк» ані ў адно з пасля-рэабілітацыйных, вельмі асцярожных, выданняў паэзіі А. Дудара ўжо не ўваходзіў.

Між тым літаратурны працэс на Беларусі ўваходзіць у новую стадыю. Таленавітых, хутка эвалюцыянуючых творцаў так многа, пошук новых форм і спосабаў самавыражэння настолькі інтэнсіўны, што ў рамках «Маладняка» шмат каму становіцца цесна. Наспявае раскол: у траўні 1926 з «Маладняка», у тым ліку з яго кіруючага органа, Цэнтральнага Бюро, выйдуць Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Язэп Пушча, Кандрат Крапіва, потым далучацца Пятро Глебка і Максім Лужанін. Новае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша» возьме амбітны накірунак на элітарнасць, выкшталцонасць мастацтва, высокую якасць твораў, бесперапынны творчы рост і індывідуальную адказнасць аўтара за тое, што ён піша.

На тым паседжанні ЦБ «Маладняка», на якім узвышаўцы аб'явілі аб выхадзе з арганізацыі, панавала ўсеагульная разгубленасць: тое, што стваралася разам, рушылася ўчорашнімі таварышамі. У спрэчках гучалі абедзьве праўды: праўда узвышаўцаў, якія хацелі будаваць літаратурную арганізацыю на новых прынцыпах, і праўда маладнякоўцаў, якія стаялі за рэформы ўнутры арганізацыі, тым больш што частка узвышаўцаў належала да кіраўніцтва «Маладняка», а значыць, мелі неабмежаваныя магчымасці па яго рэфармаванні. Адзіным чалавекам з прысутных, хто не выказаўся ў спрэчках і ніяк не пазначыў сваёй пазіцыі, быў Алесь Дудар — гэта бачна ў пратаколе сходу[1].

[1] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ф. 225. Воп. 1. Адз. 3. Арк. 11.

Адыход «Узвышша» стаўся для яго асабістай драмай. Па-першае, «Маладняк» бачыўся амаль ўласнай справай — ягоны творца і заснавальнік, з першага дня ён аддаваўся маладнякоўскай працы з усёй жарсцю юнацтва. Па-другое, аб'яўленая элітарнасць новага згуртавання аўтаматычна ставіла пад сумнеў творчыя якасці тых, хто заставаўся ў «Маладняку» — а гэта былі Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, творцы дасведчаныя, таленавітыя, добра вядомыя сярод чытачоў. Па-трэцяе, фактычны лідар будучага «Узвышша», Уладзімір Дубоўка, быў для маладзейшага за яго Алеся Дудара сапраўдным кумірам, чалавекам надзвычай высокага асабістага і творчага аўтарытэту. Адыход узвышаўцаў разводзіў іх па розныя бакі літаратурных барыкад.

З сярэдзіны 1926 пачынаецца жорсткая літаратурная барацьба паміж маладнякоўцамі і ўзвышаўцамі, у якой бакі не надта саромеюцца ў сродках. Вядомыя нават выпадкі, калі маладнякоўцы Дудар і Звонак пісалі скандальныя крытычныя водгукі на зборнікі узвышаўцаў, але падпісвалі іх крыптонімамі сяброў згуртавання, каб скампраметаваць іх аднаго перад адным. Калі шараговыя сябры абедзьвух арганізацый яшчэ падтрымліваюць сяброўскія адносіны — так, узвышавец Пятро Глебка не кідае цёплых стасункаў з маладнякоўцам Паўлюком Трусам — то завадатары барацьбы перастаюць нават вітацца пры сустрэчы. Што казаць аб крытычным полі — вострыя, не надта справядлівыя, а часам нават хамскія выпады дазваляюць сабе абодва бакі, найчасцей, праўда — «Маладняк», тым больш што галоўную скрыпку тут грае востры на слова і бязлітасны ў параўнаннях крытык Тодар Глыбоцкі.

Некаторы час літаратурная грамада ў разгубленасці: хто хаваецца за гэтым псеўданімам і дазваляе сабе так бескампрамісна і часам вульгарна бэсціць відавочна таленавітых узвышаўцаў? Падчас абмеркавання аднаго з дакладаў Адама Бабарэкі ў клубе Карла Маркса вядомы літаратурны скандаліст, паэт-футурыст Паўлюк Шукайла громагалосна аб'яўляе: «Ці ведаеце вы, хто такі Тодар Глыбоцкі? Гэта Дудар!» Максім Лужанін так перадаваў гэтую падзею ў лісце да Паўлюка Труса: «Шукайла так кройнуў па «Маладняку», што Дудар ажно моргаць перастаў»[1] — іранізуючы над звычкай Дудара моцна прыжмурваць вочы.

Бязлітаснай літаратурнай барацьбой сярод маладых, вядома ж, карыстаюцца зацікаўленыя старэйшыя: Цішка Гартны, даўні во-

[1] Трус П. Выбраныя творы. Мн.: Беллітфонд, 2000. С. 285.





раг Дубоўкі, «бярэ пад крыло» эмацыянальнага, шчырага ў сваёй крыўдзе Дудара, накіроўваючы ягоны крытычны імпэт у патрэбнае яму рэчышча. Барацьба супраць «Узвышша» з барацьбы творчых амбіцый асобных творцаў пераўтвараецца ў палітычны працэс, якому даволі хутка нададуць адпаведнае ідэалагічнае афармленне: нібыта наскрозь пралетарскі, народжаны рэвалюцыяй «Маладняк» змагаецца з буржуазным, наскрозь індывідуалістычным «Узвышшам».

Між тым адначасова з відавочна тэндэнцыйнымі артыкуламі з-пад пяра Тодара Глыбоцкага выходзяць грунтоўныя крытычныя разборы зборнікаў Паўлюка Труса і Тодара Кляшторнага, разважанні аб маладой беларускай літаратуры і шляхах яе развіцця, тэксты, у якіх яскрава бачны індывідуальны почырк таленавітага крытыка: ён дасканала валодае адпаведным інструментарыем, здольны казаць аб мастацтве моваай эстэтычных, а не сацыялагічных катэгорый, ён назірае лагічныя абумоўленасці ў развіцці літаратуры і здольны прадбачыць і накіроўваць працэс.

Выхад новага зборніка вершаў Алеся Дудара «І залацісьцей і сталёвей» у гэтых варунках нараджае шквал крытыкі — прычым як з боку «чужых», так і з боку «сваіх». Пачынаючы з надта смелай вокладкі, на якой замест звыклай маладнякоўскай мастацкай метафорыкі ці вытрыманай графікі узвышаўцаў змешчаны выявы дзьвух аголеных дзяўчын, і праз увесь зборнік, эмацыянальны, пачуццёвы, прасякнуты трывожным роздумам аб лёсе сваім і лёсе краіны ў новай кнізе Дудара знаходзяць усе магчымыя грахі: адыход ад рэвалюцыйнай тэматыкі, буржуазныя ўхілы, ясенiншчыну, сумныя настроі, немагчымыя сярод шчасця сацыялістычнага будаўніцтва. «Рукаблудным паэтай» называе Дудара строгі ўзвышаўскі крытык Адам Бабарэка — за выразны эратычны змест інтымнай лірыкі, якая ўвайшла ў кнігу[1]. Між тым «І залацісьцей і сталёвей» — зборнік, які знаменуе сабой новы этап у творчасці Дудара: паглыбленне паэтычнага зместу, удасканаленне паэтычнай формы, смелыя жанравыя эксперыменты. «І залацісьцей і сталёвей» выразна сведчыць пра імклівы творчы рост паэта, і менавіта яму наканавана было стаць самым моцным зборнікам Алеся Дудара — замест таго, каб стацца першым з будучых найлепшых.

Напачатку 1927 года з «Маладняка» выходзяць і тыя, каго так крыўдна «абышлі» у траўні 1926 пры заснаванні «Узвышша» —

[1] Бабарэка А. Матар'ялы да гісторыі літаратурных нораваў у Беларусі // Збор твораў у 2 тт. Вільня — Беласток, 2011. Т. 1. С. 807.

Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар далучаюцца да згуртавання вакол рэдакцыі часопіса «Полымя рэвалюцыі», які рэдагуе Цішка Гартны. Новая літаратурная група фактычна афармляе сталыя ўжо творчыя стасункі паміж «старэйшымі» і «маладзейшымі»: сярод полымаўцаў — Цішка Гартны, Янка Купала, Якуб Колас, Уладзіслаў Галубок, Алесь Гурло. Асабліва цёплыя ўзаемаадносіны складваюцца ў Алеся Дудара з Купалам — той цэніць у малодшым сябры паўсядзённую гатовасць да шчырай сяброўскай гутаркі, незвычайную чалавечую адкрытасць, цікаўнасць і выразную грамадзянскую пазіцыю, якую асцярожныя «старэйшыя» ўжо не кожны дзень могуць сабе дазволіць. «Алесю — Янка» — такі інскрыпт пакіне Купала на зборніку сваіх вершаў, падараваных Дудару[1]. Тое, што падабаецца Купалу, вельмі не даспадобы Коласу: ён лічыць Дудара «хлопцам малацэнным», які не абазначыўся ў жыцці і не надта ведае, дзеля чаго працуе і жыве.

У гэтым жа годзе Дудар паступае ў БДУ, на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэту. Педфак месціцца ў будынку былога Камерцыйнага вучылішча, разам з факультэтамі права, гісторыі, рабфакам і бухгалтарскімі курсамі. Месца катастрафічна не хапае, сталыя аўдыторыі для будучых літаратараў-лінгвістаў — пакоі 31–36 на другім паверсе, актавая заля і чатыры пакойчыкі ў сутарэнні[2]. Разам з Алесем Дайлідовічам (Дударом) у студэнцкіх ведамасцях — Кандрат Атраховіч (Крапіва), сын Уладзіслава Галубка Эдуард, Тодар Кляшторны, Сымон Хурсік, брат Язэпа Пушчы Ісідар Плашчынскі[3]. Курсам вышэй займаюцца Андрэй Александровіч і Янка Бобрык, на наступны год шэрагі студэнтаў педфаку папоўняць Пятро Глебка, Ядвіга Беганская, Янка Скрыган, Алесь Звонак і Макар Шалаяў. На семінарах па беларускай літаратуры гэтыя студэнты часцяком вывучаюць самі сябе і адказваюць на пытанні па творчасці сваіх таварышаў: і Дудар, і Крапіва, і Александровіч — ужо ва ўніверсітэцкай праграме.

Напрыканцы 1927 года выходзіць празаічны зборнік апавяданняў Алеся Дудара — «Марсельеза». Крытыка абышла яго ўвагай, і сапраўды: побач з Кузьмом Чорным, Максімам Гарэцкім, Міхасём Зарэцкім празаік Алесь Дудар не выглядаў смелым эксперыментатарам, але ў гэтым зборніку мы маем таленавітую, лінгвістычна

[1] Гэты асобнік захоўваецца ў прыватнай бібліятэцы А. Дудара.
[2] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 205. Воп. 1. Адз. 267. Арк. 25.
[3] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 306. Арк. 3.





дасканалую прозу, якая наследуе традыцыям псіхалагічнай плыні рускага крытычнага рэалізму — Аляксандра Купрына, Уладзіміра Караленкі.

Напачатку 1928 у Дзяржбелвыдзе друкуецца смелы эксперымент А. Александровіча, А. Вольнага і А. Дудара — падлеткавая прыгодніцкая «аповесць беларускіх лясоў» «Ваўчаняты». Першая ў беларускай літаратуры аповесць для юнай аўдыторыі заслугоўвае справядлівай «дарослай» крытыкі — і безумоўнай любові чытачоў: цягам году яна перавыдаецца тры разы, а ўсяго да арышту сваіх аўтараў вытрымае пяць перавыданняў.

Увесь год Дудар працуе над зборнікам вершаў «Вежа» і першым гэткім вопытам для беларускай літаратуры — зборнікам літаратурнай крытыкі. Імя, якое зарабіў сабе жорсткай пазіцыяй і яскравым маўтарскім стылем крытык Тодар Глыбоцкі, дазваляе спадзявацца на шырокі водгук чытача. Абедзве кнігі выходзяць напачатку 1928 года. У «Вежы», зборніку надзвычай дасканалым з боку вершаскладання, выразна бачна жаданне Дудара пазбегнуць крытыкі і адпавядаць стылістыцы часу: побач з выкшталцонымі лірычнымі творамі — штучныя хваласпевы сацыялістычнаму будаўніцтву. Менавіта ў гэтым зборніку Дудар знаходзіць тэму, якая будзе ратаваць яго праз усе драматычныя трыццатыя: тэму эканамічнага росту краіны, раскрытую праз дыхатамічнае параўнанне побыту беларусаў у манеры «як было і як стала». Адзінае, за што паэт можа шчыра дзякаваць савецкай уладзе, стане для яго дзяжурнай тэмай вершаў пасля высылкі — у тыя часы, калі эмацыянальная шчырасць і сумленнасць яго паэзіі будуць ўжо амаль немагчымыя на друкаваных старонках.

Да 1928 года адносіцца і першая літаратуразнаўчая «спроба пяра» нашага надзвычай шматграннага творцы: пад сапраўдным прозвішчам — А. Дайлідовіч — выходзіць ў «Полымі» грунтоўны артыкул, прысвечаны цэнтральным матывам беларускіх народных казак[1].

У гэтым жа годзе адбываецца, нарэшце, падзея, якую ўжо з нецярпеннем чакаюць на вуліцы Праваднай: сын прыводзіць дамоў маладую жонку. Прыгожая, залатавалосая маладзенькая паэтка-маладнякоўка Наталля Вішнеўская надта падабаецца і бацьку, і маці. Пакойчык з асобным уваходам, які раней бясконца гудзеў галасамі Алесевых сяброў і прыяцеляў, сціхае, каб даць месца маладому каханню.

Другая палова 1928 года адзначана двума грандыёзнымі скандаламі, у якіх самы актыўны ўдзел бярэ Алесь Дудар. У лістападзе адзін

[1] «Полымя». 1928. № 6. С. 162–176.

за адным, праз дзень, у «Савецкай Беларусі» выходзяць артыкулы Тодара Глыбоцкага «Даволі анекдотаў» і «Таптанне на месцы», у якіх выразна сфармуляваная пазіцыя крытыка: хопіць беларускаму тэатру жыць «пазаддзем» чужой культуры і карміцца аб'едкамі са стала расійскіх тэатраў. Беларускі тэатр мае сваю гісторыю і сваю логіку развіцця — і чужы ўплыў яму толькі бракуе. Гэта выступленне падтрымлівае Міхася Зарэцкага з яго артыкулам «Што нам прапануе Дзяржкіно»: у прэсе імклівым вогнішчам разгараецца так званая «тэатральная дыскусія» з удзелам партыйных публіцыстаў, у якой жорстка крытыкуюцца Зарэцкі і Дудар і ў якой ужо адчуваецца подых будучага маштабнага наступлення на беларускую нацыянальную ідэю. Не паспявае сціхнуць гул «тэатральнай дыскусіі», як у снежні 1928 на старонках усё той жа «Савецкай Беларусі» з'яўляецца «ліст трох» — ліст, падпісаны студэнтамі педфаку БДУ, літаратарамі Андрэем Александровічам, Алесем Дударом і Міхасём Зарэцкім[1]. У гэтым лісце, перадрукаваным ужо на наступным дзень нават у замежнай прэсе, пісьменнікі заяўляюць аб сваім выхадзе з універсітэта ў знак пратэсту супраць правалу палітыкі беларусізацыі ў БДУ і супраць кампаніі цкавання беларускіх літаратараў.

Гэтыя скандальныя выступы былі эмацыянальным адказам на паступовае, покуль яшчэ не бачнае шырокаму колу назіральнікаў, але ўжо адчувальнае для нацыянальна арыентаваных культурнікаў «сварочванне» палітыкі падтрымкі нацыянальных эліт, якая мела некаторае месца пры Леніне, але пачала сыходзіць «на нуль» пры Сталіне. Нельга сказаць, каб удзельнікі «тэатральнай дыскусіі» і падпісанты «ліста трох» не ўсведамлялі наступстваў сваіх дэманстрацыйных дзеянняў: усведамлялі добра. Каб надрукаваць матэрыялы абодвух скандалаў, ім прыйшлося пераадолець рэдактарскі супраціў Міхася Чарота, арганізаваць публікацыі «у абыход» аддзела прапаганды ЦК КПБ, то бок небяспека была ўсвядомлена і рызыку ўсе фіґуранты выразна разумелі. Аднак маўчаць не маглі. І калі «тэатральная дыскусія» мела выключна публіцыстычныя наступствы ў выглядзе жорсткай крытыкі на старонках прэсы, то па факце «ліста трох» было арганізаванае адмысловае партыйнае расследаванне[2] і прынятыя адпаведныя меры да аўтараў: Андрэю Александровічу было адмоўлена ў прыёме ў партыю, Міхась Зарэцкі выключаны з радоў КПБ, беспартыйны (і нават не камсамолец, між іншым, бо з камсамольскай

[1] «Савецкая Беларусь». 1928. 4 снежня. № 278.

[2] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 15. Воп. 28. Адз. 5.





ячэйкі пры Белпедтэхнікуме ён быў выключаны за няяўку на сходы і нясплочаныя ўзнёскі) Алесь Дудар меў некалькі непрыемных гутарак з членамі партыйнай камісіі. У выніку ў студзені 1929 у «Савецкай Беларусі» з'явіўся ліст Александровіча і Зарэцкага з прызнаннем уласных памылак, праяўленых праз «ліст трох», а наступным днём — гэткі ж самы ліст Алеся Дудара.

Прыкладна ў гэты самы час органам, якія назіраюць за літаратурным працэсам, становіцца дакладна вядома пра выразна контррэвалюцыйныя вершы, што распаўсюджваюцца сярод беларускай інтэлігенцыі. Абодва прысвечаны падзелу Беларусі і несправядлівай тэрытарыяльнай палітыцы СССР, ў абодвух выказваецца абурэнне фактам адабраных у Беларусі зямель, у абодвух аўтары жорстка выказваюцца па адрасе Масквы і Варшавы — агрэсіўных суседзяў роднай краіны. Гэтыя вершы ўзніклі прыкладна ў адзін і той жа час, і хутчэй за ўсё — незалежна адзін ад аднаго. Першы пісаўся ў Маскве і быў надрукаваны ў Вільне пад псеўданімам Янка Крывічанін, другі быў створаны ў Менску і перапісваўся ад рукі без імені аўтара. Але ж даведацца пра аўтарства было даволі проста, бо ў кожным з вершаў выразна адчуваўся і аўтарскі стыль, і выспелая думка, і паэтычнае майстэрства. Аўтарам першага верша быў Уладзімір Дубоўка, другога — Алесь Дудар.

У сакавіку 1929 года Алесь Дудар быў арыштаваны на сваёй кватэры па вуліцы Праваднай, 15а. Прыператрусе, акрамя крамольнага верша «Пасеклі край наш папалам», былі адабраныя яшчэ некалькі «контррэвалюцыйных» тэкстаў аўтарства самога Дудара і верш украінскага паэта Уладзіміра Сасюры. Пасля трох дзён, якія доўжылася следства, Алесь Дудар быў прысуджаны да трохгадовай высылкі ў Смаленск, з друкарскай машыны быў зняты і знішчаны зборнік ягоных вершаў «Чырвоная сталіца».

Для літаратурнай грамады гэта быў сур'ёзны ўдар: дасюль спробы арганізаваць літаратурны працэс па партыйных канонах абмяжоўваліся разгромам у прэсе ці выхавальнымі гутаркамі ў ЦК. Найбольш дасведчаныя удзельнікі літаратурных дыскусій зразумелі і агульную пагрозу беларускаму культурнаму руху: «пачалі лупіць беларусаў наогул» — напісаў Адаму Бабарэку з Масквы Уладзімір Дубоўка[1]. Некалькі дзён, якія прайшлі з моманту абвяшчэння выраку і да ўласна адпраўкі Дудара ў Смаленск 1 красавіка 1929 года, ён быў акружаны ўсеагульным спачуваннем. Пра гэта мала хто думаў, але

[1] «Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго». Мн.: Лімарыус, 2017. С. 174.

высылка Дудара сталася пачаткам маштабнага разгрому нацыянальнага руху наогул.

У ліпені 1930 прайшлі масавыя арышты сярод беларускай інтэлігенцыі: у Менску апрача іншых былі арыштаваныя ўзвышаўцы Адам Бабарэка, Уладзімір Жылка, Язэп Пушча, у Маскве — Уладзімір Дубоўка. Сфабрыкаваны працэс «Саюза выхвалення Беларусі» уцягнуў у трагічны вір больш за сто беларускіх культурнікаў. Падчас следства па справе СВБ застрэліўся Усевалад Ігнатоўскі, зрабіў спробу самагубства Янка Купала. Алесь Дудар быў паўторна арыштаваны ў смаленскай высылцы і вывезены ў Менск для ўдзелу ў следстве ў якасці падазраванага. Другі арышт паэт сустракае «са значна разгружаным багажом мінулага» — жонка паэта Наталля Вішнеўская пад ціскам партыйных улад падала на развод і з'ехала ад галечы і пераследу ў Ленінград, а ў хуткім часе выйшла замуж за сябра Алеся Дудара, паэта-маладнякоўца Алеся Звонака.

У гэты надзвычай складаны перыяд жыцця, калі рэпрэсіўная машына акрэплай улады абрынулася на паэта ўсім сваім назапашаным на той час цяжарам — высылка, адмова ў літаратурнай працы, выключэнне з шэрагаў «Полымя» і адпаведнай рэдакцыі, пільны нагляд НКУС, асабістая сямейная драма — Алесь Дудар прымае няпростыя рашэнні. Адно з іх — шчырыя прызнальныя паказанні, дадзеныя па справе СВБ. На першы погляд гэта ледзь не данос на шматлікіх сяброў і паплечнікаў — але толькі на першы, павярхоўны і тэндэнцыйны погляд.

Уважліва перачытваючы гэты дакумент, лёгка заўважыць: асноўны цяжар віны за «нацыянальна-дэмакратычныя» ўхілы ў беларускай літаратуры Алесь Дудар бярэ на сябе. Наколькі магчыма, ён стараецца адвесці падазрэнні ад тых, хто яму па-чалавечы дарагі. Янка Купала згадваецца двума словамі — і тое ў кантэксце «рэдка ў яго бываў, ніякіх гутарак не чуў» (хаця вядома са шматлікіх успамінаў сучаснікаў, што Алесь Дудар быў вельмі частым і заўсёды жаданым госцем у Купалы). Уладзіслаў Галубок і ягоны тэатр, які выхаваў у Дудара свядомую і сталую любоў да Беларусі, не згаданы ані словам. Па адрасе Валера Маракова сказана: «да маёй жа палітычнай дзейнасьці ён ня меў ніякага дачыненьня і ня мог мець, бо я лічыў яго занадта маладым і безталковым для таго, каб уводзіць яго ў круг сваіх поглядаў і спраў». Пра Алеся Гурло — «лічылі яго добрым таварышом, але ня дужа далёкім чалавекам для таго, каб уводзіць яго ў круг нашых інтарэсаў». Пра жонку — «не хавала свайго здзіўлення, што





я так далёка зайшоў». Адчайна бароніць Алесь Дудар Міхася Чарота, метадычна даводзячы ў сваіх паказаннях, што «працягваў у друк» небяспечныя артыкулы, ашукваючы суворага рэдактара. Яскравы расповед Дудара пра абставіны друкавання «ліста трох» (нібыта Чарот быў наўмысна адарваны ім ад рэдакцыі аж да таго часу, покуль нумар з лістом не трапіў у тыпаграфію) супярэчыць паказанням самога Чарота, які прызнае падчас партыйнага расследавання, што свядома даваў дазвол на публікацыю крамольнага тэксту[1]. Нават супроць сваіх літаратурных супернікаў, узвышаўцаў, Дудар не выказвае бясспрэчных і пераканаўчых абвінавачванняў. Да таго ж, з тэксту прызнанняў вынікае, што пішуцца яны пасля абмеркавання з Міхасём Зарэцкім — а значыцца, і тон расповеду пра Зарэцкага быў узгоднены з ім самім. Аналізуючы шляхі развіцця паслякастрычніцкай беларускай літаратуры, Алесь Дудар мякка, але няўхільна праводзіць думку пра тое, што «віна» яго і таварышаў — толькі ў тым, што яны «не разумелі» нацыянальнай палітыкі партыі, усім сэрцам пры гэтым падтрымліваючы новую ўладу. Праз увесь шматстаронкавы тэкст скразіць асноўнае: прычыны унутранай контррэвалюцыі пралетарскай моладзі Беларусі — у грубай, неасцярожнай, неахайнай палітыцы партыі і партыйцаў.

Пасля заканчэння следства і суда, вынікам якога сталі пяцігадовыя высылкі ўдзельнікаў працэсу, Дудар адпраўлены ў Смаленск «дабываць» свой першы тэрмін, які быў яму скарочаны на 8 месяцаў — «падзяка» за паказанні і пакаянны вершаваны «Ліст да рэдактара»[2], які быў надрукаваны ў «Полымі» і ўяўляў сабою поўнае публічнае прызнанне «нацыянал-дэмакратычных» памылак сваіх — і тых, хто быў высланы пасля «справы СВБ». Гэтым лістом Дудар усё ж выконваў абавязковую праграму ДПУ, якое патрабавала ад «нацдэмаў» не шчырых споведзяў, а маштабнага пакаяння. Па вяртанні з высылкі Алесь Дудар выступае публічна з дакладам, у якім выносіць абвінаваўчы прысуд «нацдэмам» і «нацдэмаўшчыне».

У 1934 годзе Алесь Дудар уступае ў Саюз пісьменнікаў БССР. Вершаў у гэтыя гады ён амаль не піша: дзве паэмы, напісаныя «з улікам памылак» («Слуцак» і «Вайна за мір»), праходзяць амаль незаўважанымі, рэдкія вершаваныя выступленні ў ЛіМе і «Полымі», нешматлікія нарысы хутчэй дазваляюць яму падтрымліваць матэрыяльнае становішча сям'і — бацькоў, якія на той час ужо пенсіянеры,

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 15п. Воп. 28. Адз. 5. Арк. 2.
[2] «Полымя». 1931. № 10.

і сястры, якую трэба вучыць у Горках — чым сведчаць пра творчыя пошукі і дасягненні. Асноўны творчы плён паэта у гэтыя складаныя гады — пераклады.

Пачатковыя веды французскай і нямецкай моў, атрыманыя Дударом у дзяцінстве, удасканальваюцца бесперапыннай самаадукацыяй: Белдзяржвыд замаўляе яму пераклады з Бамаршэ, Шылера, Гётэ, нават запрашае яго літаратурна адрэдагаваць пераклад «Гамлета» Шэкспіра, не гледзячы на тое, што англійскай мовы Алесь Дудар не ведае. Паэт бярэ самы актыўны ўдзел у «Анталогіі рускай савецкай паэзіі», для якой перакладае С. Ясеніна, М. Ціханава, А. Блока, М. Ушакова і В. Брусава, выдае кнігу перакладаў з польскага паэта Станіслава Стандэ, аповесць і апавяданне украінскіх пісьменнікаў У. Кузьміча і М. Ляшко, пераклад «Запісак педалагічкі» Ф. Гладкова (у абвінаваўчым заключэнні 1937 года гэта ўсё будзе названа «сабатажам»).

Цалкам скарыцца часу, стаць на «патрэбныя рэйкі» ва ўпартага Дудара атрымліваецца дрэнна — ён манкіруе «палітычна неабходнымі» паседжаннямі СП, вядзе «багемнае жыццё», злоўжываючы спіртным. У «лімаўскім» артыкуле «Суровае і своечасовае папярэджанне» паведамляецца: «За апошні час Праўленнем ССПБ ускрыта група пісьменнікаў, якая сістэматычна п'янствуе, прычым частка з іх (Дудар, Вольны, Маракоў) стала на шлях багемы, а багемшчык можа трапіць у балота нацыяналістычнай контррэвалюцыі. Праўленне ССПБ і пісьменніцкі актыў вельмі жорстка асудзілі халтуру і багемшчыну, п'янку і іх носьбітаў, і папярэдзілі пісьменніцкую арганізацыю: гэта арэна, на якой магчымы рэцыдывы і ўплывы нацдэмакратызма ў літаратуры і літаратурным асяроддзі. Праўленне ССПБ выключыла на 6 месяцаў з Саюза Кляшторнага і Маракова, абвясціла суровую вымову Дудару, Вольнаму, вымову С. Баранавых»[1].

Напачатку 1936 года Алесь Дудар атрымлівае заданне ад пушкінскай камісіі, створанай пры СП БССР у межах падрыхтоўкі да стагоддзя са дня смерці Пушкіна. Заданне пачэснае, якое выклікае творчую зайздрасць у маладых і амбітных калег Дудара па творчым цэху: яму даручана перакласці пушкінскага «Яўгенія Анегіна». Янка Купала, які ўзначальваў пушкінскую камісію і ўваходзіў ва Усесаюзны пушкінскі камітэт, размяркоўваючы пераклады, улічваў асабістыя здольнасці і паэтычнае майстэрства выканаўцаў: схільнаму да эпічных абагульненняў Глебку ён дае для перакладу «Барыса Гадунова», глыбокаму лірыку Тодару Кляшторнаму — «Руслана і Людмілу», рамантычнаму Міколе Хведаровічу — «Бахчысарайскі фантан», вытнаму празаіку Кузьму Чорнаму — «Станцыйнага даглядчыка». Сабе — цалкам невыпадкова — Купала бярэ для перакладу паэму пра трагічныя ўзаемаадносіны чалавека і ўлады, «Меднага конніка». Геніяльны раман у вершах для першага беларускага перакладу давераны паэту высокай культуры верша, шчыраму апавядальніку, таленавітаму перакладчыку Алесю Дудару.

Ён працуе над перакладам «Анегіна» апантана і плённа, закінуўшы ўсё іншае. У траўні 1936 у ЛіМе выходзіць першая глава беларускага «Анегіна», у кастрычніку ў «Полымі» — трэцяя. На вечары перакладаў Пушкіна 17 кастрычніка 1936 года Алесь Дудар чытае шостую главу — тую, у якой апісваецца смяротная дуэль Ленскага і Анегіна і якая завяршаецца роздумам апавядальніка пра свой няпросты лёс.

Алесь Звонак так успамінае гэты вечар: «Алесь Дудар — бліскучы паэт па сваёй паэтычнай культуры, па грамадскаму дыяпазону сваёй творчасці — чытаў свой пераклад «Яўгенія Анегіна» на беларускую мову. Мяккім, задушэўным сваім голасам з нейкай незвычайнай лёгкасцю, як кажуць, без запінкі, ён чытаў, памятаю, як цяпер. …Янка Купала слухаў не зварухнуўшыся, не сказаў ніводнага слова, калі Алесь Дудар скончыў чытаць, а моўчкі падышоў да яго і моцна абняў. Можа, мне здалося, але на вачах яго бліснула слязінка радасці»[1]. Гэтую ж падзею праз паўстагоддзя ўспамінае С. Грахоўскі: «Часам пісьменнікі гаварылі, што Алесь Дудар перакладае «Яўгенія Анегіна». Як ён загучыць па-беларуску? І вось Дудар чытае ў Доме пісьменніка свой пераклад. У зале пастаўлены мікрафон. Ідзе трансляцыя на ўсю рэспубліку. У Мінску рэпрадуктары пастаўлены на скрыжаваннях некалькіх вуліц, у магазінах, сталоўках і цырульнях. Праз некалькі хвілін пасля пачатку зала напоўнілася незнаёмымі людзьмі, запыханымі, прыцярушанымі снегам. Стаялі каля сцен, у цесных праходах, зацікаўлена і ўважліва слухалі, як, паміргваючы прыгожымі вачыма, чытаў Дудар свой пераклад. Калі скончыў, падняўся мужчына ў гадах. Сказаў, што працуе на заводзе «Камунар», зайшоў у цырульню, пачуў «Анегіна» на беларускай мове, пакінуў чаргу і пабег, каб паслухаць і пабачыць перакладчыка»[2].

[1] ЛіМ. 1935. 16 лютага.

[1] Звонак А. Жыве Купала ў маім сэрцы. Успаміны пра Янку Купалу. Мн.: Мастацкая літаратура, 1982. С. 82.

[2] Грахоўскі С. Так і было. Мн.: Мастацкая літаратура, 1986. С. 40.

Праз два тыдні, у ноч на 31 кастрычніка, Алесь Дудар будзе арыштаваны НКУС у трэці раз. Праз год катаванняў і допытаў, 29 кастрычніка 1937 года ён будзе расстраляны разам з іншымі пісьменнікамі (Анатоль Вольны, Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Валер Маракоў, Тодар Кляшторны, Юлі Таўбін, Янка Нёманскі, Ізі Харык, Мойшэ Кульбак), навукоўцамі, грамадскімі і дзяржаўнымі дзеячамі Беларусі, нацыянальна свядомымі творцамі, нованароджанай беларускай інтэлігенцыяй — разам больш за 100 чалавек.

Сем'ям асуджаных вырак не абвяшчалі. З нешматслоўных каментароў супрацоўнікаў НКУС вынікала, што абвінавачанныя асуджаны на доўгія тэрміны «без права перапіскі і апеляцыі». У асабістым архіве сям'і Дайлідовічаў захаваліся дакументы, якія красамоўна сведчаць: адчайна шукаць яго, спрабаваць даведацца пра ягоны лёс сям'я не пераставала ніколі. У 1957 годзе Яўгенія Аляксандраўна Дайлідовіч падала дакументы на рэабілітацыю брата. Разам з даведкай аб рэабілітацыі сям'я атрымала даведку аб смерці, ў якой стаяла выпадковая дата і выпадковая, няісная прычына смерці Алеся Аляксандравіча Дайлідовіча. Пра расстрэл 1937 года ні сястра, якая памерла ад цяжкай хваробы ў 1959, ні маці, якая дажыла да 90 гадоў і памерла ў 1962, так і не даведаліся.

З 1937 года, праз вайну, галечу і небяспеку пераследу, у сям'і захоўвалі тыя нешматлікія паперы, якія засталіся пасляператрусу НКУС: рукапіс перакладу «Яўгенія Анегіна», «Фауста» Гётэ, «Зімовай казкі» Гейнэ, некалькі асабістых дакументаў — і багацейшую бібліятэку, сабраную паэтам. Пасля смерці Вольгі Іванаўны і Яўгеніі Аляксандраўны пачэсную варту ля архіва расстралянага паэта прыняла ягоная пляменніца Лідзія Маркаўна Малініна. Філолаг паводле адукацыі, яна добра ўсведамляла каштоўнасць архіва і шмат сіл і часу аддала працы над ім — без надзеі на публікацыю, бо цікавасць да фігуры паэта з часам амаль знікла.

Да паэзіі Алеся Дудара беларускія даследчыкі пачалі звяртацца адразу ж пасля яго рэабілітацыі. У 1959 годзе выйшаў невялікі зборнік вершаў і паэм, укладзены С. Баркоўскім, у 1984 — кніга «Вежа. Вершы і паэмы», укладзеная М. Ярошам. Нажаль, абодва выданні, складзеныя з ідэалагічна «правільных», штучных твораў рэпрэсаванага паэта атрымаліся нерэпрэзэнтатыўнымі — ў іх амаль не было бачна шчырага і глыбокага лірыка, бліскуча адоранага паэта, празаіка, перакладчыка Алеся Дудара.

Здаецца, пачуццё рытму, рыфмы, музычнай дасканаласці паэтычнага радка ў Алеся Дудара прысутнічала ад нараджэння, уваходзіла





абавязковай кампанентай у канфігурацыю ягонага таленту. Ужо з першых публікацый шаснаццацігадовы паэт дэманстраваў незвычайную для яго ўзросту, для яго адукацыі, наогул для свайго паэтычнага пакалення высокую культуру верша, пазбаўленага вучнёўскай рыфмоўкі ці невытрыманых памераў. Адзначаныя асаблівай музыкальнасцю, суразмернасцю і адпаведнасцю выкарыстаных слоў радкі Алеся Дудара самі прыпадалі да памяці, выгодна чыталіся ўслых. Нават тады, калі змястоўна вершы маладога паэта ўяўлялі сабой стандартныя маладнякоўскія плакаты, выкананыя ў стылістыцы «бурапены» — яны ўражвалі багаццем і майстэрствам выкарыстаных мастацкіх сродкаў.

Шчыры і эмацыянальны па характары, Алесь Дудар з самых першых радкоў быў паэтам суб'ектыўных пачуццяў, хвілінных настрояў, імгненных рэакцый, шмат у чым ягоная паэзія — гэта зафіксаваны момант чалавечага водгуку на малюнак, падзею, думку ці слова. Пачуцці і сродкі іх славеснай перадачы ў вершах Алеся Дудара надзвычай разнастайныя: *«Уздымалася роспач клубочкамі слёз», «смелая радасць паўстання», «імжыць тонкім туманам журба», «фарбы раніцы ў грудзёх завялі карагод», «я туляўся ў выбаінах зор»*, *«звініць прасторамі туга», «і не будзе самотна, і не будзе мне цесна»* — эмоцыя ў вершах Дудара нібыта аддзелена ад чалавека, пераплецена са з'явамі рэчаіснасці і зноў ўкладзена ў сэрца лірычнага героя ў сваёй паэтычнай складанасці і дакладнасці. Часам паэт бядуе, што не ў стане знайсці адпаведных слоў для апісання пачуцця: *«Гнілое, зьбітае слова — / а як сказаць іначай*?» — і шуканне «*лепшых слоў*» становіцца для яго першаснай паэтычнай задачай. Гэта тым больш заўважна, што ў адлюстраванні падзей, а не эмоцый паэт Алесь Дудар не абцяжарвае сябе разнастайнасцю: рэвалюцыя — часцей за ўсё «пажар», «вогнішча», радзей — «навальніца», усталяванне новай улады — «фабрычныя трубы», «фабрычны гудок». Падзея ў паэтычным сусвеце Дудара — статычны вобраз, пададзены праз простую, зразумелую метафару, эмоцыя — рухомы, ледзь улоўны, заўсёды ўнікальны, і ад таго — надзвычай каштоўны мастацкі пошук.

Складана тчэцца Дудароў вобраз, калі ён будуецца на пачуцці. Пейзажы ў ягоных вершах, ёмістыя, сканцэнтраваныя ў двух-трох радках, часцей за ўсё пададзены праз тры спосабы пазнання сусвету: зрокавы, гукавы, кінестэтычны. «*Каб шапацелі каласы і залацісцей, і сталёвей*» — шоргат каласоў, ахарактарызаваны праз колер і матэрыял, набывае надзвычай выразныя мастацкія рысы. «*Жыццё*

*імчыцца ў даль, за семафоры, / дзе ціш палёў, дзе гулкія лясы, / дзе сінню разатканыя прасторы / птушыныя калышуць галасы*» — як надзейна знітаваныя ў гэтым катрэне гукі леса, галасы птушак, ціш палёў, імклівы бег жыцця і асязальнасць сінню тканай прасторы, ў якой ўжо і не зразумела, ці яна калыша птушыныя галасы, ці гэтыя галасы яе калышуць. Менавіта за кошт гэтай надзвычайнай унутранай пачуццёвасці, «трохмернасці» мастацкага вобраза вершы Дудара набываюць глыбіню і важкасць.

Дадае гэтай важкасці і багатая культуралагічная насычанасць Дударова верша. Шырока начытаны, эрудзіраваны, смелы ў параўнаннях і абагульненнях, Алесь Дудар напоўніцу рэалізуе назапашаны гуманітарны багаж ў вершах, і я маю на ўвазе не толькі прамое цытаванне, на якое Дудар — вялікі майстра (успомнім хаця б «*Цыгане шумнаю талпой па Бессарабіі качуюць*» з верша «Пасеклі край наш папалам»), не толькі алюзіўныя згадкі тагачасных нашумелых літаратурных вобразаў і тэм як беларускай, так і рускай літаратуры (найчасцей гэта алюзіі на любімых ягоных Чарота, Купалу, Ясеніна, на свайго літаратурнага куміра, а потым суперніка Уладзіміра Дубоўку). Адсылкі да сусветнай культурнай спадчыны ўваходзяць ў вершы Алеся Дудара на мікраўзроўні, ўбудоўваюцца ў склад метафары, нітуюць між сабой небачныя простаму воку сувязі паміж радкамі (пэўна, самы яскравы прыклад такога нітавання — нізка вершаў «Лісты»). Нават на ўзроўні вершаванага памеру Алесь Дудар далучае свае творы да сусветнай паэтычнай традыцыі, калі абірае, прыкладам, шасцістопны дактыль, якім традыцыйна перакладаецца на рускі «Іліяда» Гамэра, для свайго верша «Dies irae», ці калі піша бездакорным шасцістопным харэем, распрацаваным рускімі мадэрністамі, выдатную лірычную мініяцюру «І ў нязнанай цьмянай далі». Думаецца, менавіта імкненне абагульніць і трансфармаваць сусветны паэтычны досвед ва ўласнай паэзіі сучаснікі Алеся Дудара прымалі за пераймальнасць, упікаючы паэта за некрытычнае засваенне спадчыны Мікалая Ціханава ці Сяргея Ясеніна. Безумоўна, як і шмат хто з тагачасных творцаў, Дудар знаходзіўся пад моцным уплывам і першага, і другога, але, аналізуючы кожны з выпадкаў відавочнага скарыстання чужой паэтыкі ў будоўлі арыгінальнага верша, мы найчасцей бачым палеміку, а не перайманне, як у вершы «Верасень», у які ўключана відавочна ясенінскае «*ціхае, белае* шч*асьце, песьня і бэзавы куст»* (параўнаем з «вот оно, глупое счастье с белыми окнами в сад»). Аналогія настолькі відавочная, алюзія да такой





ступені празрыстая, падкрэсленая памерам радка, што не можа быць выпадковай — паэт, безумоўна, свядома дадае ў меланхалічны, самотны арыгінальны верш алюзію на светлы, прыўзняты верш Ясеніна, палемізуючы з ім у адлюстраванні інтымных пачуццяў. Ў вершы Дудара часта ёсць арыгінальны культуралагічны сюжэт — нават калі ў ім бракуе арыгінальнай думкі.

Менавіта адсутнасцю арыгінальнай думкі, суб'ектыўнасцю ў падборы фактаграфічнага матэрыялу для паэзіі папракала маладога Дудара крытыка пачатку дваццатых. Эстэтыка пачуцця, пошукі мастацкага ўвасаблення імгненнай эмоцыі, тое, на чым засяроджваўся паэт Алесь Дудар, ў пралетарскай літаратуры былі, мякка кажучы, непажаданымі накірункамі творчага росту. Але прыроду ўласнага даравання, спецыфіку таленту ніяк не перамагчы праграмнымі патрабаваннямі і партыйнымі ўстаноўкамі: нават рэалізуючыся як паэт высокага грамадзянскага гучання, аддаючы ў вершах ўвагу пытанням гісторыі і сучаснасці, Алесь Дудар рабіў гэта скрозь прызмы суб'ектыўнага адчування. «*Не люблю, калі з роднай краіны / птушкі рвуцца ў далёкі вырай*» — пачынае ён верш, прысвечаны Францыску Скарыне, адмаўляючыся ад традыцыйнага хрэстаматыйнага ўслаўлення грамадзянскага і навуковага подзвігу першадрукара, даючы ягоную фігуру праз уласную эмоцыю, нерацыянальнае, але самакаштоўнае пачуццё: што з таго, што птушкам у выраі — лепш?

Да паэзіі, ў якой незвычайная шчырасць і па-майстэрску адлюстраваная пачуццёвасць спалучаюцца з уменнем пабачыць свет з нечаканага боку, сфармуляваць яго інакш, выразней і глыбей за папярэднікаў, Алесь Дудар прыходзіць ў 1926 годзе. Ужо ў зборніку «І залацісьцей і сталёвей» выразна бачна, як паэт «разварочваецца» ад плакатнасці антанімічных супрацьпастаўленняў да натхняльнага жывапісу адценнямі небанальных колераў. Найлепшыя ягоныя лірычныя вершы, напісаныя ў 1928 («Зварот», «Хрушчы», «Кніга»), бліскучая паэма «Байкал», легендарны верш «Пасеклі край наш папалам» яскрава сведчаць: менавіта зараз, акурат перад высылкай, Алесь Дудар уступаў у прыгожую пару сваёй творчай спеласці, меў унутраную моц і напрацаваны навык для паўнавартаснага ўвасаблення свайго бліскучага таленту.

Ягоны мастацкі стыль, адметны і заўважны ў сузор'і выбітных лірычных дараванняў, на якія быў багаты міжваенны перыяд беларускай літаратуры, складаўся з выразных, добра распрацаваных уласных паэтычных прыёмаў. Гэта музычнасць і алітэратыўная насычанасць

вершаванага радка, гэта «трохмерны вобраз», у якім нітуецца гук, колер і асязальнасць прадмета, гэта багатая інтэртэкстуальнасць і ўменне закласці ў падмурак вершу глыбокі культуралагічны падтэкст, гэта асаблівая, менавіта «Дударова» інтанацыя даверу, шчырасці і чалавечай цеплыні, якая адзначае кожны ягоны тэкст. Фармальны бок верша, заўсёды добра распрацаваны ў Дудара, ўражвае багаццем мастацкіх сродкаў, якія ён скарыстоўвае: асэнсаваны выбар вершаванага памеру, лексічныя паўторы, кальцавыя элементы у кампазіцыях катрэнаў альбо верша цалкам, падтрыманыя з страфы ў страфу метафары, якія заўсёды складаюцца з родасных, сэнсава блізкіх кампанентаў, выкшталцоны гукапіс, смелае, але густоўнае словаўтварэнне, багатая рыфма. Нават у трыццатыя гады, калі пісаць шчыра і неабмежавана, гэтак сама як і фармальна эксперыментаваць, было цалкам немагчыма, Алесь Дудар друкуе выдатныя лірычныя творы, у якіх спалучыліся лепшыя рысы паэтычнага асабістага стылю: уражваюць завостраным ужо паэтычным майстэрствам вершы «Экзотыка», «Дзяўчына», «На станцыі».

Творчы плён паэтычнай нівы Алесь Дудар пераносіць і ў прозу: ў стылістыцы Дудара-празаіка добра бачны ягоны паэтычны інструментарый. Сюжэты яго навэл амаль заўсёды — хрэстаматыйныя, знаёмыя, шматкроць даследаваныя ў літаратуры. Здаецца, Дудара-празаіка зусім не цікавіць сюжэт, як не цікавіла Дудара-паэта падзея як паэтычны факт, і ён наўмысна абірае стандартную фабулу, каб напоўніць яе небанальнымі эмацыянальнымі складнікамі. Усё, што вакол сюжэту: дэталь, пачуццё, настрой — менавіта ў гэтых накірунках ідзе напружаная творчая праца. Зялёныя зоркі на сіняй эмалі неба ў «Спатканні», мухі, што б'юцца аб шкло ў «Ветры ў усходу», Мурачка, якая смачна чмякае накрадзеныя яблыкі — ў празаічных творах Дудара цікава не вялікае, а маленькае, тыя моманты, з якіх складаецца адчуванне цэлага. Найлепшыя празаічныя радкі — тыя, ў якіх раскрываецца пачуццёвы досвед чалавека: пакуты голаду і шчасце смачнай ежы, упартасць кахання і нараджэнне жарсці, холад развітання і цеплыня сяброўскай сустрэчы. Уважліва паставіцца да пачуцця, да суб'ектыўнага стану чалавека, ў адной ёмістай, сканцэнтраванай дэталі даць характарыстыку настрою, адшукаць адпаведныя словы для выразу імгненнай эмоцыі, знітаваць гукавыя і зрокавыя ўражанні — гэтыя творчыя задачы вырашаюцца Дударом у першую чаргу.





Яны ж першынствуюць і тады, калі Алесь Дудар перакладае на беларускую. Тое, што яму важна ва ўласным вершы, становіцца стылістычным кантрапунктам пры перакладзе. Захаваць гукапіс арыгінальнага твора, мелодыю радка, з дакладнасцю перадаць вершаваны памер і мінімальныя ад яго адхіленні, адлюстраваць інтанацыю, эмоцыю, якой прадыктаваны верш — і перанесці ў пераклад.

Асаблівасці творчага почырку паэта — заўсёды адбітак ягонага унутранага свету, характару, тэмпераменту. Немагчыма ў паэтычным радку быць не-сабой, і, напэўна, чалавек, які мае дастатковыя версіфікатарскія навыкі, тады становіцца сапраўдным паэтам, калі дасягае максімальна магчымай ступені асабістай шчырасці і творчай смеласці, раскрываючыся перад чытачом ва ўсёй сваёй чалавечай праўдзе. Толькі тады, здаецца, і адбываецца паэт, які здольны трансляваць не толькі сваё — але і агульнае, блізкае і зразумелае кожнаму. Любы чалавек уладарыць непаўторным сусветам — але толькі паэты маюць шчырасць і талент апрылюдніць, папярэдне сфармуляваўшы, свой сусвет, апрылюдніць — і зрабіць яго агульным: для свайго кола, для свайго народу, для сваёй нацыі, для чалавецтва ўвогуле, у залежнасці ад маштабу таленту і ўласнага светаадчування. Алесь Дудар быў паэтам, які напоўніцу адчуваў сябе, сваю краіну і свой час, не маючы магчымасцяў яго тлумачыць (а хто іх меў?). Можа, таму такі шырокі водгук знаходзяць ягоныя вершы сёння, калі мы ўсе вучымся найперш адчуць — а ўжо пасля патлумачыць свет вакол сябе.

Пры падрыхтоўцы гэтых «Выбраных твораў» Алеся Дудара была сабраная ўся вядомая на сёння творчая спадчына паэта: друкаваныя зборнікі вершаў, паэм і перакладаў, публікацыі ў перыядычнай міжваеннай прэсе, рукапісы вершаў, адабраных пры арышце 1929 года, рукапісы, якія восемьдзесят год захоўваліся пакаленнямі сям'і Дайлідовічаў. Вывучыўшы падшыўкі газет і часопісаў, мы значна пашырылі бібліяграфічны спіс друкаваных твораў А. Дудара, складзены некалі спецыялістамі бібліятэкі імя Леніна для С. Баркоўскага і ўключылі ў выданне вершы і паэмы, якія цалкам зніклі з даследчыцкага поля зроку ў пяцідзесятыя. Упершыню пасля міжваенных газетных публікацый друкуюцца вершы «Брату-беларусу», «Зварот», «Хрушчы», «Воўк», «Экзотыка», паэма «Байкал», упершыню перавыдаецца большасць вершаў зборніка «І залацісьцей і сталёвей», упершыню цалкам друкуецца пераклад рамана А. Пушкіна «Еўгеній Онегін», упершыню перавыдаюцца апавяданні і нарысы. Большасць

фотаздымкаў з архіва Алеся Дудара прапануюцца чытачам упершыню, таксама першы раз друкуюцца матэрыялы з асабістага архіва Алеся Дудара і сям'і Дайлідовічаў.

Адна тэксталагічная праблема вымагае асобнага каментару. Пры падрыхтоўцы тэкстаў вершаў «Палескія ночы» і «Пераклічка гадоў» выявілася, што ў перавыданнях 1959 і 1984 гадоў укладальнікі знялі апошнія катрэны абодвух вершаў, у якіх згадваўся Сталін. Прычыны, з якіх пайшлі на гэтую рэдактарскую праўку С. Баркоўскі і М. Ярош, зразумелыя, і, сказаць па праўдзе, такую ж спакусу пераадольвалі і мы. Аднак імкненне адмяніць цэнзуру датычна спакутаваных тэкстаў нашых міжваенных паэтаў, якіх «прычэсваюць» з кожным перавыданнем адпаведна трэндам і мэйнстрымам, усё ж перамагло: мы даем тэксты гэтых вершаў згодна з першапублікацыямі (яны ж — апошнія прыжыццёвыя), так, як яны былі напісаныя.

Шчырую падзяку ўкладальнік выдання выказвае Лідзіі Маркаўне Малінінай, без шматгадовай працы якой гэтае выданне не было б магчымым у тым максімальна поўным выглядзе, ў якім яно прыходзіць да чытача.

Укладальнік сардэчна дзякуе тым, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі выдання, а таксама тым, хто дапамог прафесійнай кансультацыяй у складанні каментароў да яго: Аляксандру Фядуце, Таццяне Навасельскай, Юліі Янчыленка, Ігару Брэку, Віктару Жыбулю, Вадзіму Зелянкову, Аляксею Стрэльнікаву, Лявону Юрэвічу, Наталлі Гардзіенцы, Васілю Дранько-Майсюку, Эліне Свірыдовіч, Валянціне Ціханавецкай.

Таксама ўдзячная сваёй сям'і: Таццяне і Кастусю Севярынцам, Юрыю, Еўгеніі, Любові і Ільe Субатам — за дапамогу і цярпенне.

*Ганна СЕВЯРЫНЕЦ*



# ВЕРШЫ І ПАЭМЫ (1921–1936)

## БРАТУ-БЕЛАРУСУ

Гэй, вольны беларус, паслухай, там, на ўсходзе,
Дзе Волга льецца між прыгожых берагоў,
Хтось абнядолены стогн жудасны заводзе, —
То стогн галодных, стогн тваіх братоў.
Ты сыты, беларус, а там твой брат галодны!
Ты чысты хлеб ясі — глытае гліну ён.
Й над тэю ніваю, дзе нёсься сьпеў лагодны,
Братоў галодных льецца цяжкі стогн.
Дзе ў песьнях гусьляроў жылі яшчэ нядаўна
Ўспаміны пекныя пра тых багатыроў,
Што разам з Разіным тут ваявалі слаўна,
Нясецца стогн галодны іх сыноў.
Гэй, вольны беларус, апошнім падзяліся,
З тым, хто багатым быў, цяпер стаў жабраком!
На плач яго дзяцей галодных адзавіся,
І дай лягчэй уздыхнуць пакрыўджаным братом!

*Менск, 1-9-1921*

## СЦЕРАЖЭЦЕСЯ

Гучным сьпевам будзяцца ваколіцы…
Маладога сьмеху плешча вал…
Грамада вясёлых комсамольцаў
Правіць свой бурлівы карнавал.

Сьцеражэцеся, папы, ксяндзы і рабіны!
Ваша неба аблажылі хмары,
Маладняк, мазоліста-нязграбны,
Вам зламаць няўрокам можа карак.

Хіба-ж можна вашай раці цёмнай,
Згуртаванай крыўдамі-абманамі,
Устаяць прад гэтым дружным гоманам,
Перад смелай радасьцю паўстаньня?

Сьцеражэцеся, разбэшчаныя Керзаны!
Дружны сьпеў юнацкае грамады





Глыняцё вы глоткай перарэзанай
Перад грозным тварам барыкадаў.

Гандляры, паны яснавельможныя,
вам не задушыць юнацкай волі…
Бурным выбухам прапоны пераможам мы,
Мы, сыны вясёлай комсамоліі.

Хай шыпяць гадзюкі падкалодныя —
Керзаны, папы, ксяндзы і рабіны…
Ім ня кіне нават костачкі абглоданай
Маладняк мазоліста-нязграбны.

Самі зробім — самі скарыстаем мы,
Ні граша пузатым не дамо…
Мы пакінем бога і хрыста ім,
А сабе — бунтоўны Комсамол.

Усьміхаюцца вясёлыя ваколіцы…
Разьліваецца па тварах сьмелы сьвет:
Карнаваліць разам з комсамольцамі
Сонечны раённы комітэт.

*[1923]*

## СТАРЫ ГОРАД

Што з таго, што ў цябе віхурыцца
Шум машын — жалезны сьмерч —
У турме тваіх мёртвых вуліц
Міліёны спаткалі сьмерць.

Што з таго, што ты ўзьняўся вежамі,
Рэжаш неба жывую сінь —
Ад уздохаў тваіх нясьвежых
Памірае сярмяжніка сын.

Што з таго, што паўстаньню салютуеш,
Што прыбраўся ў чырвоны бляск —
Не забыць, як абцасы лютыя
Нас калісь тут тапталі ў гразь.

Не табе, збудаванаму катамі,
Асьвяціць нам наступны дзень!..
Згінь з вачэй, стары провокатар,
Ланцугі забыцьця надзень!..

Рэжам мы сталёвымі крыльлямі
Вольнай далі блакітную шыр;
Сьлед былога з карэньнем вырвем мы
І засеем бывльлём пустыр.

І калі прынясуць стагодзьдзі
Над зямлёю мільёны зьмен,
Успаміны памруць аб горадзе,
Дзе туманілі ночы дзень.

*Менск, 28 сьнежня 1923*

## ПАЭТАМ РЭВАЛЮЦЫІ

Мы дзеці рэволюцыі, Кастрычніка сыны!
Ў дзень радасьці кіпучае на сьвет зьявіліс мы.
Над нашаю калыскаю ня сумны матчын сьпеў —
Грымелі дні агністыя, змаганьня гром гудзеў.
Нас цешыў песьняй-казкаю крывавы бог вайны
Для нас служылі цацкамі былыя кайданы.
Акопы былі школай нам, указкамі — штыкі;
Гульня была вясёлая — ў «паны і басякі».
Гулялі не на жарты мы. Мы той гульнёй жылі.
Паставілі на карту мы жыццё ў тэй гульні.
Мы выйгралі. У полымі палаючага дня
Чырвонай перамогаю спынілася вайна.
І ў грудзях, ненатруджаных крываваю гульнёй,
Блісную матыў абуджаны, гук песьні агнявой.
Пяём віхурай песьні мы, агнём рытмуем іх —
Няма ў іх гнілі, плесені, няма ў іх сьлёз нямых.
Ў іх гоман сталі звонкае, удары малатка,
Напевы агнятонныя фабрычнага гудка,
Іх песьнямі вясеньнімі зьвівае чарназём.
Лясы прыгожаць ценьмі іх вясёлы срыбразвон,





У іх не апяваюцца мінулыя вякі —
У іх вітаюць раніцу працоўныя палкі…
Прайшлі мы сьцежкі вузкія, да сонца мы ідзём,
Сталёвым звонам мускулаў мы Волі гымн пяём…
Ў дзень радасьці кіпучае на сьвет зьявіліс мы,
Мы — дзеці рэволюцыі, Кастрычніка сыны.

*[1924]*

## ПАЎСТАНЕЦ

Яму хатаю — сіні бор,
Дахам — неба блакіт зялёны.
Гэта вецер глухой жальбой
У грудзёх скалыхнуў праклёны.
Асыпаецца жоўты ліст
У панурую цень лагчыны,
А душа юнака зьвініць,
Бо ў сэрцы квітнее чырвань.
Там, дзе стада старэнькіх хат
Прытулілі сівыя вербы —
Не баяліся там граха
Выхаваныя людзі-зьверы.
Белы месяц на хвойку ўзьлез,
Зоркі ў небе блішчаць-іскрацца.
Прыгарнуў сінякудры лес —
Прытуліў да сябе паўстанца.
Можа заўтра жандараў раць
Скруціць рукі яму за сьпіну —
Павядуць бунтара караць.
Бяз суда… На старой асіне.
Ну, а можа — вякоў закон —
Гвалтаўнік на суку павісьне —
Пранясецца чырвоны конь
Ад Дняпра да бурлівай Віслы.
А пакуль-што трывожыць лес
Жартаўлівы брадзяга-вецер.
Белы месяц на хвойку ўзьлез —
І глядзіць, і глядзіць, і сьмяецца.

Хто ідзе там? Чужы ці свой —
Для паўстанца змаганьне — жарты.
І праз сінюю сетку хвой
Пазірае з усходу заўтра.

*[1924]*

## Я МАЛАДЫ

Хто прайшоў — галаву павесіў.
(Міліёны пудоў у гадах.)
Ну, а я малады — мне весела
разагнацца ў мяцежную даль.

Мне жыццё — сусветнае свята,
мне прапоны — большы разгон.
Я цяпер без багацця багаты
на зары квітнеючых дзён.

Гэта кроў не баіцца смерці,
гэта сэрца распаліць лёд,
гэтых думак кіпучага смерчу
не абгоніць птушыны лёт.

Вось вышэй бы за ўсіх узняцца,
я увесь — непакорны шквал.
Што ж рабіць, калі дух юнацкі
агарнуў ваяўнічы запал;

што ж рабіць, калі фарбы раніцы
у грудзёх завялі карагод;
што рабіць, калі кроў барабаніць —
заклікае ісці у паход?

Хто прайшоў — галаву павесіў.
(Міліёны пудоў у гадах.)
Ну, а я малады — мне весела
разагнацца ў мяцежную даль.

*[1924]*





## МАЙ

Май прышоў у блакітнай кашулі,
З пасам, вытканым з пахаў лясных,
І зялёныя нівы пачулі
Залатыя раскаты вясны.
Май прайшоў над шумлівым горадам,
Пырснуў сонцам у твар камяніц
І на вуліцах дымных і чорных
Першамайскі прызыў зазваніў.
Любіць ён, як і я, прабегчы
Па зялёных размахах палёў.
Як і я, ён гуляка адвечны,
Любіць сонны ламаць буралом.
А бывае — чырвонай істужкай
Май аздобіць вясны блакіт,
Льецца лавай па вуліцах вузкіх,
Буйным гневам на бруку кіпіць.
І тады, непакорны і хмуры,
Ён ідзе напралом, як шквал,
І ня сыну вясны і віхуры —
Пуцявіны сабе шукаць.
Але, май! Сёння наша сьвята —
Пад напевы вясеньніх званоў
Ты вясну сабе сёння сасватаў.
Я і ты — сягоньня адно.
І на вуліцах брудных і цесных
Загуляем мы — май і я,
Бо ў сінія майскія песьні
Спавілася душа мая.

*[1924]*

* * *

Там, дзе ў жыта гульлівымі кліньнямі
Забягаюць з мяжы васількі, —
Там рука жыцця закінула
Мне ў вочы нябёс блакіт.

Я пакінуў свае загоны,
Кінуў я васільковую даль —
Ап’яніла жалобным звонам,
Абманула мяне нуда.

Ў падарожжы, нудою выгнаным,
Гартаваў я свой цьвёрды шаг —
Засталіся вочы блакітнымі,
Засталася блакітнай душа.

А цяпер у вяселля крыніцы
Утапіў я сваю нуду,
І чырвоная рань зарніцы
Заліла мой блакітны дух.

І без крыльляў крылаты лячу я…
Сонца! Сэрца маё запалі!
Слухай, сэрца! я чую, чую
Васільковых загонаў кліч!
Усё забуду, усё пакіну я —
Зноў, дзе ў жыта гульлівымі кліньнямі
Забягуць з мяжы васількі.

*[1924]*

## БЕЛАРУСЬ

Край шумлівых лясоў...
Край дрымотных балот...
Край, адвечнаю крыўдай замучаны...
Дзе над доляй людской плакаў сумны чарот
Ды сьлязіліся вербы плакучыя.

Уладаў хто хацеў гэтай сумнай зямлёй.
Ўсе суседзі на ёй гаспадарылі —
То спраўляў зьдзек і гвалт пан варшаўскі над ёй,
То тапталіся боты баярына...

І ляцелі вякі... І гаротны народ
Вечна гнуўся пад цяжкай нядоляю...





І марнеў сумны край — край лясоў і балот...
Люд гібеў у нудзе беспатольнай.

Час вялікі настаў... Загарэўся пажар...
Зазьвінелі палацаў ваконьніцы...
Ўсход агнямі прабіў цяжкі мур чорных хмар,
Заглянула к нам раніцы сонца.

І падняў галаву, разгарнуўся народ,
Разгарнуў сваё цела сталёвае,
І над сумнаю рэчкай шумлівы чарот
Засьпяваў, загудзеў песьню новую.

Над зямлёю паплыў новы, радасны, кліч:
«Бедакі ўсяго свету, злучайцеся!
Распаляйце ў душы слова вольнага зьніч;
Ад сьмяротнага сну абуджайцеся!»

Новы выгляд прыняў край балот і лясоў,
І здаецца мінуўшчына казкаю...
І не льецца ўжо больш кроў гаротных сыноў
Беларусі рабоча-сялянскае...

*[1925]*

## СКАРЫНА

*400-годдзю беларускага друку*

Не люблю, калі з роднай краіны
Птушкі рвуцца ў далёкі вырай…
Я ўспомніў Францішка Скарыну,
Што ў Полацку княжацкім вырас.

Ўжо няма такіх настрояў,
Як былі калісь даўно, —
Бо сягоньня над новай Дзьвіною
Перакінуўся новы мост.

Што Дзьвіна!.. Для яе ўсё роўна,
Хто пяе над яе берагамі.

Не яна мужычую мову
Аправіла ў гнуткі пэргамэнт.

О, Францішак… Францішак Скарына,
Што над гранкай друкарскаю гнуўся!..
Ведай, праца твая пакарыла
Новы сьвет для сівой Беларусі!

Бо сягоньня сьпяваюць баяны,
Бо ужо разгарнуліся крыльлі…
Перамогі вясельлем п’яныя,
Мы ўспомнім Францішка Скарыну,

Што радзіўся калісь над Дзьвіною,
Вандраваў над яе берагамі;
Што аправіў мужычую мову
У няўміраючы гнуткі пэргамэнт.

*[1925]*

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

Беларусі паўстаўшай слава,
Беларусі — у пояс паклон.
Хай мінулае цемра заслала —
А змаганьня не забыць ніколі.

Эх, Кастусь… Балоты памерыў,
А ў лясох, як у бацькавай хаце.
Беларусь табе паверыла —
За табою пашла змагацца.

Беларусь — не царом маскоўскім,
Беларусь — не варшаўскім паном!
Зазьвінелі ў лесе бярозкі,
Дуб стары галаву падняў.

Забуяніла ў полі рэхам:
— За мужычую праўду — у бой!..
Ня Ільля па хмарах праехаў,
Не Пятро зазваніў булавой…





А пасьля — вастрожныя краты…
Што з таго, што жыцьця ня стане.
Твае сьлёзы важыць на караты:
— Залілі, загасілі паўстаньне…

Скалыхнуўся натоўп на Лукішках:
— На Беларусі няма шляхты!..
Можа кат успомніў за кілішкам,
Як памёр мяцежнік пракляты.

Маліцца — ня наша справа.
Кастуся мы папростаму ўспомнім:
Беларусі паўстаўшае — слава,
Беларусі ў пояс паклон.

*[1925]*

## ЦЕНІ

Ах, цені, цені… Паляглі вы
усходняй казкай на асфальт…
Сплылі разьлівам він гульлівых
на думак адзьвінеўшы жаль.

І я, як вы, блудзіў па сьвеце,
туляўся ў выбаінах зор.
Мне ў вочы кідаў вецер смецьце
старых, забытых абразоў.

Цяпер ізноў спляліся цені
ў чароўны, казачны вузор,
а я ўжо здзейсніў лятуценьні
ў чырвоных выбаінах зор.

І песьняй светлаю спавіты,
і адзьвінеў, адплакаў жаль…
І цені казкаю блакітнай
ляглі на гарадскі асфальт.

*[1925]*

* * *

Песьні, песьні! Даволі мяцежыць —
Ўспамінаць учарайшую быль.
Ваш нясьмелы напеў не абрэжа
Срэбракованых струн журбы.

Прамяністай вясеньняй парою
Пульхным лёдам пакрыта рака…
Бач — пад сіняй празрыстай карою
Захаваўся мяцежны шквал.

Песьні мілыя, буйныя песьні,
Нібы рокат сталёвы заводу —
Не настане вясна на прадвесьні,
Ў берагох не стрымаеш паводкі.

Прыдзе час — зноў паўстануць буры,
Дні бліскучыя мятнуцца ў вырай, —
Прыдзе радасьць,
Нежная, як гурыя,
Ў ваяўнічай постаці валькірыі…
Песьні, песьні!.. З вас сілы чэрпаць,

Як паўстане ўчарайшая быль…
Ад udараў ламаецца чэрап,
У сэрцы б'е барабан барацьбы.
Празьвіняць сталёвыя віхуры,

Заляскочуць уздоўж і ўшыр.
Прыдзе радасьць
Нежная, як гурыя,
Ваяўнічая, як буйная валькірыя.

*[1925]*

* * *

Завяжу я, завяжу я —
Завяжу я думкі ў вузел:
Песьню нашу — ня чужую,
Ня чужую чуў я ў лузе.





Распляту касу густую
Ды акутаюся ў кудры…
Маладую, агнявую
Я ніколі не забуду.

Грайце, струны, грайце, струны,
Грайце, струны, пра раздольле:
Парасту я ў полі руньню,
Парасту травою ў полі.

Думкі ў вузел завяжу я
Дый зямельку пацалую —
Не пайду ў зямлю чужую,
Бо сваю мацней люблю я.

*[1925]*

## МЕНСК

Не пісаў я ніколі летапісаў
І пісаць, напэўне, ня буду…
Пазварочвала бура слупы ўсе,
А ў дарозе ўсё роўна ня зблудзіш.

Што капацца ў архівах стагодзьдзяў
Ды трывожыць заснуўшую цень…
Паглядзі, як жыцьцём карагодзіць
Сэрца Белае Русі — Менск.

То ня месяц з-за хмар прычаліў
Ды над Сьвіслаччу лёг у траву.
Будавалі Менск палачане,
Будавалі на сваю галаву.

А Менск толькі бровы нахмурыў,
ашчацініўся стрэламі труб.
Глянь-жа, глянь, як пад белым мурам
За слупом бліскавічыць слуп.

А мядзяныя дроты балконаў
Напяваюць пра сьвята жыцьця.

Пахаваліся па стайнях коні —
Самалёты над Менскам ляцяць.

Сонца золатам у дах барабаніць —
Адбівае сталёвы рытм…
Як у казцы — вясёлая раніца
Вечарамі на бруку гарыць.

Дзе вы, дзе вы, мінулыя годы!
Вам ня ўстаць з-пад конскіх падкоў.
А цяпер вось грымяць заводы,
Будзяць горад сотні гудкоў.

Хай другія па сьвеце брадзяжаць
Ды шукаюць багатых зьмен.
Ах, як многа, як многа кажа
Беларускаму сэрцу Менск.

*[1925]*

## З ПОЭМЫ «СЯГОНЬНЯ»

Мне казалі калісь
— Беларусь —
Гэта толькі балоты ды ўзгоркі,
Ды народ, што, сагнуўшыся ў крук,
Льле свой пот у чужыя разоры.

Паплылі падарожныя крокі
Дый загаслі ў шумлівых ценях…
Я знайшоў Беларусь ненарокам
У сырых гарадзкіх сутарэньнях.

Ня шукай багатых фарбаў…
Салаўіных сьпеваў —
ня шукай, —
бо з закураных дымам фабрык
пеніць дзень толькі покліч гудка.

Хай шукаюць тое, што ня згублена
У чужын невядомай шэрані…





Беларусь мая ў фабрычных трубах;
Беларусь нікім яшчэ не зьмерана.

Вы сьпявайце сабе, баяны,
Хто яшчэ да канца ня згніў.
Я скажу,
Як умею,
Як знаю,
Пра вясёлыя нашы дні.

*[1925]*

## ПАЦЕРКІ ЛІЛЁВЫЯ

1.

Ён з далёкіх пуцін
Вярнуўся у родны край.
Цяжка было ісьці —
Цяпер супачыць пара.

Хацелася ўсё вітаць,
Хацелася нанава жыць,
А людзі сказалі так:
— Ён для нас чужы!

І пайшоў ён зноў у сьвет,
У сьвет знаёмы даўно —
на брыльяньцістай расе
Пакінуў адбіткі ног.

2.

Нам нявесела жыць —
Мы шукаем забаў.
Вечна ў нас імжыць
Тонкім туманам журба.

Змоўклі струны жыцьця,
Акамянеў язык.
Зубы шчыльней зацяць
І завінціць мазгі.

Думае кожны няўзнак:
— Умеў я жыццё любіць!
Па завулках ганяў сабак,
Шыбы каменьнямі біў!

3.

Вось і памёр поэт
і адзьвінела жыццё.
Ветра лёгкі павеў
чуць скалыхнуў трысьцё.

Адны сказалі — вар'ят;
другія сказалі — сьвяты,
і кожны бясконца рады,
што жар нязнаны астыў.

Зьвіла любімая косы,
другому сябе аддала
раньнем мутным і росным,
калі гусьцела імгла.

*18-X-25 г.*

* * *

Вуліца, шырокая вуліца.
Заляскала конскім топатам.
Ні Купала, ні Колас, ні Бядуля
Цябе не масьцілі строфамі.

Вуліца… Лягла пад дротам,
З гуляшчымі разам грашыла —
Падарожным усім за грашы
Рассыпала свае пяшчоты.

Вуліца… Каменьні загаворацць —
Кожны камень створыць поэму:
І прыхільнікам скажуць, і ворагам
Пра вялікае сваё цярпеньне.





Калі будуць мяне пытаць,
Дык таму, хто мяне спытае,
Я скажу: «Нічога ня знаю
І нічога не магу сказаць!..»

Вуліца!.. Даруй, калі можаш,
Але я да цябе не вярнуся,
Бо мне з майго падарожжа
Вярнуцца ніхто не прымусіць.

Ты прываблівай целам гарачым,
Прадавайся па кавалку за грашы.
Ня прыду і ня буду грашыць,
Як грашыў я з тымі гуляшчымі.

Бач, як заляскала вуліца,
Заляскала конскім топатам.
Ні Купала, ні Колас, ні Бядуля
Цябе не масьцілі строфамі.

*[1925]*

* * *

За маім акном — абрывы,
А на дне іх — пыльны брук.
Ў дротах мечацца пужліва
Сонца — вогненны павук.

Ліжа жоўтыя каменьні
Ценяў шэрая кайма —
Звонка ляскае аб землю
Іскрай звонкаю трамвай…

Ах, я знаю!.. Звонкім гулам
Ўспеняць раніцу гудкі,
Загудзіць завод, як вулей,
Запыхцяць рухавікі…

Гэй, далёкія палеткі!..
Над ракой сутулы клён!..

Наш пасеў — жалезных кветак
Забуяніў над зямлёй…

Можа заўтра паравозы
загудзяць паміж лясоў,
можа зьвякне вербалозьзе
намі зробленай касой…

З маім акном — абрывы,
Пад бальконам скача цень…
Тут вясною гаварлівай
Сіні клён не расьцьвіце.

Не запеніць тут адценьняў
Жоўтатканая трава…
Звонка ляскае аб землю
Векам будучым трамвай.

*[1925]*

* * *

Вось цяпер безнадзейна шукаю
Сінія вочы дзяўчыніны…
Я ня знаю, хто яна такая,
Я ня знаю нават яе імені.

Прышла і проста сказала:
— Будзем жыць, бо мы маладыя…
Быць можа, яна не знала,
Што топча чужыя сьляды.

Зіму ў маім сэрцы зламала
Пахам салодкім горкай рабіны.
Мне здавалася — ты незямная.
Ці праўда?.. Скажы, любімая!..

Няпраўда!.. Я гэтаму веру…
І цябе, агнямі сатканую
З лятуценьняў і кволых нэрваў,
Я цяпер безнадзейна шукаю.

*[1925]*





* * *

Цаліну алавянных хмар
Скрозь прарэзалі сінія жылкі…
Можа думак смутных няма?
Можа гэта — толькі туман
Над непапраўленаю памылкай?..

Хай імжаць срабрыстыя кроплі.
Ты бяздоньне хмар не кляні —
Загудзяць па блакітных тропах,
Зазвіняць сталёвыя крокі —
Праскачу я на белым кані.

*[1925]*

* * *

Заблудзіла зялёная зорка —
Атуманіў яе сусьвет…
У зарніц залатой паласе
Заблудзіла зялёная зорка.

І вандруе ў срыбрыстай расе
І шукае дарогі ў змроку…
Заблудзіла зялёная зорка —
Атуманіў яе сусьвет.

*[1925]*

* * *

Запляці залатую касу.
Выйдзі ў сад і вясьне пакланіся.
Можа, ўспомніць былую красу
лістапада пажоўклае лісьце...
Запляці залатую касу.

Дні і ночы развеюць туман...
На балоты, на росы развеюць...
Сож і Гомель!.. Краіна мая!..

Паглядзі, як зара ружавее...
Дні і ночы развеюць туман.

Так было... Дык ці ж будзе так?..
Чуў я песні, і казкі чуў я.
Бачыў я тваіх рэк сінь і сталь,
думаў думу з табой залатую...
Так было, дык ці ж будзе так?

Праз палі, праз нізіны і ўзвышшы,
праз кудлатую сінь лясоў,
бачу, як навальнічыць выйшаў
з берагоў крутарогіх Сож
праз палі, праз нізіны і ўзвышшы.

Вецер, вецер! Рабінавы сум
над старым, над чужым і над новым...
Запляці ж залатую касу,
выйдзі ў поле спаткацца з вясною...
Вецер, вецер! Рабінавы сум…

Сож і Гомель!.. Краіна мая!..
Песням — шыр!.. Палынам — раздольле...
Разьліюся песнямі я
пра тваю неапетую долю...
Сож і Гомель!.. Краіна мая!

Запляці залатую касу,
выйдзі ў свет і вясьне пакланіся.
Можа, ўспомніць былую красу
лістапада пажоўклае лісце...
Запляці залатую касу.

*Гомель, 19 сакавіка 1925 г.*





# ЛІСТЫ

I

Я ня веру ні чарам, ні лёсу:
Толькі знаю — лажацьму ў магіле.
Калі песьня ў калоссях галосіць —
З сэрца шэрая немарасьць гіне.

Песьня — вежа, што неба мяжуе;
Песьня — сэрца зялёнай зарніцы.
Ў залатыя пяскі Чарджуя
Паляглі бліскавіцы ніцма.

Што мне сноў жалобныя звоны —
Я не веру ні чарам, ні лёсу.
Вольным посьвістам, гоманам вольным
Песьні сонца ў калосьсях галосяць.

Хай імгла па аржанішчы ляжа,
Хай туман — украсай кудзебнай.
То ільняная садзь анталяжай
Заімжыць пад празрыстым небам.

II

Вы прышлі з далёкіх ваколіц,
Вы прынесьлі далёкія песьні.
Загубіў залатую падкову
На шурпатым аўсянішчы месяц.

Гадоў не адна ўжо сотня
Праняслася над нашым полем.
Вы казалі: «У ціне балотнай
Не растуць кіпарысы ніколі!».

А прышлі-ж вы, прышлі здалёку,
Вы прынесьлі далёкія песьні:
І затупаў нячутым крокам
Па шурпатым аўсянішчы месяц.

За акном зарыдала катрынка,
А я лепш паслухаў гармонік.

Каб былі, каб былі ў мяне крыльлі,
я-б за песьняй паляцеў у пагоню

III

Наша песьня — з балота ды з лесу.
Наша песьня — з кудлатых імшараў.
Мне ня жаль, што сарвалі завесы
З непазнаных імглістых чараў.

Я люблю нашы сінія казкі
Такімі, як іх складалі…
Бусел над пуняй крылом заляскаў
Дый панёсься ў бяскрайнія далі.

Многім многа яшчэ раскажа
Наша песьня з кудлатых імшараў:
Ў ёй саткалі мы тонкую пражу
З непазнаных імглістых чараў.

Вось і ўпала з вачэй заслона.
Мы пазнаць непазнанае хочам.
Лягу я на зялёным улоньні —
Буду слухаць, як песьня стукоча.

*[1925]*

* * *

І ў нязнанай цьмянай далі словаў новых мы шукалі,
Словаў новых мы шукалі і ня здолелі знайсьці,
А ў жытнёвым у пасторы рассыпалі песьні зоры,
Рассыпалі песьні зоры каля возера ў трысьці.
І ня думалі ніколі, што ў нашай моцы доля.
Што ў нашай моцы доля і ня вырвецца ад нас;
Не магло нам і прысніцца — нашых думак калясьніца,
Нашых думак калясьніца — гэта сьвету апаяс.
Хто-ж казаў, што ў цьмянай далі словаў новых мы шукалі,
Словаў новых мы шукалі і не здолелі знайсьці?
Новы дзень не загарамі. Наша доля будзе з намі,
Наша доля будзе з нам днямі новымі цьвісьці.

*[1925]*





## ТРЫУМФ

I

Я ня знаю, што будзе заўтра:
мне сягоння — апошняй мяжой;
дні стаяць сталёваю вартай
паміж будучынай і мной.

Знаю толькі — будзе другое,
заквітнеюць другія дні…
Сёняшняе ўсё і дарагое
непатрэбным стане другім.

Можа, заўтра будуць смяяцца,
можа, будуць смяяцца з поэта…
Зарастуць дарогі рутай-мятай,
зарастуць дарогі белым цьветам.

Гэтак кніга — адкрылі і закрылі,
прачыталі — дый зноў на паліцу…
Бачу Будучыну з сінімі крыламі,
Стану і буду ёй маліцца.

II

Гаварылі, сьмяяліся, плакалі,
гандлявалі душой і целам…
— Хто ня з намі — зацкаваць сабакамі,
ня жыцьцё таму на свеце белым.

І ўзялі паяскі і лапці,
І кашулі надзелі зрэбныя…
— Нам цяпер сьмяяцца, ня плакаць,
нам нічога болей ня трэба.

І хадзілі другія ў смокінгах,
І курылі тытун заморскі:
а такія ня ўскінуць вокам
на бязьлітаснасьць і на жорсткасьць.

Не хачу ў чужое ўбірацца,
Каб лякеркі блішчэлі на нагах.

Калі-ж лапаць — адзнака нацыі,
Дык і я тады — рэнегат!..

III

Мне пляваць на святых і на бога…
Знаю — цудаў нідзе не спаткаць.
Вось каб мне заснуць надоўга, —
сотні, тысячы год праспаць.

Я прачнуся ў іншым сьвеце.
Што там будзе?.. Не мне згадаць…
Можа будзе адменены вецер
і вісецьме дзень на правадах…

Можа кожны камень заіскрыцца.
Будут дзеці ад мяне ўцякаць.
Завядуць мяне людзі ў зьвярынец
і напішуць: «РУКАМІ НЕ ЧАПАЦЬ!»..

Буду я глядзець і дзівіцца,
як зьмянілася ўсё на сьвеце.
Можа, мне як –небудзь прысьніцца
наша поле, сонца і вецер.

*Год Кастрычніка сёмы*

## У ВЯНОК С. ЕСЕНІНУ

Прыдзе новы такі, ці ня прыдзе…
Быў адзін…
І рашыў…
І змог…
А чаму?
Можа ў болі і крыўдзе
Чалавека паэт перамог?

Ня дрыжы на асіне ліст,
Ты ня гойсай, вецер, па ўзвышшах…





Скажуць: памёр поэт-скандаліст,
Скажуць — быў ён на свеце лішнім.

Запаліце жалобы агні —
Хай усюды яны загарацца:
Па поэце разанскіх ніў
Беларуская песьня плача.

*29–12–1925*

* * *

Маліліся пад крыжам
Хісталіся ад зморы;
А я, як чорнакніжнік,
Лічу на небе зоры.

Шукаю я заўзята
Дарогі з родных вязяў —
Мкне сэрца азіята
У сінь таемных Азій.

Да казак сінявейных,
Няпісанае праўды…
Самкнуць такія зьвеньні,
Каб заіскрыла радасьць;

Спазнаць такія далі,
Знайсці такія тропы,
Каб праўнукі ня зналі
Ні Азій, ні Эўропаў…

Ці будзе, ці ня будзе,
Імкненне ёсць і воля…
І прагнуць, прагнуць грудзі
Прастораў і сваволі…

*Студзень 1926 г.*

## НА РАЗДАРОЖЖЫ
(Нізка думак)

* * *

Выйсьці ў шырокі сьвет,
Глянуць навокал…
Дня залаты прасьвет
Пухне рабінавым сокам.
Так, як другія, жыць —
Трэба сьмяяцца!..
Гэта віно імжыць,
Лёгкім імжыць румянцам…
Воўчых сьцяжынак шмат
На раздарожжы…
Тых разудалых няма —
Сэрца тугой варожыць.
Можа ў начной расе
Песьні замоўкнуць…
Дня залаты прасьвет
Пухне рабінавым сокам.

* * *

Помніш зіму і марозы,
браму і мёрзлае вецьце?
Быў я п’яны і цьвярозы
і шчасьлівейшы ў свеце.
Гнілое, зьбітае слова —
а як сказаць іначай?
Ўсё-ж такі я не зломак,
І кроў у сэрцы гарачая.
Выйдзем з табою поруч
на шлях шырокі жыцьцёвы —
можа радасьць і гора
родзяць лепшыя словы.
Страхі ўсе і пагрозы
згоніць шалёны вецер.
Помніш зіму і марозы,
Браму і мёрзлае вецьце?





* * *

І туга, і восень —
Не зьвіняць калосьсі…
Сэрца не замоўкне
Аб лістах пажоўклых.
Горы і нізіны
Сьвет завее сіні;
Плачу і сьмяюся —
Песьня гасьне, мусіць...
Ў чырвані лагчыны
Сталі дзьве дзяўчыны,
Розныя аблічам…
І абедзьве клічуць.
І ў першай косы,
Нібы ліст увосень…
Плачу і сьмяюся —
Песьня гасьне, мусіць.

* * *

Выйду ў сьвет, пакланюся жыцьцю я
І скажу: — «вядзі!»
Можа сэрца журбы не пачуе
І вясельлем душа загудзіць.
Просты шлях, а цяпер раздарожжа,
Дык куды далей?..
Шмат напеваў я чуў прыгожых,
А хацелася б весялей.
Праплыве за часінамі часіна —
Гэтак дзень за днём.
Стала раньне з пунсовага сінім,
Дзень настаў і ўжо не засьнём.
Дык таму, каго дзень не хвалюе,
Песьні гэткай не нарадзіць.
Выйду ў свет, пакланюся жыцьцю я
І скажу — «вядзі!»

*[1926]*

## ЛЕГЕНДА

Кніга ў чырвоным саф'яне,
літары кованы з золата.
Срэбрам звонкім затканы
мудрыя казкі пра волатаў.
Сінія столкі сьцелюцца,
льсьняцца імглою раньня...
Вобразаў дзіўных мяцеліца,
палкія строфы корана!..
Індыі сінія нетры,
сказ многатварага Вішну...
Гэта Усходу ветры
зорамі сьцежкі вышылі.
Зьвіткі старыя разгорнуты:
казкі раскажа папірус,
як для Ізіды і Горуса
з мёртвых устаў Озірыс;
пра пекнату Суламіфі,
пра разьбяра Хірама...
З мармуру белага — міфы,
з золата строфы корана.
Кніга ў чырвоным саф'яне,
кованы словы з золата.
Ў сінія столкі затканы
мудрыя казкі для волатаў.

*[1926]*

## * * *

*Анат. Вольнаму*

І жыццё снавалася ніткаю срабрыстаю
І будзілі водгульле струны галасістыя…
А цяпер казалі мне — праўда ці няпраўда —
Што ў туманах раніцы заблудзіла радасьць.

Што-ж! Калі туманіцца — знача дзень румяніцца,
І расу туманамі падымае раніца…





А ў туманах стыглых, раніцаю ўзьнятых,
Гэтак пахнуць сьцежкі палыном і мятай.

Ой ты, раньне яснае, ды з лугамі роснымі,
Ой ты, сонца палкае, з залатымі косамі!..
Завіліся фарбы ў мільёны кольцаў,
Дык паслухай песьню, песьню камсамольца.

*[1926]*

## DIES IRAE, DIES ILLA

Рым і Эляда заснулі ў палёце гадоў і стагоддзяў.
Мохам спавіты Акрополь, руінаю стаў Капітолі.
Мірна гандлююць алівай патомкі Гамэраў і Брутаў.
Мора нязьмерную гладзь прасьвярлілі наўсцяж браняносцы.
Дзень немінучага гневу, гадзіна вялікіх змаганьняў
Будуць грымець і чакаць сваіх срэбраструнных Гамэраў;
Толькі ня тых, што хрыпяць пра жалезабетонны Акропаль,
Ды барабанамі глушаць срыбрыстыя думкі і песьні.
Дзень неабдымнага гневу, грознай як сьмерць навальніцы
Можна пазнаць толькі ў песьні, нежнай, як майскае раньне.
Будзе і радасьць, і шчасьце! І гнеў буйнарадасны будзе…
Шкода, што Рым і Эляда заснулі ў тумане стагоддзяў.

*[1926]*

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Жоўты жвір на забытай магіле
Жоўтым лісьцем асыплюць ліпы.
Ты адзін на чужыне загінеш,
І труна пад рыдлёўкай не скрыпне.

Парастуць аксамітам зялёным
Дзікі мох ды густое зельле;
Можа ўночы сава адтрызвоніць
На тваім невясёлым вясельлі.

Белы месяц на варту пойдзе;
Стануць золатам дні асыпацца.

Палятуць журавы на поўдзень —
Заляцяць з табой прывітацца.

І спытаеш у птушак вольных:
— Беларусь Беларуссю ці стала?
Бо бяз ліку крыўды і болю
Адзьвінела ў палёх касьцямі.

*[1926]*

## ЎСЁ ЗАГІНЕ

*К.*

Ўсё загіне ў сьвеце, ўсё загіне —
Не загіне толькі палкі момант…
Разаб'ецца час, як кубак з гліны,
Сэрца ж загарыцца, як салома.
Гэты верш ад п'янага настрою,
Ад чырвоных губ і пацалункаў…
Эх ты маё шчасьце залатое,
У якіх шукаць цябе завулках?
Пройдзе ноч… Ізноў настане раньне;
Закрасуе сонца жар-малінай…
Мо' другому сэрца ты параніш,
Абнімуся я з другой дзяўчынай.
І ў срэбных перазвонах вецьця
Будзеш вусны цалаваць другому…
Ўсё загіне, ўсё загіне ў сьвеце —
Не загіне толькі палкі момант.

*Студзень 1926*

## ЗАЛАТАВАЛОСАЙ

*Н. В. прысьвячаю*

П'яны вечар і п'яны дзень
Толькі сэрца шалёна стукоча.
Ў гэты вечар глядзець і глядзець
Ў васількова-глыбокія вочы.





Сэрцу воля і думкам палон:
На хвіліну — жыць і ня думаць.
Чырвань золата ў песьні ўпляло
Новы сказ пра цябе, маладую.

Пацалунак гарачы… І раптам
Нечаканы, нясьмелы адказ…
Наша шчасьце і наша сьвята
Ў нашай волі і нашых руках…

П'яны вечар і п'яны дзень…
Нібы майская песьня ўвосень.
Толькі ў сінія вочы глядзець,
Ды сплятаць залатыя косы…

*1–1-1926*

## ДНЯМ НЕ ЗМОЎКНУЦЬ

Дням ня змоўкнуць, не!
Дням
ня згубіць галавы.
Тым, чый агонь датлеў,
нашай
ня мяць
травы.

Лёскат плугоў і кос,
зуб'яў машынных грызь
будуць другіх вякоў
вежыць
новую
высь.

Бурай заб'ецца кроў,
вылячыць крыўды сінь.
Звонам
конскіх
падкоў
будзе дзень галасіць.

Рвіся,
шалёны галёп
з доўгіх і цяжкіх троп.
Часу ўпартаму ў лоб
золатам коўкім строф!

Толькі ні кроку назад.
Толькі
наперад
і ўвысь…
Дзён такіх
не закілзаць.
Дням ня згубіць галавы.

*22-II-26 г.*

## МАЛАДНЯКУ

Ўсё прайшло…
І сьледу больш няма —
і мяцежны шлях, і перазвоны…
Скрозь тугу, імглістасьць і туман
ўсё прайшло без крыўд і без праклёнаў.

Калі трэба — пойдзем на нажы,
сэрца вытачым на жвір, на камень…
Мы жылі,
Жывём
і будзем жыць,
бо ў прасторах Заўтра спатыкаем.

Шмат было, шмат будзе перашкод…
Спавіюць туманы пуцявіны…
Толькі крок сталёвей — з году ў год,
шлях шырэй — з гадзіны ў гадзіну.

Шмат было пpастораў і журбы,
Шмат імкненьняў — звыклых і нязвыклых..
Ох, як цяжка сьцежкі церабіць
да шляхоў далёкіх і вялікіх!..





Калі трэба згінуць…
Ну, дык што!..
Шмат прайшлі!..
Ня шкода і загінуць.
Не павінна змоўкнуць хараство,
Будзе воля дружнай і адзінай.

Можа скажуць — не па сілам боль,
радасьці і крыўды не па сілам…
Усё роўна —
чым далей, тым больш,
толькі-б рунь буйней закаласіла.

Знаем — намі пройдзеных пуцін
не забыць, ня зьнішчыць, не закрэсьліць…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ня спыняцца, а далей ісьці
да жыцця, да радасьці і песьні.

*26 мая 1926 г.*

* * *

Ціхазвонныя ды ласкавыя дні
У прасторах сінякрылых без граніц…
І мой край цяпер бліжэй мне і мілей,
Песьні родныя званчэй і весялей.

Вочы сінія ды з золата каса…
Як пра шчасьце, як пра радасьць расказаць?
Стануць дні нібы з асеньніх клёнаў ліст —
Будут песьні чорналесьсе весяліць.

Ціхазвонныя ды ласкавыя дні
Плешчуць раніцай з бярозавых крыніц…
Ой вы песьні… Для сябе і для другіх
Сінім сьветам паланеюць берагі;

Сінім сьветам мармуровых, стромкіх мар.
Палыноў ды буралому больш няма.

Вочы сінія, высокі стромкі стан, —
І ўсё роўна ўжо — ці жыць, ці перастаць.

Ціхазвонныя ды ласкавыя дні…
Буду с песьняю сваёю гаманіць;
Выйдзем мы да сівагрывых дальніх гор,
Да жаданых і няпетых берагоў.

*Май 1926 г.*

## ЗВІНІЦЬ ПРАСТОРАМІ ТУГА

Звініць прасторамі туга
І кут далёкі бліжай, бліжай.
Ізноў асінавая гаць
Мае напевы закалыша.

Ў зялёных пацерках бяроз,
Сьвятлей ад рання і ад сонца,
Маячыць сівы вербалоз,
Сасонка туліцца к сасонцы.

О, маем вытканая сінь!
Які напеў, якія словы,
каб шалясьцелі каласы
і бор гудзеў сінегаловы.

Ужо цяпер — ня тыя дні.
І я прышоў сюды з паклонам.
І будзем думаць мы адны
Не пра тугу і не пра клёны.

Успомнім, колькі мы прайшлі,
Якія зналі пуцявіны —
Пабеды звон і славы кліч —
Шлях вінаватых і нявінных.

Ўсё помню я… І цьмяны бор…
І мост, і пруд паміж чаротаў…
О, як прайсці з такой журбой
Скрозь сівер люты, стынь і слоту?





Гатоў загінуць на мяжы,
Гатоў і плакаць, і сьмяяцца.
І хочацца не дарам жыць,
Але гарэць і разгарацца.

Прайду праз гаць, праз строй асін
З дарог прывычных і далёкіх.
Пачну спяваць пра тую сінь,
Што першую спаткала вока.

Ізноў асінавая гаць
Мне тыя казкі наваражыць,
Што пачала глушыць туга
Напевам сумным і варожым.

Пра маем вытканую сінь
Скажу я зноў такія словы,
Каб шапацелі каласы
І залацісьцей, і сталёвей.

*20–5-1926*
*с. Таль*

* * *

Асыпае чэрвень белы сад.
Сок калінавы лугі апаясаў...
Глянь, як раніцы чырвонае віно
срэбраногія бярозкі заліло!

Разважалі — быць нам ці не быць,
шмат зрабілі — трэба шмат яшчэ зрабіць...
Стаў на варце адзінокай сіні клён;
ўсім — і блізкім, і далёкім — наш паклон.

Прывітанне шчыра — ад душы...
Сіл няма такіх, каб нас перадушыць!
Мора пенай разаб’ецца аб граніт —
хай жа кажуць, што ні мэты, ні граніц.

Заплятайцеся, пралескі, у вянок —
плешча радасці чырвонае віно.

Будзе вецер сівагрывы варажыць
пра свае і пра чужыя рубяжы.

Што нам пацеркі з старых рабін?
Можам самі сабе сцежку церабіць;
хопіць сілы для чужых і для сваіх,
каб сабою перамогу засланіць.

Будзе праўда з тым, хто перамог,
пераможанаму — крыўда і ярмо...
Ой ты, клён сінегаловы, стройны клён,
па-над возерам празрыстым, быццам шкло!

Асыпае чэрвень белы сад.
Сок калінавы лугі апаясаў...
Нашай раніцы чырвонае віно
срэбраногія бярозкі заліло.

*[1926]*

## СКАРГА І КРЫЎДА

Скарга і крыўда… Смутак і боль,
Смутак і боль наўсьцяж.
Змоўкні ты, сэрца! І мы з табой
Выйдзем з нізін жыцьця.

Шлях крамяністы сярод трывог,
Шлях крамяністы скрозь.
Прадзед вятроў — буравей Стрыбог
Вывятрыць сіньню скронь.

Сон залацісты сьлепіць скронь
Пеніцца сінь над ракой…
Месяц! Вясёлкамі затрызволнь
Для мяне і для васількоў.

Палкая радасьць і востры боль.
Цяжкі толькі пачын!..





Здолеем мы самоту з журбой,
Здолеем перамагчы.

Шлях крамяністы сярод трывог
Скончым і пройдзем скрозь.
Прадзед вятроў-буравей Стрыбог
Вывятрыць сіньню скронь.

*[1926]*

## КАХАНЬНЕ

Атулі рукою залатыя скроні…
За ракою звоніць асака,
Чэзьне ночка за ракою,-
Пачакай!

За ракою вецер ціхі дол сьвідруе,
Гасьне зорка белаю сьвячой…
Абніму і пацалую
У плячо.

Маладосьці зоры, маладосьці чары!
Распуцсьціла любая касу.
Ты ня бойся: праз імшары
Пранясу!..

Прытулю да сэрца, прытулю да вуснаў…
Глянь у вочы… любая мая!..
Мы жыцьцё квітнець прымусім —
Ты і я.

Атулі ж рукою залатыя скроні…
Перастане шастаць асака;
Згасьне ночка за ракою…
Пачакай!..

*[1926]*

## СКРЫЖАЛІ
### (Цыкль вершаў)

1.

За мастом разышліся вілаватыя сьцежкі,
разышліся дарогі…
І трава пры дарозе, і дзірван на ўзьмежках,
і туман крутарогі.
Не прайсьці, не праехаць і назад не вярнуцца
праз бары, дзе бярозы верхавінамі гнуцца —
разышліся дарогі.

2.

І праз вецер заходні, і праз вецер і слоту
пахне днём і вясною.
Не магу і ня здамся… Будзе ў песьнях яснота,
будзе сонца са мною.
Заімжыць пазалотай лёгкакрылая песьня
і не будзе самотна, і не будзе мне цесна —
пахне днём і вясною.

3.

Там, у сонцавай хаце, што на ўзьмежку нябёсаў,
пазалочаны ганак.
Ходзіць месяц бялявы і галосіць, галосіць,
як забыты каханак.
Пойдзе месяц надхмар’ем на зялёныя ўзгор’і,
і да самага раньня вартаваць будуць зоры
пазалочаны ганак…

4.

Будзе плакаць дзяўчынка, будзе плакаць ад болю,
будуць сьлёзы як срэбра.
Бо на першае гора не забыцца ніколі —
мусіць гэтак і трэба.
Калі ляльку пабілі, не паможаш нічым тут —
над пабітаю лялькай будзе плакаць дзяўчынка,
будуць сьлёзы як срэбра.





5.

Можна ў горы з усьмешкай, можна плакаць ад шчасьця —
будзе сэрца як крэмень.
Засумуе асіна, стане лісьцямі шастаць,
стануць стыгнуць карэньні.
Дні з начамі праскачуць, як шалёныя коні.
Цела зробіцца кволым, стануць срэбнымі скроні —
будзе сэрца як крэмень.

6.

Выйду, выйду ў нізіны, дзе прасторы і вежы.
Загарацца сузор’і.
Ў кім гарачае сэрца, таго смутак драпежны
ня супыніць, ня зморыць
Выйду, выйду на горы, дзе лунаюць сусьветы,
кіну песьню ў пагоню за мяцежнікам-ветрам -
загарацца сузор’і.

7.

І ні лютае гора, ні балючая крыўда
не павіснуць на крыльлях.
Прыдуць людзі ліхія, да з каменьнямі прыдуць,
прыдуць з крыкам зьвярыным.
Будуць бэсьціць адважных, што ўзьняліся на ўзвышшы,
і ад злосьці бясьсільнай, як ваўкі заскавычуць —
не павіснуць на крыльлях.

*[1926]*

## ВЕРАСЕНЬ

1.

Б’ецца ў даліне бяздумнай
Вечер асьлізлы і волкі.
Шастае верасень сумны
Бронзаю лісьцяў пажоўклых.

Дрэвы, як хмурыя вежы,
Шэрыя вежы — званіцы:

Сьніцца ім майская сьвежасьць,
Сонца ліпнёвае сьніцца;

Сьніцца ім белае поле
Ў пахкіх істужках пракосаў…
Толькі не вернуцца болей
Звоны вясёлкавых кросен!

Ціха трывожу ў даліне
Грубай нагою лісты я…
Дзе-ж гэты сон, што сплялі мне
Мары мае залатыя?

Дзе-ж яны, цьвёрдыя словы,
Вёснаў ружовыя крыльлі?
Посьвіст вятроў верасьнёвых
Вусны ўсьмешкаю крывіць.

Думаюць дрэвы пра сьнежань,
Лісьце іх бронзай ільсьніцца…
Сьніцца ім майская сьвежасьць,
Золак ліпнёвы ім сьніцца.

2.

Вось яны, дні залатыя —
Ў колерах шэрых туга.
Ў восені песьня стыне,
Ў восені цяжка шагаць.

Ціхае, белае шчасьце —
Песьня і бэзавы куст.
Гэта бывае ня часта:
Толькі раз на вяку.

Зьвянуць пунсовыя губы,
Лісьцем бярозавым зьвянуць…
Моладасьць! Кованы кубак
Пеннай красы і жаданьняў.

Моладасьць! Песьні ў ёй колькі!
Колькі імгненняў бадзёрых!
Жаляць і лгуць адналькова
Сінія вочы ці чорныя.





Моладасьць рушыць законы…
Схіліцца старасьці веццэ —
Будуць балявыя скроні
Ў верасьні сьніць аб леце;

Будуць лічыць хвіліны,
Годы будзіць залатыя…
Толькі ліпнёвыя плыні
У восені моўчкі застогнуць!

Зьвянуць чырвоныя губы,
Золатам восені зьвянуць.
Моладасьць! Кованы кубак
Пеннай красы і жаданьняў.

*[1926]*

## СЕБЕЖ

Точыць возера бераг высокі
з дня ў дзень, з году ў год — без спачыну.
Аглядаецца горад навокал,
ўспамінае калішнія чыны.

Нарадзіўся ў крывавай прыгодзе,
ў няціхоту ваяцкіх паходаў…
А гады, як прышлі — адыходзяць
па адвечнасці каменных сходах.

Колькі сьцягаў было, столькі моваў,
столькі-ж раз, мабыць, сьцены палілі,
каб ізноў у прыгожасьці новай
вырас горад турботаю пільнай.

Летапісы нашчадкам казалі,
як Масква тыя сьцены граміла,
як праз лёд недасяжныя хвалі
дакрануў ваявода Няміра[1].

[1] У XVI стагодзьдзі кіеўскі ваявода Няміра аблажыў Себеж. Маскоўцы, зрабіўшы вылазку, прымусілі Нямірава войска адступіць на лёд возера: лёд праламаўся і бадай што ўсё войска ў ліку 20 000 чалавек загінула ў возеры (*прым. А. Дудара*).

Горад мералі людзі на грыўні,
як тавар прадавалі, куплялі…
Толькі горад з мурамі сваімі
ўсё глядзіцца ў вазёрныя хвалі.

Ішлі людзі праз Себеж на Захад,
ня згубіўшы, шукалі чагосьці —
і пад замчышчам сохнуць і чахнуць
беларускія белыя косьці.

А з-пад Нёмну з агнём і крыжамі
несьлі людзі дурныя галовы…
Захавалі адно себяжане —
сваё возера толькі ды мову.

Захавалі бяскрайнюю сілу,
навучыліся жыць без апекі:
сьцяг чырвоны над возерам сінім,
шлях мінуўшчыны чэзьне і меркне.

Точыць возера бераг высокі
з дня ў дзень, з году ў год — без спачыну.
Аглядаецца горад навокал —
забывае мінулыя чыны.

*1927*

## ЗАЦЬВІТАЮЦЬ ВІШНІ

Зацьвітаюць вішні, вішні зацьвітаюць,
Нібы белая зара.
Любіш ці ня любіш — я не запытаю —
Калі вочы так гараць.

Як у майскім садзе вішні зацьвіталі —
Быццам грудзі любай — белы цьвет…
Хай застынуць хмаркі, хай і месяц стане, —
Зьмеркнуць цені ў траве.

Зацьвітаюць вішні, вішні зацьвітаюць.
Дзень — шлях сонцу і цяплу!
Не скажу ні слова я на разьвітанне —
Абнімі і пацалуй!

*1927*





## ЛІСТ ДА ТАВАРЫША

Ты мне кінуў пры сустрэчы
Словы колкія і злыя.
Разгарэліся мы ў спрэчках,
Разыйшліся, як чужыя.

А калісьці, помніш, вышлі,
Разам вышлі ў пуць няблізкі.
Мэты нашае ня зьнішчыў
Час суровы ды прамністы.

Працавалі ў камсамоле,
Разам елі, разам спалі.
Нас ў жыццёвай цяжкай школе
Барацьба загартавала.

А цяпер вось ты мне кажаш,
Што к гульні я стаў ахвочы,
Што запал свой распасажыў,
Што завеяў хмелем вочы…

Кажаш, дарам я рассыпаў
Маладых напеваў зерне,
Бо з дарогі простай схібіў,
Усіх адкінуў і зьняверыў…

Шмат народу ёсьць на свеце,
Языкі ж касьцей не маюць.
Брэх дурны разносіць вецер,
А хто хоча — пераймае.

І працуюць, нібы стрыжнем,
Языком сваім гамзатым,
Многа іх — чужых, ды лішніх —
Напаўзло ў нашу хату.

Ёсьць у нас балючы гнойнік —
Людзі хітрыя ды злыя,
Што гатовы сьпеў наш стройны
Шыпам хціўным запалыніць.

Пьюць за справу нашу келіх…
А калі б на тое змога —
Прадалі б забіты шэляг,
Прадалі б усё бяз торгу.

Каб ня знали, што загінуць,
Дык на кожным перавале
Збудавалі-б дамавіну,
рэвалюцыю-б хавалі.

Толькі справа не па сіле:
Нас ня лёгка ўзяць нахрапам.
Хто не браўся — ўсім хапіла
Па галовах ды па лапах!..

Хто дрыжэў прад вольным рухам,
Хто лізаў баронам боты,
Хто з вялікай завірухай
Ішоў змагацца дабрахвотна,

Хто стакраць прадаў чужынцам
І айчыну і сумленьне —
Усе прышлі цяпер бажыцца
Ў край Саветаў з захапленьнем.

Крыўд мінулых мы ня помнім…
І рабочы з селянінам
Ваякам з-пад гвязды цёмнай
Даравалі ўсе іх чыны.

І прышлі ў авечай скуры
Махляры на наша сьвята:
Вочы ласыя, з прыжмурам,
Нашмальцованыя пяты.

Запаўзаюць ціхім гадам
На варштаты, на трыбуны.
Да слабейшых — лад загадны,
Перад дужымі — у струнку…

Шавіністам, мешчанінам
Абзавуць каго папала —





Абы толькі хлеб, ды чын ім,
Ды каб грошай перапала.

А тады… Тады ўсяроўна —
За камуну, за Саветы;
Захлынуцца немым ровам
За цялячую катлету.

Калі, прыкладам, ня ўзьдзенеш
Знак якога-небудзь «друга» —
Не знайсьці табе збавеньня:
— Гэта гіцаль! Валацуга!

— Тож адзнака шавінізму…
І палез на клічнік клічнік…
— Ды за вошта-ж кроў лілі мы
У вялікі у Кастрычнік!..

Шаптуноў такіх не злічыш.
Ды адна для ўсіх дарога!..
Нездарма калісьці вышлі
Мы з табой з гнілога логу.

Нездарма у камсамоле
Загартоўвалі мы сілы…
Каб ўзараць гнілое поле,
Межы ўзьняць да небасхілу.

Мы будуем гмах вялікі,
Высім сьцены, крэпім кроквы;
Хутка зоры ў помач клікнем,
Як праніжам неба зрокам!..

Кожны мае абавязак.
Хутка майстрам стане кожны.
Супакоіцца адразу
Хто пасмее нас трывожыць.

Хутка выпалім мы церні
Ды са спевам іх папалім.
Груз цяжэйшы мы засьверым
Маладым сваім запалам…

Сіла ў нас праз край шыбае,
Усё збудуем, усё разбурым!..
Дык не слухай, браце, баек
Тых ваўкоў ў авечай скуры.

Калі трэба — станем разам,
Разам згінем за Саветы.
У пераможным нашым стане
Нас успомняць словам ветлым.

І калі ўзрасьце Камуна
На касьцях сваіх пракокаў,
зарунее край наш сумны,
Дзе гарэлі нашы крокі.

*[1928]*

## ІМЧЫЦЦА ЧАС

Імчыцца час, як ураган,
Тканіна дзён бяжыць на кроснах.
Што раз — на новых берагах
Мы сустракаем нашы вёсны.
І толькі ў памяці ўстаюць
Былыя дні, былыя цені —
Расчараванняў першых муць
Ды смутак першых летуценьняў.
Старая грэбля, ціхі стаў,
Трухлявы млын на тоўстых палях —
Там вецер сітнікі хістаў,
К балоту вольхі адступалі…
О, нас яны не праклянуць —
Нам гэтак ласкава і ветла
Клён за ваколіцай кіўнуў,
Калі мы рушылі адгэтуль.
Цьвярозасьць нам дало жыцьцё —
І ўмеем мы з такою зброяй
Праз чалавечае сьмяццё
Пазнаць сапраўднага героя.





Праходзяць годы мар і сноў,
І мы вядзём пад бубнаў лёскат
На гільётыну нашых слоў
Дэгенератаў і прахвостаў.
Рашучым крокам рушым мы,
Мы знаем, з кім нам па дарозе,
І веру нашу паглуміць
Не могуць кпіны ды пагрозы.
Ня лёгка праўду павязаць
У словах лёгкіх і прыгожых:
Мы можам многае сказаць,
А колькі — выказаць ня можам!
І вось разьвеялася золь,
Ў такую даль сягае вока,
Дзе і бяз слова ясна ўсё
Ў жыцьці і сьветлым і глыбокім.

*[1928]*

## ТАКАЯ…

Яны сустрэліся і разышліся хутка,
калі панэль ахутаў змрок —
жанчына чэсная і прастытутка —
і кожная пайшла ў свой бок.

І вось адна знайшла, каго шукала…
Нядоўгі торг — «Чатыры? Тры!..»
Другая кінула
— я не такая!..
…І аддалася пяцярым…

І першая, што зарабіла целам
на хлеб сабе і накарміць дзіцё,
дзень цэлы марыла зайздросна і нясьмела
пра жонкі венчанай жыцьцё.

*[1928]*

## СЛАВА

Адны сабе мільёнаў просяць,
другім — нябіты дай гаршчок…
Мікола Заяц, папіросьнік,
у цёмны парк з кіно прышоў.

Спаўняе сон начы загады.
О, царства сноў — цудоўны рай!..
…І вось праходзяць праз прысады
Дуглас Фэрбэнкс і Пірл Уайт.

Джон Голівуд і Аста Нільсэн,
і сьмелы Харт і Гарры Піль, --
да Зайца адусюль зышліся,
каб «Пушку» у яго купіць.

…Дыханьне затаіла заля.
Экран хвалюецца, гарыць.
І цэлы першы рад занялі
зачараваныя сябры.

…Чарга… Афішаў барваваньне…
Білетаў ў касе не стае.
«Мікола Заяц на экране!»
Сам Рычард Толмэдж — у фойе…

У мураве густой і роснай
так лёгка тчэцца мараў шоўк…
…Адны сабе мільёнаў просяць,
другім — нябіты дай гаршчок.

*[1928]*

## КНІГА

Змора ня хіліць, ня вабіць яда
ад вобразаў, слоў і форм.
Поэта нарэшце скончыў і здаў,
і кніга пайшла ў набор.

Гарэла вітрына у сотні фарб.
Кніг столькі — глядзі ды глядзі!..





Поэта-ж убачыў поўны чар
маленькі томік адзін.

За годам год — чарада прайшла.
Шмат кніг — вялікіх, малых…
Хто ўспомніць, канчаючы дальні шлях,
слупоў прыдарожных лік.

І там, на асфальце, пад шэрай сьцяной,
дзе кнігі расклаў букініст,
вялікі поэта штурхнуў нагой
забытага томіка ліст.

*[1928]*

## ЗВАРОТ

Вецер вее з усходу — суровы такі.
Тонка стогнуць і гнуцца на дол хмызьнякі —
Я шагаю ў палоне ліпнёвай красы,
Пад маёю нагой верас суха шуршыць;
І ядловец, відаць, зацікавіўся мной,
Дык калючкамі шэпча: «спыніся, пастой!»
На балоце дзьве чаплі — іх дзюбы, як кроў;
Прывітаньне ім шлю я стамлёнай рукой:
Разгарнуліся крыльлі, ўзляцелі ўдваіх,
Нечаканы прывет мой спужаў, мабыць, іх…
Вечер вее з усходу, ды з нашых расьлін
Пыльцу хмарай трасе, каб буйней парасьлі,
Каб і жыта гуло, і хістаўся ячмень,
Як вялося даўней — без паправак ды зьмен.
А за лесам красуе канаючы дзень —
Разам з ветрам і вечар з усходу прыдзе.
Лёг туман у тры столкі на рэчку, на луг;
Чутна — ў вёску каровы зганяе пастух;
Чутна — недзе каса зазьвінела аб плот —
Гэта людзі ідуць з сенажацяў, з балот,
Раніцою з сабой хлеба ў торбу ўзялі,
А назад прынясьці на руках мазалі…
Заўтра раненька-рана пайду з імі я…
Добры дзень, добры вечар, краіна мая!

*Ліпень 1928*

## ХРУШЧЫ

Май за вокнамі гэтакі самы —
Поўны сонца, вясны і паэм…
Пераліўнымі галасамі
Кветка кветцы вясьнянкі пяе.

Шэры вечар ўстае панад садам;
Рой хрушчоў каля сьлівы бубніць.
Ў іх гудзеньні ўчарайшая праўда,
Ў іх гудзеньні прайшоўшыя дні.

Так, здаецца, даўно ўжо мінула,
А ўспамінаў не перамагчы…
…Як хрушчы там гудзелі кулі
І як кулі гудзелі хрушчы.

Гэткім самым вось змрокам малочным
Ад заставы яе прывялі.
Гнеў, нянавісьць і чорныя вочы —
І бязьлітаснасьць гэтых хвілін!..

Ды ня чорныя вочы, другія —
Як крыло маладога хрушча.
Толькі-б глянуць у іх, дый загінуць,
Ці жыццё па-другому пачаць…

А за вокнамі майская радасьць…
Абшукалі!.. Аб чым гаманіць…
Пазнаходзілі пляны, загады.
…Падцягнулі на стрэльбах рамні…

Павялі… Тыя дні — без малітвы,
У кіпеньні няспыннай хады:
Мы вялі паміж ямаў і рыцьвін
Рэвалюцыю ў тыя гады.

Я стаяў і напружана слухаў.
Сад чароўны трымцеў цішынёй…
Раптам хрушч прагудзеў над вухам
Ды, як куля, упаў на вакно.





Я глядзеў, дзіваваўся моўчкі;
Ён разгортываць крыльлі пачаў…
Выстрал… Крык… Дзесьці згасьлі вочы,
Як крыло маладога хрушча.

З перамогай прышла і слава,
Дык ці можна ахвяр шкадаваць?
Кожны з нас быў гатоў для справы
Сэрца ўласнае ахвераваць.

Толькі вочы адны мільганулі —
Ў іх нянавісьці ручаі…
…Як хрушчы там гудзелі кулі
І як кулі гудзелі хрушчы.

*1928*

## ВОЎК

Прыкармілі ваўка. Ваўчанём пісклянём
Прыцягнуў паляўнічы яго ў панскі дом
І з сабакамі разам на панскім двары
Гадавалі ваўка, як сабаку, псяры.

Дзеці панскія, служка дваровы, ці госьць
Часта кідалі воўку скарынку ці косьць.
І да ласкі людской, да касьцей даравых
Ўнук лясных ваяводаў да болі прывык.

Не засталася й сьледу
Ад воўчай крыві —
Панскі зірк воўк вачмі, як сабака, лавіў
Ўсё забыў ён — і пушчу, і вольны прастор,
Навучыўся віляць перад панам хвастом…

Час ішоў і настала ліхая пара —
Паня з псярняю разам прагналі з двара.
І пайшлі, хто куды. Адгукнулася кроў,
Пацягнула ваўка да старых сваякоў:

Усё зьмяшалася ў воўку — і роспач і злосьць —
Можа ў лесе хоць знойдзе гатовую косьць.

Там з паклонам павінны сустрэць сваякі —
Гайдамакі лясныя, сівыя ваўкі.

Там не чулі, што ў сьвеце прынаднага ёсьць
І пра панскую ласку, пра панскую косьць.
Стане панам ён сам, бо ў панскім двары
Шмат пазнаў ён, пра што і ня чулі зьвяры —

Пра людскія парадкі, пра звонкі ланцуг…
Зьменіць ён усё жыццё сваякоў-валацуг;
Ён навучыць ваўкоў людзям рукі лізаць
І — найбольшае шчасьце — на месяц брахаць...

Вось і лес. Цёмным строем нахмураных дрэў,
Грозным шумам ён блуднага сына сустрэў.
З гордым выглядам воўк аглянуўся наўкол —
Не відаць ані сьледу нідзе сваякоў.

Дзень сканаў, заклубіўся між дрэвамі змрок —
І заляскаў зубамі ад голаду воўк…
Змрок гусьцеў. І тады сотні зорак ярчэй
Запалалі дзясяткі суровых вачэй.

Гэта — брацьця, ваўкі… Дык чаму гэткі страх
Захістаўся ў новага госьця ў вачах?
Дык чаму задрыжэў і падціснуўся хвост
І ўздымаецца роспач клубочкамі сьлёз?

І на памяць прыйшла панскай псярні страха —
Воўк у роспачы злой не завыў — забрахаў.
Воўк стары падышоў: — Ты адкуль і чаго
Гэтак позна вярнуўся да лесу свайго?

Хоць абліччам ты воўк, ды сабака нутром,
Дык вяртайся назад, да людзей, да псяроў.
У няволі ты жыў мо' й за нас весялей,
Толькі воўчая воля для нас даражэй.
Уцякай-жа туды, дзе жыве чалавек,
ды сустрэцца з ваўком зарачыся на век.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У гэту ноч палясоўшчыкі чулі ў бары,
Нібы склікалі веча лясныя звяры;





Вылі страшна і грозна і з дзікім выцьцём
Перавіўся ледзь чутны прыдушаны стогн.
Дні прайшлі, але доўга яшчэ мужыкоў
Ўдзень і ўночы трывожыў дзіўны нейкі воўк:
Як сабака, блудзіў дзень і ноч каля хат,
Як сабака, скуліў, як сабака, брахаў.

*[1928]*

* * *

Я радзіўся за хатай пад плотам,
Дзе з крапіваю шэпчацца вецер.
А мой край — лясы ды балоты —
Даражэй мне за ўсё на сьвеце.

Усё люблю я ў табе, край мілы —
Край мужычага хамскага роду,
Край, дзе з цэлага сьвету грамілы
Да багацьця шукалі дарогу.

Хто імя беларуса ня ганіў,
Хто ня сраў у мужычых хатах,
Хто людзей не таптаў нагамі —
Той заўсёды мне будзе братам.

Хто ж мой край асьмяяў, абняславіў,
Згвалтаваў беларускія мары —
Хай спытае паноў у Варшаве,
Хай спытае маскоўскіх жандармаў.

Знае ўсяк, як лясная варта
Шанавала нязнаных гасьцей.
Было ўчора так, будзе заўтра.
Курганам не схаваць касьцей.

Беларус я — радзіўся пад плотам,
Дзе з крапіваю шэпчацца вецер.
Родны край мой — лясы і балоты —
Даражэй мне за ўсё на сьвеце.

*[1928]*

* * *

Пасеклі край наш папалам,
Каб панскай вытаргаваць ласкі.
Вось гэта — вам, а гэта — нам,
Няма сумлення ў душах рабскіх.

І цягнем мы на новы строй
Старую песню і чужую:
Цыгане шумнаю талпой
Па Бесарабіі качуюць...

За ўсходнім дэспатам-царком
Мы бегаем на задніх лапах,
Нью-Ёрку грозім кулаком
І Чэмберлена лаем трапна.

Засыплем шапкамі яго,
Ура, ура — патопім ў соплях.
А нас тым часам з году ў год
Тут прадаюць ўраздроб і оптам.

Мы не шкадуем мазалёў.
Мы за чужых праклёны роім,
Але без торгу і без слоў
Мы аддаем сваіх герояў.

Не смеем нават гаварыць
І думаць без крамлёўскай візы,
Без нас ўсё робяць махляры
Ды міжнародныя падлізы.

Распаўся б камень ад жальбы
Калі б ён знаў, як торг над намі
Вядуць маскоўскія рабы
З велікапольскімі панамі.

О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні
Такі разлом, туга такая!
І баюць байкі баюны
Северо-Западного края...

Плююць на сонца і на дзень.
О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?





Ім мураўёўскі б гальштук ўздзець,
Нашчадкам мураўёўскім гэтым...

Але яшчэ глушыце кроў.
Гарыць душа і час настане,
Калі з-за поля, з-за бароў
Па-беларуску сонца гляне.

Тады мы ў шэрагах сваіх,
Быць можа, шмат каго не ўбачым.
З тугою ў сэрцы ўспомнім іх,
Але ніколі не заплачам.

А дзень чырвоны зацвіце,
І мы гукнем яму: «Дабрыдзень».
І са шчытом ці на шчыце
Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем.

*[1928]*

* * *

Цені блудзяць па твары,
Сэрца точыць нуда.
Сёньня лепшы таварыш
Можа цябе прадаць.

Сёньня ня верыць нікому,
Можа я сам шпіён.
Сьціснуць рукамі скроні,
Няхай пагасьне агонь.

Многія маюць сховы
Ў шкліцах чырвоных маніст.
Скажы па-свойму слова —
Крыкнуць — ты шавініст.

Будзіць волатаў косьці,
Будзіць сафійскі звон.
Прышлі вы да нас у госьці
І нам надзелі ярмо.

*[1928]*

## [НА СЬМЕРЦЬ «МАЛАДНЯКА»]

Дол капалі яму далакопы даўно,
Далакопы чужыя, ня нашы:
— Вы падмурак для нас, для сяўбы нашай гной,
Для жывёліны нашае паша…

Самі вінны ва ўсім. Ляжа ганьба на нас;
Наша воля, наш розум і сіла
Хай маўчаць і цяпер, ў гэты дзень, ў гэты час
Над глыбокай і сьвежай магілай.

*[Лістапад 1928]*

## СТАРЫ ЛЯСУН

Гушчу лясную займае ноч.
Цёмна, нуда і сум.
Сёння ізноў на струхлелы корч
Сядзе стары лясун.

Месяц, дружак стары, прапоўз,
Плача ў гушчары воўк…
Трэскі бялеюць старых дубоў —
Секлі сягоння зноў.

Брат балацянік косці склаў
Недзе пад новую гаць.
Рэчка нібыта назад пацякла —
Вадзяніка не чуваць.
Нават русалак пакрыўдзіў кон
Для вадзяных турбін…
Сэрца кроіць сякераў звон:
Падаюць хвоі, дубы…

— Старасць — не радасць, і час не той;
Мабыць і смерць не міне,
Калі не хоча верыць ніхто
І ў самога мяне.

Як жа ад гэтай тугі ўцячы?
Лес свой як бараніць?





Толькі і могуць сэрца тачыць
Клятыя гэтыя дні.

Мабыць, не вернецца тая пара.
Чуеш, сястрыца ноч!
Прыдуць, прыдуць у нас адабраць
Гэты апошні корч.

Твар мой асунуўся, стан аблёг.
Сёння туга і сум…
Так на гнілым карчы па начох
Плача стары лясун.

*[1929]*

## ЭКЗОТЫКА

Нам безьліч баек апавядалі,
Легенд велізарныя томы in folio
Пра Індыі дзіўнай таемныя далі,
Пра флямінгаў Эгіпту, хрызантэмы Японіі.
І пэрсыдзкі дыван перад намі разгортвалі,
Ўваскрашалі бажніцы майяў ды інкаў,
Караблі Магэлянаў, што жывымі ці мёртвымі
Дападалі нязнаных народаў і рынкаў.
Гэта іх, Рабінзонаў, рамантычная спадчына
Пацяшала старых, зачароўвала юных,
Што нічога не ўбачаць, нічога не бачылі,
Але прагнуць да сонца сонцапрагнаю руньню.
І лунаюць над экватарыяльнымі пальмамі,
Чуюць у сэрцы курарэ з караібскага дроціка,
Сэрца, нэрвы іх сонцам Сахары апалены.
Экзотыка!

*

У броні бронзавай і са шчытом пазалочаным
Ўздымаю падобны да месяцу крыс
Ў сэрца б’ю Бенуа: хоча ён, ці не хоча ён,
А прыспушчшаных весьніц не здолеў раскрыць.

Мой далёкі таварыш, прыгнечаны брат мой!
Я не знаю, як зваць цябе, але ведаю — ты
Утаміўся маліцца і Вішну, і Браме,
Сам цярэбіш пуціны ў дзень залаты.
Што табе Бэнарэс і Ангкор з Эльсінорам,
Калі лютая доля твая і кароткая?
Узяць сваё, ці загінуць, таварыш напорны!
Экзотыка!

*

Размалёўваю твар у ваенныя фарбы,
У чырвоная з сінім размалёўваю твар.
Я здыму сёння скальп з галавы ў Эмара
Як здымаў калісь з чырвонаскурых Эмар.
Сёння Чорны Арол (таго самага праўнук!),
Перапалены віскі, асуджан на звод.
Свае дзесяць гадзін акуратна і спраўна
Ён за сэнты здае на Дэтройцкі завод.
І, загнаны ў трубу жабранінай і крызісам,
Нікне ён да зямлі, што калісьці ягонай была…
Слухай, Чорны Арол! Страшны бой, бой рашучы ўжо блізіцца,
Хоць сягоння яшчэ й затуманьвае вочы імгла.
Загрыміць, загрукоча, і з клічам ваенным на вуснах
Ты ўзнясешся на грэбні нечуванай паводкі!
Здымеш скальп з сваёй нэндзы — яе чэрап прагнецца і хрусьне.
Экзотыка!

*

Я на камні пустыні навастру баявы асэгай.
Без мальбы, без кляцьбы, без магічнага танцу
Двойчы ў горле Хагарда яго павярну я.
Няхай сваёй уласнай крыві наглытаецца!
Мы ў капальнях Наталю здабываем караты для дам
І вугальле капаем для браняносцаў,
ім прастор і выгода і радасьць і доля, а нам
толькі біч з бэгэмотавай скуры ў сьпіну ды кулак у пераносіцу!
Дарагі мой, таварыш з Бечуанскай зямлі!
У паўночнай краіне нас не дзеліць ні мова, ні колер.





Прыганятыя-ж чорнай крывёю сваёю залілі
Усе дарогі яе і бяскрайнае вольнае поле.
І глядзі не на твар, а на рукі — мазолі ці ёсць
Калі ёсць — гэта брат твой! Хай жыве ваша ўлада на тропіках.
Хай цьвіце жар-агнём сонца з поўначы — лепшы ваш госьць!
Экзотыка!

*

Безьліч казак-баек нам апавядалі.
Мы ня верым, ня верым цудоўнейшым казкам!
Там няма зіхаценьня барвовых крышталяў,
Дзе пануюць галунныя кэпі і белыя каскі.
Байкі даўныя мы асудзілі на злом.
Горш за казку суровая доля жывога тавару.
Аксамітную маску без развагі сарвём,
Аксамітную маску са зьвярынага твару.
Будзе сьвет заглынацца рамантыкай барацьбы.
Будзе казка пра праўду — яскравая, лёгкая.
Ёй ня страшны бізун, нават куля яе не праб’е.
Экзотыка!

*17 сьнежня 1932 г.*

## Увагі:

1) Магэлян — адзін з пляяды гішпанскіх мараходаў, адкрыўшых у XVI ст. цэлы шэраг новых земляў і зьедзен на Філіпінах.
2) Курары — моцнай атрута, якая ўжывалася ў баявых мэтах некаторымі плямяньнямі Паўднёвай Амерыкі і караібамі на Антыльскіх выспах.
3) Крыс — асаблівай формы нож (Малайскія выспы)
4) Бэнэрэс, Ангкор і Эльсінор — старажытныя паўднёва-азіяцкія сьвятыя.
5) Асэгай — асаблівай формы дзіда паўднёвай і Экватарыяльнай Афрыцы.
6) Майі — вымершы народ Цэнтральнай Амерыкі, пакінуўшы сьляды высокай для свайго часу культуры. Інкі — народ, жыўшы ў Паўднёвай Амерыцы і зьнішчаны разам са сваёй культурай гішпанскімі колёнізатарамі.

## ДЗЯЎЧЫНА

Твой пакойчык, прытульны, спакойны і белы,
пахне цёплай пяшчотай нетрывожаных дзён.
Нібы жнівеньскі сад, духам яблыкаў спелых,
пахам моцных антонавак радуе ён.

Каля люстра — падручнік англійскае мовы,
пара сшыткаў і некалькі строгіх тамоў:
гэта ўсё так прывычна і кожны раз нова,
як чарнявая шапка тваіх валасоў.

У цябе светлы розум і моцнае сэрца.
Што ў табе ад былых, ад забытых часоў?
Як цябе уявіць без партрэтаў на сценцы?
Як цябе уявіць без развáжлівых слоў?

Маладая, як майскае сонца, дзяўчына,
нібы сонечны зайчык ў блакітных лугах —
ты размову вядзеш самавіта і чынна,
а вясёлыя знічкі гараць у вачах.

Ўся гарыш ты святлом агнявой нашай эры,
калі горы грымяць, калі зоры пяюць,
калі радасць высокую поўнаю мерай
людзі новыя з новай крыніцы бяруць,

калі шчасце — не грэх, прыгажосць — не загана,
калі праца, як песня, ўстае над зямлёй,
ты умееш злучыць агнявое каханне
з незвычайнаю мудрасцю справы сваёй.

Ўсюды ты — на заводзе, на пожні і ў клубе.
На вучоным дакладзе і ў майскіх садах
я адразу пазнаю пунсовыя губы
і чырвоны значок на высокіх грудзях.

Калі ж ты свае вочы, як зоры, запаліш,
бляск у сэрца сыходзіць да самага дна,
пачуццё залівае шырокаю хваляй
бераг дружбы і шчырасці светлага дня.





І жыццё, і вясна, і маё захапленне —
гэта ўсё для цябе, гэта ўсё прад табой,
мой таварыш, дзяўчына майго пакалення,
мой таварыш, дзяўчына краіны маёй.

*19–4-1935*

## ПЕРАКЛІЧКА ГАДОЎ

Калі-небудзь пра гэта
легенды расказваць будуць,
і вучоны
чый лозунг —
адмерай, узваж і правер! —
будзе з пільнасцю строгай
раскапываць пыльныя груды
матэр'ялаў архіўных
пра змаганне за БССР.
А у нас, у жывых
не памерла гарачая памяць.
Сцежкі гэтых гадоў
не паспелі яшчэ зарасці.
І мы ведаем добра,
каго зганьбаваць і запляміць
і каму, як герою,
на ўзвышша вякоў узысці.
Зацвітуць гарады,
заяснеюць калгасныя хаты,
і на плошчах,
на вуліцах,
на скрыжаваннях дарог
павядуць пераклічку
дваццаты
і трыццаць пяты —
легендарныя годы
легендарнейшых перамог.
І дваццаты напомніць,
як ворагі край пусташылі:

на палаючы Мінск
вочы памяці зноў паглядзяць,
на руіны Барысава
і на жахі Бабруйскай бастыліі,
на магілы,
дзе косці дагэтуць аб помсце крычаць.
Ён устане, як здань
з акрываўленым жудасным тварам,
і напомніць ізноў дні рашучых і грозных баёў,
калі з ленінскім сцягам
ішлі паміраць камунары
і за шчасце зямлі
і за ўласнае шчасце сваё.
Пеў палкоўнік Гарун
пра замшэлыя вежы-званіцы,
генеральскія шаблі
хаўтуры вызваньвалі нам,
і майстры пустазвонства,
прайдзісветы
і гіцлі
Беларусь за двузлоты
прадавалі вяльможным панам.
Але подлая здрада
не сцісне рабочаму горла
і на вежы-званіцы
на смерць бедакі не пайшлі.
Не за белую косць
партызаны памерлі ў Дукоры,
не за банкаўскі сейф
камсамольцы ў Бабруйску ляглі.
Паднялося падполле —
збялела бяссільная здрада,
зашумелі лясы —
пан засеў у варшаўскі вагон;
бег палкоўнік Гарун,
уцякала прадажная рада —
і кляцьба,
і пагарда
імчаліся ім наўздагон.





Разам з поступам мерным
сталёвых чырвоных дывізій
шчырасць, дружба і воля
з новым шчасцем дадому прыйшлі.
На жыццё і на працу
перамога дала нам візу,
ранне новае закрасавала
на заводзе і на раллі.
Чарадою прабеглі
незвычайныя гэтыя годы.
Нават сцежкі тых дзён
не паспелі яшчэ зарасці.
І загоены раны
ваяцкае непагоды
і на нашых дарогах
драпежнікам больш не прайсці.
Не прайсці,
не прабрацца —
мы знаем,
мы чуем,
мы верым.
Жарка б'ецца
ў кожнага ў сэрцы
савецкая кроў.
Хай шыпіць Розенберг,
хай зубамі ляскае Герынг,
мы ўжо многіх вучылі —
калі трэба
паўторым ізноў.
Трыццаць пяты
ідзе самавіта, спакойна і горда
праз шумлівыя гарады,
праз квітнеючыя палі:
ён рэспубліцы нашай
прыносіць чырвоны ордэн
і братэрская прывітанне
ўсіх працоўных усёй зямлі.
Толькі ў нас пачуццё
можа быць маладым і адзіным,

толькі ў нашай
адзінай, магутнай, савецкай сям’і.
З мільёнамі разам
мы жылі на чэлюскінскай льдзіне,
з мільёнамі разам
ў стратасферу ўздымаліся мы.
Мы гадуем людзей,
мы інакшымі робімся самі:
нашу працу
і нашых сяброў
мы умеем любіць;
усё нікчэмнае,
брыдкае,
ўзгадаванае ў сэрцы вякамі,
мы ўмеем адкінуць, растаптаць і забыць.
Перамога і дружба
нас злучылі,
загартавалі
і адкрылі дарогу
ў прастор,
у бліскучую шыр.
Слухай сэрца!
Вітае
нас сусветным голасам Сталін,
найвялікшы, любімейшы правадыр.

*Мар’іна Горка, 1935*

## ПАЛЕССКІЯ НОЧЫ

### Ноч пракляцця

Сорак тысяч чарцей і па ведзьме на рыла
Сорак тысяч святых, сорак тысяч папоў,
Свечкі, прошчы, заломы, крыжы і кадзілы —
Гэта ўсё назаўсёды, на векі вякоў.
Поп і чорт на выжарынах водзяць бяседы,
Стражнік з ведзьмай па купінах скача кадрыль,





Воўкалак банкетуе з багатым суседам —
Гэта ночы палесскае гаспадары.
Сіні мёртвы агонь мігаціць над балотам,
Там танцуе зялёных русалак сям’я,
Вадзянік шчырыць зубы гнілыя з чаротаў —
Гэта клятая бацькаўшчына мая.
Завіваецца ноч як каўтун над зямлёю.
Вочы долі палаюць галодным агнём:
Удзень рычыць ваўкалак валасным старшынёю,
Уночы стражнік па лесе раве лясуном.
Плача клятая ноч як удовая сука,
Пенна хмары плывуць над зацвілай дрыгвой,
Дзе бескроўныя вольхі кастлявыя рукі
Уздымаюць у роспачы над галавой.
Глуха шэпча дрыгва сваім ротам бяззубым,
Сочаць воўчыя зубы з аблезлых кустоў,
Сочыць з купіны кожнай маўклівая згуба
Быццам грозны разбойнік старых бальшакоў.
Падыдзі — і ахопіць смяротнай пятлёю
Сціснe горла халоднай, аслізлай рукой —
Толькі твар ледзянога і злога спакою
На хвіліну ашчэрыцца над галавой.
О, праклятая ноч у краіне няласкі!
Колькі зданяў жыве ў прагнілым нутры:
Цені праўды ліхой, людзі з жудаснай казкі
У гэтай дзікай краіне — гаспадары.
Як баяўся я іх, як я іх ненавідзеў,
Апантаныя здані палесскіх начэй!
Загарэлася зорка надзеі ў крыўдзе —
Зіхаці, мая зорка, ясней і вышэй!
Але ночы душылі свінцовым страхоццем,
У немату алавянная Прыпяць плыла,
Зоркі падалі з неба і гаслі ў балоце,
Толькі ў сэрцах нянавісць жыла і цвіла.
Дні і ночы інакшыя мужнасць судзіла —
Для пячэй — сыты ўзвар, для дзяцей- малако,
І падрубы для хатак старых і пахілых
І ў драпежнай магіле асінавы кол.

## Ноч гневу

Па дарозе падковамі цокаюць коні,
Глуха бразгаюць шаблі падковам у такт:
Балахоўцы бягуць ад чырвонай пагоні —
Ім пажарамі свеціць скрыгалаўскі тракт.
Ноч і пушча застыглі ў маўклівай трывозе.
Трупы спаленых хвой — нібы жэрлы гармат.
Колько коннікаў мчала па гэтай дарозе
І туды… і назад… і туды і назад!
Ландшурмісты ішлі, гарцавалі уланы,
Гайдамакі як чэрці гайсалі кругом,
Дагаралі мястэчкі ў крывавым тумане,
Смерць блукала жахлівым, нязваным гасцём.
І ў налітыя жарам палескія ночы
За сябе, за дзяцей і за продкаў сваіх
Сталі вочы відушчымі двойчы і тройчы
У людзей, што пужаліся ценяў начных
Залятала вуголле скрозь крыўды і раны
Аж у сэрцы, ў змарнелыя сэрцы людзей
І сцякалі гарачай крывёю уланы
Пад пякучым дыханнем палесскіх начэй.
З-за Дняпра, з-за Урала ішла дапамога:
Маладыя браты, удалыя байцы,
Карчавалі з балот пана, чорта і бога —
Дым на пушчы курэў на чатыры канцы.
І ў суровым святле выступалі ўсе цені,
Гартаваліся душы ў напорных баях,
З поля смерці ўставала зара абнаўлення,
Гэта гнеўная бацькаўшчына мая.
І дарэмна туляліся выродкі здрады
Ды па багнах шукалі начных сваякоў —
Іх жыццё назаўсёды рукою ўсеўладнай
Адштурхнула з пагардай на сметнік вякоў.
Па дароўзе падковамі цокаюць коні,
Ездакоў падганяе бязлітасны страх:
Балахоўцы бягуць ад чырвоная пагоні,
Ім пажарамі свеціць скрыгалаўскі шлях.





## Ноч міру

Адгукала труба, адмычэлі каровы,
Ў полі пуста — ні голасу, ні аганька.
Ноч глядзіцца ў Прыпяць, насупіўшы бровы —
Берагамі насустрач смяецца рака.
Серабром старасвецкім калышацца жыта,
Пах цягуча-мядовы плыве ад лугоў,
Ціхі блеск сеюць зоры праз сіняе сіта
На разгорнуты шоўк нетрывожаных сноў.
У новых хатах, у ліпавых лёгкіх калысках,
Спяць маленькія, крэпкія палешукі,
Спіць шчаслівы народ, да якога і блізка
Не падыдуць ні ведзьмы, ні дамавікі.
Спяць дзяўчаты сном жаркім, трывожным дзявочым,
Ім на вочы слязінка не пабяжыць,
Ім не трэба ўжо больш у купальскія ночы
Над сцямнелаю рэчкай пра лёс варажыць.
Без варожбаў усё зразумела і ясна:
І кіпучая песня, і сонечны смех.
Сум варожы сягоння ў Палессі калгасным
Непатрэбны і смешны, як леташні снег.
Спяць дзяды — ім было абрыўкамі сніцца:
Адамкнуўся для іх зачарованы сад,
Новы лёс празвінеў залатою пшаніцай
Для абноўленых душ, для абноўленых хат.
Ціхім мірам палесскія ночы бліскочуць
Яснай стужкай на небе бяжыць млечны шлях,
І не спяць на дарогах руплівыя вочы,
Каб варожасць дарогі назад не знайшла.
Солчаць пільныя вочы пад зоркай чырвонай,
Адгрываюцца грудзі прастораў для іх —
Там дыханне чуваць паўтараста мільёнаў
Зразумелых, любімых і дарагіх.

Сэрца з сэрцам гаворыць пра гулкія далі,
У кожным сэрцы жыве агнявое імя.
Непаўторнае, роднае, мудрае — Сталін —
У гэтым імені бацькаўшчына мая.

*[1936]*

## НА СТАНЦЫІ

Жыццё імчыцца ў даль за семафоры,
Дзе ціш палёў, дзе гулкія лясы,
Дзе сінню разатканыя прасторы
Птушыныя калышуць галасы.

А тут, за вадакачкаю цыбатай,
Ў балотцы жабы стогнуць цэлы дзень,
Мычаць каровы, сцежкі пахнуць мятай,
Ад ліп старых паўзе маўклівы цень.

Тут сонца колеру чырвонай медзі
На насыпах пад вечар зіхаціць;
Ля будкі барадатыя суседзі
Сышліся перад сном пагаманіць.

А на пероне ўвечары дзяўчаты
Глядзяць прыветна ў вокны цягнікоў
І парамі вяртаюцца дахаты,
Да звыклых кветак і нязвыклых сноў.

Калі ж лугі агорнуцца ў туманы,
Маўклівасць лес напоўніць давідна,
Дык будзе рэек сплёт адшліфаваны
Гудзець, нібы басовая струна.

І калі будуць шпаркія вагоны
Ля нас у даль бяскрайнюю імчаць, —
Мы ведаем: на нашыя загоны
Уважлівыя вочы іх глядзяць.

Але як скажа час і нам падняцца,
Дык, углядзеўшыся ў святло ці ў змрок,
Мы ўбачым сотні гэткіх самых станцый
На дальняй трасе Мінск-Уладзівасток.

І нам дзяўчаты яснымі вачыма
Са свежасцю сямнаццаці гадоў
Перададуць ад Мурманска да Крыма
Прывет для незнаёмых сваякоў.





І мы памчымся з весткаю шчаслівай
Праз гулкі лес, праз жоўтыя палі…
Мы не адны на станцыі маўклівай,
На цёплай нашай, сонечнай зямлі.

*[1936]*

## ШАНХАЙСКІ ШОЎК
(поэма)

*Прыгнечаным народам Усходу*
*і Захаду прысьвячаю*

Вандравалі гора з бядою,
Вандравалі ня год і ня два…
Пралілося віно дарагое
На вузорны персідзкі дыван.

Ад Марока да Гімалаеў
Дражняць неба жоўтыя скалы:
Ой, ня раз там зубы ламалі
Аб белыя косьці шакалы;

Ой ды шмат дзясяткаў стагодзьдзяў
Прапаўзло над сівымі гарамі,
І цяпер яшчэ там карагодзяць
Магомэты, будды і брамы…

А сягоньня ўздым лятуценьняў
Векавечны сон пакарыў
І наўкола імені —
Ленін —
Сабіраюцца бунтары…

Вандравалі гора з бядою,
Вандравалі ня год і ня два,
Не пральецца віно дарагое
На вузорны пэрсідзкі дыван.

Сёньня кроў яшчэ можа льлецца,
Але заўтра —
Вялікі паход…

Вось зачым на роднай жалейцы
Граю я пра бунтуючы ўсход.

Можа, ня кожны чытае,
Ня кожны чуе балючы крык…
Недзе там, на палёх Кітая,
Абвясьціў дыктатуру штык.

Кітай —
Гэта жоўтая такая краіна.
Кітай —
Увесь у мінулым.
А мінулае — багдыханы й мандарыны,
Ды чатырыста мільёнаў кулі.

Быльлём зарасьлі мінуўшчыны тропы
І няма ні кос ні мандарынаў…
Праз гарматы бабулька Еўропа
З Кітаем загаварыла.

На палёх Кітая сьвішчуць кулі,
На палёх Кітая вытаптаны рыс:
Моцна селі на плечы пакорных кулі
Нязьлічаныя гаспадары.

Ах, як ныюць балючыя раны!..
Павучыньне гвалту апляло Кітай.
Толькі броненосцаў чорнай зграяй
Ўпіўся ў сэрца белы капітал...

З сіні таемнай,
З узгор'яў Цібету
Пырснула новая рань —
Веюць з Кантону новыя ветры,
Будзіць
Байцоў
Гоміндан…

Гэй,
Паднімаюцца сонныя кулі…
Цешся да часу, Гонг-Конг!..





Бачыш,
Сьцяг Гоміндана ўзьмятнула
Сівая крыўда вякоў.

Чуеш,
Фанфары грымяць пад Шанхаем,
Пачырванела вада ў Хоан-Хо —
Рвецца
Зары на спатканне
Кітайскай вясны лёдаход…

Блізка ўжо, блізка дзень доўгажданы,
Грай перамогу, вецер!..
Дзень,
То запаліць агонь Гоміндана,
Сонцам інакшым засьвеціць.

Выткалі неба буйны узорам
Гнеўныя выбухі сталі…
Новае раньне
Кулямі ўзора
Гніль еўропейскіх кварталаў.

1.

Праз жоўтыя прасторы
Імкнецца Хоан-Хо…
Блішчыць трубой над морам
Ангельскі параход.

Вясною голаледзьдзе
Згубіла гаолян…
На Бацькаўшчыну едзе
З Амерыкі Чы-Ванг.

Раве і стогне мора,
Дзьме хвалямі ў мол
І белаю разорай
Пас пены за кармой.

Каб меў, здаецца, крыльлі,
Рвануўся-б цераз борт!

Ах, гэта хвалі ўзмылі —
Яшчэ далёка порт!..

Шанхай — вялікі горад.
Фабрычных труб пятля…
Знашоў Чы-Ванг праз горы,
Знашоў знаёмы шлях.

2.

Ах, як роўна шуміць гаолян,
Сонца тчэ залатую пражу!..
З сэрцам гарачым Чы-Ванг
Вяртаецца ў родную фанзу.

Дваццаць гадоў як адзін мамэнт
(недароды выгналі з поля),
А сягоньня бостонскі студэнт
Вярнуўся да родных раздольляў…

Дар чужыны — халодны кольт
І чырвоны білет у кішэні.
О, Чы-Ванг навекі расколе
Жоўтыя чары жэнь-шэня.

Да маткі і бацькі — толькі дзень,
Праца на бераг кліча —
Не забыць, не забыць нідзе
Мінулых трывог аблічча!..

Пырскае пылам сталёвы конь —
Жвава ходзяць пэдалі…
Ах, як лёгка з такім ездаком
Рвацца ў жоўтыя далі!

Ў думках па полі ўжо зазьвінеў
Плуг, а за ім і трактар…
Жоўтых рабоў пазнае гнеў
Місіонэр-сабака.

Помніць Чы-Ванг…
Яшчэ не забыў,





Не забудзе ніколі зьдзеку —
Пастар-ангелец так моцна біў
Бояў бамбукавым стэкам.

Помніць…
Залілася крыўдай душа,
Калі мора заслала бераг…
Пастараў гэткіх ён бачыў шмат
Ў банках, у трэстах Амерыкі.

Першыя веды з засаленых кніг,
Першая школа вячэрняя:
Не загасіць імкненьняў агні —
Што ім жыцьцёвыя церні!

Рвіся, рвіся, сталёвы конь!..
Мэта бліжэй, што хвіля!
Ах, як лёгка з такім ездаком
Мерыць ангельскія мілі!

Пачырванела вада ў Хоан-Хо,
Сонца зламала праслы —
Ноч недалёка,
Імгла над ракой
Сьцеле свае перавяслы.

Эх, недалёка:
Абгонім туман,
Мне хіба верыць казкам!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як у тумане, ўбачыў Чы-Ванг
Попел згарэўшай фанзы.

Круціцца жоўта-зялёны ліст,
Ноч — для ўсіх адпачынак.
Чы-Ванг — комуністы…
Чы-Ванг —
Зноў на машыну.

Зубы на хвілю сьціснуў Чы-Ванг…
А далей…

Справа чакае!..
Ах, як сумна шуміць гаолян!..
Ах, як нуду навявае!..

3.

Ня шуміць над ракою трысьцё,
Ня сінеюць лугі дыванамі;
І балот глухі прастор
Каменьнямі ў зямлю загнаны.

Толькі выгляне сонца з-за гор —
Ажывае бяздушны камень,
І ад флагаў
Стракаты порт,
І паветра
Зьвініць
гудкамі…

Ўздох сутарэньняў —
На покліч гудкоў:
Змору змагаюць людзі.
Вуліц сутоньне
Людзкою ракой —
На фабрыку нельга марудзіць.

Колькі іх, колькі!..
І ўсе, як адзін,
І ўсе —
Толькі здань чалавека:
З голай сьпіны гэтак страшна глядзіць
Сьлед ангельскага стэка…
Зубы расчэпіць кіпучы завод,
Мяса глыне жывога…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тым,
Што жылі і жывуць без забот,
што ім сьмерці загоны?





4.

Беднае сонца! Ангельскіх львоў
Сонца Шанхая не спаліць…
Перад пасольствам сінее ствол
На белым плячы сіпая.

Насупроць, на дубовым шчыце —
Зоркі вялікай Амерыкі,
Краіны, дзе крыўда так буйна цьвіце,
дзе гора людзкое ня зьмерана.

Грозна глядзіць чужаземны квартал
У цемру шанхайскіх завулкаў…
Чуць што —
Кулямёт запяе: тра-та-та…
Застогнуць гарматы гулка.

Дзе ты, дзе ты, грозны дракон?
Не дракон ты — старая жаба:
Бачыш, Кітаю дыктуе закон
Голас Эўропы ржавай!

5.

Выходзіць месяц
З-за жоўтых гор.
На варце крэйсер
«Кароль Георг».

Даўно матросам
Уэлец Джон.
Шэсць футаў росту
І дужы ён.

Ў начных прытонах
П’яніць танго…
Ўжо стукнуў Джону
Дваццаты год.

Ня ціхне мора —
Б’е ў бераг бельлю;

Джон добра помніць,
Што ён — ангелец.

Джон вельмі горды
Сваёй айчынай —
Гатоў заўсёды
Дапамагчы ёй.

І Джон не відзеў
Ніколі кніг —
Яго дэвізам —
«God save the king!»

6.

Цела — ня камень.
Камень, і той —
Ударыш — можа рассыпацца.
А завод разрывае нутро
Мільёнагалосым хрыпам.

Дванаццаць гадзін — цярпець няма сіл:
Думкі — ў жалезным угары —
Сьмерць у дымным адценьні машын
Лічыць свае ахвяры.

Ад дзяцінства да змроку жыцьця…
Голад людзей закабаліў!
Што з таго, што Дракона сьцяг
мерыў такія далі?

Што з таго, што паўстаў Чжан-Цзо-Лін,
Выгнаў чжылійцаў Пекін?
Лівень новай крыві заліў
Змучаных кулі павекі.

У той-жа час гудок гудзіць,
Раніцу дымам пеніць…
Таварышы!
Дванаццаць гадзін —
Няма ні сіл, ні цярпеньня!





7.

Позна на крэйсер вярнуўся Джон…
Была на беразе качка:
Джон помніць, нібы праз сон —
Грошы кідаў сьпявачкам…

Хіліла ў сон, але боцман-гад
Ня даў спачыць ні хвіліны:
— На бераг са зброяй, — загад.
Джон сьпяшыць — дысцыпліна.

Лёгка хвалі ўзразае бот…
— Рыхтуй баявыя патроны!
Сэрца шапнула —
Будзе бой!
А з кім — усё роўна.

У шэрані вуліц сінеюць штыкі,
Грукатам гулкім —
Узвод за ўзводам…
Сягоньня маўчаць гудкі —
Сталі заводы.

Шэраньню вуліц — у жоўты квартал…
Дыхаюць дымам заводскія брамы…
Чуеш, айчына!
Кітай паўстаў!
Ужо гром грыміць за гарамі!..

Сіняй лаве каманда: «Стоп!»
Стрэльбы к плячам прыстылі…
Ад краю да краю людзскі натоўп
Запеніў вуліцу пылам.

Дарам не траціў слоў афіцэр —
Па шэрагах рэзка:
«Цэлься!»
Мільганулі
і
Зніклі з вачэй
У Джона капальні Ўэльса.

Джон ня чытаў ніякіх кніг:
Матрос — не соцыялісты.
Джон знае:
«God save the king»
І хмельную слодыч віскі.

Жоўтым рабам невядомы бой.
Паўстанне для іх навінка…
Гулам сполаху вуліц забой
Жоўтыя грудзі зьвілі.

Фабрыканта замучыў сплін
І Шанхай ён надоўга пакінуў…
Тонкаю іскрай — каманда:
«Плі!»
І
Залп
У жоўтыя сьпіны.

Поэты ўсіх народаў і рас!
Напоўніце песьні сьлязамі.
А у нас…
Сьлёз ня будзе ў нас,
Бо сьляза не расколе камень.

Знаем мы —
З адвечнай імглы
Прабіваецца раніцы золак…
Прыдзе час
І на цэлай зямлі
Зацьвітуць агнявыя ўзоры.

8.

Мне казала бабуля казку
Пра старога шэрага воўка,
Што зубамі, як шаблямі, ляскаў
І ня зносіў нічога жывога…

Ой, ляжаш ты, бабуля, ў нетрах
Халоднага жвіру магілы,





А ня знаеш, што воўкаў гэткіх
Цяпер і улада, і сіла!..

Залатым аксамітам восень
Захавалася ў жоўтых імшарах…
Зьлітаваньня Чы-Ванг не папросіць,
Не папросіць у белых жандараў.

Помніш?
Мітынг…
Калёраў сутоньне…
Змрокам падкраўся вечар…
Гаварыў Чы-Ванг пра тое,
Што рабочаму цяжка жывецца;
Гаварыў, што за жменьку рысу
Сілы не варта траціць;
Гаварыў, што не трэба карыцца,
Бо сьветам кіруе праца…

— Крывёю агня не затопяць, —
Гаварыў камуністы Чы-Ванг…
А ў прытонах
Дыміўся опіум,
Ў чайных доміках
Біў барабан…

Сіні шоўк ткалі ночы кросны…
Замоўк жыцьця пераліў…
Прышлі шэсць англійскіх матросаў
І Чы-Ванга з сабой павялі…

Там, на крэйсэры —
Пыткі, дапросы…
Можа
Самая страшная кара…
Зьлітаваньня Чы-Ванг не папросіць,
Не папросіць у белых жандараў.

9.

Ну і як жа тут не зазлавацца —
Джон на бераг хацеў пагуляць,

А Джона з вечару карцэр
Паставілі пільнаваць!

Як можа, Джон каратае
Варты цягучы час:
У карцэры —
Комуністы кітаец —
Да раніцы трэба тарчаць.

Бераг зьвініць агнямі
Джону казалі сябры:
— Джон, не пойдзеш з намі!
А Джон зубамі скрыпнуў.

Адпачывае крэйсер…
Тускла ліхтар гарыць…
З-за кратаў — паангельску:
— Брацішка, дай закурыць…

Голас такі надломаны…
Кітаец —
А ўсё-ж шкада.:
Ня трэба упрашываць Джона —
Рашыў даць.

Два аганькі загарэліся…
Песьню насвістываў Джон.
— Адкуль, брацішка?
— З Уэльсу.
— Хто бацька?
— Рабочы, вядома.

Пагасьлі даўно папяросы —
А да раніцы — ціхі гоман…
Толькі дня залацісты росквіт
Не знайшоў учарайшага Джона.

Як і ўчора, хісталіся хвалі —
Толькі вецер выў, як сабака…
Джон успомніў, як у капальні
Загінуў ад выбуху бацька.





Успомніў —
Дырэктар строгі
Маці прагнаў з двара:
Джон маленькі маліўся богу,
Каб дырэктара бог пакараў…

Джона нідзе не вучылі —
І без гэтага цяжка жылося.
За харчы і дзесяць шылінгаў
Джон наняўся ў матросы…

10.

Думкі снавалі дажджом,
А за імі сплыла айчына.
На многае ў сьвеце Джон
Стаў глядзець другімі вачыма.

Калі праз тыдзень ізноў
Джона паслалі на варту —
Кінуў Джон у вакно
Цёплае слова «таварыш».

Толькі ў гэтую ноч
Джон ня рваўся на бераг —
І перад самым днём
Выбіў прыкладам дзьверы.

Дружна ўзяліся за бот
(трывога старожка на твары).
— Эх, каб вырвацца толькі за борт,
А там папрацуем, таварыш!..

11.

Ой, ды з раніцы цёмным-цёмна
Чы-Ванга злавілі ўначы…
Разам з ім захапілі Джона,
Што на бераг хацеў уцячы…

Суд ваенны — скоры і строгі:
Прыгавор гатоў —
Расстраляць!

Загудзеў гудок трывогу,
Затрубіў ражок —
Тру-ра-ра!

Расьцягнулі брэзент матросы,
А Джон пра бога забыў.
Толькі слоў залатая россып:
— Паўстаньце, рабы!

Нас заб'юць — устануць другія,
Наша рацць з кожным днём расьце —
Наша праўда ніколі ня згіне:
Перамога агнём расьцьвіце!

Чы-Ванг гаварыў паангельску,
А словы былі як агонь.
Матросы, што родам з Уэльсу,
Не хацелі страляць у Джона.

Распусьціла раніца косы,
Заклубіўся ў нізінах туман…
Пачалі шаптацца матросы,
Што добра гаворыць Чы-Ванг…

Капітан
Браунінг сьціснуў —
Кінуў:
— Канчайце хутчэй!
На брэзент кроў гарачая пырснула…
Пагасьлі дзьве пары вачэй…

Кінулі ў мора…
А ў гэты вечар
Сполах у белым квартале:
У цёмным завулку знайшлі пакалечаным
Труп капітана…

Мне казала бабуля казку
Пра старога шэрага воўка,
Што зубамі, як шаблямі, ляскаў
І ня зносіў нічога жывога.





І Чы-Ванга, і Джона, што рваўся да сьвету
Злыя ваўкі задушылі…
Ці ты знала, бабуля, што воўкаў гэткіх
Цяпер і ўлада і сіла?

12.

Але гэта толькі сягоньня…
Крэпне, крэпне новая рацць.
Шмат загіне Чы-Вангаў і Джонаў,
Але ўсіх
Не расстраляць!

Нездарма-ж у прытоне матросы
Па забітых спраўлялі памінкі:
Нездарма мордабойцу боцману
Нехта нож засадзіў у сьпіну…

Гэй,
Настане вясёлае раньне —
Скажуць цэламу сьвету гудкі,
Што ўжо над кітайскім краем
Не пануюць чужыя штыкі.

Бач,
Другія агні загарэліся…
То хаўтуры старога сьвету,
Бо ў айчыне Джона —
Уэльсе —
Можа заўтра ўжо будуць Саветы…

13.

А вы,
У кім кроў яшчэ не стыне,
Жоўтае племя,
паўстань!
Гэй,
Надыходзяць дні такія,
Якіх не бачыў Кітай!

Ад Амура
Да палкага поўдня,

Ад Шанхая,
Да Афганскіх гор
Прыдуць тыя, што стогнуць сягоньня,
І возьмуць
Гонг-Конг
За горла…

Вы што цяпер ў захапленьні,
Шукаеце шляхаў мірных,
Знайце —
Портрэты Леніна
Вісяць у кітайскіх кумірнях.

Нікне, нікне цемра густая…
Праз мудрасьць стагоддзяў кулі
Пазнаў, што ён не толькі кітаец,
Але й сын зямное кулі…

Бач,
над Кітаем штандар Гоміндана
полымем бунту ўецца…
Прыдзе свабоды дзень доўгажданны…
Грай перамогу, вецер!

Самалёты,
Распраўце крыльлі!
Ты, матрос,
Разам з намі паўстань!
Гэй,
Загараюцца дні такія,
Якіх ніколі не бачыў Кітай!

14.

Ой, не плачце вы, песьні баянаў, —
Вам не выплакаць волі сьлязамі:
Наш напеў — вясельлем буяным,
Мы сягоньня сьпяваем самі.

Што мне, што мне чужы Вэра-Круц,
Акіянаў бязьмежныя сіні…





Хай сабе канцавосьсяў круг
Самкнецца ў лясох Бразіліі…

Я ніколі не бачыў Рыма,
А можа ніколі не ўбачу.
Я кажу што мая краіна
Сягоньня зусім інакшая.

Хто сказаў, што ў сягонешні дзень
Я краіне чужой малюся?
Не забыць мне ніколі нідзе,
што я сын маладой Беларусі.

Здраднік той, хто не хоча ісьці
Пуцінамі роднага краю…
Не затым сягоньня ляціць
Мая песьня пад неба Кітаю.

І ў нас былі дні такія…
Ты скажы, беларуская вёска,
Ці ты помніш, як покліч кінуў
Да цябе Кастусь Каліноўскі…

Помніш,
Помніш пажараў зарава?
Сёньня зноў гэткі час настаў,
Бо тады Беларусь партызаніла,
Як цяпер партызаніць Кітай.
Моцна зерне Кастусь засеяў —
Аж сягоння яшчэ відаць…
Мне здаецца —
Кастусь Сун-Ят-Сэну
Даводзіцца родным бацькам.

Толькі мы —
на другой пуцявіне,
мы іначы глядзім на сьвет…
Што нам ворагаў злых павучыньне
У вялікай краіне Саветаў!

Камяністым Ленінскім шляхам
Мы прышлі да сваіх лятуценьняў…
Дык даволі, баяны, плакаць,
Ды наводзіць на сонца цені…

Хай налётчык белы піруе…
Ўстане,
Ўстане кітайскі Кастусь…
Вось затым пра Кітай пяю я,
Што кахаю сваю Беларусь…

*Чэрвень 1925 году*
*Полацак*

Тлумачэньні слоў:

Шанхай, Кантон, Гонг-Конг, Пекін — гарады ў Кітаі, прычым Гонг-Конг — ангельская колёнія.

Марока — краіна ў Паўночнай Афрыцы, жыхарства якой увесь час змагаецца з імперыялістымі французскімі і гішпанскімі.

Гімалаі — самыя высокія горы ў сьвеце, знаходзяцца ў Азіі.

Магомэт — закладчык мусульманскай веры; Будда — нешта накшталт кітайскага бога, Боама — адзін з індускай «троіцы багоў» (Брама, Вішну, Сіва).

Багдыхан — назва даўнейшых кітайскіх цароў.

Мандарын — кітайскі чыноўнік даўнейшага часу.

Цібет — горная краіна ў Азіі.

Гоміндан — кітайская народна-рэвалюцыйная партыя.

Хоан-Хо (Хуан-Хо) — вялікая рака ў Кітаі, літаральна — Жоўтая рака.

Кулі — кітайскія чорнарабочыя.

Фанза — хата.

Жэнь-шэнь — корань расьліны, якім карыстаюцца багатыя кітайцы ў вядомых выпадках.

Джон — па-нашаму Янка.

God save the king — словы ангельскага чарнасоценнага гімну (год сэйв сзі кінг)

Чжан-Цзо-Лін — кітайскі генерал

Опіум — атрута

Вэра-Круц — прыстань у Мэксіцы.





# БАЙКАЛ
(поэма)

Ўсе мы лепшай шукаем долі.
Нам здаецца —
дзе нас няма,
там і шчасьця, і сьвету даволі,
шмат шляхоў і прастораў шмат.
Гэта прада — як сьвет старая.
Дый ці трэба яе шукаць?
То-ж яна адусюль гукае —
з кожнай хаты, з любога кутка.
О, нязбыўная крыўды кручы,
спаняверанай долі дно!..
Бачу зноў я Мазыршчыны пушчу
ды бяздоннай багны радно.
Перавіўся з крапіваю блёкат;
на паркане кацёлкі лык;
без канца ды бяз краю балоты
поле вузкае абляглі…
Хтось бязьлітасным дзікім заломам
здолеў нашы ляхі агарнуць.
І чамусьці! —
дзе стрэхі з саломы,
пэўна ж там беларусы жывуць…
Касалапыя, курныя хаткі —
ў іх жыве беларускі мужык…
Дзе-ж знайсці канец і пачатак
горкай долі ды лапцям з лык?
І галодную пусткаю поле
угрызаецца ў панскі гай…
Браце любы і беспатольны!
Як жывецца — жыві, не зважай.
Ой, мужыцкія цяжкія думы!
Дзе канец ім і дзе ім лік?..
Ў іх сустрэлі вясну не адну мы,
ў іх і восеняў шмат правялі.

Голад выгнаў Сцяпана ў горад,
жне Агата на панскай мяжы…
Гнеў бяссільны ды горкае гора —
вечны шлях беларускай душы.

* * *

Калі сьцісьне бяда без астатку
ды змагацца не стане сіл —
усё пакінеш — і жонку, і хатку,
і самога сябе прадасі.
Разгуляліся пагалоскі.
Колькі спрэчак, колькі кляцьбы!
Дый ці-ж дзіва, што бедная вёска
пачала гаманіць пра Сібір.
— Гэта край! То не нашы надзелы:
хочаш — сей, а не хочаш — кінь…
І зьбіраюцца кожнай нядзелі
пра Сібір гаварыць мужыкі.
— Кажуць, там зьбярэш, што й не сеяў;
колькі хочаш, бяры зямлі.
Будзе ўсюды — ў гумне і ў кішні,
будзе што і ў чарку наліць!
— У Сібіры адны катаржане,
хто іх знае, як з імі быць!..
— Страх бярэ — старана чужая,
лёгка ўзяць, а лягчэй згубіць…
Ледзь не ўзялася вёска за вілы.
Але потым — радком ды ладком —
пагадзіліся ды ўхвалілі
на разьведку пасланць хадакоў.
— Хай дазнаюцца, што ды як там,
прыглядзяцца, якая зямля…
Вецер у коміне выў, як наняты,
па саломенных стрэхах гуляў.
Мо' пра іншую долю сьпяваў ён,
мо' прарочыў туг уды згіноту…
І сабакі і людзі спалі,
спала поле і лес і балота.





* * *

Год прайшоў — ніхто й не прымеціў:
месяц, зоркі — вось наш каляндар.
Ураджай, як заўсёды, на сьмецце.
Будзе голад — ліхі гаспадар.
Гулка восень па поплаве ходзіць,
рвецца вецер з пажоўклай травы;
скрыжаванай колёнай на поўдзень
выпраўляюцца журавы.
Я гукаю: шчасьлівай дарогі —
ад сузол'яў чырвоных брусьніц.
Можа-б вы і да нільскіх парогаў
казкі нашых палёў занясьлі?..
Вецер, вецер! Ляціш ты, саколе,
ўсіх далей і усіх буйней!
Раскажы ж, як шукаюць долі
беларусы ў чужой старане…
Дальні шлях — цяжкі і нязнаны —
лепшай долі ў чужыне шукаць.
Можа зноў горкі лёс абмане
беларускага мужыка.

* * *

Гулка цягнік грукоча на рэйках,
вёрсты мінае, ўзбіваючы пыл.
Дальнія горы і дальнія рэкі!..
Як вас да долі старой прышчапіць?..
Бачылі ўсё беларускія вочы —
камень уральскі і гладзь Іртыша…
Сэрца ж забыць пра Радзіму не хоча:
новым паветрам цяжка дыхаць
Як-жа Марылі? Думкі дзяўчыніны…
Песьні нядаўныя, ночкі і сны!
Вочы ня ссохнуць — плачуць уначы яны,
з новай мо' долі плачуць яны?
Доля дзявочая! Бацькава воля
горы высокія ўзьняла між нас.

Плача Марыля па вочах саколіх,
гора Пятрусь ці мала зазнаў.

* * *

Як распусьціцца вясною
луг і гай,
Ты прыдзі тады са мною
пагуляй!..
Раскажы ты мне ўсю праўду,
раскажы,
Як жывеш ты на далёкай
на мяжы.
Ці зспомніла хоць раз ты
родны край:
Наша шчасьце, наша сьвята —
загукай!
Тваіх вуснаў чырвань сьніцца
толькі ў сьне.
Ці збіраеш ты суніцы
па вясьне?
Горкі лёс нам пераблытаў
берагі.
Мо забыла тыя дні ты
за другім!..

* * *

Зялёныя хвалі калыша Байкал.
Высока ўзьвіваюцца хвалі.
Ды скованы моцна абоймамі скал —
турмы ён сваёй не паваліць.
Калі ты спакойны, дык сьмела плыве
рыбацкі асмолены човен,
і сьмела трывожыць ён сховы твае,
твае серабрыстыя сховы.
Ці ведаў хто рэчку чысьцей Ангары,
празрысцей яе і сьцюдзёней?
Ці бачыў, як сонца над ёю гарыць
ў сьвітаньне праменьнем зялёным!..





І гоніць дачку сваю сіні Байкал
на кручы Шаманскага камня…
І аквамарынам гарыць яго вал
ў суровых гранітных кайданах.
Над дальнімі кручамі ў шэрані хмар
цьвітуць бурштыновыя пасмы…
Запаліць агонь свой пярун-уладар
ды ў хвалях зялёных пагасіць.
Ратуйся, рыбак! Набяжыць гураган,
расходзяцца гнеўныя нетры!
Ці-ж можна змагацца убогім стругам
з усходнім раз'юшаным ветрам?
Грымі, навальніца! Ўздымайся, Байкал,
на скалы, на чорныя кручы!..
Хай пеніцца вод тваіх поўны бакал
у час тваіх хмельных заручын.

* * *

За ўзгоркам узгорак,
бярэзьнік худы…
Старыя разоры,
старыя сьляды.
Хто ў лесе праехаў?
Бярозавы хруст…
У латаных стрэхах
жыве беларусь.
І ў новым, і ў шчасьці,
за дальні той шлях —
Такой засталася,
якою была.
Пабітыя шыбы,
паломаны плот.
З-пад Слуцку прышлі вы,
ці з Пінскіх балот?
Браточкі, сястрыцы!
Мо' новы ваш край
Даў з лепшай зямліцы
гусцей ураджай?

Чаму-ж вашы клеці
пустымі стаяць?..
І гойкае вецер
на згніўшую гаць…
Байкальскія горы,
старая тайга...
Ў сто раз за іх горай
Бабруйшчыны гай!
І тут, на Байкале,
на новай зямлі,
Вы шчасьця шукалі,
дык, мабыць, знайшлі.
Чаму-ж вашы песьні
зьвіняць, як даўней,
У беднай і цеснай
лясной старане?
За ўзгоркам узгорак —
да каменных гор.
Забытыя ўзоры
ашмянскіх вазёр.
Сібірскае рэха —
то таежны хруст…
У саломенных стрэхах
жыве Беларусь.

* * *

Мiналі гадзіны, канчаліся дні,
зьмяніліся родныя гоні,
Дзе ў громе змаганьняў пажары вайны
палілі краіны і копы…
І мірна квітнее на панскай зямлі
бяднотай засеяны колас.
І ў панскім палацы прытулак знайшлі
бальніца і сельская школа.
Стаў лугам абшар векавечных балот,
пакорны людзкому загаду.
І роднае слова пашану знайшло,
як самі ўзяліся за ўладу.





То Леніна сонца ў агнях барацьбы
ўзьняло беларускую сілу.
Ня рвуцца ўжо так беларусы ў Сібір
з радзімы свабоднай і мілай.

* * *

Вятры з цёмных дрэваў лісты церусяць.
Каторая восень мінае?
Чакае Марыля свайго Петруся,
мінулага шчасьця чакае.
Дзявочае сэрца — то лёд і граніт —
пад цёплым праменнем растане,
ды глыбака так у ім растуць карані
яго залатога каханьня.
Ні доўгія годы, ні кары, ні гнеў,
ні долі багатай спакусы —
дзявочае волі нішто не сагне,
да здрады ніхто не прымусіць.
Каторая восень асыпала сад?
Цямнее вада ў Байкале…
Гукае Марыля свайго Петруся,
мінулае шчасьце гукае.

* * *

Тры годы ў паўстанні змагаўся Пятрусь.
Якія пазнаў ён дарогі!
І з сэрцам яго дасягла Беларусь
да хмурных Байкальскіх атрогаў.
Там вораг астатні — мінулага дар —
‘шчэ звоніць крываваю зброяй…
Кляліся байцы, і сказаў камандарм:
— Рэспубліку мы абаронім!..
Павеяў з усходу сівы баргузін,
прыбраліся ў чорнае горы.
З байцоў у гэту ноч не заснуў ні адзін,
сухім заставаўся іх порах.
І ў стан з навальніцы вястун прыскакаў,

І вочы трывожнымі сталі…
— Сабраліся ворагаў сілы між скал
і вёска гарыць пад Байкалам…
Гадзіна прайшла. Затрашчаў кулямёт…
Сьмерць ўзьвілася з ветрам навокал.
Чырвоныя рушылі з боем ўпярод,
радзелі рады з кожным крокам…
Раве, нібы ранены зьвер, баргузін.
Адбіты і вёска, і скалы.
І з ворагаў злых не ўцёк ні адзін,
і многіх чырвоных ня стала.
І бедная вёска, як сьвечка, гарыць
(апошняя ворагаў справа!).
Над мёртвымі целамі ў кожным двары
пажары адходную правяць.
Хавалі забітых, як кінуў пажар
адны залатыя вугольлі.
І слова апошняе ўзяў камандарм:
— Мы ім не даруем ніколі,
праклятым забойцам. Іх Каінаў грэх
штыкамі сплаціць мы прымусім…
І тлелі абрыўкі саломенных стрэх,
і плакалі аб Беларусі…
Сагнаў вецер з неба хмар чорны абрус,
Штандары забітых пакрылі…
І мёртвыя вусны ўбачыў Пятрусь
На твары жаданым Марылі…

* * *

Час прайшоў — загаіліся раны,
вырас край наш і новым стаў —
ад дамоў гарадзкіх мураваных
да маленькага ў полі маста.
Ўсё мы бачым, і чуем, і знаем.
Дык навошта ізноў гаварыць,
як ад Менску да межаў Кітая
роўна сонца для ўсіх гарыць!
І сягоньня цьвіце над Байкалам





раньня яснага аквамарын.
І бялее Шаманскі камень
там, у вытаку Ангары.
Нібы там ні вайны, ні пажараў
не вялося і ня было…
І пажарышчы пазарасталі
новых дзён залатым быльлём.
Дні ўзнімаюцца вышай і вышай
між гісторыі крэпкіх скал.
Як раней, толькі хвалі крышыць
аб гранітныя сьцены Байкал.
І ў нас, на квітнеючым полі,
дзе балота калісьці было,
адшукала беднота долю —
не загасьне яе сьвятло!

## З ПАЭМЫ «СЛУЦАК»

Заліваючы далі вясёлай трывогаю,
З буйным свістам дарожны ўзвіваючы пыл,
Танцавалі вятры над старымі дарогамі,
Спатыкаючыся аб слупы.

Рвалі стрэшку з пахілай хацінкі аратага,
Праляталі з выццём праз пустыя хлявы
І з пашанаю бразгалі ў брамы багатыя,
Шапку скінуўшы з галавы.

Хмель па жылах гуляў, ўсё нутро ўзбаламучана,
Саматканы пояс зацягнуўшы вузлом,
Ў вышыванай кашулі кружылася Случчына —
Ажно рэха гуло.

Ажно рэха гуло над старым гадавальнікам
Густапсовай пароды, блакітнай крыві.
Рай папоў, дзяржымордаў і земскіх начальнікаў
Жыў і губ не крывіў.

Дый чаго іх крывіць, калі пуні напоўнены,
Калі плаціць багаты падатак зямля —
І пшаніцай, і жытам, і салам, і воўнаю!
Не турбуйся — гуляй!

Праца танная, чорныя рукі дармовыя,
Беднаты, парабкаў — хоць на рынак вязі;
Пісне хто — дык жа ёсць гадунцы густапсовыя,
Шмат над рэчкай лазы.

Шмат над рэчкай лазы, — хай маўчаць неслухмяныя,
Шмат у лесе асін, хай як камень маўчаць!
Хай зашыюць ім жонкі кашулі падраныя!
Працаваць! Працаваць!

Дзве было іх заўсёды, дзве розныя Случчыны —
Ў вышыванай кашулі і ў зрэбным рыззі,
З сытым рылам і з тварам, нядоляй замучаным,
У шырокіх халявах і ў лапцях з лазы.

Побач з поўнаю клецццю, з багатай адрынаю
Тлелі ў цёмных канурах гнілыя куткі,
Хлеб у кішкі ўпіваўся неадменнай мякінаю, —
Так вадзілася праз вякі.

І адна замыкала заваламі грознымі
Ўсе парогі свае, ўсе дарогі свае.
Толькі перад раднёй — прад гасцямі вяльможнымі
Адчыняліся брамы яе.

Адусюль наляталі бубновыя козыры
І далёкіх, і блізкіх круганоў карагод…
Напаўзалі прахвосты ўсіх масцей і колераў,
Нібы мухі на мёд.

Паясы і кашулі ўздымалі штандарамі,
Горда бразгалі шпорамі, білі ў званы;
Так вясёлая Случчына век гаспадарыла,
Умінаючы сытыя дні.

А другая — прыбітая, ціхая Случчына,
Ў жорсткай цемры блукала ля сытых акон





І кляла сваю долю кляцьбою пякучаю,
Пагражаючы кулаком.

З сілай волата, але з душою дзяцінаю,
Што не ўмела ні ўбачыць, ні распазнаць,
Гнула горб дваццаці над адной дзесяцінаю,
Каб дарма ураджай аддаць.

Вось яна, мая шчырая, родная, блізкая,
Так нядаўна… Знібыты, змардованы твар,
Але ў вочах адбіўся гарачымі іскрамі
Буйнай сілы пажар.

Гэта ж трэба было, каб у старым гадавальніку
Пазмаўкалі званы, пазляталі крыжы.
Рай папоў, дзержымордаў і земскіх начальнікаў
Ужо век свой аджыў.

*[1932]*

## З ПАЭМЫ «ВАЙНА ЗА МІР»

У карчомцы абадранай
Звоняць чаркі і карцы:
Там гуляюць аж да рання
Зухаватыя шаўцы.

І як сойдзе змрок вячэрні
На далёкія палі,
Там збіраюцца з майстэрняў
Цесляры і кавалі.

Усё роўна, — усіх балячак
За грашы не залячыць;
За апошнюю траячку
Слаўна горла прамачыць!

А назаўтра з сінім тварам
З рання дошкі габляваць,
Лудзіць людзям самавары
Ці абцасы падбіваць.

За свярдзёлак паламаны,
За пагнуты самавар —
Адрахуе усё старанна
Прагавіты гаспадар.

Не схаваешся нікуды —
хлеб на печы не расце;
ходзіць назіркам усюды
нэндзы згорбленая цень.

Хай зацірка ў печы стыне —
Дзе там лепшага шукаць —
Хай грызуцца гаспадыни
З-за пабітага гаршка.

Хай кіпіць гармідар вечны,
Хай дзяцей не моўкне піск…
Гіне воблік чалавечы,
А каму з яго карысць?

Хай на грошык твой зацвілы
Два заробіць гаспадар:
Пара рук — малая сіла
І нявыгадны тавар.

Нейкі чорт той быт жабрачы
На кавалкі падрабіў…
Эх! Нагнаў за дзень траячку —
За га-дзі-начку прапіў!

* * *

Як вулей вуліца гудзе,
Драбіны войкаюць надрыўна:
Сабраліся у святы дзень
Аднаасобнікі на рынак.

Грыбоў вялікі перавяз,
Капуста квашаная ў цэбры.
І ходзіць пуга раз-у-раз
Па конскіх вытыркнутых рэбрах.





На кожнай конскай галаве
Гара спрадвечнай конскай жальбы.
Спытайцеся, чым конь жыве —
Ён вам нямала расказаў-бы.

Ён вам сказаў бы, што надзел
Гаспадара занадта в узкі,
Што трэба вечна з дня ў дзень
Струхлелую салому хрумстаць.

Ён скажа: — У маім хляве
Шмат болей дырак, чымся сценак:
Улетку неяк пражывеш,
А ўзімку холадна страшэнна.

А ў працы ўсюды конь ды конь —
Канём усе заткнуты дзіркі.
Гаспадара шкада: хай ён
Жыве й засквaранай зацíркай,

Хай і смачнейшая яна
Ад той, што некалі бывала.
Але хіба ішла вайна
Ўсяго за адрабінку сала?

Павінен жа сябе бядняк
Цаніць высокай, поўнай мерай.
А гаспадар мой аніяк
Ў адкрытыя не ўвойдзе дзверы,

І дзіўна: цэлы век пражыў,
І шыю гнуў, і спіну горбіў,
А сцеражэ свае мяжы
Як дурань пісанае торбы.

Усё вакол яго расце,
Разгортваецца ўшыркі, ўдоўжкі;
З сваёй мяжою у хвасце
Паўзе ён непрыкметнай мошкай.

А што дала яму мяжа?
І сам ён гэтага не знае.
Звычайны нэндзны ўраджай
Тузе канца не абяцае…

З тугі апошнюю аброць
Мой гаспадар аддаў за чарку.
Што ні кажыце, я супроць
Аднаасобнай гаспадаркі!

*[1932]*



# ПРОЗА

## СПАТКАНЬНЕ
(Эскіз)

Бываюць ночы сінія. Па эмалі неба, як нейкія кветкі зялёныя, нятутэйшыя, рассыпаны зоркі і здаецца, што можна іх пералічыць.

І вось прыйшлося шмат бачыць. Бялявыя садкі Украіны і сталёвашэрыя кручы Каўказу. Цёмныя празрыстыя прасторы і нагія кручы Паваложжа. Шмат бачыць прыйшлося і ўсё-ж такі не магу забыць аднэй з такіх начэй. Бо бываюць такія толькі на Беларусі, і толькі наш туман можа расьсеяцца лёгкаю муцьцю па небе. Хто знае? Можа і зоркі ў нас ад таго зялёныя. Можа і неба ад таго шалясьціць эмальлю…

Тры дні ня меў я прытулку. Доўгія галодныя дні, поўныя роспачы і трывогі. Пасьля разгрому арганізацыі мне ня можна было паказвацца ні ў горадзе, ні ў вёсцы, бо ўся акруга была перапоўнена жандарамі, і мае прыкметы былі вядомы кожнаму з іх. Спадзявацца на нядбаласьць жандараў нельга было. Былі яны ўсе ўпартыя і неўмалімыя, бо дзесьці ў Пазнані пазаставаліся іх дзеці і жонкі, ненасычаныя яшчэ, палкія, жадаючыя… І таму парыўней былі рухі, і брыдкая смага кіпела ў грудзёх і хацелася хутчэй выслужыцца і пайсьці ў адстаўку пад ціхія пазнанскія стрэхі, у цёплыя двохспальныя ложкі. За кватэрай маёй сачыў, здавалася, адзін ставокі шпік, і мне заставалася толькі брадзяжыць у ніжнім горадзе, дзе кіпень людзей і бруд, і туман і дзе нават брат не знайшоў-бы брата. Але і тут трэба было быць асьцярожным.

Першы дзень прайшоў даволі хутка і гладка. І калі змоўк дзень і па вуліцы заснавалі толькі цені брадзяг і прастытутак, я забіўся ў пустую будку, дзе днём прадавалася тухлая зеляніна, і моцна заснуў.

Калі я прачнуўся, дык першаю думкай было, каб не папасьціся тут. Я асьцярожна выглянуў з-пад будкі. Было зусім ужо сьветла, але кругом — ні душы. Каля мосту стаяў паліцыянт і, перагнуўшыся праз бар’ер, сачыў заспанымі вачыма за тым, як разьбівалася мутная вада аб сваі, як круцілася ў вадзе перапуджаная трэсачка...

Зноў тузаніна, тлум людзей і галодны, няпрытульны дзень. У мяне ня было грошай. Пайсьці да знаёмых — значыла папасьціся. Красьціці прасіць — ня ў прынцыпе справа, — але гэта таксама вымушала выплысьці з натоўпу і зноў-жа — папасьціся. І вось блудзіў я паміж сытых і галодных, як я, паміж злых і добрых, тлустых і худых. Нейк глыбей і вастрэй стала розьніца паміж людзьмі. Ня ведаю, можа ў гэтыя дні было больш сэрца, чым розуму: толькі справа мая стала





яшчэ бліжэй і мілей мне. І балела душа, калі бачыў худых абадраных жанчын, якія асьцярожна таргаваліся за жмуток цыбулі ці за кавалак ляжалага мяса. Можа і таму абвастрыўся боль, што бачыў і другіх. Бачыў поўнапраўных і намазаных, прывабна апранутых, і гутаркі чуў. Блудлівыя, патаемныя гутаркі. Асклізлыя, як асеньні брук, салажавыя, як цукеркі з сахарынам…

І вось тады настала другая ноч. Вось такая зеленавокая, ды як з горнага крышталю, стыглая і выразная. Можа таму, што голад ужо адабраў шмат сіл, можа таму, што зьявілася нейкая прывычка да кожнага становішча, але ўжо ня так востра стаяла пытаньне, каб не папасьціся. І таму больш сьмела ішоў я па вуліцы, менш туліўся да шэрых халодных сьцен і менш думаў пра заўтрашні дзень.

І гэта была ня слабасьць.

Гэта шалёная іскрыстая гранёная цемра, маўклівая і няўхільная, яна робіць свой асаблівы ўплыў на чалавека. Лягчэй забіць чалавека ўночы і ня толькі таму, што ў цемры ня ўбачыш апошняе сударгі анямеўшых ад жаху вачэй. Лягчэй узяць жанчыну, якая ўдзень робіць уражаньне няпрыступнай і зусім не таму, што цемра хавае ад людзей. Слабнуць мускулы і развага змаўкае; мякчэе воля і тупеюць нэрвы ад цемры. А цемра гэта таемнымі зялёнымі вачыма залазіць у душу і нешта ў ёй нясказанае, нявымоўнае…

Ад маёй будкі пра маім набліжэньні шарахнулася і зьнікла ў цемры нейкая цень. Я бадай што не зьвярнуў на гэта ніякай увагі. Але калі я забраўся ў будку, пачуўся шорах, і я зразумеў, што я не адзін. З цемры пачуўся нізкі, хрыпаваты жаночы голас:

— Што, яшчэ разок захацеў?

І, не пачуўшы адказу, жанчына дадала:

— Ну што-ж! Гані яшчэ дваццаць марак — пазабаўляемся…

Засьмяялася ціхім смехам. Я маўчаў. Я зразумеў, хто перада мною і што тут толькі што было. Жанчына спалохалася маўклівасьці.

— Чаму ты маўчыш?..

Яна магла падняць трывогу, і я шапнуў, каб яна маўчала, што я зусім ня той, што тут толькі што быў.

— Хто-ж ты? — з ледзь чутнаю трывогай запыталася жанчына.

— Чалавек.

З цемры да мянеданёсься пах перагару ад гарэлкі…

— Чую, што не сабака. Але чаго туляешся тут…

— Інтарэс, знача, нейкі маю…

Нейкі час яна, відаць, разважала.

— А, відаць, з канаркамі не паладзіў.

І зноў ціхі драбязглявы сьмяшок.

— А хоць бы і так…

— Нічога, нічога, ты ня бойся. Я, хоць і… такая, але-ж ня выдам.

Памаўчала.

— І даўно ўжо бадзяешся так?

— Другую ноч.

— І так вось тут начаваў?

— Ну, а дзе-ж дзецца. Няма іншага прытулку.

— А грошы ў цябе ёсьць?

— Няма.

— То як-жа ты жывеш?

— А вось так і жыву.

Яе, відаць, ужо глыбока ахапіла цікавасьць да маёй асобы. Яна пачала засыпаць мяне пытаньнямі падзіцячаму, наіўна, зусім забыўшы і аб абставінах, якія нас акружалі, і пра сваю прафэсію і пра ўсё. І каціліся так вось хвіліны, прайшло некалькі гадзін, і ўсё распытвалася яна і расказвала пра сябе. І вось яно жыцьцё бяз лірыкі, яскравая проза без трафарэтнага канца.

Сірата. Бяз бацькі і маткі. Кравецкая майстэрня. Пабоі і раньнія сьлёзы. Роспач, горкая і беспрасьветная імгла наперадзе. Потым нейкая Берта Абрамаўна. Абяцала прыстроіць. Многіх прыстрайвала. А далей… Моцнае віно, нейкі вусаты дабрадзей. Ноч. Вострая боль. Раніца з цяжкім пахмельлем і тры рублі ў панчосе.

Ах, як гэта ўсё проста робіцца ў сьвеце. Уваходзіць у жыцьцё, як у салодкі сон, прыгожы, брыльянцісты. А пасьля… пахмельле.

У гутарцы неяк забылася ўсё. І голад і трывога. Распрасьцёрла перада мною крыльлі свае белыя і затаптаныя вялікая істота — кавалак чалавецтва.

І расказала мне яшчэ тая дзяўчына, што завуць яе Ганнай (а там, на бруку — Тамара), і што яна ўжо сем гадоў гуляе, і што яна можа і кінула-б гэта ўсё, але прывыкла, ды ня мела-б за што жыць.

Стала сьцюдзёна. Над рэчкай, мабыць, у гэты час клубіўся зялёны туман, і дробныя хмаркі перабягалі праз месяц. Мабыць спалі, зьвярнуўшыся ў клубок, сабакі пад гаспадарскімі ганкамі і бачылі ружовыя сны пра чалавечае жыцьцё, пра свае сабачыя радасьці. А мы, два чалавекі, думалі пра тое, што чакае нас абодвых заўтра і што сьвет пабудаваны ня так, як гэта было-б патрэбна нам. Мы маўчалі, але кожны з нас ведаў, пра што думае другі. Можа мы шукалі слоў, каб уцешыць адзін аднаго, і не знаходзілі іх. Маўчанку парушыла Ганна.





— Хадзем са мною, чалавеча. Што-ж тут, як сабака, будзеш валяцца.

Яе словы вярнулі мяне да рэчаіснасьці, і я ўспомніў, што два дні нічога ня еў і што невядома, калі гэта скончыцца. І я нічога не адказаў. Ганна іначай зразумела маю маўклівасьць.

— Ты ня думай. Мне грошай ўжо ня трэба. Я сёньня не пайду болей нікуды. Я ведаю, што ў цябе грошай няма. Пераначуеш у мяне і ўсё.

І мне стала сорамна перад ёю за тое, што я не адказаў і гэтым даў ёй повад падумаць, што і я належу да тае ненавіснае пароды, што гнала цяпер і яе і мяне.

Хата яе была недалёка. Гэта калісьці была крамка. Дзьверы з вуліцы і два ваконцы каля дзьвярый і рэшта сьцен — глухія. Мая спадарожніца запаліла сьвет, я тут я першы раз убачыў яе. На змучаным схудзелым твары яшчэ і цяпер зьмяіліся ледзь прыкметныя рыскі былой прыгажосьці. Нібы кветка, засохшая і паблеклая, страціўшая свае формы, але захаваўшая рэшткі свайго колеру, кавалкі пялёсткаў.

— Можа павячэраць са мной хочаш?

Я баяўся сказаць, што ня еў два дні. Але, мабыць, зьвярыны голад глянуў з маіх вачэй. Яна не чакала ўжо адказу і выцягнула з счарнелай ад часу шафы кавалак хлеба і гаркаватай, тонкай кілбасы.

Я змагаўся з сабою, каб не паказаць свайго голаду, каб не накінуцца на ежу сабачаю хваткаю. І я еў паціху. Я сьціскаў зубы і глытаў сьліну, якая наплывала і напаўняла ўвесь рот. Мне прыходзілася глытаць як найхутчэй, каб прыдушыць набягаючую ташнату. І, нарэшце, я забыў усё на сьвеце і еў, еў…

З трудом апамятаваўся. Ганна глядзела на мяне жахлівым шырокім поглядам. Можа гэта здалося мне, што ў яе раскрытых вачэй выбегла дробненькая сьлязінка і, пакаціўшыся па шэрым твары, упала на непакрыты стол. Можа гэта здалося. Але я чуў, як яна шаптала:

— Божа мой, божа… чаму гэта?.. Як…

Я чуў, як па жылах маіх зноў пачынае струменіць кроў, і пасьля слабасьці, ахапіўшай мяне на хвіліну, зноў запульсавала новая сіла. Пачалі напружвацца мускулы; у вачох перасталі мітусіцца чорныя цені.

І зноў мы маўчалі. І толькі бачыў я, як упарта глядзелі на мяне вочы, бліскучыя, як дыяменты. Адданасьць маткі, нежнасьць сястры, каханьне дзяўчыны — усё сусветнае каханьне сьвяцілася ў іх. І я ўявіў чамусьці сабе, якая нянавісьць павінна была сачыцца з гэтых вачэй на ўсіх выпадковых уладароў гэтага змучанага цела.

І тады не было ніякага жаданьня. А затым… ну што-ж маглі рабіць мы, над кім усім сваім цяжарам навісьлі і мараль і справядлівасьць. І самі сабой зьявіліся пяшчоты і сама загарэлася кроў…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зморaная і шчаслівая расказвала Ганна:

— А ведаеш, якія сны я бачу часамі. Я ў сьне ніколі ня бываю такою… У сьне я нібыта сама сабе гаспадыня і жыву, як сама хачу. І нібыта жыву ў вялікім добрым будынку… І нібыта ў мяне… дзіцятка, — сарамяжна дадала яна, утуліўшы галаву.

І празьвінела ў яе голасе нешта такое, ад чаго ў мяне кроў захаладнела. Гэта адчай жанчыны, адчай чалавека, адчай маткі, згубіўшай сваё дзіця…

— А дзіцяці ў мяне ніколі не было… Толькі ў сне бачыла.

І ўсё цела яе трапяталася. Здаецца, так вось, чуць прыкметна, трапечацца зямля ў часы вялікай засухі.

У вокны па-над занавескамі заглядалі зялёнымі крыштальнымі вачыма зоркі. Яны ўпіваліся ў думкі, высмактвалі ўвесь іх сэнс і зноў углядаліся ў самую глыбіню. Колькі сноў яны ведаюць, колькі нескаваных ні разу слоў…

— А ты не паверыш — я і цябе калісьці ў сьне бачыла… твару не бачыла, а проста так… ну, такога чалавека бачыла, як ты. Ведаеш… госьці, яны заўсёды п'яныя і ім адно толькі і патрэбна. Ім трэба, каб меней заплаціць і больш асалоды дастаць. А я ўсё нечага іншага хацела… Вось так, як мы з табой…

Нешта падкацілася мне пад горла калючым асьлізлым камочкам.

— Ведаеш, давай кінем гэта ўсё… перабярэмся ў другі горад. Будзем жыць разам. Я кіну вуліцу. Можа як-небудзь разам і працягаемся… Га? Ну скажы, ці хочаш гэтак? Ну скажы.

І ўсё цясьней і цясьней тулілася да мяне, як жанчына туліцца да чалавека, якога сапраўды любіць.

А мне было не па сабе. Гэтыя трывожныя дні, нэрвовая напружанасьць, гэта нечаканае спатканьне і наіўны лепет жанчыны — усё гэта канчаткова падарвала мае сілы і раптам выбухнула каскадам сьлёз і рыданьнем. Так плачуць ад шчасьця, так плачуць ад гора. Гэта разрад энергіі — гэта псіхічнае напружаньне, даведзенае да вышэйшага стопня.

І так плакаў я на грудзёх у прастытуткі, і сьлёзы разрывалі мне грудзі і змывалі ўсё, што набалела.

Ганна, зьбялелая ад сполаху ды трывогі, ня ведала, што рабіць і ніяк не магла зразумець, што гэта ўсё значыць.





— Ціха, ціха, каток мой, ціха… Божачка, што-ж такое… што рабіць…

Гладзіла па валасох і па твары і зноў пачынала супакойваць.

— Ну перастань… будзе. Супакойся, родненькі…

І ў голасе яе звінелі ноткі ўстрывожанай маткі, нежнай сястры, дзяўчыны, нявесты…

— Родны мой, супакойся…

Доўга яшчэ ня мог я супакоіцца. Я чуў, як з аблягчэньнем уздыхнула жанчына, калі спыніўся паток сьлёз.

— Ой, што-ж гэта з табою было. Я чуць не памерла са страху…

Яна прытулілася да мяне ізноў, і я шчыра і моцна абняў яе… як сястру.

Было ўжо вельмі позна. Неба памутнела. Хутка павінна было наступіць расьсьвітаньне. Я заснуў, і сны адзін прыгажэй другога кружыліся нада мною .

І зоры ласкавым і таемным поглядам песьцілі наша спатканьне — загнаных і замучаных няласкай і варожасьцю.

* * *

Калі я прачнуўся, было ўжо сьветла. Ганна салодка спала і скрозь шэрую скуру па яе твары нясьмела прабіваўся чуць прыкметны румянец.

— Якою яна была да… гэтага?

Я выглянуў на вуліцу. Кругом ні душы. Самая лепшая пара. Мне не хацелася трывожыць жанчыну, і я рашыў ціханька выйсьці. Я глянуў апошні раз на яе, ціха адчыніў дзьверы і вышаў.

Гэты дзень быў апошнім днём майго валачэбнага жыцьця. Пад вечар мяне адшукаў таварыш з N-й арганізацыі, які даў пашпарт і грошы на дарогу, і я ўжо на дргуі дзень перабраўся ў другую акругу пад самым носам жандарскай заставы.

Я ніколі не спатыкаў больш Ганны, і, мабыць, ніколі ўжо не спаткаю. Але і да гэтага часу не магу забыць тае ночы, калі мы, двое змучаных жыцьцём людзей, так блізка падышлі адзін да аднаго, так глыбока заглянулі ў душу адзін аднаму і так востра і так выразна адзін аднаго зразумелі.

Беларуская ноч. Сіняя, глыбокая. Пад яе ставокім поглядам выразьнейшымі робяцца думкі і толькі словаў няма такіх, каб перадаць усё. Толькі на Беларусі бываюць такія ночы.

*[1926]*

# АД МЕНСКУ ДА УЛАДЫВАСТОКУ
## НА БАЙКАЛЕ
## (нарыс)

Вузкая даліна Ангары выводзіць цягнік да Байкалу. Байкал зьяўляецца перад вачыма як-бы зьнянацку, з-за крутога павароту, з-за высокай сіняй гары. З нецярплівасьцю чакаем, калі можна будзе поўным вокам глянуць на праслаўленае возера. Тут яго часамі называюць нават морам. Ды і песьня яшчэ ёсьць, старая вастрожная песьня пра «славное море, священный Байкал».

Станцыя Байкал. На самым беразе, над крутым абрывам, прытуліліся маленечкія вакзальныя будынкі. Тут-жа прыстань, і недалёка ад яе паўстае з вады вялічэзнаю скалою паравы паром «Байкал». Цяпер ён у адстаўцы, яго дапамога непатрэбна, а ня так даўно, калі яшчэ не было кругабайкальскай чыгункі, гэты асілак браў на свае плечы цэлы састаў цягніка і перавозіў праз «мора». У ранішнім празрыстым паветры горы другога берагу здаюцца зусім блізкімі. Але да іх больш як 50 кілёмэтраў і ехаць туды трэба чуць ня суткі.

І вось паволі, асьцярожненька папоўз цягнік па вузенькай істужцы паміж вадой і гранітнымі кручамі. Шмат сіл, відаць, трэба было патраціць, шмат сродкаў, каб адваяваць ад возера і яго гранітных вартаўнікоў гэту вузенькую вілаватую палоску зямлі.

Дзень сонечны, прыгожы, а вада ў возеры празрыстая, як шкло: так і сьвецяцца праз яе зялёныя каменьні вапняковага дна. І вада ад гэтага прымае мяккі, бліскучы аквамарынавы колер. Усё возера, і паветра над ім, і дальнія горы паўднёвага берагу — усё зьліваецца ў адзін тон, усё падзёрнута сінім колерам. І бадай што зусім згладжваюцца лініі ў гэтай аквамарынавай урачыстасьці.

Ніколі не даруе стары Байкал гэтай палоскі, адабранай ад яго. І часамі вышэй узьнімаюцца яго хвалі, і адрываюць ад фантастычна завітай надбярэжнай сьцежкі вялізныя кавалкі. Тады рэха перамогі разносіцца паміж гор, прабягае тунэлі і разьліваецца над вялікім водным прасторам. Небясьпечна хадзіць цягнікам над Байкалам: то дарогу размые, то засыпле абвалам тунэль, то яшчэ якое няшчасьце можа здарыцца. Таму паволі ідзе цягнік і яшчэ болей затрымлівае ход на спусках і, наогул, цягнецца ў два разы больш, чым па звычайнай дарозе.





Налева возера, направа горы. Але ня ўсюды горы свабодна прапускаюць чыгунку па беразе: мясьцінамі крэпка тупаюць гранітныя асілкі ў ваду: і тут дапамагалі электрычныя сьвёрлы, дынаміт.

І так, адрываючы з вялікім трудом камень за каменем, стальлю і дынамітам прасьвярлілі людзі 79 тунэляў і галерэй ў недаступных байкальскіх сьценах.

Вышэй паднімаецца сонца, але яшчэ сіней ад гэтага вада і паўднёвы бераг. Толькі ясьнейшымі робяцца лініі і здаецца, што там па ўсім беразе разьмясьціліся дзясяткі чаўноў пад парусамі — гэта бялеюць праломы ў гарах. А паміж імі цяжкімі цёмнымі патокамі спускаецца да возера лес. Паўднёвы бераг, здаецца, зусім не кратаецца з месца. І з гэтага боку канца няма крутым заваротам і аб’ездам. Цягнік ідзе па крутым абрыве, над самаю вадою: вось-вось, здаецца, сарвецца і зачарпне халоднай і празрыстай байкальскай вады… А вось і сьляды нядаўнага абвалу. Мэтры на чатыры ўніз разьмяталіся груды размытай зямлі і каменьняў, валяюцца шпалы. Тут цягнік ідзе поступам заморанай клячы (ва ўсякім выпадку ня хутчэй). На штабелях новых шпал унізе стаяць рамонтныя рабочыя.

— Ці няма газэты, — гукаюць яны ў адчыненыя вокны вагонаў.

Адтуль ляціць некалькі газэт. Прагна хапаюцца за іх хлопцы: ня дзень і ня два павінны яны прабыць у гэтай глушы сам-на-сам з возерам, ды глухімі гарамі, што дамоклавым мячом навісьлі над безабароннаю чыгункай. І толькі гэтыя выпадковыя газэты даюць магчымасьць даведацца, што робіцца на сьвеце, куды кіруецца жыцьцё.

Зноў крутыя завароты, тунэлі, галярэі. Вось над самаю вадою павісла тонкая стройная скала: яна так напамінае чуць чуць нахіленую фігуру чалавека, які пільна ўглядаецца ў возера, нібы жадаючы нешта там знайсьці.

Разьезд Шарыжалгай. Тры-чатыры ўбогія будыначкі на вузенькім каменным выступе. Над імі высокая гара, пакрытая густым лесам. З боку возера гара гладка абсечана, і, як нядаўна залечаныя раны, выступаюць з яе адросткі яе гранітнага касьцяка. Ад самага раз’езду узыйсьці на яе немагчыма — адвесная сьцяна, вышынёю ня менш як 15 мэтраў, не дазваляе аб гэтым і падумаць.

Мы павінны прайсьці каля кілёмэтра, каб знайсьці месца, адкуль лягчэй пачаць пад’ём. Чуць прыметная сьцежачка крута завіваецца між дрэваў, вострых каменьняў, часам зусім прападае яна і тады

трэба ісьці наўгад, пакуль зноў ня вынырне яна ў сухой і калючай траве. Асыпаюцца з-пад ног дробныя каменьчыкі і з лёгкім стукам скачуць уніз па сьцежцы. Лес гусьцее. Праз шырокія прарэзы лісьця сінее Байкал і ледзь-ледзь прасачываюцца сонечныя праменьні.

Пад'ём на гару займае каля двух гадзін. На верхавіне лесу ўжо няма. На поўнач горы робяцца ўсё ясьней і ясьней і паступова пераходзяць у раўніну.

Але Байкал! Адсюль, з вышыні, так добра відаць усе тыя завароты і зломы, якія робіць круты бераг. Сінія акруглыя бухтачкі і вузенькія, але бурлівыя горныя рачулкі. Уздоўж берагу белымі іскрамі узьлятаюць шыракакрылыя чайкі. Блакітная паверхня возера зіхаціць срэбранымі жылкамі — аж воку балюча робіцца глядзець. Недзе там, за дальняй гарой схаваўся апошні дымок нашага цягніка.

Вечар чорнымі ценямі выпаўзае з-пад гор на Байкал, вільготны вецярок разьбіўся аб скалы і сьціх. Мы сядзім у будцы чыгуначнага вартаўніка і як зачарованыя слухаем бясконцыя апавяданьні пра возера.

— Вы не глядзіце, што яно сьмірнае такое… Часам, як разгуляецца, дык сьвету ня відаць…

Вартаўнік — стары ўжо чалавек, шмат пажыў тут, шмат бачыў.

— Жывучы тут, можна цэлае багацьце набыць, асабліва рыбакам. Ды каб яшчэ справу як сьлед наладзіць. А то прападае ўся наша рыба байкальская.

Позна ўвечары пачынае павялічвацца вецярок. З сухім хрустам набягаюць на бераг хвалі штораз дужэйшыя. На грэбнях іх замільгалі «бараньчыкі».

— Будзе заўтра навальніца, — кажа стары.

Мы з недавер'ем глянулі на чыстае неба, усыпанае зоркамі.

* * *

Раніцою пачынае Байкал мяняць свой колер. На густа-чорнай паверхні распаўзаюцца шэрыя цені — сьвятлей, сьвятлей… Яшчэ некалькі гадзін — і зноў загарэўся стары Байкал аквамарынам. Ясны такі дзень, сонечны… Выкупацца-б.

— Э, не! Ня варта, — папярэджвае нас стары. Тут купацца няможна: вада як лёд — апякае проста. Таму, мабыць, і чыстая такая вада ў ім… холад ачышчае…

З жалем адыходзім ад берагу…





* * *

Вось і адыходзіць наш цягнік. Толькі пад вечар пад'яжджаем да Сьлюдзянкі — станцыі, якая заканчывае вучастак тунэляў і выводзіць чыгунку на больш вольны простор.

А вось Танхой і, нарэшце, Мысавая, апошняя станцыя на Байкале. Адгэтуль пазнаём, што праўду казаў нам учора стары вартаўнік…

Над паўночным берагам назьбіраліся громоздкія масыўныя хмары. Няма ім канца. Чорныя. І толькі прасьветы заходняга неба і вострыя зыгзагі маланкі ствараюць малюнак незвычайнай дзікай прыгожасьці. Гэтыя пачарнелыя горы і хмары над імі як разьвітыя, ускудлачаныя кудры. Перавага чорнай фарбы, але скампанавана на дзіва ў аптымістычным пляне. Вось як бывае, калі маладая, жвавая, вясёлая дзяўчына надзене жалобу. Хай уся яна будзе ў чорным, хай сьлёзы ліюцца з вачэй — але праз усё гэта нібы маланка час ад часу пранясецца водбліск маладосьці і жыцьцярадаснасьці.

*Красна сонейка ўзыдзе,*
*Раса высахне…*

Дзіўны малюнак. І з нейкім жалем адрываліся мы ад яго і пільна лавілі ў начной цемры апошнія ўсплёскі навальніцы там, за Байкалам.

*г. Верхнеўдзінск*
*[1927]*

## САМАГУБЦА
(навэла)

Калі я першы раз спаткаў гэтага чалавека, я адчуваў, што яго постаць і аблічча надоўга ўрэжуцца ў маю памяць.

Гэта бывае ня часта: звычайна большасьць людзей па твару можна падзяліць на некалькі тыпаў; і толькі час ад часу пападаюцца глыбока арыгінальныя твары, якія надоўга ўразаюцца ў памяць. Тут нават і гэтага не было. Мой новы знаёмы — высокі, хударлявы хлопец з жаўгімі жоўта-белымі валасамі, зачасанымі назад, быў падобны на многіх іншых, якіх мне ня раз даводзілася спатыкаць. Толькі вялікія, глыбока пасаджаныя вочы ды нейкая нэрвознасьць у рухах — толькі гэта вылучала яго з агульнай масы.

У фойэ ў часе перапынку лекцыі вядомага профэсара нас пазнаёміў мой сябра і адразу пастараўся пакінуць нас адных. Ён хадзіў са мною, трымаючы левую руку за поясам, а праваю час ад часу адкідаў назад непаслухмяныя пасмы валасоў; пры гэтым ён і ўсю галаву закідаў назад, і ледзь-ледзь прыкметна раскрываліся яго вусны, паказваючы вузенькую палоску пажаўцелых ад курэньня зубоў. Гутарка ў нас клеілася слаба; думкі майго знаёмца пра лекцыю неяк блыталіся, і відаць было, што лекцыя або незразумелая для яго, або мала яго цікавіць.

— Вы студэнт, мабыць, — запытаўся я, калі пераканаўся, што лекцыя ўжо ня можа служыць тэмаю для гутаркі.

Ён ажывіўся.

— Так, сёлета паступіў на другі курс. Я дагэтуль быў гады чатыры настаўнікам у N-скай акрузе, — ён пераліставаў свае тонкія спаленыя вусны і дадаў: — Гэта за апошнія гады мая патаемная думка была — дабрацца да ўнівэрсітэту.

— А раней хіба не хацелася?

На твары майго знаёмага мільганула нешта накшталт усьмешкі.

— О, раней… Раней зусім ня тое было… Гэта цяжка растлумачыць, але былі зусім інакшыя жаданьні, думкі другія.

Гэта ўжо было цікава. Рэдка можна спаткаць чалавека, які, раз спрабаваўшы навукі, ня думаў пашыраць свае веды. Таму мне хацелася дазнацца аб прычынах гэткага дзіўнага настрою. Я пачаў дапытвацца. Мой знаёмы спачатку як-бы абдумваў, з чаго пачаць, а пасьля пачаў, гледзячы міма мяне.

— Ну, я проста ня ведаю, як гэта распачаць. Бачыце, да рэвалюцыі я яшчэ быў занадта малы, каб думаць пра гэта… Як пайсьці куды. А пасьля неяк ясьней стала ўсё і прычыны зьявў усякіх. Вось пацягнула ў глуш, у вёску, каб там рабіць нейкую карысную справу…

— Што ж, пачатак добры, — уставіў я.

Мой знаёмы глянуў на мяне і на твары яго пранеслася хваравітая усьмешка.

— Вы так думаеце?.. Вы мыляецеся.

І раптам, нібыта сарваўшыся з нейкага невядомага ланцуга, ён разгарачыўся. Рукі і пальцы забегалі жывей, твар разгарэўся.

— Гэта лёгка казаць, не спытаўшы… А вось калі зімою ды стукнуць маразы, ды завея расходзіцца, нібы апошні дзень наступае… Калі да людзей ня бліжэй за паўтары вярсты, ды калі людзі на цябе воўчым поглядам глядзяць… Ды калі ведаеш, што на цэлым сьвеце няма аніводнай душы, якая пра цябе ўспомніла б… Эх…

Ён безнадзейна махнуў рукой, ды зноў пачаў папраўляць валасы на галаве.

— Я ўсе гэтыя гады прабыў адзін у школе. Вёска невялікая, але крэпкая, гаспадары жывуць нічога сабе… Першы год прыходзілася ім ссыпшчыну зьбіраць на школу, апал даставаць, — пачалі на мяне за гэта касавурыцца; яшчэ дамагаліся, каб закон божы ў школе вучыў. Другі год пайшла з папом грызьня; ён, бачыце, спачатку мяне не чапаў, бо думаў з дачок каторую за мяне аддаць, у яго іх цэлы ўзвод. Ну, а як убачыў, што не туды яно ідзе, дык і пачаў падстраіваць. Але я тады яшчэ не страціў надзеі; энэргіі, запалу яшчэ шмат было. Ну, а потым… Потым на мяне пачалі касавурыцца за тое, што пэнсію стаў атрымліваць, а потым за школьны надзел. Ды ці мала яшчэ было…

Ён апусьціў галаву і залажыў рукі за сьпіну.

— Ну і вось, — казаў ён далей крыху заглушаным голасам, — дайшло да таго, што мне нікуды паказацца нельга было… Прыдзе восень, пачнуцца заняткі ў школе — тады лягчэй. Хоць раніцаю ды людзі прыходзяць, маленькія, але ж і яны на старэйшых глядзяць. І вось пойдуць, настане вечар… Але вецер барабаніць па школе, лісты асыпаюцца. А зімою, дык і ўспомніць страшна… І тады, ў гэткія хвіліны…

Зазваніў званок, апавяшчаючы пра канец перапынку. Мы накіраваліся ў залю, мой знаёмы, абарваўшы зразу, як бы ўспамінаў, на чым ён кончыў. Ён правёў рукой па лобе, і голасам, у якім чуліся нейкія драбязглівыя ноткі, закончыў:

— Так, у гэткія хвіліны мімаволі паўстае думка: навошта жыць? Для каго і для чаго…

— Гэта дужа цікавыя разважаньні, — сказаў я. — Я з вялікаю ахвотаю пагутарыў бы зноў з вамі на гэтую тэму. Калі б вы мелі магчымасьць заглянуць калі да мяне…

— Калі дазволіце, дык чаму-ж?.. Толькі нецікава са мною гутарку весьці… я сваім карканьнем магу чалавека ў такую нуду ўвагнаць, што ён пачне думаць пра ўсякія нецікавыя рэчы.

Я ўсьміхнуўся — у яго словах была доля праўды. Але, каб не падаць віду, што згаджаюся з яго словамі, я яго супакоіў:

— Нічога, я не з нэрвовых… Дык заходзьце калі…

Я накідаў у блёкноціку свой адрас і, выдраўшы лісток, перадаў свайму новаму знаёмаму.

* * *

Прайшло месяцы два. Я ўжо бадай што забыўся пра сваё выпадковае знаёмства. Хлапец не прыходзіў да мяне, дый мяне ўжо мала цікавіла яго гісторыя. Я быў перакананы, што настрой яго быў выпадковы: проста непрыёмнасьць якая здарылася — гэта часта бывае, і хлапец ударыўся ў лірыку. І вось прыйшоў лістаносец, і прынёс ліст на маё імя. На канвэрце стаяў штамп «N-ск» і характар адрасу быў мне зусім незнаёмы. Я разадраў канвэрт і дастаў адтуль некалькі дробна сьпісаных лістоў, нібыта жаночаю рукою. Атрымліваць лісты ад жанчыны — гэта цікава для многіх, і я не складаю выключэньня і, грэшны чалавек, люблю, калі жанчына піша ліст на акуратненькім маленькім аркушы, зграбна складзеным і са строгімі чорнымі радочкамі. Калі ліст напісаны маладою жанчынаю, дык ад яго павявае заўсёды сьвежасьцю і маладосьцю яго аўтаркі.

Унізе ліста я с разачараваньнем прачытаў подпіс — Максім Шаўрук. Я стараўся ўспомніць, хто гэта такі. Нічога не выходзіла. Памяць на гэты раз мне здрадзіла. Я пачаў чытаць ліст.

«Вы пэўне ўжо забыліся пра наша знаёмства і сваю прапазыцыю зайсьці да вас і пагутарыць на тую тэму, аб якой тады гутарылі… Вы можа і не ўспомнілі пра гэты час пра тыя магчыма дзікія думкі, якія я Вам пачаў выкладаць у часе лекцыі профэсора Г…»

І тады перад маімі вачыма зноў паўстала хударлявая постаць майго клюбнага знаёмага, яго доўгія валасы, яго нэрвозныя рукі і яго вочы, глыбока пасаджаныя на твары аскета — вочы фанатыка. Я ўзяўся за ліст ужо з большай цікавасьцю.

«Магчыма, што Вы гэты мой ліст, як і тую гутарку, можаце прыняць за звычайныя хлапецкія хістаньні. Але, гэта зусім сур’ёзна, Вам апошнямі пішу я гэты ліст і на Ваш суд аддаю ўвесь шлях маёй думкі за гэтыя гады. Я вельмі даўно задаўся думкаю, што няма чаго жыць, няма ніякай мэты і ніякага сэнсу. Вы можаце адмовіць гэта, можаце спаслацца на гісторыю разьвіцьця чалавецтва, на ўсякія ўзьнятыя пачуцьці, на інстынкты. І ўсё ж такі Вы не здолелі б мяне пераканаць. Я кінуў унівэрсітэт выключна ў выніку маіх разважаньняў: раз няма чаго жыць, дык вучыцца тым больш. І навошта гэта? Для каго? Для другіх, якія будуць карыстацца вынікамі маёй працы — малая ўцеха!.. А самому мне не гэтак ужо многа і трэба. Вось у мяне нядаўна здарыўся адзін дзікі выпадак. Спаткаўся з ціхаю і ласкавай дзяўчынаю, якая мяне пакахала. Я спачатку аднёсься да гэтага роўнадушна. А потым апанавала мяне нейкая злосьць. Як гэта! На мяне прад’яўляюць прэтэнзіі, мне хочуць навязаць на шыю нейкі абавязак, ці яшчэ што! І я рашыў не грэбаваць дабром. Я пачаў удаваць, быццам і я закахаўся, пачаў ціскаць дзяўчыну па кутках, абяцаў жаніцца, і яна мне аддалася. Доўга плакала, казала, што я першы і… Гэта аказалася праўда. Гэта на мяне зрабіла некаторае ўражаньне, але ж, безумоўна, я ня зьбіраюся ашчасьлівіць род чалавечы яшчэ параю гэткіх няздар, як я. Яна прыходзіць да мяне кожны вечар, яна прывыкла ўжо да маіх пяшчот і, відаць, у яе ўжо зьяўляецца думка, што я яе ашукваю. А я гэтага, каб і хацеў, папярэдзіць не магу. Не магу, таму што гэта было б для мяне ні чым іншым, як здрадаю, ну хаця б маім прынцыпам. Тут я крыху недакладна выказваю сваю думку. У мяне няма прынцыпаў, бо няма ніякай мэты, у мяне прынцыпам зьяўляецца беспрынцыповасьць. Бо сапраўды, хто мае нейкія прынцыпы, той ўжо мае мэту. А я зноў кажу, што і маё, і Ваша, і многіх іншых жыцьцё ніякай мэты не мае і ня будзе мець. Жыцьцё ніколі не пойдзе так, як хацелася б мне, а я на запятках хаця б і ў жыцьця стаяць не хачу і ня буду ніколі. Вы можаце палічыць мяне за вар’ята. Можа Вы і не памыліліся б у гэтым. Можа я і сапраўды вар’ят, але да гэтага я дайшоў ня сам. Мяне зьбілі з панталыку тыя людзі, што пусьцілі мяне на вёску, тыя, што пакідалі мяне аднаго чатыры гады. Мне цяпер яшчэ жудасна ўспомніць. Зіма… Завіруха гудзе за вакном… Трасе школу зь верху да нізу і здаецца зараз паваліць яе, а непадалёк у лесе заводзіць воўк, ды так заводзіць, што проста душу выматвае. І ва ўсім гэтым вінны другіе, ня я. Адны — што прымусілі мяне паверыць, другія — што прымусілі перастаць верыць. Я цяпер зноў працую ў школе. Ужо ў горадзе. Але нішто цяпер не зьменіць маёй пастановы. Я зраблю людзям яшчэ адну непрыемнасьць, пакінуўшы гэта праклятае жыцьцё без усякіх апраўдальных дакументаў. Няхай пабегаюць.

Даруйце, што гэтак доўга адбіраю Вашу ўвагу, але толькі з Вамі адным я наважыўся закрануць гэтую балючую для мяне тэму, памятаючы ваша жаданьне пагутарыць са мною, а затым бывайце і даруйце.

N-ск, 15 сьнежня 192_г

*Ваш Максім Шаўрук».*

Дачытаўшы ліст да канца, я доўгі час ня мог прывесьці ў парадак свае думкі, ўявіць сабе, што гэта, ўрэшце, за чалавек — Максім Шаўрук.

Чым можа сапраўды скончыцца гэта гісторыя? І вось мне ўяўляліся самыя жудасныя малюнкі. Стрэл, адзін толькі стрэл — і ўсё скончана: застыгнуць на месцы глыбокія вочы і шалёна раскінуцца доўгія жоўта-белыя валасы, асыпаныя чорнымі згусткамі крыві… А можа вяроўка?.. Атрута?..

У якое дзікае становішча паставіў мяне гэты ліст. Недзе нейкі чалавек разьвітваецца з жыцьцём, я пра гэта ведаю — і што рабіць?

Яшчэ каб у адным горадзе, а то N-ск. Ехаць амаль што два дні трэба. І я пастанавіў чакаць, чым гэта ўсё скончыцца…

Тымчасам праходзілі дні. Я ўважна сачыў за N-скімі газэтамі, уважна лавіў кожную вестку з гэтага далёкага закінутага гарадка. Але лістоў больш адтуль не атрымліваў і ў газетах нічога не было, хаця хроніка самагубстваў вялся ў іх даволі акуратна. Прыежджыя з N-ску нічога таксама сказаць не маглі.

* * *

Праз год зусім выпадкова мне давялося папасьці ў N-ск. Прабыў два дні, агледзеў горад і усе яго цікавыя мясьціны, маючыя вялікае гістарычнае значэньне. Пад канец другога дня зложыў рэчы і павінен быў увечары выехаць. Але да цягніка заставалася яшчэ гадзін сем, і я надумаўся зайсьці яшчэ да аднаго з сваіх даўнейшых сяброў, які цяпер працаваў у N-ску. Я прасядзеў у яго хвілін дваццаць, дагаварыўся аб тым, што разам пойдзем на станцыю. Раптам нехта пастукаў у дзьверы.

— Уваходзьце, — кінуў мой сябра.

Дзьверы адчынілся і ўвайшоў… Максім Шаўрук. Каб у той момант перада мною разарваўся снарад, дык выбух зрабіў бы на мяне меншае ўражаньне, чымся спатканьне з гэтым чалавекам. Перада мною адразу ўсплыла і наша колішняя гутарка, і ліст, і мае настроі таго часу. Але гэта быў ён. Убачыўшы мяне, ён крыху пачырванеў, але, калі мой сябра пачаў нас знаёміць, дык ён перапыніў яго:

— Мы ўжо знаёмы…

І, зьвяртаючыся да мяне, вінаватым тонам дадаў:

— Праўда, вы памятаеце, — і знаёмым рухам адкінуў назад валасы.





Я прывітаўся, але ніяк не мог апамятацца. Вось гэты самы чалавек, які год таму назад напісаў мне такі ліст; я лічыў, што і на мяне ў пэўнай долі падае віна за яго сьмерць… І вось гэты чалавек тут, перада мною, гаворыць, нешта, жартуючы, апавядае майму сябру.

Я ўстаў і адвітаўся, але як толькі ўзяўся за клямку, Шаўрук мяне спыніў.

— Чакайце, я таксама іду. Я толькі на хвілінку заходзіў.

Мы шлі па вуліцы і абодва маўчалі. Не было як і з чаго пачаць, і кожнаму было не па сабе. Нарэшце, загаварыў Шаўрук.

— Вы даўно сюды прыехалі?..

— Заўчора. Сягоньня ад'язджаю.

— Што ж так хутка?

— А што болей я маю рабіць тут?

— Ну ўсё ж такі… горад паглядзелі б, людзей.

Пытаньні такім чынам былі вычарпаны. Наступіла мая чарга.

— Вы працуеце тут дзе-небудзь?

— Настаўнікам, вядома. Але цяжкавата, ведаеце. Жонка, дзяцё, а пэнсія настаўніцкая, самі ведаеце, якая…

Гэта ўжо было зусім нечакана. Шаўрук, жонка, дзіцё — гэта вязалася паміж сабой вельмі і вельмі слаба.

— Ды яшчэ, паміж намі кажучы, і атмасфера тут цяжкая. Няма таго, каб усе за аднаго ішлі, — а кожны ў свой кацёл цягне. Сваякі, кумы, сябры ўсякія. Хто язык доўгі мае, той усяго даб'ецца, а ціхаму чалавеку ўсе дарогі зачынены…

Я дзівіўся ўсё болей і болей. Калі Шаўрук прапанаваў мне заглянуць да яго, я не адмовіўся. Дужа цікава было паглядзець на гэтага чалавека ў хатніх абставінах.

Быў ужо вечар, калі мы падышлі да яго хаты; акяніцы былі зачынены. Шаўрук пастукаўся ў дзьверы. Прайшло не менш дзьвёх хвілін, пакуль бразнуў крук, як відаць, другіх дзьвярэй, і жаночы, крыху трывожны, голас запытаўся:

— Хто гэта?

— Свае, свае, — азваўся Шаўрук.

— Гэта ты, Максім?

— Так, адчыняй.

Адчынілся і зачынілся дзьверы. Я сьледам за Максімам прайшоў невялічкую прыхожую і ўвайшоў у сьветлы пакой. Там ля стала

сядзела маладая жанчына і нешта шыла. Падняўшы вочы і ўбачыўшы мяне, яна ўскочыла.

— Ай, з табой госьць, а я непрыбрана…

І шпарка выбегла ў суседні пакой.

Я беглым вокам акінуў пакой. Невялічкі і чысты, ён паказваў прыстунасьць жанчыны. На вокнах стаялі гаршочкі з хатнімі кветкамі — па чатыры на кожным з вельмі малымі інтэрваламі паміж іх. На сьценах у строга сімэтрычным парадку былі зграмаджаны фатаграфіі ў тоненькіх старамодных чорных рамках за шклом; было такіх фатаграфій два ці тры камплекты, штук па дзесяць у кожным. Па-над імі былі прычэплены запыленыя каляровыя вахляры з паперы; такія вахляры ў свой час насілі па вуліцах кітайцы і прадавалі па залатоўцы за штуку. На абавязковым камодзе паміж двох букетаў штучных кветак, вельмі буйных і яркіх, стаяла надколатае люстэрка ў форме сэрца, а перад імі фатаграфія Шаўрука з жонкай; ён сядзіць, яна стаіць, палажыўшы руку на плячо мужа, і ўся яе фігура — гэта жывы пратэст супраць катаваньня фатографа, які гэтак доўга прымушае яе трымацца ў такой ненатуральнай, хоць і адзіна прыстойнай позе. Каля сьцяны — канапа чухонскага вырабу a la Loris Quinze, абабітае пярэстаю крамнінаю. Пара крэслаў у гэткім жа стылі, адзін зэдлік і тры венскія крэслы розных форм — усё гэта давяршала прыбранства пакою разам з масыўным сталом і параю рознакаліберных малюнкаў з старажытнамаскоўскімі сюжэтамі. У самым кутку — некалькі абразоў.

Шаўрук замітусіўся па пакоі, шукаючы для мяне лепшага месца, але я ўжо сеў на першае крэсла, якое папалася.

— Вы не зважайце, таварыш, што ў мяне абразы: гэта жонка мая яшчэ ніяк ад забабонаў адмовіцца не можа. А я нічога.

Я нешта буркнуў у адказ. Памаўчалі.

— А скажэце, NN вам даўно знаёмы?.. Як вы на яго глядзіце?.. — нечакана спытаўся Шаўрук пра майго сябра, у якога мы сустрэліся.

— Я-та ведаю яго даўно, але не вельмі блізка, — зманіў я.

— Непрыемны чалавек. Пралаза. Дзе што не робіцца — усюды нос ткне. Ён у нас сакратар месткому, дык прыходзіцца ладзіць. А так — непрыемны чалавек… Дый многа ў нас такіх. Ад начальства далёка, дык яны і робяць як хочуць. Вам там добра ў Менску…

У гэты час у пакой увайшла маладая сьветлавалосая нізенькая жанчына. Шаўрук зноў замітусіўся.





— А вось, пазнаёмцеся, мая жонка… Клавачка, ты б гасьця гарбаткаю пачаставала.

Гэта была жанчына, якіх многа. Яна як бы сарвалася з цукерачнага карабка для таго, каб папасьці ў гэту хатку, дзе ўсё так адпавядала яе сусальнай прыгожасьці.

«Ці не гэта жанчына так зьмяніла Шаўрука?» — падумаў я.

Ад гарбаты адмовіўся.

— Але ж чаму? — пачала ўгаварваць Клавачка, — з вішнямі.

— Баюся спазьніцца на цягнік. Яшчэ справы сякія-такія трэба зрабіць…

Абое пачалі ўгаворваць, і, нарэшце, прышлі да кампрамісу: ад гарбаты мяне вызвалілі, але прымусілі застаца пасядзець на поўгадзінкі.

— А можа, чарачку? — прапанаваў Шаўрук і асекся пад суровым поглядам Клавачкі.

Я гарэлкі ніколі не ўжываю — і дзеля таго падзякаваў і адмовіўся.

— Ну, як знаеце!.. А то часам не шкодзіць адну, дзьве чарачкі прапусьціць. Я, бязмоўна, ня так, як іншыя. П’янства не люблю…

— О, Максімка ў мяне маладзец — уступілася Клавачка. — Ён ня п’е. працуе сабе, актыўны ўдзел прымае. Толькі ходу яму тут не даюць.

— Эт, што казаць…

* * *

Засядзеўся я ў Шаўрука крыху больш гадзіны. Раней выпусьціць ніяк не хацелі і такі прымусілі і гарбаты выпіць, і вішні пакаштаваць. А я, ашаломлены гэткім рэзкім перараджэньнем нядаўнага самагубцы, махінальна піў, еў і адказваў на запытаньні. За гэту гадзіну мяне пазнаёмілі з закулісным бокам жыцьця бадай што ўсіх мясцовых работнікаў.

Я быў дужа задаволены, калі, нарэшце, удалося разьвітацца. Шаўрук з жонкай правёў мяне аж да дзьвярэй, прасіў заяжджаць, нават начлег абяцаў. Ён старанна замкнуў за мною дзьверы. Я не адразу адышоў: чуў яшчэ, як за дзьвярыма Клавачка нецярпліва накінулася на мужа:

— Здурэў, ці што з гарэлкаю сваёю, чалавек нямаведама што падумае.

Шаўрук нехаця апраўдваўся…

На вакзале мяне сустрэў мой сябра.

— Дзе гэта ты правалэндаўся? — накінуўся ён на мяне.

— У Шаўрука засядзеўся.

— У Шаўрука?..

— А ты ня дзівіся, а лепей раскажы мне, што гэта за тып такі.

— Ат, звычайны сабе. Ні добры, ні дрэнны. Працуе, колькі трэба — не стараецца і не лянуецца.

— Ён даўно тут?..

— Гады паўтара. Ужо з год, як ажаніўся, прыданае ўзяў. А жонку ты бачыў: прыгожая, але нейкая… ну, не такая, як трэба.

— І нічога асаблівага з імі тут не здаралася?

Мой сябра паглядзеў на мяне.

— А ты што, чуў нешта пра яго?

І тады я расказаў яму пра маё першае спатканьне, пра ліст і пра мае трывогі.

Мой сябра зарагатаў.

— Дарэмна трывожышся… Такі чалавек з сабой не пакончыць… Ты паслухай — гэта пацеха была. У нас нейкі сход быў. Раптам выклікаюць мяне. Выходжу — Шаўрукова гаспадыня. Уся ў сьлязах. «Шаўрук страляцца хацеў». Што за ліха, думаю. Распытваюся. Аказваецца, замкнуўся ў пакоі, нешта там мудраваў, а потым як крыкне… Гаспадыня ўбегла. На падлозе рэвальвер, на стале пісулька — нармальнае самагубства. І Шаўрук на ложку ляжыць і ўздрыгвае. Ну, я зараз жа пару хлапцоў узяў, ды туды… Глядзім — Шаўрук ужо і дрыгаць перастаў.

Мой сябра памаўчаў ды пачаў апавядаць далей:

— Мы да яго — раны нідзе няма. Проста хлапец прытомнасьць страціў. Чытаю пісульку, піша, што памірае, бо ня можа жыць так, як іншыя. Ну, паклікалі доктара — неяк гаспадыня яго адхадзіла. Паправіўся. Зайшоў раз я. Як убачыў мяне, пачырванеў. Я да яго: «Што гэта ты — звар'яцеў, ці што?».. І што ж ты думаеш? Ён ужо год збіраўся гэта зрабіць, усё адкладваў, ну, а як надумаўся, напісаў пісульку, ды ўзяўся за рэвальвер, дык такі яго жах апанаваў, што ён і рэвальвер кінуў, і прытомнасьць страціў, і пасьля таго нэрвамі з паўгода хварэў. Пасьля ачуняў, жаніўся на гаспадыні сваёй. Зусім зьмяніўся. Яна яго цяпер добра ў руках трымае.

Мой сябра зноў замаўчаў.

— Але ж хапіла ў яго рашучасьці і пісульку напісаць, і рэвальвер у рукі ўзяць, — заўважыў я.





— Кінь ты, такія з сабой неканчаюць. Дармо, што пісульку напісаў, ён жа і табе ліст паслаў. Ну, а выбрык гэты сваю справу зрабіў.

— А што?..

— Зьвярнулі на яго вялікую ўвагу. Цэлую кампанію тады разгарнулі. Гаспадыня дык на сьцяну проста лезла, пакуль не акруціла. А яго паслалі падлячыцца, пасьля гадзіны павялічылі. Пад усё гэта эканамічны базіс падвялі… Ну, а рэвальвер… Рэвальвер я паглядзеў тады ж адразу — ён быў паламаны.

Прабіў другі званок.

*[1928]*

## МУРАЧКА
(навэла)

Мурачка ня ведае, што рабіць. Перад Мурачкай мабыць першы і апошні раз у жыцьці стала самая рашучая праблема, якая заўсёды ў свой час паўстае ў жыцьці кожнай дзяўчыны. Ніводная матка ніколі не наважыцца расказаць ўлюбёнай дачушцы суровую праўду пра жыцьцё. Ніводная матка не скажа дзяўчыне, як калісьці перастала быць дзяўчынаю сама. Моладзь заўсёды вучыцца жыць сама і таму цяпер перад Мурачкай так востра паўсталі такія новыя і нечаканыя пытаньні: каторы лепшы?

Я не скажу, на якой вуліцы сустрэў я Мурачку. Калі гэта было? Мабыць, тады, калі крамкі на Нізкім рынку пераджывалі свой мядовы месяц, калі абрыдлыя тараны сустрэлі сабе моцнага канкурэнта ў вобразе амерыканскіх пасылак і на Савецкай вуліцы адна за адной пачалі адчыняцца прынадныя крамы з пахкім мылам, ружовымі падвязкамі і самымі моднымі колеру beige панчохамі. Мурачка рана-раненька падымалася тады і сьпяшалася, каб да дзевятай гадзіны пасьпець у белы будынак на Чырвонаармейскім завулку. Яна сьпяшалася сесьці за сваю машынку раней, чым прыдзе Іван Іванавіч Дзямідаў, ад'ютант штабу 11-й брыгады. У Івана Іванавіча свае асаблівасьці. Іван Іванавіч быў некалі ротным пісарам, мабыць таму Іван Іванавіч такі акуратны і на працу позьніцца роўна настолькі, каб сам начштаба прышоў на поўгадзіны пазьней за яго: службовы этыкет — штука тонкая, але Іван Іванавіч даўно пасьпеў яго ўсвоіць. Іван Іванавіч прыходзіць у канцэлярыю штаба і зоркім вокам

аглядае ўсіх супрацоўнікаў. Іван Іванавіч добра знае сваю работу, а яшчэ лепей задачы Чырвонай арміі. На ўсіх сходах, дзе ваенком Лексікаў, быўшы каваль, а сёння яго непасрэдны начальнік, робіць даклад аб ганебных учынках Антанты, на ўсіх сходах Іван Іванавіч сядзіць у трэцім радзе непасрэдна за начальнікам штаба. І ў самым патэтычным месцы прамовы ваенкома пукатыя вочы Івана Іванавіча налліваюцца гневам і помстаю, а гарбаты нос паварачваецца направа і налева, як-бы шукаючы супрацоўнікаў, маючых слова супроць. Але спакойна сядзіць з правага боку старэйшы дзелавод Волкаў і з левага боку флегматычна шморгае носам старэйшы перапісчык Шаляпін. Гэтага нават самае прозьвішча прымушае трымацца проста і сьціпла і нос трымаць па ветру, таму на твары яго застаецца вечны выраз зьбянтэжанасьці і гатоўнасьці да нечаканага. А Мурачка сядзіць у самым апошнім радзе. Яна спакойна сядзіць, і нават Іван Іванавіч яе асабліва не пужае. Яна ўжо некалькі разоў заўважыла, што Іван Іванавіч з вялікаю ўвагаю сачыў за тым, як яе пальчыкі бегаюць па замусоленых клавішах штабной машынкі. Гэта яе, Мурачкі, сакрэт, але яна гэта даўно ўжо заўважыла. Мурачка добра разумее, што ў начальства зусім выключнае становішча; калі што якое, дык яно заўсёды знойдзе і час, і словы. І таму кожную раніцу так сьпяшаецца Мурачка, каб пасьпець у канцэлярыю хоць на паўгадзіны раней за Івана Іванавіча. І калі прыходзіць Іван Іванавіч і арліным вокам аглядае сваю канцэлярыю — Мурачка заўсёды на сваім месцы і заўсёды праца ў яе аж кіпіць. Нават пануры Волкаў і той ня міне Мурачкі, каб ня даць ёй якую-небудзь тэрміновую работу. Дыктуе заўсёды ён сам.

Іван Іванавіч высокі і зграбны. У Івана Іванавіча чорныя пукатыя вочы, у якіх заўсёды гарадь такія прываблівыя абяцаючыя іскаркі. І валасы ў яго так прыгожа завіваюцца на скронях — цёмныя такія валасы. Іван Іванавіч з кожным днём усё часьцей спыняецца каля Мурачкінай машынкі; больш таго — ня раз ужо застаўляў ён Мурачку на вячэрнія заняткі і сам дыктаваў ёй тэрміновыя паперы. Больш таго; ніхто гэтага ня ведаў, але з нейкага часу па суботах, калі надыходзіў час ісьці да капцёра і атрымліваць селядцы, алей, крупу ды іншыя страўныя рэчы — Іван Іванавіч пасьпяваў у той жа час і далікатна падносіў Мурачкін паёк аж да самай Мурачкінай хаты ў канцы Кандуктарскай вуліцы. А гэта ўжо нешта азначала. І Мурачкіна сэрца бадай упершыню пачало біцца нейкім новым, няспрабаваным, але вядомым па раманах пачуцьцём.





Той, хто хадзіў у тыя годы ў наш чыгуначны клюб, добра павінен помніць Мурачку. У Мурачкі былі такія чорныя задзёрыстыя вочкі, прыгожая фігурка і дробненькія завіточкі чорных валасоў. Калі канчаўся спектакль і пачыналіся скокі, у Мурачкі ратунку не было ад кавалераў. Сьмяецца Мурачка так, што можа толькі ў глухога сэрца не зашчымела-б ад гэткага сьмеху, што такі быў падобны да звону дробных званочкаў.

Ня было ў нашым канцы дзяўчыны прыгажэй за Мурачку. І калі вярнуўся ў родны горад Пятрусь Крымчонак, сын Мурачкінага суседа-машыніста — не пазнаў ён яе адразу. Пятрусь яшчэ быў у вайсковым адзеньні. У родны горад папаў ён цяпер, таму што ў горадзе былі камандныя курсы і Пятруся проста з апошняга рэйду па басмацкіх кішлаках паслалі вучыцца.

— Ты, Пятрусь, не маеш права так пакінуць армію. Калі станеш патрэбен ізноў, дык павінен умець камандаваць другімі. Гэта, брат, мала толку з таго, што сам умееш нарывацца на кулі… Панюхаў ты пораху даволі — панюхай і кніжкі. І глядзі — калі сустрэну цябе потым не камандзірам, дык мала табе не будзе…

Так казаў ваенком, і Пятрусь разумеў яго і ведаў, што трэба вучыцца. У школе саромліва хаваў ад сяброў свой ордэн Чырвонага сьцягу — чым ён быў вінен, што толькі адзін ён і меў гэту ганаровую адзнаку.

І калі апынуўся Пятрусь у родным горадзе, пацягнула яго туды, на акраіну, дзе гудзяць паравозы, дзе бліскучыя рэйкі зьбягаюцца ў дзьве каляіны і ўцякаюць паміж высокіх насыпаў далёка-далёка за горад. Толькі што скончыліся фронты, яшчэ не змаўкала ў вушах агіднае гудзеньне куль, аглушаючы гул гармат, ды хлябусьценьне шабель у целах ворагаў: Пятрусь — кавалерыст, і мабыць таму асабліва пацягнула яго ў гэтыя ціхі завулак, дзе людзі ня чулі нават і паху конскага. Там і крывенькая хатка, і сабачка, і бацька вечна замурзаны і пратэстуючы, і маці спачуваючая і ласкавая.

Першы раз Пятрусь нават і не спазнаў быў роднай вуліцы. Такою ўбогаю і шэраю здалася яму яна. Такое адчуваньне ведае кожны, хто, павандраваўшы па многіх гарадох, пабачыўшы многа, хай сабе і горшых вуліц, вернецца, нарэшце, ў свой горад, на тую вуліцу, дзе пражыў пачатак жыцьця… Маці спачатку не пазнала, потым кінулася абнімаць, цалаваць і нават плакаць пачала. Бацьку старога,

відаць, таксама ахвота разьбірала заплакаць, але гонар мужчынскі перамог, і сына сустрэў ён нават крыху сурова.

— Ну, апавядай, дзе быў, што бачыў…

Пятрусь пачаў апавядаць… Доўгая гісторыя…

— Так, гэта добра, што за Саветы…Яно, каб не зманіць, дык і мы трошкі дапамагалі…

Пятрусь ужо чуў, як бацька пры адходзе палякаў падбухторыў сяброў да забастоўкі і выратаваў усю маёмасьць дэпо.

— Маладзец, сынок. Маці вось енчыць усё: прапаў ды прапаў. А я кажу: калі прапаў, дык за дзела.

Бацька старанна закручвае «сабачую ножку».

— Што вучыцца цяпер, дык гэта добра. Але трэба, брат, канчаць хутчэй. Я ўжо старэць пачынаю — час і табе мяне падмяніць на часіну…

Мурачка сустрэла Петруся, як і належыць дарослай дзяўчыне. Мала чаго ня было там калісьці. То-ж яны дзеці былі яшчэ — і гэта трэба прыняць пад увагу. Людзі растуць і жыцьцё меняецца. Аднакжа далікатнасьці трэба трымацца.

— Будзьце знаёмы: Іван Іванавіч Дзямідаў, а гэта мой сябра з дзяцінства — Пятрусь… Пётр Максімавіч… — і Мурачка вінавата ўсьміхнулася. Яна забылася Петрусёва прозьвішча — на іх вуліцы ніхто суседавага прозьвішча не помніў. Іван Іванавіч далікатна усьміхнуўся і зусім не зьвярнуў увагі на Петруся. Гэта-ж не канкурэнт. Якісьці там абдзёрты курсант ды супроць яго, Івана Іванавіча; і ён задаволена аглядзеў свае высокія франтаватыя боты. Справа была ў чыгуначным клюбе, і зараз-жа аркестр заграў польку-какетку і зараз-жа Іван Іванавіч лоўка закруціў Мурачку па напоўненай пылам залі. І ні ён, і ні Мурачка зусім не зьвярнулі ўвагі на тое, што пара цьвёрдых шэрых вачэй з-пад цёмна-зялёнага шлему так прагна ўглядаліся ў кожны рух прыгожай машыністкі з штабу 11-й брыгады.

Кожную вольную гадзіну выкарыстоўваў Пятрусь, каб пайсьці на сваю ціхую вуліцу. І кожны раз ён спатыкаў Мурачку. І кожны раз Мурачка вінавата глядзела на яго: яна сьпяшалася на вячэрнюю работу і ніяк, ні на адну хвіліну не можа застацца пагуляць з Пятрусём — сваім старым добрым сябрам. І ў канцы другога месяца, калі Пятрусь, у якога, не гледзячы на столькі паражытых боек, так палахліва ёкала





сэрца, расказаў Мурачцы пра нешта патаемнае, што так трывожыла яго сэрца, Мурачка адказала:

— Ты ня крыўдуй, Пятрусь, але гэтага ня можа быць. Я ўжо абяцалася аднаму чалавеку — ты яго знаеш: гэта Іван Іванавіч, наш ад'ютант штаба…

І, пачынаючы з другога дня, Пятрусь яшчэ крапчэй ўзяўся за навуку. І так часта паўставаў перад яго вачыма вобраз любай дзяўчынкі — не тае, што толькі што адкінула яго пачуцьці, а тае даўнейшае, маленькай чорнавокай і жвавай, што так любіла дражніць яго і так смачна чмякала накрадзеныя ім з суседняга саду яблыкі. Успамінаў, як падаюць яблыкі, як хрусьцяць яны на маленькіх белых зубах.

Іван Іванавіч быў стройны і высокі. У Івана Іванавіча кучараваліся валасы на скронях і тонкая гарбулінка на носе надавала яму такі шляхетны выгляд. Мурачка не магла нарадавацца на свайго мужа і яе толькі страшэнна дзівіла, чаму ён так ахаладзеў да яе ў апошні час. Яна гублялася ў дагадках. Яна ўжо больш не працавала ў штабе, але перад яе вачыма мітусіўся твар другой Мурачкі, якой Іван Іванавіч можа таксама дыктуе па вечарам тэрміновыя паперы і ў якой можа такія самыя кудзеркі вакол твару і такія самыя бліскучыя задзёрыстыя вочкі. Шмат чаго перадумала Мурачка.

І толькі тады зрабілася ясным усё, калі аднойчы ўвечары, вярнуўшыся дахаты ад маткі, застала пусты пакой і на вакне кавалак паперы, на якім было напісана: «Выбачай, дарагая, мяне, але я, згодна ваеннай дысцыпліны і загаду нумар 1001-с, мушу выехаць у другі горад. Адрасу не пакідаю — гэта ваенны сакрэт. Калі памылкова захапіў твае рэчы — даруй. Потым можа разьбярэмся».

Мурачка зразумела. Яна доўга сядзела на вакне і ўглядалася ў пустое маўклівае неба. А потым праплакала ўсю ноч. І толькі раніцою схамянулася і, адшукаўшы яшчэ кавалак паперы, дрыжачаю рукою напісала ліст. Адрас быў такі: «№-ыя нав. курсы. Пятрусю Максімавічу Крымчонку».

*[1928]*

# ВЕЦЕР З УСХОДУ
(апавяданьне)

Па твары профэсара Арцём Жыгалка пазнаў, што год працы дарэмна не прапаў. Профэсар гэты быў стары і злы; на экзаменах баяліся яго, як нейкай пошасьці, бо, як казалі, ён быў сапраўдным віртуозам па часьці правальваньня. І вось цяпер, пасьля поўгадзіннага бязупыннага наскоку, профэсар нібы абмяк; пад залатымі акулярамі зьбянтэжана забегалі маленькія, халодныя вочы, а з вуснаў нейкім пакалечаным абрыўкам выrваліся словы.

— Добра… Можаце ісьці…

У Арцёма галава пайшла кругом…

— Вучоба, вучоба, вучоба, — разгортвалася ў яго ў галаве адно і тое-ж слова.

Арцём бомбаю вылецеў з аўдыторыі на халодны цемнаваты калідор, моцна штурхануў нейкага хлапца, наступіў на нагу нейкай дзяўчыне у чырвоным капялюшы. Ён не пачуў нават, як прашыпела гэта дзяўчына яму ўсьлед:

— Мужык…

Вуліца перад ўнiверсітэтам, абсаджаная каштанамі, саўсім ужо набыла верасьнёвы жоўты колер. Арцём ішоў, а пад нагамі шапталіся пажоўклыя сухія лісты, і ў шапаценьні гэтым чуліся адзвоны бронзы. А ў Арцёмавых грудзёх вырастала нешта моцнае, балючае, але прыемнае; такое адчуваньне бывае, калі доўга чалавек працуе, з вялікай напружанасьцю гатуецца да нечага і, нарэшце, дасягае сваёй мэты. Нейкія хлапчукі зьбіралі ў мяшэчкі пажоўклыя лісты, выбіраючы самыя вялікія і цэлыя; Арцёму хацелася крыкнуць і ім пра сваё вялікае шчасьце, як, наогул, хацелася з кім-небудзь ім падзяліцца.

Паступова пачуцці яго пачыналі ўваходзіць ў сваё прывычнае рэчышча, а думка пачала працаваць над пэрспэктывамі бліжэйшай будучыны.

— Будзе стыпэндыя, пражыву ў інтэрнаце… Не такая бяда ўжо. Урэшце, няўжо ж яму, Арцёму, такая навіна працаваць. Калі што, дык і бярвеньні павалачыць ня страх… Але-ж затое вучыцца…

Перад Арцёмам паўсталі жывыя малюнкі апошніх яго дзён у вёсцы. На бюро ячэйкі шмат гаварылі яму хлопцы, многа давалі парад, многа перасьцярог.





— Мы цябе, брат, добра ведаем, — казаў яму сакратар Цімох Шпак, — хлапец ты моцны, але-ж трэба папярэдзіць… Тут мы ўсе адзін аднаго, як іголачку, ведаем. За тыдзень наперад пазнаем, калі што якое. А там мала з кім зьвязацца можаш…

І Арцём усё выслухваў, усё ўспрымаў, запамінаў і ў горад ехаў з нейкаю ледзь чутнаю трывогаю; было шкода вёскі, шкода сяброў сваіх, з якімі столькі разам зазналі і дабра, і ліха. І старых нават шкода стала: зноў, як жывы, уставаў дзядзька Максім з пасівелымі калматымі валасамі ды маленькаю рыжаю барадою. Курыў ён люльку, набітую нейкім сьпецыяльным «амерыканскім» тытунём, які толькі ён адзін і гадаваў; любіў гаварыць пра палітыку.

— Гэта добра, што вучыцца едзеш, — казаў ён сплёўваючы і выбіваючы попел з люлькі аб падэшву вялізарнага рудага ад вільгаці боту. — Навука — рэч спажыўная. Глядзі толькі, каб пайшла яна, куды трэба, навука твая. А то іншы дык з вялікай навукі да бацькі роднага на людзях падысьці баіцца.

Арцём у сваіх сілах упэўнены. Адчувае жаданьне працаваць, ведае сваю мэту, ведае, што ніякая сіла ня можа зламаць яго энэргіі…

— Ды пачакай жа ты, шаляніца, — толькі цяпер пачуў ён за сабою нейчы голас.

Арцём азірнуўся і ўбачыў, што яго даганяе Міхась Цішкевіч, даўны сябра з бліжэйшай вёскі; яны разам прыехалі ў горад, разам трымалі экзамены. Міхась зусім задыхаўся.

— Вось трасца тваёй матары, — спыніўся ён нарэшце, — ня мог пачакаць.

Толькі цяпер Арцём успомніў, што яны з Міхасём умовіліся чакаць адзін аднаго пасьля экзаменаў. Арцём вінавата развёў рукамі.

— Братка ты мой… Калі-ж галава кругам пайшла… я ў Квяткоўскага быў.

— Ну, і як?

— Вытрымаў, ды яшчэ і як добра: на ўсе пытаньні адказаў.

— Здорава, — працягнуў Міхась. — Што здорава, то здорава…

— Ну, і такая мяне радасьць апанавала, што ні людзей, ні дарогі не бачыў… А пра спатканьне зусім з галавы вылецела… А ў цябе як?

— І ў мяне добра. Скончыў усё як сьлед. Ну і зажывём жа мы з табою цяпер. Толькі пасьпявай, — раптам ажывіўся ён.

І Арцём зразумеў, што Міхася, як і яго, да краю перапоўніла гэта жывая радасьць перамогі. Абодвум цяпер асабліва родным і блізкім

стала гэтае блеклае, але мяккае ды ласкавае, верасьнёвае сонца, што згладжвае пачварнелыя акрайцы зубчатых каштанавых лістоў, засыпаўшых брук і тротуары і гэтае вострае і пахкае верасьнёвае паветра — пах сьпеласьці і адпачынку.

— У нас цяпер жніво канчаецца, — напамінае Міхась.

І жыва так бачыць Арцём сваё поле: бацька складае залатыя пахкія снапы на воз, дзядзька Максім гатуе рубель, чапляючы на яго пярэдню, а маці ўскідае на воз сноп за снопам і высыпаюцца з іх на шурпатую пожню зярняткі. Сівы канёк стаіць, матае галавою, ды цягнецца паўз жаўцеючы на ўзьлетку быльнік.

— Варта было б і пагуляць сёньня крыху, — падае голас Міхась, — напакутваліся нямала. А каб па-гарадзкому пагуляць? Га? Што ты скажаш?

— Баюся я шыкаваць вельмі… Хто яго ведае — пакуль яно што будзе, а грошы і ў мяне, і ў цябе лічаныя. Хадзем лепей да Рудэрмана палуднаваць.

І сябры пацягнуліся ў старую частку гораду, дзе на брудных і смуродных вуліцах адзін ля аднаго ляпіліся заежджыя двары. Там звычайна спыняліся ўсе, хто прыяжджаў з вёсак, прычым кожны двор, па традыцыі, абслугоўваў пэўныя вёскі. Усе гэтыя двары былі зроблены на адзін узор. Шырокі панадворак, палову якога займае паветка для коняй; у хаце тры пакоі, дзе ўдзень снуюць заежджыя і іх гарадзкія сваякі ды знаёмыя, а ўночы на лавах ды на падлозе сьпяць людзі. Такі самы быў і двор Рудэрмана.

Увечары прыйшоў дзядзька Мацей, які прывёз хлапцоў у горад, ён некалькі дзён працягаўся па ўстановах, здабываючы нейкую спраўку. Спраўкі ён не здабыў, але прынёс з сабою пляжку гарэлкі.

— Ну, як справы, хлапчукі? — весела пытаўся ён у Арцёма з Міхасём.

І абодва напербой пачалі распавядаць Мацею пра свой посьпех.

— Эга!.. Вось гэта я разумею, — сказаў Мацей. Але-ж — яго вочы пры гэтым прыжмурыліся, — такую штуку падмачыць трэба, — і Мацей пачаў многазначна пагладжваць жывот.

Хлопцы ўтупіліся.

— Можа, не варта, дзядзька Мацей!

— Чаго там не варта… Вось, — і дзядзька Мацей урачыста выставіў на стол пляжку з чырвонаю галоўкаю. — Каб вы яшчэ піва пляжкі са тры дасталі, дык акурат добра было б…





Калі Арцём позна ўвечары засыпаў, у галаве яго крыху шумела ад выпітай гарэлкі. Дзядзька Мацей зухавата храпеў, і спрсонку зрываліся з месца і з тоненькім звонам біліся аб мутныя шыбы мухі.

* * *

У дзень адчуненьня заняткаў пасівелы рэктар гаварыў доўгую прамову да студэнтаў, успамінаў свае студэнцкія годы і весела паблёскваў акулярамі на вялізную залю, перапоўненую моладзьдзю. Арцёму ўсё тут здавалася новым і поўным нейкага асаблівага значэньня. Аглядаючы сваіх будучых сяброў, Арцём зьвярнуў увагу на вялікую рознастайнасьць будучых сваіх сяброў. У пераможнай масе саматканых сьвітак, чырвоных хустачак і нават кажушкоў, дзіўных у гэтую раньнюю пару, выдзяляліся значныя групы дзяўчат і хлопцаў, апранутых па-гарадзкому. Яны перагаворваліся паміж сабою, не зважаючы на рэктара, чамусьці сьмяяліся і часамі грэбліва адсоўваліся ад вясковых хлапцоў. У Арцёма адразу абудзілася нейкая варожасьць да іх.

Рэктар скончыў. Пасьля яго гаварылі яшчэ прафэсары, прадстаўнікі організацый. І пасьля апошняй прамовы рассыпалася моладзь па універсытэцкіх калідорах, згрудзілася каля дошчак з раскладамі лекцый.

У інтэрнаце Арцём папаў у агульны пакой, дзе разам з ім жыло яшчэ семера хлапцоў. Чацьвёра з іх, як і Арцём, былі комсамольцы, але ўсе папрыяжджалі з далёкіх вёсак, усе гарэлі тым самым жаданьнем, што і Арцём — вучыцца. Трывожна чакалі заўтрашняга дня — паглядзець, што гэта такое унівэрсытэт. І няпрывычна хавалі гэтую сваю трывогу ад другіх, зацяняючы яе нэрвовымі жартамі і бязупыннаю гутаркаю.

І вось першы раз Арцём пераступіў запаведны парог аўдыторыі. Лекцыя павінна была пачацца хвілін праз пяць, але ўжо бадай што ўсе месцы былі заняты. Наперадзе — самы энергічны народ — вясковыя дзяўчаты. Яны баяцца прапусьціць хаця-б адно слова і таму разьмясьціліся бліжэй да катэдры. Арцём знайшоў сабе месца поруч з даўгім сухарлявым хлапцом з сьветлымі доўгімі валасамі. Проста перад ім сядзела нейкая дзяўчына ў чырвонай шапцы з чорнымі завіткамі валасоў на белай тонкай шыі…

Увайшоў прафэсар. Шум і гутаркі адразу абарваліся. Прафэсар быў малады чалавек з модна зачэсанымі валасамі і маленькаю востраю

бародкаю, так што ўвесь яго твар нагадваў роўнабокі трыкутнік, накіраваны вострым канцом уніз; прайшоўся моўчкі па аўдыторыі, дэмантруючы сваю высокую зграбную фігуру. Быў ён папраўдзе не профэсарам, а доцэнтам, ды да таго-ж ня меў і закончанай вышэйшай асьветы: таму з асаблівым аплёмбам гаварыў ён пра свой прадмет і пра свае мэтоды выкладаньня, пра свае погляды на сыстэму вучэньня. Арцёма дзівіла шырыня размаху ў поглядах профэсара, сьмеласьць яго вывадаў і тая разьвязнасьць, з якою ён сябе трымаў.

Празьвінеў званок. Вышаў профэсар, і высыпалі на калідор усе студэнты. Арцём ужо адчуваў сябе поўнапраўным сябром гэтай сям'і. Вандруючы па калідоры, ён напаткаў і Міхася і яшчэ многіх знаёмых. Хлопцы згрудзіліся каля вакна і жвава дзяліліся першымі ўражаньнямі.

Міхась радасна сустрэў Арцёма:

— А я, брат, ужо і знаёмствы сякія-такія заводзіць пачаў. Дзевушкі дзьве інцярэсныя…

Арцёма зьдзівіла, што Міхась, які ніколі, здаецца, ня вылазіў з свае вёскі, пачаў ужываць расійскія словы. Але гэтага ён Міхасю не сказаў.

— Дзе ты ўладзіўся? — запытаўся ён у Міхася.

— Прышлося, брат, на прыватную кватэру. У інтэрнаце ўжо месца не хапіла. Ты абавязкова заходзь: Забалотная, 12, кватэра першая. Нішто сабе пакойчык.

Увечары быў першы сход комсамольскай ячэйкі, і Арцём прыйшоў на сход адзжін з першых. Аднак пачатку чакаць давялося даволі доўга, і Арцём блудзіў па вялікай залі, дальні канец якой губляўся ў змроку, разглядаў портрэты на сьценах і даўгія гірлянды з каляровай паперы, працягнутыя праз усю залю. Арцём успамінаў пра сваю вясковую ячэйку, дзе было так дружна і добра, дзе ўсе ведалі адзін аднаго, як самога сябе; таму і праца там разьвівалася больш шпаркім тэмпам. Успамінаў ён пра працу тую: асабліва ўрэзалася яму ў памяць, як уся іх ячэйка пад сьмех і кпіны старых высыпала за балота і ўзялася за адбудову грэблі, не рамантаванай ўжо гадоў сто. Пачыналі комсамольцы, а канчала ўжо ўся вёска, бо старыя вельмі хутка перасталі сьмяяцца і вышлі на дапамогу. Уся вёска потым дзівілася — як гэта так нечакана і добра вышла. Пасьля таго і аўторытэт комсамольскай ячэйкі вырас на недасяжную вышыню.





Сход цягнуўся вельмі доўга. Арцём здзіўлена глядзеў і слухаў: выступалі ўсе, але бракавала ў гэтых выступленьнях прывычнай для яго конкрэтнасьці. З трудом можна было вылушчыць з поўгадзіннай прамовы конкрэтны сэнс. Былі, праўда, і больш сур'ёзныя хлапцы і дзяўчаты; яны ўселі ставіць пытаньне рубам і бяз лішніх разважаньняў даць на яго адказ. Але іх было мала, вельмі мала, хоць і адчувалася, што яны ва ўсім хадаюць асноўны тон.

З такою-ж упартасьцю ўзяўся Арцём за навуку, як некалі цягаў цяжкія бярвеньні на пабудове грэблі. Сядзеў у бібліотэцы, з захапленьнем перачытваў строгія кнігі і адчуваў выразна, як папаўняецца запас яго ведаў. Другія студэнты моршчыліся і пазяхалі, сьлібізуючы кнігі, неабходныя для залікаў. Арцём гэтым не абмяжоўваўся, а чытаў усё, што мог, і на што ў яго хапала часу. З Міхасём сустракаўся рэдка. Дый Міхась павёў зусім інакшае жыцьцё: прападаў цэлымі вечарамі з нейкімі дзяўчатамі, завёў знаёмтсва з гарадзкімі хлапцамі і, наогул, жыў неяк раскідана. Нават на лецыі хадзіў ня вельмі акуратна. Арцёму так і не даводзілася пакуль што папасьці да Міхася ў хату, бо яго ніколі там нельга было застаць.

Аднаго разу папаў Арцём на літаратурны вечар. Павінны былі выступаць маладыя паэты Гуткевіч, Палясоўскі і яшчэ некалькі, якія ўжо карысталіся шырокаю вядомасьцю ня столькі сваімі творамі, колькі гучным сваім жыццём. Арцём спазьніўся на вечар і пасьпеў якраз да выступленьня Гуткевіча. Гэты панок, па-франтоўску апрануты і з голасам соракагадовай жанчыны, толькі што пачаў чытаць свой верш:

*Сіня-аўсяныя далі*
*Сьвецяцца ў цьмяных крышталях.*
*Тут-жа, на бруку прадажным,*
*Душу на золатаважаць.*
*Я, сын пяшчотаў лілейных,*
*Стану, схіліўшы калені,*
*Звонка-пунсовыя хвалі,*
*Сіня-аўсяныя далі.*

Гуткевіч скончыў, нязграбна павярнуўся, ды паходкаю качкі накіраваўся да свайго месца за сталом.

— Зараз выступіць наш вядомы поэта Паляскоўскі, — абвясьціў кіраўнік вечару і першы пачаў пляскаць далонямі.

Уся заля, асабліва дзяўчаты, аж заходзілася, плешчучы. Паляскоўскі ўстаў і аказаўся высачэнным хлопцам з грубымі рысамі твару. Балянсуючы і размахіваючы рукамі, ён пачаў чытаць нарасьпеў:

*І было так проста, і было так міла —*
*Ашчаперыў стан твой, вусны цалаваў.*
*Абвіла вужакай, рукі сашчапіла…*
*А каму? Завошта? Хто-ж каго кахаў?*

Паляскоўскі не выгаварваў літары «р» і таму ўсю сваю ўвагу накіроўваў на мелёдычнасьць дэклямацыі. Перад апошняю страфою на твары яго зьявілася пагардліва-гіронічная ўсьмешка:

*Сяду я на конку, кіну Беларусь я,*
*Забяру з сабою вершы ўсе свае.*
*І пайду наперад, болей не вярнуся, —*
*Хай жывуць мяшчане, толькі без мяне.*

Для Арцёма гэта была навіна. Цікавіўся ён літаратураю з малых год, але ніколі не чуў сапраўдных поэтаў. Імёны Гуткевіча і Паляскоўскага чуў ён ня раз — з іх імёнамі зьвязваліся звычайна новыя мотывы, бадзёрасьць. Арцём думаў, што поэт прадстаўляе сабою нешта новае, нязвычайнае; хацелася пачуць нешта зусім непадобнае да таго, за што зараз так заядла пляскалі Паляскоўскаму дзяўчаты.

— Яшчэ, яшчэ…

Да Паляскоўскага падыходзілі, нешта яму гаварылі, але ён толькі пагардліва махаў рукамі ў напрамку залі і заставаўся сядзець на сваім месцы. Арцём праслухаў яшчэ некалькі выступленьняў. Гэта былі саўсім ужо маладыя хлапчукі, якіх Арцём вельмі часта спатыкаў ва унівэрсытэцкіх калідорах. Але да канца Арцём не застаўся і накіраваўся да выхаду. У сталоўцы сустрэў Міхася.

— А, здароў, Арцём… Выходзіць, што мы з табою даўно ўжо не бачыліся… Адкуль ты?

Арцём расказаў Міхасю пра вечар.

— Э, дык я-ж іх ведаю. Знаёмы і з Паляскоўскім, і з Гуткевічам… Як-небудзь і цябе пазнаёмлю…

Арцём зрабіў адмоўны рух…

— Ці варта?..

— Чаму-ж? Хлопцы добрыя. Час з імі можна вунь як правесьці.

— Не, брат, гэта ня тое… Якія яны як людзі — мяне гэта ня так цікавіць. А нешта ў іх ёсць такое… акторскае… нялывое…





— Няўжо і Паляскоўскі табе не спадабаўся?

— Паляскоўскі горш за ўсіх… Што гэта ў яго за выкрунтасы нейкія? Трагедыю разыгрывае, а навошта?..

— А яго любяць многія… Ну, добра… Ты чаму не заходзіш да мяне ніколі?

— Цябе ж злавіць ніколі няможна. Я ўжо заходзіў.

— Ты заходзь пасьлязаўтра, увечары. Напэўна буду дома.

* * *

Надыходзілі зімовыя вакацыі і замірала праца ва унівэрсытэце. Паступова радзелі аўдыторыі. Некаторыя студэнты пасьпелі ўжо выехаць да дому. Арцём вырашыў схадзіць да Міхася. Па дарозе раздумваў над тым, што Міхась ня так жыве, як трэба было-б. Невядома, што ён робіць па-за сьценамі універсытэту, але ва унівэрсітэце ён не рабіў нічога. Успомніўся Міхасёў бацька — беражлівы, разважны мужык і добры гаспадар: Міхась яго адзіны сын; для яго дабрабыту часамі ўся сям’я недаядала. Мабыць, бацька не пахваліў-бы Міхася за яго цяперашняе жыцьцё.

Міхась на гэты раз быў дома і калі адчыніў Арцёму дзьверы, дык твар яго быў чырвоны і вочы чамусьці блішчэлі ня так, як заўсёды.

— Тут у мяне такія-сякія знаёмыя сядзяць, ты не зважай, — папярэдзіў ён Арцёма.

— Можа, я перашкодзіў табе?

— Не, не… Глупства… Свае людзі…

У Міхасёвым пакоі на стале стаялі бутэлькі з віном і на паперы раскладзена была закуска. За сталом сядзелі дзьве дзяўчыны і адзін хлапец. Абедзьве дзяўчыны былі непадобныя адна да аднэй і адначасна ў іх былі нейкія рыскі, якія маглі выклікаць думку, што гэта родныя сёстры. Адну з іх Арцём крыху ведаў, бо часта сустракаўся з ёю на курсавых лекцыях. Была яна маленькая і скупая ў рухах, але на малочна-матавым твары іскрыліся з-пад доўгіх скроняў чорныя пачуцьцёвыя вочы. У другой твар быў такі самы белы, сама яна была высокая, тонкая і гнуткая, але вочы ў яе былі шэрыя. Бутэлькі былі напалову пустыя і таму твары дзяўчат паланелі лёгкім румянцам, а хлапец неяк асабліва падкрэсьлена камячыў папяросу, якая даўно пагасла.

— Будзьце знаёмы, — загаварыў Міхась. — Гэта Арцём, мой зямляк і даўны сябра.

Маленькую дзяўчыну звалі Нінай, другая назвалася нечаканым іменем Кацярыны. Хлапец прывітаўся моўчкі, а потым раптам замітусіўся і пачаў падсоўваць да Арцёма бутэлькі адну за другою.

— Трэба выпіць, трэба… Міхасёў зямляк не можа ня піць. Вы спазьнілія, дык вам цэлую…

І ён, не чакаючы Арцёмавай згоды, наліў яму поўную шклянку віна.

— Чаго ты, Лявон, палохаеш чалавека, — зьвярнуўся да яго Міхась. — Ён можа падумаць, што ту немаведама што ў гэтй шклянцы. Квас тут і больш нічога.

А Арцёму піць не хацелася. Гэта заўважыла Ніна.

— Налі мне таксама, Лявон. Бачу, колега ня хоча піць адзін…

— Хай дагоніць.

— Ну, ну, слухайся, што старэйшыя кажуць. Налівай, — і яна рашуча падставіла сваю шклянку.

Арцём яшчэ і ня думаў брацца за сваю чарку. Ніна перасела да яго бліжэй.

— Давайце, для першага знаёмства… Няўжо са мною ня вып’еце?

А ў вачох нейкія чорцікі вясёлыя скачуць, падражніваюцца. Працягвае Ніна шклянку сваю і бачыць Арцём, якія ў яе тонкія пальцы і як зграбна абрэзаны пазногці. Паглядзеў на свае — тое, ды ня тое. Цурубалкі нейкія…

— Ну, дык чаго ж вы чакаеце? — дамагаецца Ніна.

Ня хочацца Арцёму дакранацца да віна, але-ж бачыць — Міхась на яго з дакорам глядзіць, а ў другой дзяўчыны вочы сьмяшліваю дымкаю падзёрнуліся. Прыжмурыў вочы і залпам выкуліў чарку ў горла. Апякло, закруціла…

«Добры квасок», падумаў сабе, ды, нібы знянацку, глянуў на бутэльку — коньяк.

Вылупіў Арцём вочы, а хлопцы сьмяюцца. Паддурылі.

З няпрывычкі ўдарыла ў галаву. Глядзіць Арцём на вакно і бачыць — завіруха там пачынаецца, усё вастрэй і вастрэй б’юцца ў шыбы сьнежныя гарошыны і ў вачох мітусіцца. Нешта гаворыць Міхась, налівае ў шклянку нешта, і Ніна сьмяецца.

— Вып’ем яшчэ.

Цяпер ужо шклянкі ва ўсіх налiты. Арцём сьмела бярэцца за сваю:

— Крэпкая, ліха на яе.

— Нічога, — супакойвае хлопец, — закусіць трэба. Гэта яшчэ ў Літоўскім статуце напісана, што піць можна, але канечна трэба закусваць…





— Абавязкова, — кажа Арцём і выпівае сваю шклянку.

Каля вакна, на сьцяне, вісіць адзіны ў пакоі малюнак — выразаная з нейкай кнігі «Вэнэра з люстэркам». Глядзіць на Арцёма з люстэрка жаночы твар і чамусьці знаёмы, а Арцём ня можа ўспомніць, бо нешта гаворыць яму на вуха Ніна.

— Так, так, — адказвае ён і раптам пазнае Вэнэру: гэта Ніна, і нават не яна, а яе старэйшая сястра. Гэта яшчэ дзяўчына, а тая ўжо ведае добра жыцьцё. Арцём глядзіць на Ніну, а Міхась і другі хлапец угаворваюць яе прасьпяваць. Арцём далучаецца да іх больш у сілу нейкага колектыўнага інстынкту.

— І вы хочаце, каб я засьпявала. Ну, добра.

Міхась падміргвае.

— Глядзі ты, Арцём, як табе шанцуе… Ты яе ня ўдумай ад нас адбіваць.

І Арцёму робіцца весела. Яго таксама падмывае разам з Нінаю сьпяваць, але першы раз чуе ён гэту песьню і гэткі мотыў.

*Так где же вы, мой маленький креольчик,*
*Мой смуглый принц с Антильских островов…*

І блішчаць Ніціны вочы, на яго, на Арцёма, глядзяць і таксама сьпяваюць. І ўжо зусім яна не дзяўчынка, бо бяз слоў, бяз руху кліча яго да сябе.

Арцём п’е яшчэ. Цяпер лёгка п’ецца, бо Ніна сядзіць ужо зноў каля яго. Яна да яго не дакранаецца, але ён адчувае яе ўсю і ведае ўжо, якая яна. Кацярына на сярэдзіне пакою танцуе нейкі жвавы танец, і яе вузкае цела зьвіваецца вужом, калі яна паднімае калені.

Недзе ў суседнім пакоі гадзіньнік адбівае дванаццаць гадзін, і Арцём успамінае, што зараз замкнуць дзьверы ў інтэрнаце, а таму трэба ісьці, бо вельмі няпрыемна стукацца ў дзьверы і бяз толку будзіць таварышоў. Арцём падымаецца. Ня кружыцца ўжо галава, і ён рашуча разьвітваецца з Міхасём, ня гледзячы на ўгаворы.

— Пачакайце, Арцём, нам у адну дарогу, — чуе ён голас Ніны і хоць не ведае, дзя яна жыве, прымае гэта за праўду.

Выходзяць на двор разам. Вые завіруха, намятае велізарныя сумёты, памыкаецца зьбіць з ног. Ніна адразу хапаецца за Арцёмаву руку, каб утрымацца. А ў Арцёма ад вертру цьвярдзеюць ногі і робіцца сьвяжэйшая галава. Вецер з усходу, ён пралятаў і над яго вёскаю, над яго полем, а там-жа ўся яго сіла.

— Мы з вамі, здаецца, на адным курсе, — заводзіць Ніна гутарку.

— Я на першым толькі. Сёлета паступіў.

— Ну і я таксама. Я вас часта спатыкаю, таму запыталася.

Папярок вуліцы вырас высокі сумёт у палову росту Ніны. Перад ім Ніна нерашуча спынілася. Арцём засьмяяўся і, нечакана для самога сябе, падняў яе на рукі, лёгка перанёс на другі бок і зноў асцярожна паставіў на зямлю.

— Дзякуй, — толькі тут апамяталася яна. — вы гэтакі дужы, Арцём. Ведаеце, я лепей вас буду называць Цёма, бо Арцём — гэта неяк няласкава… Добра?

І Арцёму здалося, што так будзе лепей. А Ніна шчыльна-шчыльна прыціскалася да яго, вялікага і моцнага, як бы хаваючыся ад парываў завірухі. Вецер з усходу ня сьціхаў і сыпаў на абодвух усё большыя і большыя гурбы вострага і халоднага сьнегу.

* * *

На другі дзень у Арцёма балела галава, і ён, як праз туман, успамінаў усе падзеі ўчорайшага вечару. Неяк зграджілася і зьлілося ўсё і разам з галаўною больлю выплываў нейкі непрыемны асадак. Раніцою на заняткі ня трэба было ісьці, і Арцём парашыў пахадзіць па вуліцах, каб разьвеяць і фізічную, і маральную змору. Вецер веяў, як і уночы, з усходу, толькі бадай што зусім заціх. На вуліцы дворнікі зграбалі сьнег з тратуараў і складалі яго вялізнымі кучамі пад прысадамі. Крэпкі ранішні мароз моцна шчыпаў за твар, і Арцём адчуваў, што шпарчэй захадзіла кроў і пачала прыліваць да твару, каб абараніць суровую скуру яго ад марозу.

Прышлося хадзіць гадзіны дзьве, каб хоць крыху прывесьці сябе ў парадак. У роце яшчэ гарчыла, яшчэ балела галава і нейкая муць уздымалася ў перасохлым горле. Але заставаўся толькі тыдзень да апошняга заліку і трэба было ісьці ў бібліотэку.

У бібліотэцы зрабілася горш. Літары кнігі рэзалі вочы, думкі здаваліся цяжкімі і незразумелымі. Яшчэ больш разбалелася галава.

— Ды што гэта, ўрэшце, такое, — раззлаваўся Арцём. — павінен я прачытаць сягоньня, ці не павінен!

Мільганула спакусьлівая думка, што можна адкласьці і на заўтра, але Арцём рашуча абарваў яе.

— Заўтра трэба пачытаць яшчэ неабавязковыя падручнікі. Крапчэй будзе. З адкладу ня будзе ладу.

К вечару, калі Арцём скончыў, нарэшце, кнігу, стаў ён адчуваць сябе спакайней. Лягчэй было ісьці, нават сьнег пад нагамі скрыпеў,





здавалася, больш звонка, чым звычайна. Арцём ішоў на лекцыю і ўжо бадай ня думаў пра ўчарайшае.

Быў якраз перарыў паміж дзьвума лекцыямі, і па цемнаватым калідоры снавалі ажыўленыя групы студэнтаў і студэнтак. Першы, на каго наткнуўся Арцём, быў Міхась, які сустрэў яго вясёлаю усьмешкаю з налётам нейкай патаемнасьці.

— Ну, як сябе адчуваеш?

— Трошкі не па сабе. Цэлы дзень у бібліотэцы высядзеў. Праз тыдзень здаваць буду.

— То ты за тыдзень пачынаеш рыхтавацца? — здзівіўся Міхась.

— А што-ж? Больш прачытаць пасьпею, больш карысьці будзе…

— Ну і дзівак-жа ты. Усё роўна-ж разумней разумнага ня будзеш. Па мне — дык лепей менш, ды лепш. Я здам залік, дый забудуся, а калі спатрэбіцца, то ўспомню.

Яны хадзілі па калідоры і гаварылі вельмі моцна, бо гутарку заглушаў нязмоўчны гоман навокал. Раптам Арцём убачыў, што насустрач яму і Міхасю ідзе Ніна, апіраючыся на руку нейкага хлапца. З Арцёмам яна прывіталася холадна і зараз-жа адазвала ад яго Міхася. Арцёму зрабілася горка, крыўдна. Ён нічога ня меў да гэтай дзяўчыны, але яму здавалася, што яна павінна была-б быць больш ветлай да яго. І тут Арцёму прышло ў галаву, што гэта вельмі зграбная дзяўчына: ён адчуваў гэта ўчора, калі пераносіў яе, маленькую і слабую, праз сумёты, і яму здалося нават, што яна тулілася да яго ўчора больш, чым гэта было неабходна…

Зноў падышоў Міхась. Але Арцёма апанавала нейкая злосьць на ўсіх — ён нешта вельмі рэзка абарваў Міхасёвы словы. Зноў пачала даваць сябе знаць галава. Арцём пахадзіў яшчэ некалькі хвілін па калідоры, і, парашыўшы не ісьці на лекцыю, рушыў да хаты. Рана лёг спаць, доўга варочаўся, пакуль заснуў, і думаў пр Ніну, пра Міхася, якога ён сягоньня нізавошта пакрыўдзіў, думаў пра тое, што фактычна загубіў цэлы сягонешні дзень, не зрабіўшы нічога.

Усе наступныя дні Арцём працаваў ізноў у бібліотэцы, але праца ішла неяк вяла і бясплённа. Арцём тлумачыў гэта зморанасьцю ды ішоў пагуляць па вуліцы. Ва ўнівэрсітэце хадзіў па калідоры і мімаволі пільна ўглядаўся ў твары стдэнтаў і студэнтак, некага шукаючы. І раз уздрыгануўся, як ад электрычнага току, убачыўшы твар Ніны. На гэты раз яна ўсьміхнулася яму цёпла і ветліва, ад чаго сэрца яго забілася нібы мацней. Ён не наважыўся падыйсьці да яе, але пастараўся некалькі разоў сустрэцца ў ёю. Можа ён памыліўся, але яму

здалося, што яна асабліва ласкава глянула на яго апошні раз. Арцёму стала адразу лёгка і весела. Ён пайшоў і выседзеў да самага канца цягучую лекцыю профэсара N, чорнабародага ў залатых акулярах чалавека, які сьмешна гаварыў па-беларуску і да якога ў студэнтаў накіпала за апошні час страшэнная антыпатыя: нават вельмі нямногія хадзілі на яго лекцыю.

Прайшло яшчэ пара дзён. Арцём ня бачыў Ніны і гэта ў значнай меры адзывалася на яго працы. Зноў пачаў абуджацца нейкі трывожны настрой. Арцём злавіў сябе на тым, што занадта многа думаў пра яе.

— Што яна мне і што я ёй? — паставіў ён пытаньне рубам. — Выпадковая сустрэча і больш нічога… Не, трэба ўзяць сябе ў рукі.

Застаўся яшчэ адзін дзень да заліку. Увечары Арцём зноў пабрыў ва унівэрсытэт. Зноў веяў лёгкі вецер з усходу, але сьнег за гэтыя дні зусім зацьвердзеў і звонка скрыпеў пад нагамі. Перад самым унівэрсітэтам яго спыніў знаёмы голас:

— Цёма!..

Арцём азірнуўся, і на яго нахлынула хваля такой шалёнай і нечаканай радасьці, што ён аж захістаўся. На другім баку завулку стаяла Ніна і, сьмяючыся, клікала да сябе. Ён перайшоў, праўдзівей, пераскочыў праз завулак.

— Няма чаго казаць — далікатны малады чалавек. Я вас ужо некалькі разоў клікала, а вы і ўвагі не зьвяртаеце. Дык вось-жа вам і кара за гэта: будзьце ласкавы правесьці мяне, бо я аднаісьці баюся.

І другі раз Арцём не пайшоў на лекцыю. Недзе ў глыбіні душы запразьвінеў гіронічны голас:

— Ага… Вось які ты… Заместа лекцыі з дзяўчынаю пайшоў…

Але такі слабы і нячутны быў гэты голас, што Арцём не зьвярнуў на яго аніякай увагі.

— А я вас хацела сягоньня бачыць, Цёма. Я наогул бяз вас занудзілася.

— Ня можа гэтага быць…

— Не, сур’ёзна. Я вельмі хацела-б, каб вы заўтра да мяне заглянулі. Міхась прыдзе, потым некалькі маіх сяброўак.

— Бачыце, ў мяне — залік…

— Ну, Цёма, няўжо вы захочаце мяне пакрыўдзіць? Я-ж такая маленькая, а вы… — і Ніна, шчыльна прыціснуўшыся да яго, бліснула на яго вачыма. — Вам няможна мяне крыўдзіць…

Арцём ужо спужаўся, каб Ніна не ўзяла назад свайго запрашэньня.

— Дык я-ж…





— Ах, дык вы проціў мяне… Добра-ж вы абыходзіцеся з дзяўчынаю. У мяне таксама залікі ёсьць, але я і вясною пасьпею здаць… Ну, дык апошняе ваша слова.

«Не, не, нічога дрэннага не будзе, калі ён згодзіцца. Што трэба, ён ужо сягоньня прачытаў, а заўтра яшчэ цэлы дзень у запасе, калі не пайсьці раніцою ў лябараторыю».

— Добра, я прыду.

— Ну вось і цаца-хлопчык, — паціснула Ніна яго руку. — Даўно так трэба было. А то глядзіць казлом, аж страх бярэ. Зусім як той Паляскоўскі. Вы ведаеце яго вершы?

— Мала. Дый ня вельмі цікаўлюся…

— Дарэмна. У яго цікавыя ёсьць.

І Ніна пачала дэклямаваць.

*О сьпеў мой узрушаны, змоўкні,*
*Туга ды нура хай загіне…*
*Не хоча Вадзім Паляскоўскі*
*Сьпяваць, як сьпяваюць другія.*
*З другімі ісьці не хачу я,*
*Няхай сабе робяць, што хочуць.*
*Нічога цяпер не шкадую,*
*Хай вецер мне высмаліць вочы.*

— Прыгожа? Праўда?

Арцём не бачыў тут нічога прыгожага. Але ён бачыў, што Ніна захапляецца гэтым вершам, і яму не хацелася яе пакрыўдзіць.

— Нішто сабе… Моцна сказана.

— А каб вы пачулі, як ён сам гэта чытае. Усе ў захапленьні.

І Ніна пачала расказваць пра Паляскоўскага самыя незвычайныя гісторыі.

— Ведаеце, Цёма, ён у жыцьці зусім не такі, як можна падумаць па яго вершах… Адзін раз…

Арцём слухаў і часамі адчуваў, што і яму перадаецца захапленьне Ніны і ён пачынае цікавіцца тым самым Паляскоўскім, што зрабіў на яго такое дрэннае ўражаньне на вечары. Так у гутарцы дайшлі да самай Нінавай хаты.

— Ну дык глядзіце-ж, Цёма, заўтра, каб вы ў мяне былі. Я жыву адна, зьбярэцца моладзь толькі. Час правядзем вельмі добра. Апрача таго, я хачу, каб былі вы…

Неяк дзіўна блішчэлі яе вочы, гаварылі нешта невымоўнае, але прыемнае для Арцёма.

— Хочаце, каб я быў? — махінальна перапытаў Арцём.

А вочы бліжэй і бліжэй гарацьь. Арцёму трэба нагінаць галаву, каб глядзець у яе вочы. І раптам убачыў ён вусны яе — не зьвяртаў раней на іх увагі: чырвоныя, тонкія і напалову адкрытыя. Тады проста абняў яе, падняў і моцна ўпіўся ў гэтыя самыя вусны. І пачуў, як яе рукі абвілі яго шыю… Потым яна высьлізнула з яго рук.

— Заўтра, Цёма, заўтра.

І зачыніла весьнічкі.

* * *

Арцём мала чытаў у гэты дзень. Ён рашыў, што ўжо даволі ведае для таго, каб здаць залік, а таму ня трэба залішне перагружацца. Залік ён здасьць, але вось і цяпер яшчэ ня зьніклі учарайшыя ўражаньні. Арцём яшчэ адчуваў рукі Ніны на сваёй шыі, адчуваў і яшчэ раз перажываў той пацалунак і сам дзівіўся з свае сьмеласьці. Нейкі новы сьвет адчыняецца перад ім — невядомы, але прывабны і цікавы. Ніна — гэта правадыр яго ў гэтым сьвеце — яна пакажа ўсё і ўсё растлумачыць. А старыя прывычкі цягнуць назад. Дык што-ж? Ён нічога дрэннага яшчэ ня робіць, у яго добрае мінулае і моцная дысцыпліна. Ні на што дрэннае ён ня пойдзе, бо заўсёды здолее стрымацца. Ды і што тут дрэннага можа быць.

У сталоўцы сустрэў Арцём сакратара ячэйкі.

— Ты ведаеш, што сягоньня сход? Прыходзь абавязкова, бо сягоньня пытаньне аб працы на вёсцы. Для выяжджаючых дырэктывы выпрацоўваем.

Пра сход Арцём успомніў толькі цяпер. Як-жа быць? Сход, як звычайна, надоўга зацягнецца, а тут гэта вечарына. Першаю думкаю Арцёма было пайсьці, адшукаць Ніну і папярэдзіць, што прыйсьці ня здолее. Папалуднаваўшы, Арцём вышаў з сталоўкі і накіраваўся ў бок унівэрсытэту. І па дарозе пачаў думаць, што будзе на сходзе, хто што будзе гаварыць і як будзе вырашана пытаньне. Аказалася, што Арцём ужо нічога новага не пачуе. Вёску ён ведае добра, працаваць умее, усё, што патрэбна, можна на горшы канец прачытаць і ў газэце. Тады само паўстала пытаньне — навошта ён будзе крыўдзіць дзяўчыну, якая так хоча правесьці з ім час. Адзін сход прапусьціць — невялікі страх. А прычыны… прычыны знойдуцца.





І ўвечары Арцём першым прыйшоў да Ніны. Яна сустрэла яго радасным крыкам, птушкай узьляцела, абвіла яго шыю.

— Цёма, любы, дужы мой. Я так баялася, што ты ня прыдзеш. Зараз пачнуць зьбірацца, а мне нікагусенькі ня трэба. Толькі, каб ты тут быў, каля мяне.

Цалавала палка, тулілася з такой сілаю, што Арцём проста не чакаў гэтага.

— Цёма, вып’ем, пакуль прыдуць, адну шклянку віна. Адну папалам… Хай гэта будзе наша чара…

— Заручыны… — усьміхнуўся Арцём.

Вочы Ніны глыбока схаваліся, па твары прабегла цень нейкай таемнасьці. Але толькі на адзін маленькі момант, так што Арцём нават і не заўважыў нічога.

— Ну няхай, што-б ні было…

Лёгкая сукенка Ніны высока ўздымалася на грудзёх ад моцнага дыханьня. Ад яе павеяла на Арцёма нейкім цёплым пяшчотным пахам. А вусны яе сягоньня асабліва чырвоныя і асабліва задорная была яе усьмешка.

Потым прышлі некалькі хлопцаў і дзяўчат. На стале зьявілася віно і закуска і праз гадзіну ўжо разьвязаліся языкі. Пачаліся вострыя жарты, хлопцы ў кутку апавядалі адзін аднаму нейкія, відаць, дужа цікавыя гісторыі, бо доўга рагаталі кожны раз, а на тварах зьяўлялася блудлівая ўсьмешка. Арцём бачыў адну толькі Ніну. Кожны яе рух, кожны пагляд напаўняў яго нейкім пачуцьцём задавальненьня і гордасьці.

— Чаго вы ўсе варты, — хацелася крыкнуць яму на ўвесь пакой. — Яна адна і прыгажэй, і разумней, і лепш за ўсіх вас разам узятых.

А Ніна як-бы разумела яго думкі і час-ад-часу абдавала яго палкім і усьмешлівым поглядам. Адна з дзяўчат дастала з паліцы нейкую тоненькую кніжачку і з азартам дэклямавала ўзголас:

*Знаю, будут любить мои дети*
*Невский седобородый вал,*
*Оттого, что был западный ветер,*
*Когда ты меня целовал.*

«Вецер з усходу… Усе дні вецер з усходу», — падумаў Арцём. Выпітае віно туманіла галаву і не адставала назойлівая неадчэпная думка: «чаму гэта вецер з усходу».

Ніна падышла да яго і непрыкметна шапнула:

— Калі будуць разыходзіцца, затрымайся, але каб ніхто не заўважыў. Або зараз-жа вярніся…

Яна так нізка нагнулася да яго ў гэты момант, што завіткі яе чорных валасоў ласкаталі яго твар, і ён ледзь стрымаў у сабе жаданьне схапіць яе і пацалаваць.

Тоўстая белавалосая дзяўчына з чырвоным тварам пачала сьпяваць:

*Эта роза, стыдливая, чайная,*
*Признаюсь, взволновала меня,*
*Что же даст нам встреча случайная…*

«Чаму не па-беларуску?» — падумаў быў Арцём. Ён ведаў, што гэтая дзяўчына вучыцца ў музычнай школе і павінна ведаць прыгожыя беларускія песьні. А потым махнуў рукой.

«Што мне да яе…»

Ужо не шкадаваў, што прапусьціў сход і ня думаў нават і пра заўтрашні залік.

Нарэшце, пачалі разыходзіцца. Арцём выйшаў разам з усімі. Прайшоў адзін квартал, разьвітаўся і спыніўся на хвіліну. Паднімалася завея. Сьнег уздымаўся з дахаў лёгкімі хмаркамі і тонкімі пластамі высьцілаўся па зямлі. Вецер дзьмуў з усходу. Арцём павярнуўся і пайшоў назад.

Паволі ўзышоў на ганак, увайшоў у калідор. Пастукаў. Адтуль данёсься Нінін голас:

— Адамкнута!

Арцём увайшоў і недаўменна спыніўся. У пакоі было цёмна і толькі слабае начное сьвятло выдзяляла белыя плямы пакрытага абрусам стала і пасьцелі.

— Замкні дзьверы, — данёсься да яго шопат.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На другі дзень Арцём спазьніўся на залік. Ня здаў ён яго і ўвесну.

*[1928]*



# ПЕРАКЛАДЫ

*З Станіслава Стандэ*

## ЧОРНЫ

*Таварышы прыслалі нам яблыкаў і мармаляды. Я зусім спакойны. Маю добры апетыт. Рыхтуемся ў дарогу «на той свет»*

(З нататак літоўскага камуніста Чорнага, пісаных уначы перад расстрэлам)

Прыслалі нам яблыкі і мармаляду,
сакавітыя кулі з румянцам крывавым,
спакойны я, еў з апетытам выдатным,
апошні раз на рукі свае пазіраю.

Так мала, так мала яны зрабілі!
Столькі ляжалі ў бязьдзейным спакоі!
Зьбіраю я страчаныя гадзіны,
каб уліць іх у віно, бы ў начыньне пустое.

Поўныя ўжо ўверх да вас іх уздымаю,
гляньце, як маладосьць мая ў іх бліскоча!
вушэй сваіх воўнай я не закладаю,
чуў крокі сонца ў бясконцай ночы.

І цяпер чую грукат бойкі нашай
і чую смерць — раніцою прыдзе —
вы застанецеся — браты, таварышы,
за жыццё для ўсіх будзеце біцца!

А зараз трэба сэрца спакоўваць,
рыхтуюся да пуціны дальняй,
дык ешце-ж мае апошнія словы
як я вашы яблыкі і мармаляду.





## ФАКТ

Як ўзялі, ня харкаў крывёю,
Быў толькі дужа змучаны.
У лютым, рыплівым, суровым
Першы раз у турме апынуўся.
Ўверх зірнуў — вакно, не вакно —
Краты за імі кош,
Высока не дастаць рукой,
Скібка неба малая, як грош.
Кінуў вачыма наўкола,
Спазнаўся з прыладай кожнай,
Мэбля цьвёрдая, быццам статут вайсковы,
На дзень замкнуты ложак.
Тут мае гады правесьці,
За кратамі кінуць юнацтва,
Сплятаць дні, тыдні, месяцы,
Каб думка й ненавісьць не згасьлі.
Дзяліў ужо час той у думцы,
Як, дзе, калі, для якой рацыі,
Што ў камэры сам прыдабудзе,
Скарыстаць як агульны шпацыр.
Пачаў. Цяжка. Старонка за старонкай.
Ў думцы пытаньні, тэрміны біліся:
Назапашваньне. Надвартасьць. Колёніі.
Палітычная забастоўка. Кітай. Імперыялізм.
Грыз, грыз «Капітал» кволымі зубамі,
«Грамадская вайна ў Францыі» — скарб!
Маркса, Энгельса глытаў тамамі,
Ня чуў, як грыз яго магіла крат.
Чытаў, што было. Ўсё. Мастацтвам займаўся.
Хімія. Раман крымінальны. «Новы пшэглёнд»[1].
Хаос падзей ў мірны стук ператварыўся,
Што праўда і няпраўда, разумеў і ведаў.
Рос, і ўзрост веды яго цешыў,
Спажыве потым, як зброю ў бойцы.
Дык згінаў над кніжкамі вузкія плечы,

[1] Нелегальны орган ЦК КПП.

Да старонкі прыкладваў пальцы тройчы.
Выйдзе на волю, што за кратамі схавана,
Тэорыю як у вагні гартаваць у дзейнасьці.
На чацьвёртым годзе чытаў ужо вольна
«Эмпірыокрытыцызм» Леніна.
І раптам — «вызвалёны датэрмінова».
Грудзі поўніць адвага і гордасьць.
Ў горы. Сабраць сілы. І жыцьцё нанова.
Ўздыхнуў, крывёю плюнуў — і памёр.

*З Валера Брусава*

## МУЛЯР

— Муляру, муляр, у фартуху белым,
Што ты там ставіш, каму?
— Гэй, не займай нам, заняты мы вельмі,
Ставім мы, ставім турму.
— Муляру, муляр з рыдлёўкай жалезнай,
Хто-ж будзе ў ёй галасіць?
— Ваш брат, — багаты сюды не палезе,
Красці на што вам хадзіць!

— Муляру, муляр, хто ж доўгія ночы
Змочыць тут стромамі слёз?
— Можа, мой сын, гэткі самы рабочы, —
Гэтым багаты наш лёс.
— Муляру, муляр, успомніць ён, можа,
Тых, хто муры талачыў?
— Ля рыштаванняў хадзі асцярожна,
Ведаем самі, маўчы.





*З Мікалая Ушакова*

## ДАЙ АЛОВАК

Неба твар
глухі і хмуры —
як прасвет зялёны шкла.
Льдзін
вясёлкавая скура
ў жоўць жывых лучоў
сцякла.
Вежы даўняй
зноў абрысы,
крэпасць бурую
відаць.
Ці-ж Тамару мне, царыцу,
Апяваць
і маляваць?
Ручаёк скалу прарэзаў,
хлюпча ён
На ўсе лады,
Бурбалкі
і смак жалеза
на вадзе
і ля вады.
Школьнікі бягуць па плітах,
Кубкі
хіляць у нарзан,
ім за трэсачку з графітам
сонцам ззяе
шклянкі грань.
Добра ў гарах напіцца —
кубак я ўшанаваў.
Не для замка і царыцы
я алоўкі даставаў.

## НА ШАСЭ

Толькі цень ад аўто — нялёгка
гэты цень прасачыць.
Ноч вандруе на поўдзень далёка
ці то зорка
на поўдзень
бяжыць?
Вось за хмаркай
плыве другая,
ці то фосфар
паўзе ляском?
Мы спяшым,
зорку мы даганяем,
мы накрылі зорку
брылём.
А яна
ізноў
на палянцы
і змяняецца,
і бяжыць
чысцей за ваду
у шклянцы,
якая
да хмар ляціць.
Толькі вецер на гладкім гудроне,
толькі голейка, бегучы…
Мы ўсё роўна
яе дагонім,
тую зорку,
што хоча ўцячы.





*З Аляксандра Блока*

## ДВАНАЦЦАЦЬ

1.

Чорны вечар.
Белы снег.
Вецер, вецер!
На нагах не стаіць чалавек.
Вецер, вецер —
На ўсім божым свеце.
Завівае вецер
Белы сняжок.
Пад сняжком — лядок.
Золь, імжака.
Кожны хадок
Коўзаецца — ах, небарака!
Ад дому да дому —
Над вуліцай канат.
На канаце плакат:
«Уся ўлада Устаноўчаму сойму!»
Бабулька заходзіцца-плача,
Ніяк не ўцяміць, што значыць,
Навошта гэткі плакат бліскучы,
Такі кавалак — назола?!
Колькі-б выйшла для дзетак анучаў,
А кожны — босы і голы…
Бабулька, як курыца,
Перакулілася праз снежны ком.
— Ох, маці божая, заступніца!
Не жыццё ад бальшавікоў!..
Вецер трывожны,
Не адстае і мароз.
І буржуй на раздарожжы
Затуліў каўнерам нос.
А гэта хто? — Даўгія космы,
Мармыча ў паўголаса:
— Здраднікі!

— Згубілі Расію!
То, мабыць, пісьменнік —
Вітыя.
А вось і даўгаполы —
Пад ветрам зморшчыў лоб.
— Што сёння невясёлы,
Таварыш поп?
Помніш, як бывала
пузам пёр упярод,
І крыжом зіяла
Пуза на народ?..
Вось пані ў каракулі
Да другой падвярнулася:
— Мы ўжо плакалі, плакалі…
Паслізнулася
І — гоп — расцягнулася!
Ай, ай!
Цягні, падымай!
Вецер гуляе
Рады і злы.
Падалы ўзбівае,
Падарожных косіць,
Рве, мне і носіць
Плакат угары
«Уся улада Устаноўчаму сойму»…
І словы даносіць:
… і ў нас быў сход, вядома…
… Вось у гэтым доме…
…Абгаварылі —
Пастанавілі:
На раз — дзясятку, на ноч — дваццаць пяць…
…І меней не з каго не браць…
… Хадзем спаць…
Позні вечар.
Пусцее вуліца.
Адзін валацуга
Сутуліцца,
Ды свішча вецер…





Гэй, нябожа!
Падыходзь —
Пацалуемся…
Хлеба!
Што наперадзе?
Праходзь!
Чорнае, чорнае неба.
Полымя сумнай злосці.
У грудзях занялося…
Чорная злосць, святая злосць…
Таварыш! Глядзі
Востра!

2.

Гуляе вецер, мігціцца снег.
Ідуць дванаццаць чалавек.
Вінтовак чорныя рамні,
Наўкол — агні, агні, агні…
У зубах — цыгарка, стары картуз
На спіну-б трэба бубновы туз!
Свабода, свабода,
без крыжа святая!
Тра-та-та!
Халодна, таварыш, халодна!
— А Ванька з Кацькай у карчме…
— У панчосе керанкі ў яе!
— І Ванька грошаў мае шмат…
— Быў Ванька наш, а стаў салдат!
— Ну, Ванька, сукін сын, буржуй,
Маю пацалаваць спрабуй!
Свабода, свабода!
Бяз крыжа святая!
Кацька Ваньку пацяшае —
Чым, чым пацяшае?..
Тра-та-та!
Наўкол — агні, агні, агні…
Аплеч ружэйныя рамні…
Рэвалюцыйны трымайце крок!

Не дрэмле вораг, пільнуе змрок!
Таварыш, стрэльбу ямчэй нясі!
Давай пальнём па святой Русі! —
Па ізбянай,
Па кандовай,
Ды па тоўстазадай!
Эх, эх, без крыжа!

3.

Як узяліся нашы хлопцы
У чырвон-гвардыі служыць,
У чырвон-гвардыі служыць —
Буйну голаву зложыць!
Эх ты, гора-горкае,
Салодкае жыццё!
Стрэльба аўстрыяцкая,
Падраны палітон!
Мы, на гора ўсім буржуям,
На увесь свет пажар раздуем,
На увесь свет пажар у крыві, —
Госпадзі, благаславі!

4.

Ўецца снег, ліхач крычыць,
Ванька з Кацькаю ляціць —
Елікстрычны ліхтарок
На аглобельцы…
Ах, ах, падай!..
У шынелі ён шалдацкай,
Не салдат, а нейкі фацат!..
Завівае чорны вус,
Ды закручвае,
Ды выкручывае…
Вось дык Ванька — гэта зух!
Вось дык Ванька — смелы рух!
Кацьку-дуру абымае,
Загаварывае…
Кацька слухае яго,





Зубкі ззяюць жамчугом…
Ах ты, Каця, мая Каця,
Таўстамордзенькая…

5.

У цябе на шыі, Каця,
Ад нажа майго рубец.
У цябе пад грудзьмі, Каця,
Знак пакінуў маладзец!
Эх, эх, паскачы!
Дня вясёлыя злічы!
У панскіх вопратках хадзіла, —
Пакрасуйся, пахадзі!
З афіцэрамі блудзіла —
Дык пацешся, паблудзі!
Эх, эх, паблудзі!
Сэрца лёдам халадзіць.
Помніш, Каця, афіцэра —
Галавы ён не знасіў…
Ці не ўспомніла, халера?
Ці забылася зусім?
Эх, эх, успамяні,
Спаць з сабою памані!
Гетры шэрыя насіла,
Ела панскі шакалад,
З юнкерам гуляць хадзіла —
З салдаццём цяпер пйашла?
Эх, эх, саграшы!
Будзе лепей на душы!

6.

…Ізноў насустрач угрунь імчыць,
Ляціць ліхач, ляціць, крычыць…
— Стой, стой!.. Андруха, перай май!
Пятруха, ззаду забягай!
Трах-тарарах-тах-тах-тах-тах!
Узвіўся ў неба снежны гмах…
Ліхач — і з Ванькам — наўцёк…

Яшчэ разок! Узводзь курок!..
Трах-тарарах! Ты будзеш знаць
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
З чужою дзеўкай як гуляць!..
Уцёк, зладзюга! Уцякай!
Назаўтра помсты ты чакай!
А Кацька мёртвая ляжыць,
І з раны кроў на снег бяжыць.
— Што, Кацька, рада? Ні гу-гу…
Ляжы ты, падла, на снягу!
Рэвалюцыйны трымайце крок!
Не дрэмле вораг, пільнуе змрок.

7.

І ізноў ідуць дванаццаць —
Толькі стрэльбы бразгацяць.
Твар у беднага забойцы
Пабялеў, бы ў мертвяка…
Праз сувеі снегавыя
Разагнаў трывожны шаг.
Хустку звіў вузлом на шыі —
Не апомніцца ніяк…
— Ты чаго такі маркотны,
Невясёлы стаў такі, —
Ці без Кацькі той самота
Сэрца сціснула ў ціскі?..
— Эх, сябры мае, браточкі!..
Гэту дзеўку я кахаў…
Не адну хмельную ночку
З гэтай дзеўкай скаратаў…
З-за гарэзнасці бядовай
У палаючых вачах,
З-за радзімачкі пунсовай
Каля правага пляча.
Загубіў я, бесталковы,
Загубіў я згарача…ах!
— Ну, разнюніўся, разліўся…





Ці-ж не баба ты, Пятро!
Хочаш, Богу памаліся!
Хочаш вывернуць нутро?
— Гэй, Пятруха, схамяніся!
— Над сабой трымай кантроль!
— Час настаў цяпер інакшы —
Не для гора і тугі,
Трэба скончыць справу нашу
Нам, таварыш, дарагі! —
І Пятро свой бег спыняе,
Суцішае ён шагі…
Ён галоўку ўзнімае,
Ён ізноў павесялеў…
Эх, эх!
Пагуляць цяпер не грэх!
Сёння ты, буржуй, не спі —
Дзверы крукам зашчапі!
Склепы-сховы адчыняй,
Ды галоту сустракай!

8.

Ох, ты, гора горкае!
Доля нудная,
Сумная!
Я часіну тут
Правяду, правяду…
Я патыліцу
Пачашу, пачашу…
Я гарбузікі
Пагрызу, пагрызу…
Я ўжо ножычкам
Паласну, паласну!
Ты ляці, буржуй, зязюлькаю!
Вып'ю кроў я
За любоў маю,
Чорнабровую…
«Упокой, Господі, душу рабы твоея»…
Нудна!

9.

Не чутна шуму гарадскога,
Над неўскай вежай цішыня,
І больш няма гарадавога —
Гуляйце, хлопцы, без віна!
Стаіць буржуй на раздарожжы,
Схаваў у каўнер ссінелы нос.
А побач з ім спіну наёжыў
Сабака, падтуліўшы хвост.
Буржуй, як цюцька, стаў, галодны
І да зямлі нібы прырос.
І свет стары, як пёс бязродны,
Стаіць за ім, паджаўшы хвост.

10.

Загуляла завіруха,
Ой, ой, завіруха!..
Усё пад белай пацярухай
Захавалася кругом!
Снег узвіваецца слупом,
Рассыпаецца наўслонь.
— Ох, мяцель якая, Спасе!
— Гэй, Пятруха, не хістайся!
— Ад бяды цябе, мо’упас
Залаты іканастас?
Несвядомы ты, ты дзе там —
Сам падумай лепш пра гэта!
Хіба рук крывёй не спляміў
Цераз Кацькіна каханне?
— Шаг трымай рэвалюцыйны, —
Вораг шлях нам не зачыніць!
Упярод, упярод!
Рабочы народ!

11.

І ідуць без імені святога,
Усе дванаццаць — удаль.
Да ўсяго гатовы,





Ніпачым ім жаль…
Іх вінтоўкі гневам веюць
На варожыя сляды…
У завулкі, дзе завеі,
Дзе ўзлятае снег, як дым,
Дзе не вырвецца з сувеяў
Ні стары, ні малады. —
У вочы б’е
Чырвоны сцяг.
Раздаецца:
Мерны шаг.
Смерць снуе
Варожы шлях —
І пыліць завея ў вочы
Дні і ночы
напралёт…
Упярод, упярод,
Рабочы народ.

12.

…Удаль ідуць усеўладным шагам.
— На дарозе хто там устаў?
Гэта — вецер з чырвань-сцягам
Разгуляўся, зашугаў.
На шляху — сумёт халодны.
— Хто там? — Ноч і мітульга. —
Толькі ззаду пёс галодны,
Нібы злодзей, закульгаў.
— Адвяжыся, шалудзівы,
Я штыхом паласкачу!
Свет стары — брахун паршывы,
Адыдзі — пакалачу!
…скаліць зубы — воўк галодны, —
Хвост паджаў — не адстае —
Той сабака — злы, бязродны…
— Адгукнуліся, хто йдзе?
Хто махнуў чырвоным сцягам?
Цемра гэткая кругом!

Хто там ходзіць белым шагам?
Хто схаваўся за вуглом?
— Усё роўна пераможам,
Лепш здавайся мне жыўцом!
— Чуеш, горай стацца можа!
Гэй, выходзь, страляць пачнём!
Трах-тах-тах! — і толькі рэха
Адгукаецца — гу-гу!..
Ды завея доўгім смехам
Заліваецца ў снягу…
Трах-тах-тах!..
Трах-тах-тах!..
Так ідуць усеўладным шагам —
Ззаду — пёс, галодны пёс…
На чале з крывавым сцягам,
Праз завеі снежны гул,
Абаронены ад куль,
Над завейным крокам кволым,
Перлам белым снежных столак
У вяночку з белых роз —
На чале — Ісус Хрыстос.





*З Аляксандра Пушкіна*

## АНЧАР

У пустыні, дзе паўдзённы жар
Ўсю глебу выпаліў і знішчыў,
На варце жудаснай анчар
Стаіць адзін між папялішчаў.
Прырода смагнучых стэпоў
Яго ў дзень гневу нарадзіла
І зелень мёртвую лістоў
Атрутай страшнай напаіла.
Злы сок сцякае скрозь кару
Растоплены гарачынёю
І стыгне ў змрочную пару
Густой празрыстаю смалою.
Сюды і птушка не ляціць
І тыгр не йдзе: віхор грымотны
На дрэва смерці набяжыць
І мчыцца прэч ужо смяротны.
А калі хмара набрыдзе
І змые ліст яго дрымучы,
Атрутны дождж тады ідзе
З яго галін у жвір гаручы.
Ды чалавека чалавек
Туды паслаў паглядам скрутным
І той пайшоў як дзень паблек
А раніцой прынёс атруту.
Была там страшная смала,
Галінка з мёртвымі лістамі.
З яго збялелага чала
Ліў пот халоднымі цуркамі.
Прынёс і аслабеў і лёг
На лыкі пад шатром ўладарным
Памёр бездольны раб ля ног
Гаспадара свайго і пана.
А цар свае ўсе стрэлы ўзяў
І напаіў атрудным зеллем
І з імі згубу разаслаў
Суседзям у чужыя землі.

# ЕЎГЕНІЙ ОНЕГІН

*Pétri de vanité il avait encore plus de cette espèce d'orgueil qui fait avouer avec la même indifférence les bonnes comme les mauvaises actions, suite d'un sentiment de supériorité peut-être imaginaire.*

Tiré d'une lettre particuliére

Не ў думцы горды свет забавіць,
Уважлівасці дружбы рад,
Хацеў бы я табе прдставіць
Пасуючы табе заклад.
Пасуючы душы прыветнай
Багатай мараю святой,
Паэзіяй жывой і светлай
Высокай думкай, прастатой;
Ды так і быць — рукою ветлай
Прымі ты збор барвовых глаў,
І сумных, і крыху дзівацкіх,
Прастанародных і мастацкіх,
Нямудры плён маіх забаў.
Бяссонніц, лёгкіх парыванняў,
Няспелых і завяўшых лет,
Халодных розуму пазнанняў
І сэрца жаласных замет.

## ГЛАВА ПЕРШАЯ

### I

«Мой дзядзька правіл беззаганных,
Як не на жарты захварэў,
Узяў ён да сябе пашану
І лепш прыдумаць не ўмеў.
Яго пачын — другім навука.
Ды божа мой! Што за дакука
Пры хворым дні і ночы быць
І ні на крок не адступіць!
Якая нізасць і двудушша
Канаючага забаўляць,
З журбою лекі падаваць





І папраўляць яму падушкі
Уздыхаць і думаць пра сябе:
Калі ж ухопіць чорт цябе!

### II

Так разважаў юнак свавольны
У дарозе на перакладных
З вышэйшай Зеўсавае волі
Наследнік сваякоў сваіх.
Чытач Людмілы і Руслана!
З героем гэтага рамана
Не трацячы на ўступы час
Дазвольце пазнаёміць вас.
Онегін, друг мой старадаўні,
На свет радзіўся ля Нявы,
Дзе мо радзіліся і вы,
Або жылі ў долі слаўнай.
Было там весела і мне.
Ды шкодна поўнач для мяне.

### III

Служыўшы спраўна, дасканала
Даўгамі бацька яго жыў,
Даваў ён кожны год тры балы
І ўрэшце ўсё дабро спусціў.
Еўгенію жыццё спрыяла:
Madame за ім перш наглядала,
Пасля monsieur яе змяніў.
Хлапчук жывым і мілым быў.
Monsieur L'Abbe, француз убогі,
Каб хлопчык сіл не марнаваў,
Яго скрозь жартам навучаў,
Не хваляваў мараллю строгай,
Крыху за балаўства ўшчуваў
І ў Летнім садзе з ім гуляў.

### IV

А калі юнасці турботнай
Прыйшла Еўгенію пара,

Пара надзей, тугі пяшчотнай…
Monsieur пратурылі з двара.
Вось мой Онегін на свабодзе;
Астрыжаны па новай модзе;
На Dandy лонданскіх фасон
Апрануты ў свет выйшаў ён.
Ён па-французску дасканала
Размову весці мог, пісаў;
Мазурку лёгка танцаваў,
І кланяўся надзвычай стала.
Чаго ж вам болей? Свет рашыў,
Што ён увагі заслужыў.

V

Мы ўсе вучыліся звычайна
Абы-як і абы што ўмець,
Дык, дзякуй богу, выхаваннем
У нас не дзіва прагрымець.
Онегін быў на думку многіх
(Судзіўшых коратка і строга)
Вучоны хлопец, ды педант.
Ён надзвычайны меў талант
З вялікай сталасцю ў размове
Пра ўсё патрошку разважаць,
І выгляд знаўцы захаваць
У спрэчцы, не зраніўшы слова,
І выклікаць усмешку дам
Агнём раптоўных эпіграм.

VI

Латынь сягоння вышла з моды,
Дык, калі праўду вам сказаць,
Ён досыць знаў латынь заўсёды,
Каб эпіграфы разбіраць,
Пагаманіць аб Ювенале,
У канцы ліста паставіць vale,
Ды ў памяці перахаваў
Вергілія радкі са два.





Капацца ён не меў ахвоты
У храналогіях старых
Бытапісання спраў зямных,
Ды дзён мінулых анекдоты
Ад Ромула да нашых дзён
Надзвычай добра помніў ён.

VII

Не прагнучы высокай долі
Жыцця за гук не шкадаваць,
Харэй і ямб не мог ніколі
Ён, як не біўся, разабраць.
Гамера ганьбіў, Феакрыта;
Затое знаў Адама Сміта
І мудрым эканомам стаў:
Надзвычай стала разважаў
Як скарб дзяржава набывае,
Чым жывіцца, з якіх прычын
І золата ёй ніпачым,
Калі прадукт звычайны мае.
Ды бацька веры не даваў
І землі пад заклад спускаў.

VIII

Пра ўсё, што знаў яшчэ Еўгеній,
Сказаць бракуе часу мне.
Ды ў чым ён быў праўдзівы геній,
Што ведаў ён з навук мацней,
Што для яго з пары юнацкай
Было пакутай, шчасцем, працай,
Што забаўляла цэлы дзень
Яго замаркочаную лень —
Была навука тых пачуццяў,
Якую апяваў Назон,
За што свой век бліскучы ён
Закончыў у цяжкой пакуце
У стэпах, у Малдавіі глухой
Замест Італіі сваёй.

IX. X

Як рана ён умеў лісліваць,
Даваць надзею, рэўнаваць,
Упэўніць моваю хлуслівай,
Здавацца змрочным, сумаваць,
Здавацца гордым і ласкавым,
Слухмяным або нецікавым!
Як томна ён умеў маўчаць
Ці красамоўствам захапляць.
У лістах сардэчных бясклапотны!
Як ён любіў, чым ён дышаў
І як сябе ён забываў!
Зірк шпаркі і такі пяшчотны,
Гарэзны, сціплы, а парой
Блішчэў слухмянаю слязой.

XI

Як ён умеў здавацца новым,
Нявіннасць жартам чараваць,
Палохаць роспаччу гатовай,
Прывабным словам забаўляць,
Лавіць расчулення хвіліну,
Перасцярогу год нявінных,
Развагай, палкасцю змагаць,
Міжвольнай нежнасці чакаць!
Прасіць і вымагаць прызнання,
Пачуць гук сэрца першы раз
Пачуцце распазнаць — і ўраз
Дабіцца тайнага спаткання.
І выкладаць сам-насам з ёй
Урокі ў цішыні глухой.

XII

Як рана ён ужо трывожыць
Умеў какетак запісных!
Калі ж хацелася знічтожыць
Яму праціўнікаў сваіх,
Як ён пад'юджваў іх мастацкі!
Якія рыхтаваў ім пасткі!





Ды з вамі, добрыя мужы,
Ён у ранейшай дружбе жыў.
І хітры муж з ім быў ласкавы,
Герой Фабласавай пары,
І недаверлівы стары,
І раганосец велічавы,
Здаволены сабой самім,
І жонкай, і сталом сваім.

XIII. XIV. XV

Бывала, ён яшчэ ў пасцелі —
Пісулькі да яго нясуць.
Што? Запрашэнні? Зразумела,
На вечар ў тры дамы завуць.
Там бал, там для дзяцей гулянне.
Куды ж наш шалапут загляне?
З каго пачне? Такой бяды:
Паспее ўсюды і заўжды.
Пакуль жа ў ранішнім уборы,
Надзеўшы зграбны балівар,
Онегін едзе на бульвар
І там гуляе на прасторы
Пакуль дакладнейшы брэгет
Яму пазвоніць на абед.

XVI

Цямнее: ужо зусім гатовы
Онегін у санях сядзіць;
На каўняры яго бабровым
Марозны іней зіхаціць.
Ён да Talon імчыць, ён знае
Каверын там яго чакае.
Знайшоў, і корак у столь ляціць.
І пеннае віно бяжыць
Прад ім ..........
І труфлі, слодыч юных дзён,
Французскай кухні лепшы плён,
І Страсбурга пірог цудоўны
Між сырам лімбургскім жывым
І ананасам залатым.

XVII

Яшчэ кілішкаў смага просіць
Заліць гарачы тлушч катлет;
Ды звон брэгета ім даносіць,
Што пачынаецца балет.
Заканадаўца сцэны люты,
Паклоннік на адну мінуту
Усіх чароўнейшых актрыс,
Шаноўны прыяцель куліс,
Ляціць Онегін да тэатра,
Дзе ў кожнага гарыць душа
Каб як ахлопаць entrechae,
Абшыкаць Федру, Клеапатру,
Пазваць Маіну для таго,
Каб толькі чулі ўсе яго.

XVIII

Чароўны край! У былыя годы
Сатыры смелы паладын,
Там ззяў Фанвізін, друг свабоды,
І здольны пераймаць Княжнін.
Там Озераў свой дар свабодны
І воплескаў, і слёз народных
З Сямёнавай даўней дзяліў,
Каценін там уваскрасіў
Карнеля геній велічавы,
Там вывеў колкі Шахаўской
Сваіх камедый шумны рой;
Там і Дыдло пакрыўся славай:
Там, пад аховаю куліс
Я маладосць правёў калісь.

XIX

Мае багіні! Што вы? Дзе вы?
Пачуйце кліч журботны мой:
Змяніўшы вас, другія дзевы
Ці замянілі вас сабой?
Ці я пачую вашы хоры?
Ці ўбачу рускай Тэрпсіхоры





Узлёт, напоўнены душой?
Ці ўжо не знойдзе погляд мой
На нуднай сцэне твараў мілых,
І, ўзняўшы на немілы свет
Расчараваны свой ларнет,
Глядач вяселля непрыхільны,
Я моўчкі буду пазяхаць
І пра былое ўспамінаць.

XX

Тэатр паўнюткі; Ложы з’яюць;
Партэр і крэслы, ўсё кіпіць;
Раёк далоні адбівае,
Заслона, ўзвіўшыся, шуміць.
Лягчэй паветра, у бляску поўным,
Пакорная смычкам чароўным,
У карагодзе німф адна
Стаіць Істоміна; яна
Нагой падлогу ледзь кранае,
Другой павольны робіць круг
І раптам скок, ляціць як пух,
Як пух ад ветрыка ўзлятае;
То стан звіе, то развіе
І шпаркай ножкай ножку б’е.

XXI

Гул, пляск. Онегін уваходзіць:
Ідзе між крэслаў па нагам;
Ларнет падвойны ўбок наводзіць
На ложы незнаёмых дам;
Усё поглядам абвёў сумленна,
Усё бачыў: У тварах, у адзенні
Цікавага ён не знайшоў;
З мужчынамі з ўсіх бакоў
Раскланяўся, пасля на сцэну
Ён незаўважліва зірнуў,
Зноў адвярнуўся, пазяхнуў,
Сказаўшы: «Час усіх на змену;
Балеты доўга я цярпеў,
Ды ўжо й Дыдло мне надаеў».

XXII

Яшчэ Амуры, чэрці, змеі
На сцэне скачуць і шумяць;
Яшчэ змарнелыя лакеі
На хутрах у пад'ездзе спяць;
Яшчэ не перасталі ляскаць,
Смаркацца, кашляць, шыкаць, пляскаць,
Яшчэ знадворку і ўнутры
Блішчаць усюды ліхтары;
Яшчэ у збрыдлай збруі коні
Прастыўшы, капытамі б'юць
І фурманы паноў клянуць
Каля агня, б'ючы ў далоні:
А ўжо Онегін прэч пашоў
І апранацца мчыць дамоў.

XXIII

Ці пакажу ў малюнку сталым
Той габінет самотны, дзе
Мод выхаванец дасканалы
Адзенне зняў і зноў надзеў?
Усё, чым для вымудраў багатых
Гандлюе Лондан далікатны
І па балтыцскіх хвалях сам
За лес і сала возіць нам,
Усё, што ў Парыжы густ галодны,
Абраўшы выгаднейшы цэх,
Выдумывае для ўцех,
Для негі, для забавы моднай, —
Ўсім свой напоўніў абыход
Філосаф ў васемнаццаць год.

XXIV

Бурштын на люльках Царгарода,
Фарфор і бронза на стале,
І, тонкіх густаў асалода
Парфума ў крыштальным шкле;
Грабёнкі, пілачкі стальныя,
Нажнічкі простыя, крывыя,





І для пазногцяў, для зубоў
Усе шчоткі — трыццаці сартоў.
Руссо (я мімаходзь напомню)
Не разумеў, як важны Грым
Пазногці чысціць мог прад ім,
Перад шаленцам красамоўным:
Прыхільнік вольнасці і праў
У выпадку гэтым быў непраў.

XXV

Быць можна сталым чалавекам
І за пазногцямі сачыць:
Чаго дарма спрачацца з векам?
Нам звычаю не замяніць.
Другі Чадаеў, мой Еўгеній,
У страху пагалоскі зменнай,
У сваім адзенні быў педант
І тое, што мы клічам франт.
Гадзіны тры, па меншай меры
Ён перад люстрам засядаў
І габінет свой пакідаў
Як тая шустрая Венера,
Што едзе ў маскарад парой
Прыбраўшыся ў мужчынскі строй.

XXVI

У новым гусце туалетам
Ваш погляд здолеўшы заняць,
Я мог бы прад вучоным светам
Яго адзенне апісаць;
Было б адважным гэта надта,
Апісываць жа — мой занятак;
Але нажаль — жылет і фрак
Па-руску не сказаць ніяк;
А я віню сябе сурова,
Што ўжо і так мой бедны склад
Гучэць бы мог на лепшы лад —
Замнога ў ім замежных словаў,
Хоць заглядаць быў час даўней
У Акадэмічны слоўнік мне.

XXVII

У нас размова не аб тое:
На бал мы лепей паспяшым,
Памчымся следам за героем
Што скача ў вазку ямскім.
Перад сцямнелымі дамамі
Уздоўж соннай вуліцы радамі
Падвойныя агні карэт
Вясёлы разліваюць свет,
Вясёлкі на снягу разводзяць;
Убраны плошкамі кругом
Аж зіхаціць цудоўны дом;
Па цэльных вокнах цені ходзяць,
Мільгаюць профілі галоў
І дам, і модных дзівакоў.

XXVIII

Вось наш герой ідзе ў сені,
Мінуў швейцара і стралой
Узляцеў па мрамарных ступенях,
Разгладзіў валасы рукой,
Зайшоў. Народу тлум вялікі,
Грымець стаміліся музыкі;
Мазуркай ўсе заняты там
Усюды шум і цесната;
Кругом звон шпор кавалергардаў,
Мільгаюць ножкі мілых дам;
Па іх чаруючым слядам
Лятуць агністыя пагляды,
І заглушае скрыпак рып
Усіх модных жонак злосны шып.

XXIX

У дні забаў, у дні жаданняў
Я ўсё за бал быў рад аддаць;
Няма лепш месца для прызнанняў,
Няма дзе лепей ліст аддаць.
О вы, шаноўныя супругі!
Вам прапаную я паслугі:





Паслухайце мяне хоць раз:
Асцерагчы я хочу вас.
Вы, маткі, будзьце асцярожны,
За дочкамі глядзіце ўслед.
Трымайце проста ваш ларнет!
А не… А не — то зжалься, божа!
Я так дзеля таго пішу,
Што ўжо даўно я не грашу.

XXX

Увы, жыцця свайго нямала
У забавах розных я зглуміў!
Ды каб прыстойнасць дазваляла
І зараз балы б я любіў.
Люблю юнацтва ўдалое,
Бляск, шум, вяселле маладое,
Убораў дамскіх хітры лад;
Люблю іх ножкі: Ды наўрад
Вы знойдзеце ў Расіі цэлай
Тры пары стройных дамскіх ног.
Ах, доўга я забыць не мог
Дзве ножкі!.. Сумны і змарнелы,
Я ўсё іх помню, і ўва сне
Яны трывожаць сэрца мне.

XXXI

Калі ж і дзе, ў якой пустыні
Шаленец, ты забудзеш іх!
Ах ножкі, ножкі! Дзе ж той дзіўны
Ваш след на кветках веснавых?
Ўзгадованыя негай ўсходняй
На поўначы снягу халодным
Вы не пакінулі слядоў:
Любілі мяккіх дываноў
Прыемнае вы дакрананне.
Ці ж так даўно мінуў той час —
я славу забываў для вас
І край бацькоў і сум выгнання?
Знік маладосці ясны цвет
Як на лугах ваш лёгкі след.

XXXII

Дыяны грудзі, шчокі Флоры
Былі заўсёды мілы мне!
Аднак жа ножка Тэрпсіхоры
Прывабней нечым для мяне.
Яна, прарочачы заўсёды
Каштоўнейшую ўзнагароду,
Вядзе ўмоўнаю красой
Жаданняў самавольны рой.
Люблю яе, мой друг Эльвіна,
Пад доўгім абрусом сталоў,
Вясной на мураве лугоў,
Зімой на чыгуне каміна,
На люстраным паркеце зал,
Ля мора, на граніце скал.

XXXIII

Я помню мора ў неспакоі:
Зайздросціць хвалям быў гатоў,
Што неслі бурнай чарадою
Да ног яе сваю любоў!
Як прагнуў дакрануцца з імі
Я вуснамі да ног любімых!
Ніколі ў годы агнявой
Кіпучай юнасці маёй
Я так не марыў несціхана
Пра вусны маладых Армід,
Пра ружы агнявых ланіт,
Пра жаркіх персяў калыханне;
Ніколі палкасці парыў
Маёй душы не пакарыў.

XXXIV

Я іншы час прыпамінаю:
Бы мара, што цішком цвіце —
я стрэмя шчаснае трымаю
І ножку чую ў руцэ;
Зноў уяўлення ўздым буяны;
Зноў мілай ножкі дакрананне





Ў завялым сэрцы паліць кроў,
Ізноў туга, каханне зноў…
Ды досыць гордых услаўлялі
Мы гукамі сваёй струны:
Не варты палкасці яны,
Ні песен, што яны натхнялі;
І зірк, і сказ чароўных тых
Хлуслівыя, як ножкі іх.

XXXV

Што ж мой Онегін? Вялы, сонны
Да дому едзе ён чуць жыў:
А ў Пецярбургу неўгамонным
Ўжо барабан загаманіў.
Ўстае гандляр, ідзе разносчык,
На біржу валачэцца возчык,
Са збанам охценка спяшыць,
Пад ёй снег ранешні рыпіць.
Прачнуўся ранні шум багаты,
Адкрыты стаўні, дым кругом
Блакітным паўстае слупом,
І хлебнік, немец акуратны,
У белым каптуры не раз
Ўжо адчыняў свой васісдас.

XXXVI

Ды балам змораны шумлівым,
У ноч ператварыўшы дзень,
Дзіця забаў, уцех шчаслівых
Укрыўся ў сна салодкі цень.
Устане ў поўдзень і нанова
Да дня жыццё яго гатова, —
Адзіны і стракаты лад,
Сягоння як і дзень назад.
Ці ж быў шчаслівы мой Еўгеній
Свабодны, юны, без трывог,
Сярод бліскучых перамог,
Сярод штодзённых захапленняў?
І ці дарма ён між забаў
Вяселле й сілу захаваў?

XXXVII

Не: рана ў ім пачуцці звялі;
Яму стаў нудным свету шум,
Былі красуні вельмі мала
Прадметам звыклых яго дум;
І здрады натаміць паспелі;
Сябры і дружба надаелі,
Затым, што не заўсёды ж мог
Beaf-steaks і страсбурскі пірог
Бутэлькай абліваць шампанскай
І словам з'едлівым паддзець
Як галава пачне балець:
Хоць быў ён хлопец элеганцкі
Ды разлюбіў ён у канец
І бой і шаблю і свінец.

XXXVIII

Хвароба, да якой прычыну
Даўно знайсці прыйшла пара,
Падобна англійскаму спліну,
А проста — руская хандра
Заваладала ім надоўга;
Застрэліцца ён, дзякуй богу
Паспрабаваць не захацеў,
Ды да жыцця ахаладзеў.
Як Child-Harold пануры, змрочны
У гасціныя з'яўляўся ён;
Ні плётак, ні гульні ў бастон,
Ні ўздохаў, ні гуллівых вочаў, —
Нічога ён не адчуваў,
Нічога ён не заўважаў.

XXXIX. XL. XLI. XLII

Красуні выбранага свету!
Вас перш за ўсіх пакінуў ён.
Ды ў нашы годы — праўда гэта —
Даволі нудны свецкі тон.
Хоць, можа быць, другая дама
Тлумачыць Сея і Бентама;





Ды поўна мова іх лухтой,
Хоць і невіннай, ды пустой.
У іх такая беззаганнасць,
Ў іх велічы, развагі шмат
Набожнасці ў іх цэлы клад,
Ўсё ў іх — дакладнасць і ахайнасць
І непрыступнасць для мужчын —
Адзін іх выгляд родзіць сплін.

XLIII

І вы, красуні маладыя,
Каторых позна па начах
Вазкі развозяць удалыя
Па пецярбургскіх астравах,
І вас пакінуў мой Еўгеній.
Адступнік бурных захапленняў,
Ён не выходзіць за парог,
З нудою ўзяўся за пяро,
Хацеў пісаць: ды працы спорнай
Не вытрымаў; яго рука
Ні выціснула ні радка,
Не трапіў ён у цэх задорны
Людзей, якім суда не дам
Бо я да іх належу сам.

XLIV

Ізноў з душэўнай пустатою,
Не маючы чаго рабіць,
Засеў ён з мэтай неблагою
Чужога розуму набыць;
Кніг на паліцу выклаў многа,
Чытаў, чытаў, а ўсё нічога:
Тут глупства, там хлусня, мана;
Тут сэнсу, сэрца там няма;
На кожным розныя вярыгі;
І устарэла даўніна,
І даўным трызніць навіна,
Ён, як жанчын, пакінуў кнігі,
Паліцу ж з пыльнай іх сям'ёй
Закрыў жалобнаю тафтой.

XLV

Адкінуўшы шчымлёткі свету,
Як ён, ад глупстваў я адстаў
І з ім здружыўся я ў час гэты.
Яго я рысы ўпадабаў —
Да мар міжвольная прыхільнасць
І непаўторнейшая дзіўнасць,
Дум рэзкі і халодны тон.
Я злосны быў, пануры — ён:
Гульню пачуццяў мы спазналі;
Гняло жыццё абудвых нас;
Жар сэрца ў абудвых згас;
І злосць абудвых нас чакала
І лёсу і людзей жывых
У надранне годаў маладых.

XLVI

Хто жыў і мысліў, той не можа
Ў душы людзьмі не пагарджаць;
Хто адчуваў, таго трывожыць
Здань дзён, якім больш не бываць:
Таму няма ачараванняў,
Таму ўспаміны сэрца раняць,
Таго грызе адчаю змей.
Дае ўсё гэта найчасцей
Прыемнасць значную размовам.
Спярша Онегіна язык
Мяне бянтэжыў; ды я звык
Да з'едлівых ягоных словаў,
Да жартаў з жоўцю папалам,
Да злосці змрочных эпіграм.

XLVII

Як часта летняю парою,
Калі пранізвае святло
Начное неба над Нявою
І рэчкі радаснае шкло
Не адбівае твар Дыяны,
Старыя ўспомніўшы раманы,





Былую ўспомніўшы любоў,
Без скаргаў чулыя ізноў,
Дыханнем ночы той бяздоннай
Без словаў цешыліся мы!
Нібы ў зялёны лес з турмы
Занесены нявольнік сонны,
Так мы шукалі пачуццём
Дзе пачынаецца жыццё.

XLVIII

З душою, апавітай сумам,
І абапёрты на граніт,
Стаяў Еўгеній поўны думы,
Як апісаў сябе піїт.
Усё ціха; дзе-нідзе начныя
Гукалі толькі вартавыя;
Ды грукат колаў і падкоў
З Мільённай чуўся часцяком;
Там толькі вёслы ўзляталі,
Па соннай рэчцы плыў чаўнок:
Спеў разудалы ды ражок
Здалёку нас ачаравалі.
Ды лепшы між начных забаў
Напеў Тарквататавых актаў.

XLIX

Адрыятычныя прасторы,
О, Брэнта! Вас убачу я,
Пачуе голас дзіўных хораў
Душа натхнёная мая!
Святы ён унукам Апалона;
Па гордай ліры Альбіона
Ён родны мне, ён блізкі мой,
Начэй Італіі златой
Пяшчотай ўсцешыўся на волі
З венецыянкай маладой,
То гаварлівай, то нямой,
У таемнай плывучы гандоле, —
І з ёй загавару я зноў
Так як Петрарка і любоў.

L

Ці прыдзе час маёй свабоды?
Малю яе — прыдзі хутчэй!
Ля мора я сачу пагоду
І клічу ветразь караблей.
Пад рызай бур, у спрэчцы з морам
На раздарожжы хваль напорных
Калі мне вольны бег пачаць?
Час нудны бераг пакідаць
Варожай да мяне стыхіі
І пад паўднёвай шырынёй,
Пад небам Афрыкі маёй
Па змрочнай ўздыхаць Расіі,
Дзе я пакутаваў, кахаў
І дзе я сэрца пахаваў.

LI

Онегін быў са мной гатовы
Пабачыць бляск чужых краёў;
Але ўжо хутка лёс суровы
На доўгі тэрмін нас развёў.
Памёр ягоны бацька раптам
Перад Онегіным багаты
Сабраўся крэдытораў строй.
Меў кожны зыск і розум свой;
Еўгеній, да судоў нядатны,
Здаволены жыццём сваім,
Усю спадчыну пакінуў ім,
Не бачучы вялікай страты,
Ці зведаўшы за многа дзён
Старога дзядзькі хуткі скон.

LII

І праўда, незадоўга вельмі
Шле аканом яму даклад,
Што дзядзька хворы, ў пасцелі
І з ім бы развітацца рад.
Зірнуўшы ў сумнае пісанне,
Онегін зараз на спатканне





Хутчэй па пошце паскакаў
І ўжо наперад пазяхаў,
Рыхтуючыся, дзеля грошай,
На уздохі, на нуду, на зман
(І тым пачаў я свой раман);
Ды ў хату дзядзькаву ўвайшоўшы,
Яго знайшоў ён на стале,
Як дань, якой чакае тлен.

LIII

Знайшоў ён поўны двор прыслугі;
Дзе-хто з суседзяў над'яжджаў —
Былі тут недругі і другі,
Аматары хаўтурных спраў.
І вось нябожчыка адпелі.
Папы і госці пілі, елі.
І гэтак важна прэч пайшлі
Як быццам справы ў іх былі.
Вось наш герой жыхар вясковы;
Заводаў, вод, лясоў, палей
Уладар бязмежны, а раней
Парадку вораг адмысловы,
І рад, што для былых шляхоў
Замену нейкую знайшоў.

LIV

Два дні яму было ўсё новым —
Самотна-ціхія палі,
І свежасць змрочная дубровы,
Крынічак звонкі пераліў;
На трэці дзень ні лес, ні поле
Яго ўжо не займалі болей,
Пасля наводзілі ўжо ў сон;
Пасля ўбачыў ясна ён,
Што й тут было нуды нямала,
Хоць тут няма ні камяніц,
Ні карт, ні вершаў, ні гульні.
Хандра яго і тут чакала
І бегала за ім штодзень,
Як жонка верная, як цень.

LV

Радзіўся я для долі мірнай
І для вясковай цішыні:
У глушы гучнейшы голас лірны
І творчыя жыццёвей сны.
Вось на прыволлі я нявінным
Хаджу над возерам пустынным,
І far niente — мой закон.
Я рана пакідаю сон
Для ціхай негі, для свабоды:
Чытаю мала, многа сплю,
Лятучай славы не лаўлю.
Ці ж я не так ў былыя годы
Правёў бяздзейна ў цішыні
Мае шчаслівейшыя дні.

LVI

Каханне, кветкі, вёска, воля,
Палі! я ваш усёй душой!
Я розніцу знайсці здаволен
Паміж Онегіным і мной,
Каб мой чытач які сярдзіты
Ці выдавец, што з гэткім спрытам
Паклёп зламысны выдае,
Зраўняўшы рысы тут мае,
Не паўтарыў пасля бязбожна,
Што намараў я свой партрэт
Як Байран, гордасці паэт, —
Нібыта нам ужо не можна
Пісаць паэмы аб другім,
Як толькі аб сабе самым.

LVII

Зазначу: наймілей паэтам
Больш летуценная любоў.
Бывала, мілыя прадметы
Мне сніліся, і з тых часоў
Душа іх вобраз затаіла;
Іх потым Муза ажывіла.





Я без турбот складаў свой твор
Пра ідэал мой, дзеву гор,
Пра паланянак з-над Салгіра.
Цяпер, сябры мае, не раз
Пытанні чую я ад вас:
«Па кім твая ўздыхае ліра?
Каму паміж зайздросных дзеў
Ты прысвяціў яе напеў?

LVIII

Чый зірк, хвалюючы натхненне,
Пяшчотай мілай надарыў
Напеў паэта задуменны?
Каго твой верш багатварыў?»
Дальбог, браткі мае, нікога:
Кахання буйную трывогу
Я без уцехі адчуваў.
Шчаслівы, хто яе з’яднаў
З гарачкай рыфмы: ён падвоіў
Паэзіі святы расцвет
Пайшоўшы за Петраркам услед,
А боль у сэрцы супакоіў,
Злавіў і славу часам тым;
А я ў каханні быў нямым.

LIX

Прайшло каханне, ўстала Муза,
Стаў ясным цёмны розум мой.
Шукаю, вольны, я саюза
Між сэрцам, гукам і душой;
Пішу, і сэрца не сумуе;
Пяро міжвольна не малюе
Ля недакончаных радкоў
Ні мілых ножак, ні галоў,
Халодны попел больш не ўспыхне.
Я сумны, слёз няма зусім.
І хутка, хутка бур уздым
Дарэшты ў душы заціхне:
Тады вось я пачну пісаць
Паэму глаў на дваццаць пяць.

LX

Абдумаў я і форму плана,
І як героя назаву,
Пакуль што я майго рамана
Закончыў першую главу;
Пераглядзеў усё я строга:
Ёсць супярэчнасцяў замнога,
Ды правіць іх ня хочу сам;
Цэнзуры доўг я свой аддам,
Ды журналістам на кармленне
Аддам я працы плод жывы:
Ідзі ж да берагоў Нявы,
Народжанае мной стварэнне,
І дай мне славы дань адну —
Гаворкі, гвалт і балбатню.

## ГЛАВА ДРУГАЯ

*O rus!..*
Hor.
*О Русь!*

I

Мясціна, дзе марнеў Еўгеній,
Была прывабнейшы куток;
Там друг невінных захапленняў
Благаславіць бы неба мог.
Будынак панскі самавіты,
Гарою ад вятроў укрыты,
Стаяў над рэчкаю: палі
З лугамі перад ім цвілі
Барвовыя і залатыя;
Мільгалі сёлы тут і там,
Блукала быдла па лугам,
І цені раскідаў густыя
Вялізны, занядбалы сад,
Куток замысленых Дрыяд.





II

Пабудаваны замак стала
Як мусяць ставіцца яны:
Спакойны, моцны і трывалы
У гусце мудрай старыны.
Пакоі ўсе высокай меры,
У гасцінай штофныя шпалеры,
Партрэтаў царскіх усюды шмат,
У штучных кафлях печак рад.
Усё гэта трохі padупала,
Я не магу сказаць, чаму:
Але прыяцелю майму
Бяды было па гэтым мала —
Ён роўна пазяхаў ва ўсіх
І ў модных залах і ў старых.

III

Ён ў тым пакоі пасяліўся,
Дзе старажыл вясковы жыў,
Год сорак з ключніцай сварыўся,
Ў вакно глядзеў ды мух душыў.
Падлога з дошак там дубовых,
Дзве шафы, стол, дыван пуховы,
Чарніл ні кропелькі нідзе.
Онегін шафы аглядзеў:
Быў у адной журнал расхода,
У другой налівак цэлы строй,
Збаночкі з яблычнай вадой,
Ды календар з восьмага году;
Стары меў дужа многа спраў
Дык іншых кніжак не чытаў.

IV

Ў сваім маёнтку, ў засмучэнні,
Каб толькі час прамарнаваць,
Найперш задумаў наш Еўгеній
Парадак новы заснаваць.
Мудрэц пустынны, у зацішшы
Ярэм ён паншчыны калішняй

Аброкам лёгкім замяніў;
І раб свой лёс благаславіў.
Але ў кутку сваім надуўся
Яго сусед, бо гэткі лад
Яму прарочыў шкоды шмат.
А іншы хітра ўсміхнуўся,
І ў голас парашылі так,
Што небяспечны ён дзівак.

V

Спачатку ўсе ў яго бывалі;
Ды з ганку, з іншага канца
Яму зазвычай гатавалі
Заўжды данскога жарабца
Тады, як толькі ўздоўж дарогі
Пачуюць хатнія іх дрогі —
Учынкам ўзбураны такім
Усе спынілі дружбу з ім.
«Сусед наш невук, ўсё мудруе,
Ён фармазон, ён п’е адно
Куфлём чырвонае віно,
Ён дамам ручак не цалуе;
Усё так, ды не, не скажа так-с
Ці не-с». Такі ва ўсіх быў сказ.

VI. VII. VIII

Ён верыў: ёсць душа такая —
З’яднацца мусіць з ім яна,
Яна безрадасна чакае
Яго ў цяжкой тузе штодня.
Ён верыў, што сябрам адданым
Ня страшны за яго кайданы,
І што раструшчаць рукі іх
Сасуд паклёпнікаў ліхіх:
Што ёсць адзначаныя лёсам
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .





IX

Спагада разам з абурэннем,
Да шчасця чыстая любоў
Пакутай славы захапленне
Ў ім рана хвалявалі кроў.
Ён з лірай вандраваў па свеце;
Пад небам Шылера і Гетэ,
Ўвесь іхны патычны жар
Ў яго душы стварыў пажар.
І муз мастацтва найвышэйшы,
Шчаслівы, ён не зганьбаваў;
Ён у песнях горда захаваў
Пачуццяў скарб найбагацейшы,
Парывы мары маладой
З прыгожай важнай прастатой.

X

Ён пеў каханне, паслухмяны,
Быў ясны песні яго тон,
Як простай дзевы разважанні,
Як радасны дзіцячы сон,
Як месяц высяў безтурботных,
Бог уздыханняў, тайн пяшчотных;
Ён пеў разлуку, сум і боль
І нешта і туманну золь,
Пеў рамантычныя ён крозы;
Ён пеў пра край ў далячыні,
Дзе на улонне цішыні
Плылі яго жывыя слёзы;
Ён пеў жыцця свайго канец
У васемнаццаць год хлапец.

XI

Ў глушы, дзе быў Еўгеній здольны
Адзін ценіць яго дары,
Яму суседзяў навакольных
Не падабаліся піры;
Ён унікаў бясед іх шумных.
У разважаннях іх разумных,

Занятых сенам, ды гульнёй,
Ды псярняй, ды сваёй раднёй
Пачуццяў не бывала зроду,
Ні паэтычнай цеплаты,
Ні роздуму, ні вастраты,
Ні далікацтва абыходу;
А словы мілых іх жанчын
Былі дурней чым у мужчын.

XII

Багаты Ленскі і цікавы,
Прыняты ўсюды як жаніх;
Такі вясковы звычай даўны;
Ўсе ладзілі дачок сваіх
За напаўрускага суседа;
Заходзіць ён — уся бяседа
Заводзіць гутарку бачком
Што нудна жыць халасцяком,
Завуць яго да самавару,
А Дуня разлівае чай,
Ёй шэпчуць: «Дуня, заўважай!»
Пасля прыносяць і гітару,
І запішчыць яна (бог мой!)
«Приди в чертог ко мне златой!»

XIII

Ды Ленскі меў ахвоты мала
У шлюбны перайсці палон
З Онегіным сяброўствам сталым
Мацней жадаў звязацца ён.
Здружыліся: жыццё і кроза,
Лёд і агонь ці верш і проза
Не гэтак розны між сабой.
Спачатку рознасці такой
Нуды было ім не пазбыцца;
Пасля ўжо звыкліся, далей
З'яжджаліся сярод палей
І не маглі ўжо разлучыцца.
Так ад няма чаго рабіць
Вінюся — можам мы дружыць.





XIV

Ды й гэткай дружбы мы не маем
Мы забабоны адмялі,
Сябе адзінкамі ўважаем
А іншыя для нас нулі.
Мы ўсе глядзім у Напалеоны,
Істот двухногіх міліёны
Для нас прылада — і па ўсім;
І з пачуцця мы толькі кпім.
І лепш за многіх быў Еўгеній;
Хоць ён людзей, вядома, знаў,
Наогул імі пагарджаў,
Ды ёсць для правіл выключэнні:
Ён некаторых вылучаў,
І збоку шчырасць паважаў.

XV

Ён слухаў Ленскага з усмешкай:
Распалены паэтаў сказ,
І розум, неакрэпшы ў спрэчках,
І зірк натхнёны кожны раз —
Онегіну было ўсё нова;
Ахаладжаючае слова
Стараўся ў вуснах ён стрымаць
І думаў: што перашкаджаць
Яго уцехам нетрывалым
Пара надыдзе без мяне;
Няхай пакуль што ён жыве
І свет хай лічыць дасканалым.
Даруем жару юных год
І юны брэд і юны ўзлёт.

XVI

Усё да спрэчак іх цягнула
І да развагі ўсё вяло;
І дагаворы дзён мінулых
І плён навук, дабро і зло,
І забабоны годаў даўных,
І вечныя магілы тайны,

Жыццё і лёс таксама тут
Знайшлі сабе рашучы суд.
Паэт у жаркім захапленні
Вычытываў паміж размоў
З паэм паўночных шмат радкоў;
І спачуваючы Еўгеній,
Хаця не цяміў усяго,
Аднак выслухіваў яго.

XVII

Пачуцці ж бавілі найболей
Ўвесь час пустыннікаў маіх.
З мяцежнай вышаўшы іх волі
Онегін гаварыў пра іх,
Уздыхаючы крыху журботна.
Шчаслівы, хто знаў іх турботы
І, зведаўшы, ад іх адстаў;
Шчаслівей той, хто іх не знаў,
Разлукай халадзіў каханне,
Варожасць словам злым спыняў;
З сябрамі, з жонкай пазяхаў
Не чуў раўнівых хваляванняў
І скарб, што ад дзядоў прыдбаў,
На волю двойкі не здаваў.

XVIII

Калі ўжо мы пад сцягам станем
Дабразычлівай цішыні,
Калі пагасне жар жаданняў
І势 стануць смешнымі яны,
І самавольства, парыванні,
Запозненыя адгуканні —
Пакорныя, хоць і з бяды
Паслухаць любім мы тады
Чужых пачуццяў гул бурлівы,
Ён будзіць у сэрцы рух жывы;
Вось гэтак інвалід сівы
Ахвотна хіліць слух руплівы
Да словаў юных усачоў,
У цішы забыты шмат гадоў.





XIX

Затое ж маладосць не ў стане
Хаця б што-небудзь захаваць:
Варожасць, радасць, сум, каханне
Яна гатова расказаць.
Ў каханні інвалід нібыта,
Онегін слухаў самавіта,
Як, спавядацца сэрцам рад,
Паэт выказваў увесь свой склад:
Сваё сумленне без вагання
Ён прастадушна адкрываў.
Еўгеній вельмі хутка знаў
Аповесць юнага кахання,
Пачуццямі багаты сказ
Даўно не новымі для нас.

XX

Ах, ён кахаў, з такім імпэтам
Больш не кахаюць; так, відаць
Шалёная душа паэта
Яшчэ асуджана кахаць:
Адно заўсёды лятуценне,
Адно прывычнае імкненне,
Адзін даўно прывычны жаль!
Ні суцішаючая даль,
Ні доўгія гады разлукі,
Ні музам зданыя часы,
Ні чужаземныя красы,
Ні шум вясёлы, ні навукі
Душы не адмянілі ў ім,
Сагрэтай жарам маладым.

XXI

З дзяцінства Ольгай паланёны,
Не знаўшы болю пачуцця,
Ужо ён сведкам быў натхнёным
Яе дзіцячага жыцця.
Ў сутонні свежае дубравы
Ён падзяляў яе забавы,

І ім прарочылі вянкі
Сябры-суседзі, іх бацькі.
Ў глушы, ў прытулку занядбаным,
Краса нявінная ўзрасла,
Паміж бацькоў сваіх цвіла
Яна як ландыш захаваны,
Не ўбачаны ў траве глухой
Ні матылькамі, ні пчалой.

XXII

Яна яму падаравала
Ачаравання першы сон,
І думка пра яе натхняла
Яго жалейкі першы тон.
Бывайце, гулі залатыя!
Ён палюбіў лясы густыя,
Адасабненне, цішыню
І ў зорах неба вышыню
І месяц, вышнюю паходню,
Якому прысвячалі мы
Гулянкі ў час вячэрняй цьмы
І слёз таемных асалоду
Ды зараз бачым толькі ў ім
Замену ліхтарам глухім.

XXIII

Ў ёй, заўжды сціплай, паслухмянай
Цвіла як ранне весялосць
Пяшчотна як само каханне,
Наіўна як паэтаў лёс.
Блакітныя, як неба вочы,
Усмешка, лён кудрэй дзявочых,
Рух, поступ, голас, лёгкі стан,
Усё ў Ользе… Хоць які раман
Вазьміце — знойдзеце там верны
Яе партрэт; ён мілы, мне
Ён да спадобы быў даўней,
Ды надакучыў мне бязмерна.





Хай мне чытач дазволіць мой
Заняцца большаю сястрой.

XXIV

Імя сястры было Тяцяна…
Адважна іменем такім
Упершыню красу рамана
Мы самавольна асвяцім.
І што ж? прыемна, мілагучна,
Ды з ім, я знаю, неразлучны
Ўспаміны адышоўшых дзён
Ці дзевіч’яй. Сярод імён
У нас надзвычай густу мала,
Павінны шчыра мы прызнаць
(пра вершы што ўжо і казаць):
Да нас асвета не прыстала
Мы дасяглі ў ёй аднаго —
Крыўляння — толькі і ўсяго.

XXV

І так імя яе Тацяна.
Ні з гожасцю сястры сваёй,
Ні з свежасцю яе румянай
Спрачацца б не пад сілу ёй.
Журботна-дзікая, нямая,
Пужлівая, як лань лясная,
Здавалася ў сям’і сваёй
Яна дзяўчынкаю чужой.
Яна і песціцца не ўмела
Ніколі да бацькоў сваіх;
Дзіця, сярод дзяцей другіх
Гуляць і бегаць не хацела,
І часта, цэлы дзень адна,
Сядзела моўчкі ля вакна.

XXVI

З калыскі задуменнасць з ёю
Была сяброўкаю адна,
Маруднасць сельскага спакою

Жывіла марамі яна.
Яе распешчаныя пальцы
Не знялі іглаў, каля пяльцаў
Шаўковай дэсанню яна
Не ажыўляла палатна.
Жаданне ўладаць прымета:
З пакорнай лялькаю дзіця
Рыхтуецца ўжо да жыцця,
Да правіл і законаў свету,
І важна паўтарае зноў
Навуку матчыных размоў.

XXVII

Ды з лялькаю і ў тыя годы
Ў гульню Таццяна не ішла;
Пра весткі гораду, пра моды
Размовы з ёю не вяла
Былі дзіцячыя ёй цацкі
Чужыя, жудасныя казкі
Узімку, у цемнаце начной
Больш чаравалі сэрца ў ёй.
А калі няня заклікала
Для Ольгі на гульню другіх
Яе сяброўак маладых,
Яна ў гарэлкі не гуляла,
Ёй нудны быў і звонкі смех
І шум іх балаўных уцех.

XXVIII

Больш на балкон яна любіла
Пайсці, спаткаць зары ўсход,
Калі на бледным небасхіле
Знікае зорак карагод,
І ціха край зямлі святлее
І веснік рання, вецер вее
І пакрысе ўзыходзіць дзень
Узімку, калі ночы цень
Даўжэй паўсветам уладае,
І больш у цішыні пустой





Пры месяцы, спавітым мглой
Усход марудны спачывае,
Яна ў прывычны час да дня
Ўставала пры святле агня.

XXIX

Даліся рана ёй раманы;
Яны ёй замянялі ўсё;
Яе прывабілі абманы
І Рычардсона і Руссо.
Быў бацька добрым чалавекам,
Запозненым ў мінулым веку;
Ды ў кнігах зла не адчуваў;
Ён іх ніколі не чытаў
І ўважаў пустой дрындушкай,
Дык і не думаў ён, які
Таемны домік у дачкі
Драмаў да рання пад падушкай.
А жонцы з самых даўных дзён
Мілей за ўсё быў Рычардсон.

XXX

Яна любіла Рычардсона
Не ад таго, што ў даўны час
Чытала, што за Грандысона
Быў горшы для яе Лаўлас;
Але даўней княжна Аліна,
Яе маскоўская кузіна,
Казала часта ёй пра іх.
У той час быў яшчэ жаніх
Яе супруг, хоць і з няволі;
Яна ўздыхала па другім,
Што сэрцам, розумам сваім
Ёй падабаўся значна болей.;
Той Грандысон быў слаўны франт,
Танцор і гвардыі сержант.

XXXI

Як ён, яна была убрана
Заўжды на модны густ, калі

Не палічыўшыся з жаданнем,
Дзяўчыну замуж аддалі.
І, каб з яе пакончыць смуткам,
Разумны муж паехаў хутка
У глуш вясковую, дзе ім
Абкружана бог знае кім,
Перш рвалася яна, рыдала,
Развод ледзь з мужам не ўзяла;
Ды гаспадарыць пачала,
Прывыкла і шчаслівай стала:
Прывычка — дар нябёс, яна
І шчасце замяняе нам.

XXXII

Развеяла прывычка смутак,
Якога не прагнаць нічым;
Другая вынаходка хутка
Яе суцешыла зусім.
Яна між справай, ў час дасужы,
Напала на сакрэт, як мужам
Самаўладарна кіраваць,
І стала ўсё як трэба стаць.
Яна бывала на работах,
Саліла на зіму грыбы,
Вяла расход, галіла любы,
Хадзіла ў лазню па суботах,
Служанак стала лупцаваць —
І мужа кінула пытаць.

XXXIII

Калісь крывёй яна пісала
У альбомы задуменных дзеў,
Палінаю Параску звала
І гаварыла на распеў;
Карсет насіла вельмі вузкі
І рускі Н як N французскі
У нос умела вымаўляць;
Цяпер пра гэта не чуваць.
Карсет, альбом, княжну, Паліну,
І збор расчуленых радкоў





Яна забыла — з тых часоў
Акулькай стала зваць Селіну,
І абнавіла пад канец
На ваце шлафар і чапец.

XXXIV

Ды муж кахаў яе пяшчотна
І перашкод ёй не рабіў,
Ва ўсім ёй верыў бестурботна
А сам ў халаце еў і піў.
Жыццё спакойна працякала;
Пад вечар часам пад'яжджала
Сям'я суседзяў-сваякоў,
Нецэрамонных дружбакоў
Жывым слаўцом сябе забавіць,
Пажартаваць аб тым, аб сім.
Праходзіць час; а паміж тым
Накажуць Вользе чай паставіць;
Там вечар, там і спаць пара,
І госці едуць прэч з двара.

XXXV

Ў жыцці яны хавалі свята
Прывычкі мілай старыны;
У іх на маслянцы багатай
Вяліся рускія бліны;
Аж двойчы ў год яны гавелі;
Любілі круглыя качэлі,
Падблюдны спевы, карагод;
На сёмуху, калі народ
З прасоння слухае малебен,
Умільна на жмуток зары
Яны ранілі слёзкі тры;
Квас, як паветра, ім патрэбен,
І за сталом у іх гасцям
Насілі стравы па чынам.

XXXVI

Вось так і старасць прываліла.
І вось адкрыты пад канец

Прад мужам дзверы ў магілу,
І новы ён прыняў вянец.
Памёр якраз ён прад абедам
Аплаканы слязьмі суседа
І жонкі і дзяцей сваіх
Чыстасардэчней за другіх.
Ён просты быў і добры барын,
І там, дзе прах яго ляжыць,
На камні гэткі сказ стаіць:
«Пакорны грэшнік Дзмітры Ларын,
Гасподні раб і брыгадзір,
Знайшоў пад гэтым камнем мір».

XXXVII

Прыйшоўшы да сваіх пенатаў
Владзімір Ленскі доўг аддаў
Яго магіле праставатай
І ўздохам прах ушанаваў;
І сэрца сціснула тугою.
«Poor Jorick!» ён сказаў з журбою,
«Ён на руках мяне трымаў
Як часта я дзіцём гуляў
З яго ачакаўскім медалем!
Мне Ольгу ладзіў з даўных дзён,
Каб прычакаць: казаў так ён!..»
І, поўны найшчырэйшым жалем,
Хвіліны ён не змарнаваў
І мадрыгал жалобны склаў.

XXXVIII

І там жа словам поўным жалю
Ў слязах ушанаваў ён прах
Сваіх бацькоў патрыярхальны.
На выбітых жыцця шляхах
Жнівом багатым пакаленні
Па вышняй волі прадрачэнню
Ўзыходзяць, спеюць і падуць;
Другія ім услед ідуць…
Вось гэтак і наш род нядбайны





Расце, хвалюецца наўкол
І цісне дзедаў у смерці дол
Настане і наш час, настане
І нашы ўнукі ў добры час
Са свету выціснуць і нас.

XXXIX

Чаруйцеся пакуль што смела
Жыццём бесклопатным такім!
Яго нікчэмнасць зразумела
І мала звязаны я з ім;
Я вочы зачыніў для зданяў;
Але для дальніх спадзяванняў
Трывожна сэрцу іншы раз:
Каб след мой назаўсёды згас
Пакінуць свет было б мне смутна.
Жыву, пішу не для забаў:
Але, здаецца, я б жадаў
Уславіць лёс свой, лёс пакутны,
Каб пра мяне, як верны друг,
Напомніў хоць адзіны гук.

XL

Ён сэрца нечае узрушыць;
І цэлая між нашых спраў,
У Леце не затоне, мусіць,
Страфа, якую я складаў.
Магчыма — шмат у надзеі чараў!
Пакажа будучы нездара
На мой услаўлены партрэт,
І скажа: вось дзе быў паэт!
Прымі падзяку без дакораў,
О, Аонід высокіх друг,
Чый успамін схавае гук
Усіх маіх лятучых твораў
Чыя рука, як час праб'е,
Старога лаўры паскубе.

## ГЛАВА ТРЭЦЯЯ

*Elle était fille, elle était amoureuse.*

Malfilâtre

### I

«Куды? Ну-ж гэтыя паэты!»
— Час развітацца мне з табой. —
«Я не трымаю; але дзе ты
Праводзіш кожны вечар свой?»
— У Ларыных. — «Вось гэта дзіўна.
Даруй! ды хіба не праціўна
Табе штовечар там сядзець?»
— Ані. — «Мне цяжка зразумець.
Адсюль відаць, што за мясціна:
Найперш — скажы, ці правы я? —
Зазвычай руская сям'я.
Прыём старанны і гасцінны,
Варэнне, гутарка заўжды
Пра лён, пра стайню, пра дажджы…»

### II

— Не бачу тут вялікай шкоды. —
«Ды нудна-ж, вось бяда, мой друг».
— я ненавіджу свет ваш модны;
Мілейшы шмат мне хатні круг,
Дзе я магу… — «Ізноў эклога!
Даволі, мілы, дзеля бога.
Шкада, што едзеш ад мяне.
Ах, слухай, Ленскі, як бы мне
Зірнуць хоць на Філіду гэту.
Прадмет і думак, і пяра
І слёз, і рыфм et cetera?
Прадстаў мяне». — Жартуеш. — Дзе там!»
— я рад. — «Калі ж?» — Хоць гэты ж час.
Яны з ахвотай прымуць нас.

### III

Паедзем. —
Паскакалі другі,





З'явіліся; чакаюць іх
Цяжкія іншы раз паслугі
Гасцінных звычаяў старых.
Абрад вядомы пачастунку:
Нясуць на спадачках ласункі,
На столік ставіцца тады
Збанок бруснічнае вады.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

### IV

Яны дамоў што духу гоняць
Дарогай самаю прамой.
Паслухаем, пра што гамоняць
Героі нашы між сабой.
— Ну што, Онегін? Пазяхаеш.
«Прывычка, Ленскі». — Выгляд маеш
Маркотнейшы. — «Не, як раней.
Аднак у полі ўсё цямней;
Хутчэй! Андрушка, паспяшаем!
Вось нейкая дурная цьма!
Дарэчы: Ларына сама
Надзвычай мілая старая;
Вось каб з бруснічнае вады
Мне не нажыць якой бяды.

### V

«Скажы: каторая Тацяна?»
— Тацяна? Сумная яна,
Маўклівая, нібы Святлана,
Зайшоўшы села ля вакна. —
«Няўжо ты меншую кахаеш?»
— А што? — «Мне лепш была б другая,
Калі б паэтам мог быць я.
Пазбаўлен Вольгін твар жыцця,
Нібы ў Вандыкавай мадонны:
Чырвоны, круглы твар яе,

Як дурань месяц, што ўстае
На небасхіл дурны і сонны» —
Владзімір суха адказаў
І ўсю дарогу скрозь маўчаў.

VI

Між тым Онегіна з'яўленне
У Ларыных для ўсіх было
Падзеяй, поўнаю значэння
І ўсіх суседзяў заняло.
Пайшла дагадка за дагадкай,
Ўсе сталі гаманіць украдкай
Судзіць і кпіць не без граха,
Тацяне ладзіць жаніха;
А іншыя і так казалі,
Што шлюб наладжаны зусім,
Але адкладзены затым,
Што модных кольцаў не дасталі.
Вяселле ж Ленскага, яно
Рашылася ў іх даўно.

VII

Тацяна прыкрасць адчувала
Ад плётак; але прад усім
Яна з уцехай небывалай
Міжвольна думала аб тым;
Запала ў сэрца думка цмяна;
Пара прышла, прышло каханне.
Так зерне, што ў зямлю лягло
Цяпло вясновае ўзняло.
У ёй даўно ўжо ўяўленне
Чакала з негай і тугой
Пажывы неадхільнай той;
Даўно сардэчнае тамленне
Распальвала ў грудзях агонь;
Душа чакала… хоць каго.

VIII

І прычакала. Свет адкрыўся.
Яна сказала: гэта ён!





Увы! Цяпер усе ночы, дні ўсе,
І жаркі і самотны сон,
Ўсё поўна ім; ўсё дзеве мілай
Нязмоўчна чарадзейнай сілай
Пяе аб ім. Дакучны ёй
І словы гутаркі жывой,
І зірк прыслужнікаў ласкавы.
Яна у засмучэнні злым
Гасцей не слухае зусім
І праклінае іх забавы,
І нечаканы іх прыезд
І без канца даўгі прысест.

IX

Цяпер з якім яна стараннем
Чытае мілы свой раман,
З якім жывым ачараваннем
Прывабны п'е яна абман!
Шчаслівай сілай летуцення
Адухаўлёныя стварэнні,
Каханак Юліі Вольмар,
Малек-Адэль і дэ. Лінар,
І Вэртэр, мучанік бунтоўны,
І незраўнаны Грандысон,
Які на нас наводзіць сон,
Для летуценніцы чароўнай
Зліліся вобразам жывым
Ўсе у Онегіне адным.

X

Сябе зрабіўшы гераіняй
Сваіх любімейшых тварцоў,
Кларысай, Юліяй, Дэльфінай,
Тацяна ў цішыні лясоў
Адна са здраднай кніжкай ходзіць,
У ёй шукае і знаходзіць
Лятункі, жар таемны свой,
Узняты сэрца паўнатой,

Ўздыхае, думкі і настроі
Другіх прысвоіўшы сабе,
На памяць шэпча пра сябе
Ліст да любімага героя…
Герой жа, хто б не быў там ён,
Напэўна быў не Грандысон.

XI

Высокім складам, важным строем,
Тварэц натхнёны ў даўні час
Паказваў нам свайго героя
Як дасканаласці абраз.
Меў у яго прадмет абраны.
Заўжды загнаны беспадстаўна,
Высокі розум, сэрца жар
І надзвычайна гожы твар.
Ў пачуццях чыстаты выключнай
Заўжды захоплены герой
Быў рад ахвяраваць сабой.
І пры канцы главы заключнай
Заўсёды несла кару зло,
Дабро ж услаўлена было.

XII

А сёння думкі ўсе ў тумане,
Мараль даводзіць нас да сна,
Няцнота слаўна і ў рамане,
Перамагае там яна.
І музы англійскай навіны
Трывожаць мірны сон дзяўчыны
І стаў цяпер яе кумір
Або замыслены Вампір
Або Мельмот, бадзяка спрытны,
Ці вечны жыд, або Сбогар,
Або загадкавы Карсар.
Лорд Байран прымхаю дасціпнай
Схаваў у змрочны рамантызм
І безнадзейны эгаізм.





XIII

Браточкі, што ж за сэнс у гэтым?
Магчыма, судзіць неба мне,
Што я пакіну быць паэтам,
Чорт новы ўселіцца ў мяне,
І, супраць Фебавай пагрозы,
Я зніжуся да сціплай прозы:
Раман на лад даўнейшых год
Вясёлы зойме мой заход.
Не боль якіх злачынстваў тайных
У ім я грозна пакажу,
А проста вам перакажу
Сям'і расійскае паданні,
Кахання радасныя сны
Ды звычай нашай старыны.

XIV

Перакажу апавяданні
Ці бацькі, ці каго з дзядзькоў,
Дзяцей наўмысныя спатканні
Пад ліпамі, ля ручайкоў;
Няшчаснай зайздрасці пакуты,
Мір са слязамі, смутак люты,
Зноў пасвару, і пад канец
Я павяду іх пад вянец…
Я помню словы негі палкай,
Маркотнага кахання сказ,
Які калісці, ў даўны час
Ля ног прыгожае каханкі
Прыходзяць часта на язык —
Ад гэткіх словаў я адвык.

XV

Тацяна, мілая Тацяна!
З табой цяпер я слёзы лью;
Ты ў рукі моднага тырана
Ўжо долю аддала сваю.
Загінеш ты; але да часу
Ты ў сваёй надзеі яснай

Уцеху цёмную завеш,
Жыцця ты негу пазнаеш,
П’еш дзіўнае пітво жаданняў,
І мары ўсюды за табой:
Усюды бачыць погляд твой
Прытулкі радасных спатканняў;
Усюды, ўсюды прад табой
Спакуснік вызначаны твой.

XVI

Тацяну гоніць сум кахання,
У сад ідзе яна тужыць,
Схіляе вочы нечакана,
І ўжо ёй лень далей ступіць:
Ўзняліся грудзі, і ланіты
Раптоўным полымем пакрыты,
І подых заняло ў грудзях,
І ў вочах бляск, і шум у вушах…
Ноч прыдзе; месяц абыходзіць
Высь неба вартаю начной
І салавей у цьме глухой
Напевы гучныя заводзіць.
Не ведае Тацяна сна,
Гамоніць з няняю яна.

XVII

«Не спіцца, няня: дух займае!
Адкрый акно, ды сядзь сюды».
— Ды што з табой? — «Нуда такая,
Скажы пра даўныя гады».
— Пра што ж бы, Таня? Я, бывала
Хавала ў памяці немала
І небыліц, і быляў шмат
Пра духаў злых і пра дзяўчат;
А зараз цёмна ўсё мне, Таня.
Забылася, што знала. Час
Паганы надыйшоў для нас!
Зашыбла… — «Раскажы мне, няня,
Пра адыйшоўшыя гады:
Кахала ты каго тады?»





XVIII

— Ды што ты, Таня! Нашым светам
Мы і не чулі пра любоў;
Бо душу выгнала б за гэта
З мяне нябожчыца-свякроў.
«Ды як жа шлюб ты брала, няня?»
— Так, мусіць, бог судзіў. Мой Ваня
Быў маладзейшы за мяне,
А ўжо было трынаццаць мне.
Два тыдні сваццця вандравала
У нашу хату і такі
Благаславілі нас бацькі.
Ад страху горка я рыдала;
Касу мне з плачам расплялі
Ды з песняй у царкву звялі.

XIX

І завялі ў сям’ю чужую…
Ды ты не чуеш, бачу я… —
«Ах, няня, няня, я сумую,
Мне цяжка, мілая мая:
Я плакаць, я рыдаць гатова!..»
— Дзіця маё, ты нездарова;
Памілуй, божа, і ратуй!
Прасі, што хочаш, не шкадуй…
Дай, акраплю святой вадою…
«Не трэба, мілая мая;
Я… знаеш… закахана я».
— Маё дзіцятка, бог з табою! —
І няня дзеўчыну з мальбой
Хрысціла зморшчанай рукой.

XX

«Я закахана», зноў шаптала
З тугою дзеўчына мая.
— Мой друг, ды што з табою стала! —
«Пакінь мяне: кахаю я»
А месяц з’яў у небе чыстым
І асвятляў святлом срыбрыстым

Тацяны бледныя красы,
Распушчаныя валасы
І кроплі слёз і на услоне
Прад гераіняй маладой
З пакрытай хусткай галавой
Старую ў цёплым балахоне;
І ўсё драмала ў ціхай мгле
У натхнёным месяца святле.

XXI

Высока сэрцам узлятала,
На месяц гледзячы, яна…
Раптоўна думка ў ёй паўстала…
«Ідзі, пабуду я адна.
Падсунь мне стол, паперы дай мне,
Пяро; я хутка лягу, няня;
Бывай». І вось яна адна.
Зіяе месяц ёй з вакна.
Схіліўшыся, Тацяна піша,
І ўсё Еўгеній у вачах,
І ў неабдуманых радках
Каханне мілай дзевы дыша.
Ліст скончан, складзен як найлепш…
Каму ж яго, Тацяна, шлеш?

XXII

Красунь я ведаў недаступных,
Халодных, чыстых, як зіма;
Неублаганых, непадкупных,
Якіх уцяміць сіл няма;
Дзівіўся цноце іх прыроднай
І фанабэрыі іх моднай,
Ад іх, прызнацца, я ўцякаў,
І з нейкім жахам я чытаў
Над іх брывямі сказ пякельны:
Пакінь надзею назаўжды.
Ў каханні ім найбольш бяды,
Пужаць людзей — для іх вяселле.
Магчыма дзе каля Нявы
Дам гэткіх бачылі і вы.





XXIII

Сярод паклоннікаў слухмяных
Дзівачак бачыў я другіх,
Самалюбівых і нядбайных
Да ўздохаў, да пахвал жывых.
І што ж убачыў я, цікава?
Яны, суроваю падставай
Спужаўшы лёгкую любоў,
Яе ўзбудзіць умелі зноў
Спагадаю, па меншай меры,
Па лепшай меры, іншы сказ
Гучэў ласкавей іншы раз,
І ў засляплёным лёгкавер'і
Каханак малады ізноў
За мілай лухтаю ішоў.

XXIV

Дык чым жа горш за іх Тацяна?
Ці тым, што ў прастаце сваёй
Яна не ведае абмана
І верыць мары дарагой?
Ці тым, што любіць не вытворна,
Што толькі пачуццю пакорна,
Што ў ёй даверлівасць жыве
Што лёс ўзнагарадзіў яе
І уяўленнем несціханым,
Развагай, воляю жывой
І непакорнай галавой
І сэрцам палкім і адданым?
Ці ж не даруеце вы ёй
Пачуццяў лёгкасці жывой?

XXV

Какетка судзіць хладнакроўна,
Тацяна любіць усёй душой
І аддаецца безумоўна
Каханню як дзіцёнак той.
Яна не думае: разлічым,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Надзейна ў сетку завядзём;
Перш пустаслаўе падпальнём
Надзеяй, потым недаўменнем
Намучым сэрца, а затым
Агнём зайздросным ажывім;
А то, як знікне захапленне,
Нявольнік хітры з ланцугоў
Заўсёды вырвацца гатоў.

XXVI

Яшчэ тут перашкода стане:
Каб родны край не зганьбаваць
Без разважанняў ліст Тацяны
Павінен я перакладаць.
Яна па-руску кепска знала,
Журналаў нашых не чытала,
І мовай роднаю сваёй
Выказывацца цяжка ёй.
І так пісала па-французску…
Што зробіш! Паўтараю зноў:
Дагэтуль дамская любоў
Не выкладалася па-руску.
І горды голас рускіх слоў
На пошце ходу не знайшоў.

XXVII

Ад дам, я знаю, патрабуюць
Чытаць па-руску. Проста страх!
Іх і прадставіць ці магу я
З «Благонамеренным» ў руках?
На вас спашлюся я, паэты,
Ці праўда: мілыя прадметы,
Якім за грэх даўнейшы свой
Складалі вершы вы парой,
Якім вы сэрца прысвячалі,
Хіба ж не ўсе, з такой бядой
Ўладаўшы моваю сваёй,
Яе так міла выпраўлялі,
І ў вуснах іх замежны сказ
Хіба не стаў сваім для вас?





XXVIII

Крый боже мне сустрэць на бале,
Або на ганку ў капцы
Семінарыста ў жоўтай шалі,
Ці акадэміка ў чапцы!
Як без усмешкі губ румяных,
Без хібаў ў правапісанні
Я рускай мовы не люблю.
Магчыма, на бяду маю,
Красуняў нашых род навейшы,
Паслухаўшы журналаў сказ
Граматыцы навучыць нас
І ў абыход уставяць вершы:
Ды я… Якая справа мне?
Я верны буду старыне.

XXIX

Нероўны, неахайны лепет
Другое вымаўленне слоў
Як некалі сардэчны трэпет
Абудзяць у грудзях ізноў
Я каяцца не маю сілы,
Мне галіцызмы будуць мілы,
Як даўнай юнасці грашкі,
Як Багдановіча радкі.
Ды годзе. Час за ліст узяцца,
Што піша дзеўчына ў цішы;
Я слова даў. Хоць, ад душы,
Не хочацца цяпер і брацца.
Я знаю: нежнага Парні
Пяро не ў модзе ў нашы дні.

XXX

Пясняр піроў, маркоты томнай,
Калі б яшчэ ты быў са мной,
Я стаў бы просьбаю нескромнай
Цябе трывожыць, мілы мой:
Каб у чароўнейшым напеве
Ты пераклаў бы палкай дзевы

Чужую мову на сваю.
Дзе ты? Прыдзі: я аддаю
Свае правы табе з паклонам…
Ды пасярод журботных скал,
Адвыкшы сэрцам ад пахвал,
Адзін пад фінскім небам сонным
Ён ходзіць і душой сваёй
Не чуе ён журбы маёй.

XXXI

Вось ліст Тацяны прада мною;
Яго я свята берагу,
Чытаю з тайнаю тугою
І начытацца не магу.
Адкуль тут гэткая пяшчотнасць,
Слоў маладая бестурботнасць?
Хто мілай лухце навучаў,
Шаленства ў мову сэрца ўклаў
Што гэтак шкодзіць і чаруе?
Не знаю. Але даць я рад
Няпоўны, бледны пераклад,
Малюнка копію слабую,
Нібы разыграны Фрэйшыц
Рукамі юных вучаніц.

**Ліст Тацяны да Онегіна**

Я вам пішу — чаго вам болей?
Што я магу яшчэ сказаць?
Цяпер, я знаю, ў вашай волі
Мяне пагардай пакараць.
Але да горкай маёй долі
Калі вас жаль крыху кране,
Вы не пакінеце мяне.
Спачатку я маўчаць хацела;
Паверце, з сорамам маім
Вы не пазналіся б зусім,
Калі б я хоць надзею мела
Хоць рэдка, хоць на тыдзень раз
У вёсцы нашай бачыць вас,





Каб толькі вашы чуць размовы,
Сказаць вам слова, а затым
Ўсё думаць, думаць аб адным
І ўсё чакаць сустрэчы новай.
Аднак, вы, кажуць, нелюдзім,
У вёсцы вы ў маркоце вечнай,
А мы… нічым мы не блішчым,
Хаця і рады вам сардэчна.
Навошта вы прышлі да нас?
У зацішшы нашым заняпалым
Ніколі б я не знала вас
І болю горкага б не знала.
Суняць душы маёй навалу
Пара магчыма б надышла,
Па сэрцу б друга я спаткала,
І жонкай бы адданай стала
І добрай маткаю была.
Другі!.. О не, нікому болей
Не адчыніла б сэрца я!
То суджана вышэйшай воляй,
То суд нябесны: я твая;
Жыццё маё было залогам
Спаткання пэўнага з табой;
Я знаю, ты пасланы богам,
Да смерці ты ахоўнік мой...
Ты ў снах чароўных мне з’яўляўся,
Небачаны, быў мілы мне,
Твой дзіўны зірк таміў мяне,
Ў душы твой голас адгукаўся
Даўно… не, гэта быў не сон!
Ты ледзь зайшоў, я ўраз пазнала,
Уся самлела, запалала,
Сказала ў думках: гэта ён!
Ці праўда? я цябе ўжо знала:
Ты размаўляў са мной ў цішы,
Як бедным я дапамагала,
Або малітвай суцішала
Тугу ўсхвалёванай душы?
І ў гэту самую хвіліну

Хіба ж не ты, як прывід дзіўны,
Ў празрыстай цемры мільгануў,
Прынік ціхутка да ўзгалоўя?
Хіба ж не ты з жывой любоўю
Надзеі словы мне шапнуў?
Хто ты: ці ангел, мне спагадны,
Ці мо спакуснік злы і здрадны?
Мае сумненні развяжы.
Магчыма, гэта ўсё пустое,
Абман незнаючай душы
І суджана зусім другое…
Ды так і быць! Вось лёс я свой
Табе адгэтуль даручаю,
Я слёзы лью перад табой,
Твайго ратунку я чакаю…
Вось уяві: ў самоце злой
Мяне ніхто не разумее.
Развага ўся мая марнее,
Я згіну ў тузе нямой.
Чакаю: сэрца спадзяванні
Адзіным зіркам ажыві,
Ці сон цяжкі мой перарві
Увы, належным нараканнем!
Канчаю! Страшна яшчэ раз
Чытаць… я сорам адчуваю...
Ды веру, гонар ёсць у вас,
Яму сябе я даручаю…»

XXXII

Тацяна то ўздыхне, то охне;
Калоціць ліст яе руку;
Ружовая аблатка сохне
На высмажаным языку.
Галоўку да пляча схіляе.
Сарочка лёгкая спаўзае
З яе прыгожага пляча.
Ды вось бляск месяца пачаў
Патроху гаснуць. Там даліна
Скрозь пар яснее. Ручаёк





Пачаў срыбрыцца. Там ражок
Пастушы будзіць селяніна.
Вось ранне; ўсталі ўсе даўно:
Маёй Тацяне ўсё адно.

XXXIII

Яна зары не заўважае,
З пахіленаю галавой
На ліст яна не націскае
Сваёй пячаткай выразной.
Ды ўжо Філіп’еўна сівая
Ціхутка дзверы адчыняе,
Прыносіць на паносе чай.
«Пара, дзіця маё, ўставай!
Ды ты, красуня, ўжо гатова!
О, птушка ранняя мая!
А як трывожылася я!
Ды, дзякуй богу, ты здарова!
Тугі начной прапаў і след,
Твой тварык быццам макаў цвет».

XXXIV

— Ах! няня, споўні даручэнне… —
«Што ж, родненькая, загадай» —
— Не думай толькі… падазрэнне…
Ды бачыш… ах! не адмаўляй. —
«Мой друг, вось бог табе зарука».
Дык вось пашлі ціхутка ўнука,
Вось тут запіска О… таму…
Суседу… ды сказаць яму —
Каб ён не гаварыў ні слова,
Не называў маё імя… —
«Каму ж бы, мілая мая?
Я нешта стала бесталковай.
Іх шмат у нашай старане —
Іх палічыць куды ўжо мне.

XXXV

— Ты нездагадлівая, няня! —
«Мой друг, пара ўжо надышла;

Стары тупее розум, Таня;
Даўней я вострая была:
Бывала, слова панскай волі…»
— Ах, няня, няня, ўжо даволі!
Што тут пра розум разважаць
Ты бачыш, трэба ліст аддаць
Онегіну. — «Так, зразумела.
Не гневайся, душа мая,
Ты ведаеш, не цямлю я…
Ды што ж ізноў ты пабялела?«
— Ды проста так, ні ад чаго.
Пайшлі ж унука ты свайго.

XXXVI

Але няма адказу зрання.
Няма яго й другога дня.
Бялей за цень, ўвесь дзень прыбрана,
Чакае водгуку яна.
Вось Вольгін ухажор прымчаўся.
«Куды ж прыяцель ваш схаваўся?»
Пытае маці прад усім:
«Забыўся ён пра нас зусім».
Тацяна ўся аж запалала.
— Сягоння быць ён абяцаў, —
Так матцы Ленскі адказаў: —
Ды, мусіць, пошта затрымала. —
Таццяна зірк схавала свой
Нібы дакор пачуўся ёй.

XXXVII

Змяркала; на стале бліскучы
Вячэрні самавар шыпеў
І пар гарачы і лятучы
Над чайнікам кітайскім пеў.
Рукою Вольгінай разліты
Па філіжанках стромай спрытнай
Пахучы чай ўжо цурчаў
І сліўкі хлопчык падаваў;
Тацяна прад вакном стаяла,





І хукнуўшы на шкло вакна,
Уся думак поўная, яна
Прыгожым пальчыкам пісала
На потным і халодным шкле
Заветны вензель: О да Е.

XXXVIII

Між тым, уся душа ў ёй ныла,
І зрок слязамі заплываў.
І раптам топат!.. Кроў застыла.
Усё бліжай!.. І на двор прымчаў
Еўгеній! «Ах» — і лёгкім ценем
Тацяна скок у другія сені,
Праз ганак ў двор і проста ў сад;
Ляціць, ляціць; зірнуць назад
Баіцца; вось пааббягала
Курціны, мосцікі, лужок,
Праход да возера, лясок,
Бэз, бягучы, пераламала,
Ў знямозе каля ручая
На лаўку дзеўчына мая

XXXIX

Упала…
«Тут ён! Тут Еўгеній!
О божа! што падумаў ён!» —
Ў ёй сэрца ў тузе нязменнай
Надзеі песціць цёмны сон;
Яна дрыжыць, ў ёй жар страшэнны;
Чакае: ці не йдзе? Дарэмна.
Служанкі ў садзе наградах
Збіралі ягады ў кустах
І хорам па наказу пелі
(Угрунтаваны тым закон,
Каб панскай ягады цішком
Іх вусны ласыя не елі,
А пелі песні ў поўны тон:
Дасціпнасці вясковай плён!)

**Песня дзяўчат**

Любыя дзяўчатачкі,
Душанькі, падружанькі,
Пагуляйце, дзеванькі,
Загуляйце, мілые,
Зацягніце песенку
Песенку заветную,
Дай прывабце малайца
Ў карагоды нашыя.
Як завабім малайца,
Як здалёку выглядзім,
Разбяжымся, мілыя,
Закідаем вішэннем,
Вішэннем, малінаю,
Яснаю парэчкаю.
Не хадзі падслухіваць
Песенкі заветныя,
Не хадзі падглядываць
Гулейкі дзявочыя.

XL

Яны співаюць і недбала
Спеў звонкі слухаючы іх
Тацяна з прагнасцю чакала
Каб трэпет сэрца ў ёй заціх,
І каб прайшло ланіт паланне.
Ды ў персях тое ж трапятанне,
Ланіт не супыніўся жар
Яшчэ жарчэй палае твар.
Так матылёк пужлівы б'ецца
І з'яе трэпетным крылом
Спайманы жвавым шкаляром;
Так зайчык у жытах трасецца
Як з'явіцца ў яго вачах
Стралец засеўшы ў кустах.

XLI

Ды пад канец яна ўздыхнула,
Ўзнялася з лавачкі сваёй;





Пайшла, ды толькі завярнула
Ў прысады, — проста перад ёй,
Вачыма з'яючы, Еўгеній
Спыніўся нейкім грозным ценем,
І як ад подыху агня
Ураз спынілася яна.
Пра плён сустрэчы нечаканай
Сягоння, просьба дараваць,
Не ў сілах я пераказаць.
Вось ад даўгіх апавяданняў
Я адпачну і пахаджу:
Пасля як-небудзь раскажу.

## ГЛАВА ЧАЦВЁРТАЯ

*La morale est dans la nature des choses.*
Necker

I. II. III. IV. V. VI. VII

Чым менш жанчыну мы кахаем
Тым больш чаруем мы яе,
І тым далей яе штурхаем
У пасткі згубныя свае.
Распуста жорсткая, бывала,
Кахаць умела дасканала,
Умеўшы пра сябе трубіць
І без кахання шчаснай быць.
Ды гэта важная забава
Больш варта малпаў паджылых
Расхваленых часоў былых;
Знасілася Лаўласаў слава
З абцасамі старых гадоў
Ды з модай пышных парыкоў.

VIII

. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Перамагаць перакананні,
Якіх не мела й на завод

Дзяўчынка ў трынаццаць год!
Каго не вымучаць пагрозы,
Кляцьбы, маленні, нейкі страх,
Запіска на шасці лістах,
Абманы, плёткі, кольцы, слёзы,
Дагляды цётак і бацькоў
І дружба цяжкая мужоў!

IX

Вось так і мой Еўгеній думаў.
Ён быў ад годаў маладых
Ахвярай палкасці бяздумнай
І захапленняў агнявых.
Жыцця прывычкай збалаваны,
Адным на час ачараваны,
Расчараваны ў другім,
Жаданнем стомлены сваім
І выпадковаю ўцехай,
У шуме чуючы, ў цішы,
Дакоры вечныя душы,
Зглушаючы нудоту смехам:
Вось як ён восем год зглуміў
І лепшы цвет жыцця згубіў.

X

Ён за красунямі не гнаўся,
Цягаўся так, абы адбыць;
Адмовяць — хутка суцяшаўся,
А здрадзяць — рад быў адпачыць.
Ён іх шукаў без хвалявання,
А пакідаў без наракання,
Ледзь помніў ласку іх і злосць.
Вось гэтак роўнадушны госць
На віст вячэрні прыязджае,
Сядае; скончана ігра,
І выяжджае ён з двара,
Спакойна дома засынае,
І зрання сам не знае, дзе
Ён гэты вечар правядзе.





XI

Ды, атрымаўшы ліст ад Тані,
Узрушаны Онегін быў:
Ў ім склад дзявочага прызнання
Глыбока думкі ўзварушыў;
І ўспомніў дзевы ён пяшчотнай
Пануры выгляд, твар маркотны,
І ў радасны, бязгрэшны сон
Душою ахінуўся ён.
Ізноў, магчыма, на хвіліну
Ім жар пачуццяў заўладаў;
Ды ашукаць ён не жадаў
Даверлівасць душы нявіннай.
Цяпер мы ў сад пераляцім,
Дзе стрэлася Тацяна з ім.

XII

Хвіліны дзве яны маўчалі,
Але Онегін сам пачаў
І праказаў: «Вы мне пісалі.
Не адмаўляйце. Я чытаў
Душы даверлівай прызнанне
І словы чыстага кахання;
Я шчырасць вашу ўпадабаў;
Ваш ліст глыбока ўсхваляваў
Былых пачуццяў рой імклівы;
Ды вас не хочу я хваліць
І рад за шчырасць адплаціць
Прызнаннем так-жа не фальшывым;
Прыміце ж споведзь вы маю:
Сябе на суд вам аддаю.

XIII

Калі-б я толькі хатнім кругам
Абмежавацца пажадаў;
Калі-б быць бацькам і супругам
Мне кон прыемны загадаў;
Калі-б сямейнаю карцінай
Я захапіўся на хвіліну:

То пэўна-б, апроч вас адной,
Нявесты не шукаў другой.
Скажу без мадрыгалаў модных:
Спаткаўшы ідэал свой зноў,
У вас адной бы я знайшоў
Сяброўку дзён маіх журботных,
Усяго прыгожага заклад,
І… колькі мог… я быў-бы рад.

XIV

Ды я не створан для пяшчоты:
Чужая ёй душа мая;
Дарэмны вашыя ўсё цноты:
Нікольki іх не варты я.
Паверце (сведчуся сумленнем)
Шлюб будзе болем нам страшэнным.
Я, колькі ні кахаў бы вас,
Прывыкшы, разлюблю ураз;
Вы плакаць, але ў спосаб гэткі
Вам сэрца не скрануць майго,
Вы толькі ўз’юшыце яго.
Судзіце ж вы, якія кветкі
Рыхтуе Гіменей для нас
І, можа быць, на доўгі час.

XV

Што горай за сям’ю такую,
Дзе жонка бедная штодня
Аб кепскім мужы ўсё сумуе
І ўдзень, і ўвечары адна;
Дзе нудны муж, цану ёй знаўшы
(і лёс, тымчасам, свой пракляўшы),
Заўжды нахмураны сядзіць,
Злуе, рэўнуе і маўчыць!
Я гэткі. Ці таго шукалі
Вы чыстай, палкаю душой,
Калі з такою прастатой,
З такой развагай мне пісалі?
Ці можа быць, каб строгі лёс
Вам долю гэткую прынёс?





XVI

Звароту годам не бывае;
Мне ўжо душы не аднавіць…
Каханнем брата вас кахаю,
Яшчэ пяшчотней, можа быць.
Паслухайце ж мяне без гнева:
Яшчэ не раз паспее дзева
Ўсе мары лёгкія змяніць
Так дрэўца лісце аднавіць
Імкнецца з кожнаю вясною.
Відаць, судзіла неба так.
Палюбіце вы зноў: аднак…
Вучыцеся ўладаць сабою,
Як я, не кожны стрэне вас;
Нязнанне шкодзіць іншы раз».

XVII

Казаў Еўгеній красамоўна.
Ў слязах, без памяці зусім,
Ледзь подых зводзячы, безмоўна
Стаяла Таня перад ім.
Ён руку працягнуў. Нядбайна
(як кажуць зараз, машынальна)
Рукой апёршыся сваёй,
Яна схіліла твар з журбой;
Пайшлі дамоў кругом гароду,
Удвох з’явіліся, і ў тым
Іх не ўпікнуў ніхто зусім:
Ёсць і ў вясковае свабоды
Свае шчаслівыя правы
Як і ў гордае Масквы.

XVIII

Вы будзеце, чытач мой, згодны,
Што надзвычайна мілым быў
Наш друг з Тацянаю журботнай;
Не ўпершыню тут праявіў
Ён дух высокі свой і просты
Хаця людзей недабрахоцтва

Не знала ласкі да яго:
Сябры і ворагі кругом
(Што тое самае, быць можа)
Аб ім плялі і так і сяк.
Ёсць ворагі ва ўсіх, аднак
Ад прыяцеляў збаў нас, божа.
Ну ж дружба, дружба ты мая.
Цябе дарэчы ўспомніў я.

XIX

А што? Ды так. Я усыпляю
Пустыя думкі — змрок яны;
Я толькі ў дужках зазначаю, —
Паганейшай няма маны,
Што па закутках хлус складае,
Што свецкі зброд благаслаўляе,
Няма бязглуздзіцы такой,
Ні эпіграмы бруднай, злой,
Якой бы прыяцель адданы
Сярод прыстойных слухачоў
Зусім без злосці шмат разоў
Не паўтарыў бы неахайна;
Ды ён за вас гарой, аднак:
Ён так вас любіць… як сваяк.

XX

Гм! Гм! Чытач мой шанаваны,
Як вашы сваякі жывуць?
Дазвольце: можа пажадана
Цяпер вам ад мяне пачуць,
Што значыць сваякі, ўласціва,
Пра сваякоў скажу я жыва:
Мы іх павінны шанаваць,
І шчыра песціць, і кахаць
І, згодна звычаю народа,
На Каляды у іх бываць,
Або па пошце віншаваць,
Каб у другія часткі году
Пра нас не думалі яны…
Дык дай ім, бог, даўгія дні!





XXI

Ды пачуццё красунь пяшчотных
Мацней сяброў ці сваякоў:
Пад ім і сярод бур турботных
Вы не губляеце правоў.
Бясспрэчна. Але ўзвеі моды,
Але свавольная прырода,
Але пагляды свецкіх рух..
А мілы пол лягчэй за пух.
І мужа погляды таксама
Для цнотнай жонкі, трэба знаць,
Шаноўнымі павінны стаць;
Дык вашу любую часамі
Гатова палкасць захапіць:
Каханнем любіць чорт круціць.

XXII

Каго ж кахаць? Каму паверыць?
Хто не падмане нас адзін?
Хто справы ўсе і словы мерыць
Паслужліва на наш аршын?
Хто нас хлуснёй не закідае?
Хто нас рупліва даглядае?
Каму нішто наш недахват?
Хто з намі быць заўсёды рад?
Шукальнік прывідаў стаpанны,
Сіл не марнуючы сваіх,
Любіце лепш сябе саміх,
Чытач мой многашанаваны!
Рэч вартая: не можа быць
Каб можна што мацней любіць.

XXIII

Што вынікам было спаткання?
Увы, не цяжка адгадаць!
Пакута жорсткая кахання
Не перастала хваляваць
Душы дзявочай, суму поўнай;
Не, болей палкасцю бязмоўнай

Тацяна бедная гарыць;
Ад ложку яе сон бяжыць;
Здароўе, цвет жыцця і сіла,
Усмешка і спакой святы
Прапала ўсё, як гук пусты,
І меркне юнасць Тані мілай:
Так ахінае буры цень
Ледзь вышаўшы са змроку дзень.

XXIV

Увы, Тацяна адцвітае;
Бялее, гасне і маўчыць!
Нішто яе ўжо не займае,
Яе душы не ажывіць.
Усе суседзі галавою
Ківаюць, шэпчуць між сабою :
Пара, пара ўжо замуж ёй!..
Ды годзе. Абавязак мой
Малюнкам шчаснага кахання
Вам погляды развесяліць.
Міжвольна, што тут і рабіць
Мяне сціскае спачуванне;
Даруйце мне, я так люблю
Тацяну мілую маю!

XXV

З дня ў дзень зачараваны болей
Красою Ольгі маладой,
Владзімір радаснай няволі
Аддаўся поўнаю душой.
Ён вечна з ёй. Ў яе пакоі
Яны і ў змрок сядзяць абое;
Яны ў садку, рука з рукой,
Гуляюць ранішняй парой;
І што-ж? Захоплены каханнем
Ў пяшчотным сораме пад час
Ён толькі смее, іншы раз
Усмешкай Ольгі ўзмацаваны,
Развітым локанам гуляць
Ці край адзення цалаваць.





XXVI

Часамі прачытае Олі
Шматпавучальны ён раман,
Ў якім пісьменнік знае болей
Прыроду, чым Шатабрыан,
А паміж тым, дзве-тры старонкі
(Пустыя байкі ды гамонкі,
Што дзеве ў шкоду могуць стаць)
Неўзнак стараўся прапускаць.
Ці адышоўшыся далёка,
Над дошкай шахматнай адны,
На стол успёршыся, яны
Засядуць з думкаю глыбокай;
Там Ленскі пешкаю сваёй
Браў верх над ўласнаю турой.

XXVII

Дамоў паедзе: ён і дома
Заняты Ольгаю сваёй.
Старонкі лёгкія альбома
Рупліва аздабляе ёй:
То ў іх малюе краявіды,
Магільны камень, храм Кіпрыды,
Ці галубка на ліры дзе
Пяром ды фарбай навядзе;
То на старонцы красамоўнай,
Ніжэй за подпіс іншых дзён
Пяшчотны верш пакіне ён,
Як летуцення знак безмоўны,
Хвілінный думкі лёгкі след,
Ўсё той-жа пасля многіх лет.

XXVIII

Не раз паненкі павятовай
Вы, пэўна, бачылі альбом,
Размаляваны адмыслова
Яе сяброўкамі кругом.
Сюды, на злосць правапісанню,
Без меры вершаў, па паданні

Ў знак дружбы ўпісана даўней
Усяк — даўжэй і карацей.
Ў пачатку самым спатыкаеш
*Qu'écrirez-vous sur ces tablettes,*
І подпіс: *t. à v. Annette;*
А пры канчатку прачытаеш:
«Хто любіць больш, чым я, цябе,
Хай піша далей за мяне».

XXIX

Два сэрцы, кветкі і паходні
Ў іх нецяжка адшукаць
Супольна з клятвай неабходнай
*Аж да труны не забываць;*
Ды іншы раз пііт армейскі
Тут вершык падмахнуў зладзейскі.
Ў такі альбом, мае браткі,
І я гатоў пісаць радкі,
Бо я, ўпэўнены душою,
Усім, што там я накруціў,
Я мілы погляд заслужыў,
Ніхто пасля ўсмешкай злою
Судзіць не стане пра мяне,
Ці востра я схлусіў, ці не.

XXX

Ды вы, раскіданыя томы,
Пякельнай кнігі схоўны дар,
Адумысловыя альбомы,
Для модных рыфмачоў удар,
Вы, разубраныя вытворна
Талстога пэндзлем цудатворным
Ці Баратынскага пяром,
Няхай вас спаліць божы гром!
Калі зіяючая дама
Мне свой in-quarto падае,
І гнеў і злосьць ў ва мне ўстае,
І нарастае эпіграма
У глыбіні маёй душы,
А мадрыгалы ім пішы.





XXXI

Не мадрыгалы Ленскі піша
Ў альбоме Ольгі маладой;
Яго пяро каханнем дыша,
Блішчыць не стыглай вастратой;
Што ні заўважыць, ні пазнае
Пра Ольгу, ўсё ён апявае:
І праўды поўныя жывой
Плывуць элегіі ракой.
Вось так і ты, Языкаў, цешыш
Загады сэрца ўсе свайго,
Пяеш, бог ведае каго,
І звод элегій багацейшы
Пакажа некалі табе
Усю аповесць пра цябе.

XXXII

Ды ціха! Чуеш? Крытык строгі
Загадывае скінуць нам
Вянок элегіі убогі,
І нашай хеўры, рыфмачам,
Крычыць: «ды кіньце ўрэшце плакаць,
Усё адно і тое-ж квакаць,
Ўздыхаць па даўным, па былым:
Нашто, спявайце аб другім!»
— Ты праў, і пэўна нам пакажаш
Трубу і маску і кінжал,
І думак мёртвы капітал
Усюды ўваскрасіць накажаш:
Ці так? — «Дзе! Думкі я другой!
Пішыце оды, пане мой,

XXXIII

Як іх пісалі ў моцны годы,
Як павялося ў нас даўно…»
— Святочныя выключна оды!
Ат, досыць; ці-ж не ўсё адно?
Прыпомні, што сказаў сатырык!
«Чужога толка» хітры лірык

Ці-ж для цябе вышэй пайшоў
За нудных нашых рыфмачоў? —
«Ды змест элегіі нікчэмны;
Дзе мэта у яе радках?
А ода мае слаўны шлях,
Высокі шлях…» Вось тут недрэнна
Палаяцца, ды так і быць,
Не хочу двух вякоў сварыць.

XXXIV

Прыхільнік славы і свабоды,
У хваляванні дум сваіх,
Владзімір і пісаў бы оды,
Ды Ольга не чытала іх.
Ці мелі слёзныя паэты
Выпадак прад сваім прадметам
Чытаць свой твор? Гаворка йдзе,
Што лепш дароў няма нідзе.
Шчаслівы-ж той каханак юны,
Які для той свой твор чытаў,
Каму каханне ён аддаў,
Для томна-гожае красуні!
Шчаслівы… хоць, магчыма, ёй
Забавы хочацца другой.

XXXV

А я, што з мар сваіх прыдбаю,
Што гарманічна напяю,
Прад няняю адной чытаю,
Што юнасць песціла маю,
Ды пасля нуднага абеда
Пачаставанага суседа,
Злавіўшы раптам за руку,
Душу трагедыяй у кутку,
Або (тут жарт я адкідаю),
Калі ад рыфм душа баліць,
Пачну над возерам хадзіць
І дзікіх качак там пужаю:
Пачуўшы спеў салодкіх слоў,
Яны злятаюць з берагоў.





XXXVI. XXXVII

А што ж Онегін? Да астатку
Я ў вас цярплівасці прашу:
Яго штадзённыя заняткі
Я падрабязна апішу.
Онегін жыў анахарэтам;
А сёмай паднімаўся летам
І рушыў лёгкаю стапой
Ён да рачулкі пад гарой;
Нібы пясняр Гюльнары слаўны,
Той Гелеспонт пераплываў,
А потым каву выпіваў,
Чытаючы журнал пячатны,
І апранаўся…

XXXVIII. XXXIX

Гулянка, кніга, сон глыбокі,
Дрыгва лясная, пляск вады,
Бялянкі часам чарнавокай
Цалунак свежы, мілады,
Пакорны цуглям конь буяны,
Абед даволі змудраваны,
Бутэлька светлага віна,
Адасабленне, цішыня:
Вось так жыццё яго сплывала;
І неўзаметку неяк ён
Яму аддаўся, летніх дзён
Ў спакоі не лічыў нядбала, —
Забыўшы горад і сяброў
І сум святочных вечароў.

XL

Але на поўначы ў нас лета,
Пародыя паўднёвых зім,
Мільгне й няма: вядома гэта,
Хоць брыдка нам прызнацца ў тым.
Ўжо неба восенню дышала,
Ўжо сонейка радзей зіяла,
Рабіўся карацейшым дзень,

Густых лясоў таемны цень
З журботным шумам асыпаўся,
Спускаўся на палі туман,
Гусей крыклівых караван
На дальні поўдзень выпраўляўся:
Ішла панурая пара;
Быў лістапад каля двара.

XLI

Ўстае зара ў мгле халоднай;
На нівах працы шум замоўк;
З ваўчыцаю сваёй галоднай
Выходзіць на дарогу воўк;
Яго пачуўшы, конь трывожны
Храпіць — і пільны падарожны
Пад горку мчыцца на ўвесь дух;
Зарою ранішняй пастух
Кароў з хлява ўжо не ганяе,
І ў час паўдзённы у гурток
Не кліча іх яго ражок;
Дзяўчына ў хаце напявае,
Прадзе і, друг начы даўгой,
Трашчыць лучынка перад ёй.

XLII

І вось ужо настала сцюжа,
Усе палі ў серабры…
«Чытач чакае рыфмы *ружа* —
Дык на, хутчэй яе бяры!)
Ахайней моднага паркета
Зіяе рэчка, ў лёд адзета.
Там хлапчукоў жывы народ
Канькамі гучна рэжа лёд;
Гусь кормлены на лапках голых,
Паплаваць хочучы ў вадзе
Да лёду асцярожна йдзе,
Ды коўзка, ён упаў. Вясёлы
Снег першы круціцца слупом,
Як зоркі падае кругом.





XLIII

Што ж у глушы пачаць далёкай?
Гуляць? Ды вёска той парой
Міжвольна дакучае воку
Сваёй нязменай пустатой.
Мчаць на кані скрозь стэп суровы?
Ды конь, прытупленай падковай
Лёд зачапіўшы, кепска йдзе,
Так і глядзі, што ўпадзе.
Схавайся пад страхой пустыннай,
Вось Прадт, вось W. Scott — чытай.
А не — рахункі праглядай.
Злуй, выпівай, і так часіна
Як –небудзь пройдзе, заўтра зноў,
Глядзіш — у смак зіму правёў.

XLIV

Онегін простым Чайльд-Гарольдам
Ў замысленую ўдаўся лень:
Са сна сядае ў ванну з лёдам,
І потым, дома цэлы дзень,
Адзін, захоплены разлікам,
Кіём узброены вялікім,
Ў дзве кулі на більярдзе ён
Гуляе, ледзь сагнаўшы сон.
Вясковы вечар наступае:
Пакінуты більярд з кіём,
Перад камінам за сталом
Еўгеній Ленскага чакае:
На тройцы коняй мчыць сусед:
Адразу падавай абед.

XLV

Ўдавы Кліко або Моэта
Непараўнанае віно,
Ў бутэльцы мёрзлай для паэта
На стол прынесена яно.
Яно бліскоча Гіпакрэнай,
Яно сваёй ігрой і пенай

(Падобнай да таго-сяго)
Мяне чаруе: за яго
Апошні бедны лепт, бывала,
Вы помніце, я аддаваў.
Струмень чароўны нараджаў
І глупстваў іншы раз немала,
А колькі вершаў, вострых слоў,
І спрэчак, і вясёлых сноў.

XLVI

Яно ўжо здраду пенай шумнай
Нясе для страўніка майго,
І я цяпер Бордо разумны
Больш ужываю за яго.
Аі я больш не вып'ю шклянкі,
Аі падобен да каханкі,
Жывой, капрызнай, балаўной,
І зіхатлівай, і пустой…
Ды ты, Бордо, падобны другу,
Што сярод гора і бяды
Таварыш, ўсюды і заўжды
Гатовы нам зрабіць паслугу,
Развесяліць наш ціхі круг.
Няхай жыве Бордо, мой друг.

XLVII

Агонь пагас і попел светлы
Вугалле ледзь укрыў сабой;
Струменчыкам ледзь-ледзь прыкметным
Віецца пара, цеплатой
Камін ледзь дыхае. У комін
Ідзе дым люлек. Кубак повен,
Шыпіць ён пасярод стала.
Плыве вячэрняя імгла…
(Люблю сяброўскія гамонкі
З сяброўскім келіхам віна
У час, які завуць здаўна
Парою паміж псом і воўкам,
Не знаю, повад тут які.)
Цяпер гамоняць дружбакі.





XLVIII

«Ну што суседкі? Што Тацяна?
Што Ольга жвавая твая?»
— Падлі крыху. Вось гэтак слаўна…
Даволі, мілы… Ўся сям'я
Здарова; кланяцца казалі.
Ах, што за плечы зараз сталі
У Ольгі, грудзі расцвілі!
Што за душа!.. Давай, калі
Да іх заедзем; будуць рады;
А то, мой друг, судзі ты сам:
Са два разы пабыў, а там
Не кінеш нават і паглядам.
Ды вось яшчэ…здурнеў зусім!
Запрошан ты на тыдні тым. —

XLIX

«Я?» — Так, Тацяны імяніны
Ў суботу. Оля з маткай мне
Казалі перадаць, прычыны
Няма не прыязджаць табе. —
«Ды куча будзе там народу.
І align="left"рознага такога зброду» —
Ды не, нікога, пэўны я,
Хто будзе там? Свая сям'я,
Паедзем як на пагулянку!
Ну як? — «Я рад». — Вось удружыў! —
Сказаўшы гэтак, асушыў
Ён у суседчын гонар шклянку,
Пасля разгаварыўся зноў
Пра Ольгу: вось яна, любоў!

L

Ён быў шчаслівы. Дня вяселля
Чакаць два тыдні усяго.
І тайна шлюбнае пасцелі
І дар кахання — ўсё яго
Чакала з новаю пяшчотай.
Гімена клопаты, турботы,

І нудныя, цяжкія дні —
Яму не сніліся ані.
А мы ўсе, ворагі Гімена,
Мы бачым у жыцці адзін
Рад вельмі збрыдаўшых гадзін,
Раман у гусце Лафантэна…
Мой бедны Ленскі, сэрцам ён
Народжан быў для гэткіх дзён.

LI

Яго кахалі… так, прынамсі,
Ён думаў, і шчаслівы быў.
Шчаслівы, веры хто аддаўся,
Хто розум свой угаманіў
І супакоіўся ў вяселлі,
Як вандраўнік п'яны ў пасцелі,
Або, мякчэй, як матылёк,
Што ўпіўся ў веснавы расток ;
Бядак, хто ўсё прадуглядае,
У кім нішто не зойме дух,
Хто слова кожнае і рух
Ў іх перакладзе праклінае,
Хто сэрца практыкай зсушыў
І захапленне адхіліў.

## ГЛАВА ПЯТАЯ

*О, не знай сих страшных снов*
*Ты, мая Святлана*

Жуковский

I

Надвор'е восені стаяла
У той год пазней другіх гадоў,
Зімы прырода шмат чакала.
Снег толькі ў студзені пайшоў
Пад трэці дзень. Устаўшы рана,
Ў вакно убачыла Тацяна
Апранутыя ў бель кусты,





І двор і дахі і платы,
На шыбах лёгкія узоры,
І дрэвы ўсе у серабры,
Сарок вясёлых на двары
І мякка ўсцеленыя горы
Зімы бліскучым дыванам.
Усё ясна, бела ўсё кругом.

II

Зіма!.. Араты урачыста
Дарожку едзе абнавіць;
Яго канёк па снегу чыстым
Трушком размерана бяжыць;
Ляціць кібітка ўдалая
І скібы пышныя ўздымае;
Фурман сядзіць на перадку
Ў падпаясаным кажушку.
Вось дваравы хлапчук гуляе:
Ён жучку ў санкі пасадзіў;
Сябе ў каня ператварыў;
Ў яго ўжо й пальчык замярзае:
Яму і смешна і баліць
А маці праз акно крычыць.

III

Ды, можа быць, такога роду
Малюнкі не прывабяць вас:
Ўсё гэта нізкая прырода
І мала тонкіх тут акрас.
Натхнення богам абагрэты,
Склад пышны іншага паэта
Абмаляваў нам першы снег,
Зімовых прыгажосць уцех.
Я пэўны, ён вас зачаруе,
Адбіўшы ў агнявых радках
Гулянкі тайныя ў санях;
Ды з ім змагацца не пачну я,
Ні з ім, пакуль што, ні з табой,
Пясняр Фінляндкі маладой!

IV

Тацяна (руская душою,
Сама не знаючы, чаму)
З яе халоднаю красою
Любіла рускую зіму,
На сонцы іней ўдзень марозны,
І сані, і у ранак позны
Бляск ружавеючых снягоў,
І мглу святочных вечароў.
На лад стары спраўляць любілі
Ў іх доме тыя вечары:
Усе служанкі на двары
Сваім паненкам варажылі
І ім сулілі кожны год
Мужоў вайсковых і паход.

V

Тацяна верыла паданням,
Што просты люд пакінуў нам,
І месяцу, і заклінанням,
І картам, і прарочым снам.
Яе трывожылі прыметы
Казалі штосьці ўсе прадметы
Ёй тайнай моваю сваёй,
Шчымелі прадчуванні ў ёй.
Як кот на печы збалаваны
Курлыкаючы, рыльца мыў,
Той знак напэўна ёй судзіў
Гасцей. А ўбачыць нечакана —
Двурогі маладзік плыве
Па небе злева ад яе,

VI

Яна дрыжэла і бялела.
А калі зорка іншы раз
Праз неба цёмнае ляцела
І рассыпалася, — у той час
Хутчэй Тацяна распяшала
Ўслед зорцы той, пакуль не ўпала





Жаданне сэрца прашаптаць.
Калі здаралася спаткаць
Дзе-небудзь чорнага манаха
Ці шпаркі заяц у палях
Перабягаў ёй раптам шлях
Яна, забыўшы ўсё ад страху,
У прадчуванні злым тады
Чакала ўжо ліхой бяды.

VII

Што-ж? Адчуванне асалоды
Жыло у ёй і ў страшны час,
Бо супярэчная прырода
Такімі ўжо стварыла нас.
Прышлі каляды. Час прыгожы!
Жывая моладасць варожыць,
Няма чаго ёй шкадаваць, —
Ёй ў даль жыцця шляхі ляжаць,
У безгранічныя ясноты;
Варожыць старасць разам з ёй
Панад магілаю сваёй,
Усё згубіўшы без звароту;
Але надзея хлусіць ім
Дзіцячым лепетам сваім.

VIII

Тацяна поглядам цікаўным
На воск патоплены глядзіць:
У дэсані адлітай слаўна
Ёй нешта дзіўнае гучыць;
Са сподка, поўнага вадою,
Выходзяць кольцы чарадою;
І выпала калечка ёй
Пад песеньку пары былой:
«Там мужычкі усе багаты;
Грабуць шуфлямі серабро;
Каму пяем, таму дабро
І слава!» ды прарочыць страты
Той песні жаласны напеў;
Мілей «кашурка» сэрцы дзеў.

IX

Уначы мароз; усё неба ззяе;
Нябесных зорак дзіўны хор
Так ціха, згодна праплывае…
Тацяна на шырокі двор
Ў сукенцы лёгенькай выходзіць,
Люстэрка ўвысь яна наводзіць;
Але самотна з цемнаты
Дрыжыць там месяц залаты…
Снег хруснуў… падарожны; дзева
Насустрач хуценька бяжыць
І галасок яе звініць
Лягчэй жалейчынага спева:
Як зваць вас? Паглядае ён
І ў адказ ёй: Агафон.

X

Як няня раіла, Тацяна,
Ўночы меўшы варажыць,
Сказала ў лазні ёй патайна
На два прыборы стол накрыць;
Ды стала страшна раптам Тані…
І я… пры думцы аб Святлане
Мне стала страшна — так і быць…
З Тацянай нам не варажыць.
Тацяна паясок шаўковы
Зняла, ўсё скінуўшы, ў пасцель
Лягла. Над ёй віецца Лель,
А пад падушкаю пуховай
Люстэрка Таніна ляжыць.
Заціхла ўсё. Тацяна спіць.

XI

І сніцца дзіўны сон Тацяне.
Ёй сніцца, быццам бы яна
Ідзе па снегавой паляне
У сумнай мгле зусім адна.
У сувеях снежных перад ёю
Шуміць, клубіць вадой сваёю





Кіпучай, цёмнай і сівой
Ручай, не скованы зімой;
Дзве жэрдкі, склееныя льдзінай,
Слабы і трэпетны масток,
Адна дарога на той бок:
І перад стромаю нестрымнай
Яе няпэўнасць узяла.
Ісці яна ўжо не магла.

XII. XIII. XIV

Тацяна ў лес; мядзведзь няўтомна
За ёю; снег усё глыбей;
То сук даўгі яе раптоўна
За шыю схопіць, то з вушэй
Ён завушніцы вырве сілай;
То ў снег глыбокі з ножкі мілай
Камашык мокры ўпадзе,
То згубіцца хусцінка дзе;
Падняць няма калі; нязменна
Мядзведзя чуе за сабой,
І нават трэпетнай рукой
Прыўзняць сароміцца адзенне;
Яна бяжыць, ён даганяць:
І сілы ўжо няма ўцякаць.

XV

Упала ў снег; мядзведзь рупліва
Хапае і нясе яе;
Яна пакорна і маўклівa,
Адзнак жыцця не падае;
Ён мчыць яе лясной дарогай;
Вось паміж дрэў шалаш ўбогі;
Усюды глуш; з усіх бакоў
Укрыт ён гурбамі снягоў,
Ваконца свеціцца гасцінна,
У шалашы і крык і шум:
Мядзведзь гаворыць: тут мой кум;
Пагрэйся у яго хвіліну;
І ў сені проста ён ідзе
І на парог яе кладзе.

XVI

Прыйшла ў сябе, глядзіць Тацяна:
Яна у сенях; знік мядзведзь;
У хаце звон і гоман п'яны,
Нібы памінкі сталі пець;
Тацяна сэнсу не дабрала,
Цішком глядзець ў шчылінку стала,
І што-ж! глядзіць… аж за сталом
Страшыдлы розныя кругом;
Адзін ў рагах з сабачай мордай,
Той з пятушынай галавой,
З казінай ведзьма барадой,
А там шкілет сухі і горды,
Вось карла з хвосцікам, а там
Сеў кот і жораў папалам.

XVII

Страшней пачвары там другія:
Вось рак на павуку вярхом,
Вось чэрап на гусінай шыі
Трасе чырвоным каптуром,
Вось млын упрысядку ўзлятае,
Крылом трашчыць, крылом махае;
Брэх, рогат, спевы, свіст і хлоп,
Людская мова, конскі топ!
Ды што падумала Тацяна,
Убачыўшы ў гасціне той
Таго, хто мілы й страшны ёй, —
Героя нашага рамана!
Онегін за сталом сядзіць
І ў дзверы потайкам глядзіць.

XVIII. XIX. XX

Маё! Сказаў Еўгеній грозна,
І зграя знікла ўся зусім;
І засталася ў цьме марознай
Дзяўчына маладая з ім;
Онегін ціхенька штурхае
Ў куток Тацяну і складае





На лаўку хісткую яе,
Схіляе скроні ён свае
Да Тані; Ольга тут заходзіць
І Ленскі з ёй; агонь мільгнуў;
Онегін руку замахнуў
І дзіка ён вачыма водзіць,
На іх, нязваных, ён крычыць:
Ледзь жыва, дзеўчына маўчыць.

XXI

А спрэчка ўсё мацней; Еўгеній
Накінуўся з даўгім нажом;
Зваліўся Ленскі; крык страшэнны
Пранёсся; цень згусцеў кругом…
І раптам хатка затрашчала…
І Таня ў страху ачуняла…
Глядзіць, настала ўжо святло;
Скрозь замарожанае шкло
Зары прамень пунсовы грае;
У дзверы, ластаўкі лягчэй,
Аўроры поўначы ясней,
Тут Ольга да яе ўлятае;
«Ну, — кажа — раскажы-ж ты мне,
Каго ты бачыла ў сне?»

XXII

Аднак Тацяна не зважае,
Ў пасцелі з кнігаю ляжыць,
Старонкі ў ёй перабірае
І, разглядаючы, маўчыць.
Хоць не змяшчала кніга гэта
Ні гожых выдумак паэта,
Ні мудрых думак, ні карцін;
Ды ні Вергілій, ні Расін,
Ні Скотт, ні Байран, ні Сенека,
Сам «Дамскіх Мод Журнал» — і той
Не меў цікавасці такой:
То быў, браткі, Мартын Задэка,
Краса халдзейскіх мудрацоў,
Тлумач найвыдатнейшы сноў.

XXIII

Той твор выдатны, векавіты,
Гандляр вандроўны ўжо даўно
Прывёз у іх куток забыты
І для Тацяны заадно
З Мальвінаю не надта новай
Аддаў за тры рублі з паловай
І ўзяў яшчэ ў прыдачу з іх
За гэта баек збор старых,
Граматыку, дзве Петрыады,
Ды Мармонтэля трэці том;
Мартын Задэка стаў дружком
Любімым Тані… Вельмі рада
Яна турботы з ім дзяліць,
І ён заўсёды з ёю спіць.

XXIV

Яе трывожыць сон цікавы.
Не знаючы, чаго чакаць,
Значэнне жудаснае з'явы
Тацяна хоча адшукаць.
Ў кароткім змесце кнігі гэтай
Знайшла ў парадку альфабэта
Бары, буран, груган і ель,
Ёж, змрок, масток, мядзведзь, мяцель,
Ды іншае. Яе трывогі
Мартын Задэка не прагнаў;
Ды злосці сон ёй абяцаў
Здарэнняў невясёлых многа.
Дзён некалькі яна затым
Усё турбавалася аб тым.

XXV

Ды вось пурпурнаю рукою
Зара ад ранішніх далін
Выводзіць з сонцам за сабою
Дзянёк вясёлы імянін.
Чуць свет дом Ларыных гасцямі
Напоўнен; цэлымі гуртамі





Суседзі ехалі ў вазках
Кібітках, брычках і санях;
Ў пярэдняй мітусня, трывога;
Ў гасціннай новых твараў шмат,
Брэх мосек, цмоканне дзяўчат,
Шум, смех, натоўп каля парога,
Паклоны, шарканне гасцей,
Карміліц крык і плач дзяцей.

XXVI

З сваёю жонкаю дзябёлай
Прыехаў тоўсты Пусцякоў,
Гваздзін, ўладар галодных сёлаў,
Краса усіх гаспадароў;
Скацініны, сівая пара,
А з імі дзеці цэлай хмарай
Ад трыццаці да двух гадоў;
Франт павятовы Пятушкоў
І мой стрыечны брат Буянаў
Ў пуху, у картузе з брылём
(як вам, напэўна, ён знаём).
І адстаўны саветнік Флянаў,
Цяжкі пляткар і шалапут,
Пражэра, хабарнік і чмут.

XXVII

З сям'ёй Панфіла Харлікова
Мосьё Трыке быў у вазку,
Дасціпнік, толькі што з Тамбова,
У акулярах, у парыку.
Француз праўдзівы, ён старанна
Уклаў куплеты для Тацяны
На голас, знаемы дзяцьмі:
Réveillez vous, belle endormie.
Між альманаха песен даўных
Надрукаваны той куплет;
Трыке, дагадлівы паэт
Яго на свет дастаў старанна —
І смела — замест belle Nina

Паставіў belle Tatiana.

XXVIII

Вось з недалёкага пасада,
Паненак выспеўшых кумір
І павятовых дам услада,
Прыехаў ротны камандзір;
Зайшоў… Ах, навіна якая.
Музыка будзе палкавая.
Прыслаў яе палкоўнік сам.
Бал будзе — вось дзе радасць нам.
Дзяўчаткі скокі прадчуваюць
Ды ўжо і есці падаюць.
Супругі парамі ідуць.
Паненкі Таню акружаюць,
Мужчыны насупроць; наўкол
Гудзіць як вулей пышны стол.

XXIX

Размовы змоўклі на хвіліну;
Усе жуюць. На ўсіх канцах
Талеркі бразгаюць няспынна
Ды чаркі звоняць у руках.
Але ўжо госці незадоўга
Уздымаюць гоман і трывогу
Ніхто не слухае, крычаць,
Смяюцца, сварацца, пішчаць.
І раптам Ленскі уваходзіць
І з ім Онегін «У добры час. —
Так кажа маці: — просім вас.
Таўкуцца госці, ўсе адводзяць
Прыборы, крэслы ля сталоў,
Вітаюць, садзяць двух сяброў.

XXX

Адводзяць месца перад Таняй,
І, ранішняй зары бялей —
І сарны трэпетней загнанай,
Яна цямнеючых вачэй —





Не паднімае: жар незносны
У ёй кіпіць; ёй душна, млосна;
Вітання новых двух гасцей
Не чуе, слёзы ўжо з вачэй
Вось-вось пальюцца; ўжо гатова
Упасці ад тугі такой;
Ды воля і развага ў ёй
Перамаглі. Яна два словы
Скрозь зубы кінула цішком
І дасядзела за сталом.

XXXI

Трагі-нервічных з'яў, здарэнняў,
Дзявочых хваляванняў, слёз,
Даўно цярпець не мог Еўгеній:
Ён іх даволі перанёс.
Дзівак, на гэты бал папаўшы,
Ужо злаваў. Ды дзевы нашай
Трывожны ўбачыўшы парыў,
Ён вочы з прыкрасцю спусціў,
Надуўся і, у злосці страшнай,
Пакляўся Ленскага ўзлаваць
І ў смак яго пажартаваць.
Цяпер, здаволены заўчасна,
Карыкатуры стаў складаць
На ўсіх гасцей, што там сядзяць.

XXXII

Вядома, не адзін Еўгеній
Трывогу Тані бачыць мог;
Ды мэтаю ўсіх імкненняў
Тым часам тлусты быў пірог
(На жаль занадта ўжо салёны);
Ды вось у пляшцы прасмалёнай,
Ў той час як блан-манжэ даюць,
Ужо цымлянскае нясуць,
З ім вузкіх чарак шэраг цесны,
Падобных таліі тваёй,
Зізі, крыштал душы маёй,

Прадмет маёй нявіннай песні,
Фіал кахання, мілы мне,
Ты, ад каго я так п’янеў.

XXXIII

Вось корак вынялі ў хвіліну,
Бутэлька хлопнула; віно
Шыпіць, і вось з паважнай мінай,
Куплетам змучаны даўно
Трыке ўстае; гасцей вясёлых
Увесь натоўп замоўк наўкола.
Тацяна ледзь жыве; вось ён
З лістком ў руцэ аддаў паклон,
Запеў фальшыва. Пляскі, крыкі
Яго вітаюць. Галавой
Кіўнуць паэту трэба ёй;
Паэт жа сціплы, хоць вялікі,
Яе здароў’е першы п’е.
І ёй куплет перадае.

XXXIV

Усе вітаць Тацяну сталі;
Яна паклоны аддае.
Калі ж Еўгенія настала
чарга, то бледны твар яе,
Яе ўстрывожанасць, бяссілле,
У ім спагаду нарадзілі:
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

XL

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ды, марамі апанаваны,
Стаў ўспамінаць, зачараваны,
Аб дамскіх мілых мне нагах.
Па вашых вузенькіх слядах
О, ножкі, досыць мне цягацца.
Са здрадай юнасці і мне
Пара зрабіцца разумней,





Ў жыцці і ў складзе папраўляцца,
І пяты сшытак мой пачаць
Ад адступленняў ачышчаць.

XLI

І аднастайна і бяздумна,
Як бура юнасці жывой,
Імчацца пары ў вальсе шумным,
Адна мільгае за другой.
На мсцівую ступіўшы сцежку,
Онегін з тайнаю усмешкай
Ідзе да Ольгі. І хутчэй
З ёй кружыцца паміж гасцей,
Пасля ёй крэсла падстаўляе,
Гаворыць з ёй аб тым, аб сім,
Хвіліны дзве яшчэ, затым
Зноў вальс ён з ёю пачынае;
Ўсе здзіўлены. І Ленскі сам
Глядзіць, не верачы вачам.

XLII. XLIII. XLIV. XLV

## ГЛАВА ШОСТАЯ

*La sotto i giorni nubilosi e brevi,*
*Nasce una gente a cui l’morir non dole.*

Petr

I

Онегін, толькі што дазнаўся
Пра збег паэта, зноў з нудой
Ля Ольгі думкамі заняўся
Здаволен помстаю сваёй.
За ім і Ольга пазяхала,
Вачыма Ленскага шукала,
Яе абрыдлы катыльён
Марыў нібы цягучы сон.

Ды вось ён скончан. Запрашаюць
Усіх вячэраць. Для гасцей
Пасцелі сцелюць ад сяней
Ды дзевіч'яй. Усе жадаюць
Заснуць. Онегін толькі мой
Да хаты выехаў сваёй.

II

Усё заціхла: у гасцінай
Храпе дзябёлы Пусцякоў
З цяжкой сваёю палавінай.
Гваздзін, Буянаў, Пятушкоў
І Флянаў, не зусім здаровы
На крэслах леглі ў сталовай,
Трыке на доле лёг зусім
Ў фуфайцы, ў каптуры старым.
Дзяўчаты ў спальнях у Тацяны
І Ольгі спяць глыбокім сном.
Адна, ў маркоце пад вакном
Залітая святлом Дыяны,
Тацяна бедная не спіць
І ў поле цёмнае глядзіць.

III

Яго раптоўныя гасціны,
Пяшчотны на мамент пагляд
І падыход да Ольгі дзіўны
Ў душы ўзнялі пачуццяў шмат;
Яна яго не разумее;
Яна ў тузе зайздроснай млее;
Туга бязлітасная ёй
Нібы халоднаю рукой
Сціскае сэрца, прорва згубы
Пад ёй чарнее і шуміць…
— «Загіну,» — думка ў ёй шчыміць:
«Ды ад яго: загінуць люба.
Маўчу я: што мне наракаць?
Не можа ён мне шчасця даць».





IV

Далей, далей, мая гістор'я!
Нас постаць новая заве.
Пяць вёрст ўсяго ад Краснагор'я,
Сядзібы Ленскага, жыве
У долі добрай і прывычнай
Ў пустыннасці філасафічнай
Зарэцкі, некалі буян,
Карцёжнай зграі атаман,
Душа гуляк, трыбун карчомны,
Цяпер жа, поўны прастаты,
Сям'і ён бацька халасты,
Надзеі друг, абшарнік скромны,
Сумленны нават чалавек:
Так выпраўляецца наш век.

V

Даўней лісьлівы голас света
Ў ім злую смеласць выхваляў:
У туз, па праўдзе, з пісталета
За сажняў пяць ён улучаў,
І то сказаць, што ў часе бою
Ён у захопленым настроі
Раз вызначыцца захацеў:
З каня калмыцкага зляцеў
П'яны ў гразь і мусіў здацца
Французам: дарагі залог!
Наш Рэгул, новай праўды бог,
Ў няволі рады зноў застацца
Каб кожны вечар у Веры
Піць напавер бутэлькі тры.

VI

Даўней смяяўся ён забаўна,
Умела кпіў над прасцяком,
Разумных гэтак сама слаўна
Дурыў адкрыта і цішком,
Хоць і яму другія штукі
Не абышліся без навукі,

Хоць іншы раз, вядома нам,
У дурні шыўся ён і сам.
Умеў ён весела спрачацца,
Адказ тупы ці востры даць,
З разлікам часам прамаўчаць,
З разлікам часам узлавацца,
Сяброў развесці маладых
І на бар'ер паставіць іх.

VII

Ці памірыць іх пастарацца
Каб потым снедаць утраіх
І ў смак пасля пазабаўляцца
Хлуснёй ці смешным жартам з іх.
Sed alia tempora! Гарэзнасць
(Як і любоў, таксама рэзвасць),
Мінае з юнасцю жывой.
Як я сказаў, Зарэцкі мой
Пад цень чаромхаў і акацый
Ад бур асеўшы пад канец
Жыве зусім як той мудрэц,
Капусту садзіць як Гарацый,
Гадуе качак і гусей
І вучыць грамаце дзяцей.

VIII

Ён быў не дурань; і Еўгеній,
Хоць сэрца не цаніў ў ім,
Любіў у ім склад дум нядрэнны
І дух размоў аб тым, аб сім,
І ён з прыемнасцю, бывала,
З ім спатыкаўся, дык німала
На заўтра не здзівіўся тым,
Што ён з'явіўся перад ім.
Той, пасля першага прывета
Размову хутка перарваў
І усміхнуўшыся, падаў
Онегіну ён ліст паэта.





Каля вакна Онегін стаў
І пра сябе яго чытаў.

IX

То быў шляхетны, далікатны
Кароткі выклік, ці картэль.
Пачціва, з яснасцю выдатнай
Зваў Ленскі друга на дуэль.
Онегін прачытаў і жвава
Да пасланца падобнай справы
Звярнуўшыся, без лішніх слоў
Сказаў, што ён заўжды гатоў.
Зарэцкі кінуў тлумачэнні,
Застацца болей не хацеў,
Бо шмат у хаце справы меў,
І зараз вышаў; ды Еўгеній
Сам-на-сам са сваёй душой
Быў нездаволены сабой.

X

І сапраўды: ў разборы строгім,
Калі судзіць сябе ён стаў
Ён сам сябе ўпікаў у многім:
Па-першае, ён быў няпраў
Што над пяшчотлівым каханнем
Пажартаваў так неахайна
Другое ж: рэзвасці палёт
Паэту ў васемнаццаць год
Даруецца. Калі ягоным
Сапраўдным другам Ленскі быў
Сябе ён хай бы праявіў
Не лялькай розных забабонаў
Не палкім хлопчыкам, байцом
А цвёрдым, сталым мудрацом.

XI

Ён мог пачуццяў лад настроіць
А не ашчэрвацца, як звер;
Павінен быў ён абяззброіць

Паэта сэрца. «Ды цяпер
Занадта позна: час мінае…
Ды ў справу, — так ён разважае, —
Ушыўся дуэліст былы;
Пляткар ён языкаты, злы…
Вядома: мусіць быць няласка
Цаной яго забаўных слоў;
Ды смех, ды плёткі блазнюкоў…»
І вось гатоў пагляд грамадскі,
Спружына гонару, закон,
Чым свет жыве з даўнейшых дзён.

XII

Адказу ў злосці нецярплівай
Паэт чакае доўгі час;
І вось ягоны гаварлівы
Сусед прывёз яму адказ.
Вось свята злоснаму паэту!
Ў ім страх быў, каб дасціпнік гэты
На жарты справу ўсю не звёў
І каб ад стрэлу не адвёў
Ён грудзі новым мудраваннем.
Сумненняў больш няма зусім:
Каля млына належыць ім
Сустрэцца заўтра прад світаннем,
Для стрэлу адцягнуць курок
І цэліць у лытку або ў бок.

XIII

Рашыўшы з здрадніцай не знацца,
Кіпучы Ленскі не хацеў
З ёй прад дуэллю спатыкацца,
На стрэлкі, у вакно глядзеў,
Пасля падумаў, апрануўся —
І у суседак апынуўся.
Ён думаў Ольгу ўсхваляваць,
Сваім прыездам напужаць;
Ды дзе там: Ольга спатыкае
Як і ў мінулую пару,





Ляціць насустрач песняру
Як лёгкая надзея тая,
Вяселлем з’яе маладым
Як і за пару дзён прад тым.

XIV

«Што ўчора рана так прапалі?»
Пытанне Оліна было.
Усе пачуцці ў ім паўсталі
І моўчкі ён схіліў чало.
Замоўкла прыкрасць, знікла здрада
Прад гэтай яснасцю пагляда,
Прад гэтай шчырай прастатой,
Прад гэтай жваваю душой!..
І бачыць ён ў захапленні:
Кахааны ён, ўсё як было!
Яго раскаянне ўзяло,
Гатоў прасіць ён прабачэння,
Дрыжыць і не находзіць слоў:
Шчаслівы, ён амаль здароў.

XV. XVI. XVII

І задуменны зноў, пахілы,
Прад мілай Ольгаю сваёй
Уладзімір не знаходзіць сілы
Ўчарашні дзень напомніць ёй;
Ён мысліць: «Я яе ўратую,
Драпежніку я не дарую,
Каб жаркі сказ яго ці ўздох
Ёй спакусіць бы сэрца мог;
Каб люты, злы чарвяк-зухвала
Красу лілеі мог тачыць,
Каб не пачаўшы нават жыць,
Двухзолкавая кветка звяла».
Ўсё гэта значыць агулом:
Страляцца буду я з сябром.

XVIII

Каб ведаў ён, якая рана
Тацяны сэрца так пякла!

Каб толькі ведала Тацяна,
Каб хоць дазнацца як магла,
Што заўтра Ленскі і Еўгеній
Паб'юцца аб магільным цені:
Ах, можа быць, яе любоў
Злучыла б прыяцеляў зноў!
Але ніхто і выпадкова
Пра тое пачуццё не знаў.
Онегін слова не сказаў;
Тацяну боль тачыў суровы;
Адна мо' няня знаць магла
Ды нездагадлівай была.

XIX

Ўвесь вечар Ленскі ўстурбаваны,
То быў вясёлы, то змаўкаў,
Ды той, хто музай ўзгадаваны,
Заўсёды гэткі: ён сядаў
Нахмураны за клавікорды
І браў на іх адны акорды;
На Ольгу вочы уздымаў —
«Ці ж не шчаслівы я!» — шаптаў.
Ды позна; ехаць час. Шчымела
Ў ім сэрца горкаю тугой;
Як ён развітываўся з ёй
Яно аж рвалася і млела.
Яна у твар яму глядзіць:
— «Што з вамі?» — Так. — і ......

XX

Дамоў прыехаў, пісталеты
Агледзеў, потым іх паклаў
Ізноў у скрынку і, раздзеты,
Пры свечцы Шылера узяў;
Ды думка ў ім адна лунае;
У сэрцы смутак не змаўкае;
З непараўнанаю красой
Ён бачыць Ольгу прад сабой.
Владзімір кнігу закрывае,





Бярэ пяро і вершаў рой
Любоўнай поўны драбязой
Гучыць і льецца. Іх чытае
У голас на лірычны лад
Як Дэльвіг выпіўшы зашмат.

XXI

Для нас іх годы захавалі
Ўсе тыя вершы; вось яны:
«Куды, куды вы запрапалі,
Былыя дні маёй вясны?
Што дзень наступны мне рыхтуе?
Дарма яго вачмі лаўлю я;
Схаваны ў мгле глыбокай ён.
Што ж: лёсу праў заўжды закон.
Ці я ўпаду стралой прабіты,
Ці міма праляціць яна,
Ўсё добра: пільнасці і сна
Прыходзіць момант векавіты;
Благаславёны дзень турбот,
Благаславёны цьмы прыход.

XXII

Зяз'яе заўтра золак мілы
І запраменіць ясны дзень;
А я — быць можа я магілы
Спушчуся ў таямнічы цень,
І памяць юнага паэта
Глыне павольнай плынню Лета,
Забудзе свет мяне; ды ты
Ці прыдзеш, любая тады
Слязу праліць над ранняй урнай
І думаць: ён мяне кахаў,
І мне адзінай ён аддаў
Журботны золак долі бурнай!..
Сардэчны друг, жаданы друг,
Прыдзі, прыдзі: я твой супруг!..»

XXIII

Так *цёмна* ён пісаў і *вяла*
(Што рамантызмам у нас звацъ,
Хоць рамантызму тут німала
Няма; ды што нам бедаваць?)
Нарэшце перад золкам новым
Над *ідэалам*, модным словам,
За зморанаю галавой
Пачаў драмаць быў Ленскі мой;
Ды толькі асалодай сонай
Забыўся ён, ужо сусед
Ідзе ў маўклівы габінет
І будзіць Ленскага настойна:
«Ужо сем гадзін: прачнуцца час.
Онегін там чакае нас».

XXIV

Аднак мыляўся ён: Еўгеній
Глыбокім сном дагэтуль спаў.
Ужо радзеюць ночы цені
І певень Веспера спаткаў;
Онегін спіць сабе глыбока
Ўжо сонца каціцца высока
І пералётная мяцель
Блішчыць і ўецца; ды пасцель
Яшчэ Еўгеній не пакінуў,
Яшчэ над ім лунае сон.
Нарэшце абудзіўся ён,
Заслону зараз жа адкінуў:
Глядзіць — і бачыць, што пара
Даўно ўжо выехаць з двара.

XXV

Ён звоніць. У хвіліну тую
Слуга француз Гільо бяжыць,
Халат, пантофлі прапануе,
Бялізну падае змяніць.





Пачаў Онегін апранацца,
Французу кажа рыхтавацца
З ім разам хутка выяжджаць
І баявую скрынку ўзяць.
Вось санкі лёгкія мільгнулі.
Ён сеў і да млына памчаў.
Прыехалі. Ён загадаў
Смяротныя Лепажа кулі
Узяць, а коням ад'яжджаць
І ў полі ля дубкоў чакаць.

XXVI

Даўно ўжо нецярпліва Ленскі
Ля мосту ўспёршыся чакаў;
А паміж тым механік сельскі
Зарэцкі жоран ганьбаваў.
Онегін просіць прабачэння.
«Ды дзе ж, — спытаўся недаўменна
Зарэцкі, — дзе ж ваш секундант?»
У дуэлях класік і педант
Методу ён любіў страшэнна,
Каб чалавека забіваў
Звычайна хто — не дапушчаў
Але па правілах нязменна,
Па ўсіх паданнях даўных дзён
(Ў нас будзіць тым пашану ён)

XXVII

«Мой секундант? — сказаў Еўгеній:
Вось ён: мой друг monsieur Guillot
Я не прадбачу каб сумненне
Якое-небудзь тут было:
Хаця ён чалавек нязнаны,
Затое малец беззаганны».
Кусаць губу Зарэцкі стаў.
Онегін Ленскага спытаў:
«Што ж, пачынаць?» — «Пачаць пара нам»,
Сказаў Уладзімір. І пайшлі
За млын. Пакуль распачалі

Зарэцкі з *мальцам беззаганным*
Аб важнай справе меркаваць
Маўкліва ворагі стаяць.

XXVIII

Так, ворагі! Крыві жаданне
Ці ж так даўно іх развяло?
Нядаўна ж справы, меркаванні,
Стол і спачын — усё было
У іх агульным! Зараз злосна
Нібы ў варожасці нязноснай,
Бы ў злым і цёмным сне яны
Адзін другому ў цішыні
Рыхтуюць згубу так спакойна…
Ці не ўсміхнуцца ім хутчэй,
Пакуль не льецца кроў з грудзей,
Ды разыйсціся памяркоўна?..
Ды звада свецкая дрыжыць
Каб зманнай ганьбы не нажыць.

XXIX

Вось пісталеты ўжо бліснулі.
Грыміць аб шомпал малаток.
Ужо кулі ў гранёнай рулі
І ляснуў першы раз курок.
Вось порах плынню шэраватай
Павольна сыплецца. Зубчаты
Надзейна ўкручаны крамень
Узведзен зноў. За блізкі пень
Гільо ціхутка адыходзіць.
Скідаюць ворагі плашчы
Трыццаць два крокі адлічыў
Зарэцкі, ворагаў разводзіць,
Паставіў іх на крайні след
І кожны ўзяў свой пісталет.

XXX

«Цяпер сыходзьцеся». Спакойна
Не цэлячыся пачалі





Сыходзіцца, паходкай роўнай
Чатыры крокі перайшлі,
Чатыры да труны ступені.
Свой пісталет тады Еўгеній,
Не перастаўшы наступаць,
Стаў першы ціха паднімаць.
Пяць крокаў зноў яны ступілі,
Прыжмурыўшыся ў гэты час
Стаў Ленскі цэліць — ды якраз
Онегін стрэліў… Адзванілі
Гадзіны страшныя: паэт
Без слова роніць пісталет,

XXXI

Кладзе на грудзі ціха руку
І падае. Яго пагляд
Малюе смерць, а не дакуку.
Павольна так праз горны скат
Паўзе камлыга снегавая
І іскрамі на сонцы з'яе.
Над юнаком Онегін стаў,
Як быццам лёд яго абняў.
Глядзіць і кліча… не паможа:
Яго няма. Для песняра
Да часу надышла пара!
Дыхнула бура, цвет прыгожы
Завяў на ранішняй зары,
Пагас агонь на алтары.

XXXII

Ляжаў ён ціха, незвычайна
Быў томны мір яго чала.
Навылет пад грудзямі рана,
Кроў цёплая з яе цякла.
У гэтым сэрцы за хвіліну
Натхненне білася няспынна,
Надзея, помста і любоў,
Жыццё кіпела, грала кроў;

Цяпер, бы ў хаце апусцелай,
Ўсё стала цёмна, ціха ў ім;
Яно замоўкла назусім.
Пакрыты вокны крэйдай белай
І гаспадыні не відаць.
А дзе яна — хто можа знаць!

XXXIII

Прыемна вострай эпіграмай
Памылку ворага пабіць;
Прыемна бачыць, як рагамі
Наставіўшыся ён стаіць
Прад люстрам, у яго глядзіцца
І пазнаваць сябе баіцца;
Уцеха лепшая мая
Як ён завые: гэта я!
Прыемней шмат яму бязмоўна
Суліць дарогу на той свет
На лоб навёўшы пісталет
З адлегласці зусім прыстойнай;
Ды да бацькоў яго паслаць
Не захацелі б вы, відаць.

XXXIV

Што ж, калі вашым пісталетам
Забіты друг ваш малады,
Што вас зняважыў тым ці гэтым,
Завёўшы з вамі нелады
Ў бяздумнай гутарцы за чаркай,
Ці нават сам з натуры жаркай
Вас горда выклікаўшы ў бой,
Скажыце: вашаю душой
Якой пачуццё ўладае,
Калі прад вамі ён збялеў
З пячаткай смерці на чале
І паступова астывае,
Не ў сілах вас пачуць пазнаць,
На вашу роспач адказаць?





XXXV

Агорнуты тугой страшэннай,
У руцэ забыўшы пісталет,
Глядзіць на Ленскага Еўгеній.
«Ну што ж? Забіт», — рашыў сусед.
Забіты!.. Жах, тугу цяжкую
Ад гэтых слоў Онегін чуе,
Людзей пазваўшы ўбок ідзе.
Зарэцкі з рупнасцю кладзе
На сані труп аледзянелы
Каб страшны скарб дамоў забраць.
Пачуўшы мёртвага, храпяць
І б'юцца коні, пенай белай
Яны змачылі цугляў сталь,
І як страла памчалі ў даль.

XXXVI. XXXVII

Магчыма, што для славы яснай,
Для шчасця ўсіх радзіўся ён;
І ліры, змоўкнуўшай дачасна,
Грымучы, безупынны звон
Магла ў вяках узняць. Паэта,
Магчыма, на ступенях света
Чакала слаўная ступень.
Яго многапакутны цень
Магчыма, захапіў з сабою
Святую тайну і для нас
Той жыватворчы светач згас
І за магільнаю мяжою
Яму не чутны славы звон,
Благаславенне ўсіх плямён.

XXXVIII. XXXIX

А можа быць і так: паэта
Зусім звычайны лёс чакаў.
Юнацкія мінулі б леты:
І жар душы халодным стаў,
Ён шмат бы ў чым перамяніўся
Ён музу кінуў бы, жаніўся,

Шчаслівы-б і рагаты быў,
У вёсцы б жыў, халат насіў,
Жыццё пазнаў бы да драбніцы,
Падагру ў сорак год бы меў,
Піў, еў, старэў, таўсцеў, марнеў,
І ўрэшце ў сваёй святліцы
Сканаў бы між дачок, сыноў,
Плаксівых баб і лекароў.

XL

Ды што б не стала ў долі зменнай,
Увы! Каханак юны мой,
Паэт пяшчотны, задуменны
Забіты дружнаю рукой!
Мясціна ёсць: за вёскай злева,
Дзе жыў тварэц натхнёных спеваў,
Дзве хвоі разам парасслі;
Ля іх струмені працяклі
Уніз да бліжняе крыніцы.
Там любіць сейбіт спачываць,
Прыходзяць жнейкі набіраць
Збанамі звонкімі вадзіцы;
Вось там, пры самым ручайку
Пастаўлен помнік у цяньку.

XLI

Пад ім (як пачынае капаць
Вясновы дождж на рунь палёў)
Пастух пляце стракаты лапаць,
Пяе пра волжскіх рыбакоў;
І гаражанка маладая,
Што ў вёску летам прыязджае,
Калі ўгрунь вярхом яна
Імчыцца па палях адна,
Каня прад помнікам спыняе,
Раменны повад свой напне,
Флёр ад аблічча адхіне
І шпаркім поглядам чытае
Звычайны надпіс — і слязой
Набракнуць часта вочы ёй.





XLII

І едзе ўжо яна павольна
У мары ўглыблена свае;
І доля Ленскага міжвольна
Займае думкі ўсе яе;
І думае яна: «што ж Ольга?
Шчымела сэрца ў ёй ці доўга,
Ці хутка слёз прайшла пара?
І дзе цяпер яе сястра?
І дзе ўцякач людзей і света,
Дзе модны вораг модных дам,
Дзівак пануры, дзе ён сам,
Забойца юнага паэта?
Пра гэта ўсё я з часам вам
Дакладна справаздачу дам.

XLIII

Ды не цяпер. Хаця сардэчна
Люблю героя я свайго,
Вярнуся да яго, бесспрэчна,
Ды мне цяпер не да яго.
Гады да прозы дух няволяць,
Гады гарэзу-рыфму гоняць,
І я — са ўздохам вам скажу —
Больш лена ля яе хаджу.
Пяру няма былой ахвоты
Старонкі лёгкія мараць;
Другія мары халадзяць,
Другія, строгія турботы
І ў шуме света і ў цішы
Трывожаць сон маёй душы.

XLIV

Пачуў я кліч другіх жаданняў,
Пазнаўся з іншаю тугой;
Няма для першых спадзяванняў,
Ды шкода мне тугі старой.
О мары! Дзе ўся ваша бурнасць?
Дзе вечна яе рыфма юнасць?

Няўжо дапраўды пад канец
Завяў, завяў яе вянец?
Няўжо ж і сапраўды так стала —
Без элегічных дзей жывых
Вясна прабегла дзён маіх
(Што жартам я казаў, бывала)?
Няўжо назад закрыў ёй ход?
Няўжо мне хутка трыццаць год?

XLV

Так, поўдзень мой настаў, прызнацца
Мне ў гэтым трэба, бачу я.
Што ж: трэба дружна развітацца,
О юнасць лёгкая мая!
Удзячны я за асалоды,
За сум, за мілыя нягоды,
За шум, за буры, за піры,
За ўсе, за ўсе твае дары;
Табе я дзякую. Табою
Сярод турботаў і ў цішы
Уцешыўся я… ад душы
Даволі! З яснаю душою
Я сёння новы шлях пачаў
Каб ад былых спачыць забаў.

XLV

Зірну назад. Бывайце, цені,
Дзе дні мае плылі ў глушы,
У палкасці і вечнай лені
У задуменных снах душы.
А ты, о юнае натхненне,
Будзі маё ты уяўленне,
Дрымоту сэрца ажыўляй,
У мой куток часцей злятай,
Не дай застыць душы паэта,
Зрабіцца злоснай, зачарствець
І да канца закамянець
Ў забойчым захапленні света,
У гэтым самым вось віры,
Дзе мы купаемся, сябры.





## ГЛАВА СЁМАЯ

*Москва, России дочь любима,*
*Где равную тебе сыскать?*

Дмитриев

*Как не любить родной Москвы?*

Баратынский

*Гоненье на Москву! что значит видеть свет!*
*Где ж лучше?*
*Где нас нет.*

Грибоедов.

I

Вясновымі прыгрэты днямі,
З наўкольных гор ужо снягі
Бягуць жывымі ручаямі
На скрозь залітыя лугі.
Усмешкай яснаю прырода
Праз сон вітае ранне года;
Блакіт, яснейшы угары,
Празрыстыя пакуль бары
Нібыта пухам зеляненюць.
З вясковай келлі пчолы мчаць
Каб палявую дань сабраць,
Даліны сохнуць і квітнеюць;
Рыкае быдла; салавей
Ужо спяваў ў цішы начэй.

II

Вясна, вясна! Пара кахання,
Як сумна мне цябе вітаць!
Ў крыві, у сэрцы хваляванне
Я пачынаю адчуваць!!!
З якой уцехаю суровай
Я спатыкаю дух вясновы,
Што ў твар мне вее з вышыні
На ўлонні сельскай цішыні!
Хіба чужыя мне пяшчоты
І ўсё, што цешыць і жыве,
Усё, што з'яе і пяе,

Наводзіць смутак і маркоту
На душу мёртвую сабой,
І ўсё здаецца цёмным ёй?

III

Або не рады мы звароту
Завяўшых з восені лістоў,
І помнім горкіх страт маркоту,
Пачуўшы новы шум лясоў;
Або з прыродаю жывою
Зbліжаем думкаю глухою
Мы адцвітанне тых гадоў,
Якім не адрадзіцца зноў?
Магчыма, ў думкі нам прыходзіць
Скрозь паэтычны лёгкі сон
Ўспамін другіх вясновых дзён
І ў трэпет сэрца нам прыводзіць
Ён марай аб чужых краях,
Аб дзіўных месячных начах.

IV

Вось час: вы, другі-абібокі,
Эпікурэйцы-мудрацы,
Вы, раўнадушныя глыбока
Леўшынскай школы гадунцы,
І вы, вясковыя Прыамы,
Вы, чулыя бязмерна дамы,
Вясна ў вёску зваць прышла,
Час кветак, працы і цяпла,
Час пагулянак закаханых
І спакушаючых начэй.
Ў палі, сябры! Хутчэй, хутчэй,
Ў карэтах, цяжка ўпакаваных,
І на паштовых, на даўгіх
З застаў паўзіце гарадскіх.

V

І вы, чытач мой шматшаноўны
Ў сваёй калясцы выпісной,





Пакіньце горад неўтаймоўны
Дзе цешыліся вы зімой;
З маёю музай-непакорай
Хадзем паслухаць гоман бору
Над безназоўнаю ракой
У вёсцы, дзе Еўгеній мой
Як схімнік лены і пахілы
Яшчэ нядаўна жыў зімой
Паблізу Тані маладой
Красуні летуценнай, мілай;
Дзе ўжо няма яго шмат дзён…
Дзе сумны след пакінуў ён.

VI

Між гор, раскіданых паўкругам
Хадзем туды, дзе ручаёк
Віецца ўніз зялёным лугам
Ў раку скрозь ліпавы лясок.
Там салавей кахання гімны
Вясне пяе; цвіце шыпшына
Крыніцы голас там чуваць —
Магільны камень там відаць
Паміж двух хвоек устарэлых.
І надпіс там такі стаіць:
«Владзімір Ленскі тут ляжыць,
Што згінуў рана смерцю смелых
Тады й тады ён кінуў свет.
Спакойна спі, юнак-паэт».

VII

Пахілены на голлі хвойным
Бывала ранні вецярок
Над гэтай урнаю спакойнай
Таемны варушыў вянок;
Сюды ў позны час, бывала,
Сяброўак пара заглядала,
Абняўшыся каля труны
У змроку плакалі яны.

Ды зараз… помнік той забылі
Усе. Няма нідзе слядоў
Туды. І больш няма вянкоў;
Адзін пад ім, сівы, пахілы
Пастух ўсё той жа спеў вядзе
І лапці бедныя пляце.

VIII. IX. X

Мой бедны Ленскі! У адчаі
Недоўга ў ёй туга жыла.
Увы! Нявеста маладая
Маркоце вернай не была.
Другі заняў ёй погляд смутны
Другі усе яе пакуты
Пяшчотным словам заглушыў,
Улан яе запаланіў
Улан стаў уладар над ёю…
Ўжо з ім яна прад алтаром
Саромячыся пад вянцом
Стаіць з пахілай галавою,
З агнём ва ўтупленых вачах,
З усмешкай лёгкай на губах.

XI

Мой бедны Ленскі! За маркотнай
Мяжою вечнасці глухой
Ці ўзрушыўся пясняр самотны
Аб здрадзе зведаўшы такой
Або над Летаю санлівай
Паэт, нячуласцю шчаслівы
Ужо не ўзрушыцца нічым,
Свет цёмны і глухі прад ім?
Так! Забыццё і нас чакае
Навекі між магільных схоў.
Мы любых, ворагаў, сяброў
Не ўчуем. Толькі налятае
На скарб ваш гурба сваякоў
Для непрыстойнейшых размоў.





XII

І хутка звонкі голас Олі
У хаце Ларыных замоўк.
Улан, сваёй нявольнік долі
Ад'ехаць мусіў з ёю ў полк.
Слязамі маці аблілася
Калі з дачкою абнялася,
Здаецца, ледзь жывой была,
Ды Таня плакаць не магла;
Смяротна бледным толькі стала
Аблічча ўсё яе. Калі
На ганак з хаты ўсе пайшлі
І развітанне ўсіх сабрала
Вакол карэты маладых,
Праводзіла Тацяна іх.

XIII

І доўга, быццам скрозь туманы
Яна глядзела ім услед…
І вось адна, адна Тацяна!
Увы! Сяброўку зім і лет,
Яе галубку маладую,
Яе сястрычку дарагую
Ўзяў лёс няведама куды,
З ёй разлучыўшы назаўжды.
Як цень яна без мэты ходзіць,
Або ў спусцелы сад глядзіць…
Нічым тугі ёй не спыніць,
Нідзе палёгкі не знаходзіць
Яна прыдушаным слязам
І сэрца рвецца папалам.

XIV

І ў смутку гэтакім глыбокім
Каханне ў ёй гарыць мацней,
І аб Онегіне далёкім
Гаворыць сэрца галасней.
Яна яго ўжо не спаткае;
Яна ў ім ненавідзець мае

Забойцу брата, ды паэт…
Загінуў… знік ягоны след,
Аб ім замоўклі ўспаміны,
Нявеста за другім пайшла.
Паэта памяць праплыла
Нібыта дым па небе сінім,
Па ім два сэрца, можа быць,
Шчэ тужаць… ды чаго тужыць?

XV

Быў вечар. Неба меркла. Воды
Плылі ціхутка. Жук гудзеў.
Ўжо разышліся карагоды;
Ужо за рэчкаю гарэў
Агонь рыбацкі. Ў полі чыстым
Пры бляску месяца срабрыстым
Тацяна з мараю сваёй
Ішла павольнаю хадой.
Ішла. І раптам прад сабою
З узгорку панскі бачыць дом,
І вёску побач з хмызнячком,
І сад над светлаю ракою
Яна глядзіць — і сэрца ў ёй
Зноў б'еццa з сілаю жывой.

XVI

Яе сумненні ахапляюць:
«Пайсці наперад, ці назад?..
Яго няма. Мяне не знаюць…
Зірну на дом, на гэты сад».
І вось уніз ідзе дзяўчына
Ўся млеючы; кругом вачыма
У недаўменні абвяла…
І на пустынны двор зайшла.
Сабакі на яе напалі.
Тацяна пачала крычаць —
Яе прыбеглі ратаваць
Хлапцы дваровыя. Прагналі
Сабак і ад гайні ліхой
Далі сваю ахову ёй.





XVII

«Убачыць панскі дом ці нельга?» —
Спытала Таня. І хутчэй
Ўся дзетвара шукаць пабегла
Аніссю, папрасіць ключэй;
Прышла Анісся за хвіліну
Каб дзверы адамкнуць гасцінна,
І Таня ў дом заходзіць той,
Дзе жыў нядаўна наш герой.
Яна глядзіць: забыты ў зале
Кій на більярдзе спачываў,
На змятым канапе ляжаў
Манежны хлысцік. Таня далей;
Старая ёй: «а вось камін;
Тут пан даўней сядзеў адзін.

XVIII

Тут з ім палуднаваў зімою
Нябожчык Ленскі, наш сусед.
Сюды прайдзіцеся, за мною.
Вось гэта панскі габінет;
Тут спачываў, тут каву піў ён,
Дакладываў яму тут цівун,
Тут кніжкі зрання ён чытаў…
І пан стары тут спачываў;
Тут ля вакна ён так прыемна
Бывала акуляры браў
Ды ў дурня ўсё са мной гуляў.
Дай бог душы яго збавенне
А костачкам яго спакой
Ў магіле, у зямлі сырой!»

XIX

Тацяна ў захапленні поўным
Вакол сябе на ўсё глядзіць,
Усё здаецца ёй чароўным,
Усё ў душы яе трымціць
Уцехай, з болем перавітай:
І стол з лампадаю забытай

І груда кніг, і пад вакном
Накрыты ложак дываном,
І від з вакна у цемры сумнай,
І змрочны гэтакі адсвет,
І лорда Байрана партрэт
І слупік з лялькаю чыгуннай,
З чалом панурым пад брылём,
З рукамі, ўзятымі крыжом.

XX

Тацяна доўга ў келлі моднай
Зачараваная стаіць.
Ды позна. Вецер стаў халодны.
У даліне змрок. Дуброва спіць
Над затуманенай ракою;
Схаваўся месяц за гарою,
Час пілігрымцы маладой
Ісці дарогаю сваёй.
Тацяна ўзрушанне хавае
Не без таго, каб уздыхнуць,
Але раней чым завярнуць
Дадому, пра дазвол пытае
Пустынны замак аглядаць,
Каб кнігі тут адной чытаць.

XXI

Умовіўшыся са старою,
Яна выходзіць. Дзень прайшоў —
Яна ўжо ранняю парою
Прыйшла ў забыты кут ізноў.
І у маўклівым габінеце,
Забыўшыся пра ўсё на свеце
Уселася зусім адна
І доўга плакала яна.
Пасля за кнігі ўжо ўзялася.
Раней было ёй не да іх,
Аднак жа здаўся выбар кніг
Ёй дзіўным. Таня аддалася
Пытанню прагнаю душой
І новы свет адкрыўся ёй.





XXII

Хаця мы знаем, што Еўгеній
Даўно чытанне разлюбіў,
Аднак жа іншыя тварэнні
Ён у няласку не ўключыў:
Тварца Гяура і Жуана
Ды з ім яшчэ два-тры раманы,
Ў якіх адлюстраваўся век
І увесь сучасны чалавек,
Паказаны даволі верна
З яго агіднаю душой,
Самалюбівай і сухой
Занятай марамі бязмерна,
З развагаю ягонай злой,
Што б’ецца ў дзейнасці пустой.

XXIII

Там каля іншае мясціны
Пазногця рэзкі знак відаць;
І вочы пільнае дзяўчыны
Туды уважлівей глядзяць.
Тацяна бачыць з трапятаннем,
Якой заўвагай, разважаннем
Онегін ўзрушаны бываў,
Што ён маўкліва прызнаваў.
Усюды Таня заўважае
Алоўка рэзкія сляды.
Душа Онегіна заўжды
Сябе міжволі праяўляе
Кароткім словам, ці крыжом
Пытальнікам альбо кручком.

XXIV

І пачынае зараз ясна
Мая Тацяна адчуваць
Цяпер — бог ласкаў — больш выразна
Таго, по кім ёй уздыхаць
Судзіў так доўга лёс спрадвечны:
Дзявак маркотны, небяспечны

Ці з неба ён, ці з прорвы злой,
Той ангел, дэман горды той.
Што ж ён? Няўжо наследаванне,
Або нікчэмны прывід чый,
Масквіч у Гарольдавым плашчы,
Адбітак нечых мудраванняў,
Слоў модных поўны лексікон?..
Ці не пародыя ўжо ён?

XXV

Няўжо сакрэт яна раскрыла
І слова здолела знайсці?
Мінае час; яна забыла,
Што час даўно дамоў ісці,
Дзе два суседы засядаюць
І пра яе размову маюць.
«Як быць? Тацяна падрасла, —
Старая з крэктам пачала. —
Вось Оля ж маладзей як Таня.
Дальбог, дзяўчыне рады даць
Пара; а што мне з ёй пачаць?
Усім адно бесперастанна:
Няйду. Сумуе ўсё яна
Ды ходзіць па лясах адна».

XXVI

«Мо' закахалася?» — «Ды што вы?
Буянаў сватаў — той жа сказ.
Туды ж Івану Петушкову.
Гусар Пыхцін гасціў у нас;
Ды так жа Таняй захапляўся,
Так ля яе ён завіхаўся!
Я думала: на лад пайшло;
Куды там! Зноў як і было».
«Дык што ж? У чым жа справа стала?
Кірмаш нявест паспрабаваць,
Ў Маскву! Там месцаў шмат, чуваць».
«Ой пане мой! Прыбытку мала» —
«Даволі для адной зімы,
А не, пазычым хоць і мы».





XXVII

Старая вельмі палюбіла
Дабразычлівасць рады той;
Злічылася і парашыла
Паехаць у Маскву зімой —
І Таня чуе вестку гэту.
На суд прычэпліваму свету
Прадставіць рысы яснаты
Правінцыяльнай прастаты,
Убранні познай гадавіны
Запознены уклад размоў,
Цырцэй маскоўскіх, панічоў
Гарэзныя наклікаць кпіны!..
Жах! Лепей і надзейней ёй
Сярод лясоў пражыць адной.

XXVIII

Цяпер у поле паспяшае
Яна пры першым бляску дня,
Яго з пяшчотай аглядае
І размаўляе з ім яна:
«Бывайце, мірныя даліны,
І вы, знаёмых гор вяршыны,
І вы, знаёмыя лясы!
Бывай, нябесны бляск красы,
Бывай, вясёлая свабода!
Мяняю ціхі свет я свой
На гоман мітусні людской!..
Бывай і ты, мая свабода!
Куды, чаго імкнуся я?
Што доля мне нясе мая?»

XXIX

Цяпер яна гуляе болей.
Цяпер узгорак, ручаёк
Сваёй красою мімаволі
Таццянін прыпыняе крок.
Яна як з даўнымі сябрамі
З барамі роднымі, з лугамі

Яшчэ спяшае гаманіць.
Ды лета шпаркае ляціць.
Настала восень залатая,
Прырода пачала марнець
Убрана пышна, як на смерць…
Вось сівер хмары наганяе,
Дыхнуў, завыў — і вось сама
Ідзе чароўніца-зіма.

XXX

Прышла, распалася; багата
Завісла на суках дубоў;
Залегла дываном кашлатым
Паміж узгоркаў і палёў.
Ўзбярэжжа з соннаю ракою
Зраўняла коўдрай снегавою;
Бліснуў мароз. І рады мы
Забавам роднае зімы.
Ды ў Тані к ёй няма прыязні.
Не йдзе яна зіму спаткаць,
Марозны пыл ў сябе ўвабраць
І першым снегам з даху лазні
Твар, плечы, грудзі скрозь абмыць;
Зімовы шлях ёй страх суліць.

XXXI

Ад’езда дзень прамарнаваны,
Апошні тэрмін надыйшоў.
Агледжаны і ўзмацаваны
Вазок, забыты шмат гадоў.
Абоз звычайны, тры кібіткі
Вывозяць хатнія пажыткі
Каструлькі, крэслы і гаршкі,
Варэнне ў банках, сяннікі,
Пярыны, клеткі з пявунамі,
Куфры, тазы et cetera,
Ну, шмат усякага дабра.
І вось у хаце між слугамі
Падняўся развітальны плач:
Выводзяць васемнаццаць кляч,





XXXII

Ў вазок баярскі запрагаюць,
Гатуюць есці кухары,
Вазы гарою нагружаюць,
Грызуцца бабы, кучары.
На клячы зсохлай і кашлатай
Сядзіць фарэйтар барадаты
Сабралася ўся дворня скрозь
Ля брамы развітацца. Вось
Уселіся, вазок шаноўны
Папоўз дарогаю сваёй.
«Бывай, куточак мірны мой,
Бывай, прытулак мой чароўны!
Ці ўбачу вас?».. І слёз паток
З вачэй Тацяніных пацёк.

XXXIII

Калі адсунем мы граніцы
Каб месца больш асвеце даць,
Дык неўзабаве (як табліцы
Філасафічныя суляць,
Год праз пяцьсот) настане пэўна
Вялікая ў дарогах змена;
Шасе ў Расіі пабягуць,
Злучыўшы ўсю перасякуць,
Масты чыгунныя праз воды
Шагнуць шырокаю дугой,
Рассунем горы, пад вадой
Адважна выведзем праходы,
І на шляхах хрышчоны люд
Паставіць карчмы там і тут.

XXXIV

Цяпер дарогі ў нас ліхія,
Масты забытыя гніюць,
Нідзе клапы ды блохі злы[я]
Заснуць на момант не да[юць].
Карчмы няма. Ў кутку хал[одным]
Высакапарны і галодн[ы]

Для вока прэйскурант вісіць,
З галадаміркі вашай кпіць,
Пакуль вясковыя цыклопы
Перад нягаснучым агнём
Расійскім лечаць малатком
Слабыя вырабы Еўропы,
І ў сэрцы славяць раўчукі
Радзімы і яе масткі.

XXXV

Затое вось зімой халоднай
Надзвычай добра раз'яжджаць.
Як верш без думкі ў песні моднай
Дарогі гладкія ляжаць.
Аўтамедоны ў нас жывыя
І тройкі нашы агнявыя,
І вёрсты, каб пагляд заняць,
Перад вачмі як плот мігцяць.
Ды маці надта не хацела
Плаціць прагонаў дарагіх —
Не на паштовых, на сваіх
Паўзла і наша Таня мела
Нуды даволі на ўсе дні:
Сем сутак ехалі яны.

XXXVI

Але ўжо блізка. Перад імі
Муры маскоўскія стаяць,
Як жар, крыжамі залатымі
Старыя макаўкі гараць.
Ах! Як я мог не захапіцца,
Калі саборы і званіцы,
Садоў, палацаў пышны строй
Адкрыўся раптам прада мной!
Як часта ў роспачы суровай,
Калі па свеце я блукаў,
Масква, цябе я ўспамінаў!
Масква… Як моцна гэта слова
Для сэрца рускага гучыць!
Як многа можа ажывіць!





XXXVII

Вось у дуброве велічавай
Пятроўскі замак. Змрочна ён
Сваёй нядаўнай горды славай.
Дарма чакаў Напалеон
Ад новай славы ў захапленні
Масквы, што стала б на калені
З ключамі моцнага Крамля:
Не, не пайшла Масква мая
З пахіленаю галавою.
Не свята, не пачэсны дар,
Яна наладзіла пажар
Для нецярплівага героя.
Адсюль у думках уладар
На жудасны глядзеў пажар.

XXXVIII

Бывай, прапаўшай сведка славы,
Пятроўскі замак! Ну! Не стой,
Пашоў! Ужо слупы заставы
Бялеюць; вось і па Тварской
Вазок на рытвінах імчыцца.
Мільгаюць будкі, маладзіцы,
Палаткі, хлопцы, ліхтары,
Дамы, сады, манастыры,
Бухарцы, сані і гароды,
Купцы, хацінкі, мужыкі,
Бульвары, вежы, казакі,
Аптэкі, магазіны моды
Балконы, каля брамы львы
І галкі на крыжах царквы.

XXXIX. XL

Ў такім марнуючым разгоне
Гадзіны дзве амаль бяжыць,
Вось у завулку ў Харытонья
Вазок прад брамаю стаіць.
Ў сухотах цётка тут старая
Чацвёрты год як паміраe,

Яны прыехалі сюды.
Ім дзверы адчыніў тады
У акулярах, у каптане
З панчохаю ў руцэ калмык.
Спаткаў іх у гасцінай крык
Княжны, прасцёртай на дыване.
Старыя слёзы пралілі
І ўраз размову пачалі.

XLI

«Княжна, mon ange! — «Pachette!» — «Аліна!»
«Хто б мог падумаць? — Як даўно!
Ды ці надоўга? — Ах! Кузіна!
Сядай — як сталася яно!
Дальбог жа — абразок з рамана»…
«А вось дачка мая, Тацяна».
«Ах, Таня! Стань каля мяне —
Нібыта гэта ўсё ўва сне…
Кузіна, помніш Грандысона?»
«Як Грандысон?.. а, Грандысон!
Так, помню, помню! Як жа ён?
«Жыве ў Маскве, у Семеона;
Калядамі ў мяне ён быў:
Нядаўна сына ажаніў.

XLII

А той… Ды ўсё пасля раскажам.
Так? Нашым сваякам усім
Тацяну заўтра мы пакажам.
Ах, ездзіць сіл няма зусім,
Бяда, ледзь-ледзь цягаю ногі.
Ды вы змарыліся з дарогі;..
Хадзем жа разам адпачыць…
Ох, сіл няма… Ў грудзях баліць…
Мяне ўжо й радасць не займае
Ня толькі сум… душа мая,
Нікуды больш не варта я…
Жыццё пад старасць дрэнь такая…»
Тут, змору чуючы ў грудзях,
Яна закашляла ў слязах.





XLIII

Пяшчоты хворай і вяселле
Тацяну ўзрушылі; ды ёй
Няёмка тут на наваселлі
Без звыклай горніцы сваёй.
Пад занавескаю шаўковай
Не спіцца ёй ў пасцелі новай,
І як забомкалі званы,
Штадзённай працы вястуны,
Яна ўжо ложак пакідае.
Сядае Таня ля вакна.
Радзее змрок, але яна
Сваіх палёў не заўважае:
Двор незнаёмы за вакном
Са стайняй, кухняй і платом.

XLIV

Вось на сваяцкія абеды
Развозяць Таню кожны дзень,
Каб бабкі бачылі і дзеды
Яе няўважлівую лень.
Радні, прыехаўшай здалёку,
Сустрэча шчырая глыбока.
Вітанні, гоман ля стала.
«А як жа Таня падрасла!
Ці ж я даўно цябе хрысціла?
А я насіла на руках!
А я давала па вушах!
А я дык пернікам карміла!»
І хорам бабкі ўсе пяюць:
«Як годы нашыя бягуць!»

XLV

Ды ў іх няма ніякай змены;
Ўсяму стары узор вянец:
У цёткі, у княжны Елены,
Ўсё той жа цюлевы чапец;
Ўсё беліцца Лукер'я Львоўна,
Таксама лжэ Любоў Пятроўна,

Іван Пятровіч усё тупы,
Сямён Пятровіч усё скупы,
У Пелагеі Нікалаўны
Ўсё той жа друг мосьё Фінмуш,
І той жа шпіц, і той жа муж;
А ён, усё член клуба спраўны,
Глухі, пакорны, вечна рад
І выпіць шмат, і з'есці шмат.

XLVI

Іх дочкі Таню абнімаюць.
Красуні юныя Масквы
Спачатку моўчкі аглядаюць
Тацяну ўног да галавы;
Знаходзяць неяк незвычайнай,
Манернай і правінцыяльнай,
І неяк бледнай і худой,
А ўрэшце вельмі неблагой;
Пасля, пакорныя прыродзе,
Сябруюць з ёй, вядуць з сабой,
Цалуюць, цiснуць рукі ёй,
Ўзбіваюць кудры ёй па модзе,
І выкладаюць нараспеў
Сардэчны тайны, тайны дзеў,

XLVII

Ўсе поспехі — свае, чужыя,
Надзеі, мары і гульні.
Цякуць гамонкі маладыя
З прысмакам лёгкае хлусні.
Пасля, як лепет свой канчаюць,
Яе прызнанняў вымагаюць
Сабе ў заплату, як закон.
Ды Таня, быццам бы праз сон
Іх словы слухае няўважна
Нішто не зразумела ёй,
Але сакрэт душы сваёй,
І слёз і шчасця скарб паважны
Хавае моўчкі паміж тым
І ім не дзеліцца ні з кім.





XLVIII

Тацяна ўслухацца жадае
У словы гутарак чужых,
Ды лухта пошлая займае
Ў гасцінай гутарку ва ўсіх,
Ўсё роўнадушна ў іх і пуста;
У іх паклёп, і той без густу;
Ў бесплённай сухасці размоў,
Навін, пытанняў, злосных слоў
За суткі думка не заз'яе,
Хоць выпадкова, незнарок;
Не усміхнецца мозгу змрок,
Для жарту сэрца не зайграе,
І нават смешнай дурнаты
Ў табе не знойдзеш, свет пусты.

XLIX

Архіўны хлопцы грамадою
На Таню звысака глядзяць
І непрыхільна між сабою
Не пакідаюць разважаць.
Вось нейкі сумны блазан ходзіць,
Свой ідэал у ёй находзіць
І, стаўшы недзе пад сцяной,
Элегію рыхтуе ёй.
У цёткі нуднай раз спаткаўшы
Яе, з ёй В[яземскі] прысеў
І душу ёй заняць паспеў
Яго каля яе пазнаўшы,
Папраўіўшы свой парычок,
Аб ёй пытаецца дзядок.

L

Дзе ж вые Мельпамена бурна
Працяглым голасам сваім,
Дзе вее мантыяй мішурнай
Перад натоўпам ледзяным,
Дзе Талія свой сон пільнуе,
Сяброўскіх воплескаў не чуе,

Дзе Тэрпсіхоры назаўжды
Глядач адданы малады
(даўней было таксама гэта,
У годы вашы і мае),
Не скіраваны да яе
Ні дам зайздросныя ларнеты,
Ні трубкі модных панічоў
Ні з лож, ні з крэсельных радоў.

LI

Яе прывозяць і ў Сабранне,
Там хваляванне, гоман, жар,
Музыкі грукат, свеч зіянне
Мільганне, бура шпаркіх пар,
Красунь лятучыя уборы,
Людзьмі запоўненыя хоры,
Нявест найбагацейшы круг
Ва ўсіх пачуццях будзяць рух.
Тут носяць франты запісныя
Свае камзэлькі, свой імпэт
І неуважлівы ларнет
Сюды гусары адпускныя
З'яўляюцца каб прагрымець
Блиснуць, прывабіць, адляцець.

LII

У ночы шмат прыгожых зорак,
Красунь маскоўскіх не злічыць
Але ясней за ўсіх сяброўак
Ў блакіце месяц зіхаціць.
Ды тая ўсё ж, чыйго спакою
Не ўзрушу лірай я сваёю,
Як месяц з вышніх пуцявін
Адна блішчыць паміж жанчын.
З якою гордасцю чароўнай
Зямлю ледзь кратае яна!
Якая нега ў ёй відна!
І погляд млявы і цудоўны!..
Ды досыць, досыць; перастань:
Ты заплаціў вар'яцтву дань.





LIII

Шум, рогат, мітусня, паклоны,
Галоп, мазурка, вальс… Між тым
Паміж двух цётак, ля калоны,
Не запрыкмечана нікім
Глядзіць Тацяна і не можа
Яна глядзець на свет варожы;
Ёй душна тут… яна душой
Ляціць да волі палявой,
Ў сяло, дзе бедныя сяляне,
У захаваны той куток,
Дзе льецца светлы ручаёк;
Дзе кветкі, дзе яе раманы
Да ліпавай алеі той,
Дзе *ён* з'яўляўся перад ёй.

LIV

Далёка гэтак думка ходзіць:
Забыты свет і шумны бал,
А ў гэты час з яе не зводзіць
Вачэй якісці генерал.
Абедзве цёткі падміргнулі
Рукамі Таню падштурхнулі,
Шапнулі, як мага цішэй:
«Зірні налева, ды хутчэй».
«Налева? Дзе? Што там такое?»
«Што б ні было там, паглядай…
Ў гуртку тым, бачыш? Самы край,
Там, дзе яшчэ ў мундзірах двое…
Пайшоў… спыніўся… бачыш ты?»
«Хто, гэты генерал таўсты?»

LV

Тут з перамогай павіншуем
Тацяну мілую маю,
І сцежку ўбок мы накіруем,
Каб не забыць аб кім пяю…
Я тут спынюся ненадоўга:
*Пяю я друга маладога*

*І безліч вымудраў яго.*
*Услаў жа плён пяра майго,*
*О ты, эпічных твораў Муза!*
*І, кій надзейны даўшы мне,*
*На просты шлях вядзі мяне.*
Канец! Няма на карку груза!
Я класіцызму доўг аддаў:
Хоць позна, але ўступ я склаў.

## ГЛАВА ВОСЬМАЯ

*Fare thee well, and if for ever*
*Still for ever fare thee well.*

Byron

I

Калі яшчэ ў садах Ліцэя
Я бестурботна расцвітаў,
Чытаў ахвотна Апулея,
А Цыцэрона не чытаў,
У тыя дні ў глухіх далінах,
Вясной, пры крыках лебядзіных,
Ў зіянні вод, у ціхі час
Сустрэў я Музу першы раз.
Пакой студэнцкі мой пабачыў
Святло раптоўна: Муза ў ім
Жыццём заззяла маладым
Апела карагод дзіцячы
І славу нашай старыны
І сэрца трэпетныя сны.

II

Усмешкай свет яе адзначыў:
Нас першы поспех акрыліў;
Стары Дзяржавін нас пабачыў,
Прад смерцю ласкай падарыў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .





III

І я, законам ухваліўшы
Адны пачуцці назаўжды,
З натоўпам сэрца падзяліўшы
Ўвёў Музу жвавую тады
У шум гулянак, спрэчак, жартаў
Жахлівых для паўночнай варты:
Яна ў шалёныя піры
Свае прыносіла дары
І як вакханачка гуляла,
За чарай пела для гасцей,
І моладзь смелая даўней
Ёй сэрца шчыра аддавала
Я-ж быў надзвычай горды ёй,
Маёй сяброўкай балаўной.

IV

Ды я адстаў ад іх саюза,
І ў даль уцёк… яна за мной.
Як часта ласкавая Муза
Жывіла шлях маўклівы мой
Таемнай варажбою сказа!
Як часта на гарах Каўказа
Ленорай у начы глухой
Яна скакала ўслед за мной!
Яшчэ на берагі Таўрыды
Яна мяне ў мгле начной
Вяла пачуць марскі прыбой,
Нязмоўчны топат Нерэіды
Магутны, гулкі хваляў уздым,
Тварцу сусвету вечны гімн.

V

Закінуўшы сталіцы бурнай
І бляск і шумныя піры,
У глушы Малдавіі пахмурнай
Яна у бедныя шатры
Плямён вандроўных заглядала,
І паміж імі дзікай стала,

Забыла гутарку багоў
Для бедных і нязвыклых моў
Для мілых ёй стэповых спеваў…
Наўкола змен настала шмат:
І вось яна ужо ў мой сад
Заходзіць павятовай дзевай
З журботнай думкаю ў вачах,
З французскай кніжкаю ў руках.

VI

І зараз Музу дарагую
На свецкі раут я вяду
І на стэповую красу я
З зайздроснай боязню гляджу.
Скрозь шчыльны рад арыстакратаў,
Вайсковых франтаў, дыпламатаў
І гордых дам яна спяшыць;
Вось ціха села і глядзіць,
Любуючыся цеснатою,
Мільганнем гутарак і мод,
Цікавы ёй гасцей прыход
Прад гаспадыняй маладою,
І рама цёмная мужчын
Наўкола дам як ля карцін.

VII

Ёй падабаецца прыстойны
Размоў олігархічных ход,
І холад гордасці спакойны,
І гэты збег чыноў і год.
Ды хто гэта ў кругу абраным
Стаіць маўклівы і туманны?
Для ўсіх здаецца ён чужым.
Мільгаюць твары перад ім
Як надакучлівыя цені.
Што, сплін, ці горды знак пакут
Ў яго вачах? Чаго ён тут?
Хто ён такі? Няўжо Еўгеній?
Ці ж гэта ён? Так, сапраўды.
— Адкуль ён? Ці даўно сюды?





VIII

Ўсё той жа ён ці ухадзіўся?
Ці дзівака ўдае дасюль?
Скажыце, чым жа ён з’явіўся?
Што нам прадставіць ён пакуль?
Чым зараз будзе ён? Мельмотам,
Касмапалітам, патрыотам,
Гарольдам, квакерам, ханжой,
Ці маскаю блісне другой?
Ці проста будзе хлопец сталы,
Як цэлы свет, як кожны з нас?
Я раіў бы не траціць час:
Адстаць ад моды заняпалай.
Даволі свет яму здзіўляць..
— Знаёмы вам ён? — Як сказаць.

IX

— Навошта ж гэтак непрыемна
Вы разважаеце аб ім?
За тое, мо’, што мы нязменна
Варожым, судзім аб усім,
Што хібны крок душы імклівай
Нікчэмнасці самалюбівай
Здаецца смешным ці ліхім,
Што розум свет закрыў другім?
Што часта пра размовы судзім
Нібыта справа ў іх ёсць,
Што дурасць гэта бзік і злосць,
Што важна глупства важным людзям,
І што пасрэднасць нас адна
Не дзівіць, блізка нам яна?

X

Шчаслівы той, хто з маладосці
Быў маладым, хто ў час даспеў,
І хто з жыццёвай сцюжы злосцю
З гадамі дужацца ўмеў,
Хто снам нязвыклым не здаваўся,
Хто чэрні свецкай не цураўся,

Хто франт, ці хват быў ў дваццаць год
А ў трыццаць з жонкай меў даход;
Хто быў у пяцьдзесят год вольны
Ад рознастайнейшых даўгоў,
Хто славы, грошай і чыноў
Дабіўся ў чаргу, павольна,
Аб кім казалі цэлы век:
N. N. найлепшы чалавек.

XI

Ды сумна думаць, што дарэмна
Нам юнасць дадзена была.
Што ёй мы здраджвалі нязменна
Што нас усіх яна звяла;
Што нашы лепшыя імкненні,
Жывыя нашы летуценні
Сталелі шпаркай чарадой
Як лісце ў восені гнілой.
Балюча бачыць прад сабою
Адных абедаў доўгі рад,
Лічыць жыццё ўсё за абрад,
І за чыноўнай чарадою
Ісці, не дзелячыся з ёй
Нічым, ні думкай, ні душой.

XII

Прадметам стаўшы спрэчак шумных
Балюча (шчыра прызнаём)
Уславіцца ў людзей разумных
Прытворным нейкім дзіваком
Або вар'ятам безгранічным,
Або страшыдлам сатанічным
Ці нават Дэманам маім,
Онегін (зноў займуся ім),
Забіўшы друга ў паядынку,
Без мэты, без бяды дайшоў
Да дваццаці шасці гадоў,
Ў бяздзейным зморапы спачынку,
Без службы, без сям'і, без справ,
І чым заняцца сам не знаў.





XIII

Заваладаў ім дух турботны,
Жаданне месца памяняць
(Не ўсякі можа дабрахвотна
Балючы гэткі крыж падняць).
Пакінуў ён свой кут шчаслівы,
Самотныя лясы і нівы,
Дзе акрываўлены той цень
Яму з'яўляўся кожны дзень,
І вандраваць пачаў без мэты
Аддаўны пачуццю свайму;
Ды, як і ўсё у жыцці, яму
Абрыдала вандроўка гэта;
Вярнуўся ён і проста ў зал
Як Чацкі з карабля на бал.

XIV

Ды вось сярод людскога гама
Пранёсся шопат цераз зал…
Ішла да гаспадыні дама,
За ёю важны генерал.
Яна ішла хадою роўнай,
Была не строгай, не шматслоўнай
Без зірку хціўнага для ўсіх,
Без выстаўляння чар сваіх,
Без розных вымудраў манерных
Без пераймальнасці пустой…
Было ўсё ціха, проста ў ёй.
Яна была як здымак верны
*Du comme il faut*… Даруй, Шышкоў,
Няма для перакладу слоў.

XV

Бліжэй падходзілі жанчыны,
Старэнькія ківалі ёй,
Лавілі зірк яе мужчыны
Паклон адвешваючы свой;
Цішэй стараліся прабегчы
Прад ёй дзяўчаты: нос і плечы

Вышэй за ўсіх над грамадой
Нёс генерал, што йшоў за ёй.
Ніхто б не мог яе чароўнай
Назваць; ды з галавы да ног
Ніхто б у ёй знайсці не мог
Таго, што модаю гвалтоўнай
У знатным лонданскім кругу
Завецца *vulgar*. Не магу…

XVI

Люблю я дужа гэта слова
І не магу пералажыць:
Яно ў нас пакуль што нова,
Наўрад яму ў пашане быць.
Яно б пайшло ў эпіграмы…
Ды вернемся да нашай дамы.
Яна прывабнасцю цвіла,
Калі сядзела ля стала
З бліскучай Нінай Варанскою,
Той Клеапатраю Невы:
І пэўна б згодзіліся вы,
Што Ніна мрамарнай красою
Зацьміць суседку не магла,
Хоць і чароўная была.

XVII

«Няўжо, — Еўгеній разважае:
Яна ці не? Жывы партрэт…
Як! з дальняга такога краю…»
І неадчэпны свой ларнет
Ён пераводзіць памінутна
Да той, чый твар напомніў смутна
Аблічча, знанае даўней.
«Будзь ласкаў, князь, скажы ты мне,
Хто ў малінавым берэце
З паслом іспанскім там стаіць?»
Князь на Онегіна глядзіць.
«Ага! Даўно ж ты не быў у свеце.
Чакай, цябе прадстаўлю я».
«Хто ж гэта?» — «Жонка то мая».





XVIII

«Дык ты жанаты! Нечакана!
Даўно?» — «Два годы за малым» —
«А з кім жа?» — «З Ларынай». — «З Тацянай!»
«Ты з ёй знаём?» — «Сусед я ім».
«Хадзем жа». — Князь тут падыходзіць
Да жонкі і з сабой падводзіць
Радню і дружбака свайго.
Глядзіць княгіня на яго…
І, што б яна ні адчувала,
Пранятая пры стрэчы з ім
Такім уражаннем жывым,
Але нічым не паказала:
Ў ёй захаваўся той жа тон,
І ціхі быў яе паклон.

XIX

Каб што яе хоць скаланула,
Каб твар хоць фарба заліла…
Яна брывёй не зварухнула
І губы нават не звяла.
Хоць прыглядаўся ён старанна
Ды і слядоў былой Тацяны
Не мог Онегін адшукаць.
Хацеў размову ён пачаць
І — і не мог. Яна спытала
Адкуль ён і з якіх часоў
І ці не з іх хаця краёў?
Пасля да мужа скіравала
Свой погляд, і ў другі пакой…
Стаяў Онегін сам не свой.

XX

Няўжо яна і ёсць Тацяна,
Якой сам-на-сам ён раней
Ў пачатку нашага рамана,
Ў глухой, далёкай старане,
Ў маральным жаркім захапленні
Чытаў калісьці настаўленні;

Ёсць ліст яе ў яго з тых дзён,
Гаворыць мовай сэрца ён,
Там ўсё адкрыта, ўсё на волі;
Дзяўчынка тая… ці ня сон?
Дзяўчынка тая… гэта ён
Яе мінуў у сціплай долі,
Няўжо яе перад сабой
Ён бачыў смелаю такой?

XXI

Ён пакідае раут шумны
І задуменна едзе ён;
І марай мілай, марай сумнай
Яго ўстрывожан позні сон.
Прачнуўся ён; яму прыносяць
Ліст: князь NN ласкава просіць
На вечар. «Божа! да яе!
О, буду, буду!» і дае
Як найхутчэй адказ пачцівы.
Што з ім! Ў якім ён дзіўным сне!
Што зварухнулася на дне
Душы халоднай, неруплівай?
Дзівацтва? прыкрасць? або зноў
Турбота юнасці — любоў?

XXII

Онегін цэлы дзень чакае,
Гадзіны лічыць, каб хутчэй.
Ды дзесяць б'е; ён выяжджае,
Ён паляцеў, ён ля дзвярэй,
У дом ён з трэпетам заходзіць;
Тацяну ён адну знаходзіць,
І некалькі хвілін сядзяць
Удвох. Размову распачаць
Слоў не знаходзіць ён. Пануры,
Нязграбны, ён ледзь словы два
Пракажа часам. Галава
Яго ўся поўна думкай хмурай
І хмура ён сядзіць. У ёй
Няма трывогі ніякой.





XXIII

Прыходзіць муж. Ён разрывае
Нязносны гэты tête-à-tête;
З Онегіным успамінае
Здарэнні, жарты даўных лет.
Яны смяюцца. Вось і госці.
Вось буйнай соллю свецкай злосці
Размовы раптам ажылі;
Прад гаспадыняй пачалі
Блішчэць без штучнага крыўляння,
І прыпыняў іх іншы раз
Без пошлых тэм разумны сказ,
Без вечных праўд, без навучання,
Яго жывы і вольны дух
Не дратаваў нікому слух.

XXIV

Тут быў сталіцы свет абраны
І знаць, і розных мод парад,
І круг людзей усюды знаны,
Незамянімых дурняў шмат;
Былі тут дамы паджылыя,
Ў чапцах і ружах, з твару злыя;
Дзяўчаты тут яшчэ былі
Што век усмешкай не цвілі;
Тут быў пасланнік, што выключнай
Меў тэмай ход дзяржаўных спраў;
На лад даўнейшы жартаваў
Дзядок у сівізне пахучай
Разумна, тонка кожны раз,
Што трохі смешна сёння ў нас.

XXV

Тут быў на эпіграмы ходкі
На ўсё сярдзіты пан адзін:
На чай гаспадароў салодкі,
На дурасць дам, на тон мужчын,
На плёткі, пра раман туманны,
На вензель, сёстрам двум прысланы,

На войны, на журнальны брэх,
На жонку ўласную, на снег.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

XXVI

Тут быў *** (Праласаў) усім вядомы
Сваёю нізкаю душой,
Што аб усе тупіў альбомы
St-P (riest), аловак востры твой;
Ў дзвярах другі дыктатар бальны
Нібы анёлачак сусальны
Румяны, сцягнуты стаяў,
Не варушыўся і маўчаў,
І падарожнік там залётны
Круцель крахмальны нейкі быў
І ўсіх гасцей развесяліў
Ягоны твар праз край турботны,
І зірк абменены кругом
Агульным быў яму судом.

XXVII

Але Онегін мой Тацянай
Ўвесь час заняты быў адной,
Не той дзяўчынкай закаханай
Нясмелай, простай, маладой,
А роўнадушнаю княгіняй,
А недаступнаю багіняй
Ўладаркай пышнае Нявы.
О людзі! Ўсе падобны вы
Да нашае прабабкі Эвы:
Што маеце, не цягне вас,
А змій вас вабіць увесь час
Да забароненага дрэва;
Вам плод заказаны давай,
А без яго вам рай не рай.





XXVIII

О, як змянілася Тацяна!
Як цвёрда ў ролю увайшла!
Як прыгнятаючага сана
Прыёмы хутка прыняла!
Хто б мог шукаць дзяўчынкі даўняй
У велічавай і нядбайнай
Законадаўніцы забаў.
І ён ёй сэрца хваляваў!
Аб ім яна у змроку ночы,
Пакуль не наляціць Марфей,
Сумуе цнотна так даўней,
Ўздымае ў неба млявы вочы
І марыць, каб калі ў жыцці
З ім мірны шлях удвох прайсці.

XXIX

Каханню ўзросты ўсе пакорны;
Ды сэрцам чыстым, маладым
Яго парывы жыватворны
Як дождж нівам веснавым:
Іх дождж пачуццяў асвяжае
І спеліць іх і абнаўляе —
Дае жыцця ім буйны ход
Багаты цвет, салодкі плод.
Парою ж познай і бясплоднай
Як пакідае нас імпэт,
Пачуццяў мёртвых сумны след:
Так буры восені халоднай
Балотам робяць светлы дол
І асыпаюць лес наўкол.

XXX

Еўгеній — больш няма сумненняў —
Ўжо закахаўся як дзіця;
Ў тузе любоўных лятуценняў
Ён дзень і ноч як без жыцця.
На строгі розум не зважае,
Ля ганку ён яе чакае,

Ён пад’яжджае кожны дзень,
За ёю гоніцца, як цень;
Шчаслівы ён, як удаецца
Боа на плечы ўскінуць ёй,
Ці да яе рукі сваёй
Рукой гарачай ён кранецца,
Прад ёй разгоніць полк ліўрэй,
Ці хустку ёй падасць хутчэй.

XXXI

Яна яго не заўважае,
Як ён не бікся, хоць памры.
Свабодна у сябе прымае,
Ў гасцях з ім скажа слова тры,
Калі паклонам спатыкае,
Калі наогул не зважае:
Няма какецтва ў яе,
Бо свет яго не прызнае.
Онегін пакрысе марнее:
Ёй не відаць, ці не шкада;
Онегін сохне — вось бяда,
Ці на сухоты не хварэе.
Яго да дактароў вядуць,
Яны яго на воды шлюць.

XXXII

А ён не едзе; пра спактанне
Гатоў ён прадзедам пісаць
Заўчасна нават; а Тацяне
Нічога (пол такі, відаць);
А ён, упарты, не здаецца,
Турбуецца і спадзяецца;
Смялей здаровага, рукой
Княгіні піша ён слабой
Гарачы ліст, пачуццяў поўны.
Хоць пра лісты ён не здарма
Судзіў, што сэнсу ў іх няма;
Аднак пакуты нявымоўнай
Ён, трэба думаць, не стрымаў.
Вось ліст, як ён яго пісаў.





**Ліст Онегіна да Тацяны**

Прадбачу ўсё: зняважыць вас
Балючай тайны тлумачэнне.
Пагарду, горач абурэння
Пакажа зірк ваш у адказ!
Што трэба мне? З якой прычыны
Адкрыю душу вам сваю?
Якой злой радасці, магчыма,
Цяпер зачэпку я даю!
Выпадкам вас даўней пазнаўшы,
Пяшчоты іскру ў вас спаткаўшы,
Я ёй паверыць не пасмеў:
Не даў прывычцы мілай ходу;
Сваю абрыдлую свабоду
Утраціць я не захацеў.
Яшчэ адно нас разлучыла…
Ахвярай сумнай Ленскі стаў…
Ад усяго, што сэрцу міла,
Тады я сэрца адарваў;
Чужы для ўсіх, сабе аддáны,
Я думаў: вольнасць і спакой
Замена шчасцю. Божа мой!
Як схібіў, як я пакараны!
Не, бачыць вас часцей, бліжэй,
За вамі ўслед хадзіць аддана,
Усмешку вуснаў, рух вачэй
Лавіць паглядам закахана,
Вас доўга слухаць, успрымаць
Душою вашу ўсю прывабнасць,
Прад вамі з болем заміраць,
Марнець і гаснуць… вось дзе радасць!
Пазбаўлен я таго: як цень
Паўзу за вамі я наўдачу;
Мне важны момант, важны дзень,
А я ў нудзе дарэмнай трачу
Адлічаныя лёсам дні.
І так цяжкія ўжо яны.
Я знаю: злічаны хвіліны;

Каб працягнуць жыцця мне час
Я ведаць з раніцы павінен,
Што днём напэўна ўбачу вас…
Баюся: у маім маленні
Ваш строгі зірк знайсці гатоў
Намераў хітрых выяўленне —
І чую гнеў я вашых слоў.
Калі б вы зналі, як жахліва
Кахання полымем палаць,
Гібець — і розумам рупліва
Крыві кіпенне сунімаць;
Жадаць абняць у вас калені
І, у слязах, ля вашых ног
Складаць жаданні, лятуценні,
Ўсё, ўсё, што б выказаць я мог,
Прытворным холадам тым часам
І зірк, і слова ўзмацняць,
Спакойна з вамі размаўляць,
Глядзець на вас паглядам ясным!..
Ды будзь што будзе: сам з сабой
Змагацца я не ў сілах болей;
Ўсё скончана: я ў вашай волі,
Аддаўся долі я сваёй.

XXXIII

Няма адказу. Пасылае
Другі і трэці ліст ён — зноў
Няма адказу. Выяжджае
Ён у госці; толькі што зайшоў…
Яна насустрач. Як сурова!
Яго не бачыць, з ім ні слова:
У! Як цяпер яе чало
Лядовай сцюжай аблягло!
Як вусны ўпартыя старанна
Знявагу хочуць затаіць!
Онегін з пільнасцю глядзіць:
Дзе, дзе трывога, спачуванне?
Дзе плямы слёз?.. — Няма іх, не!
На гэтым твары толькі гнеў…





XXXIV

Ды мо след боязні адзінай
Каб муж ці свет не ўгадаў
Забавы, слабасці хвілiннай,
Ўсяго, што мой Онегін знаў…
Надзей няма. Ён ад’яжджае,
Сваё вар’яцтва праклінае —
Абняты ім, на многа дзён
Зноў адышоў ад свету ён.
І ў маўклівым габінеце
Яму згадалася пара,
Калі суровая хандра
За ім ганялася па свеце
І, улавіўшы, пад замок
Замкнула ў глухі куток.

XXXV

Зноў стаў чытаць ён без разбора,
Чытаў ён Гіббона, Руссо,
Мензоні, Гердэра, Шамфора,
Madame de Staël, Біша, Тіссо,
Чытаў скептычнага ён Беля,
Чытаў ён творы Фонтэнеля
І нашых многіх прачытаў,
Нічога ён не адкідаў:
І альманахі, і журналы,
Дзе нам навуку падаюць,
Дзе сёння так мяне скубуць,
І дзе такія мадрыгалы
Сабе чытаў я іншы раз:
*E sempre bene,* ў добры час.

XXXVI

І што ж? Хоць зрок чытаў, затое
Далёка думкі адышлі;
Жаданні, смутак і настроі
Глыбока душу пранялі.
Ён паміж кніжнымі радкамі
Чытаў духоўнымі вачамі

Радкі другія. І яго
Яны агортвалі ўсяго.
Былі там тайныя паданні
Сардэчнай цёмнай старыны,
Ні з чым не звязаныя сны,
Прароцтвы, грозьбы, разважанні,
Ці казкі, поўныя чмуты,
Ці дзевы маладой лісты.

XXXVII

І паступова ахапляе
Яго пачуцце, думкі сон,
А ўяўленне раскідае
Прад ім барвовы фараон.
Пабачыць ён: на талым снезе
Нібы заснуўшы на начлезе
Юнак прасцёршыся ляжыць:
Ну што-ж, забіт! — у вушах гучыць.
Што бачыць ворагаў ён даўніх
Паклёпнікаў, трусоў ліхіх,
І кола здрадніц маладых,
І круг таварышаў паганых,
Што сельскі дом — і ля акна
Сядзіць яна-ж… усё яна…

XXXVIII

Ён так прывык губляцца ў гэтым
Што ледзь мазгі не пракруціў,
Ледзь не зрабіўся ён паэтам.
Прызнацца: вось-бы ўдружыў!
А праўда: сілай магнетызма
Расійскіх вершаў механізма
Ледзь не асвоіў той парой
Нявдатны гэты вучань мой.
Як ён нагадываў паэта,
Калі ў кутку сядзеў адзін
І перад ім палаў камін
І напяваў ён: *Benedetta,*
Ці *Idol mio* і губляў
У агонь усё што не трымаў.





XXXIX

Міналі дні; вясной нагрэты
Зімы суровы час мягчэў;
І не пашоў ён у паэты,
Ён не памёр, не звар'яцеў,
І зноў ажыўлены вясною
Свае замкнутыя пакоі,
Дзе як сурок ён жыў адзін
Акно падвойнае, камін
Ён пакідае ясным раннем,
Уздоўж Нявы ў санях імчыць.
На льдах пасечаных блішчыць
І грае сонца; брудна тае
На вуліцах ўскапаны снег.
Куды па ім свой шпаркі бег

XL

Імкне Онегін? Запытанне
Немудрае; дапраўды так:
Памчаўся да сваёй Тацяны
Мой непапраўлены дзівак.
Нібы мярцвяк у дом заходзіць,
Пустой прыхожую знаходзіць.
У залі ні душы жывой;
Ён далей. Што ж яго з такой
Вялікай сілаю праймае?
Княгіня, бледая, адна
'Шчэ не прыбраная яна
Сядзіць і нейкі ліст чытае
І ціха слёзы лье ракой,
На руку ўспёршыся шчакой.

XLI

О, хто б тугі яе бескрайнай
У гэты час не прачытаў!
Хто беднай Тані, Тані даўнай
Ў княгіні б зараз не пазнаў!
У жалю, ў роспачы страшэннай
Да ног яе упаў Еўгеній;

Ледзь дрогнуўшы, яна маўчыць
І на Онегіна глядзіць
І без здзіўлення, і без гнева…
Зхварэлых воч памерклы жар,
Нямы дакор, пакорны твар
Ўсё ясна ёй. Былая дзева
З даўнейшым сэрцам і душой
Зноў ажыла цяпер у ёй.

XLII

Яна яго не паднімае
І погляд не адводзіць свой,
Ад прагных губ не адрывае
Рукі знямелае сваёй…
Дзе пачуццё яе лунае?..
Маўчанне доўгае мінае,
Яна ціхутка пачала:
«Даволі; устаньце. Надышла
Пара мне даць вам тлумачэнне.
Онегін, помніце той час,
Калі ў прысадах змрочных нас
Звёў лёс і ў гэтакім цярпенні
Тады вас выслухала я
Цяпер прышла чарга мая.

XLIII

Онегін, я тады інакшай,
Я лепшай, можа быць, была,
І я кахала вас, і ў вашай
Што я душы тады знайшла?
Які адказ? Сухі, суровы.
Ці праўда? Вам была не нова
Дзяўчынкі простае любоў?
І зараз — божа! — стыгне кроў,
Як толькі ўспомню погляд гэты
І вашы словы… Ды на вас
Не ў крыўдзе я: ў той страшны час
Са мной зрабілі вы шляхетна.
Вы былі правы прада мной:
Я вам удзячна ўсёй душой.





XLIV

Тады — ці праўда? — у вёсцы простай,
Дзе мітусні няма людской,
Я вас не вабіла… Навошта
Цяпер вы ходзіце за мной?
Чаму у вас я на прымеце?
Ці не таму, што ў лепшым свеце
Бываць павінна я часцей,
Што стала багацей, знатней,
Што муж прынёс з паходаў раны,
Што двор за гэта любіць нас?
Ці не таму, што ў хуткі час
Усюды б быў мой сорам знаны
І мог бы даць вам найхутчэй
Зайздросны гонар у людзей?

XLV

Я плачу… Калі вашай Тані
Вы не забыліся з тых дзён,
Дык знайце: вашы нараканні,
Халодны і суровы тон,
Каб сталася маё жаданне,
Мне лепш чым звыклае каханне,
Мілей лістоў і слёз такіх.
Вы да дзіцячых мар маіх
Маглі хоць жалем захапіцца,
Пашанай да гадоў слабых…
А зараз! — Што да ног маіх
Вас прывяло? Што за драбніца!
Як з вашым розумам, душой
Рабом стаць дробязі такой?

XLVI

А мне, Онегін, пышнасць гэта,
Жыццё ў збрыдлай мішуры
І поспех мой у віхуры света,
Мой модны дом і вечары —
Што ў іх? Аддаць я зараз рада
Усё лахмоцце маскарада,

Ўвесь гэты бляск і шум і чад
За звязак кніг, за дзікі сад,
За дом наш бедны і суровы,
За гэты край, дзе першы раз,
Онегін, бачыла я вас,
Яшчэ за могільнік вясковы,
Дзе зараз крыж ды цень ад хвой
Над беднай няняю маёй.

XLVII

А шчасце блізка і магчыма
Было для нас!.. пара прайшла
Неасцярожнаю дзяўчынай
Магчыма я тады была:
Мяне з слязамі заклінанняў
Маліла маці; перад Таняй
Было ўсё роўным у той час…
Я выйшла замуж. Зараз вас
Прашу са мною развітацца;
Знаёма з вашай я душой:
Ёсць гордасць, гонар ёсць у ёй.
Я вас кахаю (што хавацца?),
Ды іншаму належу я
І вернасць вечная мая.

XLVIII

Яна пайшла. Стаіць Еўгеній
Нібы пярун яго прабіў.
Які ў сэрцы ён страшэнны
Віхор пачуццяў перажыў!
Ды шпор раптоўны звон раздаўся
І муж Тацяны паказаўся,
І тут героя мы свайго
Ў хвіліну, злую для яго,
Чытач шаноўны, пакідаем,
Надоўга… назаўжды. За ім
Даволі шляхам мы адным
Брылі па свеце. Прывітаем
Сябе мы з берагам. Ура!
Даўно (ці згодны вы?) пара!





XLIX

Хто б ты ні быў, чытач шаноўны,
Друг, вораг, хочацца з табой
Мне развітацца ў дружбе поўнай
Даруй. Чаго б ты ўслед за мной
Тут ні шукаў між строф няроўных,
Ці ўспамінаў дзён бунтоўных,
Ці проста адпачыць жадаў,
Малюнкаў, вострых слоў чакаў
Або памылак граматычных,
Дай бог, каб у радках маіх
Для мар і для забаў сваіх,
Для сэрца, для баёў крытычных
Крупіцу мог бы адшукаць.
Затым бывай, пара канчаць.

L

Бывай, мой спадарожнік дзіўны,
І ты, мой ідэал жывы
І ты, шлях працы безупыннай,
Хоць дробнае. Далі мне вы
Усё, зайздроснае паэту:
Спакой жыцця ў бурах свету,
Размову мілую сяброў.
Прабегла зараз шмат гадоў
З тых дзён, як юная Тацяна
З Онегіным у цмяным сне
Натрапілі на вочы мне —
І даль свабоднага рамана
Цераз крыстал магічны свой
Я кепска бачыў прад сабой.

LI

Сябры ж, якім у дні былыя
Я строфы першыя чытаў…
Адных няма, далёка тыя,
Як Садзі некалі сказаў.
Без іх Онегін дапісаўся.
А тая, ад якой пачаўся

Тацяны ідэал жывы…
О, годы, шмат забралі вы!
Шчаслівы, хто пакінуў рана
Жыцця забавы і да дна
Не выпіў келіха віна,
Не дачытаў жыцця рамана
І развітаўся хутка з ім
Як я з Онегіным маім.



# КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

# АБ «ФАКТАХ» І ПЭРСПЭКТЫВАХ
(Літаратурныя нататкі)

Шляхі літаратуры наогул вельмі цяжкія. Літаратура ў сваім разьвіцці стаіць у поўнай залежнасьці ад цэлага шэрагу об'ектыўных прычын і прымушана перамагаць шмат хваробаў росту. Іх шмат. Яны ніколі ня зьнікаюць канчаткова, але чаргуюцца паміж сабой, замяняюць адна адну. У муках барацьбы з гэтымі хваробамі нараджаецца і выкрышталізоўваецца сапраўднае мастацтва слова, якое арганізуе і будуе, якое заклікае да змаганьня і абуджае творчыя сілы грамады.

Прывабная гэта доля — доля поэты ці пісьменьніка. Яго імя, яго творчасьць (мы гаворым аб сапраўдных мастакох) не памірае разам з ім, а жыве з яго грамадою, з тою часткай чалавецтва, якая яго высунула, чые пачуцьці і інтарэсы ён адбіваў, з кім ён быў органічна зьвязаны. Выдатнейшыя мастакі пераждываюць нават і пору панаваньня сваёй клясы; іх творчасьць цэніцца і паважаецца і новаю пераможнаю клясаю, якая заняла пануючае месца ў процэсе соцыяльных пераформаваньняў.

З боку цяжка, а часта і немагчыма бачыць, які шлях праходзіць поэта, ці пісьменьнік, колькі ўласнай энергіі і сіл аддае ён сваёй творчасьці. Кожны бачыць толькі «славу», якая акружае імя поэты, і гэта «слава», асабліва сярод моладзі, выклікае шмат пасьлядоўцаў, таксама жадаючых яе набыць.

У нас нямала пісалася пра вершаманію, хаця правільней было-б назваць гэта зьявішча больш агульнаю назваю — графаманія. Нашы рэдакцыі сапраўды перагружаны сотнямі і тысячамі насьпех наляпаных і нікуды нявартых вершаў і апавяданьняў, на якія проста фізічнай магчымасьці няма даць належную грунтоўную ацэнку.

Моладзь, якая напаўняе рэдакцыйныя скрынкі і кошыкі сваёю «мастацкаю» творчасьцю, вельмі проста глядзіць на літаратуру. Напісаў верш з рыфмамі, падзелены, як водзіцца, на чатырохрадковыя строфы, выбраў сабе псеўдонім — знача ўжо і поэта, знача і мастак. Да вершу звычайна далучаецца ліст.

«Верш можа і слабы, але я бядняк, заняты працай на гаспадарцы і г. д.»

Бязумоўна, рэволюцыя адчыніла працоўным масам шлях у літаратуру, і мы ўжо маем цэлы шэраг прыкладаў, калі толькі дзякуючы рэволюцыі той ці іншы таленавіты пісьменьнік здолеў выявіць свае здольнасьці. У старыя часы мала-б чаго ён дабіўся і з гэтага пункту погляду на кожнае праяўленьне творчай сілы масы трэба зьвяртаць вялікую ўвагу. Але гэта зусім не азначае таго, што соцыяльнае становішча павінна служыць мандатам на «бессмертие». Гэта зразумела кожнаму сьвядомаму чалавеку. У нас, на жаль, у большасьці выпадкаў, на літаратурную працу глядзяць вельмі лёгка, павярхоўна.

У № 1 «Маладняка» зьмешчаны артыкул Астаповіча, у якім гаворыцца аб матэрыяльным становішчы пісьменніцкага маладняка, аб матэрыяльных перашкодах, якія прыходзіцца спатыкаць пачынаючаму пісьменьніку. І вось як зразумеў гэты артыкул адзін з гэтых «пачынаючых пісьменьнікаў»:

«Напісаў я невялікую поэму — усяго 515 радкоў (толькі ўсяго! — *Т. Г.*), а чаго мне гэта стоіла!»

Чытач падумае — сіл, здароўя, энергіі… Слухайце далей:

«На бумагу ў сваёй кішэні я маю кожны месяц 20 капеек. На гэтыя 20 капеек я куплю 4 сшыткі, па 3 капейкі сшытак, і 5 аркушаў бумагі, па паўтары капейкі аркуш. Вось і ўсе дваццаць капеек. На гэтую поэму, на чарнавік, я страціў адзін сшытак, ды перапісаў, каб даслаць у часопісь; гэта ў мяне заняло 5 аркушаў».

Вось вам каштарыс пачынаючага пісьменьніка. Аднак у яго ёсць і перспектыўны плян:

«Цяпер я падрыхтоўваю другую поэму, прыблізна 750 радкоў. На чарнавік пойдзе болей за сшытак, ды начыста перапісаць — 7 аркушаў».

З гэтага вытворчага пляну ідуць вывады:

«А гэта знача, што трэба выдаваць болей гонарару… Цяпер я толькі надзеюся на гонарар, бо калі маю папярэднюю поэму не надрукуюць, а гэта значыць, што я не палучу гонарару, я не магу напісаць другую поэму».

Для большай ілюстрацыі гэтага факту дазволім сабе прывесьці некалькі радкоў з поэмы гэтага-ж хлапца:

Я — народ. Я — ратай бедны,
Увесь абліты едкім потам,
І да радасьці пабеднай
Я дайшоў па эшафотам.
Я дайшоў, і ў ланцугох
І ў кайданах паміраючы,
Я сьцяг нёс, і чуць ня здох,
Бяз сілы яго апуская.

Тут асаблівых коментарыяў ня трэба. Ад ліста гэтага хлопца робіцца спачатку сьмешна, але, калі спыніцца на ім болей уважна, ды прыняць пад увагу, што гэта не выпадковы факт, што ён характэрны для ўсяго патоку графаманіі, дык бярэ страх за будучыню беларускай літаратры. Не таму, што яе загрузяць творы падобнага гатунку. Нашы рэдакцыі пакуль што ўкоплектованы людзьмі пісьменнымі. Але кідаецца ў вочы да жудасьці лёгкі падыход да літаратуры. Літаратура расцэньваецца з пункту погляду паперы, затрачанай на напісаньне твору; якасьць твору пакідаецца бяз увагі. Гэта яшчэ шчасьце, што аўтар вышэйпададзеных радкоў не атрымае ганарару і не напіша другой поэмы, дзякуючы недахвату паперы. У многіх, у вельмі многіх паперы хапае.

У Амсьціслаўлі ў маладнякоўскім гуртку адбыўся «раскол». Аддзялілася група, якая назвала сябе «літаратурным згуртаваньнем» (модны тытул) «Агняцьвет». У групу ўвашлі «поэты» ад 14 да 16 гадоў, імёнам якіх не прыходзіцца адводзіць месца ў гэтым артыкуле, бо яны нічога не скажуць чытачу; даволі сказаць, што іх было ні то 4, ні то 6. Гэта група мела сваю дэклярацыю і свой статут, з якога мы і дазволім сабе прывесьці пару пунктаў.

1. Сябром літзгуртаваньня «Агняцьвет» лічыцца кожны, *хто піша больш-менш добра ў галіне поэтыкі, прозы, сатырыкі і крытыкі* (курсіў наш. — *Т. Г.*), прызнае дэклярацыю згуртаваньня і рэгулярна плаціць сяброўскія ўзносы.

Далей гаворыцца аб «завочным» прыняцьці новых сяброў («много званых, но мало избранных»), а выключэньні і г. д. Чытаем далей разьдзел 2:

2. Цэнтрам згуртаваньня абіраецца горад Амсьціслаў, кв. рэдактара.

3. Кожны сябра «Агняцьвету» мае свой літаратурны псэўдонім, пад якім і супрацоўнічае у часопісі.

У в а г а. Псэўдонімы ведае толькі рэдактар часопісі, які не павінен іх выдаваць.

Мы ня будзем спыняцца на палажэньнях «Агняцьвету» аб тым, што рэдактар (правадыр згуртваньня) «склікае агульную конфэрэнцыю па пошце» (гэта склікаць чатырох чалавек у Амсьціслаўлі. — *Т. Г.*), ня будзем спыняцца на тым, што крытэры «больш-менш добра» некалькі нацягнуты. Наогул — увесь гэты «адкол», на наш погляд, зьяўляецца толькі дзіцячай забаваю.





Гэта дробныя факты, але яны часткова высьвятляюць сабою і пэрспэктывы беларускай літаратуры. Калі кожны сьвядомы грамадзянін не ўсьвядоміць сабе вялізнага значэньня літаратуры, калі не перастануць глядзець на літаратуру з боку прыналежнасьці да тэй ці іншай літорганізацыі, ці з боку наліччa «літаратурнага псэўдоніму» — гора нашай літаратуры. Калі будуць судзіць аб літаратурнай працы па колькасьці паперы, патрачанай на напісаньне поэмы — гора нашай літаратуры.

«Маладняк» праз свае літгурткі ўважна адсартоўвае горшае ад лепшага, стараецца адкрыць шлях у літаратуру тым, хто сапраўды на гэты шлях імкнецца, хто мае даныя, каб папасьці на гэты шлях. Але патрэбна вялікая і шчырая дапамога аб'яднаньню ў гэтай справе, каб яна сапраўды прынесла карысьць. Трэба, каб на мастацкую літаратуру глядзелі, як на сапраўды моцную зброю пралетарыяту ў яго барацьбе, а ня як на нешта пабочнае, непатрэбнае. Трэба сконцэнтраваць увагу нашай грамадзкасьці на пытаньнях літаратуры і такім чынам забясьпечыць яе нормальнае разьвіцьцё. Пара пазбавіцца ад «плявацельнага» погляду на літаратуру і ад расцэнкі літаратурнай працы па колькасьці патрачанай паперы.

*Люты 1927 г.*

## ЗА КУЛЬТУРУ МОВЫ

Пытаньне аб беларускай літаратурнай мове з кожным днём робіцца ўсё больш і больш актуальным. Бязумоўна, гэта зусім натуральнае зьявішча. Мастацкая літаратура разгортваецца ўсё болей і болей, зьяўляюцца новыя пісьменнікі, творчасьць старэйшых вырастае і па якасьці і па колькасьці. Зьяўляецца літаратурная форма дагэтуль беларускай літаратуры незнаёмая, — раман, які патрабуе асабліва распрацаванай мовы. Усё гэта, разам узятае, бязумоўна, павінна штурхаць беларускіх пісьменьнікаў на шлях апрацоўкі мовы і, галоўным чынам, яе папаўненьня. Цэлы шэраг артыкулаў па гэтым пытаньні зьявіўся на старонках нашых часопісаў. Рабіліся спробы аналізу мовы паасобных пісьменьнікаў. І побач з гэты многія пісьменьнікі рабілі і робяць вялікую практычную работу ў гэтым кірунку. Работа гэта накіроўвалася па некалькіх лініях. Адны, як М. Зарэцкі, Ц. Гартны, накіравалі сваю ўвагу на выкарыстаньне дыялектаў, на асіміляцыю ў літаратурнай мове паветалізмаў найбольш удалых і характарных.

Другія, як Дубоўка, пашлі па найменш удзячнай лініі словатворчасьці і выкарыстаньня старых слоў, ня спыняючы працы па выкарыстаньні дыялектаў. У свой час у беларускую літаратурную мову папала шмат барбарызмаў, якія з вялікім трудом вытраўляюцца з мовы, але на зьмену якім часамі прасачваюцца новыя. Аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, у беларускіх мастацкіх творах (асабліва ў маладзейшых поэтаў і пісьменьнікаў) назіраецца страшэнная беднасьць мовы. Гэта тлумачыцца перш за ўсё адсутнасьцю жаданьня працаваць над сваёю моваю.

— Навошта думаць над гэткаю дробязьзю. Можна запазычыць слова ў таго-ж Дубоўкі… ён іх шмат стварыў і выкапаў.

І пачынае якое-небудзь можа і прыгожае слова гуляць з аднаго вершу ў другі, ад аднаго поэты да другога, аж пакуль не спадзе з яго ўся яго краса і перастане яно рабіць уражаньне на чытача. Даволі ўспомніць усякія «сіні» ды «блакіты» ды «васількі». Якімі сьвежымі, якімі прыгожымі вобразамі гучэлі яны яшчэ гады два таму назад! Але да іх «дарваліся», і цяпер у некаторых рэдакцыях можна пачуць такія гутаркі:

— Верш прынёс…

— А сінь у ім ёсьць?

— Ды разы два…

— Ня пойдзе…

І сапраўды ад гэтай сіні за апошні час аж у вачох мітусіцца. Тое самае і з другімі словамі, як «песьня» альбо «прастор». Ды ці зьлічыш гэтыя словы, якія і цяпер яшчэ прыгадзіліся-б, каб на іх гэтак старанна не налягалі.

Нядаўна выйшаў з друку ў выданьні БДВ зборнік П. Труса «Ветры буйныя».

Паўлюк Трус — гэта ўжо не пачынаючы поэта. Творы Паўлюка Труса перакладзены на іншыя мовы, а на Беларусі маюць шырокую вядомасьць і набылі сабе нават пасьлядоўнікаў. У зборніку *134 старонкі, з іх тэкставых — 120*. І на ўвесь зборнік мы налічылі ўсяго *711 слоў*; г. зн., *на кожную старонку* прыпадае ў сярэднім *6 слоў*. Да гэтага трэба дадаць, што многія словы аднаго кораня мы лічылі, як паасобныя, напрыклад, «цьвісьці» і «адцьвісьці», «зьвінець», «адзьвінець» і г. д.

Што гэта значыць? Гэта значыць, што на кожнай старонцы зьмяшчаецца 7 слоў паўторавых па некалькі разоў у самых розна-





стайных варыяцыях. Калі да гэтага дадаць, што слоў, якія пападаюцца *толькі па адным разе* ў зборніку налічваецца 232 (ледзь-ледзь адна трэцяя частка ўсяго слоўніка), дык яшчэ наяўнейшаю робіцца жудасная беднасьць мовы зборніка. Мы прывядзём тут толькі тыя словы, якія спатыкаюцца ў зборніку ня меней 5 разоў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адзінокі | 7 | Ветравіньне | 8 |
| Адцьвісьці | 21 | Вёска | 9 |
| Акорды | 7 | Вішня | 6 |
| Апаўночы | 12 | Віцьця | 5 |
| Асеньні | 20 | Вобраз | 12 |
| Асмуглы | 9 | Водгульле | 5 |
| Асыпаць | 7 | Возера | 24 |
| Беларусь | 10 | Вольны | 12 |
| Бераг | 7 | Вакно | 9 |
| Бор | 8 | Вербалоз | 5 |
| Бровы | 6 | Вечар | 9 |
| Брусьніцы | 6 | Вочы | 35 (!) |
| Будзіць | 14 | Гнуць, ца | 11 |
| Буйны | 20 | Год, годы | 10 |
| Бяроза | 8 | Горды | 6 |
| Восень | 11 | Грудзі | 14 |
| Выйду (пайду, прайду) | 19 | Гусі | 10 |
| | | Гай | 23 |
| Вымыць | 6 | Гайдаць, ца | 6 |
| Вякі | 5 | Гаманіць | 15 |
| Вянуць | 20 | Гарэць | 6 |
| Вянок | 17 | Гара | 15 |
| Вясна | 16 | Глыбокі | 5 |
| Вада | 36 (!) | Глыбінь | 7 |
| Вечар сіні | 4 | Глядзець, ца | 18 |
| Веяць | 22 | Далячынь | 7 |
| Ветразь | 5 | Даль | 9 |
| Вецер | 33 (!) | Далёкі | 7 |
| • Буйны | 10 (!) | Даліна | 29 |
| Вербы | 28 | Дакор | 5 |

| | |
|---|---|
| Дарыць | 6 |
| Дарагі | 13 |
| Дарога | 20 |
| Даўно | 5 |
| Дзень, дні | 16 |
| Дзяўчына | 17 |
| Дно | 33 (!) |
| Дол (долу, да долу) | 21 |
| Доўга | 8 |
| Драмаць | 6 |
| Дуброва | 5 |
| Думаць | 6 |
| Думы | 15 |
| Душа | 25 |
| Жвір | 5 |
| Журавіны | 6 |
| Журба | 14 |
| Журыцца | 35 (!) |
| Жывы | 7 |
| Жыцьцё | 33 (!) |
| Залаты | 14 |
| Золата | 6 |
| Зацьвітаць | 9 |
| Зацішак | 7 |
| Звонкі | 12 |
| Зоры і зара | 28 |
| Зялёны | 19 |
| Зьбіраць | 9 |
| Зьвінець | 19 |
| Завіваць, ца | 26 |
| Завеі | 7 |
| Імчацца | 5 |
| Ісьці (пайсьці) | 19 |
| Калыхаць | 14 |
| Каліна | 14 |
| Камень | 9 |
| Каралі | 7 |
| Каціцца | 15 |
| Кветкі | 18 |
| Квецень | 5 |
| Клён | 6 |
| Колас | 7 |
| Косы | 7 |
| Край | 7 |
| Краса | 16 |
| Красаваць | 9 |
| Кропля | 5 |
| Крыніца | 32 (!) |
| Крыцца | 7 |
| Крышталь | 6 |
| Купацца | 9 |
| Куст | 5 |
| Курган | 11 |
| Кволы | 19 |
| Луг | 22 |
| Любіць | 11 |
| Любы | 6 |
| Лісьце, ліства, лісты | 25 |
| Лозы | 5 |
| Малады | 17 |
| Маленства | 6 |
| Мароз | 11 |
| Матка | 13 |
| Месяц | 12 |
| Мінор | 7 |
| Мора | 5 |
| Маўчаць | 12 |
| Несьці | 7 |
| Нізкі | 5 |





| | |
|---|---|
| Ніцы | 6 |
| Ноч | 7 |
| Нямы | 6 |
| Пазнаць | 9 |
| Плысьці | 18 |
| Плакаць | 42 (!) |
| Поўны | 8 |
| Постаць | 8 |
| Поле | 41 (!) |
| Помніць | 12 |
| Прадоньне | 5 |
| Прыгожы | 5 |
| Прастор | 10 |
| Просінь | 9 |
| Пунсовы | 9 |
| Пялёсткі | 5 |
| Пажоўклы | 9 |
| Пакахаць | 5 |
| Пацеркі | 12 |
| Пахіліць, ца | 13 |
| Песьня | 46 (!) |
| Пераліў | 8 |
| Піць | 5 |
| Плаваць | 6 |
| Плынь | 5 |
| Радасьць | 31 (!) |
| Разьвеяць | 7 |
| Разгул | 6 |
| Разьлісьціся | 7 |
| Рана (у разуменні пары часу) | 18 |
| Раса | 23 |
| Рассыпаць | 5 |
| Расьці | 6 |
| Росквіт | 5 |
| Рунь | 5 |
| Русы | 6 |
| Рэчка | 16 |
| Сад | 13 |
| Сачыцца | 5 |
| Сінь | 12 |
| Сіні | 18 |
| Сказаць | 12 |
| Слацца (услаць) | 11 |
| Сон | 15 |
| Сонца | 13 |
| Сыпаць, ца | 20 |
| Сэрца | 53 — жах!!! |
| Сяло | 11 |
| Сягоньня | 6 |
| Сядзець | 7 |
| Сьпяваць | 9 |
| Сьлёзы | 33 |
| Сьветлы | 11 |
| Сьпеў | 10 |
| Сьлед | 7 |
| Сьцежкі | 24 |
| Сьцень | 11 |
| Сьмяяцца | 10 |
| Сьвет | 6 |
| Сосны | 22 |
| Спакойны | 5 |
| Спаіваць | 8 |
| Спаць | 9 |
| Стынуць | 12 |
| Струны | 15 |
| Стаяць | 12 |
| Сум | 6 |
| Сустрэць | 11 |
| Тануць (патануць) | 23 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Табар | 8 | Цыган, цыганскі | 12 |
| Таполі | 5 | Цячы | 5 |
| Трава | 6 | Цьвет | 17 |
| Туман | 38 | цьвісьці | 23 |
| Увечар | 10 | Цалаваць | 5 |
| Увосень | 7 | Чары | 5 |
| Узор | 9 | Чарнявы | 5 |
| Узыйсці | 6 | Човен | 14 |
| Упасьці | 7 | Чорны | 5 |
| Успамін | 11 | Чуць | 7 |
| Усьміхнуцца | 20 | Шлях | 8 |
| Хвалі | 22 | Шумны | 6 |
| Хваляваць, ца | 6 | Шумець | 17 |
| Хіліцца | 13 | Шэрань | 8 |
| Цемень | 6 | Шэры | 7 |
| Цёмны | 10 | Яр | 12 |
| Ціхі | 13 | | |

Вось и ўсё. Кажуць, што кітайская грамата налічвае 500 знакаў. Кожны з гэтых знакаў заключае ў сабе пэўнае разуменьне, якое мяняецца ў залежнасьці ад таго месца, якое займае знак у сказе, ці ад розных сінкрэтычных знакаў.

У Труса прыблізна столькі-ж слоў, але яны значэньня свайго не мяняюць. У прыведзеным слоўніку мы можам вылучыць дзьве групы слоў. Да першай адносяцца такія, якія адыгрываюць ролю злучнікаў паасобных вобразаў альбо якіх нельга ўнікнуць ніякім чынам і частае ўжываньне якіх ня гэтак кідаецца ў вочы. Да такіх слоў можна аднесьці такія, як *сустрэць, сядзець, доўгі, поўны* і г. д. Гэта словы пераважна статыстычнага характару, якія маюць пэўны сэнс і ў другім сэнсе ўжыты быць ня могуць. Другая, больш буйная група — гэта словы больш ці менш эмоцыянальна насычаныя, як сьлёзы, раса, каралі і інш., якія могуць ствараць розныя тропы.

У творчасьці кожнага поэты галоўнае месца займае другая група слоў, якая надае звычай творам поэты ўласьцівую толькі яго творам фізыономію, стварае яго стыль. Гэта група ніколі не павінна застываць у аднэй форме: гэта найбольш дынамічная частка твору і яе разьвіцьцё шчыльна зьвязана і з разьвіцьцём тэматыкі, і з разьвіцьцём думкі поэты, і з яго рытмікай. З другога боку, у поэзіі гэтыя словы пераважна ўжываюцца, як вобразы: частае паўтарэньне такіх слоў нямінуча прыводзіць і да паўтарэньня вобразаў. Тады наступае занепад творчасьці. Тады творы робяцца нуднымі, аднастайнымі і ствараюць уражаньне, што поэта, раз натрапіўшы на адну ўдалую форму, рашыў:





— Умри, Денис, лучше не напишешь!

І пачаў па гатовым стэрэатыпе масавую загатоўку мастацкай продукцыі. Гэта адносіцца ня толькі да лексыкі, але і да ўсіх элементаў мастацкай творчасьці.

Менавіта да такога становішча дайшоў Паўлюк Трус у сваім апошнім зборніку. Тая сьвежасьць і непасрэднасьць, якая зацікавіла ў свой час у творчасьці Труса чытача, выклікала цэлы шэраг пахвал. І Паўлюк Трус «почил на лаврах». Вялізны зборнік зьяўляецца ў лексічных адносінах стэрэотыпным паўторам першага маленькага. Разьмеры прымусілі павялічыць лік паўтораў. Гэтыя паўторы якраз і адбіліся на другой групе слоўніка, на словах тропаздольных. У выніку паўтарэньне вобразаў чуць не літаральнае ва ўсіх вершах. Слова «сэрца» пападаецца ў зборніку 53 разы (на 120 старонках). На кожнай старонцы мільгаюць «сьлёзы», «туманы», «жыцьцё», «радасьць», «плакаць», «даліна», «каліна», «дно», «возера» і г. д. і кожны раз у застылых стэрэотыпных злучэньнях. Пытаньне аб зьмесьце, які ствараецца гэтымі словамі, у праграму нашага сёнешнега артыкулу не ўваходзіць і на ім мы спынімся ў другі раз, калі паставім задачаю разгляд зборніка.

Тут мы бяром лексыку Труса выключна дзеля таго, што яна з'яўляецца характэрнай для цэлай генэрацыі маладзейшых нашых поэтаў (а часамі і старэйшых). Возьмем дзеля прыкладу верш Янкі Бобрыка ў № 3 «Узвышша» і параўнаем яго лексыку з лексыкай Труса:

*Вазёры ў цемені драмалі*
І гай *задумаўся, замоўк,*
*Стаю адзін…*
І *думкі коцяцца*, бы хвалі,
Мяняюцца, як зорны шоўк,
*Стаю адзін.*
А там, у *далях*, там, дзе *хаты*,
Я чую *сьмех*, радзімы *сьпеў*…
І *гасьне сум і гасьне* гасьне,

Як на *сьвітаньні зорак* сеў.
І *гэты сьмех і сьпеў* дзяўчыны
Ў *душы* пралескаю *цьвіце*, —
Як на *вазёрах* тых на *сініх*
*Цьвіце зары* чырвоны *цьвет*.
*І я адзін*…

У гэтым адрыўку мы знаходзім толькі пяць слоў, якія не спатыкаюцца ў слоўніку Труса. Возьмем яшчэ адрывак з вершу Кляшторнага (у тым-жа нумары) і разгледзім яго ў гэткім-жа пляне:

*Вечар* гас…
*Драмалі* сьветацені,
Ў *туманох* дарогі замяло…
І нібыта *залатыя* елі
*Месяцу хіліліся чалом.*
*Усё цьвіло,*
*Жыло і гаманіла,*
Кожны *куст* аб *жыцьці* гаварыў…
Ты *прайшла*
*І голаў ня схіліла, —*
*Не схіліла гордай галавы*.

У Кляшторнага яшчэ горай, як у Бобрыка. У яго мы знаходзім толькі чатыры самастойныя словы.

Прыводзячы гэтыя прыклады, мы зусім не хочам сказаць, што Бобрык ці Кляшторны, ці яшчэ хто з маладзейшых поэтаў перапісваюць з Труса. У гэтай стэрэотыпнасьці лексыкі адбіваецца куды *больш сур'ёзнае з'яві*шча, якое можа прывесьці творчасьць пачынаючых поэтаў у сапраўдны і безнадзейны тупік. Гэта пагалоўная адсутнасьць у іх культуры працы. Ніводзін з іх не працуе над пашырэньнем сваёй лексыкі, і ўсе іх творы (мы гаворым бадай што пра ўсіх маладых пісьменнікаў) гучаць прыкрым унісонам. Гэта пагражаючае з'явішча і для ўсёй нашай мовы. Беларуская мова, багатая, мілагучная і гнутная, гатова пад уплывам гэтага перапаласківаньня адных і тых-жа слоў і вобразаў папасьці ў ціну беспадзейнай трафарэтнасьці і затхласьці. І нашай крытыцы і рэдакцыям трэба зьвярнуць на гэта належную ўвагу і паказваць маладым поэтам шлях у напрамку распрацоўкі мовы. Слоўнік жывой мовы павінен быць настольнаю кнігаю кожнага пісьменньніка.





Некалькі слоў аб словатворчасьці. Па прыкладу старэйшых поэтаў пачалі ствараць свае словы і маладзейшыя.

Але ніколі пры гэтым яны не прымалі пад увагу галоўнага — каб гэты наватвор пры яскравай надворнай форме меў унутраны зьмест. Калі, напрыклад, Дубоўкаў «цемрашал», які з'яўляецца літаральным перакладам слова «мракобесие», адпавядае галоўным умовам стварэньня новага слова, дык нельга сказаць гэтага пра русовы наватворы. Які сэнс у такіх словах, як «сонцавей», «зялёнацьвецень», «ветрасінь»? (Гучна! Зусім, як «Цэнтрасьпірт» ці «Москвошвей»).

Ці могуць яны прывіцца ў мове, калі яны прадстаўляюць злучэньне зусім нязлучных разуменьняў? Вось-жа болей усяго трэба высьцерагацца такіх бязглуздых наватвораў, якія могуць толькі прыгадзіцца, як латкі ў вершы — для рытму, для рыфмы і г. д. Ня мудруйце над словамі, таварышы поэты, бо словы перастануць служыць вам. Поэзія — гэта голас пачуцьця, слова — матэрыял поэзіі. А неахайныя адносіны да слова могуць прывесьці да таго, што ня будзе ў творы ні таго, ні другога. У таго самага Труса ёсьць яшчэ недарэчныя словы, як «вятрынь», «ветравіньне» і г. д., але яны, як відаць, уведзены па меркаваньнях композіцыйных.

Шляхі да разьвіцьця літаратурнай мовы намечаны, і гэта значна аблягчае працу. Асабліва востра і рашуча ставіў пытаньне Дубоўка ў № 2 «Узвышша». Да яго думак з якімі мы цалкам згаджаемся, мы хацелі б дадаць яшчэ адну галіну, якая, на наш погляд, можа значна ўзбагаціць нашу літаратурную мову, у прыватнасьці, мову поэзіі. Мы маем на ўвазе выкарыстаньне адкінутых поэтычнымі канонамі «прозаізмаў». У Расіі вялікую працу ў гэтым кірунку прарабілі В. Маякоўскі і В. Інбэр. Найбольш характарнымі ў гэтым кірунку зьяўляюцца вершы В. Інбэр «События в Красном море», «Сеттер Джек», «Собачий экзамен» і мн. другія. У гэтых вершах безнадзейнейшыя прозаізмы раптоўна атрымліваюць багацейшую поэтычную афарбоўку. Праўда, выкарыстаньне прозаізмаў тут зьвязаны з агульнай пабудовай твораў, але ў нас зусім ня было спроб у гэтым кірунку, а папрабаваць варта было-б.

Лексыка — адзін з найважнейшых элементаў мастацкага твору і на яе трэба зьвяртаць вялікую ўвагу. Асабліва актуальным робіцца пытаньне аб лексіцы ў беларускай мове ў нашы дні, калі перад ёю адкрыліся шырачэзныя перспектывы і паўсталі вялікія задачы.

*24–9-1927*

## «ЛЕДЗЯНАЯ ГІТАРА»

За апошнія часы і ў нашых пэрыодычных выданьнях і ў выдавецтвах нарастае значная опозыцыя ў адносінах да вершаў. Часопісі абмяжоўваюць месца, адведзенае для вершаў, а цісну́ць зборік вершаў, асабліва маладому поэту — амаль што немагчымая справа. Наогул, на верш устанаўляецца погляд, з якім моўчкі згаджаюцца ўсе: гэта лёгкі твор, дрындушка, асаблівага значэньня ня мае і ня можа мець. У памылковасьці гэтага погляду ня цяжка пераканацца, успомніўшы хаця-б, што многія выдатныя сілы мастацкай літаратуры выраслі выключна на вершах. Так, народны поэта Беларусі Янка Купала нам менеш вядомы па сваіх драматычных творах, чымся па вершах. Тое самае можна сказаць пра многіх расійскіх поэтаў, як Маякоўскі, Есенін і шмат іншых.

Выдавецтвы, абмяжоўваючы лік вершаў у сваіх плянах, маюць рацыю: вершы ня ідуць на рынку. Дзеля прыкладу возьмем практыку маладнякоўскай кніжніцы. Выпушчаныя да сярэдзіны 1926 г. зборнікі прозы зусім разышліся і ў продажы іх больш няма. Наадварот, з вершаў разышліся поўнасьцю толькі 5–6 кніжачак. Напрыклад, зборнік Хадыкі «Суніцы», выпушчаны ў 1500 экз., разышоўся толькі ў ліку 200 экз (гэта за два гады). На базе выдавецтва вялізнаю гарою ляжаць кніжкі Бобрыка, Звонака і Туміловіча, дзяўчат-маладняковак, нават Пушчы і Дубоўкі («Vita» і «Credo»). І шмат іншых зборнікаў вершаў асуджаны на горкую долю корму для мышэй. Чым гэта тлумачыцца? Адсутнасьцю попыту на вершы? Тады чаму поўнасьцю распрададзены ўсе другія зборнікі Дубоўкі, зборнік Труса, зборнікі Дудара? Чаму нідзе, ні за якія грошы нельга знайсьці Чаротавай «Завірухі», чаму «Босыя на вогнішчы» вытрымалі некалькі выданьняў? Знача, попыт ёсць, і затрыманьне ў рэалізацыі кніжак мае нейкія прычыны, якія заключаюцца ў іх саміх.

Часткова мы высьветлілі гэтыя прычыны ў нашым папярэднім артыкуле. У сёнешнім артыкуле мы будзем мець на ўвазе другую групу элементаў мастацкай творчасьці нашай літаратурнай моладзі — гэта моманты стылістычнай композыцыі і эўфоніі іх твораў. На першы погляд здаецца, што такое шырокае пытаньне нельга ахапіць у адным абеглым нарысе, што гэта пытаньне патрабуе больш шырокага і грунтоўнага асьвятленьня. Але ў гэтым-жа і трагедыя наша, што ўсе працы пісьменьнікаў у гэтым кірунку зьвяліся да такога ўпрашчэнства, якое дазваляе падвесьці творчасьць многіх пісьменьнікаў пад адну мерку. Вось — не анэкдот, а факт: калі выходзіў зборнік «Слуцкія песьняры», дык у друкарні пераблыталі вершы паасобных аўтараў; вершы адных ішлі пад імёнамі другіх. А хто заўважыў гэта і хто мог заўважыць, калі ўсе гэтыя вершы былі шыты на адзін капыл, напісаны аднолькавымі словамі і заключалі ў сабе аднолькавыя думкі?





Расійская група імажыністаў разглядала вобраз як мэту, і з гэтага выходзілі сябры групы пры будаваньні сваіх твораў. Але пры гэтым яны ўсё-ж такі трымаліся нейкіх правіл; кожны вобраз у іх павінен быў быць апраўданым агульнай композыцыяй і другімі вобразамі. Нашы маладыя поэты пашлі далей. У іх часамі вобраз ня толькі нічым не апраўданы, але зусім ня мае ніякага сэнсу і будуецца ці толькі по фонэтычнаму прынцыпу, ці па прынцыпу «Піліпа з канапель». Возьмем некалькі мясьцін з вершаў Кляшторнага:

Не падняць нам з смяротнай пасьцелі
У *сінярунь адгітарыўшых* дзён.

Здорава? Але зразумець нельга. Альбо яшчэ:

— Кастрычніка *турбіны*
*Здуваюць* стынь з асьнежаных *палёў*…

Ці можа зразумець чытач, што разумее аўтар у вобразе «Ледзяная гітара», створаным гэтым самым Кляшторным? Гэта гвалт над сэнсам, гвалт, зроблены для гучнасьці (а па праўдзе і гучнасьці тут няма). У нас ня вельмі лічацца з сэнсам і праўдзівасьцю. Туман можна зрабіць «буланым», можна раўняць яго з «залатою пражай» — як толькі не зьдзекваліся ў нас над гэтым няшчасным туманам. Ня лічацца з сэнсам і пры пабудове сказаў:

І быццам сеюць, — Зоры сеюць
На гонях шоўкавых нябёс.

Застаецца нявысьветленым, хто каго сее? Калі зоры выступаюць у ролі сейбіта, дык што яны сеюць? А калі зоры тут ў вінавальным склоне, дык дзе сейбіт? Гэта даволі характэрны прыклад.

Каляровая сьлепата, якая даводзіць да здзеку няшчасны туман, ёсьць і ў Труса:

…У *залаты вянок*
*Завіваюць* сум
Росы *сінія*…

У гэтага таксама і «ўздох зрываецца з душы». Вось зразумейце, хто можа, такую страфу:

Мо' каб сэрца — радасьць,
Сэрца ў журавінах
Акрапіла раны
У лісты ў нізінах?

Альбо яшчэ:

І доўга, доўга ў сэрцы чулым,
Пад чорнай сьвіткаю, на дне
Прыгожы вобраз Марыулы
Сьмяяўся ціха, як у сьне.

Ня сэрца, а начлежка!

Наогул, шмат чаго можна знайсьці ў трусавым сэрцы і ў душы яго, асабліва на дне:

Вясна ў цьвяту!
Цьвітуць парэчкі,
Цьвіце язьмін на дне душы!..

А вось яшчэ пэрлы:

Па-над сьцежкай зоры
(Зоры над крыніцай),
І ў вачох дакоры,
А ў душы суніцы!..
А ў душы мажоры…
І цьвітуць брусніцы
І сьмяюцца зоры,
Зоры над крыніцай.

Сапраўдная каша — і ўсё ў душы.

А вось у Язэпа Пушчы:

Звонка-імпэтныя хвалі
У далі крышталі люлялі.

Альбо

Кусаюць уцехі ўсе чэрствую лусту…

Ці варта прыводзіць яшчэ прыклады, калі бадай што ўсе творы маладзейшых нашых поэтаў перапоўнены гэтым гвалтам над сэнсам,





над развагаю. Поэзія выклікае эмоцыі ў чытача, а што выклікаюць гэткія слоўныя наборы? Агіду толькі выклікаюць ды боль за будучыню беларускай поэзіі. І бесталковае сьцісканьне вобразаў у Кляшторнага, і застыўшая ў сваёй нерухомасьці творчасьць Труса — усё гэта пагражаючыя сымптомы, якія павінны выклікаць думку аб будучыні. Трэба сур'ёзна працаваць над творчасьцю таму, што гэта не асабістая справа таго ці іншага поэты, а справа грамадзкая.

Мы спынімся яшчэ на некаторых момантах стылістыкі нашай літаратурнай моладзі. Калі прасачыць генэзіс «Ледзяной гітары» Кляшторнага ў сувязі з цэлым шэрагам другіх яго вобразаў, дык аказваецца, што гэты вобраз мае свой адпраўны пункт не ў рэальным жыцьці і не ў уяўленьні поэты. Усе гэтыя вобразы прышлі да нас здалёку, з маскоўскіх «пэгасавых стойлаў», з тае плыні, якая выклікала вялікую трывогу расійскай грамадзкай думкі. Гэта есенііншчына, якая праз свае звонкія формы ўлівае ў творчасьць маладзейшых поэтаў атруту заняпаду і разлажэньня. Есенінская форма — вельмі ўдасканаленая, у Есеніна можна шмат чаму павучыцца з гэтага боку. Але, замест таго, каб усвайваць, скажам, элементы есенінскай композыцыі, вывучаць тэхніку есенінскага вершу, нашы маладзічкі пачалі мэханічна пераносіць у сваю творчасьць элементы есенінскай формы, найбольш зьвязаныя з найхваравіцейшымі момантамі творчасьці Есеніна. Трус проста перакладае Есеніна:

Не засьпі, — Пабудзі мяне рана
О!.. мая дарагая матуля
Дзе дарогі
бягуць за курганам,
пойдзем зельле
зьбіраць мы на Яна…

Пушча ўсвойвае пахабнейшыя адносіны Есеніна да жанчыны. Тут знайшла сабе водгук есеніншчына рэальная, якая вылівалася ў формы Чубараўскага завулку, растоўскай справы і г. д. А хіба задарма Кляшторны так шырока культывуе ў сваіх вершах «чарку», «кілішак», «выпіты». Можа падсьвядома ўводзіць ён гэтыя вобразы, арганічна зьвязаныя з есеніншчынай.

Адсюль і гітара, і клён, і асіны, і уся тая сьлезатачывая твань, якою пранізаны творы і Кляшторнага, і Пушчы, і многіх другіх. Вось тыповая вытрыманая ў есенінскім духу композыцыя.

— Што з табою, любы? Што з табой, смуглявы?
Сьлёзы, як каралі, роніш на асфальт…
На панэлі пыльнай я такі-ж гулявы,
Спазнаваў вось так-жа і жыцьцё і фальш…

(Звонак).

Зьвяртае на сябе ўвагу страшэнная ўбогасьць рыфмаў бадай што ўва ўсіх маладых поэтаў. У пераважнай большасьці рыфмы распадаюцца на дзьве катэгорыі: 1) рыфмы стэрэотыпныя, ужываныя шмат разоў у розных поэтаў, і 2) рыфмы новатворныя, з якіх пад разуменьне рыфмы ці асонансу можа падыйсьці нязначная частка. Каб ня быць галаслоўнымі, прывядзём прыклады першай катэгорыі.

У Фаміна:

Касы — сінь
Боль-больш

У Пушчы:

Сны — вясны
Струны — руні
Косы — росы
Беларусі — абрусы
Далін — калін
Краса — раса
Ідзе — дзень
Асіны — сіні

У Кляшторнага:

Сіні — асіны
Абрус — Беларусь
Зоры — вазёры
Прасторы — зоры

У Труса:

Гусі — Беларусі
Край — гай
Далін — калін
Крыніца — зарніца

Возьмем рыфмы другой катэгорыі:

У Кляшторнага:

Цьвяты — сярпы
Поэм — тлень





Салаўя — жаль
Журчыць — крыж

У Маракова

У жыцьці — насіў
У грудзёх — трысьцё

Узятыя выпадковыя прыклады зьяўляюцца характарнымі для ўсіх. І гэта ў нас, дзе гэтак багата разьвінулася народная творчасьць з яе багатай рыфмоўкай!

Ня лепей справа стаіць з эпітэтамі. «Вечар» абавязкова павінен быць «сінім», «дзень» — «залатым», «вецер» — «буйным»; такіх традыцыйных эпітэтаў вельмі многа і яны гуляюць ад аднаго поэты да другога. Яны даўно ўжо згубілі сваю сьвежасьць і непасрэднасьць, так сказаць сьцёрліся. З другога боку, па меркаваньнях гукавога парадку альбо «для вобразнасьці» «туман» робіцца чамусьці «буланым», «гітара» — «ледзяною»; у Труса «туман» стаў «залатым», «раса» — «сіняя» і г. д.

У заключэньне некалькі слоў аб строфічнай пабудове вершаў. Дагэтуль у нас пануе чатырохрадковая страфа з крыжаванай рыфмай. Выключэньнем зьяўляецца Пушча, у якога ёсць шмат двувершаў, тэрцын і пяціradковых строф. Трус выказаў вялікую сымпатыю да канонізаваных форм, як сонэт і трыолет. Гучаць яны ў яго творчасьці неякім дысонансам, бо органічна не зьвязаны з прыродаю яго творчасьці і зусім не выклікаюцца патрэбаю. Тут-жа справа ня ў тым толькі, каб у пэўным парадку разьмясьціць радкі і, дзе трэба, даць паўторы. Калі пісаў сонэты ды трыолеты Багдановіч, дык гэтыя формы апраўдваліся і яго думкаю і агульным характарам яго творчасьці. Канонізаваныя формы вымагаюць для сябе адпаведнага матэрыялу; калі матэрыял не адпавядае форме, дык гэта ўсё роўна, што зьляпіць статую Вэнэры Мілоскай з тварагу — якая-б ні была дакладная копія, — гэта ўсё такі было-б ня тое, што мармуровая статуя. Так і з поэтычнымі канонізаванымі формамі, якімі многія ў апошні час пачалі захапляцца. Хваравітым зьявішчам трэба лічыць і разьбіўку радкоў. У большасьці выпадкаў гэтая разьбіўка зусім не вымагаецца ўмовамі рытму і робіцца альбо з гонарарных меркаваньняў, альбо як пераймaньне з некаторых расійскіх поэтаў (у расійскай літаратуры разьбіўка пашла з лёгкай рукі Маякоўскага). Бываюць выпадкі, калі разьбіўка патрэбна, калі яе вымагае рытм ці сынтаксычная пабудова, ці патрэба ўнікнуць

гукавых недарэчнасьцяй. Але ж нельга рабіць гэта ўсюды, дзе трэба і дзе ня трэба.

Мы лічым, што моманты, узьнятыя ў артыкуле, зьяўляюцца найгалоўнейшымі фактарамі ў крызысе збыту кніжкі. З гэтымі момантамі шчыльна зьвязана пытаньне аб тэматыцы, аб чым у наступны раз.

*5–10–1927 г.*

## АБ ЧЫМ ПІШУЦЬ

У апошні час усё часьцей і часьцей даводзіцца чуць ад чытачоў незадавальненьне сучаснымі творамі беларускай поэзіі. Кажуць, што там толькі звоны ды васількі, кветкі ды ручайкі — болей нічога няма. Бязумоўна, гэткі настрой у большай ці меншай меры адбіваецца і на кніжным рынку.

А пытаньне з тэматыкай у нас з кожным днём робіцца ўсё вастрэйшым. Мы ўжо ў адным з папярэдніх артыкулаў прыводзілі выпадак з «слуцкімі песьнярамі», дзе перАблыталіся і вершы і поэты, але ніхто гэтай блытаніны не заўважыў. Зусім зразумелая рэч: ніводзін з гэтых поэтаў ня меў свайго ўласнага твару, сваіх характэрных рысак. Усе вершы былі, што называецца, шыты на адзін капыл. Тэматыка бадай што ўсіх нашых маладых поэтаў за апошнія часы надзіва аднастайная. Нават, уласьбціва кажучы, мала дзе можна ўлавіць акрэсьленыя тэмы. Пераважная частка мастацкай продукцыі нашай літаратурнай моладзі — гэта беспрадметная лірыка. Лірыка наогул — гэта неблагая рэч, але ўсё добра ў меру. Калі-ж кожная новая кніжка вершаў, якая выходзіць зў друку, да адказу перапоўнена гэтаю самаю лірыкаю, дык проста жудасна робіцца. Вершы можна чытаць з пачатку да канца і з канца да пачатку — ад гэтага вершы не мяняюцца!..

Лірыка такіх поэтаў, як Пушкін, як Лермантаў і многіх другіх, чуць не на сотню год пережыла сваіх аўтараў ня толькі таму, што была багата ўдасканаленаю рытмікаю, прыгожымі алітэрацыямі, яскравымі вобразамі, але і таму яшчэ, што мела вельмі багатую і match рознастайную тэматыку.

А ў нас дзесяткі два поэтаў, працуючы па паўтара-два гады, ня могуць распрацаваць нават прыродаапісальнай лірыкі. Карыстаюцца гатовымі трафарэтамі і зусім не дбаюць аб пашырэньні гэтай групы тэм, якая была-б асабліва ўдзячнай у нас. Нехта некалі сказаў, што беларуская прырода шэрая і аднастайная, што нічога цікавага ў нас знайсці нельга. Гэта «мудрая» думка ўвайшла ў традыцыю, і ў выніку поэта з палявой Аршаншчыны і поэта непраходных мазырскіх пушчаў зусім аднолькава малююць у сваіх вершах прыроду Беларусі. А між тым, нават чалавек з ня вельмі разьвітым чуцьцём можа ўлавіць самыя рознастайныя колёрыты розных мясцовасьцей Беларусі. Гай, пушча, рэчка, поле, возера, зоры — далей гэтага ні ў аднаго поэты не хапіла адвагі пайсьці. Поруч з гэтым трэба адзначыць і пераважу зрокавых вобразаў над слыхавымі. Ці гэта тлумачыцца тугім вухам, няздольным успрымаць музычныя шумы, ці яшчэ якімі прычынамі — сказаць цяжка. Апрача невялікай колькасьці прыродаапісальных тэм, трэба яшчэ падкрэсьліць і іх стэрэотыпнасьць. Лес, напрыклад, ва ўсіх аднастайны: ён, звычайна, зялёны, цёмны ці сіні, шуміць ці гудзіць па жаданьню аўтараў на любую тэму — пра партызаншчыну, пра моладасьць, пра таемнасьць жыцьця; але ўсюды гэты лес аказваецца аднастайным — ці ён полацкага паходжаньня, ці мазырскага. Тое самае і з балотам. Усе адзнакі тэй ці іншый тэмы як-бы канонізаваны, і ніхто ня можа асьмеліцуа што-небудзь сваё дадаць да гэтых адзнакаў. Яшчэ горай справа стаіць з мотывамі каханьня. Маладыя поэты як-бы закахаліся адразу ўсе у дзьвух дзяўчат — адна з чолрнымі косамі, другая з залатымі (блёндынка). Дзеля таго, што мотывы каханьня ёсьць ва ўсіх, можна было-б нават цэлую клясыфікацыю вершаваных твораў зрабіць… па колеру валасоў іх об'ектаў!.. У нас вышлі дзьве ўніверсальныя, ідэальнейшыя дзяўчыны, гледзячы на якіх, пускаюць сьлюні тры дзясяткі маладых поэтаў, але ніводная з іх не зьяўляецца жывым чалавекам, бо ніводзін з гэтых поэтаў не адважыўся перашагнуць устаноўленыя і абмежаваныя традыцыяй кодэксы тропаў і фігур для гэтай групы тэм.

У першыя гады нашай пасьлякастрычнікавай поэзіі, калі пачала выяўляцца новая генэрацыя поэтаў, пераважнай і бадай што выключнай тэмай вершаў зьяўлялася заклікаьне да барацьбы, да замацаваньня захопленых позыцый; вершы насілі характар панэгірыкаў рэволюцыі. Калі барацьба пераходзіла на ідэолёгічны фронт, на фронт барацьбы за моральнае вызваленьне — шырока разгарнуліся антырэлігійныя тэмы. Пераход на мірныя рэйкі значна ўскладніў жыцьцё і выклікаў да жыцьця шмат новых тэм, якія і павінны былі даць адбіцьцё мірнага жыцьця.

І адразу ўсе ранейшыя тэмы папалі ў апалу, атрымалі назву «агіткі». Пры гэтым не рабілася ніякіх агаворак, ніякіх выключэньняў. Заместа

таго, каб даць гэтым тэмам больш удасканаленую мастацкую форму, іх проста кінулі. Пісаць верш на тэму аб рэволюцыі, аб рэлігіі стала чуць не дрэнным тонам! У выглядзе выключэньня ў вершах засталіся вінаватыя агаворкі пра «сягоньня» і «заўтра».

Поэты! Будучнасьць вітайце маршамі,
Я дзень сягонешні аддам за заўтрашні…

Вось як пішуць у нас. А што гэта за заўтрашні дзень — гэтага ніхто сабе не ўяўляе.

«Заўтра» — будзе соцыялізм, знача ўсё будзе добра.

Толькі час-ад-часу ў гэту тэму ўносіцца адна дэталь «заўтрашняга» дня — гэта моманты індустрыялізацыі. Але ці-ж гэтым адным вычэрпваецца гэты «заўтрашні дзень»; часта надыход «заўтрашняга» дня атрымлівае есенінскую афарбоўку. Як Есенін пісаў некалі —

вот сдавили за шею деревни
каменные пальцы шоссе, —

так і ў нас пішуць:

… Дарогай ў далечы пайду я,
Пайду часамі без дарог,
І кожны кусьцік пацалую
На ўміраючых палёх…
Калі над цінаю імшараў
Засьвішча волат гарадоў,
Я разаб'ю пустую чарку
На полі выпітых гадоў.

Па сутнасьці, тое самае, што і ў Есеніна, толькі больш слоў і менш мастацкасьці. А гэтыя паходы «ў далечы» парадкам такі запаланілі творы нашых маладых поэтаў. Праўда, хада іх болей напамінае «Вампуку»: крычаць «іду, іду», а самі стаяць на месцы.

Можна было-б яшчэ спыніцца на тэмах, навеяных Есеніным; што гэтыя тэмы ў нас ёсьць і ў значным нават ліку, аб гэтым ня можа быць і спрэчак. Але гэта група тэм, апрача свайго формальнага значэньня, зьвязана з фармаваньнем элементаў ідэлёгіі ў нашай маладой поэзіі. Таму гаварыць аб іх мы будзем у другі раз. Цяпер-жа спынімся яшчэ на аднэй групе тэм — гэта горад.

Некаторыя нашы літаратурныя публіцыстыя, кшталтам Кудзера і Бабарэкі, лічылі гарадскія мотывы чуць не асноўнаю адзнакаю пролетарскай літаратуры. Гэтыя мотывы зьяўляюцца новымі ў нас, і першы пачаў іх распрацоўваць А. Александровіч. Па сутнасьці ён адзін і да гэтага часу застаўся поэтам гораду не па імені толькі. Ён выхапіў з жыцьця беларускага гораду шмат паасобных колёрытных сцэнак і фігур.





Сьледам за Александровічам памкнуліся ісьці некаторыя маладзейшыя поэты. Але яны папалі ў тую самую хваробу, як і ў прыродаапісальнай лірыцы.

Гэта — стэрэотыпнасьць, трафарэтнасьць форм і вобразаў. Вось прыклад. У зборніку полацкай філіі «Росквіт» на ст. 3 зьмешчаны верш «Горад». Прыводзім адрывак.

Горад, горад!.. каменныя вуліцы
І адвечна раскацісты гул.
Да грудзей тваіх хто не прытуліцца,
На асфальт не паставіць нагу.
А заводы, гудкі і машыны
Я спазнаў, як калісь васількі…
І цяпер дах, увосланы дымам,
Прыгажэй за пунсовы блакіт (?) *і г. д.*

Верш напісаны ў Полацку і, відавочна, мае на ўвазе Полацак-жа. Мы-б не сказалі, што ў Полацку такі ўжо «адвечны раскацісты гул», «заводы, гудкі і машыны», «дах увосланы дымам». Ня зусім давяраем мы і полацкім «каменным вуліцам», ці «асфальту», бо ў Полацку пасьля добрага дажджу не па кожнай вуліцы можна хадзіць без рызыкі патануць у якой-небудзь лужыне велічынёй з добрае возера. Бухарын у «Злых заметках» падкрэсьліваў штучнасьць усіх урбаністычных мотываў таму, што «у нас в Москве ещё поют петухи». Дык што-ж тады казаць ужо ня толькі пра Полацак, але нават і пра Менск, дзе да гэтага часу не памерла яшчэ конка і ў самым цэнтры Савецкай вуліцы красуюцца аднапавярховыя драўляныя халупкі. Гэта ня значыць, безумоўна, што ў нас няма гарадоў. Але гэтыя гарады маюць спэцыфічную афарбоўку, маюць свой характар. Гэты характар не такі ўжо бедны, не такі аднастайны. Трэба толькі ўмець паглядзець, каб убачыць у беларускім горадзе самыя яскравыя, колёрытныя зьявы, якія паказваюць на тое, што беларускі горад расьце. Адкінуць трафарэтнасьць, парваць з традыцыямі — і тады можна ўбачыць сапраўдны жывы горад. І тады сапраўды пачне спадаць з нашай маладой

поэзіі маска провінцыяльнасьці і гімназістаўскіх рысак, нацягнутых на яе чужымі традыцыямі.

Аднэй з заняпалых тэматычных груп у нас зьяўляюцца тэмы гістарычныя. Беларусь мела сваю гісторыю — гэта адзін з асноўных довадаў права беларускага народу на самабытнае існаваньне. У нас часта гавораць: «навошта закапвацца ў старасьвеччыну, калі сягонешні дзень мае столькі рознастайных зьявішчаў» — гэта, безумоўна, правільна, але браць тэмы з гісторыі, не спэцыялізуючыся на іх, — гэта ня значыць закопвацца ў старасвеччыну. Такія колёрытныя моманты з жыцьці Беларусі, як казацкія паўстаньні, як паўстаньні сялян напярэдадні скасаваньня прыгону, як самы прыгон, — усё гэта адбілася ў народнай творчасьці, а ў мастацкую штучную творчасьць не папала за нязначнымі выключэньнямі. У нас ёсць шмат твораў, прысвечаных Каліноўскаму. А была ў нашай гісторыі такая колёрытная фігура, як Сымон Канарскі, пакараны сьмерцю ў 1838 годзе ў Вільні.

Сымон Канарскі быў эмісарам «чырвонай групы» эмігрантаў і карыстаўся надзвычайна шырокаю папулярнасьцю сярод насельніцтва. Ёсьць весткі, што, калі цела расстрэлянага было закапана, дык натоўп раскапаў магілу і, зьняўшы з рук і ног яго жалезныя кайданы, паразьдзіраў іх на кавалкі. З гэтых кавалкаў пасьля рабілі пярсцёнкі на ўспамін пра барацьбіта.

Ды ці мала можна было б знайсці цікавых тэм з беларускае гісторыі. Беларуская народная казка, беларускія звычаі — яны да гэтага часу чакаюць паэтычнай апрацоўкі.

У непасрэднай сувязі з гэтым стаіць пытаньне аб сюжэтнасьці вершаў. Наогул, верш, маючы тую ці іншую фабулу, хутчэй можа выклікаць у чытача конкрэтныя ўяўленьні, а тым самым узмацніць сілу ўплыву на сьвядомасьць чытача. З другога боку, сюжэтны верш больш прыбліжаецца да прозы, якая, бясспрэчна, мае шырэйшы круг чытачоў, як вершаваная поэзія, і мае большую ўдзельную вагу ў мастацкай літаратуры. Нашы старэйшыя пісьменьнікі, як Купала і Колас, даволі шырока культывавалі сюжэтныя вершы, апавяданьні вершам, надзвычайна лірычныя і прыгожыя. Была выпушчана некалі кніжачка «Апавяданьні і легенды вершам». У нас сюжэтнымі зьяўляюцца толькі поэмы і то не заўсёды. А на апрацоўку маленькіх вершаў гэтага тыпу ў нас не зьвяртаюць увагі. Такі верш, бязумоўна, цяжэй напісаць, бо тут павінна быць старанна апрацавана кожная дэталь, павінны быць выключаны ўсе лішнія словы і вобразы, павінен быць на сто процантаў выкананы конструктывістычны прынцып «грузафікацыі» — максімальнай эксплёатацыі тэмы. Унясеньне ў верш фабулы адразу выдзяляе верш з шэрагу іншых. Такога вершу з канца да пачатку не прачытаеш. Апрача гэтага, падбор сюжэтаў, прыёмы іх распрацоўкі — усё гэта разьвівае элементы стылістыкі і надае спецыфічны характар творчасьці таго ці іншага поэты, характар, уласьцівы толькі яму аднаму. Тады, безумоўна, стануць немагчымымі такія выпадкі, як з «слуцкімі песьнярамі». Калі чытаеш творы расійскіх конструктывістых, як В. Інбэр, Сэльвінскі ды інш., дык знаходзіш там сапраўды орыгінальную распрацоўку сюжэтаў, сьвежасьць стылю, адсутнасьць усякай стэрэотыпнасьці. А нам і наша сучаснасьць, і наша гісторыя, і наша прырода, і народная творчасьць даюць гатовы і добры матэрыял у форме самых рознастайных сюжэтаў. Мы іх не выкарыстоўваем, а без перапынку топчамся на выбітым шляху беспрадметнай лірыкі, не стараючыся ўнесьці нічога новага, нічога сьвежага ў гэту аднастайную гармонію традыцыйных слоў, вабразоў і тэм.

Трэба, каб ня толькі буйныя жанры, як поэма, раман, аповесьць, выклікалі зацікаўленасьць чытача.

Трэба і малыя творы будаваць так, каб яны ня былі сколкамі з гатовых узораў, як не падобны да папярэдняга кожны момант у жыцьці нашай эпохі.

*18–10–1927*





## ДАВОЛІ АНЕКДОТАЎ
(пра тэатр)

Распачаўся васеньні сезон і зноў зацьвілі агнямі рампы нашых тэатраў. Ізноў у тэатральных залях, паўнюткіх публікі, разгараюцца ў кожным антракце заўзятыя спрэчкі паміж сталых і нясталых знаўцаў і аматараў тэатру, вынікаюць і разьбіваюцца надзеі і ўражаньні, ацэньваюцца і аналізуюцца пастаўленыя праблемы і г. д. Адным словам тэатральнае жыцьцё зноў закіпела.

У гэтым годзе ў Менску працуе ўжо БДАТ-1. Леташняя крыніца спрэчак і дыскусій — БДАТ-2 — увесь гэты сезон будзе працаваць у Гомелі.

Падрыхтоўка да адчыненьня сезону ў БДАТ-1 праходзіла з нейкаю нават урачыстасьцю. Тэрміны адкладываліся, тэатр мяняў свой

звыклы твар, у самы дзень адчыненьня зьявіўся поўны надзей артыкул «Стары знаёмы», ў якім былі пэўныя намёкі на незвычайную каштоўнасьць тэй п'есы, якою адчыняецца сезон — новай п'есы Міровіча «Запяюць верацёны». Аднак вышла, як у народнай прыказцы — «з вялікай хмары» і г. д. Сапраўды, Міровіч працуе ў беларускім тэатры 6 гадоў і на гэты час даў яму 6 п'ес. Прадукцыя немалая. Але-ж з вялікім жалем мы мусім згадзіцца з тым, што колькасць прадукцыі ў дадзеным выпадку ня зусім перайшла ў якасьць. І апошняя п'еса Міровіча «Запяюць верацёны» як па свайму ідэйнаму зьместу, так і па фармальнай апрацоўцы далёка не адпавядае сучасным вымаганьням беларускага тэатру. Мы ня будзем спыняцца падрабязна на разглядзе гэтай п'есы, паколькі ўжо выказалі свой погляд на яе; з нашаю ацэнкаю на гэты раз сышліся у асноўным і другія рэцэнзіі, зьмешчаныя на дзень-два пазьней ў іншых газетах. Трэба толькі ў кароткіх рысах адзначыць, што п'еса, ня ставячы глыбокіх і вострых праблем, але імкнуўшыся ахапіць як можна больш самых падзённых пытаньняў нашага жыцьця, не абівае цалкам ніводнага; у п'есе дапушчаны грубы шарж на саецкую грамадскасьць, непатрэбная ўтрыроўка многіх персанажаў і зусім не паказаны асноўныя рычагі нашага будаўніцтва. Адпаведна гэтаму і кампазыцыя п'есы, пабудаваная на водэвільных механічна-збудаваных сітуацыях і на танных сцэнічных эфектах, таксама паказвае скарасьпеласьць п'есы, яе неапрацаванасьць і няпрыгоднасьць у сучасным яе выглядзе для нашага тэатру.

Вось-жа пастаноўка гэтай п'есы, якая як-бы адбівае сабой зьмест усяго сезону, прымушае нас яшчэ раз паставіць даўно набалеўшае пытаньне: куды ідзе наш тэатр.

Справа культурнага будаўніцтва ў пераходны перыяд, якім зьяўляецца наш, справа будаваньня нацыянальнага тэатру на Беларусі, цалкам адпавядаючага прынцыпам нашага ладу і будаўніцтва — гэтыя задачы маюць у саміх сабе шэраг такіх момантаў, якія вельмі цяжка перамагчы. Калі ўзяць, скажам, справу сцэнічнага афармленьня таго ці інш. драматычнага твору, дык мы ў першую чаргу наткнёмся на спрэчку канструкцыйнага і рэалістычнага напрамкаў. Калі ўдасца вырашыць гэту праблему, дык перад намі паўстае пытаньне аб масавасьці. І так без канца. Наш тэатр яшчэ дужа малады — гэта таксама служыць крыніцаю новых перашкод ў яго разьвіцьці. Адсутнасьць традыцыі, адсутнасьць значных кадраў і кваліфікаваных





сіл, інертнасьць старых працаўнікоў, недахват сродкаў, адсутнасьць рэпертуару… І пры ўсім гэтым рост актыўнасьці гледача, рост зацікаўленасьці да беларускага тэатру, рост культурных запатрабаваньняў…

Першым і самым грозным недахватам у нас зьяўляецца рэпертуарны голад. Няма п'ес, якія можна было-б прыняць да пастаноўкі ў нашы акадэмічныя тэатры. Няма п'ес!.. А калі мы паглядзім на тыя п'есы, што аказаліся годнымі, што мы ўбачым? Мы ўбачым пераклады п'ес, якія адыйшлі ў Маскве, ці ў Ленінградзе, пасьпелі там надакучыць, ці ўстарэць. «Калі сьпяваюць пеўні», «Луна зьлева», «Мяцеж», «Разлом», «Бронецягнік», «Савецкі чорт» — цэлая паводка, на верхні якой, як убогія чаўны, хістаюцца паасобныя заслугоўваючыя ўвагі (наколькі могуць заслугоўваць увагі ўсялякія недаедкі). «Бронецягнік» і «Разлом» добрыя п'есы, яны стварылі эпоху ў расейскім тэатры. Але няўжо наш тэатр даў падпіску разьвівацца менавіта па тых этапах, якія дае нам расейскі тэатр. Чаму гэта беларускаму гледачу важней паднесьці барацьбу сібірскіх партызанаў, чым вывесьці на сцэну сваіх барацьбітоў? Бязумоўна, разьвіцьцё нашага тэатра заключаецца зусім ня ў тым, каб абавязкова на сцэне скакалі толькі «Лявоніху», сьпявалі «А ў полі вярба». Гэта запраўды быў-бы найгоршы выгляд саматужніцтва і бязглуздага закасьцянелага этнаграфізму. Але-ж, як кажуць расейцы, «ударь раз, ударь два, но нельзя же до бесчувствия». А ў нас запазычанымі трафарэтамі «ударяют» больш, чым да «бесчувствия»… Мы зусім не хочам сказаць гэтым, што п'есы гэтыя чужыя нам па свайму ідыёваму зьместу. Яны адбіваюць этапы тае самае рэвалюцыі, якая першы раз узьвяла на карту зямлі нашу рэспубліку, дала магчымасьць будаваць беларускую культуру так, як адзінаццаць год таму назад ніхто ня сьмеў і марыць. Але-ж варта толькі ўспомніць гісторыю аднэй з п'ес нашага рэпэртуару, каб зразумець усю нікчэмнасьць разумовага ўзроўню кіраўнікоў нашых тэатраў. Гэта перакладная п'еса Ромэн Роляна «Ваўкі». Гэта п'еса ставіць найглыбейшую праблему, яна разьвязвае яе ня шляхам мэханічнага прыцягваньня за валасы фактаў і людзей, як у славутых «Верацёнах», а сапраўды мастацкім адбіцьцём складаных жыцьцёва-зразумелых сытуацый. Гэта п'еса, якая, пры адпаведнай распрацоўцы, адыграла б ня меншую ролю ў разьвіцьці тэатру, чымся ўсе апошнія п'есы Міровіча — яна была зьнята з рэпертуару. Чаму? «Тайна сия велика есть». А ўзамену ставіцца бяз-

дарны «Змрок», ідэёлёгічна падмочаная «Апраметная», «Вір», насьпех зьляпаныя «Верацёны» і да таго падобная пустэча. Каб згладзіць уражаньне ад падобных пэрлаў бяруць аб'едкі маскоўскіх тэатраў і… прыстасоўваюць іх да беларускіх умоў. Нязручна паказаць, але калі мы ў «Мецяжы», адбіваючым адзін з эпізодаў грамадзянскай вайны ў Туркестане, убачылі селяніна ў беларускай вопратцы, не маладзейшай за пачатак XIX стагодзьдзя, дык нам здалося, што што ў нека-га ў тэатры не хапіла аднае клёпкі ў адной вельмі важнай частцы чалавечага арганізму. Мабыць, у гардэробшчыка. А вось аўтару гэтых радкоў давялося быць сьведкаю яшчэ аднаго недарэчнага факту. Наркамасьветы зьвярнуўся да пісьменьнікаў з прапазіцыяй узяцца за працу па напісаньню п'ес для акадэмічных тэатраў. Адным з першых адгукнуўся на гэту прапазіцыю М. Зарэцкі. Ён напісаў п'есу «Віхор на Балоце», якая цяпер ўжо вядома нашаму чытачу. П'еса была зачытана ў тэатры, сярод артыстаў (БДАТ2), была спаткана прыхільна. Аўтару паказвалі шэраг памылак, якія маглі б затармазіць пастаноўку п'есы на сцэне (дыялёгічнасьць і г. д.) Аўтар прыняў гэта ўсё пад увагу, згадзіўся, бяззумоўна, на сцэнічныя папраўкі і п'еса ўжо ледзь-ледзь не папала на сцэну. І вось аднойчы заходзіць Зарэцкі ў тэатр і там пачнаецца гутарка паміж ім і рэжысэрам (прозьвішча не памятаю), але ведаю, што нейкі выдатны «спэц» з Масквы наконт п'есы. Рэжысэр прымае дыдактычны тон і пачынае гаварыць, што п'еса, безумоўна, добрая, але трэба ў ёй зрабіць некаторыя паправачкі. Вось чаму вы, напрыклад, увялі таго і таго. Я вось у Маскве працаваў там і там, бачыў тое і — чаму-б вам ня ўвесьці. Альбо калі ўзяць вось гэта пытаньне — яго варта было-б высьветліць у п'есе. Потым у вас дзяўчаты гавораць пра Сібір, як месца ссылкі. А ў нас у Сібір ня ссылаюць». «Паправачак» набралася столькі, што з іх можна было-б збудаваць найменш дзьве новыя п'есы. І зусім зразумела, што Зарэцкаму прышлося адмовіцца ад высокага гонару ставіць сваю п'есу, пакалечаную маскоўскім «спэцам», у якога ў галаве была зусім інакшая дума, чымся ў п'есе Зарэцкага. А п'есу варта было паставіць; яна і сваім зьместам, і кампазыцыяй куды больш адпавядала задачам тэатру, чымся ўстарэлая, напісаная «на выпадак» п'еса «Калі сьпяваюць пеўні», пастаўленая праз пару месяцаў пасьля гэтага анекдатычнага выпадку.

А ці мала ў нас ёсць п'ес, якія чакаюць свайго сцэнічнага афармленьня. «Пакрыўджаныя» Родзевіча, некаторыя з Купалавых п'ес і г. д. Пры адпаведнай перапрацоўцы гэтыя п'есы занялі б пачэснае





месца ў нашым рэпертуары і паслужылі б багацейшым матар'ялам і для разьвіцця сцэнічнай тэхнікі. Потым, калі ўжо так крута стала справа з уласным рэпертуарам, чаму не запазычыць некаторыя п'есы з украінскага рэпертуару. І чаму не зрабіць яшчэ аднае паважнае спробы — сцэнізацыі твораў нашых пісьменнікаў.

У нашых паэмах і празаічных творах даўно закрануты самыя глыбокія жыцьцёвыя праблемы, самыя балючыя пытаньні нашага жыцьця. А пытаньняў гэтых шмат. І яны просяцца на сцэну, толькі не ў выглядзе незамянімай «лявоніхі» ды сялянскага адзеньня, стылізаванага пад XVII–XVIII стагодзьдзі. Грыбаедаўскае «Горе от ума» ў нашых умовах было б у тысячу раз актуальнейшым за якую-небудзь «Апраметную», таксама як у тысячу разоў мэтазгодней сцэнізаваць Коласава апавяданьне «На прасторах жыцьця», чымся заказываць Ус. Іванову прыстасаваньне «Бронецягніка» да нашых умоў. Да рэчы, мы ніяк не можам згадзіцца, што такое прыстасаваньне магчыма. Можна напісаць другую п'есу, але перарабіць сібірскія ўмовы на беларускія немагчыма. Толькі людзі, мала знаёмыя з законамі ўзаемаадносін эканамічных і духоўных фактараў, маглі б даводзіць адваротнае.

Перш, чымся перайсьці да вывадаў, мы мусім яшчэ крыху спыніцца на працы тэатральных калектываў. Яны маюць, відавочна, разнастайную афарбоўку. Артысты БДАТ-1 — альбо старыя прафесіяналы, альбо маладыя вылучэнцы з аматараў. Артысты БДАТ-2 маюць добрую школу, але ня маюць яшчэ практыкі. І перад намі разгортваецца наступны малюнак. У той час, як артысты БДАТ-1 дасягнулі вышэйшай (па нашых маштабах) кваліфікацыі і спыніліся ў сваім разьвіцці, артысты БДАТ-2 з кожным днём крэпнуць і набываюць новай практыкі і сіл. Яны працуюць над адпаведнаю літаратураю, ў іх існуюць гуткі самадзейнасць і г. д. Недалёка той час, калі тэатры нашы па сіле калектываў ужо нельга будзе параўнаць. Справа з падрыхтоўкай новых кадраў ў нас наогул яшчэ стаіць на мёртвым рубяжы. Але тыя кадры, што ўжо дагэтуль падрыхтаваны, пачынаюць перарастаць старыя кадры. І перарастуць, бо працуюць над сабою, а не спачываюць на лаўрах шматгадовых юбілеяў. Агульнае няшчасьце ў абодвых калектывах гэта тое, што яны бадай што аднолькава цяжка паддаюцца беларусізацыі. Гэта можа гучаць парадоксам, але гэта так. За выключэньнем вельмі нямногіх, усе артысты ў жыцьці і на працы ня ўжываюць беларускай мовы. Безумоўна, умешвацца

ў прыватнае жыцьцё працаўнікоў нашай сцэны мы ня зьбіраемся, але мы маем права вымагацца таго, каб са сцэны да нас ішла жывая беларуская мова з усімі ўласьцівымі ёй адценьнямі. А мы маем самую грубую расейскую акцэнтацыю, і проста дзіка слухаць, як артысты беларускага тэатру бяз усякага жалю калечаць нашу мову. Дый ці ж дзіўна гэта, калі артыстка БДАТ-1, пасварыўшыся за нешта з дырэктарам, апавядае нейкаму грамадзяніну (у памяшканьні тэатру):

— Он мне по-белорусски, а я ему по-русски, по-русски!

І сьмех, і грэх. Грамадзянка корміцца каля беларускага тэатру і не сароміцца выстаўляць як геройства сваю пагарду да беларускае мовы.

У гэтым напрамку трэба ўзяць рашучую лінію і дабіцца таго, каб беларускія артысты, як і іншыя савецкія працаўнікі хоць і ў памяшканьні сваёй установы трымаліся беларускай мовы і каб на сцэне ў песьню, перакладзеную з расейскай мовы не ўстаўлялі па інэрцыі расейскіх фраз (як гэта было ў «Мяцежы» ў часе спеву «Белая армія»).

Вывады напрашваюцца самі сабой. Беларускі тэатр зараз перажывае сур'ёзны крызіс і на яго павінна быць накіравана значная ўвага савецкай грамадскасьці. Няўмелы механічны бяздушны падбор рэпертуару пазбаўляе беларускі тэатр усякай самабытнасьці. А ўжо насьпеў час паказаць арыгінальны самабытны твар нашага тэатру: на гэта пашло шмат сродкаў і энергіі, пра гэта многа гаварылася і пісалася. Ад Беларускага акадэмічнага тэатру мы маем поўнае права патрабаваць, каб ён даваў нам сапраўды акадэмічныя рэчы, якія ўзбагацілі б нашу культуру і апраўдалі патрачаную энэргію. Трэба сканцэнтраваць вакол тэатру найвастрэйшую ўвагу савецкай грамадскасьці і строга крытыкаваць кожны яго крок. Трэба вымесьці за сьцены беларускага тэатру анекдоты і тых, хто і творыць. Спэцаманіі, руцінёрству ня месца ў нашым маладым тэатры. Тэатральны калектыў павінен стацца сапраўды калектывам. І тады толькі ён здолее выканаць тыя задачы, якія перад ім пастаўлены.

Самае важнае зараз — ня даць сучасным балячкам тэатру разрасьціся і ахапіць яго здаровыя бакі. Для гэтага трэба рашуча крытыкаваць усе памылкі нашага тэатру і ніякім спосабам іх не патураць. Пры гэтай умове беларускі тэатр дасягне сапраўднага росквіту і адыграе сваё прызначэньне ў справе будаўніцтва беларускай пралетарскай культуры.





## ТАПТАНЬНЕ НА МЕСЦЫ
(«Бронецягнік» — БДАТ-1)

Перад намі чарговая навінка БДАТ-1 — «Бронецягнік» Ус. Іванова. П'еса гэта, упяршыню выведзеная на сцэну маскоўскім мастацкім тэатрам, адыграла ў яго гісторыі рашаючую ролю. К 30-й яго гадавіне яна завяршыла яго шлях ад чэхаўскай «Чайки» канца мінулага стагодзьдзя, праз містычную «Синюю птицу», праз даволі выразныя «Дни Турбиных» да ідэёва закончанай пастаноўкі п'есы Іванова. Пастаноўка «Бронецягніка» на маскоўскай сцэне была выклікана гістарычнай неабходнасьцю і зусім лёгічна выцякала з усяе лініі тэатру і з тых умоў, якія яго працаю кіравалі. Чарговаю пастаноўкаю маскоўскага мастацкага тэатру будзе, безумоўна, п'еса, прадстаўляючая гістарычны працяг «Бронецягніка», г. зн. п'еса, малюючая будаўніцтва пераходнага перыяду.

Мы знарок дазволілі сабе гэты невялічкі экскурс у гісторыю п'есы «Бронецягнік», каб знайсці хоць якія моманты, якія-б паказалі месца «Бронецягніка» на нашай сцэне. Аднак, пры ўсім жаданьні, мы ўсё ж-такі ня можам улавіць думку дырэкцыі, якая прыняла яе да пастаноўкі «Бронецягніка» пасьля «Перамогі», «Кар'еры таварыша Брызгаліна», «Змроку» і г. д. Наш тэатр разьвіваўся зусім іншымі шляхамі, чымся ня толькі маскоўскі мастацкі тэатр, але і наогул расійскі. Якраз у тыя самыя гады, калі ў прасторных памяшканьнях мастацкага тэатру праходзілі першыя пробы «Синей птицы», невялічкія групы маладых беларускіх актораў з вялікімі труднасьцямі рыхтавалі першыя беларускія аднаактоўкі для напалову сямейнай аўдыторыі. А калі, пасьля рэвалюцыі, беларускі тэатр упяршыню стаў на ногі, дык першаю буйнаю яго пастаноўкаю была пастаноўка «На Купальле», прасякнутая рамантыкай новага жыцьця, што вырастае на руінах цёмнай, прыдушанай, прыгнечанай старой Беларусі. І пасьля гэтая пастаноўкі лінія тэатру доўгі час ішла даволі зразумела і ясна і праца тэатру нібыта накіроўвалася на развіцьцё і паглыбленьне самабытнага беларускага тэатральнага мастацтва. І вось цяпер, ці то сапраўды ад рэпертуарнага голаду, ці то па незадачлівасьці нашага тэатральнага кіраўніцтва БДАТ1 пачынае губляць сваю лінію і мітусіцца, шукаючы дарогі. Заместа таго, каб весці далей лінію ўзмацненьня тэатральнай культуры Беларусі, замест таго, каб паклапаціцца аб набыцьці рэпертуару, які быў-бы лёгічна зьвязаны

з папярэднім шляхам тэатру і адначасова даваў бы поступ наперад. БДАТ1 затаптаўся на месцы паміж «Мяцежам», «Верацёнамі» і «Бронецягнікам». У пагоне за перастарэлымі навінкамі маскоўскіх тэатраў, БДАТ1 адыйшоў ад сваёй сапраўднай і настойнай задачы.

Навошта было ставіць «Бронецягнік»? Для завяршэньня шляху тэатру ад нябыўшых у нас «Чаек», «Синих птиц» і «Дней Турбиных»? Ці можа яшчэ па якіх вышэйшых меркаваньнях? Прынамсі мы ніяк не можам знайсьці ключ да вырашэньня гэтага цікавага пытаньня. Ня ведаем і якую карысьць можа прынесьці нам гэты малюнак сялянскай барацьбы ў Сібіры.

Калі мы пярэйдзем да сцэнічнага афармленьня п’есы, дык і тут мы натыкаемся на цэлы шэраг супярэчнасьцяў. Рабскае перадражніваньне маскоўскага тэатру прывяло да ўнясеньня канструкцыйных элементаў, да якіх калектыў БДАТ-1 мала прыстасаваны. Убогая дэкарацыя ў 2 дзеі выклікае усьмешку: можна было-б зрабіць прасцей і з большым густам. Сьветавыя эфекты ў канцы апошняй дзеі мімаволі нагадваюць сцэну з кіно ў 2 дзеі п’есы «Запяюць верацёны» — да таго гэта вышла няўмела і нязграбна. Многія сцэнічныя эфекты таксама больш напамінаюць аматарскі гурток, чымся акадэмічны тэатр.

Сярод артыстаў звычайна вылучаюцца выкананьнем роляў Крыловіч (Вершынін), Крыніца (Абаб), Ждановіч (Пекляванаў) і др. Уладамірскі (Сін-Бін-У) бязьдітасна шаржыруе тып кітайца і зусім не дае ўяўленьня гэтай цікавай фігуры ў п’есе Іванова. Але хто выклікае шчырае абурэньне, дык гэта Зораў (Незяласаў). Працуючы ў беларускім тэатры ўжо ня першы дзень, ён дагэтуль не навучыўся вымаўляць беларускія словы як належыць, адгэтуль цэлы шэраг слоў набывае ў яго вымаўленьні самы дзікі характар. Трэба было-б і самому актору і кіраўніцтву тэатру ўжыць належныя мерапрыемствы, каб гэтакі зьдзек з беларускай мовы на далейшы час спыніўся.



# ЛІСТЫ

## № 1
## У ЦБ Ўсебеларускага аб’яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк»

Пасылаю пры гэтым справаздачу аб праведзенай працы і сьпіс сяброў Полацкай філіі «Маладняка». Пратаколы атрыманы, але ня ведаю, ці ўсе, бо вы высылаеце іх у адрас «рэдакцыі «Полоцкого пахаря»». Рэдакцыя ўскрывае, і невядома, ці ўсё мне перадае. У далейшым высылайце альбо ў рэдакцыю **на маё імя**, альбо па хатняму адрасу: **Полацак, вуліца К. Маркса, Ал. Дудару**. Маю матар’ялы да хрэстаматыі — вышлю праз пару дзён, бо цяпер ня маю магчымасьці зрабіць гэта. Чакаю адказу на маю справаздачу.

З таварыскім прывітаньнем *Ал. Дудар.*

## № 1а
## У ЦБ Ўсебеларускага аб’яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк»

Да гэтага часу затрымліваў справаздачу аб праробленай працы, бо спадзяваўся хоць трошкі падцягнуць філію: дужа брыдка было пісаць аб тым, што нічога не рабілася. Фактычна пасьля пленуму працы амаль што ніякай ня было. Быў праведзены ў горадзе адзін вечар творчасьці Чарота і мною лічна быў праведзены вечар «Маладняка» ў дзіцячым гарадку ім. Леніна ў Ветрынскім райёне. Першы вечар быў праведзены ў канцы сакавіка, другі — у пачатку красавіка. Далей, мне ўдалося правесьці гутарку з камсамольцамі ў горадзе Дрысе (на польскай граніцы).

З таго часу мне ніяк не ўдавалася ў працягу трох тыдняў склікаць сход: абегаеш усіх, паведаміш, кожнаму паасобку раскажаш, што хай усе ня прыйдуць — адзін ён прыйсьці павінен — а на сход больш трох чалавек ня прыходзіць. Нарэшце ў апошнюю суботу ўдалося склікаць сход. У філіі лічыцца 13 чалавек — зьявілася 7, але рашылі лічыць сход правамоцным і ўсім незьявіўшымся вынесьці выгавар. На гэтым сходзе зачыталі пратаколы ЦБ, абгаварылі статут і анкету, прынялі двох новых сяброў і рэарганізавалі бюро, якому далі наказ к чарговаму сходу прадставіць плян працы. Можна спадзявацца, што праца філіі надалей пойдзе лепш.





Што было ў нас да гэтага часу? У філію ўваходзіла 13 чалавек і апрача іх 4 адзіночак.

З гарадзкой групы толькі чэцьвера (разам са мною) працуюць на літэратурнай ніве. Рэшта — беларускія работнікі — работнікі па беларусізацыі. Трое зь іх зьяўляюцца карэспандэнтамі нашых цэнтральных газэт і мясцовай. Двое з адзіночак пішуць добрыя вершы і апавяданьні. Нарэшце адзін з гарадзкой групы зьяўляецца добрым празаікам, але пакуль што піша вершы па-расейску. Камсамольцаў у гарадзкой групе — 8, з адзіночак — 3. Цяпер маем у складзе філіі **аднаго піанэра**. Пляну працы пакуль што ня было ніякага. Справамі філіі кіравала бюро з трох чалавек. Да рэарганізацыі ў бюро ўваходзілі: я, Крывіцкі (настаўнік, беспартыйны) і Гулякевіч (камсамолец, слухач Лестэхнікуму). Цяпер з бюра выведзены Крывіцкі і ўведзены Сарачынскі (камсамолец, слухач лестэхнікуму). Так што бюро складаецца выключна з камсамольцаў. Прычына слабой работы: перш усяго моцная перагружанасьць сяброў працаю. Кожны дзень ад раніцы да вечару нашы хлопцы, высалапіўшы язык, носяцца ад гуртка да гуртка. Беларускіх работнікаў у Полацку мала, а за беларусізацыю тут бяруцца крэпка. Ну і працуюць. З другога боку многія з сяброў глядзяць на нашу працу вельмі павярхоўна і несур’ёзна. Гэта выклікае нядбайныя адносіны да справы. Шчырэй другіх адносяцца да працы лестэхнікумцы. На сходы прыходзяць заўсёды, працуюць добра. Але іх толькі 6 чалавек і з іх на лета і надалей застанецца толькі адзін ці два.

Слаба ажыцьцяўлялася сувязь з камсамолам — надалей мы пераносім нашы сходы ў Камсамольскі клюб. З боку мясцовых установаў, асабліва з боку АПО акружкому КПБ і з боку культаддзелу бюро прафсаюзаў маем поўнае падтрыманьне. Толькі аддзел народнай асьветы ня лічыцца з намі — сьмяюцца.

Дужа пажадана, каб сюды прыехаў хто-небудзь, асабліва добра было б, каб прыехаў Вольны ці Александровіч — самыя папулярныя сярод полацкай моладзі: усякіх там Коласаў ды Бядуль наша моладзь, асабліва камсамольцы, зусім ня ведае, а пра нас чула. Пажадана зрабіць захады перад выдавецтвам, каб сюды прыслалі зборнікаў **маіх і Александровіча**. Учора я забраў апошні экзэмпляр зборніка Александровіча, а свайго нідзе не магу дастаць: абяцалі хлопцы з Віцебску прывезьці. Літаратура нам на гвалт патрэбна: я палавіну сваёй бібліятэкі параздаваў па райёнах, разаслаў адзіночкам. Цяпер

мне абрэзалі пэнсію на 25 рублёў і я не магу ўжо за лічныя сродкі здавальняць літаратурны голад палачан. Альбо вышліце літаратуры, альбо дабіцеся скідкі працэнтаў на 25. Асабліва патрэбна літэратура тэарэтычнага характару.

Цяпер буду высылаць справаздачы больш рэгулярна.

З таварыскім прывітаньнем

*Ал. Дудар.*
*Полацак,*
*11 мая 1925 году.*

## № 16
## Сьпіс сучаснага складу сяброў Полацкай філіі

1. Ал. Дудар.

2. Крывіцкі — настаўнік, хлопец малады, энэргічны, добры беларус. Пробаваў пісаць у газэту, але на другім артыкуле сьпёкся — нічога ня вышла. Занадта шануе Коласаў усякіх. Да Маладняка адносіцца пасыўна, хаця выбраны нават у сябры бюро. Умее рабіць даклады: як пачне трэпалогію, дык некалькі гадзін брахаць будзе. Пры галасаваньні заўсёды выказываецца прынцыпова проціў і застаецца пры сваім асабістым паглядзе. У працу філіі ўносіць дэзарганізацыю — нават на пасяджэньне бюро ня ходзіць. Беспартыйны.

3. Гулякевіч — слухач лестэхнікуму, камсамолец. Працуе даволі шчыра, але на жаль, яго нельга нідзе выкарыстаць — дакладу ён ня зробіць, на лета зусім выяжджае ды пры тым цяпер канчае тэхнікум, так што на восень ужо ня вернецца. Сябра бюро. На ўсе сходы ходзіць акуратна. Нічога ня піша.

4. Паскробка — слухач лестэхнікуму, камсамолец. Карэспандэнт менскіх беларускіх газэт. Адносіцца да маладняцкай працы шчыра, але занадта сымпатызуе тым самым Коласам. На сходы ходзіць акуратна. Супольна з Гулякевічам уцягнуў у філію яшчэ двох хлопцаў. Цяпер таксама канчае тэхнікум і кідае Полаччыну.

5. Лебецкі — настаўнік, эміграваў з Прагі. Піша вершы па-беларуску, даволі добрыя. Можа, з яго і выйдзе што. Ня ведаю. Да працы адносіцца нядбайна. На сходы ня ходзіць. Яму ўжо адзін раз абвясьцілі выгавар. Аб адносінах да старых ня ведаю. З тэорыяй літэратурнаю і з найноўшаю літэратурай знаёмы слаба. Беспартыйны.





6. Гольман — настаўнік. Ніколі нічога ня пісаў (хіба толькі крэйдаю на плоце). Старым сымпатызуе і наогул да яго можа быць прыстасавана ўсё, што гаварылася пра Крывіцкага. Толькі той хоць дэзарганізацыю ў працу ўносіць, а гэты нават і таго не дае. Беспартыйны.

7. Лічко — камсамолец-палітэмігрант з Заходняй Беларусі. Кіраўнік спраў акружкаму КСМ. На сходах па ўсіх пытаньнях прынцыпова маўчыць. Працы ня робіць ніякай. Ніколі нічога ня пісаў. Ініцыятывы ніякай ня праяўляе. Па-расейску гаварыць зусім ня ўмее — толькі па-беларуску. На сходы ходзіць дужа акуратна.

8. Анісаў — Цэнтральнаму бюро вядомы. Толькі тут ён неяк нічога ня робіць па маладнякоўскай лініі. Ды пры тым ён здорава заняты. Цікавіцца толькі творамі двох-трох нашых хлопцаў, а больш нішто яго ня цікавіць.

9. Скуратовіч

10. Сарачынскі — слухачы лестэхнікуму — камсамольцы. Памыкаліся пісаць вершы па-беларуску, але з гэтага нічога ня выходзіць — папалі на дарогу Беларусава і коцяцца па ёй. Бяруцца за працу даволі шчыра.

11. В. Галін — па пахаджэньню ўкраінец. Беспартыйны. Працуе ў нас у рэдакцыі. Піша даволі добрыя апавяданьні пакуль што парасейску. Знаёмы з тэорыяй літэратуры і з найноўшаю літэратурай. Знаёмы добра з творчасьцю «Маладняка» — верш Вольнага «Міколка» ў яго заместа «Отче наш». Вучыцца беларускай мове. Хлопец энэргічны, добры арганізатар. Можа быць кіраўніком філіі, вядома, пасьля перапрацоўкі. Будзе добрым маладнякоўцам.

**Адзіночкі**

1. Драгілеў (Ясь Былінка).

Вясковы настаўнік, камсамолец. Маладняком дужа цікавіцца. Піша добрыя вершы па-беларуску. Музыка. Працуе ў Ленінскай школе Нацкага сельсавету, Ветрынскага раёну. З яго выйдзе добры маладняковец.

2. Тупіцын (Будзільнік).

Беспартыйны, настаўнік Дрэтуньскай школы Дрэтуньскага раёну. Піша мастацкія вершы па-беларуску, зьбірае народныя творы. Калі даць яму літэратуры, дык будзе добрым работнікам.

3. Кузініц — селькор. Піша карэспандэнцыі па-беларуску. Батрак, камсамолец. Пробуе пісаць вершы — нічога ня выходзіць. Жыве

ў Руднянскім сельсавеце Ветрынскага районy ў хутары Дзьве Карчмы (ст. Фарынава).

4. Гарбуз Пётра. З белпэдтэхнікуму. Райарганізатар камсамолу ў Валынецкім районе (м. Валынцы). Ня маю ад яго ніякіх вестак. Працы ён там ніякай ня робіць.

Кіраўнік філіі
*Ал. Дудар.*

## № 1в
## Дадатковы сьпіс

Прыняты на апошнім сходзе:

1. Брэская Ганна.

Беспартыйная. Жонка аднаго настаўніка. Піша даволі добрыя вершы па-беларуску. Але над ёю будзе яшчэ шмат працы ў сэнсе ўмацаваньня ідэолёгіі, а таксама тэхнікі.

2. Баркан.

Піанэр. Напісаў пару вершыкаў па-беларуску. Прынялі мы яго грунтуючыся на тым поглядзе, што яму ў філіі будзе дадзена належнае выхаваньне: падрасьце — будзе добрым беларускім работнікам.

*Ал. Дудар.*

## № 2
## У ЦБ Усебеларускага аб'яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк»

*Полацак, мая 28 дня 1925 году.*
*№ 27*

Разглядзіўшы пытаньне аб тэрміне склiканьня ўсебеларускага зьезду «Маладняка», агульны агульны сход Полацкай філіі выказвае пажаданьне, каб зьезд быў склiканы зараз-жа і вось па якіх матывах.

1) Да гэтага часу наша аб'яднаньне ня прыняла (з боку арганізацыйнага) характару аб'яднаньня агульна-мастацкага, страціўшы воблік аб'яднаньня літэратурнага;

2) Вялікая частка сяброў аб'яднаньня, калі ня большасьць, выяжджае на вёску, дзе перад імі паўстае цэлы шэраг заданьняў, з якімі дужа цяжка справіцца ва ўмовах нашага сучаснага арганізацыйнага напрамку. Пастановы пленуму ў гэтай справе мала здавальняюць, бо пленум не сказаў і ня мог сказаць канкрэтна, на каго ж урэшце трымаць арыентацыю, каго ўцягіваць у працу і г. д.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, Полацкая філія выказваецца за тое, каб зьезд быў склiканы цяпер жа.

Далей, філія просіць больш шырока інфармаваць адносна грашовых спраў аб'яднаньня; ці не магло б ЦБ адпусьціць філіі сродкаў на выданьне зборніка філіі (такі зборнік фармату «Па беларускім бруку» тыражом 3000 старонках на 40 абыйшоўся б ад 170 да 200 рублёў). Зборнік разыйшоўся хутка хаця б праз нашы акруговыя філіі, калі б мы тут ня здолелі распаўсюдзіць яго самі.

Просьба ў першую чаргу прыслаць нам маладняцкіх выданьняў, бо іх тут дастаць нельга. Напрыклад, калі мне трэба было дастаць адзін экзэмпляр майго зборніка, дык праз сілу дастаў у Віцебску. Аб выхадзе трэцяга нумару «Маладога Аратага» даведаўся выпадкова, а другога і зусім ня бачыў. А літэратура, асабліва маладняцкая, вельмі патрэбна, галоўным чынам для ўцягіваньня адзіночак.

Даводжу да ведаму ЦБ, што сябра філіі Галін умоўна выключаны з філіі за нядбайныя адносіны да працы (не хадзіў на сходы без усякіх прычын і г. д.).

Згодна прапазыцыі музычнай сэкцыі для гэтай працы выдзелены сябра філіі Лебецкі. Для арганізацыі пры філіі драматычнага беларускага гуртка выдзелены па лініі арганізацыйнай сябра філіі Дадон і ў дапамогу яму па лініі мастацкай Дудар. Адзін з нашых адзіночак Драгілеў дужа добра ўладае рознымі музычнымі інструмэнтамі (скрыпка, здаецца, цымбалы і г. д.). Апрача таго, ён яшчэ ўмее маляваць. Я дужа прасіў бы, каб ЦБ ужыла захады па пераводу яго ў Полацак, дзе ён шмат дапамог бы ў справе кіраваньня філіяй. Яго адрас — Ленінская школа Нацкага сельсавету Ветрынскага раёну.

Вечар твораў Я. Купалы намі быў ужо намечаны і будзе праведзены гэтымі днямі.

Яшчэ раз прашу ўсю карэспандэнцыю накіроўваць на маё імя, бо іначай яна ня будзе да мяне даходзіць. Напрыклад, ліст Пушчы да мяне быў адрасаваны так: Полацак, Полацкай філіі Маладняка. Ліст гэты трошкі паблудзіў і папаў нарэшце ў Акруговы Палітасьвет: там яго ўскрылі, прачыталі і даведаліся, куды перадаць. Яшчэ добра, што перадалі.

З таварыскім прывітаньнем:
*Ал. Дудар /подпіс/*

## № 3
## Уладзімеру Дубоўку

*31 мая 1925 г.*

**Ўладзік!**

Думалі мы з Анісавым, думалі і ў канцы канцоў рашылі напісаць табе аб становішчы Полацкай філіі. Нядаўна Пушча ў адказ на маю справаздачу, **адрасаваную ЦБ**, прыслаў мне цэлую анцімонію на 2 лістах, не сказаўшы нічога канкрэтнага. Перш усяго мяне пакрыўдзіў тон, узяты ім з самага пачатку ліста. Мне здаецца, што ня шкодзіла гэтаму самаму Пушчы папрацаваць паўгода ў такой дыры, як Полацак, ня ведаю, што засьпяваў бы ён. Я нядаўна быў у Віцебску і бачыў там, што праца Віцебскай філіі стаіць можа яшчэ ніжэй за Полацкую, а там у склад філіі ўсё ж такі ўваходзяць маладыя, пачынаючыя пісьменьнікі — самая здатная і актыўная частка новага пакаленьня беларускіх культурнікаў. І калі б я заставаўся ў Віцебску, дык магчыма, шырэй разгарнуў бы працу, нягледзячы на тое, што мае арганізатарскія здольнасьці пакідаюць жадаць шмат лепшага. Я пакінуў Менск, выразна адчуваючы свае задачы — выявіць і ўзрасьціць маладыя літэратнурныя сілы. У Полацку ў гэтым напрамку нічога зрабіць нельга, бо няма на кім абаснавацца. Вольны, прыехаўшы сюды, здорава прабраў мяне за тое, што я нічога не зрабіў. Прызнацца, я адчуваў сябе крыху вінаватым, бо мала яшчэ ведаў тады Полацак. «Маладняк» — аб’яднаньне беларускіх культурнікаў. Добра. Проціў свайго жаданьня, я тады сабраў 7 хлопцаў па адзнацы: гаворыць па-беларуску, піша, чытае і больш нічога. Бо калі б я ўзяў напрамак на мастакоў, то нічога ня вышла-б — няма ў Полацку людзей. Цяпер якую працу з імі весьці? Разглядаць пытаньні літэратуры? Нікога апрача мяне не зацікавіць. А што яшчэ, спэктаклі ставіць, канцэрты рабіць? Тады лепш назваць звычайным культурна-асьветным гуртком, а ня філіяй аб’яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў. Я думаў, што пленум дасьць мне напрамак — нічога ня даў. Я перачытываў усе пастановы пленуму — апрача некалькіх сказаў аб будаваньні нагул беларускай культуры, я не знайшоў нічога. Усё тыя ж, знаёмыя мне задачы, якія ставілі перад сабою мы, сабраўшыся 28 лістапада 1923 году ў цёмным пакоі ў будынку ЦК. Няма ніякай падставы для далейшага існаваньня Полацкай філіі, аб’яднаньня хлопцаў, якія зусім ня цікавяцца і ня могуць цікавіцца Маладняком. Тыя адзіночкі, якіх Маладняк будзе мець у Полаччыне, знойдзены лічна мною, а ня філіяй. Я настойваю на тым, каб філія альбо была распушчана, альбо каб на маё месца быў прысланы які-небудзь Пушча, які, не паказаўшы нічым сваёй працы, кідае папрокі мне. Я лічу, што трэба зрабіць першае. Вядома, што ад другога не адмоўлюся. Вы ўжо раз абяцалі мяне ўзяць адсюль і вышла абяцанка-цацанка, а дурному радасьць. Дык я ўжо й не асабліва дабіваюся гэтага. ЦБ пра мяне ў гэтым напрамку ня думае, можа падумае хто іншы. Буду чакаць.

Ліст мой накіроўваю табе лічна. Зрабі так, як на твой пагляд будзе лепш. Тэрмінова чакаю адказу.

З камсамольскім прывітаньнем,
*Ал. Дудар.*

## № 3а
## Уладзімеру Дубоўку

Уладзік!

Дасылаючы разам з гэтым афіцыйную справаздачу, зноў прашу цябе асабіста. Парадзься з Толькам і дайце мне адказ, што рабіць. Я прымаў самыя рашучыя меры для таго, каб падняць працу філіі. Думалася, што ў ранейшым заняпадзе былі вінны школьныя заняткі: і вучні (лестэхнікум), і настаўнікі заняты працай, ня могуць аддавацца маладняцкай працы. Цяпер, здаецца, усе свабодны, але вось табе факты: 6-га чэрвеня мы праводзілі вечар Янкі Купалы, прайшоў вечар слабавата, бо ўжо перад вечарам ніяк ня мог склікаць сходу хаця б удзельнікаў вечару; не рабіў дакладу сам, а даў другім (каб больш уцягіваць сяброў у працу); ня прышоў ніхто з тых, хто павінен быў чытаць творы Купалы і свае… Пасьля вечару з 6-га чэрвеня (!) мне ўдалося склікаць толькі адзін сход, і ўсе пытаньні, пастаўленыя мною, былі перанесены на чарговы сход. А чарговы я склікаю вось ужо месяц і, ня гледзячы на тое, што кожнага бяру ў індывідуальную апрацоўку, цэлы тыдзень перад назначаным днём лаўлю і напамінаю — настане сход — ніводзін ня прыходзіць. Лестэхнікумцы — самы актыўныя на словах (іх пяцёра) больш, як два месяцы жывуць на вёсцы і ніякіх вестак пра сябе не даюць, хаця пры выездзе я задаваў ім цэлы шэраг заданьняў. Паміж іншым той адзіны сход, які мне ўдалося правесьці ў чэрвені, сабраўся толькі таму, што я дагаварыўся з Гурскім, каб пускалі маладнякоўцаў дармова ў тэатр, дык прышлі,

каб атрымаць контрамаркі. З літэратурай кепска. І мая, і прысланая з ЦБ літэратура расьцягнута, а адзіночкам я нічога ня маю даць. Сувязь з Камсамолам слабая. Я як сябра палітасьветкалегіі рабіў там інфармацыю аб працы філіі, атрымаў дырэктывы і вось ужо месяц не магу іх ажыцьцявіць, бо не магу сабраць сходу. З другога боку, у філіі няма камсамольцаў апрача мяне. Анісаў заявіў аб выхадзе з філіі, бо ён зусім ня бачыць, каб з філіі што-небудзь вышла. Папраўдзе кажучы, я зусім з ім згодзен. Філія фактычна распалася, і ў тым не мая віна, бо з нічога ня зробіш нічога. Філія ўвесь час пералівала з пустога ў парожняе, гэта ўсказывае хаця бы тое, што мне неяк гвалтам удалося толькі адзін раз паставіць на разгляд літэратурны твор — рэшта пытаньняў былі выключна арганізацыйныя. Філія паступова памірала і цяпер памерла зусім. Мне шкада толькі трох нашых адзіночак: Драгілева, Тупіцына і Мікуцкага — здольныя хлопцы і прападуць без кіраўніцтва. Я пробаваў наладзіць тут журнал, магчымасьці знайшліся б, але маёй думкі не падтрымаў акругкам КСМ. Я нічога ня мог зрабіць. Цяпер я рашыў распусьціць стары склад філіі і арганізаваць новую па прынцыпу студыі. Але тут зноў ёсьць сур'ёзная перашкода: праз тыдзень я іду ў одпуск і выяжджаю ў Менск. Адмовіцца ад отпуску не магу, бо гэтыя паўгода, што я пратарчаў тут, у канец расхісталі маё здароўе. Частыя галадоўкі, вечныя лаянкі ў рэдакцыі на грунце беларусізацыі — усё гэта пакінула на мне глыбокі сьлед. А тут яшчэ сазнаньне свайго бяссільля: я ў рэдакцыі выконваю толькі тэхнічную працу і не магу аказаць аніякага ўплыву на працэс беларусізацыі… Але гэта ўжо справа другая, аб гэтым можна будзе пагаварыць у Менску. Я хацеў бы перабрацца ў Слуцак, альбо, у крайнім выпадку, У Воршу, ці Віцебск, калі ня можна ў Менск. У Віцебску, напрыклад, для працы ёсьць добрая глеба, ёсьць адпаведны склад. Толькі пасьля одпуску я ні за што не вярнуся ў Полацак, хаця-бы мне прышлося кінуць усё. **Я магу працаваць, хачу працаваць і буду працаваць.** Толькі ня ў Полацку. Полацак мяне згнаіў і фізычна, і можа маральна. Ад вас я атрымаў толькі цыркуляры ды нявыказаныя абяцанкі. Дужа прыкра, што прыходзіцца вам аб гэтым пісаць, але гэта так. Дасягненьні я маю тут вялікія: калі раней я меў хоць кроплю здольнасьці, дык у Полацку я яе страціў. Я хлопец цярплівы і калі некалькі разоў прасіў, каб мяне ўзялі з Полацку, дык знача на гэта была прычына. У вас, у маладнякоўцаў не хапіла чуткасьці, каб зразумець, чаму я вырываюся адсюль. Нарэшце, будзе пра гэта. Я перакананы, што альбо не атрымаю ад вас ніякага адказу, альбо атрымаю прыблізна такі: «нічога ня зробіш, пацярпі, працуй і г. д.».

Канкрэтна: праз тыдзень я выяжджаю ў Менск. Пакуль што ў одпуск. Але пасьля одпуску ў Полацак я не вярнуся. Дзеля гэтага падумайце, каго прыслаць на маё месца. Мая парада — прыслаць сюды Пушчу — у яго можа што-небудзь і выйдзе: праца тут якраз па ім: стаўка ў рэдакцыі — 75 рублёў, к восені будзе можа ганарар. Жыцьцё дзяшовае і ўсякія там усходнія асалоды таксама недарагія. Пры тым працы ў рэдакцыі мала, а больш яго тут ніхто нагружаць ня будзе. Ён здолее, таксама як я, рабіць выезды і г. д. Гэты ліст дойдзе да 20-га. Я думаю, што вы маглі б прыслаць мне намесьніка к таму часу. Я чакаю прыблізна да 23-га. Толькі прысылайце праз аддзел друку АПО, бо тут яго прыжмуць так, як прыжалі раней мяне.

Вось прыблізна і ўсё. Ага. Паведаміце мяне, ці ня можна куды ўклеіць маю паэму «Сонца ўстане» — аб барацьбе ў Кітаі і наогул на Ўсходзе, аб нацыянальным руху. Радкоў каля 500. Аб гэтым паведаміце тэрмінова. Вось пакуль што ўсё. Аб гэтым лісьце папрашу, каб не даводзілася да ведаму ўсяго ЦБ — гэта для цябе і Толькі. Пасьля прыезду ў Менск зраблю вусную больш падрабязную справаздачу.

З камсамольскім прывітаньнем *Ал. Дудар.*
14-VII-25 г.

## № 36
## У ЦБ Маладняка

*Полацак, 14 ліпеня 1925 г.*
*№ 115*

За час з апошняй справаздачы быў праведзены вечар Янкі Купалы. Быў праведзены адзін сход. Пасьля гэтага праца філіі спынілася, бюро распалася. На сходы сябры філіі ня прыходзяць. Мною прыняты паміма агульнага сходу ў сябры філіі таварыш Мікуцкі. Настаўнік. Піша апавяданьні і абразкі прозаю. Некаторыя друкаваліся ў «Савецкай Беларусі». Працуе на шкляным заводзе «Труды».

З прычыны таго, што я з 20-га ліпеня выяжджаю з Полацку ў месячны одпуск у Менск, даць указаньні адносна майго замяшчэньня і адносна далейшай працы.

З таварыскім прывітаньнем
*Ал. Дудар.*

## № 4
## Паўлюку Трусу

*5.XII.1927*

Здароў, Паўлюк!

Выбачай, браце, што гэтак доўга ня даў табе адказу на твае лісты — адкладываў з дня на дзень і цяпер яшчэ адкладываю. Прычына простая: я ўжо цяпер па «Маладняку» не асэсар — здаў справы Мурашку і ўзяўся сам за вучобу. Шмат адстаў, дык цяпер працы — вышэй галавы. Абразок твой ідзе ў № 11 «Маладняка», які ўжо складае Мурашка. Я ніякім чынам ня мог зрабіць табе адбітка, таму, што сам жа ведаеш, машыністкі ў нас цяпер няма, а шукаць на старане не даводзілася. Хлопцаў маладых нідзе ня бачу: Маракоў вучыцца, Каваль паехаў на вёску; рэшта ў Менску басякуе. Сам я езьдзіў нядаўна ў Маскву — пэўна ж у газэце чытаў — Зарэцкі, Александровіч і я. Надзвычайна цікавая і плённая паездка. Але падрабязьней і пра гэта, і пра некаторыя нашы навіны напішу табе ў асобным лісьце.

З таварыскім прывітаньнем
*Ал. Дудар.*

Калі будзеш пісаць мне, дык пішы па адрасу:
*Менск, Правадная, 15а, кв. 2. — мне.*



# ПАКАЗАННІ ПА СПРАВЕ СВБ (1930 г.)

На шлях разрыву са сваімі ранейшымі контррэвалюцыйнымі поглядамі я стаў ужо ў сваіх ранейшых паказаньнях. Але адразу і ў кароткі тэрмін выкарчаваць і вытруціць цэлую ідэалогію, якая выпрацоўвалася на працягу гадоў — справа далёка не такая лёгкая, і дзеля гэтага ўсе мае ранейшыя прызнаньні мелі няпоўны і пераважна дэкляратыйны характар. Падзеі апошняга часу і, асабліва, факт існаваньня контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі, які стаў мне цяпер вядомы, кладзе мяжу маім хістаньням, і я лічу неабходным цяпер высьвятліць увесь шлях, які я прайшоў за час сьвядомага майго палітычнага жыцьця.

У літэратуру я ўступіў у 1921 годзе, але на працягу першых 2-х гадоў уся мая дзейнасьць абмяжоўвалась толькі зьмяшчэньнем некалькіх вершаў. Знаёмстваў у мяне ў гэты час сярод беларускіх пісьменьнікаў і грамадскіх дзеячоў не было ніякіх. Узровень майго палітычнага разьвіцьця ў той час быў дужа нізкі, я проста не цікавіўся тады ніякімі палітычнымі пытаньнямі і тым больш пазбаўлены быў усякай магчымасьці крытычна адносіцца да таго, што адбывалася ў акружаючым жыцьці. Гэта, аднак, ня значыць, што я ў той час быў свабодным ад нацыяналістычных уплываў. Я з'яўляўся тады сябром гуртка беларускай моладзі «Беларуская хатка», які пад надворным выглядам культурна-асьветнай арганізацыі, безумоўна, хаваў нацыяналістычную антыпралетарскую сутнасьць. Даволі сказаць, што, наколькі помніцца, ў гуртку не было ані воднага камсамольца ці камуніста, здаецца, зусім ня было рабочай моладзі і ўся праца гуртку мела падкрэсьлены характар «апалітычнасьці». Пазьней я быў з гэтага гуртка выключаны і працаваў нейкі час у гуртку імені Сьцяпана Булата, які насіў аналёгічны характар, з тэй розьніцай, што там было некалькі камсамольцаў, якія, праўда, ніякай ролі там не адыгрывалі і нічым сябе там не праяўлялі. Уся дзейнасць гуртка абмяжоўвалася пастаноўкай некалькіх спэктакляў з танцулькамі і на гэтым скончылася.

Ад абодвых гэтых гурткоў у мяне засталося толькі знаёмства з Андрэям Александровічам, які па працы ў іх меў большы за мяне стаж і з якім у мяне ў будучыні зьвязала агульная дзейнасьць, аб чым ніжэй.

У 1923 годзе тагачасны рэдактар «Савецкай Беларусі» Маразоўскі (Гурын) прыцягнуў мяне да супрацоўніцтва ў рэдакцыю «Савецкай Беларусі». Спачатку ў якасьці нештатнага супрацоўніка, а пасьля





і на штатную пасаду перакладчыка. Да гэтага часу і адносіцца пачатак маёй сталай працы па лініі літэратуры і пачатак афармленьня маіх палітычных паглядаў. Склад рэдакцыі «Савецкай Беларусі» у той час быў такі. Рэдактар Маразоўскі, які ў той час ужо зрабіў вялікія посьпехі ў кірунку усваеньня беларускіх нацыяналістычных настрояў. Да таго часу, як мне перадавалі, ён быў звычайным «русацяпам», які свае вялікадзяржаўныя думкі хаваў пад хадавою маскай інтэрнацыяналізма. Намесьнікам рэдактара быў Міхась Чарот, які, праўда, пры мне заставаўся нядоўга. Сакратаром рэдакцыі быў Янка Пашковіч, былы член партыі беларускіх эсэраў; апрача іх у рэдакцыі працавалі Л. Савёнак і Каравайчык. Апошні, як зямляк Маразоўскага, карыстаўся яго асаблівым давер'ем і трымаў у рэдакцыі даволі адказнае становішча, адначасна не хаваючы сваіх скептычных поглядаў на палітыку партыі і ўлады. Працаваў тады яшчэ Бядуля, які вёў літэратурны аддзел. Вось у абстаноўцы такога пераплёту людзей і поглядаў даводзілася мне ўступаць у палітычнае жыцьцё. Атмасфэра у рэдакцыі мала падобна была да атмасфэры савецкай газэты. Адчувалася, што большасьць супрацоўнікаў аддае сваю працоўную сілу, і гэтым аьмяжоўваецца: погляды ж свае разглядае як нешта асобнае, незалежнае ад той справы і ад тых прынцыпаў, якія праводзіла газэта. Праўда, ніякіх антыпартыйных і антысавецкіх гутарак не было, але адчувалася і само сабой разумелася, што партыя сама па сабе, а «Савецкая Беларусь» сама па сабе. Рэдактар некуды хадзіў, з некім гаварыў, нешта пагаджаў, а я ў той час, прапрацаваўшы паўгода ў рэдакцыі, нават не ўяўляў сабе структуры партыйных органаў, нават тых, якія непасрэдна мелі дачыненьне да газэты. Я і цяпер не магу сказаць, хто быў тады загадчыкам АПА ЦБ КП(б)Б і хто кіраваў газэтамі, а гэта мне, хаця і беспартыйнаму ў той час, павінна было быць вядомым; у цяперашні час такая неасьвядомленасьць газэтнага працаўніка здалася б дзікаю, у той жа час яна непасрэдна выцякала з характару, які мела газэта.

Улетку 1923 года, калі пачала арганізоўвацца часопіс «Маладняк», мяне, як пачынаючага пісьменьніка і добра знаёмага з беларускай мовай, прыцягнулі да працы па падрыхтоўцы матар'ялаў да часопісі. Рэдактарам часопісі быў Анатоль Вольны, які ня ўмеў пісаць па-беларуску, і я яму аказываў тэхнічную дапамогу. Будучы камсамольскім актывістам, ён узяўся папутна і за маё разьвіцьцё. У нас утварылася з ім моцная бытавая сувязь, ён паступова пачаў

прыцягваць мяне да камсамольскай працы, вадзіў на сходы, на камсамольскія вечары, карыстаўся маёю дапамогаю ў наладжваньні «жывых газэт», у падборы і рэдагаваньні матар'ялаў да газэты «Юны пахар» і часопісе «Комсомольское село» і г. д. Пад яго ўплывам у мяне ў дужа кароткі тэрмін выветрылася тая ідэолёгічная спадчына, якая заставалася ў мяне ад працы ў гуртках. Наогул і ў пазьнейшай маёй дзейнасьці гэта спадчына зусім не адчувалася: афармленьне нацыяналістычных поглядаў пайшло ў мяне па другой лініі (аб гэтым ніжэй). У канцы 1923 і ў пачатку 1924 году я падаў быў заяву аб прыняцьці мяне ў камсамол пры ячэйцы БДУ, але ня быў прыняты па прычыне слабай палітычнай падрыхтаванасьці.

У 1923 годзе нейкі Беларусаў, які хварэў на пісьменьніка, рабіў спробы стварыць пісьменьніцкую арганізацыю. З гэтых спроб нічога ня выходзіла, бо ў яго не было пэўнага крытэрыя ў падборы сяброў і пасьля аднаго з такіх сходаў мы з Александровічам парашылі плюнуць на іх і ўзяцца за заснаванне арганізацыі маладых пісьменьнікаў, якія к таму часу больш саветызаваліся. Мы пагаварылі аб гэтым з Вольным і вынікам гэтага з'явілася заснаванне групы, а пасьля — і аб'яднання «Маладняк». Павінен тут спыніцца яшчэ на адным факце. Увесь гэты час мне прыходзілася старацца прымірыць Вольнага з фактам не толькі працы Александровіча ў «Маладняку» (арганізацыі) але нават з фактам яго супрацоўніцтва ў камсамольскім друку. Справа ў тым, што Александровіч яшчэ ў 1923 годзе падаваў заяву аб уступленьні у КСМ, і Вольны, які быў членам прыймовай камісіі, прапанаваў яму для таго, каб выявіць ступень ідэёвасьці яго, пайсьці на працу ў Чырвоную Армію. Александровіч прыняў гэтую прапазыцыю ўсур'ёз, і дзеля таго, што праца ў Чырвонай Арміі асаблівага дабрабыту (у матар'яльным сэнсе) яму не абяцала, адмовіўся іў КСМ ня быў прыняты, а ў Вольнага засталася да Александровіча вялікая непрыязнь з таго часу. Падаю гэты факт цяпер, каб пры пазьнейшай характарыстыцы Александровіча захаваць храналёгічную паступовасьць.

«Маладняк» заснаваўся спачатку ў такім складзе: Чарот, Бядуля, Вольны, Александровіч, Пушча, Бабарэка і я. Блізкі ўдзел трымаў таксама і Маразоўскі. Асноўным прынцыпам арганізацыі было аб'яднанне літаратурнай моладзі і вострая апазыцыя да ўсіх старых пісьменьнікаў, якіх мы лічылі чужымі для партыі і ўлады ў той час, як сябе разглядалі як авангард новай пралетарскай літаратуры. У гэтых





адносінах у нас лічыліся найбольш «правымі» Пушча і Бабарэка. І сапраўды ў гэты час «Маладняк» яшчэ цалкам быў свабодны ад нацыяналістычных настрояў і ў творчасьці маладнякоўцаў і іх настроях нацыяналістычная ідэалёгія ніяк не праяўлялася. Ды і самая арганізацыя на ладан дыхала. Бядулю мы выключылі ў выніку нейкай асабістай сваркі, Чарот выехаў, Маразоўскі яшчэ раней. Заснавалася, праўда, маскоўская філія на чале з Дубоўкам, але і яна не праяўляла ніякіх адзнак жыцьця. К канцу 1924 года я па запрашэньню Сянкевіча, які быў тады загадчыкам АПА Віцебскага акругкому, выехаў на працу ў рэдакцыю віцебскай газэты. К гэтаму часу мая палітычная «сьвядомасьць» узрасла ўжо настолькі, што я выразна адрозьніваў камуністаў ад безпартыйных і сярод камуністаў — «камуністаў-беларусаў», г. зн. тых, якія ўладалі беларускай мовай і мелі дачыненьне да беларускай культуры. Такім быў у той час Сянкевіч, якога ў колах беларускай інтэлігенцыі лічылі, здаецца, за «свайго», які быў зьвязан знаёмствам з многімі і нават чуць не сваяцтвам з Коласам (гэтага добра ня ведаю). Таму ў Віцебск паехаў я з ахвотаю, і Сянкевіч быў першым, з кім я пачаў гутарку аб заснаваньні віцебскай філіі «Маладняка». Такая філія і была мной заснавана ў складзе: мяне, Сянкевіча і Мазуркевіча. Пазьней да філіі далучыўся Касьпяровіч, які ў той час там працаваў. Уключэньне ў склад літэратурнай секцыі Сянкевіча і Касьпяровіча, якія ня мелі ніякага дачыненьня да літэратуры і былі ўключаны толькі па адзнацы ўладаньня беларускай літэратурнай мовай, было першым фактам такога характару камплектаваньня «Маладняка» ў далейшым; гэты характар меў у будучыне вялікае значэньне для фармаваньня нацыналістычных кадраў.

Пасьля месячнай працы ў Віцебску я пераехаў у Полацак, дзе быў прыняты ў камсамол. ЦБ «Маладняка» наказала мне заснаваць і там філію, але тут я спаткаўся з фактам поўнай адсутнасьці літэратурных сіл на Полаччыне. Дзеля гэтага я, не глядзючы на напамінаньні ЦБ, доўгі час нічога не рабіў, аж пакуль не прыехалі Вольны і Пушча і не растлумачылі мне, што пры адсутнасьці літэратурных сіл можна абмежавацца падборам людзей, якія разьбіраліся б добра у літэратуры, былі б добрымі яе папулярызатарамі і магчыма ў будучыне вылучылі б з сябе літэратурных крытыкаў і наогул літэратуразнаўцаў. Выходзячы з гэтага прынцыпу, я заснаваў полацкую філію «Маладняка», у якую ўваходзіла чалавек 7, з якіх толькі я адзін меў дачыненьне да літэратуры, рэшта была маладыя настаўнікі, скончыўшыя

менскі педтэхнікум, пара вучняў і ўсё. Па такім прынцыпе фактычна будаваліся бадай што ўсе філіі, і такім чынам «Маладняк» у тую пару свайго існаваньня быў ня толькі літэратурнай арганізацыяй. Ён злучаў у сабе амаль што ўсіх, хто праводзіў на акругах тэхнічную працу па беларусізацыі — галоўным чынам былых вучняў менскага педтэхнікуму, якіх НКА больш-менш раўнамерна разьмеркаваў па акругах. Гэта з аднаго боку дапамагала беларусізацыі, а з другога — вучні менскага БПТ, выкладчыкамі якога зьяўляліся людзі даволі вядомыя па сваіх нацыянал-дмакратычных поглядах, ужо насілі ў сабе пачаткі нацыяналістычнай ідэалёгіі, і гэта стварала для «Маладняка» небясьпеку перараджэньня ў сапраўдную нацыяналістычную арганізацыю з дужа малым дачыненьнем да літэратуры. Асабліва яскрава з гэтага боку была Калінінская філія, якою кіраваў Александровіч і дзе сакратаром АК КП(б)Б быў Алесь Адамовіч. З работнікаў Калініншчыны таго часу ў будучым выпрацаваліся даволі прыметныя фігуры нацыянал-дэмакратыі. Не гаворачы пра самога Адамовіча, там працавалі і разьвіваліся такія людзі, як Ф. Купцэвіч, які быў тады загадчыкам АПА і знаходзіўся у прыяцельскіх адносінах з Адамовічам, А. Александровічам, які быў рэдактарам акруговай газэты, і цэлы шэраг другіх работнікаў. Адамовіч дужа гасьцінна прымаў усіх «беларусаў», якія перабіраліся туды на працу, і тагачасная Калініншчына зьяўлялася сапраўднаю «землею обетованною» ждя беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Там нават лягчэй было ўступіць у партыю: напрыклад, Александровіч быў прыняты ў кандыдаты партыі, здаецца, не пазьней як праз 2 тыдні пасьля свайго прыезду туды, ды да таго яшчэ на правах рабочага, г. зн. з паўгадовым кандыдацкім стажам, тады, як рабочае пахаджэньне Александровіча зьяўлялася заўсёды дужа праблематычным, а яго ўласны рабочы стаж і зусім неверагодным. Калінінская філія «Маладняка» складалася з аднаго пісьменьніка (Александровіч), рэшта былі нацыяналістычна настроеныя камсамольскія працаўнікі. Тое самае было, напрыклад, з мазырскай філіяй, дзе пісьменьніка ня было ніводнага. Склад другіх філій, апрача Аршанскай, быў мала лепшы.

У тагачасным «Маладняку» дужа слаба адчуваўся ўплыў партыі. Даволі ўспомніць такі факт, калі на пасяджэньні фракцыі пленуму ЦБ у сакавіку 1925 году па пытаньню аб узаемаадносінах з Інбелкультам выступіў сакратар ЦК КП(б)Б Крыніцкі, паставіў пэўныя прапазыцыі, і прапазыцыі гэтыя былі адхілены аднагалосна супраць Зарэцкага,





які, наколькі помню, галасаваў за гэтыя прапазыцыі. Гэта ў цэнтры. А ў філіях, дзе былі больш шырокія магчымасці, у гэтым кірунку справа стаяла бадай што яшчэ горш, бо маладнякоўскімі філіямі амаль што ніхто не цікавіўся. Старшыні ЦБ Чарота не было ў той час у Менску, і ўсёй арганізацыей кіраваў Дубоўка, які тады зблізіўся з прадстаўнікамі старой інтэлігенцыі і адпаведна гэтаму значна пасунуўся наперад у разьвіцьці нацыянал-дэмакратычных настрояў. Гэтаму немала спрыяла і яго збліжэнне з А. Адамовічам, які наогул тады рабіў вялікі ўплыў і на Дубоўку, і на Вольнага, і на другіх. (Я з ім тады яшчэ ня быў знаёмы і толькі чуў пра яго). Пад канец 1925 году, калі Адамовіч быў адклікаты з Калініншчыны, Дубоўка зрабіў спробу «кананізацыі» Адамовіча, як нейкага свайго асаблівага нацыянал-дэмакратычнага «угодніка». З гэтаю мэтаю ён без ведама іншых членаў ЦБ «Маладняка» здаў у друк асобнай кніжкай сваю паэму «Калініншчына» (якая пасьля была зьмешчана ў зборніку «Credo»); да кніжкі быў дададзены партрэт Адамовіча і прадмова ад імя працаўнікоў Калініншчыны. Я ведаў, што гэта кніжка пачала друкавацца і была канфіскавана быццам бы па патрабаваньню самога Адамовіча; ужо значна пазьней, будучы сакратаром ЦБ, я даведаўся, што і друкавалася яна за сродкі ЦБ «Маладняка».

Працаваў я ў Полацку да жніўня 1925 году, калі перабраўся ў Менск. З гэтага часу пачынае кульгаць мая камсамольская праца. Моцная сувязь з камсамолам, якая наладзілася была ў мяне ў Полацку, у менскіх умовах аслабла. Я трапіў у сфэру замкнутага літэратурнага жыцьця, часамі пераходзячага ў багэму. Паміж мною і масамі стала рампа літэратурнай эстрады, якая з'яўлялася адзіным месцам, дзе я сустракаўся з масамі. Усякія пытаньні палітычнага характару ў гэтай абстаноўцы вырашаліся ў самым лепшым выпадку нарадаю некалькіх сяброў ЦБ «Маладняка» — партыйцаў і камсамольцаў — і далей не выносіліся. За ўвесь час існаваньня «Маладняка» яго сябры толькі адзін раз пачулі даклад на палітычную тэму — гэта быў даклад Крыніцкага на 1-м з'ездзе «Маладняка» ў лістападзе 1925 году. У выніку гэтакага адыходу ад жыцьця мяне ўжо ўвесну 1926 году ячэйка БПТ, да якой я быў прымацаваны, выключыла была са складу КСМ за няўзнос сяброўскіх узносаў у працягу 9-ці месяцаў і за ненаведваньне запар 11 сходаў. Праўда, хутка я быў адноўлены. Адразу па прыезьдзе у Менск было узьнята пытаньне аб тым, каб паслаць мяне ў Калініншчыну на месца Александровіча. Адамовіч прыйшоў на

пасяджэньне ЦБ і прасіў даць яму чалавека для работы. Я згодзіўся, але потым не паехаў, бо даведаўся, што Адамовіча адтуль адклікалі, а як сустрэне мяне яго намесьнік — ня ведаў. У гэты час я ўсё больш і больш падпадаў пад уладу нацыяналістычных настрояў, захапляўся бліскаўкамі тае нацыяналістычнае рамантыкі, на глебе якой выраста-лі такія спавітыя пэўным арэолам вобразы, як Каліноўскі, Скарына і другія, якія так культываваліся ў той час у нашай літэратуры. Усё гэта, здавалася мне, ні ў якой меры не супярэчыць прынцыпам нацы-янальнай палітыкі і культурнага будаўніцтва, якія праводзіліся пар-тыяй і ўладай. Найбольшы ўплыў на мяне ў гэты час меў Дубоўка — старэйшы за мяне па ўзросту, мацьнейшы па адукацыі і наогул больш спрактыкаваны ва ўсіх адносінах, чымся я. У пачатку 1926 году я з ім пасварыўся і разышоўся.

Пад канец 1925 году ЦБ «Маладняка» назначыла мяне кіраўніком менскай філіі «Маладняка» на месца Нічыпара Чарнушэвіча. Пер-шым актам маёй дзейнасьці тут была ліквідацыя расейскай сэкцыі, якая тады існавала пры менскай філіі. Ужо раней паасобныя сябры ЦБ, у тым ліку Дубоўка, Вольны і другіе, выказвалі сваё незада-вальненне з прычыны існаваньня гэтай секцыі. У грунце гэтага не-задавальненьня ляжала безспрэчна нацыяналістычная антыпатыя да ўсяго расейскага, не адрозніваючы клясавай прыналежнасьці. І вось на адным з паседжаньняў ЦБ па прапазыцыі Дубоўкі трое з расейскай секцыі (Гольдбэрг, Дукор і яшчэ нехта) былі выключаны з «Маладня-ка», для чаго быў скарыстаны нейкі выпадковы повад. Я правёў гэту пастанову праз бюро менскай філіі. Тады расейская сэкцыя запрасіла мяне і Чарнушэвіча на сваё пасяджэньне і пасля бурнага сходу рэш-та сяброў аддалі мне свае білеты. Справа гэта дайшла да ведама ЦК ЛКСМБ, нас (фракцыю ЦБ) выклікалі туды, разгледзелі ўсю справу і наказалі нам аднавіць выключаных. Выконваючы гэту дырэктыву, на чарговым сходзе філіі адзін з нас унёс прапазыцыю аднавіць вы-ключаных Дукора, Гольдбэрга і трэцяга. Пры гэтым Дубоўка і Воль-ны пачалі пушчаць настолькі вострыя рэплікі (Дубоўка, здаецца, на-ват выступіў тады з цэлаю прамоваю), што Зарэцкі тут жа патрабаваў спыніць сход і склікаў фракцыю філіі. На пасяджэньні фракцыі, дзе Зарэцкі быў старшынёю, а я — сакратаром, Дубоўка і Вольны зрабілі заявы аб сваім выхадзе з «Маладняка», іранічна матывуючы гэты тым, што яны кідаюць пісаць. Рабілася гэта ў знак пратэсту супраць аднаўлення выключаных сяброў расейскай сэкцыі, і дзеля гэтага





аналёгічную заяву зрабіў і я. Фракцыя прапанавала нам устрымацца ад усякіх далейшых крокаў да пасяджэньня фракцыі ЦБ, якая мела быць склікана на другі ці на трэці дзень пасьля гэтага. Праз дзень у газэце зьявіўся вядомы верш Дубоўкі «Апошняя песьня» і верш Вольнага, падобны да Дубоўкавага. Скліканая назаўтра фракцыя ЦБ з удзелам тагачаснага загадчыка АПА ЦК КП(б)Б Гэсена, пась-ля доўгіх гутарак прапанавала нам застацца ў «Маладняку» да яго зьезду.

Праз нейкі час пасьля гэтага адбыўся інцыдэнт з выключэннем Нічыпара Чарнушэвіча. Пра гэты выпадак я ужо гаварыў у ранейшых сваіх паказаньнях, але зараз лічу патрэбным спыніцца на ім яшчэ раз. Чарнушэвіч быў тады сябром ЦБ «Маладняка». Я чуў, што задоўга перад гэтым ён падаваў заяву аб прыняцці яго ў сябры партыі, быў прыняты ячэйкай, але не зацьверджаны райкомам. У храналёгічнай паступовасьці справа з выключэньнем Чарнушэвіча малюецца так. На кватэры ў Дубоўкі была склікана нарада камуністаў і камсамоль-цаў, сяброў ЦБ. Прыйшлі толькі Зарэцкі і я, больш нікога не дачака-ліся. Тады Дубоўка, ўзяўшы з нас слова да поўнай праверкі не разгла-шаць таго, што ён нам скажа, расказаў, што быццам бы Чарнушэвіч пасьля нейкай выпіўкі начаў гаварыць, што ён незадаволен палітыкай Кампартыі, што час ужо засновываць новую партыю і што, нават, і людзі, падыходзячыя да гэтага, ёсьць, і пры гэтым спаслаўся на супрацоўніка рэдакцыі «Савецкай Беларусі» Лявона Савёнка. Ён, Ду-боўка, пры гэтым быў быццам бы зусім п'яны, але як пачуў гэткую прапазыцыю, дык з яго ўвесь хмель зышоў. Дубоўка расказаў пры гэтым, што яму вядома, што аналёгічныя прапазыцыі былі зроблены Чарнушэвічам яшчэ Бабарэку, Крапіве і, здаецца, Кузьме Чорнаму. Выслухаўшы Дубоўкава апавяданьне, мы з Зарэцкім рашылі праве-рыць, ці сапраўды ёсьць такія настроі ў Чарнушэвіча. Праз некалькі дзён Чарнушэвіч завёў і са мною гутарку адносна таго, што ЛКСМБ — гэта арганізацыя, у якой зусім адсутнічае нацыянальны дух і што я павінен працаваць у камсамоле так, каб ён ператварыўся з ЛКСМБ у БЛКСМ, г. зн., што я павінен сваю працу ў камсамоле настроіць на нацыяналістычны лад. У той час элементы нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі ў ва мне ня былі яшчэ настолькі моцнымі, каб аднесьціся да гэтай прапазыцыі прымірэнча. Я паведаміў пра гэта Дубоўку і Зарэц-кага. Мы склікалі актыў ЦБ і выклікалі Чарнушэвіча. Ён не зьявіўся. Распыталіся тых, на каго спасылаўся Дубоўка. Выявілася, што калі

ня зусім ў такой форме, як перадаваў Дубоўка, дык прыблізна такога характару гутаркі Чарнушэвіч з ім заводзіў. Тады мы Чарнушэвіча з «Маладняка» выключылі, а пра ўсё гэта паведамілі загадчыка АПА Гэсена. Пазьней у нас у многіх зьявілася думка, што ўся гэта гісторыя была толькі выдумана Дубоўкам, які ня дужа сымпатызаваў Чарнушэвічу. Але сказаць напэўна, ці было гэта і калі было, то ці ў такой форме, як казаў Дубоўка — дагэтуль не магу.

У хуткім часе пасьля гэтага вярнуўся Чарот, узяўся больш моцна за кіраўніцтва арганізацыі, Дубоўка выехаў у Горкі, пачынаў насьпяваць адкол «Узвышша», і я часова зноў адышоў ад нацыяналістычных настрояў. Наадварот, у гэты час мая праца праходзіла пад знакам барацьбы з правымі элементамі «Маладняка», больш блізкімі да нацыяналістычных настрояў, што адбівалася і ў іх творчасьці (узяць, хаця б Дубоўкаву «Калініншчыну»). Але якраз гэты перыяд і аказаўся для мяне рашаючым у сэнсе афармленьня ў мяне нацыянал-дэмакратычных поглядаў, асабліве на будаўніцтва беларускай культуры.

Атрымаўшы зусім слабую палітычную загартоўку ў часе сваёй нядоўгай працы ў Полаччыне, я ў Менску быў пакінуты самому сабе. Я працаваў у ЦБ «Маладняка» зусім адзін, час ад часу выязджаў на правінцыю і то як бы на «гастролі», ад камсамольскай працы зусім адарваўся і, такім чынам, быў цалкам ізаляваны ад ўзьдзейнічаньня шырокай масы.

Вынікі ўсяго гэтага не пакінулі сябе чакаць. Нацыянальная рамантыка, якая мяне калісь захапляла, пачала ператварацца ўжо ў нацыяналістычную абмежаванасьць і, па форме арыентуючыся на прынцып культуры, нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьмесьце, я, па сутнасьці для самога сябе ўжо страціў адчуваньне клясавых супярэчнасьцяў у культуры і ў ва мне разьвівалася варожасьць да ўсяе расейскае культуры ў цэлым. Выступаючы супроць «Узвышша», выступаючы супроць украінскага хвілёвізму, я ўжо ў глыбіне сваёй сьвядомасьці адчуваў нейкія сымпатыі да іх, што тлумачылася тым надворным лоскам «культуры», якім вызначаліся гэтыя варожыя пралетарыяту плыні. Клясавыя супярэчнасьці ўсякай культуры для мяне паступова адыходзілі на другі плян, і слова «культура» для мяне ў значнай меры пачало асоцыявацца калі не з белымі габляванкамі і візіткамі, дык, прынамсі, з бездакорным апераваньнем чужаземнымі словамі, гістарычнымі і літэратурнымі вобразамі — адным словам, з усімі адзінкамі (прынамсі, надворнымі) буржуазнае культуры. Ма-





быць гэтым тлумачыцца той факт, што я, калі быў улетку 1926 году ў Харкаве і рашыў пайсьці пазнаёміцца з украінскімі пісьменьнікамі, пайшоў не ў больш блізкі да «Маладняка» — «Плуг», а якраз у тую арганізацыю, правадыром якой быў Хвылёвы. Захапленьне Хвылёвым у нас культывавалася ў той час даволі шырока, і асабліва заражаў другіх сымпатыямі да яго Вольны. Да гэтага часу адносіцца першы выпадак заходняе арыентацыі, на якую потым усе мы здорава хварэлі. У сярэдзіне 1926 году мы зьбіраліся выдаць сябрам «Маладняка» новыя білеты. У гэтых білетах тэкст быў пададзены на беларускай і на французскай мовах. Думка гэта належала мне, і кіраваўся я прыкладам украінскай «Ваплітэ», якая надпісы на сваіх выданьнях падавала таксама на украінскай і французскай мовах. Галоўліт забараніў французскі тэкст у нашых білетах, і на гэтым усё скончылася, але самы гэты выпадак паказвае, што нацыянал-дэмакратычныя настроі, вымагаўшыя падкрэсьленага адмежаваньня ад усяго расейскага, ужо гнезьдзіліся ў «Маладняку».

Да гэтага ж часу адносіцца і маё зблiжэньне з Міхасём Зарэцкім, які ў гэты час таксама пачаў крыху паддавацца нацыянал-дэмакратычным уплывам. Немалую ролю адыгрываў у гэтым той факт, што ён працаваў тады ў аддзеле друку ЦК КП(б)Б, дзе знаходзіўся пад непасрэдным кіраўніцтвам і ўплывам Алеся Адамовіча, які быў тады загадчыкам аддзелу. Праяўлялася гэта, галоўным чынам, у нарастаючай антыпатыі да расейскай літэратуры і культуры і ў падкрэсленых сымпатыях да украінскай, як нечага супрацьпастаўленага расейскай. Гэты настрой быў агульным і для мяне, і для Зарэцкага, і для Александровіча, і для Вольнага, а часткова, нават, і для Чарота. Трэба зазначыць, што некаторая індыфэрэнтнасьць маскоўскага савецкага друку ў адносінах да беларускай літэратуры і культуры выклікала нявыгоднае супастаўленьне з жывою зацікаўленасьцю з боку друку украінскага і нават заходняеўрапейскага, дзе заўсёды зьяўлялася хроніка, артыкулы, здымкі, пераклады паасобных твораў — ўсё гэта набывала ў нас сваеасаблівае тлумачэньне, уводзілася ў пэўную формулу і служыла адным з фактараў, якія яшчэ больш паглыблялі ў нас нацыяналістычную ідэалёгію. Мы пачыналі рабіць паасобныя дробныя памылкі — нас за іх білі; але ў нас настолькі мала заставалася палітычнага разуменьня акружаючых нас абставін, што гэта біцьцё ўспрымалася намі толькі як біцьцё — інтэлігенцкае самалюбаваньне, самазадавальненьне і самаўпэўненасьць не дазвалялі нам разглядзець

за ім жаданьне паправіць нас і дапамагчы нам. Паасобныя пастановы партыйных і савецкіх органаў па лініі нацыянальнае палітыкі, культурнага будаўніцтва спатыкаліся намі як нешта абавязковае для выкананьня, але не абавязковае для спачуваньня. Выклікалася гэта не варожасьцю да партыі і ўлады, а перакананьнем, што адзіна правільнай пазыцыяй ў гэтых пытаньнях зьяўляецца якраз наша пазыцыя, што ўсякія непрыемныя для нас мерапрыемствы зьяўляюцца неправільнымі з пункту погляду агульнай палітыкі партыі і г. д. Адчувалася варожасьць да асобных партыйных працаўнікоў, якая адбілася ў вядомых «Кирпичиках». Гэты верш быў напісаны цалкам ці ў значнай сваёй частцы А. Александровічам пад непасрэдным кіраўніцтвам, а можа, і з непасрэдным удзелам Алеся Адамовіча, які, здаецца, меў тады зуб на Крыніцкага за зьняцце яго з Калінішчыны, а таксама і за вострае выступленьне яго супроць нацыянал-дэмакратызму. У гэтым жа хаваліся і карэньні выступленьня Вольнага, Дубоўкавага і майго ў часе інцыдэнта з выключэньнем з «Маладняка» расейскіх паэтаў.

У лютым 1926 году, калі Адамовіч быў назначаны сэкратаром Полацкага акругкому КП(б)Б, ён пачаў набіраць туды «сваіх людзей», г. зн. работнікаў даволі надзейных з пункту погляду «беларускасьці». Выехаў туды Александровіч, зьбіраўся ехаць і я, але не паехаў, бо ЦБ «Маладняка» пастанавіла пакінуць мяне на працы ў апараце ЦБ літэратурным сакратаром (адказным сэкратаром ЦБ застаўся тады Вольны). Замест мяне паехалі Звонак і Дубовік, якія прайшлі там моцную нацыяналістычную школу пад уплывам Александровіча. Тады насьпяваў, а хутка і насьпеў крызіс у «Маладняку», калі выплыў «Узвышша», а за ім яшчэ група сяброў: Вольны, Гурло, Чарнушэвіч (незадоўга да таго адноўлены). З апошнім некалькі разоў аднаўляліся перамаўленьні аб звароце яго ў «Маладняк», і ён, пасьля цэлага шэрагу невыразных і незакончаных гутарак, заявіў мне адкрыта, што ён бы пайшоў у «Маладняк» з тэю ўмоваю, каб «Маладняк» пачаў працаваць сам па сабе, адмовіўшыся ад партыйнага кіраўніцтва. Я спрабаваў давесьці яму безгрунтоўнасьць яго «умовы», але так і кінуў, бо ўбачыў, што яго не пераканаеш. Самы факт магчымасьці падобнай гутаркі са мной паказываў, што ўжо і з боку прыметна была маё адхіленьне з правільнай палітычнай дарогі.

Праз увесь 1927 год «Маладняк» вёў барацьбу з «Узвышшам» як носьбітам дробнабуржуазнай і нацыяналістычный ідэалёгіі ў літаратуры, а ў самым «Маладняку» сгушчалася нацыяналістычная атмасфера, асабліва вакол кіраўнічай групы. К гэтаму часу на грунце супольнай барацьбы з «Узвышшам» мы больш зблізілся с Жылуновічам і з часопісьсю «Полымя» (у гэтай часопісі я не прымаў удзелу да 1928 году). Замежныя паездкі Жылуновіча, а таксама больш блізкіх маіх таварышоў азнаёмілі іх з надворным бляскам еўрапейскіх гарадоў, які яны і ўспрынялі як твар сапраўднай культуры, тэй самай культуры, лепшыя элементы якой скарыстоўваюцца ў нас як культурная спадчына папярэдніх эпох. Усе ценевыя бакі эўрапейскага жыцьця яны, безумоўна, праглядзелі, а тыя, поўныя прыемнасьці, уражаньняў, якія яны прывезьлі з-за мяжы, бязумоўна, выклікалі ў пэўнай меры «слюнотечение» і ў тых, хто за мяжой не бываў. Адсюль погляд на заходняеўрапейскую культуру, як на нешта больш высокае, да чаго трэба імкнуцца, што трэба насьлядоўваць.

У выніку таго, што мае старэйшыя таварышы страцілі такім чынам адчуваньне клясавай перспектывы, я таксама згубіў гэтае адчуваньне, якое і не было ў мяне асабліва моцна. Гэта і адбілася на маёй мастацкай творчасьці і на публіцыстычных выступленьнях. У маіх творах гэтага часу ўжо няма такіх суцэльных рэвалюцыйных рэчаў, якія былі раней і якія далі мне жартаўлівую клічку «рэвалюцыянера з пялёнак». Няпраўду пісаў Клейнбарт, які таксама заўважыў гэтую зьмену, што тут адыгрывалі ролю «будні савецкага будаўніцтва». Гэта быў пачатак новага абвастрэньня клясавай барацьбы ў «нашай вёсцы» і я, страціўшы правільную клясавую перспектыву, пераходзіў ужо ў стан клясавага ворага разам з другімі сваімі сябрамі, якія аказаліся такімі ж нетрывалымі.

Увосень 1927 году ў БДТ-2 ставілася прэм'ераю п'еса Грамыкі «Каля тэрасы». У часе аднаго з антрактаў я, Вольны і Александровіч падышлі да тагачаснага наркома асветы Баліцкага і пачалі гаварыць пра новую п'есу. Наогул думкі сходзіліся — усім п'еса падабалася. Гутарка зайшла аб тым, што ў апошні час узмацьніліся нападкі на беларускі тэатр у «Зьвязьдзе», і Баліцкі выказаў таксама сваё незадавальненьне з гэтай акалічнасьці і сказаў, што варта было б як-небудзь заступіцца за тэатр. Мы настроены былі асабіста супроць рэцэнзента «Зьвязды» Фрыда, і як толькі зьявілася рэцэнзія на пастаноўку «Каля тэрасы», мы рашылі напісаць ліст у рэдакцыю «Савецкай Беларусі», сабраўшы да яго як мага больш подпісаў.

Чаму менавіта ў форме ліста рашылі мы выступіць — не памятаю. Я напісаў тэкст ліста, Вольны і Александровіч падпісалі, а затым

пашлі да Алеся Адамовіча ў рэдакцыю «Беларускай вёскі». Адамовіч ліст падпісаў таксама і, наколькі помню, ён жа параіў зайсьці з гэтым лістом да Івана Цьвікевіча. Мы зайшлі спачатку да Жылуновіча, які ліст падпісаць адмовіўся, але сказаў, што напіша сам індывідуальны ліст у рэдакцыю. Тады мы зайшлі да Цвікевіча і засталі там і Ластоўскага, які таксама падпісаў ліст — ня помню, сам напрасіўся, ці мы яму далі. Аб тым, што Ластоўскі зьяўляецца чалавекам зусім другога парадку, чымся мы, мы не падумалі.

Прыпамінаю, што зараз жа пасьля таго, як Ластоўскі падпісаў ліст, туды ж зайшоў Алесь Адамовіч; не бяруся сказаць, ці быў яго прыход выпадковым, як мне тады здалося. Пасьля зьездзілі да Зарэцкага, які тады ляжаў хворы, і яго подпісам увенчалі ліст. Сабраўшы подпісы, занесьлі ліст у рэдакцыю «Савецкай Беларусі», дзе абавязкі рэдактара з прычыны выезда Чарота ў Маскву выконваў Каплан. Каплан пры нас пазваніў у аддзел друку ЦК да Сянкевіча, расказаў пра ліст і атрымаў дазвол друкаваць яго. Ліст быў надрукаваны, а паступіўшы на другі дзень ліст Жылуновіча ўжо быў забаронены і паступіў у рэдакцыю ліст Табайніка, у якім уся справа высьвятлялася, як спроба інсцэніраваць барацьбу паміж партыйнай і савецкай газетаю. Сянкевіч заяўляў, што ён ніякага дазволу на друкаваньне ліста нашага не даваў. Разглядаючы ўсё гэта як асабісты выбрык Сянкевіча, мы зрабілі ўсё магчымае для таго, каб адцягнуць друкаваньне ліста Табайніка хаця бы да прыезду Чарота, які, як мы думалі, гэтае пытаньне ўладзіць. Зьбегалі да Баліцкага, Ігнатоўскага, які нарэшце сазваніўся з Сянкевічам, ці з Абрамчуком, і дабіўся таго, што ліст быў адкладзены, а Каплан у тую ж ноч паехаў у Маскву да Чарота, каб паведаміць яго аб усім. Скончылася ўся гэтая гісторыя Васілевічавым артыкулам «Трэба біць па руках».

Да 1927 году адносіцца зьяўленне нелегальных рукапісных вершаў, якія былі мне вядомы. Першы — той самы, які быў пасьля надрукаваны ў віленскай часопісі — у мае рукі ён не трапіў, і я толькі чуў пра тое, што такі верш быў разасланы і чуў аднадушнае меркаванне, што аўтарам яго зьяўляецца Дубоўка, і што верш надрукаваны на машынцы Прадстаўніцтва БССР у Маскве, дзе была надломана адна літара, здаецца, «р». Аб гэтым вершы я ўжо гаварыў усё, што мне было вядома, у маіх ранейшых паказаньнях, і дзеля гэтага зноў на ім спыняцца ня буду. Цяпер я прыпамінаю, што ў 1927 годзе зьявіліся яшчэ два вершы, гісторыя якіх наступная. У хуткім часе пасьля таго,





як былі выключаны з «Маладняка» за безгрунтоўныя ультыматыўныя патрабаваньні некалькі маладых паэтаў, якія стварылі літэратурную групу «Пробліск», мне стала вядома (ад некага з іх жа), што сярод іх цыркулююць нейкія пасквільныя вершы. Дзеля таго, што некаторыя з сяброў «Пробліска» адносіліся да мяне з пэўным давер'ем, ведаючы ўжо мой зрух у бок нацыянал-дэмакратызму, я хутка праз Бобрыка атрымаў па экзэмпляру абодвых вершаў, перапісаных аб рукі — адзін рукою Бобрыка, другі — Звонака. Калі не мыляюся, тут жа мне была паказана аўтарская прыналежнасьць вершаў. Паршы верш, напісан Звонакам і перапісан Бобрыкам, прадстаўляў сабою сапраўдны пасквіль на літэратурную і нацынальную палітыку партыі і выказваў вострае незадавальненьне з іх. Другі быў накіраваны супроць «Маладняка» і зьмяшчаў асобныя радкі нецэнзурнага характару, наогул жа меў такі ж характар, як і першы, толькі быў горш напісаны. З першага вершу запомніліся мне такія радкі:

> Длані прасцёр Сянкевіч над намі
> І Чарот одесную ЦК.

З другога помню такую «гарачую клятву»:

> На паклон к Сянкевічу ня пойдзем
> (другога радка не помню)
> С… і мы, як некалі Дубоўка,
> Поўны кошык.

У абодвых вершах фігуруюць імёны Сянкевіча і Чарота, якія, асабліва першы, былі заўсёды ў нацыянал-дэмакратаў даволі адыёзнымі фігурамі і маляваліся ледзь не як рэнегаты, у якіх адпала ўсякае нацыянальнае пачуцьцё. Мала заставалася яшчэ да таго, каб абодвых проста празвалі «русацяпамі» (у адносінах да Сянкевіча такі эпітэт нават і ўжываўся). Дзякуючы таму, што я сам ужо даволі глыбока ўгруз у нацыянал-дэмакратызм, я не зьвярнуў асаблівай увагі на контррэвалюцыйны характар абодвых гэткіх пасквіляў і проста забраў да сябе ў партфель, потым яны трапілі ў мае паперы, а незадоўга да майго арышту ў 1929 годзе, наводзячы парадкі, наткнуўся на гэтыя вершы і зьнішчыў.

Наколькі шырока распаўсюджваліся яны, я не ведаю, але факт іх зьяўленьня паказвае на тое, што нацыянал-дэмакратычныя настроі перадаліся ўжо ад старэйшага пакаленьня пісьменьнікаў да малодшага

і ўкараніліся даволі глыбока. Што яны знайшлі сабе там удзячную глебу, абмаўляць ня прыходзіцца: склад пісьменьніцкай моладзі камплектаваўся з вучняў таго ж менскага педтэхнікуму, з вясковых, слаба загартаваных камсамольцаў, вучняў сярэдніх і вышэйшых школ і г. д.

Усе яны ўступалі ў літэратурнае жыцьцё або праз акруговыя філіі «Маладняка», дзе яны траплялі непасрэдна, ці праз кіраўніцтва «Маладняка» пад уплыў таго ж Александровіча, Зарэцкага ці мой, бо мы часьцей за іншых (асабліва я) выязджалі ў маладнякоўскія філіі і зьяўляліся для гэтай моладзі жывымі носьбітамі літэратурнай аўтарытэтнасьці, а дзеля гэтага і наша творчасьць, ужо атручаная нацыяналістычнымі матывамі, зьяўлялася ўзорам для іх. Менскія маладнякоўцы таксама траплялі ў літэратуру праз рукі Александровіча, які рэдагаваў да мяне «Маладняк», ці праз мяне, бо да рэдагаваньня «Маладняка» я доўга працаваў на літаратурным аддзеле ў «Савецкай Беларусі». Той факт, што ўся гэта моладзь знаходзіцца ў БелАППе, яшчэ не азначае, што ў яе выветрыліся рэшткі нацыянал-дэмакратычнай ідалёгіі. Тыя ж самыя Бобрык і Звонак знаходзіліся пад мацнейшым уплывам Александровіча, а знача і Адамовіча. Першы вучыўся разам з Александровічам у Беларускім дзяржаўным універсітэце, другі яшчэ раней працаваў пад яго непасрэдным кіраўніцтвам у Полацку і ў значнай меры ўсвоіў яго палітычны тон і манеры. Звонак заўсёды ўяўляўся мне «маленькім Адамовічам» — да таго стараўся ён пераймаць нават Адамовічавы манеры. Там жа ў Полаччыне працаваў Хурсік, які яшчэ ў Менскім педтэхнікуме праяўляў нацыяналістычныя настроі. Тую ж школу прайшлі Броўка, Шалаяў, Відук, Шукайла — усе яны працавалі ў Полаччыне якраз у той час, калі Алесь Адамовіч адным сваім імем, зьвязаным з беларусізацыяй Калінінiшчыны, наганяў страх на полацкіх работнікаў. А гэтыя хлопцы як бы зьяўляліся праваднікамі і рэалізатарамі Адамовічавай нацпалітыкі, якая заключалася ў фактычна неабмежаваным напоры па лініі беларусізацыі і чыста фармальных адносінах да інтарэсаў іншых нацыянальнасьцяў. Адным словам, падаўляючая большасьць членаў «Маладняка», увайшоўшых цяпер у БелАПП, хаця і ў рознай ступені, але пранікнута і дагэтуль нацыянал-дэмакратычнымі настроямі.

Цяпер я лічу неабходным спыніцца на маіх адносінах да рэдакцыі газэты «Савецкая Беларусь» і на тэй атмасферы, якая ў рэдакцыі тады панавала. «Савецкая Беларусь» была калыскай «Маладняка». Усе сходы «Маладняка» аж да пачатку 1925 году адбываліся там. Там





жа працавалі тады Бабарэка, Чарнушэвіч і я. Атмасфэра ў рэдакцыі ў параўнаньні з 1923–24 г. у 1925 годзе крыху зьменілася ў зьвязку з тым, што мы, маладзейшыя супрацоўнікі, маладнякоўцы, лічылі сябе арганічна зьвязанымі з новым жыцьцём, рэвалюцыяй, з партыяй. Калі я выязджаў на Полаччыну, «Маладняк» яшчэ быў занадта слабаю арганізацыяю для таго, каб карыстацца якім бы та ні была ўплывам і аўтарытэтам. Калі я вярнуўся к канцу 1925 году, «Маладняк» ужо з’яўляўся моцнай арганізацыяй, кіруючая група ўжо навучылася хадзіць па прыёмных адказных працаўнікоў і праз іх дабівацца правядзення сваіх мерапрыемтваў. Абівалі парогі ў Баліцкага, у Язэпа Адамовіча, у Гэсена, а таксама і ў другіх. Узрос уплыў «маладнякоўцаў» у «Савецкай Беларусі». Рэдактар Шыпіла рэдакцыю трымаў у руках слаба, сакратарстваваў той жа Янка Пашковіч, такі важны аддзел, як аддзел замежнай прэсы, веў той жа Каравайчык, і ранейшую ідылію парушаў толькі той факт, што на рэдактарскім крэсьле сядзеў Шыпіла, які механічна выконваў дырэктывы аддзелу друку, а ў жыцьцё рэдакцыі ня ўмешваўся, чаго не было пры Маразоўскім. Вага ж «маладнякоўцаў» у рэдакцыі даходзіла да таго, што неяк раз мне даводзілася трымаць удзел у гутарцы Дубоўкі (тады камсамольца), Вольнага (тады кандыдат партыі), Бабарэкі, Чарнушэвіча, і, здаецца, Пушчы (усе трое беспартыйныя), у якой абгаворвалася пытаньне ні больш ні менш як аб рэарганізацыі апарату газэты. Меркавалася фактычным (ці нават адказным) рэдактарам зрабіць Дубоўку, сакратаром — Бабарэку і г. д. Такая магутнасьць «Маладняка» была для мяне, толькі што прыехаўшага з правінцыі, вельмі неверагоднай; але факт такой гутаркі паказвае, якім уплывам карысталася кіраўнічая група «Маладняка» ў рэдакцыі.

У хуткім часе пасьля вярнуўся з замежнай паездкі Чарот і адразу быў назначан на пасаду рэдактара. Я застаўся супрацоўнічаць у газэце на пасадзе загадчыка літэратурнага аддзелу да лютага 1926 году. Тады ж пачаў працаваць у газэце Каплан, які раней, як блізкі таварыш Анатоля Вольнага, блізка сышоўся з Чаротам, і са мною, і з Александровічам і нават яшчэ з Маразоўскім, так што асаблівага недахвату ў нацыяналістычных уплывах у яго не было. Аднак тады ўсё гэта не так яшчэ адчувалась, і Чарот, які сур’ёзна ўзяўся за рэарганізацыю рэдакцыі, відаць, быў задаволены, што ў рэдакцыі, апрача яго самага, зьявіўся яшчэ адзін камуніст (Каплан) і адзін камсамолец (я). Каплан аказаўся дужа здатным для газэтнай

працы і праз самы кароткі час тэхнічнае кіраўніцтва газэтай, якое дагэтуль знаходзілася цалкам у руках Пашковіча, перайшло да Каплана. Чарот праяўляў значна больш ініцыятывы ў кіраўніцтве газэтай, чымся Шыпіла, і атмасфэра ў рэдакцыі пачала мяняцца. Уплыў маладнякоўцаў на справы газэты (які датычыўся галоўным чынам матар'ялаў, зьвязаных з пытаньнем беларускай культуры і літэратурных матар'ялаў) рэалізаваўся часткова праз Чарота, часткова праз Каплана. Які блізка зьвязаны з маладнякоўскаю верхавінаю, а таксама і сам быў да таго сябром Магілёўскай філіі «Маладняка», яе кіраўніком і нават кандыдатам у члны ЦБ (ці Рэвізійнай камісіі). Чалавеку, варожаму да «Маладняка», ці да каго маладнякоўская верхавіна была настроена непрыхільна, дарэмна было і спрабаваць зьмясьціць свае матар'ялы ў газэце.

Чарот і сам ня мог нічога зрабіць у гэтым накірунку, бо калі б ён загадаў даць падобны матар'ял — гэтым ён адбіў бы адразу цэлую грамаду супрацоўнікаў.

У пачатку 1926 году маладнякоўцы адзін за адным пакінулі штат рэдакцыі і перайшлі на больш лёгкія работы ў ІБК (я, Гурло, Пушча), у Камвуз (Бабарэка) і г. д. Аднак літэратурны аддзел газэты трымаўся выключна на маладнякоўцах, якія ў іншых газэтах ня супрацоўнічалі, бо адчувалі сябе тут гаспадарамі; «Зьвязда» тады, хаця і зьмешчала матар'ялы па беларускай мове, але да яе мы адносіліся з пэўнай варожасьцю, разглядаючы яе як чужую для нас газэту іншай нацыянальнасьці. Гэта паказвае, наколькі глыбока тады ўжо пусьцілі карэньні нацыянал-дэмакратычныя погляды сярод нас. Пасьля адыходу «Узвышша» «Савецкая Беларусь» засталася нашым «аплотам», і «узвышаўцы», такім чынам былі, зусім выціснуты з усякага перыядычнага друку. Жартуючы, называлі «Савецкую Беларусь» органам «Маладняка», асабліва тады, калі ў 1927 годзе пасьля беларусізацыі «Зьвязды» там сталі зьмяшчацца творы ўзвышаўцаў.

Чарот усё меней і меней аддаваў увагі газэце, цалкам пакладаючыся на Каплана, які нёс на сабе фактычна усю працу па газэце. Дзякуючы гэтаму, склалася група супрацоўнікаў газэты, якая задавала тон усёй працы газэты, асабліва ў справе асьвятленьня пытаньняў культуры і літэратуры. Гэта былі Александровіч, Вольны і я. Апрача Каплана, усе мы былі зьвязаны асабістымі, прыяцельскімі адносінамі і з другімі супрацоўнікамі рэдакцыі — асабліва з Савёнкам, Касьцюком і Камлюком, а да 1925 году і з Пашковічам. Матар'ялы нашы





цаніліся дужа высока, асабліва апавяданьні Зарэцкага, фэльетоны Вольнага і пазьней мае артыкулы. Асабліва няпэўныя з пункту погляду магчымасьці надрукаваньня матар'ялы ішлі да Чарота і той бязьлітасна крэсьліў іх, а часамі і зусім ня пушчаў. Так было з маім артыкулам па БДУ, які так і загінуў, а асабліва часта з фэльетонамі Вольнага, які ў многіх сваіх фэльетонах на тэмы нацыянальнай палітыкі даходзіў чуць не да пагромных фраз па адрасе «русацяпаў», што ня было асабліва дзіўным, бо ў пераважнай большасьці матар'ял да такіх фельетонаў дастаўляў Алесь Адамовіч. Аднак мне асабіста часта ўдавалася ашукаць Чарота і працягнуць у газэту свае матар'ялы, у якіх заключаліся элементы нацыянал-дэмакратычный ідэалёгіі ў замаскаванай, праўда, форме. Гэта былі паасобныя вершы і артыкулы на літэратурныя і агульнакультурныя тэмы. Прыкладам гэтага можа служыць хаця бы мой артыкул у тэатральнай дыскусіі (пра гэта ніжэй).

У гэты час супрацоўніцтва ў газэце для тых, хто па тых ці па іншых прычынах пападаў у няміласьць да Вольнага, Зарэцкага ці мяне, было немагчымым. Пры незвычайным адзінадушшы нам нічога не каштавала настроіць супроць такога чалавека Чарота. У ты жа выпадку, калі гэта быў такі адказны работнік, як Сянкевіч, якому нельга было адмовіць у надрукаваньні яго матар'ялаў, мы глядзелі на гэта як на непрыемную няўхільнасьць і часамі нават і Чарот падпадаў у гэтым накірунку пад наш уплыў. У ва ўсякім выпадку пераканаць нас ён не прабаваў. А папасьці ў няміласьць да нас лягчэй за ўсё можна было якім-небудзь выступленьнем ці фразаю па пытаньню нацыянальнай палітыкі, культурнага будаўніцтва ці літэратуры, у якіх было замала нацыянальнага запалу, наогул, якія не супадалі з нашымі поглядамі на гэтыя пытаньні, бо іх мы лічылі адзінна правільнымі, адзінна адпавядаючымі палітыцы партыі і непаграшымымі. Аўтарытэта для нас у гэтым пытаньні ня было, апрача Жылуновіча і ў пэўнай меры Алеся Адамовіча.

У канцы 1927 было заснавана па ініцыятыве Чарота, Жылуновіча і другіх аб'еднаньне «Полымя». Асноўнаю мэтаю аб'еднаньня было ўцягнуць у нейкую арганізацыю старэйшых пісьменьнікаў (Купалу, Коласа і другіх). Спачатку намечаны быў да запрашэньня больш шырокі круг літаратараў — у тым ліку Бузук, Чаржынскі, Сянкевіч, Ліманоўскі і др. Апошнія два былі нават запрошаны на арганізацыйны сход і прышлі на яго, але з выступленьняў майго, Зарэцкага

і Александровіча яны пабачылі, што, калі і ўвойдуць у аб’яднаньне, дык ад нас ім жыцьця ня будзе: гэтым яны матывавалі Жылуновічу сваё адмаўленьне падпісаць дэкларацыю. Выступаючы па пытаньню аб тым, хто можа быць сябрам арганізацыі, мы падкрэсьлівалі, што арганізацыя не масавая, як «Маладняк», і дзеля гэтага туды могуць быць прыняты толькі высокакваліфікаваныя пісьменьнікі, разумеючы пад кваліфікацыяй пэўную колькасьць надрукаваных асобным выданьнем твораў. Гэта было ў піку Сянкевічу і Ліманоўскаму, якія ніякіх друкаваных твораў ня мелі. Такая ўстаноўка не перашкодзіла нам, аднак, прыняць у склад сяброў Дылу, Ляжневіча і Грамыку, якія таксама не мелі друкаваных твораў. Я асабіста быў супроць прыняцьця і гэтых трох. Аб’яднаньне ў самым пачатку сваёй працы ня гледзючы на разнастайнасьць яго складу, у які ўвайшлі пісьменьнікі самых разнастайных фармацый, паказала моцную згуртаванасьць. Склокі, якія ў ва ўсякіх другіх умовах не пакінулі б сабе доўга чакаць, тут спыняліся ў самым сваім пачатку аўтарытэтам Жылуновіча, якому падначальваліся ўсе без выключэньня.

Рэакцыйны прынцып адмежаваньня ад масавасьці быў пакладзен ужо ў самую аснову арганізацыі і яна з самага пачатку адрэзала сябе ад усякага ўплыву з боку масы, ад асьвяжэньня сваіх шэрагаў новымі сіламі. Хаця пры сваіх выездах «Полымя» абслугоўвала дужа вялікую аўдыторыю, у тым ліку і рабочую, гэта абслугоўваньне было толькі абслугованьнем і заўсёды насіла характар нейкіх урачыстасьцяў і нашага ж ушанаваньня. Мы падносілі рабочаму слухачу нашу прадукцыю па свайму выбару і вельмі туманна маглі ўяўляць аб тым уражаньні, якое рабілі на яго гэтыя выступленьні. Адпаведна гэтаму дэградаваў і зьмест творчасьці. Мастацкая форма, на якую мы зьверталі асаблівую ўвагу, ніякім чынам не магла затушаваць нездаровы зьмест. А зьмест ужо пачынаў набываць контррэвалюцыйны характар, як гэта было, напрыклад, з маім апавяданьнем «Вецер з усходу».

На сходах «Полымя» ніякіх антыпартыйных і антысавецкіх фраз і словаў ня было. Але адчувалася, што большая частка сяброў на многія моманты ў працы партыі і ўлады па лініі нацыянальнай палітыкі і культурнага будаўніцтва глядзяць з нейкага свайго пункту погляду. Тлумачыліся гэтыя настроі тым, што контррэвалюцыйнаю нацыянал-дэмакратычнаю ідэалёгіяй была апанавана якраз большая частка актыву «Полымя», як Жылуновіч, Александровіч, я, Зарэцкі, Вольны. Дайшло да таго, што ніхто не зьвернуў асаблівай увагі на тое, што на адным з сходаў «Полымя» Якуб Колас выступіў з прапазыцыяй, каб «Полымя» ўзяло на сябе ініцыятыву прасіць аб памілаваньні Алехновіча, ці аб палягчэньні яму кары. Гэткае праяўленьне салідарнасьці з чалавекам, які, па чутках, меў блізкую сувязь з дэфэнзівай і чыя блізасьць з гэтаю інстытуцыяй каштавала гадоў турмы грамадаўцам, здалася нам толькі «непалітычнаю» і для таго, каб замазаць гэту справу, «Полымя» даручыла «высьветліць магчымасьці» Жылуновічу і Чароту.

Палітычны твар «Полымя» паступова рабіўся настолькі выразным, што аб прыняцьці ў склад «Полымя» знайшоў магчымым падаць заяву такі махровы рэакцыйны пісьменнік, як Альбэр Паўловіч, які за ўвесь час існаваньня савецкае ўлады на Беларусі не рабіў аніякай спробы падысьці да савецкай літэратуры, а пры паляках адыгрываў нейкую ролю ў цэнзуры. І яго заява ня была рашуча адхілена, ня гледзючы нават на факт, што ён сам ня цікавіўся яе лёсам.

Дужа блізка ад «Полымя» стаялі Васілевіч і Прышчэпаў. Першы доўгі час (да тэатральнай дыскусіі) прысутнічаў на ўсіх тых сходах «Полымя», якія скліkаліся на прыватных кватэрах (Жылуновіча, Нёманскага, Зарэцкага). Пры ім, праўда, трымалі сябе смірна і настроі свае вылівалі толькі ў скаргах яму ж, што ўвесь час крыўдзяць, нам не даюць выказаць свае думкі — тут меўся на ўвазе Чарот, а галоўным чынам, аддзел друку ў асобе Сянкевіча, якія нашых матар’ялаў з нацыянал-дэмакратычнымі матывамі ў друк не пушчалі. Прышчэпаў прыходзіў таксама толькі на тыя сходы, якія скліkаліся на прыватных кватэрах, тым больш ахвотна, што такія сходы звычайна заканчываліся таварыскім пачастункам з адпаведнаю колькасьцю градусных напіткаў. Прышчэпаў быў у цесных прыяцельскіх кантактах з Чаротам і Зарэцкім, а таксама і са мною і з Вольным. З другога боку, ён быў блізкі з Алесям Адамовічам і, відаць, знаходзіўся пад асабліва моцным яго ўплывам.

У гэты час, у 1927 і асабліва 1928 годзе, мне даводзілася быць у даволі блізкіх адносінах з Алесям Адамовічам, з якім я сустракаўся бадай што выключна ў кватэры Александровіча. Тут даволі часта зьбіраліся Алесь Адамовіч, Каплан, Вольны, часамі прыходзіў Мароз, дужа рэдка — Чарот. Наладжвалі лёгкую закуску, гралі ў карты, а паміж карт тачылі зубы аб агульных знаёмых. Алесь Адамовіч быў невычарпанаю крыніцаю ўсякага гатунку пікантных эпізодаў

з мінулага паасобных людзей. Ён аднекуль выкапваў такія факты, якія часам здаваліся анекдотам. Гэтае выкапваньне не заўсёды насіла характар звычайнай плёткі. Калі, напрыклад, выступленьні сэкратара ЦК КП(б)Б Гамарніка ня прыйшлося да густу нацыянал-дэмакратыі, Адамовіч пачаў распускаць чутку, што быццам бы Гамарнік зьяўляецца блізкім сваяком менскаму «негоцианту» гаспадару галянтэрэйнага магазіну ў Менску Тургаэля. Гэтая плётка, безспрэчна, была ім пушчана для таго, каб скампраметаваць адказнага кіраўніка партыі, а праз яго і саму партыю. Слова «вождь» (на расейскай мове) было ў Адамовіча лаянкай, а ад яго ў такім жа сэнсе перайшло і да другіх. Пра таго ж Гамарніка Адамовіч гаварыў яшчэ, што ён быццам бы, гаворачы пра надыходзячую чыстку партыі, сказаў, што «беларусам скідкі ня будзе» — гэта значыць, што важная роля ў беларускім культурным будаўніцтве і незамянімасьць у ім не даюць беларусам-партыйцам ніякіх асаблівых прывілеяў у падыходзе да іх пры чыстцы. Такому падыходу да справы Алась Адамовіч безспрэчна не спачуваў.

Алесь Адамовіч адносіўся варожа і да паасобных нацыянал-дэмакратаў, асабліва да ўваходзячых у склад БАН. Але корань яго варожасьці хаваўся ня ў іх нацыянал-дэмакратычных поглядах, а проста ў нейкіх асабістых матывах, якія мне невядомы. Александровічава паэма «Цені на сонцы» за дужа невялікім выключэньнем [напісана] па ўказаньнях і матар'ялах Алеся Адамовіча, які, на мой погляд, больш зьяўляецца аўтарам паэмы, чымся сам Александровіч. Апошняму належыць толькі нянячная роля тэхнічнага апрацоўшчыка тых думак і матар'ялаў, якія цалкам належылі Алесю Адамовічу.

Характэрна, што ў цэлай паэме, якая быццам бы «ўскрывае» паасобныя нарывы і нарыўчыкі і «выводзіць на чыстую ваду» беларускіх нацыянал-дэмакратаў, не сказана ніводнага слова пра самае галоўнае — пра іх нацыянал-дэмакратычныя погляды і пра дзяйнасьць, за выключэньнем паасобных момантаў з мінулага персанажаў паэмы. Свой нацыянал-дэмакратычны твар Алесь Адамовіч паказываў хаця б ў тым, што, добра ўладаючы беларускай мовай, ён заўсёды і ўсюды з падкрэсьленай іроніяй гаварыў па-расейску (за выключэньнем больш цесных груп сваіх знаёмых). Незадаволены тэмпам беларусізацыі, Адамовіч, здаецца, у 1927 годзе, раптам пачынае апавядаць усім, што ён купіў расейскую граматыку і пачынае вывучаць на ўсякі выпадак расейскую мову.





У канцы 1928 году вяліся гутаркі паміж ім і мною аб распрацоўцы на беларускіх матар'ялах артыкулу на ўзор артыкула Волобуева ў «Більшовику України». Алесь Адамовіч сам прывёз гэты артыул з Харкава і, даючы мне яго для азнаямленьня, многазначна дадаў, што аўтар артыкулу «сасланы ў Салаўкі». Адмаўляючыся ад напісаньня гэткага артыкулу таму, што я ня лічыў магчымым давесьці падобную думку ў адносінах да Беларусі, я, не гаворачы пра сапраўдныя матывы свайго адмаўленьня, сказаў, што ня буду пісаць, бо ў Салаўках надта холадна (гаварыў жартуючы). Калі ўлетку 1928 году я прачытаў Алесю Адамовічу свой контррэвалюцыйны верш, дык ён, наколькі мне помніцца, сказаў, што гэта контррэвалюцыйная рэч, але з такім выглядам і такім тонам, які гаварыў адваротнае і выказваў поўнае спачуваньне думкам, якія былі выказаны ў вершы. Калі я чытаў у хаце ў Александровіча адрыўкі сваёй паэмы «Казка» (пра яе ніжэй), дык яму асабліва спадабаліся тыя мясціны ў паэме, дзе дадзены фігуры Сянкевіча, Ліманоўскага і другіх.

У 1927 годзе, яшчэ быўшы намесьнікам рэдактара «Беларускай вёскі», у той час, калі з'явіўся «ліст семі», Адамовіч заказаў мне спецыяльны артыкул аб беларускім тэатры, які быў бы як бы працягам ліста. Я такі артыкул напісаў, і ён быў надрукаваны ў літэратурным дадатку «Чырвоны сейбіт», але, наколькі помню, найбольш рэзкія месціны яго былі ўрэзаны. Тады ж я даваў яму верш, прысьвечаны калектыву БДТ-2, але верш ня быў зьмешчаны ў дадатку і быў мной перададзены ў «Полымя», дзе і быў надрукаваны. Нарэшце, сам Алесь Адамовіч, здаецца ў 1927 г. заняўся гаспадарчымі праблемамі, галоўным чынам у галіне сельскае і лясное гаспадаркі, і надрукаваў у «Савецкай Беларусі» шэраг артыкулаў, у якіх у дужа астарожнай форме прапагандаваў думку аб гаспадарчай самабытнасьці Беларусі. Пра іншыя факты з дзейнасьці Алеся Адамовіча я гаварыў ужо ў сваіх ранейшых паказаньнях.

Да гэтага я магу яшчэ дадаць, што я чуць не да канца 1928 году знаходзіўся пад моцным яго ўплывам. Мне, ужо тады да канца запалоненаму контррэвалюцыйнай ідэалёгіяй нацыянал-дэмакратызму, дужа імпанаваў іранічны склад яго думкі і гутаркі, яго сарказм па адрасе паасобных момантаў у практыцы нацыянальнай палітыкі партыі і кулдьтурнага будаўніцтва, па адрэсе паасобных працаўнікоў. Канчаткова пазбавіўся я ад яго ўплыву толькі пасьля свайго апошняга выступленьня — пасьля «ліста трох», калі ён перадаў Александровічу

маю нядобрую думку аб ім з прычыны таго, што Александровіч першы «здаўся» у справе гэтага ліста. Пасьля гэтага я, калі і сустракаўся з Адамовічам, дык абмяжоўваўся толькі звычайным прывітаньнем і ў гутаркі не ўступаў.

Само сабой паўстае пытаньне — якія карэньні паводзін Алеся Адамовіча — ці зьяўляюцца яны звычайнаю праяваю апазыцыйнага настрою члена партыі, ці зьяўляюцца зьвяном нейкай пазапартыйнай палітыкі. З упэўненасьцю адказаць на гэта не магу, але, на мой погляд, такая дзейнасьць нацыянал-дэмакратычнага контррэвалюцыйнага характару, якая праводзілася сыстэматычна на працягу цэлага шэрагу гадоў і ахплівала сабою даволі шырокі круг пытаньняў, можа патлумачыцца ня толькі асабістымі настроямі Алеся Адамовіча, але і тым, што ён быў зброяй у руках арганізаванай контррэвалюцыі. За гэта гаворыць яго даходзячая да анэкдатычных разьмераў «сачкаманія», якою ён заражаў і другіх, падкрэсьлена канспіратыўны тон гутарак, строгі разбор у справе новых знаёмстваў і яшчэ больш строгая абмежаванасьць у выбары людзей, якія карысталіся давер'ем. Я да такога «шчасьця» не дайшоў і таму не магу даць выстарчальнае тлумачэньне паводзінам і дзейнасьці Алеся Адамовіча.

У 1928 годзе мною было надрукавана ў часопісе «Полымя» апавяданьне «Вецер з Усходу». У гэтым апавяданьні я ў форме мастацкіх вобразаў праводзіў ідэю, што з усходу, ад Масквы, да беларускай моладзі прыходзяць хваравітыя, шкодныя зьявішчы, маральны распад і г. д. Я меў на ўвазе, галоўным чынам, так званую «есенінШчыну» і блізкія да яе зьявы. Але замест таго, каб асьвятліць іх, як плён выраджэньня буржуазнай грамады, я сумысьля падаў іх у асьвятленьні нацыянальным, як прадукт маральнага заняпаду ўсёй велікарускай нацыі. Гэта, безспрэчна, цалкам выцякала з маіх варожых адносін да ўсяго расейскага, незалежна ад клясавай прыналежнасьці і адносін да беларускай пралетарскай культуры. Апавяданьня свайго да здачы ў друк я нікому не чытаў. Прачытаў яго Чарот як рэдактар «Полымя» (Жылуновіча тады не было), нацыянал-дэмакратычнай сымболікі маёй не заўважыў і, паказаўшы некаторыя месціны, якія не трэба было паправіць, бо апавяданьне было тэхнічна не апрацавана, прыняў да друку. Крыху пазьней я ў літэратурным дадатку да «Савецкай Беларусі» зьмясьціў верш пад назвай «Зварот», дзе праводзілась таксама думка аб самабытнасьці Беларусі, але верш гэты прайшоў незаўважаным.





Пасьля таго як зьявіліся першыя адрыўкі Александровічавай паэмы «Цені на сонцы» я, пад уплывам гэтай паэмы, якая мне дужа тады спадабалася сваёй рэзкасьцю, хаця і ня ўсе персанажы яе былі мне знаёмы, я напісаў апавяданьне «Адзін дзень», у якім фігуравалі тыя ж персанажы і апрача іх Сянкевіч. Апавяданьне я даваў для друку ў «Савецкую Беларусь» і апрача таго экзэмпляр даў Алесю Адамовічу. Апавяданьне было напісана з фармальнага боку зусім дрэнна, але ў ім гучэлі контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакратычныя ноткі: там была дадзена карыкатура на Сянкевіча, [які] у якасьці рэдактара выкасоўвае з артыкулу Леніна вядомую фразу — «паскрабеце іншага камуніста і вы ўбачыце пад ім беларускага шавініста» (прычым артыкул у апавяданьні прыносіцца самім Леніным, сышоўшым са свайго партрэту) — і чытае пры гэтым цэлую натацыю адносна асноў ленінізму.

Улетку 1928 году мы з Александровічам надумалі напісаць па вершу на расейскай мове і зьмесціць іх у «Рабочым». Меркавалася такім чынам зрабіць скандальчык, бо, ведаючы нашыя нацыяналістычныя настроі, кожны чытач, больш-менш знаёмы з нашым культурным сьветам, прыняў бы гэтыя вершы за чысьцейшую іронію. Вершы былі напісаны і здадзены, для крэпасьці пад іх атрыманы аванс, але рэдакцыя «Рабочага» гэтых вершаў так і не зьмясьціла. Арыгінал майго верша перададзены мной ў ДПУ ў красавіку гэтага году.

Да гэтага ж часу адносіцца напісаньне маёй паэмы «Казка». У гэтай паэме, распрацаванай на аснове народнай казкі, у разьдзеле, у якім малюецца пэкла, даецца карыкатура на маіх літэратурных і палітычных праціўнікаў, як узвышэнцаў, Гарэцкага, Сянкевіча, Ліманоўскага. Наогул гэты адрывак прадстаўляе сабою шарж, зроблены з пэўнымі нацыянал-дэмакратычнымі адценьнямі. Паэма ўведзена мною ў зборнік маіх вершаў «Чырвоная сталіца», які быў прыняты да друку БДВ і друкаваўся і быў зьняты з машыны пасьля маёй высылкі.

У 1927–28 гг. я зьяўляўся студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэту. Хадзіў я туды даволі неакуратна, але нацыянал-дэмакратычную сваю лінію гнуў і там. Напрыклад, у пачатку 1928 году, чытаючы семінарскі даклад па заходняэўрапейскай літэратуры, я сумысьля і падкрэсьлена зрабіў яго на расейскай мове. Дзеля таго, што студэнты добра ведалі, хто я, як не сакрэтам для іх былі маі нацыянал-дэмакратычныя настроі, якія ўжо не раз сквазілі дагэтуль у маіх

творах і выступленьнях, то, як і трэба было чакаць, на гэтую маю дэманстрацыю была зьвернута ўвага і мне задалі запытаньне, чаму я раблю даклад не па-беларуску. Гэтага мне і трэба было, і я напаў на студэнтаў жа, заяўляючы, што яны не цікавяцца беларускай мовай і беларусізацыяй і таму я хацеў быць толькі больш зразумелым для большасьці (сказана было іранічна). Тое самае адказаў я і праф. Барычэўскаму, які таксама выказаў сваё здзіўленьне і незадавальненьне.

Жыва цікавіўся я і выступленьнем групы студэнтаў 4-га курсу ў 1927 годзе супроць дацэнта Ваўк-Левановіча. Выступленьне гэтае, насіўшае спачатку чыста акадэмічны характар, набыло потым пэўны контррэвалюцыйны зьмест. Рэакцыйныя велікадзяржаўныя погляды Ваўка-Левановіча на беларускую мову, выкладчыкам якой ён зьяўляецца, не раз знаходзілі належную ацэнку ў партыйным і савецкім друку. Студэнты 4-га курсу літэратурнага лінгвістычнага аддзяленьня па нейкаму поваду адмовіліся здаваць залік яму. Сярод гэтых студэнтаў была сястра Александровіча, і ён скарыстаў гэту акалічнасьць: разам з Адамовічам яны пачалі праводзіць заўзятую кампанію супроць Ваўка-Левановіча і аказывалі такім чынам маральнае падтрыманьне выступіўшым супроць яго студэнтам, адначасна ўкладаючы ў гэтае выступленьне новы зьмест,ператвараючы яго ў выступленьне нацыянал-дэмакратычнае.

Апрача маральнага падтрыманьня аказывалася і канкрэтнае, якое заключалася ў тым, што Александровіч, а часткова я і Вольны пад яго ўплывам даведваліся аб настроях членаў камісіі, назначанай для азнаямленьня з дзейнасьцю Ваўка-Левановіча, высьмейвалі тых членаў, якія схіляліся ў бок абароны Ваўка-Левановіча, пры ўсякім зручным выпадку заводзілі гутаркі з адказнымі працаўнікамі, як Баліцкі, напоўненыя варожымі настроямі як супроць Ваўка-Левановіча, так і супроць прыхільных да яго членаў камісіі. Я нават зьбіраўся напісаць паэму ці вялікі верш пра Ваўка-Левановіча, але так і не напісаў. Як ня помню пачатку гэтай справы, так не помню канца — у што яна вылілася — ня ведаю.

У канцы 1928 году, калі я, ужо будучы на 3-м курсе, павінен быў хадзіць на семінар Ваўка-Левановіча, я туды дэманстрацыйна не хадзіў і рабіў спробу ўгаварыць пакінуць семінар Хурсіка і Фаміна. Але ў мяне з гэтага нічога не выйшла, і я пакінуў гэтую думку, тым больш, што ўжо ў хуткім часе прыняў удзел у «лісьце трох пісьменнікаў» і было не да таго.





Я лічу неабходным спыніцца яшчэ раз на галоўным маім выступленьні — на гісторыі напісаньня контррэвалюцыйнага вершу «Пасеклі край наш папалам». Калі ішоў працэс Грамады ў Заходняй Беларусі, сярод беларускіх нацыянал-дэмакратаў адчуваўся пэўны ўздым. Даходзіла да таго, што нават Ластоўскі, які, як мне даводзілася чуць, знаходзіцца ў асабістай сварцы з Луцкевічам, сядзеўшым тады на лаве падсудных, апублікаваў у друку нейкую заяву, дзе адмаўляў гэту варожасьць. Александровіч нават назваў свайго сына Радаславам у чэсьць Астроўскага, што ён не раз падкрэсьліваў. Пісаліся палкія вершы, прымаліся рэзалюцыі і г. д. Уздым гэты тлумачыцца тым, што ў Грамадзе беларускія нацыянал-дэмакраты бачылі не толькі рэвалюцыйную, але і нацыянальную арганізацыю, за што гаварыла яскравае нацыянал-дэмакратычнае мінулае галоўных абвінавачаных Тарашкевіча і Рак-Міхайлоўскага. З другога боку пад шум кампаніі пратэсту заўсёды можна было працягнуць нацыянал-дэмакратычныя лёзунгі то тут, то там пад выглядам пратэсту супроць нацыянальнага прыгнечаньня беларусаў у Польшчы.

Калі быў абвешчаны прысуд, уздым дасягнуў свайго апагэя. У Менску ў той дзень адбывалася вялікая дэманстрацыя пратэсту. І вось тады нехта пусьціў чутку, быццам бы з Масквы прыйшла тэлеграма аб тым, каб не дапускаліся асаблівыя дэманстрацыі. У той час вяліся перамаўленьні з Польшчай аб заключэньні гандлёвага дагавору, і Масква быццам бы баялася, каб залішнія дэманстрацыі не пашкодзілі справе. Але быццам бы тэлеграма прышла занадта позна, калі дэманстранты ўжо ішлі па вуліцам і спыніць дэманстрацыю нельга было. Чутка гэтая была пушчана з акружэньня Алеся Адамовіча, адкуль нагогул распаўсюджваліся ўсе партыйныя навіны.

На другі дзень, у той час, калі нумар «Савецкай Беларусі» быў да астатку прысьвечаны пратэсту супроць прысуду, «Зьвязда» адвяла гэтаму толькі частку першай старонкі. У аднэй з гэтых газэт тады быў зьмешчан на першай старонцы артыкул пра Бесарабію, што, зразумела, было не да смаку нацыянал-дэмакратыі, якой хацелася б, каб газэты былі заняты выключна беларускімі справамі ў гэтыя дні (гэтым тлумачыцца ўпамінаньне Бесарабіі ў маім вершы). Для ўсіх нас была зразумела розьніца ў адносінах да прысуду «Зьвязды» і «Савецкай Беларусі»: пасьля вышэйпададзенай чуткі мы лічылі, што газэтам была дадзена адпаведная дырэктыва і «Зьвязда» гэту дырэктыву выпаўніла. А «Савецкая Беларусь», якой фактычна кіраваў

Каплан (Чарот быў у водпуску), не падначалілася гэткаму антынацыянальнаму загаду. Той факт, што назаўтра Сянкевіч прыйшоў у рэдакцыю і літаральна выгнаў адтуль Каплана ў прысутнасьці ўсіх супрацоўнікаў, яшчэ больш паддаваў жару. Вось у той дзень, калі здарылася гэта з Капланам, раніцою, Андрэй Александровіч прынёс у рэдакцыю контррэвалюцыйны верш пад назваю, наколькі помню, «Тэлеграма». Верш гэты ён пакінуў у рэдакцыі, а Камлюк, якому даручана было часова сакратарства ў рэдакцыі, пераслаў гэты верш у аддзел друку. Адтуль, па чутках, верш трапіў у ДПУ; і ДПУ стала шукаць аўтара. Вакол Андрэя Александровіча ў вачох тых, хто ведаў пра гэтую справу, пачаў ствараццa некаторы арэол, тым больш, што ніхто ня лічыў гэтага верша контррэвалюцыйным. Вось пад уплывам гэтага напісаў і я свой верш.

Праз некалькі дзён да мяне на кватэру зайшоў Алесь Адамовіч (прыпамінаю, што разам з ім быў і Александровіч), і я прачытаў яму гэты верш. Як ён на гэта рэагаваў, я ўжо казаў вышэй. У канцы 1928 г. гэты верш зноў трапіў мне ў рукі, і я зноў прачытаў яго Алесю Адамовічу, а праз нейкі час ён папрасіў яго ў мяне перапісаць, і я прадыктаваў яму гэты верш, прычым прасіў яго больш нікому не паказваць. Ён, аднак, даў гэты верш Прышчэпаву, аб чым мне казаў сам Прышчэпаў, якому верш таксама спадабаўся. Ці даваў Адамовіч гэты верш яшчэ каму, не ведаю. Чытаў я верш яшчэ Зарэцкаму і Вольнаму — кожнаму ў паасобку. Яны так жа, як і я, не глядзелі на верш, як на контррэвалюцыйны, а толькі як на твор, у якім, можа, больш згушчаны фарбы, чымся гэта патрэбна.

Нарэшце, ўжо пасьля таго, як я быў вызвалены з-пад арышту, я прачытаў гэты верш па памяці, наколькі мог прыпомніць, у кватэры Чарота ў прысутнасьці яго самога, Прышчэпава, Э. Русецкага і Ільючонка па просьбе апошняга: ён хацеў ведаць, што гэта за верш, праз які ўзнялася такая бура і, паслухаўшы верш, знайшоў, што ў ім нічога контррэвалюцыйнага няма. Іншыя ад каментароў устрымаліся, апрача Чарота, які чытаў верш раней і ў якога стварыўся погляд на яго як на контррэвалюцыйны. Яму і не дужа спадабалася, што зайшла такая гутарка і што мне прыйшлося прачытаць верш. І яшчэ раз я чытаў адрыўкі з вершу Маракову, які прыязджаў да мяне ў Смаленск у пачатку ліпеня 1929 году. Пра гэта ніжэй.

Тэатральная дыскусія вынікла пры наступных акалічнасьцях. На адным са сходаў «Полымя», на якім прысутнічаў сэкратар ЦК КП(б)Б





Васілевіч, Зарэцкі загаварыў з ім аб тым, што нашы газэты не даюць нам выказаць свабодна сваёй думкі, у той час, як зьяўляюцца такія рэчы, як тэматычны плян Белдзяржкіно, дзе нацыянальны момант пададзены, на яго думку, неправільна. Васілевіч сказаў, што ён не мае нічога супроць таго, каб Зарэцкі выказаў сваю думку, тады Зарэцкі праз некалькі дзён напісаў артыкул, у якім разграміў гэты тэматычны плян і даў першыя моманты так званай тэорыі самабытнасьці, якая канчаткова была сфармулявана мною ў артыкуле «Даволі анэкдотаў», надрукаваным праз 1–2 тыдні. Свайго артыкулу я да здачы ў друк нікому не чытаў і ні з кім не раіўся. Напісаўшы, прачытаў Чароту, як рэдактару, і Чарот пусьціў артыкул, зрабіўшы, здаецца, пару паправак. Дзеля таго, што я, не гледзячы на вострую кампанію, якая ў выніку майго артыкулу разгарнулася ў «Зьвязьдзе», не адмовіўся ад свайго контррэвалюцыйнага пункту погляду і напісаў другі артыкул. Гэты другі артыкул я чытаў Зарэцкаму і Жылуновічу, перш чымся здаць яго ў друк. Абодвы прызналі яго добрым, і я аддаў яго спачатку ў «Зьвязду», дзе яго ня згодзіліся друкаваць, а пасьля і ў «Савецкую Беларусь», дзе яго друкаваць не захацелі. Гэта яшчэ больш раззлавала і мяне і Зарэцкага, бо мы лічылі, што ўся гэта кампанія ўзнята Сянкевічам, Асьмовым, а, можа, і Васілевічам асабіста супроць нас; палітычнай сваёй памылкі, контррэвалюцыйнасьці занятай намі пазыцыі мы не хацелі разумець — усе ў нашых вачох памыляліся, апрача нас.

Крыху пазьней, у часе зьезду БелАПП'у зноў аднавілася ў мяне гутарка пра тэатральную дыскусію з загадчыкам АПА ЦК КП(б)Б Стасевічам. Ён узяў мой артыкул, прачытаў яго, а пасьля азнаёміў з пастановай бюро ЦК аб тэатральнай дыскусіі і спрабаваў угаварыць мяне напісаць ліст у рэдакцыю, дзе я прызнаў бы сваю памылку. Я, аднак, усё яшчэ адчуваючы сваю правату і перакананы ў тым, што кампанія была раздута штучна, такі ліст даць адмовіўся. Да поўнага зразуменьня контррэвалюцыйнасьці ў сваёй тэорыі я прышоў значна пазьней.

У хуткім часе пасьля тэатральнай дыскусіі пачаўся ўсебеларускі з'езд пралетарскіх пісьменнікаў. Я, Александровіч і Зарэцкі рашылі выступіць на гэтым зьезьдзе і даць бой як прадстаўнікам маскоўскага ВАППу, так і новаму кіраўніцтву «Маладняка», якое перабудоўвала яго працу па-новаму, пераводзячы яе на рэйкі паглыбленьня інтэрнацыянальных сувязяў і пашырэньня пралетарскага

сэктара ў літэратуры. Пакуль стаялі на чале «Маладняка» мы, усе спробы ВАППа завязаць з намі сувязь разьбіваліся аб сьцену нашай упартасьці, бо мы лічылі, што ВАПП нас хоча закабаліць, што сувязь з ім прывядзе беларускую пралетарскую літаратуру, першымі прадстаўнікамі якой мы лічылі сябе, не да разьвіцьця, а да заняпаду, да рабскага перайманьня, пра якое казаў я ў тэатральнай дыскусіі.

Па сутнасьці нежаданьне гэтае завязаць сувязь з расейскай пралетарскай літэратурай грунтавалася на нацыянал-дэмакратычным пачуцьці варожасьці да ўсяго расейскага без выключэньня. На гэтай жа падставе фактычна «Полымя» бойкатавала сустрэчу Максіма Горкага ў часе яго першага праезду праз Беларусь і бойкаватала вечар, наладжаны для яго ўшанаваньня. Повадам для бойкатаваньня служыў адказ Горкага ўкраінскаму пісьменьніку Сьлісарэнка на зварот да Горкага ў справе перакладу яго твораў на украінскую мову. Адказ гэты Горкі потым сам асудзіў і прызнаў неправільным, але мы на падставе яго лічылі Максіма Горкага расейскім вялікадзяржаўнікам і зусім ігнаравалі характар і зьмест яго творчасьці.

На ўрачыстым адчыненьні зьезду пралетарскіх пісьменнікаў Міхась Зарэцкі выступіў з прамоваю, у якой на словах адмаўляючыся аб маёй тэорыі самабытнасьці, па сутнасьці пацьвердзіў яе прынцыпы. У прыватнасьці, гаворачы пра ўступленьне «Маладняка» у ВАПП, ён адазваўся аб гэтым дужа скэптычна, сказаўшы, што ён устрымліваецца ад віншаваньня, бо няўпэўнены, ці прынясе гэта карысьць беларускай пралетарскай літаратуры. У часе работы зьезду Зарэцкі і я выступалі дужа рэзка супроць ВАПП'а. Зарэцкі выступаў з прамоваю больш прынцыповага характару. Я — з канкрэтнымі фактамі, якія мелі на мэце скампраметаваць ВАПП у вачох беларускіх пісьменьнікаў.

Не абмежаваўшыся прамовамі, мы скалачвалі апазыцыю з былых сяброў «Маладняка» (у БелАПП увайшлі і другія арганізацыі). Рабілі гэта шляхам супольных выпівак, і нельга сказаць, каб мы не дабіліся некаторага посьпеху, што выявілася потым у спрэчках адносна назвы будучай арганізацыі.

Назва «Маладняк» ужо набыла некаторыя нацыянал-дэмакратычныя традыцыі, зьвязаныя хаця б з нашай дзейнасьцю ў «Маладняку». Дзеля гэтага мы агітавалі сярод маладнякоўцаў за тое, каб была пакінута гэтая назва. І сапраўды, калі паднялося пытаньне аб назве, паднялася даволі ўпартая барацьба з боку маладнякоўцаў





за старую назву. Зарэцкі і Александровіч хадзілі на пасяджэньне фракцыі, і фракцыя ня вынесла ніякай пастановы па гэтым пытаньні, пакінуўшы яго на вырашэньне зьезду. На зьездзе пачаліся вялікія спрэчкі, і пры галасаваньні амаль ўсе былыя маладнякоўцы, асабліва менскай філіі, галасавалі за старую назву, хаця і засталіся ў меншасьці. Пасьля правалу старой назвы я, седзячы тут жа ў залі, напісаў і пусьціў па руках наступны верш:

Дол капалі яму далакопы даўно,
Далакопы чужыя, ня нашы:
— Вы падмурак для нас, для сяўбы нашай гной,
Для жывёліны нашае паша…

Самі вінны ва ўсім. Ляжа ганьба на нас;
Наша воля, наш розум і сіла
Хай маўчаць і цяпер, ў гэты дзень, ў гэты час
Над глыбокай і сьвежай магілай.

Аб лёсе гэтага верша і ступені яго распаўсюджваньня я нічога не ведаю, прынамсі, чуць мне пра яго не даводзілася. Пасьля гэтага былыя маладнякоўцы наладзілі на кватэры Туміловіча (а, можа, Звонака) вечарыну, на якую запрасілі Александровіча, мяне, Зарэцкага і Чарота. Вечарына мела характар хаўтураў па «Маладняку» і на ёй асабліва даставалася выпадкова трапіўшаму туды Барашку, якога лічылі дужа блізкім да справы рэарганізацыі «Маладняка» у БелАПП. Дужа «злословили» таксама і Сянкевіча, якога лічылі галоўным далакопам «Маладняка» як нацыянальнай арганізацыі.

Пераходжу да апошняга свайго выступленьня — да ўдзелу ў падпісаньні «ліста трох». За два дня да зьмяшчэньня гэтага ліста я прышоў на катэру да Андрэя Александровіча і застаў там Зарэцкага. Гутарка ішла на тэму аб выпадах супроць пісьменьнікаў у насьценгазэце БДУ. Зарэцкі і Александровіч паведамілі мяне аб тым, што яны рашылі кінуць універсітэт і перайсьці вучыцца ў другі, хаця б на Украіну. Адчувалася, што ініцыятыва гэтага мерапрыемства належыць Александровчіу. Апрача таго, яны рашылі зрабіць гэта дэманстратыўна, каб зьвернуць увагу грамадзкасьці на непарадкі ў справе беларусізацыі БДУ (мы лічылі, што гэта так і ёсьць). Мне засталося толькі далучыцца да іх, і мы ўмовіліся сабрацца ў Зарэцкага. Улічваючы, што, калі справа з лістом стане вядомай, то нам не дадуць яго надрукаваць, мы ўмовіліся трымаць гэта ў строгім сакрэце.

На другі дзень сабраліся ў Зарэцкага і напісалі ліст. Пісалі яго калектыўна, абгаворваючы кожную фразу і дзеля гэтага «працавалі» даволі доўга.

Назаўтра раніцою пайшлі ўсе разам да Чарота і зьвярнуліся да яго прыблізна з такою прамоваю: «Мы ад цябе ніколі нічога не прасілі і не патрабавалі, дык зрабі нам таварыскую ўслугу раз у жыцьці — надрукуй гэты ліст». Чарот заікнуўся быў наконт таго, што, можа, не варта было б рабіць гэта, бо будзе вялікі скандал, але мы яму і гаварыць не далі. Тады Чарот паклікаў сэкратара рэдакцыі і аддаў яму ліст для пасылкі ў друкарню. Аднак мы баяліся, каб Чарот не сазваніўся з кім па тэлефону і дзеля гэтага рашылі вачэй з яго не спускаць. І сапраўды некалькі разоў на працягу дня Чарот памыкаўся пазваніць па тэлефоне, і стараўся як-небудзь нас выкурыць. Але мы хадзілі за ім назіркам. Пасьля працы прышоў яшчэ Прышчэпаў, які аднёсься спачуваючы да нашай думкі, але знайшоў, што яна была занадта рэзка выражана. Здаецца, падышоў яшчэ Алесь Адамовіч, і тады мы усе разам выбраліся на кватэру да мяне і забралі Чарота, каб ён не змог затрымаць ліста. У мяне наладзілі закуску (выбралі маю кватэру, бо там нідзе паблізасьці няма тэлефона) і выпусьцілі Чарота толькі тады, калі былі спакойны, што ён ужо ня здолее затрымаць ліст.

Як мы і чакалі, ліст зрабіў дужа моцнае ўражаньне — нас пачалі «разделывать под орех», і самае наша выступленьне па заслугах назвалі контррэвалюцыйным. Пасьля таго, як шырокая грамадзкасьць ужо выказалася поўнасьцю, з Зарэцкім і Александровічам вёў нейкія перагаворы Баліцкі; у выніку гэтых перагавораў яны падпісалі ліст, у якім адмаўляліся ад «ліста трох» і прызналі яго палітычна шкодным. Да гэтага супроць іх былі ўжыты рэпрэсіі па партыйнай лініі — Зарэцкі нават быў выключаны з партыі Фрунзаўскім райкомам. Калі мы давалі свае тлумачэньні спэцыяльнай камісіі, вылучанай ЦКК, мы, адчуваючы, што выступленьне наша мае больш контррэвалюцыйны характар, чымся мы думалі, мы свае паказаньні пагаджалі паміж сабою і стараліся ў іх прадставіць справу так, што мы быццам былі прымушаны да гэткага кроку, што мы раней зьвярталіся да партыі па гэтай справе і нічога з гэтага ня вышла (мы ў прыватнай гутарцы скардзілі на атмасферу ў БДУ загадчыку АПА Стасевічу).

Хуткая наша «здача» ў гэтым выступленьні тлумачыцца тым, што «здаўся» Александровіч, а Зарэцкі і я былі падзелены тым, што





Зарэцкі быў камуністам, а я тады ўжо фактычна выбыў з камсамолу. З гэтага часу ў мяне і ў Зарэцкага стварылася антыпатыя ў адносінах да Александровіча. Антыпатыя гэта зьявілася па сутнасьці ня толькі цяпер, але, у мяне, прынамсі, насьпевала ўжо і раней. Александровіча я ведаю яшчэ з 1921 году, пазнаёміўшыся з ім у «Беларускай хатцы». Мы амаль ня ў адзін дзень з ім пачалі літэратурную дзейнасьць, рабілі ў ёй аднолькавыя посьпехі, працавалі ў тых жа гуртках «Беларуская хатка» і імя Сьцяпана Булата і, такім чынам, вырасталі ў зусім аднолькавай атмасфэры нацыяналістычных настрояў. Яшчэ пры польскай акупацыі Александровіч шмат круціўся ў колах беларускай белагвардзейшчыны, якая гаспадарыла тады ў «Беларускай хатцы» і сярод якое Александровіч меў знаёмствы, якімі нават ганарыўся. А ў 1922 годзе Александровіч падаваў заяву ў камсамол і ня быў прыняты, але нажыў сабе ворага ў асобе Анатоля Вольнага (пра гэта я гаварыў вышэй). У КСМ хацеў Александровіч уступіць не таму, што яго палітычныя погляды супадалі з праграмай КСМ, а проста таму, што спадзяваўся забясьпечыць сабе цэлы шэраг ільгот, не затрачваючы дзеля гэтага асабліва многа энергіі.

Аб кар'ерызме Александровіча сьведчыць яшчэ і наступны факт: калі я з вялікім трудом сяк-так прымірыў яго з Вольным, у мяне вынікла сварка з апошнім, і мы на нейкі час перасталі вітацца; Александровіч, каб падслужыцца да Вольнага, які меў тады магчымасьць устроіць яго на працу, таксама перастаў са мною вітацца без усякага повадy. Прыводжу гэты прыватны выпадак таму, што і ў далейшым Александровіч заўсёды стараўся быць у ладзе з людзьмі, якія б маглі быць для яго карыснымі. Набыўшы сымпатыю сэкратара ЦК Васілевіча, ён часта хадзіў да яго «пагутарыць», удаваў стопроцантную шчырасьць, палітычную вытрыманасьць і папутна выклянчываў то месца на курорце, то якую-небудзь грашовую дапамогу і г. д. За вочы ж той самы Васілевіч набываў у Александровіча самыя непрыемныя эпітэты.

Таксама было і з Язэпам Адамовічам, з тэю толькі розьніцай, што Александровіч умудраўся знаходзіць ў яго настроі, аналёгічныя нашым, г. зн. нацыянал-дэмакратычныя, і ўсюды рэклямаваў яго як «свайго чалавека». Александровіч уціраўся ў давер'е да даказных работнікаў і выкарыстоўваў гэта давер'е ў мэтах палепшаньня свайго дабрабыту. Яго ідэалам зьяўляецца забясьпечанае «капейкаю на чорны дзень» спакойнае сямейнае жыцьцё, і дзеля гэтага ён робіць

усё магчымае, каб забясьпечыць сабе добрую службовую кар'еру. Ён ніколі не браўся за працу, якая ня высока аплачваецца (у Полацку ён, здаецца, меў на гэту тэму ня зусім прыемную для яго гутарку з АКК). Да таго ж, каб забясьпечыць сабе кар'еру, ён імкнуўся заўсёды быць на віду. Якраз гэтым тлумачыцца яго ўдзел у такіх гучных выступленьнях, як «ліст трох» і «ліст сямі». У першым выпадку ён падняў шум вакол свайго імя і першы «здаўся». У другім выпадку ён, апрача ўзьнятага шуму, яшчэ «патрафляў» такому ўплывоваму чалавеку, як наркамасьветы Баліцкі, які, як вышэй была паказана, таксама ўблытаўся ў гэту контррэвалюцыйную вылазку і падаў ідэю аб ёй.

Палітычны твар Андрэя Александровіча, калі прызнаць, што такі ў яго ёсць, вызначаецца ў канчатковым рахунку яго выступленьнямі і, галоўнае, блізасьцю з Алесем Адамовічам. Уплыў Адамовіча на Александровіча і ўзаемнае іх давер'е — неабмежаванае. Такая блізасьць устанавілася ў іх яшчэ з часоў супольнай працы ў Калінічшыне, а ўжо ў Полацку Александровіч нават жыў у кватэры Адамовіча. У іх выпрацавалася агульнае разуменьне адзін аднаго, агульныя сымпатыі, агульныя антыпатыі. Адамовіч не раз скарыстоўваў рыфмавальныя здольнасьці Александровіча («Кирпичики», «Цені на сонцы») для прапаганды сваіх думак Адамовіч недалюбліваў Ігнатоўскага — Александровіч ня любіў яго таксама, Адамовіч варожа настроены супроць Краскоўскага, Гуткоўскага і другіх — Александровіч піша «Цені на сонцы», Александровіч ненавідзіць Жылку — Адамовіч усюды, дзе можа, разьбірае Жылку па костачках. Пры пляткарскіх здольнасьцях абодвых, яны разносілі сваю нянавісьць дужа шырока і зараджалі ёю другіх. Пры гэтым двурушніцтва і тут іграла сваю ролю. Сянкевіч, напрыклад, наколькі я мог судзіць, лічыў Александровіча ледзь не сваім адданейшым прыяцелем, у чым яго, відаць, пераконваў Александровіч, а за вочы Александровіч ніколі не называў Сянкевіча па імені, замяняючы яго хадавою клічкаю «ішак» (дадзена, наколькі помню, мною); нават раз, калі я ў нейчай хаце сустрэўся з Сянкевічам і загаварыў з ім, дык той жа Александровіч ледзь не падбухторваў Вольнага і Зарэцкага бойкатаваць мяне, хаця добра ведаў, што я да Сянкевіча адношуся з няменшай антыпатыяй.

Варожыя адносіны да Сянкевіча мелі пад сабою бязумоўна палітычную падставу: прычынаю іх служыла лінія, узятая Сянкевічам





у нацпалітыцы і ў кіраўніцтве літэратураю, якая, безспрэчна, не супадала з контррэвалюцыйнаю нацыянал-дэмакратычнаю лініяй, якой трымаліся мы, лічучы яе за адзіна правільную. Палітычны твар Александровіча як нацыянал-дэмакрата выявіўся не раз і ў шэрагу другіх момантаў яго дзейнасьці, аб якіх я гаварыў ужо ў маіх ранейшых паказаньнях.

Лічу неабходным яшчэ раз спыніцца на маёй гутарцы з Александровічам па пытаньні аб яго пераходзе з «Полымя» ў БелАПП. Яшчэ да гэтай гутаркі Александровіч не раз скардзіўся і мне, і Зарэцкаму, што на яго ў ЦК націскаюць, каб ён пераходзіў у БелАПП на роль кіраўніка. Здавалася гэта нам зусім верагодным і мы нічога супроць гэтага ня мелі, тым больш, што, яшчэ пакідаючы «Маладняк» перад заснаваньнем «Полымя», Зарэцкі, Чарот і я меркавалі, што Александровіч застанецца ў «Маладняку» і будзе кіраваць ім. Потым час ад часу Александровіч казаў, што на яго зноў націскаюць, каб ён перайшоў у БелАПП і вось, пад канец 1928 году, ходзячы са мною па вуліцы, Александровіч сказаў мне, што ён гатоў пайсьці ў БелАПП з тым, каб навесьці там свае парадкі. Пад гэтымі «сваімі парадкамі» разумеўся перагляд лініі БелАПП'у у бок адыходу ад сувязі з Масквой, большага насычэньня працы БелАПП'у нацыянальным зьместам і выгнаньне з БелАПП'а нашых літэратурных праціўнікаў, як Гаўрук, Ганчарык, Вечар (якія ў сваіх выступленьнях востра выступалі супроць нас і наогул супроць нацыянал-дэмакратыі), так і палітычных, як Ліманоўскі, Сянкевіч, Мурашка і г. д. Я, зразумела, аднёсься да гэтай ідэі Александровіча спачуваючы, бо рэалізацыя яе азначала па сутнасьці скасаваньне і ліквідацыю тэй палітычнай лініі, якую павёў БелАПП і якая была для мяне варожая. Я зусім згадзіўся з ім і сказаў, што, калі ён гэта зробіць, то зробіць добра. Ці канчаткова ён рашыў зрабіць так — ня ведаю. Магчыма, што пазьнейшы яго пераход з «Полымя» у БелАПП кіраваўся якраз жаданьнем узарваць апошні, і не ўдалося зрабіць гэта толькі дзякуючы таму, што кіраўніцтва БелАПП'у ў яго рукі так і не трапіла.

Міхася Зарэцкага я ведаю з 1924–25 году, калі мне даводзілася сустракацца з ім на маладнякоўскіх сходах і зьездах. Больш блізка я пачаў з ім сходзіцца крыху пазьней, у перыяд адыходу «Узвышша», які прымусіў нас тады ўзяцца за замацаваньне «Маладняка». Фігура Міхася Зарэцкага як вытрыманага камуніста для мяне была тады зусім яснай. У лісьце, які пісаў мне тады Александровіч з Полацку,

гаварылася пра Зарэцкага, як пра «ісьцінага, вытрыманага», што значыла, што палітычная лінія Зарэцкага адрозніваецца ад нашай, якая ўжо пачынала загінацца ў нетры нацыянал-дэмакратызму. У гэты час Зарэцкі яшчэ не займаў у літэратуры такога выдатнага месца, як пазьней. Ён толькі што пакінуў службу ў Чырвонай Арміі, дзе ўступаў у партыю і дзе, здавалася, атрымаў належную загартоўку. Працаваў ён у аддзеле друку ЦК пад непасрэдным кіраўніцтвам Алеся Адамовіча, і ўплыў апошняга бязумоўна паслужыў адным з першых штурхачоў, ад якіх Зарэцкі скаціўся да нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыі. Немалую ролю адыгрываў тут уплыў мой і Вольнага, якія раней за яго дайшлі да свайго нацыянал-дэмакратычнага фініша. Міхась Зарэцкі меў салідную палітычную адукацыю (ў параўнаньні з намі) і таму лічыў, што палітычныя яго пазыцыі нязрушныя. Тым часам, калі краіна ўступіла ў паласу абвостранай клясавай барацьбы і шчыльна падыйшла да задач паскоранага сацыялістычнага будаўніцтва — і ён, і ўсе мы не адчулі глыбачэйшага гістарычнага зруху, сталі спачатку таптацца на месцы, а потым і зусім выляцелі з каляіны. Міхась Зарэцкі ўспрыняў марксысцкія палажэньні і ў літэратурным пытаньні і ў пытаньні нацыянальным у значнай меры як нейкія догмы і не заўсёды ўмеў падыйсьці да іх дыялектычна.

Другім момантам, які быў рашаючым у яго скатываньні, было яго шпаркае прасоўваньне ў першыя шэрагі літэратуры. Як адзін з выдатнейшых сяброў «Маладняка», адзін з найбольш сур'ёзных і працавітых пісьменьнікаў, ён быў высунуты самымі абставінамі таго часу, бо ад «Маладняка», які стаяў на пазыцыях будаўніцтва пралетарскай літэратуры, адкалолся «Узвышша» — група пісьменьнікаў высокакваліфікаваных. «Маладняк» павінен быў мець каго супрацьпаставіць узвышаўцам. Гэта акалічнасьць была аднэй з прычын шпаркага поступу Зарэцкага ў літэратуры і ўзросту яго папулярнасьці. Зарэцкі ж сам адносіў гэта выключна да сваёй уласнай працы, што спрыяла разьвіцьцю ў ім залішняй пісьменьніцкай самаўпэўненасьці, якая яшчэ больш аддаляла яго ад жыцьця і ад усіх тых працэсаў, якія вакол яго адбываліся.

І трэцім момантам была літэратурная гурткоўшчына, якая ўжо засмактала многіх. Апошнія гады Зарэцкі таксама, як і я, быў зьвязаны толькі з вузкім абмежаваным кругам людзей, з якімі сышоўся на аднолькавых поглядах у нацпытаньні, у пытаньнях культуры





і літэратуры. Асабліва шкодны ўплыў зрабіла на яго замежная паездка, дзе ён, як і другія, убачыў вонкавы бляск за твар сапраўднай культуры. Яго апавяданьні пра Эўропу будзілі і ў ва мне захапленьне заходняй «культурай». Заходняя літэратура здавалася нам значна вышэйшаю за літэратуру расейскую, і асабліва савецкую, тым больш, што для нас адзіная пралетарская культура распадалася на паасобныя нацыянальныя культуры.  Расейскую пралетарскую літэратуру разглядалі мы як неразрыўны працяг расейскай дваранскай і буржуазнай літэратур, якія да таго, як і заходняя літэратура, адзначаліся ўдасканаленасьцю і вытворнасьцю форм. Суб'ектыўна мы змагаліся за тое, каб стыль пралетарскай літэратуры, яе формы сталі такімі ж удасканаленымі і вытворнымі, але ў гэта змаганьне мы не ўкладалі клясавага зьместу, бо ў нас атрафавалася ўскае пачуцьцё клясавасьці. І ў выніку гэтага мы несьвядома для сябе прыйшлі да чужога для пралетарыяту фармалізму і аб'ектыўна ў працэсе клясавай барацьбы ў літэратуры апынуліся па той бок барыкад і сталі ў шэагі клясавага ворага. Справу паглыбілі яшчэ нашы нацыяналістычныя адхіленьні. І таму, калі Зарэцкі ў «Падарожжы ў новую зямлю» даваў вобраз чарота, як вобраз прыдушанай, не маючай магчымасьці сказаць слова Беларусі, дык гаварыў ён гэта ўжо як контррэвалюцыянер, суб'ектыўна ім не зьяўляючыся.

Калі ён разам са мною і Александровічам выступіў супроць партыі у «лісьце трох пісьменьнікаў», ён гэта рабіў як контррэвалюцыянер, але падставай у гэтай контррэвалюцыйнасьці было пераканаsuccessfully, што партыя памыляецца, што паасобныя партыйныя працаўнікі, якім партыя даверыла кіраўнічую ролю, ігнаруюць праўдзівую палітыку партыі, робячы гэта як па асабістых меркаваньнях, так і па сваёй палітычнай чужасьці для партыі. Якраз так глядзелі мы ўсе на Сянкевіча. А на рэдактара «Зьвязды» Асьмова мы глядзелі як на сьвядомага і заклятага ворага беларускай мовы і беларускай культуры. У Зарэцкага для Асьмова ня было іншай клічкі, як «Муравьев». Вынікала гэта з таго, што «Зьвязда» ў той час ня ў прыклад «Савецкай Беларусі», дзе гаспадарылі мы, трымалася сапраўднай ленінскай нацыянальнай палітыкі і не гладзіла нас па галоўцы за нашы нацыянал-дэмакратычныя выступленьні ў літэратуры. Па сутнасьці ў Зарэцкага была дужа мала нацыянал-дэмакратычных выступленьняў: тэатральная дыскусія, «Падарожжа на малую зямлю», «Крывічы», пара публічных выступленьняў. І тым ня менш Зарэцкі зьяўляецца

алнэю з віднейшых фігур нацыянал-дэмакратызму з тае пары, калі нацыянал-дэмакратызм паказаў ужо свой клясавы твар і ашчацініўся.

У Зарэцкага не было нават такіх гучных выступленьняў, як у мяне, але яго заўсёды акружала тая неўлавімая атмасфэра, якая паказвае ідэалёгію чалавека. Жарт, іранічныя словы, часам толькі усьмешка, пушчаная да рэчы — вось гэта стварае вакол тэй ці іншай асобы такую выразную атмасфэру, што нельга памыліцца ў ідэалёгічнай імкнёнасьці гэтай асобы. Я не магу прывесьці ніводнае гутаркі з Зарэцкім, падобнай да тых, якія мне даводзілася мець з Александровічам, бо ў мяне ніколі такіх гутарак не было: мы заўсёды ўмелі разумець адзін аднаго з паўслова. Я магу толькі сказаць, што ў Зарэцкага нацыянал-дэмакратычная ідэолёгія з'яўлялася нечым больш суцэльным, глыбокім і прынцыповым, чымся ў Александровіча. Александровіча я ў адным з маіх ранейшых паказаньняў назваў «нацыянал-кар'ерыстам»: ён паслужываўся ўчора да нацыянал-дэмакратаў, бо гэта яму было выгадна; заўтра ён стане махровым вялікадзяржаўнікам, калі гэта будзе абяцаць яму дабрабыт.

Зарэцкі наадварот — ён свае погляды перад другімі і перад самім сабой прынцыпова абагульняе і яго цяжка зьбіць з яго пазыцыі, ды і сам ён туга паддаецца ўсякаму пераламу і пераходу. Палітычная эвалюцыя Зарэцкага праходзіла на вачох усёй грамадскасьці. Добра ведаючы Зарэцкага, я перакананы, што ніякім чужым уплывам ці кіраўніцтвам растлумачыць гэтай эвалюцыі нельга, як нельга аднесьці да чаго б та ні было ўплыву яго паасобныя выступленьні. Нават у такіх выпадках, як «ліст трох», калі ініцыятыва належала не яму, яго ўдзел зьяўляўся самастойным і незалежным. Я магу прывесьці адзін момант з эвалюцыі палітычных поглядаў Зарэцкага ў апошнія часы.

Калі я прыязджаў у гэтым годзе ў Менск, мы з ім гаварылі пра яго і пра маё палітычнае становішча. Ён зусім адобрыў маё рашэньне стаць на шлях прызнаньня, падкрэсьліў, што я павінен сказаць усё, што ведаю аб нацыянал-дэмакратызму і нацыянал-дэмакратах, але ён выходзіў з неразуменьня сваёй і маёй аб'ектыўна контррэвалюцыйнай пазыцыі. Ён разглядаў нашы выступленьні, як нешта накшталт унутрыпартыйнага ўхілу, ад якога да контррэвалюцыі яшчэ дужа далёка. Ён казаў, што сам стаў на шлях жорсткай самакрытыкі. Але я думаю, што, калі ён дагэтуль ня ўсвядоміў тэй контррэвалюцыйнай ролі, якую адыгрываў, да шляху самакрытыкі яму яшчэ





далёка, бо ён прабіраецца бакавымі дарожкамі самасупакойваньня і самаапраўданьня і, ў лепшым выпадку, дойдзе да самаабману. Праўда, прайшло ўжо шмат часу пасьля гэтай гутаркі, і з таго часу я нічога ня ведаў пра настроі і погляды Зарэцкага. Магчыма, што за гэты час ён сапраўды стаў на шлях самакрытыкі і мае на гэтым шляху посьпехі.

З таварышоў маіх, якія таксама былі апанаваны нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіяй, я павінен спыніцца яшчэ на Вольным. У мінулым член КСМ, быў добраахвотнікам на польскім фронце, пісаў вершы па-расейску. У 1922–1923 гг. сышоўся з беларусамі-камуністамі Чаротам і Маразоўскім, якія яго беларусізавалі вельмі хутка. Апошняга Вольны дужа любіў і ледзь не да самага канца ніяк не мог паверыць, што ён стаў правакатарам. У сваім захопленьні нацыяналістычнымі ідэямі ён зрабіў такі шпаркі посьпех, што, калі я, напрыклад, сустрэўся з ім у Полацку ў 1925 годзе пасьля таго, як не бачыў месяца 3, я быў проста зьдзіўлены тымі зьменамі, якія ў ім адбыліся. Ён пачаў захапляцца нацыянал-дэмакратычнай рамантыкай, якая пачала культывавацца ў той час. Яго цікавіла беларуская старасьветчына ў вобразах беларускіх бунтароў XVII стагодзьдзя, аб якіх недзе выкапаў матар'ялы Дыла. Вобраз Кастуся Каліноўскага навеяў яму цэлую паэму і г. д. У далейшым Вольны адышоў ад партыі і камсамолу і ў сваіх поглядах арыентаваўся выключна на Зарэцкага, Александровіча, Адамовіча, Жылуновіча і мяне. Ён заўсёды быў у курсе нашых выступленьняў, нават і сам прымаў удзел у «лісьце сямі», пісаў фельетоны на тэмы, дадзеныя Адамовічам і другімі. Але ніякай ініцыятывы не праяўляў і самыя погляды яго былі заўсёды блытаныя, бо ён ужо многа гадоў не чытае палітычнай літэратуры, не працуе над сваім палітычным разьвіцьцём і корміцца ў гэтых адносінах толькі тым, што пачуе ад другіх. Аднак пры сваёй экспансыўнасьці ён быў заўсёды прыгодным нацыянал-дэмакратам тым, што ўмеў будзіраваць думкі акружаючых, ствараць адпаведны настрой. У апошні час яго палітычнае «credo» на кожны даны момант адпавядае «credo» Зарэцкага.

Лічу неабходным спыніцца на ўзаемаадносінах нашага кола з старой беларускаю інтэлігенцыяю, у падаўляючай большасьці сваёй нацыянал-дэмакратычна настроенай. У першыя гады існаваньня «Маладняка» адносіны гэтыя былі выразна варожымі. Тлумачыліся яны нашаю ваяўнічасьцю і тым, што мы лічылі сябе адзінымі

прадстаўнікамі пралетарскай плыні ў беларускай культуры. Пра «Маладняк» мы гаварылі як пра маладую Акадэмію, якая павінна разьвівацца поруч са старою, а потым і замяніць старую. На першым пленуме ЦБ «Маладняка» было канстатавана, што «Маладняк» перарастае рамкі літэратурнай арганізацыі, бо пры ім ужо заснавалася (у некаторых філіях) сэкцыі — мастацкая, тэатральная і г. д. Было прызнана мэтазгодным прыняць другую назву, але зьмена назвы дыла адкладзена да з’езду. А ўжо праз нейкі час кіраўнік віцебскай філіі Касьпяровіч самавольна пачаў іменаваць «Маладняк» не як аб’еднаньне паэтаў і пісьменьнікаў, а як аб’еднаньне паэтаў, пісьменьнікаў і культурных працаўнікоў. Апошні дадатак пакідаў ужо дужа шырокае поле для меркаваньняў аб тым, хто можа быць сябром «Маладняка», тым больш, што статуту не было аж да 1927 году.

Такім чынам аднэй з прычын нашай варожасьці да старой інтэлігенцыі, працаваўшай у Інбелкульце, была як бы тэндэнцыя «Маладняка» перарасьці ў новы Інбелкульт, тэндэнцыя, у якой пастаў ня было ані як. Другою прычынай было тое, што мы лічылі сябе прадстаўнікамі ўжо новай пралетарскай культуры, а старая інтэлігенцыя амаль што ўся была зьвязана з рознымі антысавецкімі плынямі ў мінулым. У выніку, непрыязнь пашыралася і на камуніста, як напрыклад, на Жылуновіча, якому быў прысвечаны шэраг эпіграм. Нават на пасяджэньнях камфракцыі Інбелкульта маладнякоўцы трымалі сябе як прадстаўнікі варожай дзяржавы, і там часта адбывалася вострая пікіроўка. На пасяджэньні фракцыі пленума ЦБ у сакавіку 1925 году ў процівагу прапазыцыі сэкратара КП(б)Б Крыніцкага была прынята рэзалюцыя аб байкоце Інбелкульта і старой інтэлігенцыі: наколькі помню, аналёгічная рэзалюцыя была прынята і на пленуме. Нават у 1926 годзе яшчэ, у часе Акадэмічнай канферэнцыі прагучэлі апошнія ноткі гэтай варожасьці, калі «Маладняк» байкатаваў Акадэмічную канферэнцыю, але там гэта мела ўжо некалькі другую падставу — нас пакрыўдзілі запрашэньнямі.

Паступова, аднак, варожасьць гэта зглажывалася. Праца «Маладняка» у складзе Інбелкульту, як яго складальнай часткі, абумовіла даволі частыя сустрэчы і гутаркі маладнякоўскай верхавіны з кіруючымі сябрамі Інбелкульту і з іншымі яго працаўнікамі, як Смоліч, Дыла, Азбукін, Ал. Цвікевіч, Красінскі. У мяне асабіста гэтае прымірэньне ніколі не перайшло ў зьбліжэньне, а ў Вольнага, напрыклад, з Дылам устанавілася моцная сувязь і ў далейшым, на грунце супольнай працы ў галіне кінематографіі. У часе Акадэмічнай канферэнцыі я пазнаёміўся з Ластоўскім, які нанёс візіт у ЦБ «Маладняка», дзе я афіцыйна прыняў яго як сэкратар ЦБ і апавядаў аб працы аб’еднаньня. Пасьля таго я сустракаўся з Ластоўскім тры разы: раз у часе падпісаньня «ліста семі» і два разы ў часе маіх наведваньняў музэю — наогул жа маё знаёмства з ім не выходзіла за межы шапачнага.

Больш часта даводзілася мне сустракацца з Іванам Цвікевічам, працаваўшым у апараце выдавецтва, дзе я пад канец бываў дужа часта, але і з ім знаёмства ў мяне не пераходзіла ніколі ў блізасьць. Разам з Зарэцкім, Александровічам і Чаротам я шмат разоў бываў у Купалы, дзе нас заўсёды дужа гасьцінна прымалі. Але ўжо у пазьнейшыя гады я бываў там дужа рэдка і трапляў або выпадкова, або ў часе якіх-небудзь напалову афіцыйных гасьцін, зьвязаных з арганізацыяй «Полымя», як напрыклад, з прычыны прыезду дэлегацыі украінскіх пісьменнікаў, ці з прычыны заснаваньня «Полымя». Нікога са старой беларускай інтэлігенцыі я там ніколі не сустракаў. Значна часьцей за мяне туды хадзілі Зарэцкі і Чарот, якія з Купалам былі зьвязаны асабістай блізкасьцю. Бываў, здаецца, Ульянаў, прыяцель Чарота, які і зьвёў яго з Купалам. Часта бываў Прышчэпаў. Пры мне ніякіх гутарак на палітычныя тэмы не бывала. Ці вяліся такія гутаркі без мяне — ня ведаю.

З усіх прадстаўнікоў старой беларускай інтэлігенцыі асаблівая блізасьць утварылася ў мяне і Зарэцкага з Алесям Гурло, які, прабыўшы некалькі гадоў у складзе «Маладняка», сам настолькі «амаладнячыўся», што яго прыналежнасьць да старой інтэлігенцыі здавалася нейкай умоўнасьцю. Зьбліжэньню з ім у першыя гады спрыяла тое, што Гурло ледзь не адзіны з усіх нашаніўцаў ня меў ніякіх сувязяў з беларускімі контррэвалюцыйнымі групоўкамі, а наадварот, быў удзельнікам штурму Зімовага палацу, усю грамадзянскую вайну правёў у Чырвоным флёце, дзе і быў цяжка пакалечаны. Ні ў якія нашы справы палітычнага характару Алесь Гурло ня ўблытваўся, ды і самі мы заўсёды лічылі яго добрым таварышом, але ня дужа далёкім чалавекам для таго, каб уводзіць яго ў круг нашых інтарэсаў.

З персанажаў паэмы Александровіча я быў знаёмы з Красінскім, Байковым, Жылкам, Фрыдам, Купцэвічам, Усьпенскім. З усімі знаходзіўся ў варожых адносінах. З Гуткоўскім, Краскоўскім і Ваўкам-Левановічам зусім ня быў знаёмы і першага нават ня ведаю ў твар.

У агульным нашы адносіны да старой беларускай інтэлігенцыі набылі пад канец мірны характар, але ніколі не перайшлі ў блізасьць. Ня было ні воднага выпадку, калі б хто-небудзь з старых прысутнічаў на нашых сходах ці вечарынах, таксама як і мы ніколі не траплялі да іх. Сустракаліся ў БДВ, у тэатры, на вуліцы, абменьваліся афіцыйнымі прывітаньнямі, параю нязначных фраз і ўсё.

У мяне, Зарэцкага, Чарота і Вольага былі значна больш блізкія сувязі з паасобнымі камуністамі-беларусамі. З імі мне найчасьцей даводзілася сустракацца на кватэры ў Чарота, часамі ў Зарэцкага. Гэта былі, апрача названых вышэй Александровіча, Чарота, Зарэцкага, Адамовіча — Прышчэпаў, Ільючонак, Калента, Вансоўскі, Шыпіла, Шастакоў, Касьцюк, часамі Э. Русецкі і некаторыя другія. На кватэры Александровіча часамі сустракаў я Мароза, які даводзіцца Александровічу сваяком (жанаты з яго сястрою). Частка іх мела з нашым колам выключна бытавую сувязь, як Калента, Вансоўскі, Русецкі, Шастакоў. Тым нацыянал-дэмакратычным настроям, якія панавалі сярод нас, яны або не спачувалі, або адносіліся да іх абыякава. Другія, як Прышчэпаў, Ільючонак, Шыпіла, больш блізка ўваходзілі ў круг нашых інтарэсаў, спачувалі паасобным нашым выступленьням і былі ў курсе іх.

Ад Адамовіча і Александровіча (праз апошняга) звычайна прыходзілі партыйныя навіны, яшчэ не агалошаныя, адносна новых назначэньняў і перамяшчэньняў у партыйным і савецкім апараце. Аднак ніколі ніякіх гутарак на тэму аб тых ці іншых партыйных мерапрыемствах, прынамсі пры мне, ніколі не вялося. У Чарота ніколі не бываў Александровіч, а Адамовіч стаў бываць толькі пазьней, калі зблізіўся ў Прышчэпавым, на якога, відаць, меў значны ўплыў як чалавек з больш моцнаю і сканцэнтраванаю воляю. Яны дужа часта бывалі і ў Шыпілы, я ж у Шыпілы ў хаце ня быў ні разу. Прышчэпава я ведаў з 1926 году, быў добра знаёмы з ім, бываў у яго ў хаце, як і ён у мяне. У сваіх нацыянал-дэмакратычных сымпатыях ён, наколькі я мог заключыць, выходзіў з тых жа палажэньняў, што і Зарэцкі і другія, гэта значыць, што шэраг асоб, якія кіруюць палітыкай партыі ш пляне яе практычнага правядзеньня, робяць памылкі і калечаць саноўную лінію партыі, і толькі ён, ды блізкія яму па погляду партыйца трымаюцца сапраўднай партыйнай лініі. Гэта быў як бы адпраўны пункт поглядаў Прышчэпава. Ён быў дужа паглыбленым у свае зямельныя справы, але цікавіўся і пытаньнямі літэратуры і культуры,





і значна больш, чымся мы зямельнымі справамі. Ва ўсіх гэтых пытаньнях ён заўсёды цалкам падзяляў пункт погляду Зарэцкага, Вольнага і мой у процілегласьць Чароту.

Вышэй я казаў ужо, што ў яго быў экзэмпляр майго контррэвалюцыйнага верша, які яму падабаўся. І Прышчэпаў, і Ільючонак, і Шыпіла былі аб’еднаны агульнай антыпатыяй да Сянкевіча, клічка «ішак» ніколі не сыходзіла з языка. Амаль усе былі блізка зьвязаны з Баліцкім. Мы ж — Зарэцкі, Александровіч, Вольны і я да Баліцкага заўсёды адносіліся толькі як да старэйшага і аўтарытэтнейшага таварыша. Таму, напрыклад, мы так ахвотна ўзяліся за «абарону» беларускага тэатру, што ідэю гэту падаў Баліцкі, нарком і член ЦК партыі, ён ужо сам па сабе выключаў для нас і думку аб контррэвалюцыйнасьці нашага выступленьня. Прымірэнчыя адносіны да нацыянал-дэмакратычных «дзеячоў» з Інбелкульту не здаваліся нам контррэвалюцыйнымі, як асабліва контррэвалюцыйнымі не здаваліся і самыя іх фігуры. Менавіта таму, што Баліцкі трымаў курс на скарыстаньне іх. Пад уплывам такой палітыкі, ня помню кім і калі, была нават кінута фраза аб тым, што роспуск Усебеларускага кангрэсу ў 1917 г. быў памылкаю. Гэта паказвае на тое, што апартуністычная палітыка Баліцкага ў адносінах да нацыянал-дэмакратычнай беларускай інтэлігенцыі была контррэвалюцыйнай, калі ня суб’ектыўна (аб чым судзіць не бяруся), то, прынамсі, аб’ектыўна, калі магла прыводзіць да такіх вывадаў.

З усіх маіх знаёмых варожа адносіўся да Баліцкага толькі Міхась Чарот. Чаму — не ведаю. З Ігнатоўскім знаёмы былі таксама ўсе, адносіліся да яго з сымпатыяй, але знаходзілі, што ён ужо дужа стары (яго і клікалі «старым», так што я думаў, што гэта яго колішняя партыйная клічка). З ім мне даводзілася сустракацца дужа мала, але і для мяне ён зьяўляўся вельмі аўтарытэтным. Прынамсі яго слова вельмі многа значыла, асабліва ў 1925–27 гг., для разбвязаньня ўсякіх спрэчак, якія вынікалі тады з Інбелкультам. Яму не ўдалося толькі ўладзіць справу з байкотам Акадэмічнай кафэрэнцыі — тут мы і яго не паслухаліся. Чамусьці ня любіў Ігнатоўскага Алесь Адамовіч, і імя Ігнатоўскага ў вуснах Адамовіча заўсёды гучэла іранічна. Да яго так жа адносіўся і Александровіч. Прычыны гэтай непрыязьні я ня ведаю і не стараўся ніколі даведацца. Нічога не магу сказаць, ці з’яўляўся Ігнатоўскі нацыянал-дэмакратам.

Са старой інтэлігенцыяй, наколькі я мог заўважыць, найбольшая сувязь была ў Алеся Адамовіча, які гэту сувязь ажыцьцяўляў праз Цвікевічаў і Некрашэвіча; з імі ён быў, здаецца, у блізкіх адносінах. У блізкіх жа адносінах з Іванам Цвікевічам быў і Жылуновіч, непасрэдна зьвязаны з ім па працы і па ячэйцы, тады як іван Цвікевіч бязумоўна прыналежыў да старой інтэлігенцыі, меў там найшырэйшыя сувязі і, безспрэчна, быў адным з асноўных мастоў паміж нацыянал-дэмакратыяй і нацыяналістычна настроенымі членамі партыі. Блізасьць Некрашэвіча да партыйных колаў (я чуў нават, што аб ім гаварылі як аб кандыдаце партыі) тлумачылася яго палажэньнем «савецкага вучонага», а таксама адміністрацыйным яго становішчам і тым, што ён зьяўляўся сябром ЦВК. Трэцім мастом паміж нацыянал-дэмакратыяй і партыйцамі беларусамі зьяўляўся Ільючонак, які меў дужа шырокі круг знаёмстваў.

Нельга не спыніцца на так званай «сачкаманіі», якая панавала ў кругу партыйцаў. Грунтавалася гэта, наколькі я мог судзіць, на тым, што партыйцы-беларусы, наогул прызнаючы працу ДПУ неабходнейшай, лічылі, што ДПУ перагінае палку, не выпускаючы і іх з поля зроку; лічылі, што ДПУ цікавіцца такімі дробязямі, як звычайная таварыская выпіўка камуністаў, якія ані якіх палітычных ухілаў за сабой ня ведаюць. Асабліва хваравіта праяўлялася «сачкаманія» у Адамовіча, пра што я гаварыў у сваіх папярэдніх паказаньнях. Чарот даводзіў, што, на яго погляд, кожны камуніст павінен быць «сачкомам», г. зн., што кожны камуніст павінен аказываць дапамогу ДПУ. З гэтым з большага ўсе згаджаліся, але рэшткі дробнабуржуазнай этыкі, якая ў большай ці меншай ступені гнезьдзілася ў кожным, прымушалі адносіцца да разуменьня «сачком» пагардліва і з непрыязьню. Нават мяне, здаецца, ледзь ня лічылі «сачкомам». Ці была, акрамя паказанай, іншая прычына «сачкаманіі», я не ведаю.

Пераходжу да апошняга перыяду маёй дзейнасьці — да часу паміж арыштам і высылкай і другім арыштам у Смаленску. Свой першы арышт я ўспрыняў не як вынік сваёй контррэвалюцыйнай дзейнасьці і ў прыватнасьці майго контррэвалюцыйнага верша. Верш гэты я не лічыў настолькі контррэвалюцыйным, каб за яго варт было мяне арыштоўваць. Прынамсі, пры тагачасных маіх настроях даволі было б сур'ёзнай гутаркі ў ДПУ, каб зьмяніць шлях маіх настрояў і думак. Выходзячы з гэтых меркаваньняў, я і не думаў адмаўляць майго аўтарства ў часе следзтва, каб не затрымліваць яго, бо, наколькі





я прыпамінаю тагачасную абстаноўку, паміма майго прызнаньня, ня было б аніякай магчымасьці ўстанавіць маё аўтарства. Тое, што мяне пасьля гэтага ўсё ж такі арыштавалі, хаця і не надоўга, мяне зьдзівіла і абурыла. Вышаўшы з-пад арышта, я сустрэў самыя спачуваючыя адносіны з боку ўсіх, апрача Чарота, які стрэў мяне даволі рэзкімі выразамі па адрэсе майго верша, і Жылуновіча, які таксама даволі сурова сустрэў мяне. Адчувалася, што ўсе, да каго я быў блізкі, разглядалі мяне, як ахвяру палітыканства паасобных работнікаў, у прыватнасьці Сянкевіча і Васілевіча. Вольны, напрыклад, і мяне пераконваў і сам был пераканаsuccessfully, што даволі мне схадзіць «з паклонам» да Васілевіча і ўся справа будзе ўмеркавана. Але я, у выніку спачуваючых адносін да мяне, быў азлоблены і тым больш не аддаваў сабе справаздачы ў тым, што мая дзейнасьць сапраўды была контррэвалюцыйнай. Нават паведамленьні польскіх газэт аб маім арышце, напісаныя ў адпаведным асьвятленьні, не зрабілі на мяне асаблівага ўражаньня (газэту я чытаў у рэдакцыі «Савецкай Беларусі»), тым больш, што заметкай справа і абмежавалась, а найбольшым пудзілам для мяне магла быць тады толькі польская прэса. Да гэтага далучыўся яшчэ выпадковы факт канфіскацыі чэшскай цэнзурай чэшскай камуністычнай газэты за зьмяшчэньне ў перакладзе майго верша — выпадковы факт, які ўзьняў маю самаўпэўненасьць, які прыдушыў сабою тыя сумненьні адносна правільнасьці маіх паводзін і маёй лініі, якія пачыналі па крысе варушыцца ў ва мне.

Такім чынам, праз увесь час, калі я яшчэ заставаўся ў Менску, я, што называецца, «хадзіў козырам» і з Менску паехаў у стане найвялікшай азлобленасьці супроць Васілевіча, Сянкевіча і другіх, якіх палітыку я лічыў адзінаю прычынаю сваёй высылкі. У Смаленску я пачуў страшэнную адзіноту, у якой дахадзіў літаральна да роспачы. Адзін з знаёмых, які ў мяне там быў — Калента — сустрэў мяне хаця і [не] адкрыта варожа, але сухавата. Яго погляд на мой верш ужо рэзка адрозніваецца ад погляду Прышчэпава і Ільючонка. Не гледзючы на свае прыяцельскія адносіны да Зарэцкага, ён асуджае яго палітычныя выступленьні і лічыць, што трэба апаматацца і палажыць канец усёй старой лініі. Паступова і ад яго я стаў адыходзіць і сустракаўся з ім толькі па меры напісаньня новых разьдзелаў сваёй аповесьці «Наперад», якую я друкаваў у беларускім дадатку да «Красноармейской правды» пад псэўдонімам Арцём Яроцкі. Псэўдонім узяў не для таго, каб захаваць сваё супрацоўніцтва, бо рэдакцыя ведала, хто

я такі, а таму, што лічыў гэтую аповесьць слабою з мастацкага боку і не хацеў сябе кампраметаваць.

Калі скончылася аповесьць, матар'ялаў маіх ужо болей браць не сталі. У канцы, здаецца, мая ў «Зьвязьдзе» была надрукавана рэзалюцыя ЦК КПЗБ, дзе ўпаміналася аб маіх выступленьнях і гаварылася, што фашыстаўская прэса Заходняй Беларусі гэтыя выступленьні скарыстоўвае і шырока рэкламуе мяне. Я рашыў тады выступіць, каб спыніць гэту рэкляму. Але адмаўляцца аб усёй сваёй нацыянал-дэмакратычнай лініі я не хацеў, бо ўсё яшчэ не прыйшоў да разуменьня яе контррэвалюцыйнасьці. Дзеля гэтага я напісаў заяву, у якой цэнтр увагі адвёў якраз абмежаваньню ад заходнябеларускіх сваіх «хаўрусьнікаў». Заява гэтая была мною перададзена ў ДПУ Заходняй вобласьці і праз тыдняў 5 мяне выклікаў да сябе начальнік ДПУ Залін і сказаў, што заява бадай што здавальняючая і з боку ДПУ няма ніякіх перашкод супроць яе надрукаваньня. Я заяву адаслаў і яе, зразумела, не надрукавалі.

У пачатку ліпеня 1929 году (да адсылкі заявы) да мяне раптоўна прыехаў Валеры Маракоў, былы маладняковец, які быў сэкратаром часопісі «Маладняк», калі я яе рэдагаваў. У літэратурных адносінах Маракоў зьяўляецца маім выхаванцам: я калісьці правіў і пушчаў у друк яго першыя вершы, рэдагаваў яго першы зборнік і г. д. Да маёй жа палітычнай дзейнасьці ён ня меў ніякага дачыненьня і ня мог мець, бо я лічыў яго занадта маладым і безталковым для таго, каб уводзіць яго ў круг сваіх поглядаў і спраў. Проста не зьвяртаў на яго асаблівай увагі. Але цяпер, калі ў мяне абарваліся ўсякія сувязі з Менскам і з кругам маіх сяброў і знаёмых, я, бязумоўна, ягонаму прыезду быў дужа рады. Маракоў прывёз з сабою рэшткі таго спачуваньня мне і захапленьня мною, якія акружалі мяне ў апошнія дні ў Менску. Ён гаварыў, што пісьменьніцкая моладзь у Менску дужа мне спачувае, што да мяне зьбіраюцца і другія маладнякоўцы. Адным словам нагаварыў шмат. Я, застаючыся ў перакананьні, што ў маёй высылцы віна ня столькі мая дзейнасьць, сколькі чыясьці палітыка, зусім верыў яму і не шкадаваў асабліва лаянкі супроць «русацяпаў», не называючы, праўда, імён. Прачытаў Маракову адрыўкі з свайго верша, якія помніў. Разьвіталіся мы захопленыя адзін адным і цалкам задаволеныя. Адначасна я ўскладаў вялікую надзею на тое абсьледаваньне, якое праводзіў тады ў Менску Затонскі. Я меркаваў, што гэта абсьледаваньне ўскрые неправільнасьць палітыкі, якую праводзілі кіраўнікі





ЦК, і я тады буду зьвернуты на Беларусь. А пакуль што пачаў пісаць паэму «Паўлюк Бахрым», у якой немала гучэла нацыянал-дэмакратычных нотак (пазьней я ўзяўся іх вытручваць, але паэма пакуль што наогул застаецца нясконачанай).

У ліпені 1929 году ў Смаленск прыехалі з Уральску былыя беларускія эсеры Пашковіч і Лябецкі. З першым я быў знакомы яшчэ з Менску, з другім пазнаёміўся ў Полацку, дзе, не ведаючы яго палітычнай прыналежнасьці, увёў нават у склад філіі «Маладняка», дзе ён папісываў крыху вершыкі ў рабпросаўскай насьценнай газэце, якую я рэдагаваў. Гэта сустрэча вывела мяне з маёй адзіноты. Пашковіч з самага пачатку пачаў трымаць сябе асабняком ад мяне. З Лябецкім жа я паступова пачаў зьбліжацца, і яго антысавецкая фразэалёгія, спачатку асьцярожная, а потым больш адкрытая пачала мяне ізноў зьбіваць з толку. Перш за ўсё ён пастараўся мяне пераканаць, што мая песенка сьпета і што ніякія крокі з майго боку ня могуць прывесьці мяне да прымірэньня з уладай і партыяй. Я ахвотна, слаба супраціўляючыся, ішоў насустрач яго довадам, амаль ніколі не рабіў спробы перамагчы іх, здавалася, непарушную лёгіку і цалкам праявіў сваю мягкацеласьць, якую ён заўважыў даволі хутка.

Увосень здарылася рэч, якая давяла мяне літаральна да белага каленія і зусім гатова была штурхнуць мяне канчаткова і безпаваротна на дарогу контррэвалюцыі. Прыехала да мяне тагачасная мая жонка Н. Вішнеўская і расказала, што яе выклікаў да сябе Сянкевіч і афіцыйна прапанаваў ёй парваць сувязь са мною, пагражаючы, у выпадку адмаўленьня, выключыць з універсітэту, з БелАПП'у, і абяцаючы іншыя рэпрэсіі. Гэтаму я, безспрэчна, паверыў і літаральна пырскаў сьліною ад злосьці на гэткую «пасьцельную» палітыку. У гэты час якраз праходзіла кампанія барацьбы супроць нацыянал-дэмакратызму на Беларусі і на людзей, якіх я добра ведаў і да якіх адносіўся з сымпатыяй, пасыпаліся рэпрэсіі. Быў выключаны з партыі Ільючонак, Марук, са старонак беларускага друку ня сходзіла імя Прышчэпава, Жылуновіча, Зарэцкага і другіх. Вішнеўская не хавала ад мяне свайго зьдзіўленьня [з] тае акалічнасьці, што я так далёка зайшоў у сваіх поглядах, што гаварыў, што сучасная кампанія прывядзе ці раней, ці пазьней да заснаваньня ў процілегласьць КПБнвай партыі з больш выразнай нацыянальнай праграмай, у якой, безспрэчна, сойдуцца ўсе «беларусы». Пачалася спрэчка, якую я хутка абарваў, бо і сам ня мог угрунтаваць сваёй думкі.

У гэты час мае контррэвалюцыйныя настроі дайшлі да эпагею. Я дайшоў да таго, што завеў гутарку з Лябецкім аб магчымасьці надрукаваньня маіх твораў у замежным друку, і ён сказаў, што мае магчымасьць гэта наладзіць. Праўда, да канчатковага рашэньня зрабіць гэта я не дайшоў, і на гэтым гутарка на гэту тэму спынілася.

Тады прыйшло некаторая ацьвярожаньне. У «Зьвязьдзе» была надрукавана перадавіца «Вецер з Захаду», у якой разглядалася выступленьне пілсудчыка Галоўка з тэзісамі аб барацьбе двух культур на Беларусі. Я з жахам пераканаўся, што думкі Галоўкі амаль што цалкам супадаюць з маімі думкамі і поглядамі. Гэта быў для мяне паваротны пункт, і я пачаў задумвацца, ці не заехаў я занадта далёка і ці так ужо праў Лябецкі, калі даводзіў, што дарогі назад мне няма.

Разважаньні мае праходзілі дужа марудна. Толькі апублікаваная ў сьнежні месяцы заява Жылуновіча аб адмаўленьні ад ранейшай палітычнай лініі паставіла перада мною пытаньне, што рабіць далей. Сваю антысавецкую фразэалёгію, набытую мной у гутарцы з Лябецкім, я пачаў паступова збаўляць. І нарэшце сказаў яму, што рашыў перагледзець свой шлях і рашыў напісаць новую дэкларацыю, у якой рашыў канчаткова парваць з сваім палітычным мінулым. Лябецкі заікнуўся быў мяне адгаварваць, паказваючы на безкарыснасьць гэтага, але ўбачыў, што я рашыў цьвёрда і ўгаворваць перастаў. У пачатку студзеня г. г. Я напісаў сваю заяву, а потым даведаўся, што хутка прыедуць у Смаленск беларускія пісьменьнікі і адклаў падачу заявы да іх прыезду. Прыехалі Чарот, Александровіч, Галавач і Фамін. Я з Фаміным сустрэўся на вуліцы і разам з ім зайшоў да сваіх былых сяброў. Заяву сваю я даў чытаць Галавачу і Александровічу, а таксама Гэсену, які таксама быў там. Галавач і Александровіч ніякай думкі не выказалі, Гэсен паказаў пару мясцін, якія раіў зрэдагаваць іначай. Чарот, наколькі помню, зусім не захацеў чытаць заявы і абмежаваўся толькі лаянкай па маім адрасу за мой славуты верш. Калі Галавач рабіў даклад на першым вечары, які праводзіўся ў Смаленску, ён зусім слаба ўдарыў па маіх выступленьнях. Дзеля таго, што я цяпер з большага прыйшоў да правільнага разуменьня іх сутнасьці, я сам прасіў Галавача на наступным вечары мяне не шкадаваць, што ён і зрабіў.

На другі ці на трэці дзень пасьля ад’езду беларускіх пісьменьнікаў я канчаткова зрэдагаваў сваю заяву і перадаў яе ў ДПУ. Пасьля гэтага я пачаў працаваць над паэмай «Вайна за мір»: ёю я меркаваў





пачаць новую паласу ў сваёй творчасьці, якая дала б повад к пераломy ў маёй ідэалёгіі. Узяўся за апавяданьне «Будзьма як сонца», гэроем якога быў Адамовіч і дзе фігуравалі б па маім меркаваньням Александровіч, Зарэцкі, я сам і другія нацыянал-дэмакраты ў сатырычным асьвятленьні. Мастацкую творчасьць я лічыў сваёй асноўнай справаю і зусім выпускаў з віду палітычны бок справы, які вымагаў ад мяне больш рашучых крокаў у выглядзе шчырага і поўнага прызнаньня ў сваіх мінулых учынках. Ва ўсякім выпадку на шлях адыходу ад свайго мінулага я стаў даволі цьвёрда.

У гэты час у Смаленск да Лябецкага прыязджаў нейкі сябра з Менску. Яны зьявіліся да мяне з прапазыцыяй даць верш для пасылкі за мяжу. Я адмовіўся, спасылаючыся на сваю дэкларацыю і цьвёрдае рашэньне трымацца яе. Прызнаю, што не зрабіў таго, што мусіў зрабіць — паведаміць аб гэтым ДПУ. Але зноў кажу, што палітычны бок справы быў яшчэ мною цалкам занядбаны, і я лічыў, што нічога дрэннага ня будзе, калі я проста адмоўлюся. Дэкларацыя мая, да майго вялікага зьдзіўленьня, не друкавалася, а замест яе раптам у пачатку лютага у «Зьвязьдзе» і «Савецкай Беларусі» зьявілася рэзалюцыя камфракцыі сэкратар’яту БелАПП’у па заяве Александровіча, у якой я абвінавачваўся ў распаўсюджваньні чутак, быццам бы я пісаў свой контррэвалюцыйны верш «Пасеклі край наш папалам» супольна з Александровічам. Такі паклёп мяне страшэнна зьдзівіў і абурыў. Я зараз жа пайшоў у ДПУ і падаў заяву з пратэстам і просьбай аб расьследаванні. Займацца расьследаваньнем ДПУ адмовілася, а нач. сакрэтнага аддзелу Андрэяў завёў са мной гутарку аб тым, што я павінен падмацаваць сваю заяву фактамі, такімі фактамі можа быць толькі поўнае і шчырае прызнаньне ва ўсім і асабліва поўнае і шчырае апавяданьне аб усім сваім акружэньні. З гэтага я зрабіў вывад, што мне прапануюць ні больш ні менш, як стаць нечым накшталт «сачкома», і яшчэ больш абурыўся, разглядаючы гэта як далёкі ад палітыкі, безпрынцыповы, чыста вытворчы падыход ДПУ.

Такую ж думку меў я, калі нач. сакрэтнага аддзелу ДПУ Беларусі Аргаў меў са мной гутарку праз некалькі дзён. У гэтым напрамку ў мяне безумоўна былі хістаньні, якія цалкам выцякалі з нявыжытай да канца дробнабуржуазнай маралі. Паддаваўся я ў гэтым накірунку дужа туга і, адначасна, быў дужа абуран. Аб гэтых гутарках і аб сваім абурэньні я казаў і Лябецкаму.

У гэты час я атрымаў паведамленьне ад жонкі, што на яе быццам бы зноў націскаюць па пытаньню разрыву са мною. Галавач жа ў часе свайго побыту ў Смаленску казаў мне, што справа цалкам умеркавана, што Сянкевіч сапраўды рабіў падобныя прапазыцыі, але па сваёй ініцыятыве і пад сваю ўласную адказнасьць, што Сянкевічу за гэта «наківала» ЦКК, і справу можна лічыць вычарпанай. Можна ўявіць сабе маё зьдзіўленьне, калі я спачатку даведаўся, што гэта гісторыя зноў аднаўляецца, а яшчэ праз дзень атрымаў і павестку аб разводзе. Я не зьбіраюся спыняцца ў гэтых маіх прызнаньнях на сваіх інтымных перажываньнях, але мабыць іх зразумеў Аргаў, да якога я зьвернуўся з просьбай дазволіць мне паездку ў Менск хаця б на адзін дзень. Аргаў сказаў, што гэта можна будзе зрабіць і што я здолею выехаць калі ня ў той жа дзень, то назаўтра. Ня ведаю, чым была выклікана затрыманьне ў дазволе, але ні ў той, ні на другі дзень дазволу я не атрымаў. Я быў ахоплены роспаччу і кінуўся на шалёны сродак — галадоўкай дабіцца развязаньня вострых пытаньняў. Разабрацца ў безкарыснасьці і шкоднасьці для мяне самога ў палітычных адносінах гэткага шагу ў мяне не было магчымасьці: у мяне на адлегласьці 6 гадзін язды ад мяне ламалася і рушылася нешта, чым я незвычайна даражыў, а мне адмаўляюць у такой дробязі, як паездка на адзін дзень, бо праз лісты я нічога не вырашыў бы. Маё рашэньне пачаць галадоўку адобрыў і Лябецкі, якога я пасьвяціў у курс справы. Галадоўку я пачаў, і ў той жа дзень мяне выклікалі ў ДПУ і паспрабавалі ўгаварыць кінуць займацца глупствам. Я ўпёрся. На другі дзень, адчуваючы безкарыснасьць галадоўкі, я разважаў над другімі выхадамі са становішча. У маіх вачох такі выхад пачынаў вырысоўвацца ў форме самагубства. Тады прышоў Лябецкі і пачаў таксама ўгаварваць мяне кінуць галадоўку, бо яна ўсё роўна не прывядзе ні да якіх вынікаў. Замест гэтага ён прапанаваў мне другі выхад: махнуць рукою на ўсё і эміграваць за мяжу (у Літву).

Я ўхапіўся за гэтую думку і праз некалькі дзён, калі для мяне маё сямейнае становішча высьветлілася (хаця і не зусім) і за яго зруйнаваньне я лічыў адказным таго ж Сянкевіча, ЦК, ДПУ і ўсіх на сьвеце, я сказаў Лябецкаму, што трэба рэалізаваць яго думку аб эміграцыі. Лябецкі пачаў мне распісываць жыцьцё за межамі, разхвальваць парадкі, маляваць бліскучыя пэрспектывы. «Для цябе гэта будзе карысна як для пісьменьніка, ды ты ж сьвету не бачыў яшчэ: трэба пазнаёміцца і з тым жыцьцём, якое ты ведаеш толькі па кнігах», — такія довады прыводзіў Лябецкі.





Настрой мой да эміграцыі, зразумела, хутка прайшоў, і мне было сорамна перад самім сабою за тое, што яго дапусьціў, як сорамна і тут пісаць пра гэты настрой. Але патрэба быць шчырым да канца прымушае мяне сказаць, што ў гэтыя 2–3 тыдні я махнуў рукою на ўсё і, прадстаўся магчымасьць, можа, і эміграваў бы. Потым, пасьля маёй паездкі ў Менск, той жа Лябецкі не раз аднаўляў са мною гутарку пра эміграцыю, але я кожны раз рашуча яго спыняў. Для мяне стала зразумела, што, калі тут у мяне яшчэ застаюцца сякія-такія надзеі, што мне ўсё ж ткі дадуць магчымасьць працаю загладзіць свае ранейшыя ўчынкі, то там, у буржуазным сьвеце, ня гледзючы на расхвальваньні Лябецкага, я заўсёды і ўсім застаўся б чужым і варожым, і самае лепшае, што магло б мяне чакаць — гэта роля дробнай зброі ў антысавецкай кампаніі. Такая пэрспектыва мяне зусім адвернула ад гэтай думкі. Выязджаючы ў Менск па дазволу ДПУ, я ехаў туды гатовы да поўнага прызнаньня, але ў тым толькі абхваце, ў якім я разумеў гэта — гэта значыць гаварыць толькі пра сябе і свае ўчынкі, а пра дзейнасьць маіх сяброў гаварыць толькі настолькі, наколькі іх дзейнасьць уплялалася ў маю. У гэткім рашэньні мяне ўмацавалі і гутаркі з Зарэцкім, які казаў мне, што ўсе мы сапраўды зайшлі ў тупік і павінны зрабіць рашучы пералом у сваёй лініі, каб вернуцца на добрую дарогу. Ён сказаў, што я павінен расказаць ДПУ усё пра сваю дзейнасьць і пра дзейнасьць усяе нацыянал-дэмакратыі і што ён сам, калі яго выклічуць, таксама не мае падстаў і ня будзе хаваць нічога. Трэба сказаць, што поступ яго думкі ў гэтым кірунку быў усё ж такі значна меншы за мой: ён, як я казаў вышэй, лічыў усю дзейнасьць тэй групы нацыянал-дэмакратыі, да якое належалі мы, як бы звычайным адхіленьнем ад партыйнай лініі, а не часткаю цэлай сістэмы ідэалёгічнага (а можа і арганізацыйнага) парадку, варожай партыі і ўладзе і контррэвалюцыйнай па сваёй сутнасьці. Многае ён лічыў за дробязь, якая наогул не заслугоўвае ўвагі.

Паехаў я з Менску ўжо з значна разгружаным багажом мінулага. Але па сутнасьці багаж гэты яшчэ заставаўся, бо сыстэматычнага і сталага прызнаньня я тады так і не зрабіў. Замест гэтага я ізноў налёг на літэратурную творчасьць, меркуючы гэтым пакрыць недахват сыстэматычнасьці ў сваіх прызнаньнях.

Я лічу, што найбольшая адказнасьць падае на мяне за тыя контррэвалюцыйныя хістаньні, якія былі ў мяне ў Смаленску, бо яны былі ўжо контррэвалюцыйнымі не толькі ад'ектыўна, але і суб'ектыўна. Я далёкі ад думкі складаць віну за іх на Лябецкага, бо ён толькі скарыстоўваў дапушчаныя мной самім моманты мягкацеласьці і размагнічанасьці волі. І таму, хаця гэтыя хістаньні і не выходзілі за межы настрояў, абывацелдьскай зласьлівасьці і паасобных гутарак — менавіта яны зьяўляюцца найбольш цяжкім грузам маёй сьвядомасьці.

У ночы 22 ліпеня я быў арыштаваны. Я чуў раней пра арышты некаторых маіх знаёмых, як Ільючонка, Пашковіча, Красінскага, чытаў ў менскіх газэтах аб дзейнасьці Некрашэвіча і Грамыкі, але ў мяне ўсё яшчэ не магла стварыцца думка аб тым, што на Беларусі магла вынікнуць контррэвалюцыйная нацыяналістычная арганізацыя. Я дапускаў, што ў даны час, у умовах надзвычайна напружанай клясавай барацьбы супраціўленьне капіталістычных элементаў выльецца ў нешта падобнае да ўкраінскага СВУ. Але я лічыў, што на Беларусі пакуль што яшчэ не магла вынікнуць такая арганізацыя.

Дзеля гэтага, калі я пачуў пра тое, што выкрыта такая арганізацыя СВБ, я ў гэта не паверыў. І толькі калі нач. сакрэтнага аддзелу Аргаў прачытаў мне адрыўкі з паказаньняў Лёсіка і Цвікевіча, для мяне стала ясна пытаньне: куды далей — з рэвалюцыяй ці з контррэвалюцыяй. Для мяне стала зразумелым пытаньне, што толькі самае поўнае і шчырае прызнаньне, самая строгая самакрытыка могуць стварыць для мяне магчымасьць парваць з маім контррэвалюцыйным мінулым і адкрыць мне дарогу да прымірэньня з уладай і партыяй. Я гатоў панесьці належную кару за ўсе свае ўчынкі ў спадзеваньні, што ў гэтай кары будзе для мяне пачатак звароту да рэвалюцыі.

Алесь Дайлідовіч.



# МАТЭРЫЯЛЫ ДА БІЯГРАФІІ

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Радзіўся ў 1904 годзе на Мазыршчыне. Пагасьціў там аж шэсць год. Цяпер вёску помню слаба.

Скончыў сярэднюю школу, якая пакінула ва мне вельмі мала ведаў і вельмі многа не зусім прыемных успамінаў. Пачаў вучыцца ў універсітэце, але кінуў — ня было часу. Вершы пішу з 1921 г. У «Маладняку» — з дня яго заснаваньня.

Пабываў ва усіх амаль гарадах Беларусі, асабліва доўга — у Віцебску і Полацку. Горад наогул больш люблю, як вёску: можа таму, што прывык, а можа проста таму, што ў горадзе жыць весялей — хто яго ведае!

Камсамолец.

Паміж паэтаў асабліва люблю Купалу, Чарота, Ясеніна і Маякоўскага.

Да гэтага часу выйшлі з друку тры мае кніжкі, спадзяюся выпусціць яшчэ.

*1926*

## АЎТАБІЯГРАФІЯ, НАПІСАНАЯ ДЛЯ Л. КЛЕЙНБАРТА
(Урывак)

Сапраўднае прозьвішча маё — Дайлідовіч. Радзіўся ў сьнежні 1904 году ў Мазыршчыне (цяпер Капаткевіцкі раён, в. Навасёлкі). Бацька мой паходзіў з сялян і дзед быў прыгонным селянінам; бацька за сваё жыцьцё пабываў арандатарм, сядзельцам, паштальёнам, чыгуначнікам і г. д. У дзіцячыя гады неяк ня зусім характэрна было акружаючае асяродзьзе — прынамсі з таго часу мала чаго памятаю. Некаторае афармленьне літаратурнага густу атрымаў у школе. Вучыўся ў гімназіі — спачатку ў Менску (Фальковіч) потым, з канца 1915 г. да пачатку 1917 ў г. Казлове, Тамбоўскай г. і ў 1920 г. зараз жа пасьля адыходу палякаў, атрымаў пасьведчаньне аб сканчэньні шк. II ст. Пачынаючы з 1917 году пападаліся настаўнікі, якія умелі зацікавіць літаратураю, умелі навучыць цаніць мастацкія творы і выносіць з іх пэўную карысьць. Прозьвішчаў першага з гэтых настаўнікаў не памятаю, другі — П. М. Макавееў, якога і цяпер часта спатыкаю. Першы раз пазнаў беларускае друкаванае слова ў 1917 годзе





ў Менску, прачытаўшы нумар газ. «Вольная Беларусь». Але найбольшае ураженьне на мяне зрабіла газэта «Пятніца», якая выпадкова папала неяк у чытальню Казлоўскага гар. савету, дзе я быў штодзённым госьцем. Яна зрабіла на мяне ураженьне непаўтарымае і з боку зьместу, і з боку формы (мовы) — гэта было для мяне нешта новае і адначасна даўно знаёмае і зразумелае. Гэты нумар газэты я па несьвядомасьці сваёй скраў з чытальні і ён у мяне захоўваўся некалькі гадоў.

Пачаў працаваць у 1921 годзе ў трупе Галубка (які зьяўляецца нават маім суседам), пачаў болей цікавіцца беларускаю літаратураю і ў сярэдзіне 1921 году пачаў пісаць вершы на беларускай мове. На расійскай ніколі не прабаваў — нават імкненьня ніякага не было. У 1923 годзе разам з іншымі таварышамі прыняў удзел у арганізацыі «Маладняка» (належу да ініцыятыўнай групы). З таго часу канчаткова ўцягнуўся ў літаратурнае жыцьцё. У 1924 г. (кастрычнік) выехаў з Менску пражываць у Полацак, дзе прабыў год. Мая асноўная прафэсія — газэтны работнік: працую на гэтай справе беспрарыўна з 1922 году; ця (далей адсутнічае. — *Г. С.*)

*ІРЛІ, Ф. 586, воп. 1, адз. 69. Арк. 2–2зв.*

## ЛІТАРАТУРНЫЯ СІЛУЭТЫ. АЛЕСЬ ДУДАР

Пішу пра таго паэта, пры выступленьнях разам з якім у прэзыдыум прыходзяць запіскі з запытаньнямі:

— Сямейны склад выступаючых паэтаў?

А потым ужо:

— Таварыш Дудар, дазвольце з вамі пазнаёміцца.

…І таварыш Дудар дазволіць пазнаёміцца, а на другі дзень затое таварыш Дудар у роспачы будзе пісаць: «завядуць мяне людзі ў зьвярынец і напішуць рукамі не чапаць».

У роспачы на другі дзень таварыш Дудар п’е кефір і слабенькія віна.

«Люблю, кажа, піць каньяк, бо, напершае, ён кісьленькі, а па-другое не апьяняе».

На выгляд Алесь Дудар вельмі сымпатычны малады хлапчук.

…Вось чаму і запіскі прыходзяць у прэзыдыум, вось чаму памятую аднойчы, — нават нейкая старушка ветхая, дрэўная старушка, памыкнулася было гаварыць яму камплімэнты.

Сымпатычны малады чалавек выслухаў камплімэнты, а потым:

— Не іначай, кажа, як праўда — тэорыя аб тым, што ў прыродзе ніякая погань не прападае…

Бабушка абразілася і кінула кокетаваць.

Алесь Дудар нам, рэдакцыйным працаўнікам, вядомы тым, што ён шмат ходзіць.

Гэтай першапачатковай кваліфікацыі яго навучыў Галубок, у якога некаторы час працаваў Дудар, навучыў яго якасьці, неабходнай для вандроўнага артыста.

Што і казаць, артыстам ад гэтага Дудар ня стаў, але праз тое ходзіць ён шмат і ходзіць старанна.

Цяпер вось далі Дудару ўсе магчымасьці вучыцца. Што гэта значыць:

— Працы значыць у цябе ніякай. Сядзі сабе значыць, ды пасьвістывай.

А Алесь Дудар ходзіць.

Ходзіць, на хаду вершы піша. На хаду крытыкуе. На хаду залікі рыхтуе, на хаду хваробу пераходзіць.

Каб ня гэтая кваліфікацыя, на другі год на кожным курсе засядзеўся б, а то неяк зноў жа пераходзіць.

Вось вам, таварышы-чытачы, гэтак кажучы «надворны Дудар» — жывы Алесь Дудар.

Ну, але для нас не так важна, дзе і з кім знаёміўся паэта, для нас больш важна ягоная творчасьць, як казаў адзін крытык, крытыкуючы вушы аднаго пісьменніка.

Шавіністам, мешчанінам
Абзавуць каго папала —
Абы толькі хлеб, ды чын ім
Ды каб грошай перапала.
А тады… тады ўсё-роўна:
За камуну, за саветы,
Захлынуцца немым ровам
За цялячую катлету».

**З вершаў Алеся Дудара**.

23 сьнежня 1904 году ў лесе здохла нешта вялікае, бо ў гэты дзень, згодна календару, нарадзіўся беларус, які:





1) Пакуль што не здрадзіў сваёй бацькаўшчыне,
2) Напісаў вышэйпададзеныя радкі, якія, будзем верыць, пазбавяць іх аўтара ад выказаных у іх нацыянальных асаблівасьцяй некаторых інтэлігентаў з «беларусов».

Алесь Дудар заўсёды быў злы на здрадніцкую частку інтэлігенцыі з «беларусов».

Яшчэ будучы зусім маладым, казаў Алесь Дудар, я супроць гэтага гатунку інтэлігенцыі дэманстратыўна сьляды пакідаў.

Цяпер Алесь Дудар падрос і не раўнуючы з другімі сучаснымі паэтамі гэтага ўжо ня робіць, але добрыя рысы варожасьці да ўсяго здрадніцкага, да ўсяго несумленнага ў адносінах да сваёй краіны, да сваёй БССР, знайшлі сабе вялікі адбітак у яго творах.

Я некалі ахрысьціў Алеся Дудара «рэвалюцыянерам з пялёнак». З таго-ж прыблізна часу пачынаецца і літаратурны стаж Алеся Дудара.

Яшчэ ў дзіцячыя годы Алесь Дудар прызадумаўся над сваім будучым лёсам.

З расійцаў Пушкін, думал малады Алесь, вырас у найвялікшага паэта, Гогаль у найвялікшага празаіка, Бялінскі ў найвялікшага крытыка, а яны да гэтага яшчэ і беларусамі не былі.

Паглядзім, што з мяне вырасце, рашыў малады Алесь і пачаў пісаць разам і вершы, і прозу, і крытыку.

Што лепей у Дудара выходзіць, цяжка сказаць.

Тыя, каго ён хваліць, кажуць, што крытык Алесь Дудар значна лепшы, чым паэта.

Тыя, каго ён лае, гавораць, што як крытык Алесь Дудар нікудышны, а як паэта добры.

Гэткім чынам, што вырасьце з Алеся Дудара, цяпер яшчэ цяжка сказаць. Адно зразумела: і як паэт, і як празаік, і як крытык Алесь Дудар здольны.

А адгэтуль: нешта значыць з яго ды вырасьце.

Хай-жа расьце Алесь Дудар!

*Анатоль Вольны*

# ТЛУМАЧЭННІ ДЛЯ ПАРТЫЙНАЙ КАМІСІІ З НАГОДЫ «ЛІСТА ТРОХ»

13/12–1928

Беларусізацыя на пэдфаку БДУ стаіць далёка не на тым узроўні, на якім павінна была б стаяць і як аб гэтым інфармуюць афіцыйныя ўстановы БДУ. Заметка, якая з’явілася нядаўна ў газеце, гаворыць, што частка прафесуры перайшла ўжо на беларускую мову, дацэнты і асістэнты перайшлі на беларускую мову цалкам. Але гэта не адпавядае сапраўднасці: з прафесуры выкладаюць па-беларуску толькі Піятуховіч, Шчакаціхін, Бузук і Барычэўскі, а з дацэнтаў толькі 4, вельмі цікава, што дацэнт Быхаўскі, выхаванец БДУ, працуючы ў ім некалькі гадоў і камуніст, ня толькі не імкнецца перайсці на беларускую мову, але часамі выяўляе і адмоўныя адносіны да яе. Прф. Васілеўскі яшчэ ў мінулым годзе рабіў беларускіх пісьменнікаў аб’ектамі для пастаянных кпінаў, пры кожным выпадку іранізуючы з самага слова «пісьменнік» накшталт будучага аўтара Фрагментаў. Характэрная гісторыя таксама з дацэнтам Воўкам-Левановічам. Яго дзейнасць атрымала адпаведную ацэнку у пастановах Камісіі НКА і ў выступленні тав. Баліцкага на з’ездзе працаўнікоў мастацтва.

Беларусізацыя студэнцкіх арганізацый яскравей ўсяго адбілася на насьценнай газеце «Кузьня Асьветы». Газета больш чым напалову выпускаецца на расійскай мове, а пісьменнасць матэр’ялаў на беларускай мове і самая мова іх стаяць на ніжэйшым узроўні, чымся ў любой сямігодцы. Тое самае з рознымі апавяшчэннямі, афішамі і г. д. Сярод студэнцтва вельмі рэдка даводзіцца чуць беларускую гутарку (аб гэтым пісалася і ў насьценнай газеце), нават сярод студэнтаў-лінгвістаў апошніх курсаў, якія праз 1–2 гады атрымаюць годнасьць выкладчыкаў беларускай мовы ілітаратуры. Можна налічыць толькі вельмі нязначны процант уладаючых беларускаю моваю. Усе пастановы аб беларусізацыі фактычна застаюцца на паперы і многія студэнты нават бравіруюць сваімі адносінамі да беларусізацыі (справа Слонімчыка і Кушнэра, у якой студэнцкія арганізацыі вынеслі беспадстаўны выгавар студэнту Александровічу за тое, што ён давёў да ведама фельетаніста Алёшы аб гэтым факце).

«Фрагменты» толькі аформілі той настрой мяшчанскіх груп студэнцтва, які існаваў і раней. Фельетон напісаны на расійскай (і даволі непісьменнай) мове, выявіў настроі якраз тае групы студэнцтва, якая і раней адносілася да беларускіх пісьменьнікаў свысака і, магчыма, з некатораю зайздрасцю: адгэтуль нацягванне неіснуючых фактаў. Беларускія пісьменьнікі на 2 курсе, зьвязаныя 3–4-гадоваю супольнаю прцаю, трымаліся разам, але адразу ўстанавілі сувязь з тэю часткаю студэнцтва, якая на іх не касаурылася і фактаў беларускага шавінізму нават аўтары «Фрагментаў» ня здолелі знайсці па тэй простай прычыне, што не было гэткіх фактаў.

Адносіны студэнцкіх арганізацый да «Фрагментаў» выявіліся даволі яскрава. Аб «Фрагментах» было даведзена да ведама адпаведных асоб: тав. Стасевіч абяцаў ўмяшацца ў гэту справу і паправіць яе. Але пасля гэтага студэнцкія арганізацыі далі рэдкалегіі поўную магчымасьць весці далей цкаваньне пісьменьнікаў, што яна ў наступным жа нумары і зрабіла. Тав. Карась зманіў, калі сказаў, што ў наступным нумары газэты памылка рэдкалегіі была папраўлена. Як з’яўленне «Фрагментаў», так і наступны нумар выклікалі значнае ажыўленне сярод пэўных груп студэнцтва: цэлымі днямі каля заметак таўклося мешчаньнё і захаплялася імі, іншыя прыходзілі па два-тры разы. Пісьменьнікі сталі асяродкам асаблівай увагі. Фельетоны ў «Рабочым», «Савецкай Беларусі» не зрабілі ніякага ўжытку і стварылася немагчымая для працы атмосфэра: кпіны ў вочы і за вочы, чуць не паказванне пальцамі. Любы адказ на сходзе ці ў адпаведнай газеце мог бы прывесці толькі да новага цкавання і да новай урачыстасьці мяшчэнскіх груп студэнцтва. Усё гэта разам узятае прымусіла нас пакінуць універсітэт для таго, каб шукаць магчымасьці вучыцца ў іншым месцы, але, дзеля таго, што становішча на пэдфаку БДУ гэтым не мянялася, да чаго мы ніякім чынам не маглі заставацца роўнадушнымі, мы зьмясцілі ў друку наш ліст аб прычынах нашага выхаду, каб зьвярнуць увагу грамадскай думкі ў першую чаргу студэнцтва БДУ на тую ганебную справу, якая робіцца ў сьценах універсітэту. Я асабіста катэгарычна пратэстую супроць спроб некаторых таварышаў увязаць наш выхад з маім «выступленьнем» па пытаньнях тэатру, бо самая дыскусія па маяму нібыта выступленьню вялася на падставе некаторых невыразных фармулёвак у маім артыкуле, і наступны мой артыкул па гэтым пытаньні ня быў змешчаны. Таксама лічу, што не адно з выступленьняў і ні адна з рэзалюцый, вынесеных на сходах па пытанні аб нашым выхадзе, не далі па сутнасці ні аднаго адказу на пастаўленыя намі ў нашым лісце пытанні, а наадварот імкнуліся замазаць існуючае становішча і прадставіць яго ў беспадстаўна оптымістычным асьвятленьні.

*Алесь Дудар*

# ДАКУМЕНТЫ З АСАБІСТАГА АРХІВА ДАЙЛІДОВІЧАЎ

* * *

С. С. Р. Б
17я Сов. Школа
II ступени
27го февраля 1922 г.
№ 82

Удостоверение.

Дано сие Дойлидовичу Александру в том, что он состоял до 1го февраля 1922 г. — учеником IVб (дополнительной) групы 17ой Советской школы IIой ступ.

Председатель школьного совета

Секретарь

*Прыватны архіў А. Дудара*

* * *

Заўсёды памятай, што ніколі ў жыцці ты не знойдзеш лепшага прыяцеля, як кніга. Кніга супакоіць цябе ў час нядолі. Кніга дасць цябе адпачынак у шчаслівыя дні. Дзеля гэтага шануй кнігу. І яшчэ: ніколі не чытай тых кніг, у якіх абмалёўваюцца выдуманыя няшчасьці багатых людзей. Гэткая кніга ні розуму, ні сэрцу нічога добрага не дасць.

(нрзб) веня 1927. Твой брат Алесь.

*Надпіс на кнізе, падоранай сястры Жэні*
*Прыватны архіў А. Дудара*

* * *

25–11–36

Мамачка!

Паслязаўтра, 27га, а 3й гадзіне зайдзі ў бюро прапускоў і папрасі пропуск у пакой № 58: пабачымся. Захапі з сабою чатыры кніжкі: Alphonse Daudet — яны ляжаць на чацвёртай паліцы знізу за маім крэслам; і там жа «Французско-русский словарь» (чырвоная таўставатая кніжка). Пацалуй ад мяне бацьку. Ал.

*Паштоўка, перададзеная з «амерыканкі»*
*Прыватны архіў А. Дудара*





* * *

Мамачка!

19-га а 3-й гадзіне зайдзі — будзем бачыцца. Падбяры такія кнігі: Alphonse Daudet. Numa Roumestan; Anatole France. Crainquebille; Paul Bourget. Kazarine; Pierre Loti. (нрзб) Pierre Loti. Ramuntcho.

Прывітанне бацьку. Скажы, што ў мяне настрой добры — каб у яго быў такі ж. Жэні прывітанне перадай. Цалую. Ал.

*Паштоўка, перададзеная з «амерыканкі»*
*Штэмпель ад 10-12/1936*
*Прыватны архіў А. Дудара*

* * *

Наркому Внутренних дел
Союза ССР т. Берия
Гр. Дайлидович Ольга Ивановна
БССР, г. Минск
Проводная, 17, кв. 2

Прошу помочь мне отыскать местонахождение моего сына, арестованного органами НКВД в ноябре м-це 1936 года. Мой сын — Дайлидович Александр Александрович состоял членом Союза советских писателей Белоруссии, под псевдонимом Алесь Дудар. 1-го ноября 1936 года он был арестован арганами НКВД и до февраля 1938 года находился в Минском НКВД. С февраля 1938 года и до последнего времени я не имею о нем никаких сведений. Жив ли он, выслан ли он, если выслан — куда, на сколько лет, можно ли ходатайствовать о его освобождении. Я старый, больной человек (мне 66 лет), и я исходила всюду куда только можно было, но нигде не могу узнать о судьбе моего сына. Еще раз убедительно прошу не отказать в моей просьбе помочь мне узнать, где находится мой сын.

О. И. Дайлидович

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*

* * *

Прокурору Республики
Гр. Дайлидович Ольга Ивановна
Минск, Проводная, 17, кв. 2

Заявление.

В ноябре 1936 года, органами НКВД, арестован мой сын — Александр Александрович Дайлидович. Недавно я узнала, что его осудили на 10 лет конц. лагерей. Где находится он, в настоящее время мне неизвестно.

Мой сын являлся членом Союза советских писателей Белоруссии — под псевдонимом Дударь. Жил он вместе со мной и я никогда не замечала у него антисоветских настроений. В 1928 году его выслали на 3 года за пределы БССР в г. Смоленск. В это время ему не давали возможности работать и мне приходилось помогать ему из заработанных мной денег. В 1931 году ему разрешили вернуться в Минск. Формально он был восстановлен во всех правах. При организации Союза советских писателей Белоруссии он был принят членом Союза. Но отношение руководителей Союза к нему было чрезвычайно скверное. Вместо того, чтобы человеку, нуждавшемуся в руководстве и поддержке, оказать помощь, его игнорировали, старались не замечать и т. д. Председателем Союза в то время был некто Бенде. Он всячески старался оттолкнуть моего сына, не давать ему работы, не заплатить за сделанную работу. Очень плохо относился к нему также Александрович, бывший заместитель председателя Союза советских писателей Белоруссии. Он также старался обходить, не замечать моего сына. Такое отношение руководителей глубоко угнетало моего сына и толкало на злоупотребление вином. Мне известно как хотел мой сын работать, как старался быть полезным стране, как он радовался, когда ему поручали какую-либо работу. Я не допускаю и мысли, чтобы он вполне сознательно шел против нашей родины. У него не было таких настроений и он этого не делал.

Дело моего сына в НКВД вел следователь Быховский. Впоследствии он оказался злейшим врагом народа и понес за это соответствующее наказание. Очень может быть, что и дело моего сына он вел неправильно, чтобы запутать советское правосудие.





На основании вышеизложенного я прошу пересмотреть дело моего сына Дайлидович Александра Александровича.

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*

* * *

Приморский край
Ворошиловский район
Ст. Ново-Никольск
в/ч 62293

Товариш командир!

Простите за беспокойство и не откажите в просьбе ответить мне на это письмо.

Я разыскиваю своего брата Дайлидовича Александра Александровича, белорусского поэта, писавшего под псевдонимом Алесь Дудар.

В 1936 году он был арестован органами НКВД (в гор. Минске) и осужден на какой-то срок, без права переписки. С тех пор мы о нём ничего не знаем.

Сейчас, когда ведётся пересмотр подобного рода дел мы тоже возбудили ходатайство о реабилитации брата, хотя бы посмертно, если его нет в живых.

И вот, случайно, в газете «Советская культура» за 15 сентября 1956 года, в редакционной статье под заглавием «Гастроли С. Гурзо», в числе читателей приславших в редакцию свои замечания об этих гастролях я увидела имя читателя из гор. Ново-Никольска — А. Дударь. Мне удалось выяснить, что второй инициал этого товарища совпадает с отчеством моего брата, адрес его — в/ч 62293 ст. Ново-Никольск. Как видите, получилось некоторое совпадение. Посоветовавшись с рядом товарищей моего брата, мы решили, что упускать такого случая не следует, нужно попытаться уточнить это дело. Ну, а единственный выход для уточнения — это обратиться с просьбой к Вам. Я 24-го сентября послала на Ваше имя телеграмму, но ответа не последовало. Даже получив эту телеграмму, Вы могли посчитать её за некое недоразумение. Вот поэтому я решила написать письмо. Очень-очень прошу — ответьте.

Я — агроном. В настоящее время работаю в Министерстве сельского хозяйства Белорусской ССР. Со мной живет моя мать — 83-х лет.

Вот уже почти 20 лет она ежедневно оплакивает своего сына, но в то же время не теряет надежды еще увидеть его. Кто знает, может быть, что так и будет!

Еще раз простите за столь необычное и бесцеремонное вторжение в Ваше внимание.

Е. А. Дайлидович.
БССР. Гор. Минск, Проводная, 17, кв. 2
8 октября 1956 года

(На письме резолюция: «т. Тимофеев. Проверить и ответить». «Ответ найден 17.10.1956»)

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*

* * *

Войсковая часть 62293
17.10.1956
№ 6 г. Ворошилов

БССР г. Минск, ул. Проводная, 17, кв. 2
Гражданке Дайлидович Е. А.

На Ваше письмо о розыске Вашего брата ДАЙЛИДОВИЧ Александра Александровича (псевдоним — Алесь Дудар) сообщаю:

1. В веренной мне части проходит службу офицер ДУДАРЬ Антон Андреевич, который поэтом никогда не был и псевдоним не имел.

В 1956 году он действительно в числе читателей присылал свои замечания в газету «Советская культура».

Из этого видно, что Вы ошиблись в опознании своего брата.

НАЧАЛЬНИК ШТАБА ВОЙСКОВОЙ ЧАСТИ 62293
ПОЛКОВНИК ИВАНОВ

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*





* * *

Военная коллегия
Верховного Суда
Союза ССР
7 октября 1957 г.
№ 4н-01851/57

СПРАВКА

Дело по обвинению ДАЙЛИДОВИЧ (ДУДАРЬ) Александра Александровича, до ареста — 31го октября 1936 года — поэт Белоруссии, пересмотрено Верховной коллегией Верховного Суда СССР 21 сентября 1957 года.

Приговор Военной коллегии от 28 октября 1937 года в отношении ДАЙЛИДОВИЧ (ДУДАРЬ) А. А. по вновь открывшимся обстоятельствам отменен и дело за отсутствием состава преступления прекращено.

ДАЙЛИДОВИЧ (ДУДАРЬ) А. А. реабилитирован посмертно.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬСТВУЮЩИЙ СУДЕБНОГО СОСТАВА
ВОЕННОЙ КОЛЛЕГИИ ВЕРХОВНОГО СУДА СССР
ПОЛКОВНИК ЮСТИЦИИ — А. КОСТРОМИН

* * *

Белорусская советская социалистическая республика
СВИДЕТЕЛЬСТВО О СМЕРТИ
ПЯ № 191282

Гр. ДАЙЛИДОВИЧ Александр Александрович умер 25/2-1946 года двадцать пятого февраля тысяча девятьсот сорок шестого причина смерти воспаление лёгких.

О чем в книге записей актов гражданского состояния о смерти 1947 года марта месяца 14 числа произведена соответствующая запись за № 946, место смерти — .

Место регистрации Горбюро ЗАГС г. Минск

Дата выдачи 2 ноября 1957 г.

Заведующий бюро записей актов
гражданского состояния подпись

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*

* * *

ВЫПИСКА
Из протокола № 15 заседания Президиума Правления
Союза писателей БССР
От 27 ноября 1957 г.

СЛУШАЛИ: заявление Е. А. Дайлидович, сестры поэта Алеся Дудара, о восстановлении его посмертно в члены Союза писателей в связи с реабилитацией.

ПОСТАНОВИЛИ: Восстановить Алеся Дудара (Дайлидовича Александра Александровича) посмертно в правах члена Союза писателей БССР с 1934 года.

Председатель Правления Союза писателей БССР П. Бровка

Отв. секретарь СП БССР М. Калачинский

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*

* * *

ДАВЕДКА

Гэтым сведчыцца, што ДАЙЛІДОВІЧ Ольга Іванаўна, 1872 года нараджэння, сапраўды знаходзілася на ўтрыманні свайго сына Алеся ДУДАРА (ДАЙЛІДОВІЧА Аляксандра Аляксандравіча) да дня яго арышту 1-га лістапада 1936 года.

Старшыня Праўлення Саюза
савецкіх пісьменнікаў Беларусі П. Броўка

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*

* * *

ДАВЕДКА

Алесь ДУДАР (ДАЙЛІДОВІЧ Алякандр Аляксандравіч) да дня свайго арышту 1-е лістапада 1936 года з'яўляўся членам Саюза Савецкіх пісьменнікаў Беларусі, пастаяннай пасады ён не займаў. Сярэдні заработак яго за літаратурную працу у апошнія гады перад арыштам складаў 3000 рублёў у месяц.

Старшыня Праўлення Саюза
савецкіх пісьменнікаў Беларусі П. Броўка

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*





* * *

У камісію па вызначэнню пенсій
пры Савеце Міністраў БССР

Праўленне Саюза Савецкіх пісьменнікаў Беларусі просіць вызначыць персанальную пенсію ДАЙЛІДОВІЧ Ольге Іванаўне — маці пасмертна рэабілітаванага поэта Беларусі — Алеся Дудара, якая жыве у г. Мінску па ул. Чычэрына, дом 2, кв. 12.

Алесь ДУДАР (Аляксандр Аляксандравіч ДАЙЛІДОВІЧ) — адзін з вядомых беларускіх пісьменнікаў, літаратурная дзейнасць якога ахапіла перыяд з 1921 па 1936 год. За гэты час пісьменнікам было выдадзена 8 зборнікаў вершаў і апавяданняў, ён актыўны выступаў у галіне крытыкі і літаратуразнаўства. Творы Алеся ДУДАРА вызначаліся рэвалюцыйнай тэматыкай, лірычнай цяплынёй і багаццем мовы, яны узбагачалі совецкую мастацкую літаратуру.

Алесь ДУДАР быў вядомы на Беларусі і як добры перакладчык. Ім перакладзены на беларускую мову «Еўгеній Онегін» Пушкіна, «Двендацать» Блока, «Партбілет» Безыменскага, «Самі» Ціханава, «Фауст» Гётэ, «Вільгельм Тэль» Шылера і шэраг іншых твораў.

У пачатку лістапада 1936 года Алесь ДУДАР быў арыштаваны і асуджан на працяглы тэрмін. 25-га лютага 1946 года ён памёр.

Ваенная Калегія Вярхоўнага Суда СССР 21 верасня 1957 года перагледзела і спыніла справу па абвінавачванню Алеся ДУДАРА і пасьмертна яго рэабілітавала. Саюз Совецкіх пісьменнікаў Беларусі аднавіў Алеся Дудара пасьмяротна ў сваім складзе.

Маці Алеся ДУДАРА да арышту сына знаходзілася на яго ўтрыманні, ужо у той час ёй было 64 годы і яна зьяўлялася непрацаздольнай. Зараз ёй 85 гадоў, ёй патрэбна матар'яльнае палепшанне жыцця.

Улічваючы заслугі Алеся ДУДАРА у стварэнні беларускай мастацкай літаратуры, Праўленне Саюза Совецкіх пісьменнікаў Беларусі просіць вызначыць яго маці ДАЙЛІДОВІЧ Ольге Іванаўне, нараджэння 1872 года, пажыццёва персанальную пенсію за сына.

Старшыня Праўлення Саюза
совецкіх пісьменнікаў Беларусі П. Броўка

*Прыватны архіў Л. М. Малінінай*

# КАМЕНТАРЫІ

## Вершы і паэмы (1921–1936)

Творчая спадчына Алеся Дудара, якая нам вядомая на сённяшні дзень, з асноўным прадстаўлена прыжыццёвымі публікацыямі ў газетах, часопісах і зборніках. Рукапісаў вершаў, празаічных твораў і крытычных артыкулаў не захавалася, акрамя чатырох вершаў («Я радзіўся пад хатай за плотам», «Пасеклі край наш папалам», «Цені блудзяць па твары» і «На смерць «Маладняка»), якія знаходзяцца ў закрытым на сёння для даследчыкаў архіве КДБ і друкаваліся У. Міхнюком («Арыштаваць у высылцы», Мн., 1996). Вядома таксама, што падчас апошняга арышту пры вобшуку ў кватэры А. Дудара 31 кастрычніка 1936 года былі забраныя «100 пісьмаў, 6 блакнотаў, розных перапіскі 262 лісты, розных асобных рукапісаў 25 і 71 фотаздымак» («Арыштаваць у высылцы», с. 103). Існуе так званы «акт Сакалова», ў якім, па сведчаннях Л. Маракова, адзначана, што ўсе адабраныя пры вобшуку паперы былі знішчаны 1 жніўня 1937 года, але дакладна невядома, ці сапраўды паперы А. Дудара загінулі ў вогнішчы, альбо па сёння захоўваюцца ў закрытых сховішчах. Што тычыцца перакладаў, то намаганнямі сям'і паэта — маці Вольгі Іванаўны, сястры Яўгеніі Аляксандраўны і пляменніцы Лідзіі Малінінай — былі захаваны поўны рукапіс перакладу «Еўгенія Онегіна», часткова — рукапісы перакладаў «Балады пра Фульскага караля» і «Фаўста» І. Гётэ, «Зімовай казкі» Г. Гейнэ і «Атэла» В. Шэкспіра (з прычыны благой захаванасці рукапісаў перакладаў з Гётэ, Гейнэ і Шэкспіра ў дадзенае выданне яны не ўвайшлі і знаходзяцца ў навуковай апрацоўцы для далейшых публікацый).

Вершы і паэмы друкуюцца паводле апошняй прыжыццёвай публікацыі, акрамя асобных выпадкаў, агавораных у каментарах. Тэкст перакладу «Еўгенія Онегіна» друкуецца паводле рукапісу. Вершы дадзены ў храналагічнай паслядоўнасці; пры адсутнасці аўтарскага датавання год напісання пастаўлены паводле першапублікацыі і дадзены ў квадратных дужках. Арфаграфія і пунктуацыя аўтара, адпавядаючыя часу, захоўваюцца, выпраўляюцца толькі відавочныя абдрукоўкі.

*Брату-беларусу (с. 34)*. Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1921, 2 кастрычніка, № 219. Адзін з першых надрукаваных вершаў пятнаццацігадовага Алеся Дудара. Згодна з выпісамі Л. Малінінай, існавалі яшчэ тры вершы, апублікаваныя ў 1921 годзе: «Там дзяцей роднаму слову…»





(«Савецкая Беларусь», 1921, № 133), «Спрадвеку спалі цяжкім сном мы…» («Савецкая Беларусь», 1921, № 187) і «Паўстаўшым» («Савецкая Беларусь», 1921, № 264). Нажаль, з прычыны благога стану некамплектных падшывак «Савецкай Беларусі» за 1921 год аднавіць гэтыя публікацыі пакуль не ўдалося. *То стогн галодных…* — верш прысвечаны беларусам Паволжжа, якое ў 1921–22 годзе перажывала страшны голад.

*Сьцеражэцеся (с. 34).* Упершыню — «Маладняк», 1923, № 1. Увайшоў у зб. «Беларусь бунтарская» (Мн., ДВБ, 1925). *Керзан Джон Натаніэл* — у 1921–1924 міністр замежных спраў Велікабрытаніі.

*Стары горад (с. 35)*. Упершыню — зб. «Беларусь бунтарская».

*Паэтам рэвалюцыі (с. 36)*. Упершыню — «Маладняк», 1924, № 2/3. Увайшоў у зб. «Беларусь бунтарская». Адзін з самых знакамітых вершаў маладога паэта, ягоная творчая «візітоўка». Дзкуючы гэтаму вершу, А. Дудар меў мянушку «рэвалюцыянер з пялюшак», гэты ж верш пакладзены ў аснову сяброўскага шаржа П. Гуткоўскага на А. Дудара («Маладняк», 1926).

*Паўстанец (с. 37)*. Упершыню — «Радавая рунь», 1924, № 2. Увайшоў у зб. «Беларусь бунтарская».

*Я малады (с. 38)*. Упершыню — «Радавая рунь», 1924, № 1. Увайшоў у зб. «Беларусь бунтарская». Сярод неапублікаваных у свой час крытычных нататак А. Бабарэкі ёсць не надта справядлівы і эмацыянальна насычаны ўрывак, прысвечаны гэтаму вершу: «Возьмем «Я малады — мне весела». Тут падыход да сябе як да чалавека, ня маючыага пэўных заняткаў. Падыходзіць як чалавек, які адчуў прыліў энергіі, што яго агарнуў ваяўнічы запал, і ня ведае, куды яе скіраваць, на што спатрэбіць. Ён ведае толькі адно: што прайшоўшыя галаву павесілі, ён-жа нічога яшчэ не прайшоў, яму жыццё — сусветнае свята, правпоны — большы разгон (ці не для пераскокваньня?), і вось пры такім прыліве энергіі яму і дрвіцца, што ён багаты без багацця, што ён непакорны шквал, яму хочацца ўзняцца вышэй за ўсіх. На аснове гэтага ён вызначае сваю каштоўнасьць як маладога, з якога фактычна ўсё яшчэ можа быць альбо нічога. Ён сам не ведае, бо жыве момантамі». (А. Бабарэка. Збор твораў у 2 тт. Вільня-Беласток, 2011. Т. 1, с. 296).

*Май (с. 39)*. Упершыню — «Маладняк», 1924, № 4. Увайшоў у зб. «Сонечнымі сьцежкамі» (Мн., ЦБ Маладняка, 1925).

*Там, дзе ў жыта гульлівымі кліньнямі… (с. 39).* Упершыню — «Радавая Рунь», 1924, № 3–4. *Я пакінуў свае загоны, кінуў я васількову даль* — алюзія на радкі С. Ясеніна: «Я покинул родимый дом, голубую оставил Русь». Дудар пераасэнсоўвае зыходны ясенінскі тэкст: калі ў Ясеніна ў вершы –статычны малюнак пакінутай Радзімы, у Дудара —

дынаміка сыходу. Крытычна пераасэнсаваная «нуда» ёсць не стан паэта — а пункт адліку («мне прапоны большы разгон»): *«Ў падарожжы, нудою выгнаным, гартаваў я свой цьвёрды шаг»*.

*Беларусь (с. 40)*. Упершыню — «Маладняк Калінінщчыны», 1925, № 2. Увайшоў у зб. «Беларусь бунтарская». *І над сумнаю рэчкай шумлівы чарот* — алюзія на знакаміты верш М. Чарота «Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар».

*Скарына (с. 41).* Упершыню — «Полоцкий пахарь», 1925, № 103. Увайшоў ў зб. «Сонечнымі сьцежкамі».

*Кастусь Каліноўскі (с. 42).* Упершыню — «Маладыя араты», 1925, № 14. Увайшоў ў зб. «Сонечнымі сьцежкамі». *Лукішкі* — рынычная плошча ў Вільні, на якой быў павешаны К. Каліноўскі. *«На Беларусі няма шляхты!»* — па ўспамінах відавочцаў, калі падчас агалошання выраку на Лукішках прагучала «дваранін Вікенці Каліноўскі» — Каліноўскі крыкнуў з-пад шыбеніцы: «У нас няма дваран, усе роўныя!»

*Цені (с. 43)*. Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі».

*Песьні, песьні! Даволі мяцежыць… (с. 44).* Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». *Прыдзе радасьць, нежная, як гурыя, ў ваяўнічай постаці валькірыі* — гурыі — райскія дзевы ў ісламскай міфалогіі, якія стануць жонкамі праведнікаў у раі, валькірыі — у скандынаўскай міфалогіі дзевы-ваяры, якія імчаць на крылатых конях над полем бітвы і збіраюць загінулых.

*Завяжу я, завяжу я… (с. 44)* Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1925, 11 кастрычніка, № 231. Увайшоў у зб. «Сонечнымі сьцежкамі».

*Менск (с. 45)*. Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». Існуе успамін Н. Вішнеўскай, сугучны настрою гэтага верша: яна піша С. Грахоўскаму, як А. Вольны і М. Чарот услых марылі, каб знесці стары Менск і на ягоным месцы адбудаваць новы сучасны горад (БДАМЛМ, ф. 201, воп. 4, адз. 164, л. 13).

*З паэмы «Сягоньня» (с. 46)*. Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». Самой паэмы «Сягоньня» не існуе.

*Пацеркі лілёвыя (с. 47).* Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1925, 25 кастрычніка, № 243. Увайшлі ў зб. «І залацісьцей і сталёвей» (Мн., БДВ, 1926).

*Вуліца, шырокая вуліца… (с. 48).* Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». *Ні Купала, ні Колас, ні Бядуля / Цябе не масьцілі страфамі* — палемічны выпад супраць «старых» пісьменнікаў, «у рожкі» з якімі браўся «Маладняк»: маўляў, яны пісалі выключна пра вёску, апяваць горад — паэтычная задача «Маладняка». *Каменьні загавораць* — алюзія на біблейскае *«калі яны замоўкнуць, дык камяні загалосяць»* (Лукі, 19:40), фразеалагізм мае значэнне: «камяні раскажуць жудаснае і жахлівае, калі змогуць гаварыць».

*За маім акном — абрывы… (с. 49).* Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». Вуліца Праўдная, дзе жылі Дайлідовічы, была амаль на акраіне, непадалёк пачыналіся Уборкі (раён сучаснай вуліцы Прыгожай). У 1926 годзе па вуліцы Маскоўскай, якая ішла перпендыкулярна Праўдной, пракладалі трамвайныя рэйкі (лінія будзе адкрыта ў 1929). *Тут вясною гаварлівай сіні клён не расьцьвіце* — палемічная адсылка да верша С. Ясеніна «Я покинул родимый дом» (*«старый клен на одной ноге стережет голубую Русь»*).

*Вось цяпер безнадзейна шукаю… (с. 50).* Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі».

*Цаліну алавянных хмар… (с. 51).* Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». *Праскачу я на белым кані* — алюзія на С. Есеніна («Будто я весенней гулкой ранью / проскакал на розовом коне»).

*Заблудзіла зялёная зорка… (с. 51).* Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». Па жанры гэты верш — трыялет, цвёрдая вершаваная форма з паўторам першага, чацвёртага і сёмага, а гэтаксама другога і восьмага радкоў. У беларускую літаратуру трыялет увёў М. Багдановіч, пасля яго гэтая форма стала адной з улюбёных цвёрдых форм беларускай літаратуры.

*Запляці залатую касу… (с. 51).* Упершыню — «Маладняк», 1926, № 5. Увайшоў у зб. «Сонечнымі сьцежкамі». Верш мае складаную структуру: у кожнай страфе, якая складаецца з пяці радкоў, паўтараюцца першы і апошні радок, звязаныя рыфмай з трэцім, другі і чацвёрты рыфмуюцца паміж сабой. А. Дудар быў зацятым барацьбітом за рытмічную і структурную складанасць беларускага верша, за разнастайнасць паэтычных форм і стылістычны эксперымент.

*Лісты (с. 53)*. Упершыню — зб. «Сонечнымі сьцежкамі». *Башня, што неба мяжуе* — алюзія на Вавілонскую башню, якая павінна была аб'яднаць зямлю і неба. *Чарджуй* — горад у Туркменістане (сёння — Туркменабад), адзін з найбуйных гарадоў на Вялікім шоўкавым шляху, у Сярэднявеччы — навуковы, культурны і гандлёвы цэнтр на беразе Аму-Дар'і, да чарджуйскіх базараў і кірмашоў цалкам падыхрдзіць выраз «вавілонскае стоўпатварэнне», змяшэнне моў і культур. *Анталяжы* — карункі (рус — «кружева»), «ільняная садзь анталяжай» — ільняны туман, дымка, завея карункаў. Вобраз трэцяга ліста («Ў ёй саткалі мы тонкую пражу / З непазнаных імглістых чараў») паўтарае вобраз «ільняной садзі анталяжай» і нагадвае пра чарджуйскі кірмаш, слаўны сваімі тканінамі і карункамі.

*І ў нязнанай цьмянай далі словаў новых мы шукалі… (с. 53).* Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1925, № 231. Увайшоў у зб. «Сонечнымі сьцежкамі». Верш напісаны даволі папулярным сярод рускіх мадэрністаў размерам (васьмістопны харэй, яго выкарыстоўвалі М. Гумілёў («Чароўная скрыпка»), Ф. Салагуб, С. Чорны), які да А. Дудара не выкарыстоўваўся ў беларускім вершаскладанні. Радкі аб'яднаныя ў двухрадкоўі пры дапамозе анадзіплосіса, лексічнага паўтора, характэрнага для біблейскіх псалмоў: калі апошняя частка першага радка цалкам паўтараецца напачатку другога.

*Трыумф (с. 55)*. Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1925, 1 лістапада, № 249. Увайшоў у зб. «І залацісьцей і сталёвей». *Лякеркі* — лакавыя туфлі.

*У вянок С. Есеніну (с. 56)*. Упершыню — зб. «І залацісьцей і сталёвей». Рускі паэт С. Ясенін (1895–1925) скончыў жыццё самагубствам 25 снежня 1925 г. у ленінградскай гасцініцы «Англетэр». У студзені 1926 г. у Менску адбыўся вечар памяці С. Есеніна, які вёў Алесь Дудар і на якім беларускія паэты склалі сімвалічны паэтычны вянок загінуламу паэту.

*Маліліся пад крыжам… (с. 57).* Упершыню — «Маладняк», 1926, № 5. Увайшоў у зб. «І залацісьцей і сталёвей». Часопісны варыянт адрозніваецца ад варыянту зборніка: апошнія два радкі ў часопісным варыянце гучаць як: *«Калі душа не зблудзіць — / Пайду ў жыцьцё сваволіць»*.

*На раздарожжы (нізка думак) (с. 58)*. Упершыню — «Маладняк», 1926, № 11. У зборнік «І залацісьцей і сталёвей» увайшлі асобнымі вершамі з праўкай. Друкуюцца па першапублікацыі, ў якой выразна бачна галоўная думка, якая аб'ядноўвае чатыры вершы ідэалагічна небяспечным вобразам «раздарожжа» (чаму, магчыма, вершы і былі раз'яднаныя з цыклу). *Ў чырвані лагчыны / Сталі дзьве дзяўчыны* — вокладка зборніка «І залацісьцей, і сталёвей», якая зрабіла скандал у тагачасным літаратурным Менску, уяўляе сабой выяву старажытнага карабля анфас, аб які з дзвух бакоў абапёрліся дзве аголеныя дзяўчыны — іх фігуры дадзены ў профіль. Выбар паміж чорнавалосай і золатавалосай дзяўчынамі, паміж старым і новым, існым і няісным, раздарожжа — скразныя тэмы зборніка, які тагачасная крытыка кляйміла «эратычным» і нават «рукаблудным». Хто афармляў вокладку зборніка — не высветлена. *Пухне рабінавым сокам* — радок дадзены ў рэдакцыі першай публікацыі, у зборніку заменены на «сонца сталёвыя крокі».

*Легенда (с. 60)*. Упершыню — у зб. «І залацісьцей і сталёвей». *Многатвары Вішну* — у індуізме бог-ахоўнік сусвету, адзін з трыяды індуісцкіх багоў (Брахма, Шыва, Вішну). У індыйскіх тэкстах Вішну часцей — «многарукі», «многатвары» — эпітэт бога Шыву. *Ізіда* — адна з найгалоўнейшых багінь Саражытнага Егіпту, сястра і жонка Озірыса, маці Гора. *Горус* — бог узыходзячага сонца ў Старажытнаегіпецкай міфалогіі. *Озірыс* — бог адраджэння і замагільнага свету Старажытнага Егіпту. *Суламіфь* — каханка цара Саламона, гераіня і адрасат біблейскай «Песні песняй». *Хірам* — легендарны архітэктар, які збудаваў храм Саламона і быў забіты за адмову раскрыць таямніцы майстэрства.

*І жыццё снавалася ніткаю срабрыстаю… (с. 60).* Упершыню — зб. «І залацісьцей і сталёвей». Прысвечана Анатолю Вольнаму (1902–1937) — публіцысту, сцэнарысту, сябру Алеся Дудара з дзяцінства. *Дык паслухай песьню, песьню камсамольца* — на гэты момант Алесь Дудар «механічна выбыў» з камсамолу за няяўку на сходы і няўплату ўзнёскаў.

*Dies irae, dies illa (с. 61)*. Упершыню — зб. «І залацісьцей і сталёвей». *Dies irae, dies illa* — першыя радкі каталіцкай месы: «той дзень, дзень гневу». *Акрополь* — маецца на ўвазе Афінскі Акропаль, узвышша, на якім знаходзіўся палітычны цэнтр старажытнагрэчаскіх Афін. *Капітолі* — храм на Капіталійскім узвышшы ў Рыме, месца, з якога распачаўся Рым; *Гомэр* (VIII в. да н. э) — першы вядомы антычны паэт, легендарны аўтар «Іліяды» і «Адысеі»; *Брут Марк Юні* (85 да н. э — 42 да н. э) — палітычны дзеяч Старажытнага Рыма, забойца Юлія Цэзара.

*Максіму Багдановічу (с. 61)*. Упершыню — зб. «І залацісьцей і сталёвей».

*Усё загіне… (с. 62).* Упершыню — у зб. «І залацісьцей і сталёвей». *І ў срэбных пераззвонах вецьця* — алюзія на ўласныя радкі «помніш зіму і марозы, браму і мёрзлае веццe».

*Залатавалосай (с. 62)*. Упершыню — у зб. «І залацісьцей і сталёвей». Прысвечана Наталлі Вішнеўскай (1907–1989), паэтке-маладнякоўке, якая праз два гады (1928) стане жонкай А. Дудара, а ў 1931 пад ціскам улад развядзецца з высланым паэтам.

*Дням не змоўкнуць… (с. 63).* Упершыню — у зб. «І залацісьцей і сталёвей».

*Маладняку (с. 64).* Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1926, 6 чэрвеня, № 127. Увайшоў у зб. «І залацісьцей і сталёвей». Верш датаваны *26 мая 1926 года* — у гэты дзень утворана літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша» (Ул. Дубоўка, А. Бабарэка, К. Чорны, Я. Пушча, К. Крапіва і інш), дзеля чаго значная частка сяброў ЦБ «Маладняка» выйшла з арганізацыі. Гэта быў першы раскол «Маладняка», падзея моцна перажывалася А. Дударом — адным з заснавальнікаў і самых актыўных сяброў арганізацыі. *Мы жылі, жывём і будзем жыць* — гэтую фармулёўку даслоўна цытуе А. Звонак у лісце, адрасаваны ЦБ Маладняка з Полацку 10.11.1926: «Мы жылі, жывем і будзем жыць, як сказаў

найперапаважаны таварыш Дудар» (БДАМЛМ, ф. 225, воп. 1, спр. 13, арк. 2).

*Ціхазвонныя да ласкавыя дні… (с. 65).* Упершыню — «Маладняк», 1926, № 5. Увайшоў у зб. «І залацісьцей і сталёвей».

*Звініць прасторамі туга (с. 66).* Упершыню — у зб. «І залацісьцей і сталёвей».

*Асыпае чэрвень белы сад... (с. 67)* Упершыню — «Чырвоная змена», 1926, № 121. Увайшоў у зб. «І залацісьцей і сталёвей».

*Скарга і крыўда (с. 68)*. Упершыню — у зб. «І залацісьцей і сталёвей».

*Каханне (с. 69).* Упершыню — «Чырвоны сейбіт», 1926, № 10–11. Увайшоў у зб. «Вежа. Вершы».

*Скрыжалі (цыкль вершаў) (с. 70).* Упершыню — «Маладняк», 1926, № 12. Увайшоў у зб. «І залацісьцей і сталёвей».

*Верасень (с. 71).* Упершыню — «Маладняк», 1926, № 9. Увайшоў у зб. «Вежа. Вершы» (Мн., БДВ, 1928). *Ціхае, белае шчасьце песьня і бэзавы куст* — палемічны водгук на ясенінскае «вот оно, глупое счастье белыми окнами в сад» — агульны светлы, узнёслы настрой ясенінскага верша дысануе з меланхалічным, сумным настроем верша Дудара.

*Себеж (с. 73).* Упершыню — «Полымя», 1928, № 3. Болей не друкаваўся. З гэтым вершам звязаны ўспаміны Ю. Віцьбіча: «1932 год. Менск. Дом пісьменніка. Ён двухпавярховы з мезанінам і падвалам. На гэтых двух паверхах месціліся рэдакцыі «Полымя рэвалюцыі» і «Літаратура і мастацтва», Літаратурны фонд, кабінет сакратара парткома Гурскага, кабінет старшыні Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР Клімковіча, зала для агульных пасяджэнняў і г. д. У падвале знаходзіўся рэстаран. У той самы дзень наверсе ў зале адбывалася агульнае пасяджэнне, прысвечанае абгаварэнню Сталінскае канстытуцыі . Адсутнічаць на такім насяджэнні не рэкамендавалася. Таму ўнізе ў рэстаране за адным з ягоных столікаў сядзелі толькі Алесь Дудар, Уладзімір Хадыка і Валеры Маракоў. Алесь Дудар незадоўга перад гэтым вярнуўся з ссылкі, якую адбываў за свой верш. Пазней яго расстраляюць. Таксама праз некалькі год жорсткая скала на беразе Байкала раздушыць у часе выбуху савецкага катаржаніна Уладзіміра Хадыку. Звар'яцее ў адным з сібірскіх лагераў Валеры Маракоў. А тады яны моўчкі пілі горкае піва. Час ад часу да іх даляталі зверху выкрыкі Клімковіча: «Вялікі Сталін… Адзіная ў свеце Канстытуцыя… Вялікі брацкі рускі народ…» Маракоў адштурхнуў убок кухаль і, працягнуўшы да гары руку, амаль шэптам прыгадаў Блока: *«Ты будешь доволен собой и женой, Своей конституцией куцей, А вот у поэта всемирный запой, И мало ему конституций».* Нечакана адчыніліся дзверы, і ўвайшоў Янка Купала. Ён прыйшоў не з залы, бо на ягоным паліто яшчэ не паспелі растаяць сняжынкі. Трох маладзейшых паэтаў агарнула радасць. Яны цяпер тут не адны. З імі Янка Купала. Яны сустрэлі яго з тэй непаўторнай цеплынёй, з якой сустракалі толькі Янку Купалу. Крыху счакаўшы, Уладзімір Хадыка звярнуўся да яго з просьбай: «Дзядзька Купала, прачытайце нам што-небудзь сваё новае». І Купала прачытаў першы радзел свае новае паэмы «Над ракой Арэсай». Паэма была прысвечана будаўніцтву камуны на Палессі і з'яўлялася спробай паэты зразумець савецкую рэчаіснасць. Тры маладзейшыя паэты ніколі яшчэ нічога не чулі больш убогага па форме і па зместу. Ім сталася сумна і страшна. Ім сталася балюча за Янку Купалу. Скончыўшы, ён запытальна паглядзеў на іх, што стараліся не глядзець яму ў вочы. Яны вельмі любілі Янку Купалу, каб сказаць яму няпраўду. І тады ён хутка ўстаў. «Дзякую за шчырасць,- падняўшы руку да паверхаў, дадаў:- А там ёю захапляюцца». І раптам, ужо ўзяўшыся за клямку дзвярэй, звярнуўся да Алеся Дудара радкамі ягонага верша: *«Ішлі людзі праз Себеж на захад, Не згубіўшы, шукалі чагосьці. І пад замчышчам сохнуць і чахнуць Беларускія белыя косці».* Ніхто ніколі не бачыў, каб мужны, нягнуткі, зацяты Алесь Дудар плакаў, але тады, у той вечар, у тым сутарэнні Дома пісьменніка, ён плакаў». (Ю. Віцьбіч. Завулак імя Янкі Купалы. Беларуская Смаленшчына).

*Зацьвітаюць вішні (с. 74).* Упершыню — зб. «Вежа. Вершы».

*Ліст да таварыша (с. 75)*. Упершыню — Літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», 1928, № 1, 29 студзеня. Болей не друкаваўся. Верш наследуе ясенінскую традыцыю вершаваных лістоў («Ліст да маці», «Ліст сястры Шуры», «Ліст да жанчыны»), у якіх палітычныя пытанні выражаюцца праз пачуццёвы свет лірычнага героя.

*Імчыцца час (с. 78)*. Упершыню — «Полымя», 1928, № 7. Болей не друкаваўся.

*Такая (с. 79).* Упершыню — зб. «Вежа. Вершы».

*Слава (с. 80).* Упершыню — зб. «Вежа. Вершы». Першы ў беларускай літаратуры верш, прысвечаны кінематографу. *Дуглас Фэрбэнкс* (1883–1939) — амерыканскі актор, зорка нямога кіно, заснавальнік і першы прэзідэнт Амерыканскай Акадэміі Кінамастацтва. *Пірл Уайт* (1989–1938) — амерыканская актрыса, зорка нямога кіно. *Аста Нільсэн* (1881–1972) — дацкая кінаактрыса, самая папулярная актрыса нямога кіно ў Расеі на 1914 год. *Харт Уільям* (1864–1946) — амерыканскі сцэнарыст, рэжысёр, актор. *Гарры Піль* (1892–1963) — нямецкі рэжысёр, актор, прадусар эпохі нямога кіно. *Рычард Толмедж* (1892–1981) — амерыканскі актор, рэжысёр, сцэнарыст.

*Кніга (с. 66).* Упершыню — зб. «Вежа. Вершы».

*Зварот (с. 81)*. Упершыню — Літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», № 13 ад 28.08.1928. Болей не друкаваўся. *Вецер вее з усходу* — гэты верш працягвае вобразны строй і змест апавядання «Вецер з усходу» (гл. раздзел «Проза» дадзенага выдання), «вецер з усходу» сімвалізуе культурны ўплыў з усходу, з Расеі, які адчуваецца пранізлівым ветрам на роднай старане і знішчае аўтэнтычную культуру.

*Хрушчы (с. 82)*. Упершыню — Літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», № 14 ад 9.09.1928. Болей не друкаваўся.

*Воўк (с. 83).* Упершыню — Літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», № 18 ад 07.10.1928. Болей не друкаваўся.

*Я радзіўся за хатай пад плотам… (с. 85).* Пры жыцці не друкаваўся. Канфіскаваны падчас вобшуку пры арышце 20 сакавіка 1929 года, далучаны да справы. Упершыню — Ул. Міхнюк. «Арыштаваць у высылцы» (Мн., 1996).

*Пасеклі край наш папалам... (с. 86)*. Пры жыцці не друкаваўся. Канфіскаваны падчас вобшуку пры арышце 20 сакавіка 1929 года, далучаны да справы. Упершыню — Ул. Міхнюк. «Арыштаваць у высылцы». *Цыгане шумнаю талпой па Бесарабіі качуюць* — прамая цытата з «Цыган» А. Пушкіна. *Мураў'ёўскі гальштук* — шыбеніца, пятля шыбеніцы (выкарыстоўваецца таксама выраз «мураўёўскі каўнер» — але «сталыпінскі гальштук»). Парафраз паходзіць з выступу палітыка-кадзета Ф. Родзічава (1854–1933) на абмеркаванні дакладу П. Сталыпіна ў Дзярждуме (1908): «В то время, когда русская власть находилась в борьбе с эксцессами революции, только одно средство видели, один палладиум в том, что г. Пуришкевич называет муравьевским воротником и что его потомки назовут, быть может, столыпинским галстуком». *Мураўёў М.* (1796–1866), прозваны таксама «Мураўёвым-вешальнікам» — дзяржаўны, грамадскі, ваенны дзеяч Расейскай імперыі, ў 1863–1865 гг. — віленскі губернатар, па загадзе якога былі павешаны і расстраляны ўдзельнікі і кіраўнікі паўстання 1863–1864 гг. *Са шчытом ці на шчыце* — фразеалагізм паходжаннем са Старажытнай Спарты, ў якой загінулага ў баі ваяра неслі дамоў на ўласным шчыце.

*Цені блудзяць па твары… (с. 87)* Пры жыцці не друкаваўся. Канфіскаваны падчас вобшуку пры арышце 20 сакавіка 1929 года, далучаны да справы. Упершыню — Ул. Міхнюк. «Арыштаваць у высылцы».

*На смерць «Маладняка» (с. 88)*. Пры жыцці не друкаваўся. Канфіскаваны падчас вобшуку пры арышце 20 сакавіка 1929 года, далучаны да справы. Упершыню — Ул. Міхнюк. «Арыштаваць у высылцы». Напісаны падчас апошняга сходу «Маладняка», на якім аб'яднанне было расфарміравана і рэарганізавана ў БелАПП. А. Дудар і М. Зарэцкі, якія на той час ужо не з'ўляліся членамі «Маладняка», прысутнічалі на сходзе і актыўна агітавалі маладнякоўскую моладзь не згаджацца на рэарганізацыю.





*Стары лясун (с. 88)*. Упершыню — «Маладняк», 1929, № 3. Болей не друкаваўся. Гэты верш стаўся повадам для разгромнай рэцэнзіі А. Гародні «На струхлелым карчы», у якой крытык абвінавацiў А. Дудара ў контррэвалюцыйных настроях.

*Экзотыка (с. 89)*. Упершыню — «ЛіМ», 1933, 6 студзеня, № 1. Болей не друкаваўся. Каментары напісаны самім аўтарам і дададзены да публікацыі. Паколькі верш прысвечаны народам, нацыянальна прыгнечаным каланізатарамі, якія страцілі сваю культуру пад жорсткім прыгнётам метраполіі, ёсць падставы меркаваць, што пад ідэалагічна бездакорнай аўтарскай пазіцыяй рэвалюцыянера-інтэрнацыяналіста ўсё ж скрываецца нескароны «нацдэм» — аб гэтым яскрава сведчаць увагі аўтара да тэксту.

*Дзяўчына (с. 92).* Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 5.

*Пераклічка гадоў (с. 93).* Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 8. *Бабруйская бастылія* — маецца на ўвазе Бабруйская крэпасць, на тэрыторыі якой падчас польскай інтэрвенцыі месціўся лагер для ваеннапалонных, дзе ў 1920 ў невыносных умовах утрымліваліся і гінулі чырвонаармейцы Асіповіцкага палка. У 1927 годзе на месцы лагеру быў пастаўлены помнік. *Руіны Барысава* — у траўні 1920 ў выніку цяжкіх баёў паміж польскай і савецкай арміямі Барысаў быў цалкам спалены, трагедыя Барысава знайшла шырокі водгук у міжнароднай супольнасці. *Дукора* — вёска на Пухаўшчыне, ля якой у часы польскай інтэрвенцыі дзейнічаў партызанскі атрад; у Дукоры пастаўлены помнік загінулым партызанам. *Розенберг Альфрэд* (1893–1946), *Герынг Герман* (1893–1946) — нямецкія дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, ідэолагі нацызма. *Ён рэспубліцы нашай прыносіць чырвоны ордэн* — 15.03.1935 БССР была ўзнагароджана ордэнам Леніна «за поспехі ў сацыялістычным будаўніцтве».

*Палесскія ночы (с. 96)*. Упершыню — «ЛіМ», 1936, № 24. Скрыгалаўскі тракт — дарога з Мазыра ў Давід-Гарадок, якая праходзіла праз вёску Скрыгалаў, дзе была паштовая станцыя. Скрыгалаў вядомы паўстанскімі атрадамі, якія мелі пад Скрыгалавым сталую базу, а таксама пагромам, які быў учынены легіянерамі Булак-Булаховіча 9 лістапада 1920 года. У 1928 у Скрыгалаве быў створаны саўхоз, пабудаваны цагельны завод, паравы млын. Недалёка ад Скрыгалава знаходзіцца родная вёска А. Дудара Навасёлкі.

*На станцыі (с. 100).* Упершыню — ЛіМ, 1936, 26 ліпеня, № 45 (243).

*Шанхайскі шоўк (паэма) (с. 101).* Упершыню — «Маладняк», 1925, № 9. Выходзіла асобным выданнем у 1926. У дадзеным выданні друкуецца часопісны варыянт — як найболей поўны. Напісана А. Дударом падчас працы ў Полацку ў рэлакцыі газеты «Чырвоны пахар» і полацкай філіі «Маладняка». Ахарактарызавана аўтарам як «паэма пра нацыянальны рух» (гл. ліст да Ул. Дубоўкі ў гэтым выданні). Тлумачэнні тапонімаў і іншамоўных слоў дадзены самім аўтарам.

*Байкал (поэма) (с. 119).* Упершыню — «Полымя», 1927, № 8, часткова (тры фрагменты) увайшла ў зб. «Вежа». Напісана па ўражаннях паездкі ўлетку 1927 года разам з А. Вольным на Байкал да беларусаўперасяленцаў.

*З паэмы «Слуцак». Урывак (с. 127).* Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1934, № 2, потым — у кнізе: «Слуцак. Паэмы» (Мн., ДВБ, 1935). Шырока абмяркоўвалася ў прэсе, стэнаграма абмеркавання сярод пісьменнікаў публікавалася ў ЛіМ. Павінна была прадэманстраваць «ідэалагічнае выпраўленне» паэта, які вярнуўся з высылкі.

*З паэмы «Вайна за мір». Урывак (с. 129).* Упершыню — у выданні: «Слуцак. Паэмы» (Мн.: ДВБ, 1935).

## Проза

*Спатканьне (эскіз) (с. 134).* Упершыню — «Маладняк», 1926, № 10, увайшоў у зборнік апавяданьняў «Марсельеза» (Мн., БДВ, 1927).

*Ад Менску да Уладывастоку. На Байкале (нарыс) (с. 140).* Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1927, 13 кастрычніка, № 233. Болей не друкаваўся. Напісаны падчас паездкі на Байкал з А. Вольным. *Шарыжалгай* — станцыя Кругабайкальскай чыгункі ў 138 км ад Іркуцка. Танхой, Мысавая — вузлавыя станцыі Кругабайкальскай чыгункі. *Верхнеўдзінск* — сёння г. Улан-Удэ.

*Самагубца (навэла) (с. 143).* Упершыню — «Полымя», 1928, № 2. Болей не друкавалася.

*Мурачка (навэла) (с. 153).* Упершыню — Літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», 1928, 21 кастрычніка, № 17. Болей не друкавалася. *Савецкая вуліца* — сёння пр. Незалежнасці. *Кандуктарская вуліца* — вуліца побач з вул. Правадной, на якой жыў А. Дудар. Сёння не існуе. *Пятрусь Максімавіч Крымчонак* — у імені па бацьку і прозвішчы героя навэлы празрыста зашыфраваны памёрлы ў Крыму Максім Багдановіч.

*Вецер з усходу (апавяданьне) (с. 158).* Упершыню — «Полымя», 1928, № 4. Самае скандальнае з апавяданьняў А. Дудара; выклікала шквал крытыкі і незадавальненьне партыйных ворганаў, было прызнана адназначна «нацдэмаўскім», у комплексе з «тэатральнай дыскусіяй», «лістом трох» і вершам «Пасеклі край наш папалам» легла ў падмурак абвінавачваньняў супроць А. Дудара, якія скончыліся першым арыштам і высылкай. Між радкоў выразна чытаецца думка аўтара аб тым, што менавіта з Масквы, праз маскоўскіх беларусаў, праз расейскую культуру на чыстую вясковую Беларусь ідзе распуста і пошасць. *Гуткевіч* — шарж на Язэпа Пушчу. *Палясоўскі* — шаржыраваны вобраз Уладзіміра Дубоўкі. Вершы, якія чытаюць Гуткевіч і Палясоўскі — пародыі на вершы Пушчы і Дубоўкі. Дубоўка сапраўды быў крыху сутулаваты, высокі, не вымаўляў літары «р». *І было так проста, і было так міла* — парадыйна пераасэнсаваны верш У. Дубоўкі «І было ўвосень, калі стрыглі поле…» («Апошняя песня»). *Так где же вы, мой маленький креольчик* — песня рускага паэта, кампазітара і спевака А. Вярцінскага. *Профэсора N, чорнабародага ў залатых акулярах чалавека* — маецца на ўвазе В. Воўк-Левановіч (1891–1943) — беларускі мовазнаўца, вядомы сярод студэнтаў сваім варожым стаўленнем да беларусізацыі. *О сьпеў мой узрушаны, змоўкні* — пародыя на верш Ул. Дубоўкі («не хоча Уладзімір Дубоўка спяваць пад зазубраны лёскат»). *Знаю, будут любить мои дети* — радкі з вершу Марыі Шкапскай (1891–1952), рускай паэткі. *Эта роза, стыдливая, чайная* — папулярны напрыканцы дваццатых гарадскі раманс на словы Паўла Германа (1894–1952), рускага паэта-песенніка.

## Пераклады

*Ст. Стандэ. Чорны (с. 176).* Упершыню — Ст. Стандэ. «Выбраныя вершы». Пер. з польскай А. Дудара. (Мн.: БДВ, 1932). *Стандэ Станіслаў Рышард* (1893–1937) — польскі паэт, член КПП, рэдактар часопіса «Интернациональная литература». *Чорны* — маецца на ўвазе Раполас Чарнас (1900–1926), адзін з кіраўнікоў кампартыі Літвы, расстраляны 27.12.1926 у Каўнасе за падрыхтоўку камуністычнага паўстання.

*Факт (с. 177).* Упершыню — Ст. Стандэ. «Выбраныя вершы». Пер. з польскай А. Дудара. БДВ, 1932.

*В. Брусаў. Муляр (с. 178).* Упершыню — «Анталогія рускай савецкай паэзіі» (Мн., ДВБ,1936). *Брусаў Валер* (1873–1924) — рускі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык, педагог, грамадскі дзеяч.

*М. Ушакоў. Дай аловак (с. 179).* Упершыню — «Анталогія рускай савецкай паэзіі». *Ушакоў Мікалай* (1899–1973) — рускі паэт, пісьменнік і перакладчык.

*На шасэ (с. 180).* Упершыню — «Анталогія рускай савецкай паэзіі».

*А. Блок. Дванаццаць (с. 181).* Упершыню — «Анталогія рускай савецкай паэзіі». *Блок Аляксандр* (1880–1921) — рускі паэт, драматург, крытык.

*А. С. Пушкін. Анчар (с. 191).* Упершыню — «ЛіМ», 1936, 6 студзеня.

*Еўгеній Онегін (с. 192).* Гісторыя першага беларускага перакладу «Еўгенія Онегіна» найперш звязана з гісторыяй падрыхтоўкі да ўгодак смерці А. Пушкіна, якія шырока адзначаліся па ўсім СССР ў 1937 годзе. Часопіс «Полымя рэволюцыі» (1935, № 12) паведамляе: «На паседжанні праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР 11 лістапада прынята пастанова адзначыць стагоддзе з дня смерці А. С. Пушкіна. У пастанове гаворыцца аб неабходнасці выдання збору выбраных твораў паэта: «Яўген Анегін», «Барыс Гадуноў», «Палтава», «Капітанская дачка» і шэрагу вершаў. Над перакладамі твораў Пушкіна на беларускую мову будуць працаваць Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, М. Чарот, А. Куляшоў, Ул. Хадыка, М. Хведаровіч, А. Дудар, А. Звонак.

Архіўныя пошукі дакументаў Пушкінскай камісіі, створанай пры СП БССР і дакументаў Усебеларускага Пушкінскага камітэта працягваюцца і па сёння, але пакуль безвынікова. Дакументы 1934–1944 гг ў архівах СП БССР не захаваліся, партархіў 1935–1938 гадоў таксама не поўны, дакументы камітэтаў па справах культуры і аддзела агітацыі і прапаганды носяць выпадковы характар. Няма дакументаў, якія адносяцца да дзейнасці Пушкінскай камісіі і ў фондах дзяржаўнага музея Я. Купалы, БДАМЛМ, Літаратурнага музея. Таму гісторыя, склад і спецыфіка дзейнасці камісіі адноўлена намі з перыёдыкі 1935–1937 гадоў і ацалелых успамінаў сучаснікаў, і характарызуецца, на жаль, фактычнай непаўнатой.

Вядома, што ў склад Усебеларускага ўрадавага Пушкінскага камітэта ўваходзілі: прэзідэнт АН БССР І. Сурта, наркам асветы БССР А. Дьякаў, народныя паэты рэспублікі Я. Купала і Я. Колас, акадэмік С. Вальфсон, паэт А. Александровіч і прафесар Я. Браншэйн. Пушкінскую камісію пры СП БССР узначаліў Я. Купала, які таксама ўваходзіў у склад Усесаюзнага Пушкінскага камітэта. Ён жа валодаў вырашальным голасам пры размеркаванні літаратараў твораў Пушкіна для перакладу. У працоўную рэдкалегію перакладаў ўвайшлі Я. Купала, М. Клімковіч, М. Чарот, П. Шастакоў, П. Галавач, М. Лынькоў, А. Александровіч.

У траўні 1936 ( гл.»Полымя рэволюцыі», 1936, №5, «Літаратура і мастацтва», 27 траўня 1936) пераклады ўжо размеркаваны: паэму «Медны вершнік» перакладае Я. Купала, «Палтаву» — Я. Колас, трагедыю «Барыс Гадуноў» — П. Глебка, паэмы «Цыганы» — А. Куляшоў, «Каўказскі палонны» — М. Хведаровіч, «Руслан і Людміла» — Т. Кляшторны, «Русалка» — А. Звонак. Пераклад рамана ў вершах «Яўген Анегін» даручаны А. Дудару.

Праца над перакладам пачалася не пазней за травень 1936 (у Хроніцы «Полымя рэволюцыі», 1936, №5, паведамляецца, што А. Дудар пераклаў дзве першыя главы «Онегіна»). У траўні ж у ЛіМе апублікаваны пераклад першай главы, у кастрычніку ў «Полымі рэволюцыі» — пераклад трэцяй.

Нумар ЛіМа з першай главой рамана па-беларуску знікае з кіёскаў у лічаныя гадзіны. Амаль адразу з'яўляецца першая крытыка: адзначаючы высокі агульны ўзровень перакладу Дудара, аўтары водгукаў называюць і недахопы: нядбайнасць ў перакладзе афарыстычных пушкінскіх формул, наяўнасць русізмаў. Уважліва вывучаючы крытычныя водгукі, А. Дудар ўносіць праўкі ў рукапіс. Праца над перакладам працягваецца без перапынку: згодна з пастановамі камісіі, у лістападзе 1936 тэкст павінен быць перададзены ў выдавецтва.

У верасні на старонках ЛіМа з'яўляецца крытычны артыкул «Трывожны сігнал» аб незадавальняючай працы Пушкінскага камітэта: паэты і пісьменнікі не спяшаюцца перакладаць даручаныя ім творы, выдавецтвы не праглядаюць перададзеных ім перакладаў, «рэдкалегія паціскае плячыма». З тых, хто ўжо перадаў рукапісы ў выдавецтва, у артыкуле названыя А. Дудар, Т. Кляшторны, А. Вечар і А. Звонак. Сярод тых, хто затрымлівае працу — П. Глебка, М. Хведаровіч, П. Броўка, З. Півавараў, М. Багун.

У кастрычніку (17.10) 1936 года ў Доме пісьменніка (вул. Савецкая, 68) адбылася вечарына перакладаў. Мерапрыемства было арганізавана Праўленнем СП БССР з вялікай урачыстасцю: запрошаны члены Пушкінскага камітэта і Пушкінскай камісіі, прысутнічалі ўсе члены СП БССР, на вуліцу былі вынесеныя рэпрадуктары, вялася радыётрансляцыя. На вечарыне чыталіся пераклады «Каўказскага палоннага» (М. Хведаровіч), «Цыган» (А. Куляшоў), лірычных вершаў (А. Звонак, П. Глебка, З. Пивоваров). Алесь Дудар чытаў шостую главу «Еўгенія Онегіна». Праз два тыдні, 1 лістапада 1936 г., Дудар быў арыштаваны і змешчаны ва ўнутраную турму НКВД.

Машынапіс перакладу «Еўгенія Онегіна», здадзены А. Дударом ў Белдзяржвыдавецтва ў кастрычніку 1936 г., была, хутчэй за ўсё, знішчана, згадкі пра тое, што Алесь Дудар быў першым перакладчыкам пушкінскага рамана — выключаныя з вучэбнай і даведачнай літаратуры. Пераклад «Анегіна» быў яшчэ раз згаданы ў красавіку 1937 года на пасяджэнні СП БССР: дакладчык П. Глебка нагадаў прысутным аб «гнілым нутры халтурнага перакладу Дудара», «зніжэнні рэвалюцыйнай пільнасці», дапушчанай крытыкай у дачыненні да гэтага перакладчыка (ЛіМ, 6 красавіка 1937. С.3).

Пераклады твораў Пушкіна на беларускую мову, якія з'явіліся ў 1937 годзе вынікам працы Пушкінскай камісіі пры СП БССР, былі прадстаўлены беларускаму чытачу ў выглядзе невялікіх кніжак серыі

«Пушкінская бібліятэка». Былі выдадзеныя «Казка пра папа і ягонага парабка Балду» і «Казка пра Залатога пеўніка» у перакладзе А. Якімовіча, «Барыс Гадуноў» у перакладзе П. Глебкі, «Медны коннік» у перакладзе Я. Купалы, «Цыганы» (А .Куляшоў), «Бахчысарайскі фантан» і «Каўказскі нявольнік» (М. Хведаровіч), «Домік у Каломне» (А. Вечар), «Станцыйны даглядчык» (перакладчык не пазначаны). Ані «Каменнага госця» і «Руслана і Людмілы» у перакладзе Т. Кляшторнага, ані «Еўгенія Онегіна» у перакладзе А. Дудара беларускі чытач так і не пабачыў. Раман у вершах «Яўген Анегін» А. С.Пушкіна быў усё ж выдадзены Белдзяржвыдавецтвам па-руску, з ілюстрацыямі В. Світальскага і вокладкай і фарзацамі ў выкананні мастака А. Каржанеўскага.

Па словах А. Куляшова, ужо ў 1936 годзе ён распачаў працу над уласным перакладам «Яўгена Анегіна». Згодна з паведамленнямі ў друку, 19 студзеня 1938 на пасяджэнні секцыі паэзіі СП БССР разглядалася пытанне аб перакладзе «Анегіна», даць справаздачу па ім было даручана П. Броўку і А. Куляшову. Пераклад быў скончаны ў 1941 годзе, але рукапіс загінуў падчас вайны, і ў 1944 А. Куляшоў перакладае раман наноў. У 1947 г. беларускі «Яўгеній Анегін» выходзіць асобным выданнем і прыносіць свайму аўтару славу першага перакладчыка знакамітага рамана і самага паспяховага перакладчыка Пушкіна на беларускую мову.

Да гэтага выдання з поўнага перакладу друкавалася толькі глава 1 («ЛіМ», 1936, 11 мая) і глава 3 («Полымя», 1936, № 7) з рэдактарскімі праўкамі. Рукапіс раману захоўваўся цягам 80 год у сям'і Дайлідовічаў: спачатку архіў сына зберагала маці В. І. Дайлідовіч, потым — пляменніца Л. І. Малініна. Для «Выбраных твораў» намі аднаўлена рукапісная рэдакцыя перакладу, паводле якой пераклад і друкуецца, негледзячы на існаванне прыжыццёвых публікацый. З рукапісу бачна, што праца над ім вялася А. Дударом нават пасля часопіснай і газетнай публікацый да апошняга дня перад арыштам, праўкі ўносіліся з улікам крытычных заўваг прэсы і рэдактарскіх правак у ЛіМе і «Полымі», але — уносіліся выбарачна, з чаго мы робім выснову, што не з кожнай праўкай аўтар быў згодны. Арфаграфія аўтара захаваная, тым больш што ў выпадку з выкарыстаннем «у» і ў» арфаграфічныя нормы «падвёрстваліся» перакладчыкам пад патрэбы рытму радка.

## Крытычныя артыкулы

*Аб фактах і перспектывах (с. 342)*. Упершыню — у зб. «Пра нашы літаратурныя справы» (Мн., ДВБ, 1928). *Астаповіч* — псеўданім паэта Змітрака Астапенкі.





*За культуру мовы (с. 345)*. Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1927, не раней за 24 верасня. Увайшоў у зб. «Пра нашы літаратурныя справы». *Другія, як Дубоўка, пашлі па наймени удзячнай лініі словатворчасьці і выкарыстаньня старых слоў* — між тым менавіта У. Дубоўка занатаваў у беларускай мове некалькі дзясяткаў новаўтвораных і дыялектных словаў, якія мы сёння шырока выкарыстоўваем у літаратурнай унармаванай гаворцы: «адлюстраваць», «кругабег», «талака», «цемрашал» і інш. *«Ветры буйныя»* — другі зборнік вершаў Паўлюка Труса, які выйшаў у 1927 г. *Умри, Денис, лучше не напишешь* — афарызм, які ўзыходзіць да літаратурнага анекдоту: быццам бы князь Пацёмкін менавіта гэтымі словамі адрэагаваў на прэм'еру «Недарасля» Дзяніса Фанвізіна. *Янка Бобрык* (1905–1942) — беларускі паэт, сябра «Маладняка». *Тодар Кляшторны* (1903–1937) — беларускі паэт, сябра «Узвышша». *Вера Інбер* (1890–1972) — руская паэтка; А. Дудар шмат перакладаў з В. Інбер.

*«Ледзяная гітара» (с. 354)*. Упершыню — у зб. «Пра нашы літаратурныя справы». *Ледзяная гітара* — вобраз з верша Т. Кляшторнага «На ледзяной гітары». *«Слуцкія песняры» (Мн., ДВБ, 1926)* — калектыўны зборнік сяброў Слуцкай філіі «Маладняка», у які ўвайшлі вершы П. Шукайлы, А. Атавы, Я. Відука, І. Чырвань і іншых. *Чубараўскі завулак* — атрымаў скандальную вядомасць пасля адкрытага суда ў снежні 1926г. над 27 маладымі людзьмі, сярод якіх былі камсамольцы, аб згвалтаванні дзяўчыны-рабфакаўкі, 7 абвінавачанных па гэтый справе былі расстраляны.

*Аб чым пішуць (с. 360)*. Упершыню — у зб. «Пра нашы літаратурныя справы». *Кудзер* — псеўданім, якім падпісваў крытычныя артыкулы Язэп Пушча. *Сымон Канарскі* (1808–1839) — дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

*Даволі анекдотаў (с. 365)*. Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1928, № 259 ад 11 лістапада. *БДАТ-1* — сёння Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў Мінску. *БДАТ-2* — сёння Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску. *Міровіч Еўсцігней Афінагенавіч* (1878–1952) — беларускі актор, рэжысёр, драматург, адзін с заснавальнікаў тэатру імя Я. Купалы. *«Запяюць верацёны»* — п'еса Е. Міровіча, пастаўленая ў 1928 г. *«Калі сьпяваюць пеўні»* — п'еса расійскіх драматургаў Ю. Юр'іна і К. Зубава, «агітацыйны анекдот» бытавой тэматыкі; *«Луна зьлева»* — п'еса расійскага драматурга В. Біль-Белацаркоўскага, *«Мяцеж»* — п'еса расійскага драматурга Вс. Шылоўскага па аднаімённаму раману Д. Фурманава, *«Разлом»* — п'еса расійскага драматурга Б. Лаўранёва, *«Бронецягнік»* — п'са расійскага празаіка і драматурга Вс. Іванава, *«Савецкі чорт»* — п'еса

Ю. Юр'іна. *«Змрок»* і *«Апраметная»* — п'есы беларускага драматурга Васіля Шашалевіча, сябра згуртавання «Узвышша». *«Вір»* — п'еса беларускага драматурга Яўгена Рамановіча.

*Таптаньне на месцы (с. 371).* Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1928, № 260 ад 13 лістапада. *«Чайка»* — візітоўка МХАТа, п'еса А. Чэхава. *«Синяя птица»* — п'еса бельгійскага драматурга М. Метэрлінка, *«Дни Турбиных»* — п'еса М. Булгакава. «*Перамога», «Кар'ера таварыша Брызгаліна»* — п'есы Е. Міровіча. *Крыловіч Уладзімір* (1895–1937) — беларускі актор, выкладчык, адзін с заснавальнікаў беларускага тэатральнага мастацтва. *Крыніца* — псеўданім, пад якім на сцэне выступаў *Антон Ждановіч* (1838–1937) — беларускі актор, брат Ф. Ждановіча. *Ждановіч Фларыян* (1884–1937) — адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатру, актор, рэжысёр, грамадскі дзеяч. *Уладамірскі Уладзімір* (1893–1971) — беларускі актор тэатра і кіно. *Зораў Міхаіл* (1903–1942) — беларускі актор і рэжысёр.

## Лісты

Лісты да А. Дудара (252 адзінкі), і, відавочна, лісты самога А. Дудара да сяброў былі канфіскаваны пры вобшуках 1936 г. і знішчаны НКУС разам з іншымі паперамі абвінавачанных па справе нацыянал-фашысцкай арганізацыі 1.08.1937 (так званы «акт Сакалова», прыкладзены да асабістых спраў абвінавачанных, ў якім зафіксавана знішчэнне папер). Нешматлікія лісты Алеся Дудара, якія захаваліся ў архіве «Маладняка», знаходзяцца пераважна ў ф. 225 БДАМЛМ і былі ўпершыню надрукаваныя Віктарам Жыбулем: «...У Полацак я не вярнуся»: Лісты Алеся Дудара / Прадм., публ. і камэнт. В. Жыбуля // ARCHE. 2009. № 4. С. 318–344). У дадзеным выданні друкуюцца паводле гэтай публікацыі. Лісты 1–1в тычацца працы Алеся Дудара ў Полацку над стварэннем рэгіянальнай філіі Маладняка. Лісты 3, 3а былі напісаны ім асабіста Уладзіміру Дубоўку ў сувязі са складанасцямі працы ў Полацку, ліст 3в дублюе змест лістоў да У. Дубоўкі, аднак напісаны афіцыйна і адрасаваны ЦБ Маладняка. Дакумент № 4 — паштоўка, адрасаваная Паўлюку Трусу ў Гомель.

№ 1в. *Ганна Брэская* (1901 — пасля 1936) — беларуская паэтка.

№ 2. *Разгледзіўшы пытаньне аб тэрміне скліканьня ўсебеларускага зьезду «Маладняка»* — пункт гледжання полацкай філіі ўлічаны не быў, паколькі арганізатары не паспявалі склікаць з'езд улетку, да таго ж было вырашана прымеркаваць яго непасрэдна да даты заснавання арганізацыі, 28 лістапада. З'езд прайшоў з 25 па 28 лістапада 1925 г. у Менску.





№ 3. *Пушча Язэп* (1902–1964) — паэт, крытык, на 1925 г. — літаратурны сакратар «Маладняка». *Вольны Анатоль* (1902–1937) — паэт, публіцыст, сцэнарыст, сузаснавальнік «Маладняка». *Александровіч Андрэй* (1906–1963) — паэт, сузаснавальнік «Маладняка».

№ 3а. *Парадзься з Толькам* — маецца на ўвазе Анатоль Вольны. *Ці ня можна куды ўклеіць маю паэму «Сонца ўстане»* — маецца на ўвазе паэма, якая выйшла ў 1925 г. у часопісе Маладняк пад назвай «Кітайскі шоўк».

№ 4. *Мурашка Рыгор* (1902–1944) — паэт, крытык. *І ўзяўся сам за вучобу* — у верасні 1927 А. Дудар паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэту БДУ. *Зарэцкі Міхась* (1901–1937) — празаік, крытык.

## Паказанні па справе СВБ

Паказанні былі дадзены Алесем Дударом 2 верасня 1930 г. падчас следства па справе СВБ у менскай турме НКУС, надрукаваны ім асабіста на машынцы і падпісаны. Друкуюцца паводле выдання: У. Міхнюк. Арыштаваць у высылцы. Мн., 1996.

У каментарыях намі пазначаны даты арыштаў рэпрэсаваных літаратараў, якіх згадвае А. Дудар, каб яшчэ раз падкрэсліць адсутнасць залежнасці арышту таго ці іншага чалавека ад паказанняў, якія даваліся падчас следства (і не толькі А. Дударом). Спісы падазраваных у справах НКУС, відавочна, складаліся задоўга да следства, сыходзячы з агентурных дадзеных, асабістых даносаў, матэрыялаў спецыяльных камісій і службовых запісак кіраўнікоў, і калі й залежалі ад паказанняў арыштаваных, дык у нязначнай ступені. Прыкладам, М. Зарэцкі, А. Вольны і М. Чарот, якія згадваюцца ва ўсіх вядомых на сёння паказаннях па справе СВБ у адным шэрагу з пакаранымі «нацдэмамі», не былі нават арыштаваныя ў 1930, а К. Крапіва, П. Глебка, П. Броўка, якія згадваліся адначасова з іншымі ў пратаколах допытаў 1937 года, ніколі не арыштоўваліся наогул.

*СВБ* — «Саюз вызвалення Беларусі», няісная арганізацыя, за міфічную прыналежнасць да якой ў 1931 былі асуджаныя больш за 100 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. *Гурын-Маразоўскі Міхаіл Міхайлавіч* (1891–1928) — беларускі дзяржаўны дзеяч, журналіст. 1921 — галоўны рэдактар «Беларускай вёскі» і «Савецкай Беларусі». Застрэлены ў Вільні па рашэнні ЦК КПЗБ як правакатар у справе БСДГ. *Пашковіч Янка* (1898–1938) — беларускі журналіст, супрацоўнік «Савецкай Беларусі». Арыштаваны 17.2.1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937, расстраляны. *Савёнак Лявон* (1897–1974) — беларускі

літаратар. Арыштаваны ў 1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра», асуджаны да высылкі. З 1944 – у эміграцыі. *Каравайчык Павел Гіляравіч* (1896–1937) — беларускі крытык, паэт, публіцыст, медык. Арыштаваны 25.7.1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937, расстраляны. *Чарот Міхась (Міхал Сямёнавіч Кудзелька)* (1896–1937) — беларускі паэт, празаік, драматург, рэдактар, грамадскі дзеяч. Арыштаваны 24.01.1937, расстраляны 29.10.1937. *Беларусаў Антон Мікалаевіч* (сапр. Курыла, 1886–?) — беларускі культурны дзеяч, у 1920-х — інспектар Мінскага палітпрасвета. *Вольны Анатоль (Анатоль Іўсцінаівіч Ажгірэй)* (1902–1937) — беларускі паэт, празаік, кінадраматург, журналіст. Арыштаваны 4.11.1936, расстраляны 29.10.1937. *Бабарэка Адам Антонавіч* (1899–1938) — выбітны беларускі крытык і літаратуразнаўца. Арыштаваны 25.7.1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937, асуджаны да лагеру, памёр у турэмным шпіталі. *Сянкевіч Аляксандр Антонавіч* (1884–1938) — беларускі савецкі грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст. Арыштаваны 10.01.1938, расстраляны. *Менскі педтэхнікум (МБПТ, БПТ)* — Менскі беларускі педагагічны тэхнікум імя В. Ігнатоўскага, у якім настаўнічалі браты Лёсікі, Я. Колас, Ю. Дрэйзін, Я. Дыла і інш.; лічыўся «кузьняй» кадраў палітыкі беларусізацыі. *Адамовіч Аляксандр Фаміч* (1900–1937) — беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Арыштаваны 19.06.1930 па справе СВБ, асуджаны да лагеру. Паўторна арыштаваны ў 1935. Пасля перагляду справы расстраляны. *Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч* (1900–1976) — беларускі паэт, празаік, перакладчык, мовазнаўца, крытык. Арыштаваны 19.7.1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937, асуджаны да лагеру. Трэці раз арыштаваны ў 1947, асуджаны да вечнага пасялення. Рэабілітаваны ў 1957. *Купцэвіч Фелікс Піліпавіч* (1900–1938) — беларускі крытык, празаік, паэт, перакладчык. Арыштаваны 29.8.1930 па справе СВБ, вызвалены 4.10.1930. Паўторна арыштаваны ў 1933, рэці раз – у 1937, расстраляны. *Зарэцкі Міхась* (сапр. Міхал Яўхімавіч Ксянкоў, 1901–1937) — беларускі празаік, драматург, перакладчык, крытык. Арыштаваны 03.11.1936, расстраляны 29.10.1937. *Крыніцкі Аляксандр Іванавіч* (1894–1937) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Арыштаваны ў ліпені 1937, расстраляны. *Гольдберг Міхась* — псеўданім, пад якім ў 1929–1932 выходзілі беларускамоўныя творы пісьменніка М. Златагорава (1908–1968). *Дукор Арон Мяндзялеевіч* (1905–?) — як літаратар не друкаваўся, працаваў бібліёграфам (пасля — старшым бібліёграфам) бібліятэкі ім. Леніна ў Мінску. *Гэсен Сяргей* (1898–?) — публіцыст, сябра ЦК КП(б)Б, загадчык сектару агітацыі і прапаганды ЦК. *Чарнушэвіч Нічыпар Тодаравіч* (1900–1987) — беларускі паэт, драматург. *Хвылёвы Мікола (Нікалай Рыгоравіч Фіцілёў)* (1893–1933) — украінскі паэт, празаік, публіцыст. Скончыў жыццё самагубствам пасля арышту ўкраінскага паэта М. Ялавога (1895–1937). *Жылуновіч Зьміцер Хведаравіч* (1887–1937) — беларускі паэт, празаік, крытык, глава часовага рабоча-сялянскага ураду ССРБ, «бацька беларускай дзяржаўнасці». Арыштаваны 15.11.1936, памёр падчас следства. *Клейнбарт Леў Навумавіч* (1875–1950) — літаратуразнаўца, аўтар манаграфіі «Молодая Белоруссия», пра якую і згадвае А. Дудар. (1928). *Баліцкі Антон Васільевіч* (1891–1937) — беларускі дзяржаўны дзеяч, публіцыст. У 1926–1929 — наркам асветы БССР, адзін з праваднікоў палітыкі беларусізацыі. Арыштаваны 03.09.1930 па справе СВБ, асуджаны да лагеру. Пасля перагляду справы ў 1937 расстраляны. *Васілевіч Іван Антонавіч* (1894–1938) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. *Бобрык Янка* (1905–1942) — беларускі паэт. Трэці муж жонкі А. Дудара Н. Вішнеўскай. Загінуў падчас Ленінградскай блакады. *Звонак Алесь (Пётр Барысавіч Звонак)* (1907–1996) — беларускі паэт, драматург, перакладчык, тэатразнаўца. Другі муж Н. Вішнеўскай. *Броўка Пётр Усцінавіч* (1905–1980) — беларускі паэт, энцыклапедыст, дзяржаўны дзеяч. *Шалаяў Макар Ксенафонтавіч* (1906–1937) — беларускі крытык. Арыштаваны 15.3.1933 па справе «Беларускай народнай грамады». Пасля катаванняў вызвалены з дыягназам шызафрэнія. Паўторна арыштаваны 17.11.1936, расстраляны 29.10.1937. *Янка Відук* (сапр. Ян Скрыган, 1905–1992) — беларускі празаік. Арыштаваны 13.11.1936, асуджаны да лагеру. Вызвалены ў 1946, рэабілітаваны ў 1954. *Шукайла Павел Захаравіч* (1904–1937) беларускі паэт. Арыштаваны ў верасні 1930 па справе СВБ, вызвалены. Арыштаваны паўторна 01.11.1938, расстраляны. *Адамовіч Язэп Аляксандравіч* (1896–1937) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Скончыў жыццё самагубствам у чаканні арышту. *Пушча Язэп* (сапр. Іосіф Паўлавіч Плашчынскі, 1902–1964) — беларускі паэт, крытык, перакладчык. Арыштаваны 25.7.1930 па справе СВБ, асуджаны да высылкі. *Гурло Алесь (Гурло Аляксандр Кандратавіч)* (1892–1938) — беларускі паэт, празаік, перакладчык. *Аляхновіч Францішак Каралевіч* (1883–1944) — беларускі грамадскі дзеяч, драматург, публіцыст, празаік. Арыштаваны ў 1927 як «польскі шпіён», асуджаны да лагеру. У 1933 згодна з дамоўленасцямі паміж Польшай і СССР абмяняны на Б. Тарашкевіча. *Паўловіч Альбэрт Францавіч* (1875–1951) — беларускі паэт-гумарыст, перакладчык, драматург, мастак. *Прышчэпаў Дзмітрый Філімонавіч* (1896–1940) — беларускі грамадскі і дзяржаўны дзеяч, наркам земляробства. Арыштаваны 19.07.1930 па справе СВБ, рабіў спробу самагубства. Асуджаны да лагеру. Памёр у турэмным шпіталі. *Гамарнік*

*Ян Барысавіч* (1894–1937) — савецкі дзяржаўны, ваенны і партыйны дзеяч, у 1928–1929 — першы сакратар ЦК КПБ Беларусі. Скончыў жыццё самагубствам у чаканні арышту.

## Матэрыялы да біяграфіі

*Аўтабіяграфія 1926 года (с. 438)*. Упершыню — «Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.», (Мн.: ДВБ, 1926). Друкуецца паводле выдання «Пра час і пра сябе» (укл. Я. Казека), Мн., 1966. Дата аўтабіяграфіі ставіцца паводле першапублікацыі. *Пачаў вучыцца ў універсіцэце* — паводле дакументальна пацверджаных звестак, А. Дудар навучаўся ў БДУ ў 1927/1928 годзе. Магчыма, паступаў і раней, аднак дакументаў аб гэтым пакуль не выяўлена.

*Аўтабіяграфія, напісаная для Л. Клейнбарта (с. 438).* Друкуецца ўпершыню. Аўтабіяграфія была напісана не пазней за 1928 г. на запыт даследчка Л. Клейнбарта, які рыхтаваў манаграфію «Молодая Белоруссия», прысвечаную беларускай літаратуры новага часу. Захоўваецца ў ІРЛІ у фондзе Л. Клейнбарта, захавалася 2 аркушы аўтабіяграфіі і ліст А. Дудара да аўтара манаграфіі. *Макавееў Пётр Мяфодзіевіч* (1880–?) — менскі настаўнік (Менская духоўная семінарыя, чыгуначная школа № 9, школа № 17, вячэрняя № 3), выкладаў рускую мову і літаратуру, геаграфію. Выпускнік Петраградскай духоўнай акадэміі, кандыдат багаслоў'я (асабістая справа захоўваецца ў ГАМО, ф. Р-322, воп. 2, спр. 474). *«Вольная Беларусь»* — грамадска-палітычнае выданне нацыянальна-дэмакратычнага накірунку, якое выходзіла ў 1917–1918 г. пад рэдакцыяй Я. Лёсіка. *Галубок Уладзіслаў Іосіфавіч* (1882–1938) — беларускі пісьменнік, сцэнарыст, рэжысёр, заснавальнік Беларускага вандроўнага тэатру.

*Анатоль Вольны. Літаратурны сілуэт. Алесь Дудар (с. 439)*. Упершыню — Літаратурны дадатак да Савецкай беларусі, 1928, № 10 ад 15.06. Друкуецца паводле першапублікацыі. *На другі дзень затое таварыш Дудар у роспачы будзе пісаць: «завядуць мяне людзі ў зьвярынец і напішуць рукамі не чапаць»* — цытата з верша А. Дудара «Трыумф». *Вядомы тым, што ён шмат ходзіць* — ва ўспамінах К. Губарэвіча, А. Звонака, У. Галубка адлюстраваны выпадак, вядомы, відавочна, ў тагачасных літаратурна-тэатральных кругах: калі актора вандроўнай трупы Галубка А. Дудара камандыравалі па справах тэатру ў Пухавічы, ён, не маючы грошай на цягнік, прыйшоў у Менск за 70 вёрст пехатой. *Цяпер Алесь Дудар падрос і не раўнуючы з другімі сучаснымі паэтамі гэтага ўжо не робіць* — маецца на ўвазе скандальны выпадак з Ул. Дубоўкам, які адпомсціў Ц. Гартнаму, пакінуўшы ў шуфлядзе ягонага працоўнага стала «дэманстратыўныя сляды», пра якія піша А. Вольны (параўнайце з крамольнымі вершамі маладняюкоўцаў, якія цытуе А. Дудар у паказаннях па справе СВБ, с. 399 дадзенага выдання).

*Тлумачэнні для партыйнай камісіі з нагоды «Ліста трох» (с. 442)*. Друкуюцца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 15, воп. 28, спр. 5, арк. 59–61). «Ліст трох» — адкрыты ліст, падпісаны студэнтамі БДУ, пісьменнікамі А. Александровічам, А. Дударом і М. Зарэцкім надрукаваны ў «Савецкай Беларусі» (1928, № 278), у якім яны паведамлялі аб выхадзе ў БДУ у знак пратэсту спраць цкавання беларускіх пісьменнікаў і правалу палітыкі беларусізацыі ва ўніверсітэце. Ліст меў вялікі розгалас, быў передрукаваны замежнымі газетамі. Па факце была створана партыйная камісія, якая праверыла становішча беларусізацыі ў БДУ, разгледзела канфлікт паміж студэнцкай насценгазетай «Кузьніца асьветы» і ўзяла тлумачэнні ў аўтараў скандальнага ліста. Па выніках расследовання і ідэалагічнай апрацоўкі ўсе тры аўтары падпісалі пакаянныя лісты, змешчаныя ў «Савецкай Беларусі» напачатку студзеня 1929: спярша А. Александровіча і М. Зарэцкага, днём пазней — і А. Дудара. *Піятуховіч Міхаіл* (1891–1937) — беларускі літаратуразнаўца, крытык, педагог. *Шчакаціхін Мікола* (1896–1940) — беларускі мастацтвазнаўца, крытык, педагог. *Бузук Пётр* (1891–1938) — лінгвіст-славіст, літаратуразнаўца, паэт, празаік, педагог. *Барычэўскі Яўген* (1883–1934) — беларускі літаратуразнаўца і перакладчык, педагог. *Накшталт будучага аўтара Фрагментаў* — фельетон «Фрагменты з жыцця літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педфаку» быў надрукаваны ў насценгазеце «Кузьня асьветы» і утрымліваў абразы на адрас беларускіх пісьменнікаў: іх знешняга выгляду, мовы, паводзінаў. Наступны фельетон, зачытаны на агульным сходзе студэнтаў БДУ, месціў абразлівыя выказванні на адрас Максіма Багдановіча. Аўтарамі артыкулу былі студэнты 2 курса педфаку Снадзкі і Іофэ. *Фельетаніст Алёша* — псеўданім Анатоля Вольнага. *З маім «выступленнем» па пытаньнях тэатру* — маюцца на ўвазе артыкулы «Даволі анекдотаў» і «Таптанне на месцы» (гл. адпаведны раздзел гэтага выдання).

*Даведка вучня 17й школы (с. 444)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай. Паходжанне даведкі і яе назначэнне невядомае. Сярод вучняў 17-й школы прозвішча А. Дайлідовіча не значыцца, і значыцца не магло, бо школа была габрэйскай, і праваслаўных беларусаў сярод вучняў не было. У 17-й школе ў 1922 працаваў П. М. Макавееў, у якога А. Дудар навучаўся раней, магчыма, менавіта ён ўзяў гэтую даведку для нейкіх патрэбаў былога вучня.

*Надпіс на кнізе, падоранай сястры (с. 444)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай.

*Паштоўка з «амерыканкі». 25.11.1936 (с. 444)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай. Сыходзячы за зместу наступнай паштоўкі і сведчанняў Л. М. Малінінай, спатканне не адбылося. *Alphonse Daudet (Альфонс Дадэ)* (1840–1897) — французскі раманіст і драматург.

*Паштоўка з «амерыканкі». 10.12.1936 (с. 445)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай. Па звестках Л. М. Малінінай, В. І. Далідовіч ніводнага разу не папала на спатканне з сынам. Затое менавіта 19/12 пазначаны пратакол чарговага допыту А. Дудара — то бок замест чаканага спаткання з маці яго выклікалі на допыт. *Numa Roumestan* — раман А. Дадэ. *Anatole France (Анатоль Франс)* (1844–1924) — французскі пісьменнік, літаратурны крытык. *Crainquebille* — аповесць А. Франса; *Paul Bourget (Поль Буржэ)* (1852–1835) — французскі празаік і крытык. *Pierre Loti (П'ер Лаці)* (1850–1923) — французскі празаік. *Ramuntcho* — аповесць П. Лаці.

*Заява В. І. Дайлідовіч на імя Л. Берыя (с. 445)*. Друкуецца ўпершыню паводле чарнавіка, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай. З ускосных дадзеных дадуецца 1938 годам. *Берыя Лаўрэнцій* (1899–1953) — расійскі рэвалюцыянер, савецкі дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў масавых палітычных рэпрэсій.

*Заява В. І. Дайлідовіч на імя Пракурора БССР (с. 446)*. Друкуецца ўпершыню паводле чарнавіка, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай. *Проводная, 17* — нумарацыя дамоў па вуліцы Правадной мянялася, таму дом, які ў дакументах А. Дудара маркіруецца як 15а, пасля вайны адзначаецца нумарам 17. *Бэндэ Лукаш* (1903–1961) — крытык і літаратуразнаўца, актыўны ўдзельнік шматлікіх «пагромных» кампаній у прэсе. Л. Бэндэ ніколі не быў старшынёй СП БССР. *Быхоўскі Віктар* — начальнік 4 аддзела НКУС БССР, які вёў справу «нацыяналфашыстаў», а ў 1938 быў арыштаваны і расстраляны за перавышэнне службовых паўнамоцтваў.

*Ліст Е. А. Дайлідовіч аб росшуку брата (с. 447)*. Друкуецца ўпершыню паводле чарнавіка, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай.

*Адказ палкоўніка Іванова на заяву Е. А. Дайлідовіч (с. 448)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай

*Даведка аб рэабілітацыі (с. 449)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай





*Пасведчанне аб смерці (с. 449)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай. Даты і прычына смерці расстраляных і рэабілітаваных паэтаў і пісьменнікаў у афіцыйных дакументах даваліся адвольна.

*Выпіска з пратакола аб аднаўленні у СП БССР (с. 450)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай.

*Даведка В. І. Дайлідовіч (с. 450)*. Друкуецца ўпершыню паводле арыгіналу, які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай.

*Службовая запіска П. Броўкі (с. 451)*. Друкуецца ўпершыню паводле чарнавіка (копіі?), які захоўваецца ў прыватным архіве Л. М. Малінінай. Прозвішча і пасада П. Броўкі надрукаваны на машынцы, подпісу няма. Выклікае пытанні арфаграфія дакумента, у якім сустракаецца даваеннае напісанне «совецкі», «поэт», «зьяўлялася», «матар'яльна» і інш. Хутчэй за ўсё, запіска складалася для П. Броўкі іншым літаратарам, выявіць аўтарства пакуль не ўдалося.

# ЗМЕСТ



**ВЕРШЫ І ПАЭМЫ (1921–1936)**

## ПРОЗА



## ПЕРАКЛАДЫ

*З Станіслава Стандэ*



*З Валера Брусава*



*З Мікалая Ушакова*



*З Аляксандра Блока*



*З Аляксандра Пушкіна*



## КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ



## ЛІСТЫ









## МАТЭРЫЯЛЫ ДА БІЯГРАФІІ

Літаратурна-мастацкае выданне

**Дудар** Алесь

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

Укладальнік *Г. Севярынец*

Адказны за выпуск *М. Шыбко*

Вокладка мастака *Г. Мацур*

Вёрстка *В. Нога*

Карэктар *М. Шавыркіна*

Падпісана ў друк ?.?.2017. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 28,37. Ул.-выд. арк. 25,6. Наклад ?00 асоб. Заказ ?.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў 20.03.2014 за № 1/226.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.